

# генрых далідовіч

## *Міланькі*

**аповесці**



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1980

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ЛЕТА І ВОСЕНЬ

### I

«Вось я і зноў у Міланьках! — усміхаўся сам сабе Васілец, ідучы ўзбоч платоў па тупкай сцежачцы.— Зноў бачу знаёмыя дамы, сады, платы, пясчаную і пыльную вуліцу... І ведаю: хто тут і як жыве...»

Міланькі цяпер — у другой палове жніўня — былі ціхія. Здаецца, знямоглыя ад шчодрага сонечнага святла. Нідзе нікога. Ні адной душы.

Толькі перад павароткаю ўбачыў маленькіх дзяцей. Сядзелі на дарозе, гулялі. Вось убачылі яго. Паўставалі.

«Пазналі ці не?»

Падышоў.

— Добры дзень, міланьцы!

— Добры дзень, добры дзень! — адказалі ўсе разам, задзіраючы галовы і прыжмурваючыся.

— Пазналі? — усміхнуўся Васілец.— Ці не помніце ўжо?

— Угу,— самыя большыя і смялейшыя кіўнулі галовамі.

— Ну, хто ж я?

— Настаўнік...— адказаў з абсмаленым носам, рыжаваты хлопчык, сын Пеці Логвіна.

— Малайчына! — з радасцю сказаў Васілец, пагладзіў яго па галаве.— Вось табе за гэта! — І, дастаўшы з кішэні, даў яму цукерку. Даў па цукерцы і астатнім.

Дзеці заўсміхаліся, адразу пачалі разгортваць цукеркі.

— Гуляйце, расціце хутчэй! — усміхнуўся і Васілец.— Прыйдзеце ў школу, дык буду вучыць вас. Добра?

Усе са згодаю кіўнулі галовамі.

Васілец паўсміхаўся і падаўся далей. Ведаў: сёння ўжо ўсе ў Міланьках будуць ведаць, што «вярнуўся Ядзін настаўнік».

Падыходзіў да школы. Хваляваўся. Як і пазалетась, калі ўпершыню прыехаў сюды.

«Ну, як яна там, наша школка? Пастарэла?»

Школьная брамка была адчынена. Зайшоў у двор. І збянтэжыўся: на лаўцы ў цяньку сядзеў дырэктар. Зірнуў з цікаўнасцю сюды — і, здаецца, твар яго не змяніўся. Ні ўсмешкі, ні радаснага здзіўлення не ўзнікла на ім. Толькі, мусіць, той думаў: «Ну, які ты цяпер, дружа?» Бо пазіраў пільна і ўчэпіста.

— Добры дзень вам,— падышоўшы і стрымліваючы радасць, хваляванне, прамовіў Васілец. Убачыў: не надта бярэ старасць дырэктара. Статны во і цяпер, прыгожы. Хоць на галаве яшчэ паболела сівых валасоў.

— Здароў! — Іван Сямёнавіч падняўся, падаў руку. Прамовіў сваім звычайным, крышку сярдзітым, крышку насмешлівым голасам.— Вярнуўся, кажаш?

— Як бачыце,— Васілец паціснуў, а потым адпусціў дужую дырэктараву руку.

— Я думаў: болей і не ўбачу цябе...— усё гэтак жа спакойна, нібы жартуючы, сказаў Іван Сямёнавіч.— Паслужыў, свету паглядзеў, падумаў пра жыццё-быццё... Ды пасля войска ніхто не стане прымушаць цябе, хлопца, такога генія, зноў ехаць у васьмігодку, у Міланькі — самую далёкую і бездарожную вёску ў раёне... Пэўне ж, прасіўся ў другую, у лепшую, школу? у дзесяцігодку?

— Не.

— А самі з райана пасылалі ў іншыя месцы?

— Пасылалі. І ў дзесяцігодкі. І не толькі настаўнікам, але і завучам...

— Ну, а ты? — ухмыльнуўся Рагатка.— Міланькі нашы палюбіў, не змог без іх жыць?

— Прыехаў дарабляць тое, што раней не дарабіў...— вельмі спакойна адказаў Васілец.

Іван Сямёнавіч пільна зірнуў на яго. І нічога не прамовіў. Адвёў позірк, кашлянуў.

— А я вот кожны раз вось такою параю люблю сесці тут, ля гэтай матухны, і падумаць: вось канчаюцца школьныя канікулы, ну а хто ж з маладых настаўнікаў вернецца сюды, а хто ўцячэ ад нас? І думаю пра ўсіх... Не ўсім падабаюцца нашы Міланькі... Сумна тут некатрым. Асабліва маладым настаўніцам...

— Калі не задаволены, дык нечага тут напраўду не хапае...— заступіўся за сваіх маладых калег Васілец.

— Ну, чаго тут не хапае? — перапытаў Іван Сямёнавіч.— Работы? Не, працы і ў школе, і не ў школе шмат. Умоў для работы няма? Так, умоў малавата: школа старая, цесная, малазабяспечаная прыборамі, табліцамі. Але ж трэба і тут дзярзаць... Ну, яшчэ што? Моладзі, жаніхоў мала?

— А хіба многа? — усміхнуўся Васілец.

— Ды разумею ўсё...— спакойна і ўжо без жарту адказаў Іван Сямёнавіч.— Вы, маладыя, і цягнецеся да маладых. Хочаце не толькі працаваць шмат, жыць работаю, але і хочаце павесяліцца, уладзіць сваё жыццё, свой лёс. Я і пра гэта думаю... Вось і сёлета загадчыка райана прасіў: у школе пяць незамужніх маладых дзяўчат, а хлопца ніводнага... Дык за каго нашым настаўніцам замуж выходзіць? За вясковых? Дык і ў вёсцы хлопцаў нежанатых, лічы, няма, усе ж у горад паехалі. І, разумееш, загадчык райана не пасміхоўваецца, а кажа: праўда гэта. І ў іншых невялікіх вёсках вось такое ёсць. А кожны год прыязджаюць у раён усё новыя настаўнікі, і сярод іх, лічы, адны дзяўчаты... Дык цяпер і ты падумай: чакаў я цябе тут ці не? — і нарэшце ўсміхнуўся. Змусіў усміхнуцца і Васільца.— Думаў: застанешся ты — застанецца тут і Ларыса Іванаўна. Яшчэ нам аднаго б халасцяка, дык і яшчэ было б адно вяселле, яшчэ б адну пару настаўнікаў затрымалі б... Сямейных лягчэй затрымаць, чым незамужніх... А дзяўчаты падабраліся ў нас прыгожыя, разумныя. Не хацелася б іх адпускаць, браць зусім маладых і нявопытных... З тымі, што ўжо не адзін год папрацавалі, і мне лягчэй... Сам жа ведаеш: колькі трэба аддаць сіл ды часу, каб вас на ногі паставіць...

Васілец з сорамам усміхнуўся.

— Вот...— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Але што гэта мы з табою? Нібы і не было тваёй адлучкі, нібы развіталіся толькі ўчора... Ну, расказвай: як служыў? Не асароміў нашай школы?

— Ды стараўся не асароміць...

— Армія — вялікая навука?

— Ды не малая.

— Яшчэ б! — сказаў Іван Сямёнавіч.— І служыў, і ваяваў, дык добра ведаю: армія ёсць армія! Вялікая школа жыцця. Вельмі хутка там сталееш і розуму набіраешся. Адказнасці. Дысцыпліны. Але ўсё ж цягнула ў Міланькі? Прызнайся!

— Ды крыху...— усміхнуўся Васілец.

— І добра,— цёпла сказаў Іван Сямёнавіч.— Працуй на здароўе. Сам ведаеш: працы ў нас шмат. Бо нямала і ўсякіх непаладкаў. І самую важкую працу трэба браць ужо вам, маладым... Большы ўжо воз цягніце... Пара...— падняўся, зірнуў на сталоўку. І Васілец падняўся, зразумеў: дырэктар не толькі думае пра іх, настаўнікаў, але мае і іншыя клопаты. Пра школьны сад, пра гарод, пра дровы. Заўважыў: ляжаць вунь яшчэ не парэзаныя бярвенні.

— Цікавы вы ўсё ж народ, маладыя...— цмокнуў Іван Сямёнавіч.— Шмат я вас бачыў, шмат іх пабыло ў нашай школе. Вот і вы пазалетась гуртам заявіліся. Нейкія спачатку былі ўсе як адно, як на адзін твар. Усе маладыя, свежыя, разумныя, але яшчэ зусім наіўныя. І нібы без вялікай любві да нашай работы, нібы з думкамі пра свае выгоды. Папрацавалі вот год, два, дык цяпер бачу: не, усе вы розныя... Кожны са сваім характарам, са сваім лёсам. Умееце і любіце вы і працаваць, можаце і думаць, марыць, кахаць, адчуваеце праўду і няпраўду... І ўжо сталі на свой шлях, самі шукаеце сваіх сцежак у жыццё, самі ладзіце свой лёс... Хоць і па-рознаму пераносіце ўдачы і няўдачы... Словам, калі вы яшчэ не тыпы, як кажуць пісьменнікі, дык ужо характары... Наклёўваецца-наклёўваецца ваш воблік, воблік вашага пакалення...

— Словам, здаецца вы ўжо прызнаеце нас? — усміхнуўся Васілец.— Тых, каму ўжо хутка пад трыццаць...

— Ды трэба ж,— усміхнуўся і Іван Сямёнавіч.— Хоць спачатку, можа, трэба прызвычаіцца не так прызнаць вас, як прызнаць, што вы не горшыя за нас... Што ў нас было сваё, а ў вас ёсць сваё, што жыццё ніколі не спыняецца, а ідзе толькі наперад... Шмат я летась наглядаў за тваёю Ларысаю Іванаўнаю, Маяй Сцяпанаўнай, Ліліяй Іосіфаўнай, Таццянай Сяргееўнай, Ірынай Васільеўнай, за Сліжом дык і думаў шмат... Бо летась ужо многія з іх мне спадабаліся... Адчуў: я ўжо ўсё зрабіў, што мог. Больш не зраблю ўжо. Стары. А ў вас усё яшчэ наперадзе... І цікавая будучыня...

Рыпнула брамка. Абодва зірнулі туды: у двор уваходзіў Вяртун. Невысокі, папаўнелы, у знаёмым рудаватым касцюме і ў белай незашпіленай на верхні гузік кашулі. І на вуснах знаёмая гарэзная ўсмешка.

«Калі мы, маладыя, цікавыя людзі,— падумаў Васі-

лец,— дык Вяртун — самы цікавы. Самы загадкавы. Нейкі дваякі ён. І добры, і злосны. І шчыры, і няшчыры... А можа, ён і не такі, можа, я яшчэ не вельмі разбіраюся ў людзях?»

Вяртун падышоў. За крокі два выцягнуў уперад рукі, наблізіўся, спачатку прыгарнуў да поўнага жывата, потым пацалаваў у шчаку.

— Добры дзень, дарагі Павел Мікалаевіч,— ледзь не заплакаў ад расчуленасці.— Віншую вас са шчаслівым зваротам у нашыя краі!

— Дзякую,— узрушыўся і Васілец.

— Добра, што вярнуліся,— адступіў крыху, моршчыўся Міхась Рыгоравіч.— І дзеці вас чакалі, і мы чакалі, сумавалі без вашых цікавых урокаў. Усё ж вы добра ўліліся ў наш калектыў, на месцы былі...

— Хвалі-хвалі! — не ўтрымаў Іван Сямёнавіч.— А што потым будзеш рабіць, калі заганарыцца?! Ты мяккі характарам, ды я — стары!

— Павел Мікалаевіч не заганарыцца. Ён сціплы і сур'ёзны,— Міхась Рыгоравіч пальцам выцер слёзы пад вачыма.— Але малайчына: памужчынеў! Не скажаш ужо, што хлапчук, толькі што з інстытуцкай парты. Ужо малады мужчына!

— Ну, пагаварыце адзін аднаму кампліменты...— усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— А я ў сад схаджу, пагляджу сваё. Бо мне не толькі прыгажуноў сустракаць трэба, але трэба думаць і пра нашу гаспадарку.

І пайшоў да нізкага, з упалай пасярэдзіне страхою, аселага ў зямлю, старасвецкага школьнага хлява: у ім, у замкнёнай каморцы, быў склад на бочкі, скрынкі, шкло ды цвікі, а таксама ляжалі паколатыя дровы.

— Пастарэў...— усміхнуўся Павел.— Дваццаць пяты год во пайшоў!

— Гэта яшчэ не старасць, мой дарагі, гэта самая маладосць! — усміхнуўся Вяртун.— Пара весялосці, кахання, сілы... Гэта я во ўжо старэю: патаўсцеў, што з-за жывата і туфляў не бачу, аслаб, ногі балець сталі, валідольчык амаль кожнага дня ўжываю.— І ён пастукаў па левай грудзіне: — Капрызіць рухавічок... Надта тады, калі замнагавата...— і ён жартам пашчоўкаў пстрычкаю па шыі, ад чаго на ёй з'явілася маленькая чырвоная плямінка.— Няма, брат, таго здароўя, што некалі было... Так што цяпер ваша пара буславаць...

— Загарэлі вы добра,— усміхнуўся і Павел.— Моездзілі на поўдзень?

— Куды я паеду? — Міхась Рыгоравіч перастаў усміхацца, яшчэ больш адтапырыў поўны жывот.— Вясковаму настаўніку і летам работы многа, не тое што гарадскому. Ды нам летам — уся гаспадарская праца. Вось хату падмаляваў, веранду закончыў, трысценак на сена скідаў, цэлае лета траву па ахапку збіраў. Усё ж трэба. Ды і грошай надта няма на такія паездкі, бо жыву на зарплату. Палучыў — аддаў у магазіны, новай чакаю... Чацвёра ў мяне, і ўсе ў школу ходзяць. Кожнаму ўсё купі... Ды і хату новую даўно пара ставіць, то збіраем на яе па капейцы... Ажэнішся — сам уведаеш такую арыфметыку. Відаць жа, ужо сёлета то ачалавечышся?..— зноў пажартаваў ён, перайшоўшы на «ты»: ён часта Паўла і яшчэ аднаго маладога настаўніка, Сліжа, называў то на «вы», то на «ты», але ў школе — пры настаўніках і пры дзецях — клікаў толькі па імені і па бацьку.

— Паглядзім,— усміхнуўся Павел.

— Ладная ваша Ларыса, нічога не скажаш. Трэ было жаніцца да арміі, змікіціць што, то цяпер ужо і сынок, можа, сустракаў бы...

— Паспеем...— сказаў Павел.

— А так ты смела яе пакідаў...— пажартаваў Вяртун і захіхікаў, але, бачачы, што Павел не падтрымлівае яго жарту, пачаў жартаваць з сябе: — А я восенню яшчэ прыбаўкі чакаю, дармо што хутка пяцьдзесят будзе... Пятае... Так што я — бацька-герой...— і, бачачы, што цяпер і Павел усміхнуўся, зарагатаў.— Так што вучэцеся ў мяне, маладзёж...

— Так што і вы ніякі яшчэ не стары! — пажартаваў і Павел, знаючы, што гаварыць і жартаваць «на жыццёва-бытавыя тэмы» Вяртун вельмі вялікі ахвотнік.

— Дасць бог, усім усяго хопіць,— супакойваючыся, сказаў Міхась Рыгоравіч,— вывернемся ж неяк, недарэмна мы Вертуны...— пасля саступіў з сонца ў цень.— Але во як скора год прайшоў. Здаецца, толькі ўчора цябе ў армію праводзілі, вечар ладзілі, а глядзі... І лета хутка праляцела, нават не агледзеўся, не перадыхнуў. Скора зноў у школу, дзевяць месяцаў будзе адно і тое ж. Урокі, педсаветы ды нарады, гутаркі пра двойкі ды дысцыпліну...

— А я засумаваў без усяго гэтага,— прызнаўся Васілец.— Аж не раз і снілася школа.

— Значыць, і ў душы ты настаўнік...— сказаў Міхась Рыгоравіч.— І я люблю сваю работу. За летнія канікулы сумую без яе. Але ўжо і стаміўся крыху...— дастаў з кішэні пачак, вытрас з яго цыгарэціну, пастукаў ёю па далоні і прыкурыў, уздыхнуў.— Цяжкая наша работа, нервовая. Тут няможна надта спакойна ці абыякава працаваць. Трэба гарэць і гарэць. Бо не абы з кім, а з дзецьмі працуеш — з самымі шчырымі, цікавымі, чуйнымі душамі... І не перастаю здзіўляцца з нашага Алеся Трахімавіча: шэсцьдзесят жа яму хутка, пара на пенсію збірацца, а ён так робіць!.. Энергічней за якога маладога!.. І адкуль у чалавека такая любоў, такая ахвота, такое гарэнне да работы?! Я маладзейшы, але я... Не, не тое я...

Вярнуўся Іван Сямёнавіч. Пахадзіў каля хлява, каля сталоўкі. У садзе, каля град. Прынёс некалькі вялікіх чырвоных памідораў.

— Во ўся града ў такіх,— сказаў Іван Сямёнавіч.— За суткі наспела. І ўсяго сёлета многа. Гуркоў, капусты, яблыкаў, бульбы. І прададзім шмат, капейку добрую для школы мець будзем, і дзецям у сталоўку на зіму хопіць...

Сказаў з гонарам: любіць гаспадарыць. За гародам і садам сочыць не менш, чым за вучобаю ў школе.

— Якія чырвоненькія! — парадаваўся і Міхась Рыгоравіч.— Бяжы, Павел Мікалаевіч, у магазін... Закусь во ёсць, дык і адразу, па гарачых слядах, так сказаць, і адсвяткуем, што вярнуўся з салдатаў ды зноў будзеш працаваць з намі...

— І ў такую гарачыню? — усміхнуўся Іван Сямёнавіч.

— А я і ў гарачыню магу...— пагарэзнічаў Міхась Рыгоравіч.— І сярод ночы... Ды яшчэ за такі добры выпадак!..

— Зачынены сёння магазін,— прамовіў Іван Сямёнавіч, падаў ім па паміору.— Так што не радуйся за выпадак... Прыйдзецца гулянку адкласці. Як і твае новыя прыгоды...

Міхась Рыгоравіч зарагатаў. Сам з сябе. Звычайна ён заўсёды быў вясёлы, гарэзны, але стрыманы. Калі ж выпіваў, дык не мог стрымацца і выслаўляўся на ўсе тутэйшыя вёскі сваімі неспадзяванымі прыгодамі.

Дык яму жонка ніколі не давала грошай. Нават і на

цыгарэты. Вось ён заўсёды і «лавіў момант», каб падгуляць.

— Накасіў сена? — перавёў на іншае гутарку Іван Сямёнавіч.

— Дзе там накасіў...— махнуў рукою Міхась Рыгоравіч, здаецца, вельмі перажываючы, што зачынены магазін.— А магазіншчыца наша зусім распусцілася!.. Сярод белага дня зачыніць магазін, а сама...

— Мне так неблагі лапік травы дастаўся...— зноў перавёў гутарку Іван Сямёнавіч.

— Ну, вы ёсць вы, а я ёсць я...— зморшчыўся Вяртун.— Вы адзін, а нас такіх многа... Мне збоку дзялку далі, дзе ўсё каровы вытаўклі... Горшую, чым механізатарам, даглядчыкам, саўгасным спецыялістам... Хто я?! Просты настаўнік, нікому непатрэбны...

— Вось каму добра! — яшчэ раз змяніў ход гамонкі Іван Сямёнавіч, кіўнуўшы на Васільца.— З чамаданчыкам прыехаў, з чамаданчыкам паехаў... А нам і ў школе, і дома, па гаспадарцы, рабі ды рабі!.. Вось што значыць, калі ты сямейны вясковы настаўнік!..

— Дык і век не буду жаніцца...— пажартаваў Васілец.

— Ажэнім, нідзе не дзенешся...— сказаў Іван Сямёнавіч.

— Нідзе...— паўтарыў Міхась Рыгоравіч, ужо весялеючы і хочучы пажартаваць.— Столькі красунь у школе, дык каб не ажаніцца! Не! Не ўстоіш! — і штурхнуў Васільца локцем.— Пра воўка памоўка, а воўк тут.— І сам зірнуў на сад.

Па садзе ішлі сюды дзве маладыя настаўніцы. Таццяна Сяргееўна і Ірына Васільеўна.

— Чуў? — запытаў Міхась Рыгоравіч.— Пра Таццяну Сяргееўну?

Ларыса тое-сёе пісала яму, але ён паціснуў плячыма: не, нічога не чуў.

— Шмат прыгод было і ў Таццяны Сяргееўны! — ціха сказаў Вяртун.— З хлопцамі, з мужчынамі... Маладыя жонкі з-за яе начэй не спалі...

Васілец пазіраў на дзяўчат: Таццяна Сяргееўна і цяпер была танклявая, стройная, у меру высакаватая. Здаецца, яшчэ пахарашэла, усё на ёй нібы іграла вясёласцю і маладосцю. Вунь у чорных вачанятах пераліваецца вільготны гарэзны бляск, паўраскрываюцца яркія

вусны, нібы нешта шэпчуць прыемнае. Ірына Васільеўна — ніжэйшая, маладзейшая — вельмі папаўнела. Была аж залішне поўная для сваіх гадоў.

— О, каго я бачу! — усклікнула, падыходзячы, Таццяна Сяргееўна.— Адзінага нашага халасцяка, таго, хто на вагу золата! Добры дзень!

Ірына Васільеўна — абедзве яны былі ў аднолькавых, караткаватых, па калені, светлых сукенках, босыя — падышла моўчкі. І, здаецца, саромелася за сваю такую смелую і жартаўлівую сяброўку.

— Добры дзень,— адказаў Васілец.

Таццяна Сяргееўна падала яму руку, прытрымала.

— Ды добра пайшлася адлучка! — усміхнулася яна.— Бадай, і я цяпер магу звярнуць на вас увагу!

— Відаць, позна ўжо...— пажартаваў Вяртун.— Другая раней заўважыла, ацаніла...

— Нічога не позна...— адказала Таццяна Сяргееўна. Як і раней, не ведаеш: калі гаворыць праўду, калі жартуе. І во пільна, нават з пяшчотаю пазірае ў вочы. На вузкаватым яе твары з невялікім прамым носам выступіла лёгкая маладая чырвань, на вуснах заблукала гарэзная ўсмешка. Прыгожая. Нават красуня гэтая Таццяна Сяргееўна.

Нарэшце яна адпусціла руку, і ён адчуў палёгку. Бо ўсе ж пазіралі на іх.

Ірына Васільеўна стаяла моўчкі. Яна толькі і сказала адно: «Добры дзень».

— Бачыш: які пад'ём у дзяўчат! — падміргнуў Іван Сямёнавіч.

— Пад'ём! — падміргнуў у адказ і Вяртун.

— А як вы думалі! — зусім не засаромелася Таццяна Сяргееўна.— Гэта ж падзея ў нашых Міланьках!.. Мы ж усе так чакалі Паўла Мікалаевіча, столькі яго ўспаміналі...

— Ну што ж, і я рад, што ў маіх калег настрой добры,— прамовіў Іван Сямёнавіч, з крэктам падняўся, зморшчыўся і пагладзіў далонню спіну.— Малайцы, што прыйшлі. Дам вам, дзяўчаты, добрую работу. Загадчык участка ў адпачынку, то вы, Ірына Васільеўна, як будучы біёлаг і загадчык, кіруйце. Знайду тэхнічак і кухарку, то сёння і складзём у бочкі гуркі ды памідоры. А вы, Таццяна Сяргееўна, памагайце выбіраць гуркі.

Тая іранічна ўсміхнулася і нічога не адказала.

— А вы, Павел Мікалаевіч,— лагодна сказаў Іван Сямёнавіч, нагінаючыся і беручы памідоры,— можаце гэтыя дні не хадзіць у школу. Адпачывайце, чытайце новыя педагагічныя часопісы ды па гасцях пахадзіце. Зірніце, што ў нашых настаўнікаў змянілася за гэты год, пабалюйце... Прывыкайце, словам, зноў да Міланек...

— Мяне гэтаксама не мінайце,— прамовіў Вяртун, імкнучыся пайсці з дырэктарам, і падміргнуў на развітанне.

— Гуркі, канечне, трэба складаць, але гэта найболей работа тэхнічак і кухаркі,— калі дырэктар і завуч адышліся, незадаволена прамовіла хрыплаватым голасам Ірына Васільеўна.— Ды які я біёлаг — я яшчэ на трэцім курсе завочнага... Сёлета ніводнага ўрока біялогіі не вяла, была піянерважатаю.

— Вы несвядомая, Ірына Васільеўна,— прыкметна паблазнавала Таццяна Сяргееўна, гаварыла вельмі лагодна, мякка, нават спеставана. Размаўляла па-руску, і вельмі хораша.— Дабро не павінна прападаць. Не тэхнічкі, дык мы... Вучобы яшчэ няма, але ж плата нам ідзе, то трэба адрабляць...

Цяжка было і зразумець: яна, жартуючы, гаворыць праўду ці пакепլівае.

Ірына Васільеўна зірнула здзіўлена на яе і, відаць, гэтаксама не зразумеўшы ўсмешкі, пачала глядзець на гарод, ужо, мусіць, прывыкаючы, што трэба там папрацаваць.

— Ну, не буду замінаць,— прамовіў Васілец і сабраўся адыходзіць. Яму цяпер не вельмі хацелася быць з Таццянаю Сяргееўнаю: чамусьці яна нават сваёю маўклівасцю бянтэжыла яго ўсё больш і больш.— Удач вам!

— Расказалі б нам пра сваю службу, пра тое, што дзе бачылі...— усміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Усё ж вы ў сталіцы былі. Не тое што мы — прасядзелі год у гэтай глушэчы...

— Будзе яшчэ шмат часу — усё раскажу...— гэтаксама з усмешкай адказаў Васілец.— Хутка ж кожны дзень будзем бачыцца...

— Я прайдуся крышку з нашым дарагім госцем і вярнуся...— сказала Таццяна Сяргееўна сяброўцы. А як адышліся, запытала: — Ну, усё ж, як вам служылася?

— Дзякую, добра,— адказаў ён, бачачы, як яна далікатна ступае босая па цёплай зямлі.— Спачатку, здаецца,

усё надта марудна ішло, але ўсё-такі прамільгнуў гэты год, як адна хвіліна. Як нікуды і не адлучаўся. Нібы ўвесь час быў у Міланьках...

— Помнілі пра нас?

— Канечне.

— Хоць, мусіць, адну Ларысу Іванаўну не забывалі? А пра нас, бедалаг, пэўне, ніколі не падумалі?

— Усіх успамінаў, пра кожнага думаў. І пра кожны свой дзень, пра кожны свой крок тут думаў...

— Ухвалялі, судзілі сябе? — прыжмурыла вочы, зірнула ў твар.

Васілец прапусціў яе першай выйсці са двара на сцежку, потым пайшоў побач.

— Усякае было...— адказаў.— А вы як тут жылі ды працавалі?

— Не пытайцеся, дарагі Павел Мікалаевіч! — уздыхнула і махнула рукою.— Зусім мала было паэзіі, лірыкі... Міланькі ёсць Міланькі! Вёска! Хоць вы, відаць, і шмат ужо знаеце... Я, як ведаеце, гарадская, дык не магу прывыкнуць да вёскі, а вёска не можа прывыкнуць да мяне... Мне шмат не падабаецца ў вёсцы, а вёсцы не падабаецца тое, што я раблю... Я не такая, як усе нашы настаўніцы... Дык вот мне найбольш і трапляе... Але ладна, не будзем пра гэта. Вы адны прыехалі ці з Ларысаю Іванаўнай? Можа, за лета пажаніліся ўжо? Ці не сям'я вы ўжо?

— Не, не сям'я,— адказаў Васілец.— А Ларыса яшчэ дома.

— Чаму?

— Не ведаю...— шчыра прызнаўся ён, бо і напраўду не знаў, чаму не прыехала Ларыса: дамаўляліся яшчэ раней сустрэцца ў Мінску і разам дабірацца сюды, але ні ўчора, ні сёння раніцай ён яе там не дачакаўся.

— Някепска...— зноў няясна, ні то жартам, ні то сур'ёзна, усміхнулася Таццяна Сяргееўна.

— Што — някепска? — здзівіўся ён.

— Калі вы раптам не паладзілі, то гэта вось і ёсць някепска,— зноў незразумела гаварыла тая, пасміхалася, жмурыла вялікаватыя вочы.— Тады і мы, астатнія незамужнія дзяўчаты, зможам спадзявацца на вашу прыхільнасць.

— Дык мае тут шанцы вялікія? — пажартаваў Павел, хоць у гэты ж міг пакаяўся, што гаворыць не сваім, а нейкім чужым блазенскім голасам, але адчуваў, што гэ-

тая гаворка з красуняй і патрабуе вось такой напаўжартаўлівасці.

— Канечне! — сказала тая па-ранейшаму з жартам.— Вы адзін пакуль што, а нас ажно пяць... Само жыццё робіць вас на вагу золата...

— Нават і падумаць не мог пра гэта...— усміхнуўся зноў блазнавата Павел, але адчуў сорам і няёмкасць, што гэтая Таццяна Сяргееўна сама пайшла з ім, пасміхацца — і гэта бачаць цяпер усе, хто ёсць у вёсцы...

Таму ён зарадаваўся, калі яго прыгожая ды смелая спадарожніца, як падышлі да яе кватэры, прыпынілася, не пайшла далей, толькі папрасіла заходзіць вечарамі, бо ім з Ірынай Васільеўнай (яны жылі на адной кватэры) бывае часамі сумнавата.

— Заходзьце, просім...— усміхнулася, і яе тварык як засвяціўся нейкаю радасцю ды замілаваннем, яшчэ болей папрыгажэў.

— Дзякую...— усміхнуўся і Павел, але ўсміхнуўся з сорамам, зноў і зноў адчуваючы няёмкасць ад прагулянкі з гэтаю Таццянаю Сяргееўнаю.

## 2

Жонкі ў хаце не было. Відаць, падалася на двор ці ў сад.

Праз адчыненыя дзверы забрылі ў кухню куры, тапталіся ля печы, лезлі пад яе, у падпечча, дзе за фіраначкаю стаялі гаршкі з едзівам, а стары певень з чырвонаагністай шыяй і чорна-сінім хвастом узабраўся на стол і дзёўб булку хлеба.

Іван Сямёнавіч акышнуў, махнуў рукою — куры лапанулі з хаты, перавярнулі пустыя гаршкі і вёдры з вадою, паскідалі са стала газеты, а певень, разгубіўшыся, не саскочыў са стала, спалохана кінуўся да акна, біўся дзюбаю і крыламі аб шкло.

Каб уратаваць шыбы, Іван Сямёнавіч злаўчыўся, неспадзявана хопнуў пеўня, паднёс да дзвярэй веранды і адпусціў на ганак — і той, ужо радасны, шчаслівы, пабег да хлява.

Сам вярнуўся ў хату, падняў скінутыя са стала газеты.

«Трэба сабраць іх за апошнія два-тры тыдні і занесці ў школу,— падумаў,— і не так таму, што школьныя, а

таму, што вярнуўся Васілец. Ён любіць чытаць свежыя газеты. А лістаносцу трэба сказаць, каб надалей школьную пошту не прыносіла мне на дом, а каб пакідала ў школе».

Пахадзіў туды-сюды і адчуваў: нешта яго непакоіць. Аж не мог здаўмецца.

«Няўжо мяне гэтак уразіла, што вярнуўся Васілец? Можа... Бач, пасылалі ў другія школы, і не толькі настаўнікам — не паехаў... Значыць, нешта ўжо цягнула сюды!.. Але і добра, што я сустрэў яго стрымана. Пакажы, што вельмі рады, дык, не дай бог, яшчэ заганарыцца: у маладых лёгкая на гэта галава... А па-другое, паміж дырэктарам і настаўнікам не павінна быць такога таварыства, панібрацтва, што ёсць паміж настаўнікамі: дырэктар ёсць дырэктар, кіраўнік... Дык і трэба, каб усе, а надта маладыя, адчувалі, што іменна я тут гаспадар, што будзе ў школе тое, што я скажу, што маю права на большую ці меншую ласку да кожнага... Можа, і застрога так, можа, усім гэта і не падабаецца, але я так век сябе паводзіў, век сцвярджаў: дырэктар — самая важная асоба ў школе...»

Прыбраў на кухні.

«Хоць, можа, дарэмна я колькі разоў гаварыў, што стары ўжо, што мне цяжка...— падумаў з дакорам пра сябе.— Усяго пра сябе не трэба гаварыць. Як табе ні цяжка, але ўсё роўна трэба паказваць: лічыце мяне старым, лічыце мяне стомленым, а я магу кіраваць, да кожнага падабраць ключык, і не стамляюся... І пра пенсію я дарэмна ляпнуў! Пажартаваў, а ён абы-што падумае... А то потым калі і ўшпільне. Хлопец ён спакойны, дзелавіты, але пальца ў рот не кладзі... Не пабаіцца сказаць у вочы і праўду. Завучу, дырэктару, інспектару... А цяпер во такі сур'ёзны стаў! Аж зайздросна: хай бы гэтакі ж сур'ёзны, разумны ды дзелавіты быў сын, Васіль. А то... Бог ведае, якую яшчэ сцежку для сябе выбера ён, Васіль. Нейкі скрытны ён вельмі ж ды скептык...»

Вось цяпер Іван Сямёнавіч зразумеў, чаму ён непакоіўся. Яго ўзрушылі Васільцова сталасць і думка пра сваіх дзяцей. Ды яшчэ цішыня ў вялікай хаце.

«І гэтая цішыня будзе цяпер штодзень...— падумаў з гаркотаю.— Старэйшыя, Вера і Васіль, ужо даўнавата пакінулі нас, а вось хутка не будзе і самай меншай, Клавы. Як паедзе вучыцца ў інстытут замежных моў, дык, можа,

і навек з'едзе з хаты... І як мы з жонкаю будзем толькі ўдваіх? Бог яго ведае! Увесь век з дзецьмі — і раптам адны!.. Неяк прывыклі, што паехалі, паляцелі старэйшыя: дома была меншая і яе лічылі маленькаю. Уся ўвага была толькі для яе... Аж і яна ўжо не маленькая, студэнтка, лічы, нявеста... Значыць, мы з Вольгай Піліпаўнай ужо старыя...»

Іван Сямёнавіч выйшаў з кухні, пастаяў хвіліну, ткнуўся ў залу, кінуў позірк на спальню.

«Чатыры пакоі ў хаце! І для каго? Для нас, дваіх?»

Сеў на канапу, зірнуў на рамку: яна вісела насупраць на сцяне. На яго і на жончын партрэты. Калі здымаліся, тады ім было гадоў па трыццаць. Ён — кучаравы, з чорнымі валасамі, худы, малады, але строгі, смелы, жонка — таксама худаватая, пры завіўцы, з белым вялікім каўнярам. Яна ўсміхалася: тады, як яны прыехалі ў раён і рашылі «ўвекавечыцца», іх смяшыў вясёлы фатограф. Ён вытрымаў, не дазволіў сабе ўсміхнуцца: тады модна было быць строгім. А жонка ўсміхнулася. І малайчына! Як во і ўсмешка ўсёй іхняй маладосці...

«Маладосць, маладосць!.. Мінулася як адзін дзень... Ужо наша Вера маці, Васілю пара жаніцца, Клава дзесяць класаў закончыла... І ўсе хочуць некуды паехаць. Значыць, мы застанёмся з Вольгаю Піліпаўнаю адны. А каму тады гэты вялікі дом, вялікі сад, столькі дабра? Нам, старым? Не, нам столькі ўсяго не трэба...»

Іван Сямёнавіч сумна зірнуў на рудую шафку з кнігамі, з дарагою пасудаю, на тэлевізар, на новую шафу для адзення, на шыкоўныя дываны. Не вытрымаў, падняўся і падаўся на двор.

Там, здаецца, яшчэ больш спякотна, чым дагэтуль, смаліла сонца.

«Хутчэй бы ўжо ў школу! Да дзяцей, да настаўнікаў! А хату — на замок! — падумаў.— Хоць гэтыя апошнія летнія дні — пакуль не пачнецца вучоба ў інстытуце — дачка магла б пабыць і дома. Дык не. Не разумее, відаць, як усё гэта дорага: дамовілася са сваімі школьнымі сябрамі, пабралі палаткі, напакавалі сумкі ядою, узялі грошай, абуліся ў кеды, закасалі да каленяў спартыўныя штаны, надзелі на галовы шырокія белыя капелюшы і некуды пабрылі.

І я і жонка не пускалі Клаву ў гэты далёкі паход, гаварылі: калі хочаш нахадзіцца, то блукай ля дому, на

вачах, бо шпацыраваць ёсць дзе — паблізу вялікі сасновы лес, рэчка. Хочаш рамантыкі — пастаў у садзе палатку і начуй у ёй. Не паслухалася, спачатку прасілася пусціць яе, а тады стала лямантаваць і папракаць: вы — пастаўнікі, але не сучасныя людзі, не разумееце ўсяго, з-за вас я многа чаго не ўбачыла, не ведаю... Махнулі стомлена і пакрыўджана рукою — ідзі...

І пайшла. А ты думай цяпер, што з ёю, перажывай: можа, ногі замачыла і прастудзілася, можа, на глыбокую мясціну ў рэчцы ўзбілася, можа... Не толькі ж з дзяўчатамі падалася, але і з хлопцамі...»

Ён прачыніў у новым плоце лёгкую, на моцных завесах брамку і выйшаў у сад, дзе была жонка. Яна, мусіць, гэтаксама не вытрымлівала быць адна ў хаце, збягала з яе, чакала, калі пачнецца ўжо вучоба, калі за школьнаю працаю, можа, і прызабудуцца свае сямейныя клопаты...

Вольга Піліпаўна (дома ён называў яе Воляй, Вольгай) — невысокая, вастратварая, з тонкім носам і тонкімі вуснамі, цяпер босая і ў доўгім старым фартуху — хадзіла з глыбокім кошыкам ля яблынь і збірала па̀данкі.

Сад у іх быў вялікі, рос радамі. Рад антонавак, рад штрыфеляў, папяровак, бэр, касцянак, вадзянак, вішань, і рады гэтыя былі доўгія — ад хлява да лесу, крокаў з трыццаць ушыркі і з дзевяноста ўдаўжкі. Па радах і ля платоў раслі парэчкі, агрэст, трускаўкі. Некалі стараліся, садзілі, каб усё з садавіны было сваё, каб дзеці не прасілі ў людзей.

Сад уросся, стаў самым вялікім у вёсцы. Цягнуў з зямлі ўсе сокі, і тут слаба расла бульба, не радзіла. Таму бульбу садзілі на полі, а тут сеялі канюшыну; бульбы садзілі тут столькі, колькі трэба яе на першую пару ўкапаць рыдлёўкаю.

Цяпер во процьма ў садзе яблыкаў, груш, сліў ды ягад, сыплецца многа на зямлю дабра. Надта скараспелак. Не паспяваюць ні самі есці, ні карова ды свінні.

— Ападаюць і ападаюць,— дачакаўшыся яго, стомлена зірнула і прамовіла жонка.— Не ведаю, куды і дзяваць. Варэння наварыла, крышаноў насушыла...

Іван Сямёнавіч, моршчачыся ад гарачыні, трасучы каўнерыкам і дыхаючы сабе на шыю, зірнуў на ўцямнелую, з густымі маршчынамі ля вачэй і ля вуснаў, сухаватую жонку.

«Яна не так бядуе па гэтых ападках, як перажывае

з-за дзяцей,— падумаў.— З-за іх яна, ды і з-за мяне, вельмі хутка пастарэла, страціла здароўе — другія кабеты намнога маладзей у яе пяцьдзесят чатыры гады выглядаюць...»

— Можа, суседзям аддаць? — запытала яна. Не чакала адказу, зноў пачала падбіраць паданкі.

— Васілец вярнуўся, будзе-такі ў нас працаваць,— сказаў ён, каб перамяніць гутарку ды сказаць навіну. Жонка напраўду зацікавілася: прысела, зірнула на яго і чакала, што ён яшчэ скажа.

— Пасталеў...— прамовіў Іван Сямёнавіч, нагнуў невысокую галіну, сарваў сагнілы напалову яблык, апусціў яго ў кошык.— Сур'ёзны такі, паважны...

— Ён і тады з характарам сваім быў — пазірае, маўчыць, а пасля як скажа...— сказала жонка, пачала зноў збіраць яблыкі, што ляжалі ў канюшыне, кустах.— Здружыўся яшчэ з Алесем Трахімавічам, дык і ад таго пачаў звычкі пераймаць... Праўдалюбцы!

— Што калючы ён, то гэта так,— згадзіўся Іван Сямёнавіч, які заўсёды стараўся сам даць ацэнку чалавеку і прывучыць да гэтай ацэнкі і жонку.— Але сёлета адчувалася, што няма яго, энергічнага, разумнага, завадатара розных вечароў, гульняў... З ім найменей мне клопатаў, бо заўсёды ведаў, што ён добры ўрок дасць. А пра другіх маладых не раз думаю: як ён там вучыць, што там за ўрокі? Пагадаю дый іду паглядзець...

— Можа, з хітрыкай вярнуўся,— прамовіла Вольга,— паробіць год-два — і сядзе на тваё месца... Яны, маладыя, цяпер прадбачлівыя, не тое што мы з табой у іхнія гады былі. Куды пасылалі нас, на якую пасаду — там мы і рабілі...

— І яго ж сюды — не ў райскае месца — прыслалі,— заступіўся за Васільца Іван Сямёнавіч, верачы, што ў таго яшчэ няма такіх карыслівых інтарэсаў.— Як ажэніцца з Ларысаю — дык і застанецца тут. Можа, і напраўду зменіць мяне, бо век жа не буду ў школе... А цяпер не шкодзіла б, каб яго завучам у нас зрабіць...

— Нашто ён табе? — як здзівілася жонка.— Дабудзь лепш сваё з Вертуном... Ціха ды спакойна... А за гэтым ты не ўгонішся — будзе жар за пазухай... Сам жа ведаеш, колькі ў яго ўсякіх выдумак...

— Як матэматык, то Вяртун неблагі, але як завуч нікуды не варты...— сказаў ён.— І прафесійна зашабло-

ніўся, адстаў, і прынцыповасці век чалавек не мае... Падтаквае ўсім...— але падумаў, што Вяртун можа і пакрыўдзіцца, калі страціць сваю пасаду: нямала памагаў яму, Івану Сямёнавічу, ва ўсім, даўно працуе ўжо разам, некалі ваявалі ў адным партызанскім атрадзе... Таму, можа, каб перавесці яго з завучаў у настаўнікі, а маладога, кемлівага Васільца паставіць намеснікам, патрэбен зручны выпадак...

Калі жонка сабрала тут яблыкі, ён узяў кошык і пайшоў да хаты, ля крайняй яблыні прыпыніўся, падабраў паданкі, ад якіх кош стаў поўны, і падаўся ў двор.

Жонка моўчкі ішла за ім, гэтаксама пра нешта сваё думала.

— І Васілец з Ларысаю, канечне, не прападуць, і з Вертуном зладзіцца, а вось са сваімі дзецьмі...— ці то сама сабе, ці то яму сказала Вольга Піліпаўна.— Вось Клава... Праз пару дзён ад'язджаць з дому — пабыла б з намі... Дык не, сабралася і сышла... Падумала б, што гэта ж апошнія дзянькі дома. Бо пасля, як сыдзе, то, можа, сыдзе ўжо і навек: пасля будзе, можа, зусім другая дарога... Прастудзіцца, дык зусім занядужае: такая ж ужо кволенькая...

— Вернецца праз які дзень,— заспакоіў жонку Іван Сямёнавіч.— Паглядзіць, што за соладзь гэтыя паходы, і болей нікуды не пойдзе. Хай згоніць маладую ахвоту да бадзянняў, да нейкай уяўнай рамантыкі. Маладая ж... І, ведаеш, можа, і трэба, каб адлучалася часцей з дому: можа, гартавалася б больш. А што пра нас з табою мала думае, дык гэта ясна: хто надта ў такія гады думае пра бацькоў? Пра бацькоў успамінаюць тады, калі самі стануць бацькамі. А цяпер у галаве — толькі маладосць. Успомні...

Жонка прамаўчала, але надта не паспакайнела ад яго слоў — густа чырванела, моршчылася: відаць, пачала балець галава. Ужо ў двары моўчкі ўзяла з плота дзяружку, разаслала яе на мураве, высыпала паблізу з кошыка яблыкі. Села на дзяружку, выцягнула худаватыя, з густымі сінімі жылкамі ногі і пачала перабіраць яблыкі — здаровыя, непабітыя клала ў кошык (рэзаць і сушыць), а падгнілыя ці падзяўбаныя курамі кідала ў загарадку тром вялікаватым свінням. Тыя елі ападкі не вельмі ахвотна, качалі лычамі іх па зямлі. Лавілі, душылі ў роце, высмоктвалі сок, а жмуху выкідалі долу.

Вольга Піліпаўна парадкавала яблыкі і не ўздымала галавы і ў гэтую хвіліну выглядала надта пастарэлаю, стомленаю, што яе было вельмі шкода. Ён прысеў, пачаў гэтаксама выбіраць гнілыя яблыкі і кідаць іх у загарадку, падумаў, што напраўду ўжо хутчэй прыходзіла б першае верасня: вельмі маркотна быць удваіх дома, жыць толькі сваімі — сямейнымі — клопатамі. У школе, хоць і стамляешся амаль кожнага дня, усё ж весялей, хутчэй праходзіць дзень, а пасля і ноччу спіцца мацней...

— Ведаеш, Вольга, мне толькі што адна добрая думка ў галаву прыйшла...— сказаў Іван Сямёнавіч, зірнуў на жонку, як просячы яе прыпыніць працу і паслухаць.— Не варта, мусіць, нам удваіх заставацца... Вера прырасла ўжо там, сюды яе не даклічашся, Клаве таксама трэба пакідаць дом... А Васіль мог бы і з намі быць... Пайшоў бы працаваць у школу, пазней завочна ў інстытут паступіў бы, ажаніўся б, і мы дажылі б пры ім свой век... І яму памаглі б, і тым памагалі б...

Жонка ажывілася, зірнула на яго з надзеяй, але як засумнявалася:

— А ці захоча ён з горада ў вёску перабірацца?

— А чым блага ў нашай вёсцы? — спытаў ён.— Саўгас становіцца на ногі, багацее, багацеюць і культурнеюць людзі... Хутка дарогу добрую да горада пракладуць, новую школу паставяць, лес вакол, добрая рэчка блізка... Калі цяпер угаворваюць настаўнікаў сюды прыязджаць, то неўзабаве тыя самі будуць сюды прасіцца...

— Так ты думаеш, бо век тут пражыў, а яны, маладыя, думаюць інакш...— прамовіла жонка, відаць, надта не верачы, што сын вернецца.— Іх болей горад цягне... Ды ён жа добра ведае, як нялёгка працаваць у школе...

— А дзе лёгка працаваць? — прамовіў ён, прыплюшчыў вочы і зірнуў долу.— Усюды трэба старацца. Трэба добра пагаварыць — можа, і згодзіцца... Хлопец жа ён здольны, ледзь не з залатым медалём школу скончыў, у арміі служыў, на заводзе перадавік... То і ў школе справіцца... А захоча ажаніцца — дык хіба ў нас дзяўчат маладых ды прыгожых мала?! Адных настаўніц вунь колькі!..

## 3

— Вы ешце, Паўлік, ешце...— прасіла невысокая, пастарэлая, але ўсё такая вясёлая, гаманкая цёця Ядзя, падсоўваючы да яго талеркі.— Гэта мы, старыя, уеўшыся, а вы, маладыя, ешце, праўцеся. Папробуйце вяндлінкі ці во кілбасы сухенькай...

Павел дзякаваў і закусваў.

— Мы так сумавалі без вас,— прызнавалася радасная гаспадыня, усміхалася і нават усхліпвала, выцірала вочы фартухом,— то, бывала, раскажаце што, пачытаеце, пра што ў кнігах ці газетах пішуць. Прывыклі — як і да роднага дзіцяці... А гэты год Пеця ў арміі, вы ў арміі, старшы наш мала прыязджаў, дык мы і маркоціліся ці целявізар глядзелі... Мой стары, самі знаеце, які гутарлівы, скажа за дзень якое слова адно, дык і на тым добра. Так і прамаўчалі год.

— Затое ты мянташка...— буркнуў нарэшце і гаспадар, дзядзя Ян, высокі, плячысты, лысы,— ён сядзеў побач, дробненька наразаў ножыкам мяса і еў.

— Пеця пісаў, што павінен першы звольніцца,— расказвала цёця Ядзя,— у водпуску не быў, то начальства паабяцала першага адпусціць. Я падумала ўжо: хай прыходзіць, працуе тут шафёрам, бярэ замуж якую настаўніцу, дзеўку вучаную ды пры грашах добрых, і жыве з намі. Праўда, ён не надта вялікай навукі, як ведаеце, усяго восем класаў мае, але цяпер настаўніцы на гэта і не глядзяць, ідуць... Мая пляменніца ў Галінавічах настаўніцай, але за трактарыста пайшла... Хлопцаў цяпер мала ў вёсцы, а з настаўнікаў усё дзяўчаты ды дзяўчаты пачці, то чым каторай па чужых людзях хадзіць, хай будзе гаспадыняю... А ў вёсцы настаўніцы ўсё ўмеюць рабіць: і дзяцей вучыць, і гаспадарыць... Дык і нам, старым, яшчэ падмога будзе...

— Хай сам глядзіць...— незадаволена, можа, саромеючыся за такія жончыны размовы, можа, лічачы яшчэ маладым вельмі сына, сказаў дзядзька Ян, вельмі раздумлівы і сціплы чалавек.— Не рашай за яго.

— Маладым і падказаць трэба,— не згадзілася з ім цёця Ядзя, якая заўсёды ў сям'і «іграла першую скрыпку».— Возьме якую... А ён хлопец добры, мяккі характар мае...

Гаспадар прамаўчаў, незадаволена нахмурыўся.

— Вось ён век такі...— сказала гаспадыня, якая часамі не вельмі злосна, але даволі прыдзірліва любіла паўшчуваць мужа-маўчуна.— Вы ж, Павел, мусіць, то сёлета ўжо точна будзеце жаніцца?

— Паглядзім...— усміхнуўся Васілец, але не збянтэжыўся: гаспадыня ведала многія яго сакрэты, паважала Ларысу, хваліла, а цяпер спытала дзеля цікаўнасці, а не для таго, каб расказаць пра гэта людзям — вадзіць плётак не любіла.

— Цяжка табе, дзіця маё, будзе, калі пажэніцеся,— як пашкадавала яго цёця Ядзя, зморшчыла невялікі, мала загарэлы лоб,— абое прыезджыя, ні сваёй хаты, ні гаспадаркі ніякай не маеце. Будзеце да чужых людзей на кватэру прасіцца ды з рубля жыць... Пакуль на што сваё ўзаб'яцёся...

— Нешта будзе...— усміхнуўся Павел, па-маладому думаючы, што, можа, не самае важнае свая хата, гаспадарка, а важней другое — каханне, шчырасць, вера ва ўсё лепшае...

— Вам, маладым, можа, пра ўсё гэта, як жыць далей, надта і не думаецца,— як угадала яго думкі цёця Ядзя,— але свой куток многа што значыць, калі не ўсё... Можна галодным быць, без капейкі, але цяжка без прытулку... Трэба, можа, вам шукаць такой школы, дзе і праца была б, дзе і куток які далі б. Бо тут, у Міланьках, бачыце, няма кварцер для настаўнікаў: ставілі школу адразу пасля вайны, то больш пра пераpослых дзяцей думалі, чым пра выгоды для настаўнікаў... У Галінавічах, дзе мая пляменніца, школа новая, то там і кварцеры ёсць.

— Гавораць, што праз гадоў пяць будуць і тут новую ставіць,— сказаў Павел тое, што чуў не раз.— Тады і пра нас падумаюць ужо, жыллё зробяць.

— Добра, што вы такія цярплівыя, робіце, а пра сябе мала думаеце...— сказала цёця Ядзя.— А другія сямейныя ці халастыя, але якія збіраліся пажаніцца, бывала, яшчэ як і не паладзяць з Рагаткам, то папрацуюць тут з год-два ды выязджаюць шукаць лепшага. Часта мяняліся ў нас настаўнікі, кожнага году ўсё новыя былі, ды маладыя пачці ўсе...

...Павел прачнуўся позна.

Прачнуўся раптоўна, са здзіўленнем глядзеў на пакой, успамінаў, дзе ён цяпер, і думаў, што напраўду не быў у арміі, не адлучаўся дасюль на цэлы год, не быў

усё лета дома, у бацькоў, а жыў увесь гэты час тут, у гэтым невялікім пакойчыку. Зусім знаёмыя, як бачыў штодзень, былі гэты сіні жалезны ложак з крыху ўжо цвердаватым ад старасці матрацам, мяккая зялёная канапа з саматканаю капаю, дзвюма маленькімі падушачкамі, з квятастай дарожкаю, круглы, на аднойназе, з рознымі ўзорамі-выразамі стол, засланы старою, але прыгожаю саматканаю сурвэтаю, такі ж знаёмы быў вялікі, у драўлянай аправе насценны гадзіннік з мілагучным мяккім звонам. Але не. Пастарэлі за гэты час рэчы, іхнія гаспадары, пасталеў і ён, Павел. Пазалетась яму было дваццаць два гады, а сёлета ўжо дваццаць пяты, тады ён толькі пачынаў працаваць, а цяпер ужо здаецца, што ён зусім сталы... Хоць і сёлета трэба пачынаць усё спачатку — даведвацца, што было ў школе летась, знаёміцца з новымі настаўнікамі і дзецьмі, працаваць і чакаць першай палучкі...

Верачы, што ўсё хутка ў яго наладзіцца, будзе так, як ён думае, Павел падняўся, заслаў ложак і выйшаў на цёплы двор. Хацелася па армейскай звычцы зрабіць гімнастыку, але пасаромеўся — яшчэ хто ўбачыць і будзе смяяцца. У вёсцы людзі не робяць гімнастык, як у горадзе, бо тут найлепшая гімнастыка — не пустымі рукамі махаць, згінацца ды разгінацца, а дровы калоць, сена касіць... Вынес з сенцаў вядро вады і памыўся — апаласкаўся да пояса.

На дварэ ўжо быў малы цень ад хаты, не падаў аж у невялікі сад, а трымаўся толькі ля самага дома; плот ужо быў асветлены сонцам, якое, відаць, вось-вось павінна было падняцца вышэй хаты. На даволі блакітным небе пачалі збірацца і бялець воблакі, ледзь-ледзь падсіньвацца ад неба, сплываць за небакрай, зноў наплываць — значыць, дзень абяцаў быць пагодлівы, сухі і сонечны, хоць ужо і вельмі хацелася, каб папырскаў дождж, асадзіў пыл. Пылу тут, у Міланьках, было многа, бо мясціны ўдаліся пясчаныя, летам пыліліся, а вясной і позняй восенню намакалі ад морасі, станавіліся хлёпаністымі.

Снедаць не хацелася. Але крыху перакусіў, каб пазней, у полудзень, быў добры апетыт, і выйшаў на двор пасядзець на лаўцы.

Пасядзеў, пагрэўся пры ранішнім, але даволі ўжо гарачым сонцы і падумаў, што кепска быць вось так без пэўнай працы. У школе яшчэ няма да чаго прыкласці

рук, ды і дырэктар, які спачатку сустрэў надта строга, здаецца, без вялікай радасці, што крыху і пакрыўдзіла, пасля дазволіў, каб адпачываў. Але ляжаць, сядзець ці хадзіць па душным, яшчэ бязгрыбным лесе — гэта не адпачынак. Ад гэтага бывае яшчэ большая стома. Хоць і ў школе не раз бывае вялікая стома, бывае ад таго, што працуеш не рукамі, а галавой — надумаешся, нагаворышся, наслухаешся дзяцей — так стомішся, што ідзеш тады дахаты, як п'яны...

Зірнуў уверх: нізка, над самым плотам, амаль датыкаючыся крыламі частаколін і шкляных слоікаў на іх, праляцеў малады шараваты шпак, апусціўся паблізу на зямлю. Не бачачы Паўла, ён падышоў да глінянага грудка, на якім густа расла трава — гусіная лапка. Але шпак яе не шчыпаў, няўклюдна на тоненькіх ножках з жоўтымі лапкамі і чорнымі пазногцямі пакуляўся да высокага шэра-блакітнага палынніку. Учапіўся дзюбкай за ніжнюю тонкую галінку, распраміў крылле, упёрся нагамі і, цягнучы ды адступаючы, пачаў адрываць, адлупіў, ледзь не кульнуўся на спіну, але ўстояў, утрымаў у дзюбе галіначку, матлянуўся ўверх, праляцеў крыху і схаваўся ў шпакоўні; праз хвіліну зноў вылецеў, апусціўся на вялікі зялёна-жоўты ліст лопуху, пагойдаўся, саскочыў да палынніку, упёрся і адарваў яшчэ адну галінку.

Васілец спачатку здзівіўся: хутка пара адлятаць, пакідаць гэтае гняздо, а шпак усё яшчэ ладзіць яго. Пасля аж схамянуўся: які мудры гэты маладзенькі шпачок! І ўспомніў, як некалі ў дзяцінстве яго, малога, маці пасылала ў гарод наламаць палыну на венік, якім вымятала под печы перад тым, як садзіць хлеб, палыновым венікам падмятала хату, клала яго, палын, у пасцель — ратавалася ад блох.

Вось табе і шпачок! Хто ж яго навучыў так берагчыся, думаць пра сваё лепшае жыццё?

Шпачок спусціўся долу яшчэ раз, але нечакана крутнуў уверх, кінуўся да шпакоўні, і Павел, зірнуўшы ўвысь управа, убачыў, як наперарэз яму з-за высокай ліпы стралою мігнуўся вялікі шэры ястраб. Шпачок разгубіўся, шныраў то ўверх, то ўніз, мітусіўся, а ястраб, склаўшы крылле і каменем падаючы долу, усё болей яго абманваў, прыцІскаў да хаты, адразаў дарогу да шпакоўні. Калі Павел сабраўся падняцца і паказацца, крыкнуць і неяк адагнаць ястраба, шпачок, шукаючы ратунку,

ледзь не з-пад самай разяўленай дзюбы ворага праляцеў ля страхі і нечакана юркнуў у люфцік акна.

Ястраб, убачыўшы гэта і пачуўшы Паўлаў крык, пакружыў хвіліну над домам і адляцеўся. Павел адсюль, знадворку, зачыніў люфцік, падаўся ў хату.

Шпачок трымаўся лапкамі за раму і біўся аб шыбіну, відаць, не разумеючы, чаму так выходзіць: бачыць знаёмы двор, дрэвы, а ляцець не можа. Павел спрабаваў узяць яго ў руку, але той лапануў убок, лётаў па хаце, імкнуўся да акна і біўся ў шкло; праз колькі хвілін ён, малады, сёлетні, таму зусім яшчэ не хітры, выбіўся з сіл, з гарачкі ўдарыўся моцна галоўкаю аб шкло і зваліўся на ложак, то тут ён і трапіў у рукі.

Васілец трымаў шэрае птушаня з маленькаю галоўкаю і з зусім малюсенечкімі бегатлівымі вочкамі, чуў, як дробна і часта стукае яго маленькае сэрца: відаць шпачок спалохаўся ўдвайне — і ястраба, і таго, да каго цяпер трапіў у рукі. Хацеў жыць, усяк карміўся, ратаваўся і вось трапіў у небяспеку, якая і дагэтуль пагражала на кожным кроку...

Нечакана Васільцу прыйшло ў галаву пазначыць шпачка, каб паглядзець некалі вясною, ці выжыве ён у нялёгкім жыцці, ці вернецца сюды, да роднага кута, як пачне пасля жыць, бо ён тады ўжо будзе не птушанём, а сталым шпаком...

Павел, трымаючы ў руцэ птушаня, знайшоў на цёплай ляжанцы чырвоную анучку, адарваў ад яе вузкі матузок і абвязаў ім шпаку вышэй каленца ножку, завузліў. Адчыніў люфцік і выпусціў — шпачок паляцеў да шпакоўні, радасна зашчабятаў са сваімі роднымі, якія сядзелі на галінцы і, відаць, не толькі чакалі, а ўжо і напужаліся за яго, — і яны, зляцеўшыся, былі рады, што ён жывы, весела засвісталі...

Васілец дапісаў, паставіў кропку, з хвіліну паглядзеў на густа счарніленую старонку — па-ранейшаму, як і ў студэнцкія гады, пазалетась тут, у Міланьках, як і ў арміі, вёў дзённік.

«Годзе на сёння! — пацёр рукі і загарнуў сшытак.— Новая старонка будзе запоўнена заўтра... Педагагічны часопіс дачытаў, тое-сёе ўзяў сабе на заметку, дык цяпер можна і адпачыць, пагуляць. Схаджу да Алеся Трахіма-

віча, зірну, як жыў-здароў стары, наш мілы Лабановіч... Добра, што ён тут ёсць: і пазалетась памог мне стаць на ногі, і сёлета, канечне, яшчэ паможа — ведаў, вопыту ў яго шмат. Не на аднога мяне такога хопіць... І таму смеласць ёсць далей працаваць: ведаеш — заўсёды табе будзе помач, калі нешта будзе ісці цяжка... Бо ёсць у школе Алесь Трахімавіч!..»

Павел замкнуў гаспадарскую хату, схаваў у дамоўленым месцы — у адбітым вугле — ключ. Выйшаў з двара і падаўся сцежачкаю ля вуліцы да школы, за якою (за некалькі дамоў пасля Рагаткі) і жыў Алесь Трахімавіч у невялікай, пастаўленай на хуткую руку адразу пасля вайны хатцы. Ішоў па даўно ўжо знаёмай сцежцы, якую гэтаксама многа патаптаў, ходзячы пазалетась амаль кожнага дня ў школу, са школы, да і ад Ларысы вечарам, і сёння ўжо не саромеўся сустракацца з людзьмі, можа, нават і таму, што не адчуваў, што ён госць, толькі што прыехаў сюды і будзе першай парой ва ўсіх на воку, пакуль не паявіцца нехта новы, а зноў і яшчэ мацней адчуў: ён ужо тутэйшы жыхар, такі ж працаўнік тут, як і ўсе міланьцы.

Як падышоў да невялікай, з вузкім, парассыханым шчытом і з адным акном на вуліцу Сямёнішынай хаты, захваляваўся: пазалетась у гэтай хаце кватаравала Ларыса, і ён прападаў тут вечарамі, надта зімовымі, меў шчаслівыя, радасныя хвіліны, не мог, каб штовечара не прыходзіць сюды...

«Хутчэй бы прыехала ўжо яна...— падумаў цяпер.— Здаецца, век не бачыліся...»

Гэты год, як пісала, Ларыса жыла на новай кватэры, у старой Логвініхі; ён якраз цяпер падыходзіў да гэтага доўгага, з трыма вокнамі на вуліцу, і вялікаю зашклёнаю верандаю дома. Але гэта хата не захвалявала: ён тут ні разу не быў. Трывожыла, абуджала розныя добрыя ўспаміны Сямёнішына хата, помніліся нават яе стараватая, рассохлая падлога, пабеленая мелам столь, хатнія рэчы, сенцы, чулася, здаецца, як рыпяць дзверы. Здавалася, вось зараз з гэтай хаты выйдзе высакаватая, танклявая Ларыса ў знаёмым зялёным караткаватым плашчы і ў зялёнай тоненькай хусцінцы на шыі і махне рукою, каб пачакаў...

Павел аж прыпыніўся, азірнуўся, але брамка Сямёнішынага двара знаёма не рыпнула, не адчынілася, і Па-

вел, крышку тужліва ўсхваляваны, падаўся далей, жмурачыся ад яркага сонца. Мінуў масток, справа — хату, у якой кватаравалі Лілія Іосіфаўна і Мая Сцяпанаўна, яшчэ крышку раней прайшоў ля дома, у якім жылі Таццяна Сяргееўна і Ірына Васільеўна. Непадалёку за мастком, на высокім грудзе,— ужо і школа.

На школьным гародзе ён убачыў знаёмых, сярэдніх гадоў, жанчын-тэхнічак, настаўніц Таццяну Сяргееўну і Ірыну Васільеўну. Яны, падвязаўшы фартухі, збіралі гуркі ды памідоры. Ён кіўнуў ім галавой і памахаў рукою — у адказ усе гэтаксама кіўнулі галовамі, а Таццяна Сяргееўна замахала рукамі, каб ішоў да іх, паказвала некалькі чырвоных памідораў. Ён хітнуў, што зойдзе пазней, калі вось толькі сходзіць туды, куды яму трэба.

Павел не саромеўся жанчын-тэхнічак, іхняй працы, ён проста не вельмі хацеў сустракацца з гэтай Таццянай Сяргееўнай, бо ўчора ўвечары яго чамусьці пацягнула на некалькі хвілін зайсці да іх — крыху пасядзеў, хацеў пагаварыць пра школу, але яна, Таццяна Сяргееўна, хутка перавяла гутарку, пасміхалася, какетнічала, амаль прымушала, хітра ды абдумана, каб і ён гаварыў ёй кампліменты, старалася паказаць усё, што мае харошага.

«Ну і хітрая! — здзіўляўся ён, слухаючы яе спеставаныя размовы ды бачачы, як яна заляцаецца.— Хочаш не хочаш, а проста на вачах бярэ ў рукі...»

Павел, усміхнуўшыся і вінавата перасмыкнуўшы вуснамі, прайшоў ля школы, пасля — ля ўсё яшчэ зачыненага магазіна і новай, жоўтасмалістай дырэктаравай хаты, палюбаваўся, які вялікі ў яго сад, колькі многа ў ім усякага дабра, ад якога паабвісалі да зямлі галіны. Каб былі не падпёрты каламі, то маглі б і абламацца.

Зірнуў далей і здзівіўся: невялікі домік Алеся Трахімавіча памаладзеў, яшчэ здалёк жаўцеў сценамі — быў ашаляваны. На вузенькіх дошчачках, да паловы сцен (знізу) прыбітых упоперак, а вышэй — уздоўж, маленькімі кропелькамі чарнелі галоўкі ад цвікоў. Страха хаткі была старая, пачарнелая і пазелянелая, парослая мохам; вышчарбіўся, паабвальваўся і ўчарнелы комін. Дажджы даўно ўжо змылі з яго гліну, і яна, расцякаючыся, плыла ўніз, вырудзіла вялікі кавалак даху.

На невялікім акне ад вуліцы віселі фіранкі; занавескі — толькі крыху таннейшыя — былі і на другім акенцы, што пазірала на двор, загарадзь і хлеў. Пад стрэшкаю

велікаватых сянец-прыбудовы ляжала акуратна складзеная цэгла, воддаль — жоўтая дранка, і ўсё гэта было накрыта доўгім толевым лістом, прыціснутым дзвюма дошкамі. Відаць, Алесь Трахімавіч паспеў сёлета толькі ашаляваць хату, а на другое лета сабраўся паставіць новую печ, перакрыць страху.

Павел зайшоў у знаёмыя сенцы, убачыў, што нічога тут лішняга няма. Усё самае патрэбнае, чысценькае.

Соладка і густа пахла яблыкамі. Яны, відаць, былі ў кладоўцы, дзверы ў якую былі зачынены. Сад у Алеся Трахімавіча быў невялікі, але разнасортны. Трымаў ён яшчэ і некалькі калодак пчол, меў невялічкі, для сваёй патрэбы, просценькі, але ўдалы парнічок.

Васілец пастукаўся, але яму ніхто не адказаў. Тады ён зайшоў сам.

У гэтай хатцы не было перагародак, меўся адзін суцэльны пакой. Толькі печ, стол для снедання, невялічкая шафка на пасуду былі завешаны гардзінаю, шырмаю — ад печы да шафы з адзеннем — была завешана і спальня. А астатняе ўсё злева называлася «лепшаю палавінаю». Цяпер тут, пасярод пакоя, на скручаных ходніках сядзеў Алесь Трахімавіч, а ля яго — два малыя хлопчыкі, сынавы дзеці. Усе разам яны нешта ладзілі з маленькіх драўляных кубікаў.

Вось цяпер, як рыпнулі дзверы, яго пачуў і ўбачыў крышку глухаваты Алесь Трахімавіч, добра ўсміхнуўся, абапёрся аб вялікую кніжную шафу і цяжка, чырванеючы ў поўным твары, падняўся. За гэты год ён, як відаць было, невысокі, плячысты, яшчэ больш папаўнеў, стаў зусім тоўсты і, мусіць, цяжкі на хаду. Бо ішоў Паўлу насустрач надта нязграбна, мучачыся ад сваёй лішняй паўнаты.

— Добры дзень вам! — прывітаўся Павел.

— Добры дзень, даражэнькі! — падышоў Алесь Трахімавіч, усміхаючыся, падаў цяжкую руку, а пасля прыхіліўся, прыткнуўся сваёю добра выгаленаю шчакою і няўмела, па-мужчынску стрымана пацалаваў у шчаку.— Са зваротам, дарагі!

— Дзякую,— сказаў Павел, убачыў, што хоць гаспадар і добра выгалены ды падстрыжаны, у адпрасаваных хатніх штанах, але яму нялёгка ўжо так глядзець сябе, бо пагоршылася за гэты год яго слабое здароўе: стаіць во і ледзь не хістаецца на нагах.

— Адразу хачу запытаць,— адхіліўся, зірнуў яму ў вочы Алесь Трахімавіч, як абсеў на прыгнутых нагах і яшчэ больш папаўнеў,— будзеце ў нас працаваць ці не?

— Тут...— з усмешкаю адказаў Павел, добра разумеючы гаспадарова запытанне.

Алесь Трахімавіч узрадаваўся яшчэ больш, але ўжо не прыхіліўся, а шчасліва паляпаў па плячы, добра пазіраў і, здаецца, свяціўся ад радасці на старым маршчыністым твары. І цяпер ён, Алесь Трахімавіч, шырокі ў шчоках, з таўставатым носам, з невысокім ілбом, вышэй якога пасярод галавы пад рэдзенькімі сівавата-чорнымі валасамі свіцілася вялікая лысіна, дык вось цяпер Алесь Трахімавіч, надта не надзелены мужчынскаю красою, папрыгажэў. Папрыгажэў ад радасці і сваёй дабрыні.

— Ну, во і добра, што яшчэ разам панастаўнічаем...— радаваўся ён.— А то, прызнаюся, я ўжо і засумаваў без вас, без нашых гутарак. А без вас я во састарэўся...— ён жартаваў і хацеў неяк калі не схаваць сваю нездаровую паўнату, то хоць паказаць, што гэта для яго не страшна. Другія старыя, як чуў Павел, не раз толькі і вялі размовы пра свае хваробы, але Алесь Трахімавіч, які б ні быў хворы, ніколі не стараўся пра гэта гаварыць, усяк бадзёрыўся сам і падвясельваў другіх.

— Гуляеце з унукамі? — спытаў Павел.

— Пакуль не ў школу, дык пагуляю,— адказаў той, прысеў на блізкае крэсла, як рыба, хапіў паветра, прыплюшчваючы вочы, пасля з задышкаю яшчэ прамовіў: — І мне весялей з імі, і сыну з нявесткаю падмога, могуць абое на работу хадзіць... Вы, хлопцы,— загаварыў да светлавалосых, адзін пад адзін, унукаў,— можаце ісці на двор і пабегаць, а я пасяджу тут з дзядзем.

Дзеці падняліся, але адразу не пабеглі з хаты: сабралі свае цацкі, знеслі іх у скрынку, што стаяла за шафаю, папраўлялі, выцягнулі і распрамілі ходнікі — тады падаліся ўжо на двор.

— Садзіка ні тут, ні ў іх, у Вішнёўцы, і цяпер яшчэ няма, дык сын прывозіць дзяцей на лета мне. Восенню ўжо нявестка, відаць, не пойдзе на работу, будзе з імі...— сказаў Алесь Трахімавіч.— Пісалі ў газету, дык з раёна далі адказ, што будуць ставіць сад у наступнай пяцігодцы. З імі, дзецьмі, то не малы клопат, вялікі рух трэба, а гэта цяжка мне...— І ён не дагаварыў усяго, махнуў рукою.— Але як сяджу ціха, без руху, то яшчэ горш.

Таму вот і на пенсію ісці не хачу, на якую, каб захацеў надта, мог бы сёлета і пайсці. А па-другое, неяк цяжка і падумаць — як гэта буду жыць без школы... Здаецца, без мяне і вучыць будуць горш...— ён добразычліва ўсміхнуўся.— Але вы, мілы, пасядзіце ці паглядзіце кніжкі, а я патупаю крыху...

— Не трэба нічога для мяне,— папрасіў Павел, добра ведаючы вялікую гасціннасць гаспадара, які, не пачаставаўшы, не выпусціць ніколі з хаты.

— Чаму гэта не трэба? Трэба, дарагі, і надта трэба,— ён падняўся, заплюшчыў вочы ад болю ў спіне.— Гэта ж такая радасць, што вы вярнуліся, што мы зноў будзем разам. А для мяне вы вялікі госць...

Ён няўклюдна, паволі ступаючы поўнымі нагамі, патупаў у сенцы, а Павел падышоў да кніг. Іх у гаспадара было вельмі многа — дзве шафы. Адна была напакавана беларускай прозай і паэзіяй, другая — рускай і замежнай. Сярод іх былі і старыя кнігі, і вельмі рэдкія многія зборы твораў, і вядомыя серыі, самыя свежыя навінкі. Многія гавораць, што ні адзін настаўнік у раёне не мае такой вялікай і добра падабранай бібліятэкі.

Зайшоў у хату Алесь Трахімавіч, прынёс талерачку нарэзанай палявдвіцы, каўбасы, міску свежых, аблітых смятанаю памідораў.

— Знайшлі што вартае свайму густу? — спытаў ён з гонарам, усміхнуўся.

— Яшчэ колькі! — пазайздросціў гэтулькім добрым кніжкам Павел.

— Чыталі? — паставіўшы пасуду на стол, Алесь Трахімавіч падышоў да шафы і дастаў тонкую шараватую кнігу.— Вельмі добрая замежная пісьменніца.

— Не, не чытаў,— адказаў Павел.

— Аўтар вядомы цяпер, здольны,— сказаў Алесь Трахімавіч, гартаючы кнігу,— калі не нашы вучні, дык вясковая моладзь магла прачытаць. Возьме ды запытае пра што-небудзь у нас, літаратараў... Ім няёмка адказаць, што часу не было прачытаць ці не знайшоў кнігі... Яны датуль будуць паважаць настаўніка, пакуль ён ведае больш за іх...

Павел засаромеўся, заліўся чырванню.

— Даю толькі намёк...— зразумеўшы яго збянтэжанне, усміхнуўся Алесь Трахімавіч.— Трэба ў любых умовах старацца ведаць найболей... Тым больш настаўніку.

І нам, літаратарам, трэба не толькі знаць класіку ды на-вінкі, але і фізіку, і хімію, і матэматыку, хоць за сярэд-нюю школу. Тады дзеці ўбачаць, што мы многа ведаем, можам ім ва ўсім памагчы, і будуць верыць нам, пава-жаць...

— Усё зразумеў...— жартаўліва, але ўсё яшчэ з со-рамам усміхнуўся Павел.

Алесь Трахімавіч спачувальна ляпнуў яго па плячы, падаўся ў кухню, вынес перад сабою невялікі лёгкі стол, паставіў яго паблізу кніжных шаф, прыгатаваў закусь, а тады з шафкі дастаў пляшку дарагога віна.

— Хоць слабенькага, але вып'ем за тое, што вы добра адслужылі, зноў да нас вярнуліся,— прамовіў ён, калі яны селі абапал стала, сарваў рукою фальговую завёртку і штопарам выкруціў руды корак.— Малайчына, што прыехалі зноў да нас. Вы патрэбны тут, бо толькі ў вашы рукі я хачу «перадаць» мову і літаратуру. Дык за вас!

— За сустрэчу і за ваша здароўе! — сказаў Павел, падымаючы поўную чарку і стараючыся ні кропелькі з яе не разліць на чысты настольнік.— І за тое, каб яшчэ доўга лінгвістыка была ў вашых руках!

— О! — махнуў гаспадар жартоўна рукою.— Скасіла-ся ўжо мая каса...

Усміхнуліся і выпілі па невялікай чарцы, пачалі за-кусваць.

— Добра, што мы настаўнікі мовы і літаратуры...— еў і гаварыў Алесь Трахімавіч, поўны твар якога не па-маладому заружовіўся рэдкімі дробненькімі жылкамі.— Некаторыя матэматыкі нам спачуваюць, што мы штогод вывучаем адзін і той жа твор, а яны, маўляў, хоць так-сама вывучаюць адно правіла, але могуць рашаць многія, у тым ліку і свае, настаўнікам прыдуманыя, задачы... Кажуць, вам няма такой творчасці: пісьменнікі напісалі, а вы толькі «жуяце»... Жуём, але колькі штогод знахо-дзіш у тым жа творы новага, свежага, раней схаванага для цябе, і з якой радасцю ўсё гэта адкрываеш дзецям... Вось калі вядзеш урок і свецяцца ў цябе вочы ад радасці, тады і ў дзяцей свецяцца вочы, ёсць радасць ад мастац-тва, ім добра, і яны тады любяць літаратуру, бачаць за ёю жыццё... Не здолееш зацікавіць, паказаць — тады твор для дзяцей застаецца толькі творам... Таму, як добра, што мы настаўнікі-літаратары...— Ён, прыкметна ахмялелы ад адной чаркі, азірнуўся на дзверы: у пакой

зайшла яго жонка, цёця Галя, невысокая, у меру паўнаватая, рухавая, некалі вельмі прыгожая жанчына з дробным тварам, апранутая цяпер у святочную рудаватую сукенку, новыя туфлі і новую жаўтаватую хустку — вясковыя жанчыны так апранаюцца толькі тады, калі ад'язджаюцца «ў людзі», далёка ад дому. Павел падумаў, што некуды ездзіла і цёця Галя.

Убачыўшы яго, яна заўсміхалася, паставіла ля парога сумку, падышла, пацалавала ў шчокі, нават усхліпнула:

— Як вы змяніліся, дзіця маё! Папаўнелі, пахарашэлі, дзякуй богу!

Выцерла хустачкай, выцягнутай з рукава, слёзы, зусім не саромеючыся, пазірала добра, замілавана, і ад яе гэтага пяшчотнага мацярынскага пагляду было вельмі добра на душы. Была яна простая вясковая, малапісьменная жанчына, працавала тэхнічкай у школе, мела добрую душу, чулае сэрца, і ў вёсцы людзі (настаўнікі надта) вельмі яе паважалі.

— Вы маладзенькі, а мы во з Алесем Трахімавічам старэем, ледзь ногі цягаем,— пяшчотна сказала гаспадыня, прысаджваючыся ля іх,— яму ўжо і сёлета пара на пенсію ісці, а мне на тую восень...

— Я яшчэ дык бадзёры, ніякі не стары,— пажартаваў Алесь Трахімавіч.— З столькімі маладымі працую, на дзяўчат нашых заглядаюся, то які я стары? Не, я яшчэ не стары...

— Маладзёнак ты яшчэ ў нас, кавалер! — пажартавала і цёця Галя.— Дзяўчаты ў школе то і праўда падабраліся ладныя, але не для цябе... Вы мне, бабе цікаўнай, прабачце, Павел Мікалаевіч, адзін прыехалі ці з Ларысай Іванаўнай?

— Адзін, цёця Галя. Яна прыедзе пазней.

— Надта добрая яна дзяўчына. І сабою ладная, і характар залаты мае. Толькі вось сёлета маркотная была...

Павел зразумеў, што хацела сказаць гаспадыня, усміхнуўся. Усміхнулася і яна, яшчэ як засаромелася, што крышку ўмешваецца ў іхняе сяброўства. І, каб не было гэтай няёмкасці, перавяла гутарку:

— А я да сваёй дачкі ў госці ездзіла. Аж у Ленінград. Пагасцявала тыдзень, во і вярнулася. Трэба пагледзець, што тут робіцца, як тут стары гаспадарыў, падладзіць у хляве ды на гародзе ды на паслязаўтра збірацца на работу ў школу.

— Выпіце за сустрэчу,— сказаў Алесь Трахімавіч,— мне гэтаксама з радасці хочацца лізнуць яшчэ, але я баюся. А вы пакаштуйце яшчэ.

— З Паўлам Мікалаевічам — з радасцю,— згадзілася цёця Галя, якая амаль не брала пітва ў рот, хіба толькі мачыла вусны ў святы ды тады, калі прыязджалі дамоў дзеці.— За тое, што вы вярнуліся, і за тое, каб хутка паскакаць на вашым вяселлі...

Павел выпіў, прыкусіў. Крыху расказаў гаспадыні пра сваю службу і пастараўся перавесці гутарку на іншае, каб яна расказала пра Ленінград ды пра дачку. І тая з ахвотаю пачала апавядаць, як яна даехала, як шукала гарадскую даччыну кватэру, як гасцявала, куды хадзіла і што бачыла, не магла пахваліцца сваімі «міленькімі і надта разумненькімі» ўнукамі.

Расказаўшы шмат, пасля пачала частаваць мужа і Паўла ленінградскімі прысмакамі, і Павел, бачачы ласку і павагу, затрымаўся ў гасцінных гаспадароў надоўга.

## 4

Таццяна Сяргееўна і Ірына Васільеўна (так, па імені і па бацьку, называлі яны адна адну толькі ў школе — пры настаўніках і дзецях, а дома клікалі адна адну па-свойску — Таня і Іра) жылі на кватэры ў адзінокай старой жанчыны, кульгавай Зосі. Гаспадыніны дзеці, два сыны і дачка, загінулі ў вайну — пастралялі фашысты. У яе, калі ўцякала з дзятвой у лес, гэтаксама стралялі, паранілі, але яна засталася жыць, хоць і сышла крывёю. Выжыла, а дзяцей страціла, мужа з вайны не дачакалася, атрымала толькі пахавальную. Так — адзінокаю — і жыла, працавала, старэла.

Каб было весялей, штогод брала кватарантаў, адпускала ім чысты пакой. Сёлета зноў будуць жыць у яе яны, Таня і Іра.

Хоць ёй трымаць іх, дзяўчат, было, можа, і не зусім выгадна ці добра. Бо сюды вечарамі прыходзілі не толькі сяброўкі, але завальваліся і тутэйшыя хлопцы. У вёсцы іх жыло, праўда, мала, але суботаю аднекуль з'язджаліся, хадзілі гуртам па вуліцы, шукалі, дзе можна павесяліцца. Вось і дападалі сюды, прыходзілі з транзістарамі, з магнітафонамі, круцілі іх, «пускалі» за вечар мо па тысячы песень па самых розных мовах. І Зося ўсё слухала;

калі ў яе не раз пыталіся, што, можа, не трэба так шумець, пускаць у хату хлопцаў, то яна адказвала, каб «шумелі на здароўе», пакуль гады маладыя, весяліліся.

Іра і маладая, але не вельмі любіла такія вечары, не любіла гучнай музыкі, шуму, гоману, як і хлопцаў, многія з якіх надта не далікатнічалі, былі смелыя, лезлі сляпіцаю. І па ёй магло б усяго гэтага не быць, тым больш што яна яшчэ вучылася завочна і ёй патрэбен быў час для вучобы, але ўсё гэта вельмі любіла Таня.

Яна, нарадзіўшыся ў горадзе, любіла шум машын, вялікія людскія кампаніі, весялосць, таму не магла тут, у вёсцы, жыць у цішыні, быць адной. Яна здзіўлялася, чаму так хоча быць сам-насам і ў спакоі Іра, чаму неяк хаваецца ад людзей, такая сціплая, маўклівая, крыху скрытнаватая.

Таня была старэйшая за яе мала, на чатыры гады, але мела зусім іншы характар і звычкі — была смелая з людзьмі, з хлопцамі гэтаксама, любіла, каб яны да яе заляцаліся, віліся, як пчолы ля кветак, але не магла ні з кім падоўгу сябраваць, хацела ўсё нечага новага і лепшага. Іра, мусіць, бачачы ўсё гэта, адчуваючы, што яна маладзейшая, меней чаго бачыла, бо амаль нікуды не выязджала са сваёй вёскі ды з Міланек, вучылася яшчэ толькі на трэцім курсе завочна,— не толькі прыглядалася да Тані, але і слухалася, часамі нават старалася быць падобнай у адзенні. І толькі. Бо, маючы зусім іншы — вельмі спакойны характар і сарамлівасць, у звычках не магла быць падобнай.

Цяпер Таня і Іра былі дома, сядзелі ў сваім пакоі, дзе стаяла шафа з гаспадыніным і іх адзеннем, канапа, дзе яны спалі. Каб не сумаваць доўгімі зімовымі вечарамі, яны з Ірай злажыліся і купілі невялікі тэлевізар, што і стаяў на стале.

Яшчэ нядаўна Таня і Іра былі на школьным гародзе, разам з тэхнічкамі, з Вольгай Піліпаўнай, якая пасля падышла, выбіралі гуркі ды памідоры, зносілі іх у школьную сталоўку.

— Нешта сумнавата,— пазяхнула Таня, распраміла рукі, паднімаючы ўперад невысокія грудзі.— Давай мо, мая мілая, паедзем нанач у горад, сходзім у кіно, пазнаёмімся з добрымі хлопцамі.

— Ай, не хочацца нікуды ехаць гарачынёю,— адказала Іра.

— Баішся свайго Жэні? — спытала Таня.— Думаеш, што пакрыўдзіцца?

— Ведае ж, што я буду сёння дома...— нарэшце адказала Іра, адказала спакойна, нават неяк млява.

Такая — спакойная — была яна кожны дзень, ці гаворыць што, сядзіць ці бяжыць, яна надта не захвалюецца, не варухнецца, не выкажа сваіх эмоцый. Спакойная і, здаецца, абыякавая, халодная да ўсяго, паабяцала тутэйшаму заляцанніку, што нікуды не паедзе, будзе чакаць яго вечарам, то не варта прасіць яе передумаць: нікуды яна напраўду ўжо не паедзе. Але Тані захацелася ўсё ж крыху калі не пазлаваць яе, то разварушыць, вывесці з гэтага халаднаватага спакою.

— І што ты знайшла ў ім, гэтым Жэню? — грэбліва спытала яна.— Маленечкі, разведзены. Што — табе другіх хлопцаў, лепшых, няма?

— А дзе яны надта ёсць? — спакойна спытала тая, седзячы побач на канапе і, здаецца, дрэмлючы.

— Шукаць трэба, мая мілая.

— Што ў парку ці ў кіно знаходзяцца, гэта не хлопцы...

— Нічога ты не разумееш,— адказала Таня,— і думаеш ты пра ўсё гэта надта па-вясковаму.

Яна паднялася з канапы, падышла да люстэрка; што вісела ля шафы, паглядзелася. Парадавалася, што яна такая танклявая і прыгожая. Яна любіць пастаяць ля люстэрка, прыхарашыцца, выгледзець кожную мясцінку на твары, разгладзіць кожную маршчынку, палюбавацца сабою, агледзець на сабе адзенне, памераць і прымеркаваць запар некалькі сукенак, выбраць самую ладную. А Іра вось і палавіну таго часу не стаіць ля люстэрка. І не таму, што не такая прыгожая ці не сабрала столькі ўбораў, а таму, што вельмі поўная і сароміцца гэтага, не мае вялікай ахвоты вышыкоўвацца.

— Слухай, як табе Васілец? — нечакана нават для самой сябе запытала Таня, разгладжваючы бровы і выбіраючы, якую яшчэ вырваць валасінку, каб бровы былі яшчэ прыгажэйшыя.

— Нічога сабе,— адказала Іра,— хлопец як хлопец. Усе гавораць яшчэ, што ён вельмі добры настаўнік.

— Настаўнік — гэта мяне не цікавіць, гэта хай цікавіць Рагатку і Вертуна,— сказала Таня.— Мяне, мая мілая, цікавіць ён як хлопец.

— Сама ж бачыш...

Сама яна, Таня, бачыла тое-сёе напраўду, але не мела пра яго, Васільца, пэўнай думкі. Усё ж мала разам папрацавалі, месяцы са два. Ды неяк неўзлюбіла гэты год праз Ларысу...

У школе яна і Ларыса былі з маладых настаўніц, незамужніх дзяўчат, дзве сілы, якія не ўступалі адна адной, мелі, здаецца, розныя погляды на жыццё. Спярша хацела верхаводзіць ва ўсім яна, Таня, вучыць, як трэба паводзіць сябе на рабоце, з хлопцамі, як уладзіць сваё будучае жыццё — за каго выйсці замуж і як адносіцца да мужа. Спачатку ёй удавалася ўсіх угаварыць згаджацца з ёю, а пасля нечакана супраць яе выступіла Ларыса...

Ад непрыязнасці да смелай Ларысы са сваёй думкай, якая зусім не супадала з яе, спачатку Таня з непрыязнасцю сустрэла і Васільца. Здалёк, калі ішла па гародзе, бачыла яго, высокага, вясёлага. Калі падышла бліжэй і не заўважыла на яго сімпатычным твары ніякай пагарды, гонару здольнага маладога настаўніка (усе, а надта Алесь Трахімавіч, гаварылі, што Васілец здольны), а ўбачыла сарамлівую ўсмешку, цікаўны шчыры позірк, яна адразу ж змянілася. Забылася пра сваю непрыязнасць і ўсміхнулася. А пасля ўжо, калі ішлі са школы разам дахаты, калі ён яшчэ прыходзіў увечары да іх, адчула, што ён напраўду здольны, разумны, але не стараецца гэтага паказаць, нават хавае, а паказвае сваю дасціпнасць, прастату і шчырасць. І гэта прываблівае, бо гэтая шчырасць не зусім нясмелая, патайная, як у іншых, а толькі ў меру сціплая, за ёю відаць вялікія і самыя нечаканыя па сваёй дабраце парывы.

— Дык ён табе спадабаўся? — спытала Таня і адышла ад люстэрка, села ля Ірыны, якая ўжо ледзь не драмала.

— Ну,— тая напраўду плюснула соннымі вачыма, абудзілася.— Хлопец як хлопец. Ларыса расказвала, што ён надта добры.

— Калі ласка, не ўспамінай ты мне яе! — зморшчылася Таня.— Хопіць таго, што яна мне летась нямала нерваў папсавала.

— А ты ёй мала? — нечакана ажывілася Іра.— Ты ёй яшчэ больш папсавала, старалася ўсяк укалоць, высмеяць яе думкі.

— Я ведала, што і ты так думаеш, як яна,— зласнавата сказала Таня.

Ірына прамаўчала.

— Хоць магла б мяне падтрымаць...

Іра зноў змаўчала, не захацела, як часта і дасюль, гаварыць супраць, пачынаць спрэчку.

— Канечне, з усіх тутэйшых ёй някепскі хлопец трапіўся,— прамовіла Таня, а пасля, каб зачапіць Ларысу, дабавіла, адчуваючы, што гэтыя яе словы Іра можа ціха перадаць той.— Праўда, нічога такога на ім няма...

— Але вось жа зацікавілася...— зноў нечакана ўсміхнулася Іра.— Наўмысна нагаворваеш, а на самай справе на душы іншае...

— Ты насміхаешся? — незалюбіла Таня.

Тая спакойна і ціха паўсміхалася яшчэ і нічога болей не сказала, але ўвесь яе выгляд паказваў, што яна думала, была супраць, што Таня мела шмат хлопцаў і можа вельмі легкадумна паводзілася з імі, часам і палохала іх сваёй смеласцю і дасяжнасцю, несур'ёзнымі — найчасцей наўмысна несур'ёзнымі — размовамі пра каханне як пра нешта зусім не вечнае.

— Няма чаго, мая мілая, пасміхоўвацца,— сказала Таня,— яшчэ паглядзім, хто з нас будзе смяяцца апошні. Бо і Жэня твой — не ўдача...

— Я не смяюся,— адказала Іра, паціраючы рукамі заплюшчаныя вочы.

Танін настрой мігам сапсаваўся: яна была вельмі ўражлівая, настраёвая, любіла найболей прыемныя гутаркі, кампліменты, заляцанні мужчын — тады была задаволеная, шчаслівая, вясёлая, гарэзная, а вось усякія непрыемнасці хутка і лёгка псавалі настрой, маркоцілі, і яна шукала тады спагады. Таму, можа, так і любіла, каб ля яе было шмат хлопцаў, любіла, каб не яна, а іншыя падладжваліся да яе вясёлага характару.

Іра і Ларыса, з-за якіх мігам сапсаваўся цяпер настрой, былі другія. Іра не так цягнулася да кампаніі, не была ўражлівая, не вельмі любіла кампліменты і легкадумныя прызнанні; яшчэ падабалася Тані, бо маўчала і думала пра ўсё сама сабе, а вось Ларыса часцей за ўсіх збівала з панталыку, бо была сур'ёзная, прадбачлівая, вытрыманая. Гаварыла ўсё, што думала, асуджала востра і бязлітасна.

І яшчэ было адно, што рабіла вялікі гонар Ларысе,

а яе, Таню, не раз сароміла. Гэта тое, што Ларыса заўсёды мела сваю думку і берагла яе, яна ж, Таня, здавалася на першы погляд, гэтаксама мела сваю думку, але не заўсёды жыла так, як думала, часта адчувала, што ёй у душы вельмі падабаліся Ларысіны думкі, паводзіны, хоць гэтага яна старалася нікому не паказаць. І дзеля гэтага яна не раз таварыла не тое, што думала, а тое, што было б супраць Ларысы...

«Ладна, мы яшчэ пазмагаемся з гэтай Ларысай,— падумала яна цяпер, вельмі хочучы гэтай жаночай барацьбы,— і яшчэ невядома, хто каму саступіць...»

І яна адчула, што цяпер будзе спрачацца з той не толькі на словах, стараючыся паказаць, што больш усяго ведае, стараючыся мець пры сабе больш прыхільнікаў, а цяпер ужо гэтая спрэчка будзе вельмі канкрэтная. З-за Васільца...

«І я павінна перамагчы...— думала Таня.— Калі не змагу гэтага зрабіць, то гэта будзе шмат у чым маё паражэнне...».

І яна, як і раней, хутка павесялела, адчула адразу бадзёры прыліў радасці ды хвалявання.

— Пайшлі пазагараем...— сказала яна Іры.— Яшчэ сонца высока, то пагрэемся, парудзеем. Заадно і пачытаем, павысім, так сказаць, свой культурны ўзровень,— пажартавала і пачала збірацца.

Іра моўчкі згадзілася, відаць, адчула яе гэтую перамену, толькі не зразумела, ад чаго яна адбылася. Але распытвацца не стала, паклала ў вялікую сумку купальнік, коц, кнігі, цёмныя акуляры. Таня, думаючы пра Паўла, гэтаксама збіралася, брала з сабою ўсё патрэбнае, паклала ў сумку, толькі акуляры пачапіла на нос. Яна не саромелася хадзіць у іх і па вуліцы, хоць бачыла, што людзі глядзяць на гэта крышку са здзіўленнем, як са здзіўленнем глядзяць і на яе паходку. Яна ходзіць, як умее, як ёй хочацца, а ўсе — настаўнікі гэтаксама — думаюць, што яна залішне высока задзірае галаву, какетліва пакручвае клубамі. За другімі настаўніцамі гэтага не заўважаюць, а вось да яе паходкі чамусьці прыглядаюцца.

Сабраўшыся, яны выйшлі з хаты і замкнулі яе. Па двары, што млеў пад спякотным сонцам, падаліся на гарод, за якім адразу ж быў алешнік. Тут, за людскімі соткамі, быў ён малады, тонкі — толькі на дубцы,— рэдкі, увесь на пнях: яго, як толькі паднімецца, высякалі на

дровы ці на голле, каб аплесці ім плот. Далей ад вёскі алешнік укамельваўся, гусцеў, у ім урасталася трава, бо пасвіць кароў там не дазвалялі: траву давалі людзям «на працэнты». У адным далекаватым адсюль месцы, дзе агалялася паляна сярод густога алешніку і бярэзніку, якія не прадзімаў вецер, Таня і Іра і любілі паляжаць, пасмаліцца на сонцы, бо паблізу булькала яшчэ і невялікая, вузкая, але вельмі чыстая рачулка.

— Сумнавата ў вёсцы! — ідучы па ўтаптанай бульбяной баразне, а пасля, калі пералезлі праз загарадзь, і па сцежцы, цмокала Таня.— Я, мусіць, ніколі не прывыкну, што ў ёй і летам так ціха, няма нідзе людзей, пахаваліся недзе і працуюць... Не прывыкну, што ў мяне многа вольнага часу, а я не ведаю, куды мне пайсці, што паглядзець. Стань і пазірай на неба ці на лес — дык на цябе будуць глядзець, як на дзівака... У горадзе я схадзіла б у гэты вольны свой час у кіно, у магазіны ці пазваніла б сяброўцы і з ёю папляткарыла б... Мне на дзень трэба тысячы перамен — тады толькі я буду задаволеная. Адпрацую яшчэ тут два гады, адбуду гэты нялёгкі тэрмін і ўцяку адсюль.

Таня гаварыла праўду: ніяк не магла ўжыцца ў вёсцы, прывыкнуць да Міланек, кожнага дня думала, што трапіла сюды выпадкова, не магла дачакацца, калі можна будзе выбрацца адгэтуль. Думала так і ішла наперадзе, чула, як у аголеныя рукі, шыю і ногі прыпякае сонца, як жаўціць, аж коле сваёй яркасцю вочы, яе жаўтаватая кароценькая суконка. Ішла босая; спачатку, як толькі прыехала ў Міланькі, не магла хадзіць без туфляў, вельмі баялася жорсткага пяску. І, можа, не так пяску, як таго, каб не папсаваць сабе ногі. Але пасля адчула, што вельмі прыемна хадзіць босай па цёплай зямлі, і не асцерагалася. Следам за ёю цяжкавата тупала Іра, гэтаксама босая,— ногі ў яе, надта ў пальцах, шырокія, мазолістыя, дужыя — несла ў руках напакаваную сумку.

— Вёска як вёска,— нарэшце азвалася марудлівая Іра,— і жыць тут можна. Як і ўсюды.

— Бо ты, мая мілая, век свой толькі гэта і бачыш...— сказала Таня,— а я не магу прывыкнуць да таго, што табе здаецца добрым. Я сумую тут без тэатра, кнігарняў, без шуму машын, вялікіх чэргаў, тэлефона, ванны... Ды і праца мне не падабаецца надта. Маленькая школка, даю калі добрыя, калі сярэднія ўрокі матэматыкі, якая

надта і не цікавая дзецям, але якою зарабляю на кавалак хлеба. Гаворка толькі пра міланьскія навіны, заўсёды ва ўсіх на воку, заўсёды незадавальненне гэтым і мара пра нешта лепшае...

— А мне здаецца, што мы тут такое ж робім, як і людзі ўсюды — у горадзе, у другіх вёсках,— сказала Іра, відаць, любячы вёску, тутэйшую школу.

Яна, Іра, вельмі радая, што паступіла ў інстытут, што цяпер працуе ў школе, хоць і піянерважатай, вельмі хоча быць настаўніцай, таму вось так і заступаецца за вёску і школу. Таня ж не надта радая, што стала настаўніцай, што і цяпер, і некалі трэба быць толькі з дзецьмі,— яна часта думала, што не зусім добра выбрала сабе прафесію, трэ было вучыцца на ўрача ці на актрысу. Не адчувала яна, каб яе цягнула да дзяцей, затое добра бачыла, што яна іх, дзяцей, мала разумее.

— Для цябе, мая мілая, гэта, можа, і ёсць лепшае...— прамовіла Таня.— Можа, і ёсць дарога ў жыццё... Але я бачыла, як і дзе людзі жывуць, таму і ведаю, што тут мне не сама лепш...

Яны па вузкай утаптанай сцежцы сярод кустоў і травы прыбліжаліся да ўлюбёнай палянкі. Трава на ёй была памятая ад іх штодзённай лежатні, так і не асільвала — высокая, гнуткая — падняцца. Прыйшоўшы сюды, Таня прыпынілася, сцягнула цераз галаву сукенку, зусім не саромеючыся, што нехта можа падцікаваць. Не прысядаючы, папрàвіла на сабе купальнік, любуючыся сваім лёгкім, стройным і крамяным целам. Іра ж прысела, тады ўжо раздзелася — ад таго, што яна прысела, ногі яе і сцёгны пашырэлі, здаліся зусім поўнымі.

— Ну ў цябе і плечы! — усміхнулася Таня.— Як у штангіста. Не кожны і хлопец мае такія плячышчы.

— Бо таты не было, дык працавала многа з мамаю,— крышку саромеючыся і крыўдзячыся, адказала Іра,— вось і стала такая плячыстая...

— Ты як абдымеш — то не кожны вытрывае...

Іра прамаўчала пакрыўджана, паднялася, разаслала на свежым месцы коц, легла на жывот, шырока раскінуўшы малазагарэлыя ногі, і пачала чытаць кнігу. Таня апусцілася побач, але гартаць сваёй кнігі не ўзялася, пазірала на сонечнае, густа-блакітнае неба з ахапкамі белых воблакаў.

— Увогуле паляжаць вось так някепска! — сказала яна, легла на спіну, раскінула рукі, падняла адну нагу, другую, яшчэ раз палюбавалася іх стройнасцю, а тады ўжо заплюшчыла ад задавальнення вочы.

Пасля вобмацкам знайшла сумку, падцягнула яе да сябе, дастала цыгарэты і запалкі. Закурыла, думаючы, што дыму вельмі не любіць Іра, але не зважала на гэта, курыла.

Ляжала так доўга, пакуль не сасмаліла цыгарэціну, адчувала, што Іра ўжо ўчыталася і, відаць, хацела вельмі дазнацца, ці «сыдуцца» героі. Яна дзеля гэтага, канечне, прапускала тыя мясціны ў кнізе, дзе пісалася пра прыроду, сачыла толькі за закаханымі.

— Іра, чуеш? — таўханула яе Таня локцем.— Ці варта мне прыгледзецца да яго?

— Да каго? — незадаволена, што яе адарвалі, мусіць, ад надта цікавага чытання, мармытнула тая.

— Ну, да нашага Васільца...

— Не ведаю,— каб не пачынаць размовы, не надта думаючы, што гаворыць, зноў буркнула Іра.

— А ён варты, каб я на яго зірнула?

— Канечне.

— Як ты думаеш: возьме ён Ларысу?

— Хто — ён?

— Ну, Васілец,— нецярпліва адказала Таня. — Ён толькі заляцаўся да яе ці напраўду думае ажаніцца з ёю?

— Адкуль я ведаю,— пацiснула плячыма Іра, адарвалася ад кніжкі.— Я ведаю пра гэта тое, што і ты. Бачылі, што яна вельмі чакала яго, дзеля яго ні разу на танцы ці ў кіно ў клуб не хадзіла. Хваліла яго, што надта добры характар мае, разумны, начытаны.

— Каб быў вялікі талент, мая мілая, то пакінулі б у аспірантуры, для Міланек можа і здаецца надта разумным... Хоць гэта мы паглядзім яшчэ. А што Ларыса хвалілася, што ён высокі, прыгожы, то не ўся тут праўда. Што высокі, то высокі, але красы той на ім вельмі не відаць. Я не такіх прыгожых хлопцаў мела, якіх яна можа і не бачыла... Бо і сама яна не надта... Ну што на ёй такое ёсць? Страйнаватая, але няма ў яе той пяшчотнасці, жаноцкасці, што я маю, і на твары таго няма...

— Ну і не брыдкая яна...— заступілася Іра за Ларысу, якую вельмі паважала і за розум, і за дабрыню, смеласць.

— Гонару многа, а не красы...— не адступалася Таня, якая недалюблівала Ларысу.— Сціпленькую з сябе паказвае!

— А яна і ёсць сціплая, беражэ сябе,— прамовіла Іра, і хоць сказала не ўсё, але Таня зразумела, што тая хацела зачапіць яе, зачапіць гэтым «беражэ», бо думала, што вось яна, Таня, сябе не беражэ...

— Ну і беражыцеся на здароўе! — адказала Таня.— Ларыса, Лілія ды ты — святошы... Што вы бачыце, хіба ведаеце ўсе зямныя асалоды? Нічога вы яшчэ не бачылі і не ведаеце.

— Жывём як умеем. Добра нам ці блага — гэта толькі нам... Але я бачу, што і твае «асалоды» не надта радуюць цябе, часамі нават засмучаюць. І плачаш тады...

— Табе гэтага не зразумець,— сказала Таня,— бо ты не жывеш страсцямі, а надта ж ужо абдумана і суха. А я не магу так. Я вось убачыла новенькага — і растрывожылася...

— Спадабаўся? — ужо ўсміхнулася Іра.

— А табе?

— Ну, нічога, прыемны, але ж я ведаю, што ён Ларысін, таму і не думаю пра яго.

— Вось ты якая сухая,— сказала Таня,— а я не думаю, што ён Ларысін. Спадабаўся — і я думаю пра яго, хачу з ім бачыцца... Ён, разумееш, напомніў мне маё першае каханне. Сябраваць з хлопчыкамі, мая мілая, я пачала з восьмага класа, а ў дзесятым яны, мае аднагодкі, мне ўжо не падабаліся, і я прыглядвалася да старэйшых. Вось на танцах і пазнаёмілася з ім — высокім, сімпатычным, такім, як Васілец... Ён хутка абмануў мяне, закруціўшы мне галаву, кінуў, пасміхаючыся: «Любоў — ток...» Аж цяпер помню яго ненавісную ўсмешку: ніжняя губа абвісае, дрыжыць, агаляе белыя зубы. Адзін зуб залаты... І вось Васілец падобен на яго, але толькі не мае той нахабнасці. Ён, Васілец, чысты, нават далікатны, і гэта прыцягвае...

— А Толік? — спытала Іра.— Вясною ты ж яго хваліла.

— Жэня, Коля, Толік — гэта не тое, ды яны мне ўжо даўно не падабаюцца, надаелі. Яшчэ Толік крыху... Але ён надта банальны. З ім мне ўжо сумна і ніякай радасці...

— Можа, гэта і таму, што надта з многімі ты шукаеш гэтай радасці, раздрабняешся. Грэешся ля многіх агнёў,

так сказаць, падоўгу не пастаіш ля аднаго кастра і не адчуеш, якое ж цяпло ад яго... Пагэтаму ты і ў Васільцу хутка расчаруешся... Хоць пра яго няма чаго і гаварыць: ён Ларысін. Яны сябруюць ужо шмат гадоў, будуць сёлета жаніцца. Яшчэ пазалетась думала Мая Сцяпанаўна адбіць яго ад Ларысы, але нічога ў яе не выйшла. Ён ужо даўно Ларысін — і вялікі грэх пасягаць на іх шчасце...

— «Ларысін», «грэх»!.. — аж незалюбіла Таццяна Сяргееўна.— Ён і мне спадабаўся, значыць, і я маю на яго такое ж права, такое ж права на шчасце...

— Ці не думаеш ты?..

— А хто мне не дазволіць? — перабіла яна расхваляваную Іру.— Чаму я не магу пакахаць яго? Магу. Ларыса як жанчына не здолее так яго прывабіць, здзівіць і ўсцешыць такой жаноцкасцю, а я змагу. І я ведаю, што падабаецца мужчынам... Адчуваю, што і ён мне трэба, таму і пастараюся...

— Гэта нядобра, Таня,— сказала Іра.— Усё ж Ларыса столькі сябравала з ім, чакала так яго.

— А я? — усміхнулася Таня.— Чаму ты, мая мілая, пра мяне не думаеш? Ды пра маё шчасце? Можа, сам лёс звёў нас у Міланьках.

Іра не чытала. Відаць, думала пра тое, што нядаўна сказала сама, што пачула ад Тані. І, можа, спалохалася гэтага, будучы добрай, спагадлівай, шкадавала Ларысу.

— Супакойся, мая мілая,— усміхнулася Таня, пагладзіла па цёплым плячы.— У мяне такі характар, інакш я не магу... Ведаю, што з Ларысаю... Але я не аддам ёй спакойненька хлопца, які і мне спадабаўся. Хай яшчэ і яна павая за яго... Вось так...

— Ведаеш, Таня, колькі знаю цябе і вось цяпер слухаю і думаю...— Іра села, падагнула калені і паклала на іх кніжку, ажывілася.— Вельмі дзіўны, складаны ты чалавек. Гаворыш не раз адно, а на душы ў цябе зусім іншае... Любіш кпіць, філасофстваваць, абы-што на сябе, на іншых, на каханне нагаворваеш, а на самай справе ты лепшая, чым здаецца... У душы ты вельмі чулая і добрая...

— Ну-ну,— усміхнулася Таня.— Гавары, цікава пра сябе пачуць вось такое...

— Цяжка цябе зразумець...— усміхнулася і тая.— Жывеш неяк ці мала думаючы, ці выдумкамі... Сёння ў

цябе гэта, заўтра іншае. І гэтак кожны дзень нешта новае... Бо жывеш, як ты кажаш сама, аднымі эмоцыямі ды не раз стараешся быць не такой, якая ёсць на самай справе, таму часта і бездапаможная ты нейкая...

— О, ды ты псіхолаг! — здзівілася Таня, адчуваючы, што тая гаворыць шмат праўды.

— Ды, прызнацца, гэта не мае думкі, а Ларысіны...

— І яна лічыць, што я лепшая на самай справе, чым здаюся? — зноў здзівілася Таня, думаючы, што Ларыса павінна была недалюбліваць яе, гаварыць зусім іншае.

— Вось іменна, што яна...

— Давай, калі ласка, не будзем больш пра гэта, давай будзем чытаць...— сказала Таня, легла на жывот і, дастаўшы з сумкі кнігу, разгарнула яе на патрэбнай старонцы, пачала пазіраць на густыя радкі літар, якія чамусьці нібы зліваліся, стракацелі перад вачыма...

## 5

Назаўтра Васілец пайшоў у суседнюю вёску, Вішнёўку, на пошту і заказаў тэлефонную размову з Ларысай. Але пагаварыць не ўдалося: з Ларысіных родных мясцін перадалі, што яе ўжо няма — паехала на працу.

«Ну і добра! — радаваўся ён.— Значыць, на днях ужо ўбачымся!»

Выйшаў з цёплага двухпавярховага цаглянага будынка — у ім акрамя пошты былі сельсавет, кантора тутэйшага саўгаса — і падаўся дадому. Толькі пачаў абыходзіць абгароджаны высокі помнік, як убачыў: насустрач яму з блізкага магазіна выйшаў Сліж.

Той спачатку, здаецца, пазіраў на свае новыя, шэрыя, з рудымі замкамі і жоўтымі скуранымі латкамі джынсы, на жоўтыя туфлі, пасля падняў галаву, прыжмурыўся ад сонца, якое хоць і нізка, над лесам, вісела, але ярка сляпіла цёплымі праменнямі. Усміхнуўся, ад чаго яго шчокі яшчэ пашырэлі, амаль схавалі вушы, махнуў рукою па русявых, зачасаных набок валасах, што прыкрывалі нізкі лоб, хутчэй пайшоў насустрач.

Падышоў, падаў гладкую, белаватую руку са шлюбным пярсцёнкам, зноў заўсміхаўся, ад чаго папрыгажэў на даволі сімпатычным твары.

— Ну, віншую, таварыш дэмабілізаваны! — трос Паўлаву руку, задзіраў уверх галаву, пазіраючы ў твар: быў зусім невысокі, Васільцу па плячо.

— Дзякую,— усміхаўся і Павел: быў і рады сустрэчы, бо ўсё ж Сліж калега па рабоце, і пацешваўся, што той па-ранейшаму чамусьці вельмі змякчае зычныя цвёрдыя гукі — прамовіў не «віншую», а «віншюю».

— Ці не выцягнуўся ты яшчэ вышэй? — пазайздросціў Сліж.

— Не так выцягнуўся, як распраміўся ў арміі...— пажартаваў Павел.— А ты, Уладзімір Пятровіч, за гэты год «падрос» ушыркі...

— Не гаварі...— жартоўна махнуў рукою Сліж і, ведаючы, што з яго гутаркі не раз пацешваюцца, пастараўся не змякчаць зычных.— Сам не ведаю, чаму паўнею... Хіба, можа, бегаць трэба? Але ж лянуюся.

— А я бегаў, і шмат...

— Ты служака, усюды патрапіш...— як пажартаваў Сліж.— Але вярнуўся во, прыехаў сюды, да Зубка, да дзяўчат зайшоў, а да мяне не зазірнуў...

— Адкуль ты?..

— Вёска...— не даў дагаварыць Паўлу Сліж.— Усе ўсё ведаюць. Ніна мая працуе тут у магазіне, то прыходзілі з Міланек бабы нешта купляць і расказвалі... Але дачка мая адна ў хаце, можа, прачнулася ўжо, то будзе плакаць. Хадзем, зірнеш на яе. Красуня!

— Можа, другім разам? — спытаў Павел, ведаючы, што Сліж захоча і пачаставаць.

— Да мяне дык і не хочаш зайсці...— пакрыўджана адказаў той.— Мы ж з табою аднагодкі, маладыя, то нам і трэба дружыць, трымацца адзін аднаго. Дачку вось паглядзіш, на кватэру зірнеш. Летась, як толькі ты пайшоў служыць, то яе і далі мне ад саўгаса. Мілае дзела — свая хата. Цяпер я, убачыўшы гэта, нізашто, здаецца, не жыў бы на прыватнай кватэры... Сам сабе гаспадар, браце...

Васілец усміхнуўся: маўляў, хадзем, калі ты так загаварыў!

«Сліж хоча сябраваць са мною,— падумаў,— але надта не заступіцца, калі трапіш у бяду. Наракае за нешта на цябе начальства — не заступіцца. Змаўчыць. Пасля толькі — адзін на адзін — паспачувае. Але і на вінаватага надта нічога не скажа — паасцерагаецца. Тым больш калі гэтым вінаватым будзе нейкі важны чалавек. Сліж

і Вяртун нейкія падобныя: абодва не гавораць чалавеку праўды ў вочы. Але Вяртун усё скажа, калі вып'е, а Сліж і тады змоўчыць, затоіцца. Не хоча, каб усе ведалі яго сапраўдныя думкі. Ён як рыбіна — ля рук, але ніяк не зловіш, выслізгвае і выслізгвае... Праўда, са мною калі-нікалі бывае і шчыры, нібы ўсё вучыць мяне, як трэба жыць... Мусіць, думае: больш ведае за мяне ўсяго ў жыцці...»

Дом, у якім цяпер жыў Сліж, быў недалёка ад канторы, амаль насупраць яе. Пасярэдзіне стаяў толькі невялікі саўгасны складзік, які з часам, канечне, прыбяруць, і замест яго будзе плошча. Сліж і Павел пайшлі да канторы, ля складзіка павярнулі направа і падаліся да двухпавярховага дома, ля якога яшчэ ляжалі груды бітай цэглы, аполкі, скрынкі з растворам, кавалкі шыферу, грудка абмытай дажджом і ўцвярдзелай вапны.

— Выгляд дома, браце, знешне харёш,— сказаў Сліж,— але ўнутры многа недаробак. А гэта во нашы хлеўчыкі.

Насупраць дома, зусім недалёка, пад адной страхой бачыліся невысокія хлеўчыкі, праёмы між дзвярэй якіх былі закладзены паколатымі дровамі ў некалькі складняў, відаць былі дзве высунутыя загарадкі, у якіх рыліся свінні.

— Хлеў зусім не вясковы,— расказваў Сліж.— Малы зусім. Дзве машыны дроў толькі ўлазіць. Карову, свіней, сена, бульбу няма дзе дзець. Вось і пачалі самі надбудоўваць.

— І ты гаспадарку завёў? — усміхнуўся Васілец.

— Дзяржу парася, курэй, браце. Самі ядзім — тое-сёе застаецца, дык не выліваць жа яго. Бульба свая, мукі яна ў магазіне дастане, глядзі, і падкарміў. Мяско сваё, яечкі. Чым блага, браце? І капейка зберажэцца.

— Практычны ты.

— Жэнішся, будзеш жыць у вёсцы, то і ты завядзеш,— сказаў Сліж,— усе мы, калі нежанатыя, пасміхаемся з настаўнікаў, якія маюць гаспадарку, але ўсе і самі заводзім яе пасля... Гаспадарка, браце, нада, капейку беражэ. А капейка нам, маладым, таксама нада. Ды нам, браце, усё нада, і чым паболей. Рагатку ці Зубку цяпер усяго хапае, але яны ўжо таго, што мы, не з'ядуць, не зносяць, а мы, браце, добрае яшчэ здароўе маем, то нам трэба і пажыць усмак. Цяпер можна добра жыць, толькі

трэба крыху круціць галавою... Грэбці пад сябе, так сказаць...

— Так можна і блізарукім стаць,— сказаў Павел.

— Я матэматык, люблю лічыць, а не...— ён усміхнуўся, памахаў ля скроні рукою.— Пайшлі ў хату. На першым паверсе, во тут, жыве Святлана Міхайлаўна, а мая кватэра на другім. Вунь тыя сінія вокны.

Яны прайшлі зялёны выганчык, утаптаны ток ля дома і зайшлі ў цэментаваны пад'езд, дзе стаялі дзіцячыя веласіпеды, ляжалі ночвы, у якіх малыя нанеслі пяску ды каменьчыкаў. Тут было чацвёра ненумараваных дзвярэй; лесвіца на другі паверх была нядаўна вымытая, жоўценькая; акно на другім паверсе было з разбітымі шыбамі, і праз дзіркі накруціла з двара пяску.

— Не разбярэмся, каму зашкліць...— сказаў Сліж, дастаў з кішэні ключ і пачаў адмыкаць крайнія злева дзверы, якія былі зачынены аж на два замкі.

Адамкнуўшы іх, прапусціў першага Паўла. У цемнаватым калідорчыку справа стаяла высакаватая скрынка (мусіць, з-пад тэлевізара), у ёй быў скіданы абутак, вышэй трымалася вешалка, яшчэ вышэй вісеў лічыльнік, на якім ляжала парудзелая разліковая кніжка. Столь і сцены зверху былі белыя, як і грубка злева, ніжняя палова сцен была пафарбавана маслянай сіняй фарбаю. Праход за грубкаю быў завешаны шэраю шырмаю, якая і прыцемнівала калідорчык.

— Заўважыў? — усміхнуўся Сліж.

Павел, першы раз усё тут бачачы, не ведаў, пра што пытаецца гаспадар. Сліж уключыў святло, міргнуў на лічыльнік, дыск у якім не круціўся.

Павел паківаў галавою ад здзіўлення.

— Нада, браце...— усміхнуўся Сліж.— Знаеш, тэлевізар, плітка очань накручваюць...— І калі Павел скінуў туфлі, запрасіў у залу.

Гэты пакой, невялікі, светлы, быў шыкоўна абстаўлены. Стаялі ля даўжэйшай сцяны дзве кніжныя секцыі, ля акна стол, ля яго тумбачка з тэлевізарам, адразу, злева, канапа. Мэбля была пад адзін — чырвона-карычневы — колер. Шырокае акно было завешана беласнежным дэдэронам.

— Ды ты стаў кніжнікам! — здзівіўся Павел, падыходзячы да кніжнай шафы.

Там ляжала і стаяла кніжак з дзесяць, не болей, а так стаялі пакладзеныя адна ў адну, мелкія і глыбокія талеркі, кубкі для кавы, чаркі і графіны для віна, стаялі малесенечкія пляшкі гарэлкі і каньяку.

— Культура! — паціснуў плячыма Сліж.— Цяпер у горадзе ўсе культурныя людзі кнігі купляюць.

— Дык гэта мода ці культура? — усміхнуўся Павел.

— А гэта не адно і тое ж?

— Не.

— Я не разбіраюся, браце,— сказаў Сліж.— Я не філосаф і нават не філолаг. Але я ведаю, што́ цяпер інтэлігентныя людзі купляюць, і я гэта купіў. Бачыў, колькі кніг у Алеся Трахімавіча?

— Бачыў,— сказаў Павел.

— І я зафурую гэту шафу кнігамі, а для пасуды сервант куплю,— прамовіў Сліж, і Павел паверыў: так і будзе.— Іду ў нагу з часам...

— Пакажы самае галоўнае сваё...— Павел пастараўся перамяніць гутарку на іншае.

— Ці не грашовую кніжку?

— Ды не. Дачку.

— А, ты вось пра што...— той прачыніў дзверы ў спальню, і Павел убачыў два драўляныя ложкі, дыван на падлозе і на сцяне, калыску, у якой спала дзяўчынка.— Паглядзі і не спяшайся надта мецъ іх, калі ажэнішся. Паспееш. А то, браце, яны, гэтыя дзеці, мяшаюць убачыць усе прэлесці жызні... На цяперашні свой розум, то другое буду яшчэ не скора старацца. Нада, браце, спачатку пажыць дзеля сябе...

Павел ступіў у спальню і ўбачыў у калысцы поўненькую, цёмнавалосую дзяўчынку, якая спала і смачна цмокала ружовымі губкамі.

— Ну, як? — спытаў Сліж.

— І крошкі ў цябе падабрала...

— Трэба ўмець!

— Някепска ты зажыў, гляджу,— сказаў Павел, выйшаўшы са спальні і садзячыся на канапу.

— Кішэні сваіх і яе старых добра патрос,— сказаў Сліж,— вось і выкалаціў... А сам збіраю грошы на «Жыгулі», жыць не буду, калі не куплю. Другія маюць, раскатваюцца, а чаму я не магу ў сваёй машыне праехацца? Што я — горшы за другіх? Цяпер, браце, пажыць добра можна, толькі трэба не драмаць... Але хопіць насуха бал-

батаць, пасядзі крыху тут, а я прыгатую тое-сёе, тады лаўчэй будзе язык варочацца.

— Дзякую, не трэба,— шчыра папрасіў Павел,— усе гэтыя дні толькі і ведаю, што ў госці хаджу... Так і да бяды нядоўга...

— Не бойся,— усміхнуўся Сліж.— У цябе такі характар, такая воля, што зладзіш з сабою... А я... Ды і магу...— і ён жартам паляпаў па сваім поўным жываце.— Ды калі дармавой яшчэ...— і задаволена засмяяўся.— Так сказаць, пры прыемнай кампаніі, пры добрай закусцы ды за чужы кошт можна піць бясконца... Так што...

— Не-не,— сказаў Павел, амаль падхапіўся з канапы.— Калі ты так, то я пайду дадому.

— Ну ладна, Павел Мікалаевіч, хай будзе па-твойму,— махнуў рукою Сліж, сеў ля стала.— Тады квасу зараз пап'ём ці кавы... Маладзец, што ўмееш адмаўляцца, здароўе і аўтарытэт беражэш... А я прасцей жыву... Як якая гулянка ў вёсцы ці лазня — мяне клічуць... І я — не ганарлівы надта — не адмаўляюся... А ты, можа, браце, і добра зрабіў, што вярнуўся сюды. Праз год-два Рагатка на пенсію пойдзе, то ты і ўзбярэшся на яго месца. І начальнікам будзеш, і пры школе абжывешся пакрысе...

— Спачатку трэба самому навучыцца працаваць,— сказаў Павел,— а тады ўжо марыць пра пасады і другіх вучыць.

— Хіцёр, тоішся! — усміхнуўся Сліж.— Але мяне, браце, не абхітрыш, я ўсё бачу. Я знаю, што і ты далей глядзіш, чым во мне такое — правільнае ды разумнае — гаворыш... Па мне будзь, я з табой лепш паладжу, чым з цяперашнім. Ён стары, надта не падпускае да сябе, а ты аднагодак... Хоць і ён, калі мая Ніна пайшла ў магазін, перамяніўся, паглядвае, каб які мяшок мукі ці дачцэ кофтачку без чаргі ўхапіць... І мы тыцнем тады-сяды — глядзі, і мне ў школе лягчэй, раблю як хачу... А работа ў школе, калі дырэктар добры, і не надта благая, цёпленькая...

— Толькі яе любіць трэба ды старацца...— перапыніў яго Павел.

— Тут на брак не глядзяць... Даюць усю палучку і без гэтай тваёй любові... Гэта, браце, не на заводзе... Аднолькава плацяць і Зубку, які гарыць на рабоце, і таму, хто спакойна ды не паднатужваючыся проста дае ўрокі...

Павел вельмі не любіў такіх размоў, дзе закранаўся гонар школы, настаўніка, кожны раз заступаўся за сумленнасць, любоў настаўніка да сваёй працы, не цярпеў тут хітрасці і абыякавасці. І Сліж гэта ведаў, не гаварыў адкрыта ды пра сябе, а здалёку выказваў свае думкі, якія, дарэчы, гаворыць не многім.

— Табе гэта крыўдна, але гэта так,— сказаў Сліж,— я паглядзеў і многае ўбачыў... У любой, браце, прафесіі, на любой рабоце можна і так, і гэтак... Выбірай...

Сказаў ён так і зноў схаваўся, прамаўчаў, а як жа думае ён іменна, як працуе, прытаіўся пра гэта.

— На нашай рабоце нельга хітрыць,— прамовіў Павел,— дзеці ж усё бачаць, вучацца ад нас. Калі што не так, яны ж першыя і папракнуць нас...

— Ну, так, канечне, так,— згадзіўся Сліж, але відаць было, што ён у душы пасміхаўся з гэтых Паўлавых слоў, лічыў яго не надта хітрым.— Ну, а як табе нашы дзяўчаты? Таццяна Сяргееўна?

Павел крыху пачырванеў, засаромеўся, што Сліж ужо тое-сёе ведае і вось пра гэта намякае.

— Не ведаю,— паціснуў ён плячыма.— Ды я іх толькі два разы і бачыў.

— Ты мяне не бойся, я нікому не скажу. Не дойдзе да Ларысы...— сказаў Сліж.— У нас ёсць з кім пагуляць халасцяку. Ажно пяць незамужніх... Пра Ларысу маўчу, а з астатніх падабаюцца мне дзве — Таццяна Сяргееўна і Мая Сцяпанаўна. Ма́я яшчэ маладая, нічога не бачыла, саромеецца, а вось Таня ўжо ўсё бачыла... Ды і, браце, прыгожая, стройная!.. Я, каб не такі гарачы характар у маёй Ніны, то падгуляў бы. А з ёю, браце, падгуляць — мілае дзела... Ну што ты — такая дзяўчына!.. Красуня! Мёд!.. Так што ты, халасцяк, пакуль няма тваёй, гульні з Таняю. Ты за адзін вечар з ёю зладзіш...

— Не ў маім гэта характары,— адказаў Павел.

— Ты ж хлопец, браце, урвіцель, так сказаць,— захіхікаў Сліж.— Я на тваім месцы такога не ўпусціў бы... Чужая жонка мёдам мазаная, а свая — дзёгцем... Гы-гы-гы...

— Давай не будзем пра гэта болей, Уладзімір Пятровіч,— папрасіў Павел.— Не нам пра гэта гаварыць і не нам такім займацца.

— Не нам, не нам!.. А што мы — не людзі? Чаму гэта нехта можа цешыцца жыццём і маладосцю, а мы не мо-

жам? Што мы — робаты? Не...— разгарачыўся Сліж, прыслухаўся.— Але ціха... Здаецца, мая каралева ідзе. Пры ёй нічога лішняга не трэба... Ды і лепш, калі жонка ўсяго, як і тваіх думак, не ведае...

«Сам я вінаваты,— падумаў Васілец.— Ну, чаго мне было заходзіць да Таццяны Сяргееўны, за стол садзіцца, танцаваць? Убачыўся ля школы, пагаварыў — і хапіла б... Я-то болей нічога не задумліваў, ішоў як да калег, а вось людзі... І Ларысе абы-што могуць сказаць... Не пайду больш. Хопіць. Ды і чаго мне туды хадзіць?»

## 6

— Уставай! — патурзала за плячо жонка, прымусіла прачнуцца.— На аўтобус спознішся,— сказала і зноў падалася на кухню, дзе і дагэтуль тапталася ля гарачай печы — ляскала пасудаю ды гаршкамі.

Іван Сямёнавіч, прачнуўшыся, слабы, стомлены пасля сну, ведаў, што напраўду трэба хутка ўсхоплівацца, спяшацца на аўтобус, але ленаваўся паднімацца, ляжаў, цёр далонню твар.

Балела галава. Відаць, ад таго, што ўчора позна лёг і ноччу кепска спаў. Позна ўклаўся, бо вярнулася дамоў прастуджаная дачка. Дык распытваліся, дзе была, што рабіла, а пасля лячылі яе. Кепска спаў ноччу, бо прыслухоўваўся да даччынога дыхання, хваляваўся, калі яна моцна кашляла, бухаючы на ўсю хату, і — яшчэ трызніліся розныя сны. І сёння ноччу снілася яму вайна...

— Ну, уставай! — зноў зайшла сюды, у спальню, жонка, нагнулася і зірнула: спіць ён ці не.

Стаяла стомленая, з глыбокімі цёмнымі ўпадзінамі пад вачыма — відаць, гэтаксама і мала, і кепска спала.

— Ну, чаго ты? — як здзівілася яна, бачачы, што ён не паднімаецца, ведаючы, што звычайна ён устае рана, робіць гімнастыку ці ходзіць у блізкі лес і там блукае з паўгадзіны.

— Галава баліць: вайна снілася... Як зноў быў у партызанах, у акружэнне трапіў...— адказаў ён.

Яна прамаўчала, хоць, канечне, яго зразумела: не раз і сама расказвала, што і ёй сніцца ўсё яшчэ вайна — сніцца, як была сувязной, як ратавалася з дзецьмі ад карнікаў, сняцца знаёмыя, дарагія людзі, якія тады, у вайну, загінулі...

— Усю ночачку кашляла, бухала і бухала...— жонка наўмысна пераявяла гутарку.— Во што даў яе паход... Каму-каму, а нам, бацькам, гора... Ёй горла ці лёгкія баляць, а табе сэрца...— прамовіла і падалася са спальні на кухню, але не заціхла, гаварыла яшчэ сама сабе.— Потым, калі будуць мець сваіх дзяцей, то і самі гэта ўведаюць... Уведаюць, як іх шкода і як крыўдна, калі яны не слухаюцца...

Іван Сямёнавіч устаў, заслаў пасцель, нацягнуў на сябе адпрасаваныя ўчора штаны і падаўся на двор мыцца.

Там было даволі холадна — ля лесу і на аселіцы нізка, пры самай зямлі, вісеў белы туман, які паволі распаўзаўся: утравала высакаватае ўжо сонца.

Калі пачаў мыцца, да яго зноў падышла жонка.

— А калі ён не захоча ісці ў школу? — спытала яна, думаючы пра сына, Васіля.— Тады, можа, і не варта настойваць? Хай працуе там, дзе падабаецца...

— Пагаворым жа. Спакойна, дзелавіта...— адказаў ён.

— Добра было б, каб хоць ён згадзіўся з намі жыць... І мы памаглі б яму больш і лепш, і нам весялей было б...

Пра гэта яны гаварылі ўжо шмат, і ён не захацеў гаварыць адно і тое ж, прамаўчаў, вярнуўся ў хату і выцерся ручніком, адчуваючы прыемную бадзёрасць.

— Вось гаварылі, што Васілец і Усціновіч не так паводзяць сябе, нічога ў іх не выйдзе...— сказала жонка.— Ажно вунь як у іх хораша. І жыць добра будуць, калі і пажэняцца.

— Вы ж першыя гаварылі, што з іхняга кахання нічога не будзе...— азвалася са спальні дачка.— Вы, мама...

— Ладна ты, падарожніца! Спі...— незалюбіла Вольга Піліпаўна.— Да добрых людзей ніякая гутарка не прыстае... Яшчэ і памагае. А ты вось ды Васіль... Гавары вам ці не гавары...

— Вы прывыклі вучыць і павучаць дзяцей у школе, таму і нас да сівых валасоў хочаце павучаць, не даяце нам самім пажыць,— зноў сказала са спальні дачка, і было крыўдна слухаць яе гэтыя словы, было крыўдна за свой клопат, за здароўе, што многа пайшло і на іх, на сваіх дзяцей. А яны вось як...

Яны прамаўчалі, хоць маглі папракнуць дачку, што і яна не раз не тое робіць, толькі псуе ім, бацькам, настрой ды здароўе.

— Я яечню спякла,— сказала яму жонка.

— Не хачу з раніцы есці,— адказаў ён.— Пайду. Сходзіш пасля ў школу і паглядзіш, каб яблыкі здымалі тэхнічкі. А Беленькай яшчэ раз напомні, каб назаўтра машыну выпісала. Не здадзім заўтра садавіны, то не будзе часу з ёю займацца, бо на днях ужо і канферэнцыя. А я зайду сёння на базу, пагавару з загадчыкам, каб узяў заўтра школьныя і нашы яблыкі.

— Напомню,— прамовіла жонка і пайшла за ім услед — правесці да варот і яшчэ нешта сказаць набалелае.

— Не ведаю, што рабіць з нашай суседачкай,— напраўду пабедавала яшчэ жонка,— памые бялізну і на наш гарод мыльную ваду, з усякімі парашкамі, вылівае, труціць зямлю.

— Пасля пра гэта,— зморшчыўся Іван Сямёнавіч.— Спярша трэба са сваімі дзецьмі разабрацца, а тады ўжо з суседкаю... Ды, можа, не варта крычаць, а трэба пагаварыць спакойна — і зразумее...

Жонка змаўчала. Згадзілася. Калі б была адна, дык магла б і паспрачацца з суседкаю ад крыўды і злосці, а пры ім заўсёды стрымлівалася, а то і раілася. Гэтак яму ўдавалася ўжо даўно мірыць жонку і з настаўніцамі ў школе — сцішваць страсці...

— Ну, я пайшоў! — прамовіў ён, махнуў рукою жонцы і мінуў вароты.

Па вуліцы поўз нізкі белаваты туман. Ад яго было шэра, вільготна і досыць холадна. Нізка, лічы, пры зямлі сцаліся па двары і пахкія дымы. Паблізу, ля суседавага калодзежа, убачыў Алеся Трахімавіча. Той — у куртцы, у цёплых чаравіках — выцягваў вядро са студні.

Сустрэліся позіркамі.

Іван Сямёнавіч кіўнуў галавою, і той кіўнуў у адказ. Але не загаварылі.

«Састарэў, расхварэўся Зубок,— ідучы ўжо спежкаю ўзбоч вільготнага, расянага плота, падумаў Іван Сямёнавіч.— Мы, лічы, аднагодкі, але ён намнога старэй выглядае... Зусім ужо стары. Але трымаецца добра — не кволіцца з хваробамі, жартуе, стараецца быць увішным, як і маладыя... Можа, яго за гэта і любяць так усе?!.»

Падымалася, мусіць, вышэй лесу сонца — туман увачавідкі радзеў, спаўзаў і гусцеўся ў нізінах, ля лесу і на лузе. Над галавою вышэла, ледзь-ледзь вымалёўвалася блакітная смуга высокага неба.

«Некалі ж, у дзяцінстве, былі мы неразлучныя сябры: куды ён, туды і я, куды я, туды ён... Абодва добра вучыліся, не пакінулі, як каторыя, вучобу на паўдарозе, а падаліся вышэй — вывучыліся за настаўнікаў. Абое агітавалі за калгасы, памагалі сельсавету, ладзілі з людзьмі, ваявалі ў вайну ў партызанах. Я камісарам атрада, а ён радавым. Пасля вайны неўзабаве зноў нашы сцежкі сышліся тут, у Міланьках, зноў, што ўмелі, як маглі, абодва аддавалі ўсё школе... Абодва не мелі хат — іх спалілі ў вайну немцы,— былі жадны кавалку хлеба, якой адзежыне, абодва пакрысе сталі на ногі, падгадавалі дзяцей, абжыліся, але... Чамусьці адчужыніліся адзін ад аднаго...»

Іван Сямёнавіч тупаў, шаргацеў сумкаю аб балоневы плашч і не мог пазбыцца думак пра Алеся Трахімавіча: апошняю парою думаў пра гэта шмат, неяк шкадаваў, што ў іх так усё выйшла, хацеў зноў сысціся, патаварышкаваць, але не ведаў як. Праўда, яны не спрачаліся, размаўлялі нават у школе, але абодва, мусіць, гэтак жа адчувалі: няма-няма ў іх вялікай шчырасці. Але Іван Сямёнавіч бачыў яшчэ і іншае: у яго няма шчырасці і з астатнімі настаўнікамі, а Алесь Трахімавіч да іх цягнецца, і яны да яго цягнуцца — і ладзяць, таварышуюць. У астатнія вось гады аж на зайздрасць здружыліся Ларыса Іванаўна, Павел Мікалаевіч і Алесь Трахімавіч. Паглядзіш, як яны ладзяць, як ім добра, і ные душа: а ты нейкі ўсё ж адзінокі, да цябе так не цягнуцца людзі. Перш за ўсё ў табе бачаць дырэктара, а не чалавека...

«А пачалося гэта ў нас з Зубком за два гады перад пяцідзесятым годам,— бруілася думка.— Тады мяне выбралі парторгам калгаса, а неўзабаве — і членам райкома партыі. Канечне, як я цяпер разумею, Зубок мне не зайздросціў, што я падняўся вышэй, што знаёмы, блізкі з начальствам, бо ён таксама не сядзеў толькі ў школе, а рабіў і іншае — быў палітінфарматарам, ставіў у вясковым клубе спектаклі, бываў дома ў сваіх вучняў... Але думалася, што я ўсё ж падняўся вышэй, больш раблю, больш значны, чым мой сябрук...— Іван Сямёнавіч аж зморшчыўся: яму стала няёмка. Аж азірнуўся: можа, хто бачыць яго цяпер? Здаецца, нікога вакол на двары не было.— А потым думаў я, што і ў школе мне няма роўні, і ўсе павінны рабіць тое, што я скажу. Калі хто пярэчыў, здавалася: яны супраць мяне. А парою Зубок быў су-

праць, адстойваў нешта сваё ці заступаўся за іншых... Мы мала спрачаліся, хоць і былі парою бурныя сцэны, але я ў душы вельмі злаваўся, думаючы, што ён падрывае мой аўтарытэт... Многія, як сёння разумеецца, добрыя настаўнікі мусілі з'ехаць са школы, а пра працу Алеся Трахімавіча было маўчанне, хоць было за што яго пахваліць і ў школе, і ў раёне, словам, можна было яго высока падняць... Ён, Зубок, усё гэта, канечне, разумеў і ўсё больш аддаляўся, а да мяне прыбліжаўся ўсё болей Вяртун. Малады, кемны, усё вось гэта адчуваючы. І я прыблізіў яго да сябе, зрабіў завучам і парою праз яго помсціў Зубку,— Іван Сямёнавіч зноў засаромеўся, пацёр лоб, шчокі, як усё тое, даўняе, адганяючы ад сябе.— Скажу: схадзі да яго на ўрок і знайдзі такое, каб тыцнуць носам. І Вяртун ішоў, шукаў, хоць потым Зубок больш яго тыцкаў: да яго ўрокаў проста-такі немажна было прыдрацца, а Вяртун яшчэ прыдзіраўся не зусім умела... Але некаторых, што ішлі за Зубком, Вяртун памог выжыць са школы... А потым я ўжо зайздросціў Зубку. Ішоў час, у вёску наехала шмат інтэлігенцыі. Стаў саўгас — прыехаў новы парторг, заявіліся адукаваныя аграномы, інжынеры, старшыня сельсавета, і мая дапамога, лічы, ужо не трэба. Можна было ўжо і без мяне абысціся, і ўсе як астылі да мяне... Прыгарнуўся я больш да школы і адчуў: а я адстаў ад яе, там ужо царуе Зубок, стаў майстрам-настаўнікам... І слава знайшла яго: Зубка пачалі хваліць інспектары раёна і вобласці, хваліць на настаўніцкіх канферэнцыях, запрашаць у іншыя, лепшыя школы раёна. Але Зубок нікуды не паехаў, застаўся тут як бы ў цяні і гэтым зацьміў мяне. Як і не было на яго стомы, а я быў ужо стомлены... А тут трэба было не толькі кіраваць, але і сабраць добрых настаўнікаў, натхніць іх на добрую працу, на пошукі... Паднатужыўся, не здаўся на волю лёсу — і зусім падбіўся. Стаміўся. Душою. А вось Алесь Трахімавіч падарваў здароўе, знясіліўся, а душою як малады... А чаму? Хочацца-хочацца не раз па-мудраму ўжо, шчыра пагаварыць з ім пра многае ў жыцці-быцці, пра школу, пра школьную навуку — ды чамусьці не знаходзяцца тыя сцежкі да шчырасці, сяброўства. Маўчым абое, усё разумеем, парою — што, можа, гэтага ніхто і не заўважае — памагаем адно аднаму, стараючыся, каб гэтага і ніхто не заўважыў... А Алесь Трахімавіч змеціў, што я стаміўся. Таму і маўчыць, таму

і стараецца моўчкі памагчы... І гэта добра, так і трэба. Але разам з тым мне гэта і цяжка адчуваць... Я вось яго не разумеў, а ён мяне і тады, і цяпер зразумеў...»

...Ля райвыканкома, куды яны прыйшлі з сынам, Іван Сямёнавіч заўважыў сваіх настаўніц. У іх ужо ўчора скончыўся адпачынак, але яны ў школе яшчэ не паказваліся. Убачыў моваведа Лілію Іосіфаўну і настаўніцу пачатковых класаў Маю Сцяпанаўну.

Цяпер абедзве настаўніцы, убачыўшы яго, засаромеліся, збянтэжыліся, хацелі схавацца, але не паспелі: яны амаль сутыкнуліся ля ганка райвыканкома. Дзяўчаты спускаліся, а ён з сынам падыходзіў.

— Звальняцца прыбягалі? — запытаў Іван Сямёнавіч і сам не ведаў: ці хацеў пажартаваць з настаўніц, ці папракнуць. Мусіць, пажартаваць, бо настрой яго палепшыўся, калі сын згадзіўся пераехаць у Міланькі.

Лілія Іосіфаўна незадаволена зморшчылася, аж яшчэ больш стала на яе худым твары маршчынак, прыпадняла акуляры, Мая Сцяпанаўна зусім разгубілася, чырванеючы, вінавата ўсміхалася. Яна першая павіталася і апраўдалася, што заходзілі сюды сустрэцца і пагаварыць са сваімі колішнімі аднакурсніцамі.

— Не ўцякайце ад нас, дзяўчаты,— улагоджаны ўсмешкаю Маі Сцяпанаўны, усміхнуўся і Іван Сямёнавіч.— Працуйце ў нас. Сёлета ў школе будзе ўжо два халасцякі. А там, пазней, глядзі, і яшчэ аднаго знойдзем.

— Як толькі ў нас адны думкі пра жаніхоў! — незадаволена хмыкнула Лілія Іосіфаўна, якая, як і Ларыса Успіновіч, магла вось так смела сказаць некаму насупраць, заступіцца за сябе.

Яму хацелася яшчэ пажартаваць, спытаць, ці не выйшла за канікулы замуж Сапун, але цяпер стрымаўся: Лілія Іосіфаўна сапсавала яму настрой. Ён і раней быў такі: калі сам жартаваў ці нават пасміхаўся з каго — радаваўся, калі ж хто жартаваў з яго, папікаў ці папраўляў — крыўдзіўся. Лілія Іосіфаўна асекла яго ды яшчэ так зморшчылася, паказваючы сваю вечную незадаволенасць, благі настрой, што ён нахмурыў бровы, сказаў:

— Заўтра педсавет. Каб у пяць гадзін усе былі ў школе.

— Добра, Іван Сямёнавіч,— паспяшалася прамовіць і за сябе, і за сваю смелую сяброўку Мая Сцяпанаўна.

— Пабудзь тут, непадалёку,— сказаў Іван Сямёнавіч

сыну, які моўчкі стаяў ля іх, а сам падаўся ў райана, адчуваючы непрыемную крыўду, што яму не далі пажартаваць, а гэтаксама паволі думаючы і пра тое, як яму найлепей пагаварыць з загадчыкам райана пра сына. Усяго не скажаш, але ж нешта і трэба сказаць.

У прыёмнай загадчыка сядзела на прытуленых да сцяны крэслах многа людзей. Амаль усе былі маладыя.

Іван Сямёнавіч не любіў займаць чаргу і доўга стаяць, ды з дырэктароў школ раёна ён быў амаль самы сталы, старэйшы намнога быў і за загадчыка, то заходзіў да яго ў кабінет без чаргі, без вялікай просьбы. Пастукае, запытае дзеля прыліку, ці можна ступіць, а пасля і зойдзе. І загадчык, які паважаў яго, часта ра́дзіўся па сім-тым, дазваляў так заходзіць. Яму і яшчэ некалькім дырэктарам.

Маладыя скупіліся і ля дзвярэй, стаялі ў чарзе, але яго прапусцілі, толькі пасля, калі зайшоў і зачыняў за сабою дзверы, запыталіся: «А хто гэта?»

Загадчык, Давід Мойшавіч — высокі, прыгожы чарнявы мужчына гадоў сарака,— строга гаварыў з некім па тэлефоне, курыў, прыжмурваючы правае вока, адной рукой трымаў трубку, другой паціраў даўгаваты, загнуты ўніз нос. Убачыўшы яго, падняўся, падаў левую руку і кіўнуў садзіцца насупраць.

Загадчык, як можна было зразумець, угаворваў нейкага дырэктара школы не прасіць яшчэ аднаго матэматыка, а абысціся без яго, «раскінуць» урокі сваім настаўнікам. Ледзь ён паспеў угаварыць, як зноў зазваніў тэлефон, і цяпер была размова пра перавод нейкага настаўніка з адной школы ў другую. І гэтага дырэктара загадчык улагодзіў.

— Ух! — выдыхнуў пасля Давід Мойшавіч, паклаўшы трубку.— Хутчэй бы канчаўся гэты «пералівачны» перыяд. Не хапае настаўнікаў, надта матэматыкаў, дзе хочаш іх бяры... А дырэктары просяць, крычаць: дай! Штогод больш за сотню педагогаў то пераводзяцца ў другія школы, то зусім едуць з раёна. Вось і з вашай школы, Іван Сямёнавіч, толькі што дзве прасіліся ў дзесяцігодку. Ледзь упрасіў яшчэ з год пабыць у Міланьках. Ну, а ў вас што чуваць?

— Школу адрамантавалі, сад і гарод сёння-заўтра ўпарадкуем,— сказаў Іван Сямёнавіч, думаючы, што ўсё ж Сапун і Заяц нядаўна перад ім схітравалі.—

З дзецьмі таксама разабраліся. Каго яшчэ нядаўна перавялі, праверыўшы летнія заданні, а каго і пакінулі на другі год.

— Ну, які настрой сёлета? — усміхнуўся Давід Мойшавіч.— Ёсць жаданне падняцца крыху вышай, вышай гэтай залатой сярэдзінкі? Аб'явіць рашучую вайну тройкам?

— Ды ёсць яшчэ, канечне,— гэтаксама ўсміхнуўся і Іван Сямёнавіч, які часта думаў, што разумны і дапытлівы загадчык адчувае яго стомленасць і тое, што ён апошняю пароЮ «папусціў лейцы».

— Малайцы! — сказаў Давід Мойшавіч.— Я веру, што вы яшчэ не сказалі свайго апошняга слова, што ў вас яшчэ шмат сіл і вы зможаце вышэй падняць узровень ведаў у школе...

Іван Сямёнавіч усцешыўся, падумаў, што, можа, ён дарэмна так сябе строга судзіць: адчуў, што прытаміўся, не столькі мае ахвоты і сіл да школьнай працы, колькі меў раней, вось і думае, што і ўсе гэта ўжо ведаюць. Ці гэта ўсё ад яго характару: не можа даравацъ сабе ніякай паслабкі?!

— Эксперыментуйце, тварыце,— падбадзёрыў яшчэ загадчык,— для гэтага ў вас усё ёсць: і вопыт, і маладосць, энергія... Чаго варты толькі ваш Алесь Трахімавіч! Каб працаваў ён у дзесяцігодцы ды каб згадзіўся парэкламаваць сваю працу, то грымеў бы на ўсю рэспубліку. І маладых сваіх пастарайцеся ўтрымаць: праз пару гадоў з іх будуць выдатныя педагогі... Хоць утрымаць дзяўчат, канечне, будзе нялёгка, бо ім трэба замуж выходзіць, сям'ю заводзіць, а ў вас там хлопцаў мала. І гэта бяда не толькі ў вас. Калі хочаце ведаць, сярод настаўнікаў раёна больш за семдзесят працэнтаў жанчын, а сярод моваведаў і біёлагаў, настаўнікаў пачатковых класаў болей за дзевяноста... Але, нягледзячы на гэта, я і сам на аднаго вашага маладога хлопца зуб маю, думаю хутка забраць... Мы цяпер стараемся ў школах ставіць кіраўнікамі — надта завучамі — маладых, перспектыўных людзей, выхоўваем іх на дырэктараў... Бо каторыя пажылыя педагогі не любяць пошукаў, эксперыментаў, тармозяць ініцыятыву... А моладзь — стараецца, шукае, болей неспакойная...

— Ці не выхоўваеце вы так цягу ў гэтай моладзі да ўлады, да адміністратарства? — усміхнуўся Іван Сямёнавіч, вытрымаў позірк загадчыка.— Стары вол ніколі бараз-

ны не псуе, а малады можа мітусіцца, вырываць, так сказаць, плуг з зямлі...

— Калі здольны малады педагог папрацуе некалькі гадоў, то хутка ўсё ўведае,— лагодна, але стрымана адказаў Давід Мойшавіч,— і разам з вопытным энтузіястам шмат зробіць... Мы маем па раёне цудоўныя прыклады сплаву моладасці і вопыту, энтузіязму, поспехаў...

— Ведаю, каго вы хочаце ад мяне забраць... — зноў усміхнуўся Іван Сямёнавіч, бачачы гарачлівасць загадчыка, перамяніў гутарку, каб таго не злаваць: наперадзе была важная асабістая размова.— Васілец і нам трэба. Пастаўце во ў нас яго завучам, падвучыцца, то праз два гады, як пайду на пенсію, будзе гатовы дырэктар...

— І пра гэта думаю,— кіўнуў галавою, зноў закурыў, спакойна далёка пусціў перад сабою дым Давід Мойшавіч.— Але Вяртун... Усё ж ён партызан, столькі гадоў ужо настаўнічае... Адстаў ад навінак, прышаблоніўся, але маральны бок... Хай пабудзе яшчэ, падумаем... Але што ў вас яшчэ, Іван Сямёнавіч? Прабачце, чарга...

— Ёсць яшчэ адна размова,— удыхнуў паболей паветра Іван Сямёнавіч, адчуў, як па-маладому ў яго мацней затахкала сэрца, прыпацелі далоні рук.— Сын мой захацеў працаваць у школе. Кажа...

— Ясна,— перапыніў яго загадчык.— На які прадмет?

— Ды пакуль што на фізкультуру і на тэхнічную працу...

— Давайце заяву,— сказаў Давід Мойшавіч, узяў загадзя падрыхтаваную Іванам Сямёнавічам паперу, напісаў у левым кутку яе, каб залічылі Рагатку В. І. настаўнікам Міланьскай школы.— Ага, ледзь не забыў, Іван Сямёнавіч,— прамовіў яшчэ ён.— Сёння да вас я паслаў настаўніка пачатковых класаў. Мужчына гадоў сарака, разведзены, любіць выпіць. Таму і паслаў да вас, старэйшага ды строгага, бо ведаю, што вы зможаце ўзяць яго ў рукі...

Каб не гутарка пра сына, то Іван Сямёнавіч пастараўся б адмовіцца ад такога настаўніка, якога паслалі яму «на перавыхаванне», з якім будзе шмат непажаданых клопатаў, але прамаўчаў, толькі незадаволена падумаў, што не бывае такога, каб усё лёгка складвалася ў жыцці ды па рабоце. Калі не тое — дык другое... Летась нямала пастараўся, пакуль навучыў маладых даваць урокі, падвучыў, дык сёлета зноў клопат — сын, гэты новы настаўнік-разведзёнак...

— Паглядзім,— сказаў ён.— Усякіх за сваё жыццё бачыў.

— Дзякую,— задаволена сказаў Давід Мойшавіч, падняўся і шчыра пацiснуў руку.— Я веру, што вы зладзіце, здолееце трымаць у школе парадак. Будзьце здаровыя, прывітанне Вользе Піліпаўне.

Іван Сямёнавіч гэтаксама развітаўся з загадчыкам, папрасіў перадаць прывітанне яго жонцы, Адзе Львоўне, падаўся ў аддзел кадраў, сам аформіў за сына ўсе дакументы.

— Ну, віншую! — пацiснуў ён праз паўгадзіны руку сыну, які чакаў яго на ганку райвыканкома, смаліў цыгарэту і, відаць, саромеўся знаёмых настаўнікаў, якія выхадзілі-заходзілі сюды.— З гэтай хвіліны ты не Вася, а Васіль Іванавіч... Вось як!..

Сын быў маўклівы, на яго прыгожым, разгубленым твары не з'явілася ні ўсмешкі, ні вялікай радасці.

— Што ж, гэту падзею ў тваім жыцці трэба адзначыць,— усміхнуўся, падбадзёрваючы сына, Іван Сямёнавіч.— На́ грошы, зайдзі ў магазін і купі хлеба, каўбасы ды добры торт, цукерак... Дахаты едзь без мяне. Мне тут шмат клопатаў. Касцюм ды пару новых кашуль табе, каб выглядаў на Васіля Іванавіча, інтэлігента, заўтра купім... Ну, ідзі.

Сын моўчкі ўзяў грошы і падаўся, а ён, бацька, рады, што той згадзіўся пераехаць дамоў і працаваць у школе, падумаў, што ўсё будзе добра, што сын, пайшоўшы па яго слядах, падменіць некалі і не звядзе іхні настаўніцкі род.

## 7

Павел прыйшоў на педсавет апошні. Праўда, ён не спазніўся, да пачатку было яшчэ хвілін з пяць, але завіхнуліся папрыходзіць астатнія настаўнікі, якія па два месяцы не былі ў школе, не збіраліся ўсе разам, то, відаць, і засумавалі адзін без аднаго.

Крыху папрацаваўшы, Павел ужо ведаў, што значыць для настаўніка педсавет, які кожнага разу быў экзаменам, вучобаю, разумнаю і строгаю размоваю. Тут выпадала і парадавацца, пачуць пахвалу сваёй рабоце, і пазайздросціць, што ў некага выходзіць лепш, і гэтаксама прыходзілася і пазасмучацца, пачырванець за свае, заўважаныя некім нелады.

Сёння, праўда, такога не будзе, бо сённяшні педсавет не рабочы, а найбольш урачысты. Таму ён для кожнага як свята, як пачатак доўгай, нялёгкай і радаснай працы. Вось і завіхнуліся, мусіць, прыйсці ў школу настаўнікі, паспяшаліся адчуць радаснае хваляванне, не звычайнае чалавечае хваляванне, а іменна настаўніцкае.

Настаўніцкая, вузкая і доўгая, з адным шырокім і высокім акном, была яшчэ няўтульная. З бакоў стаялі знятыя вясною са сцен калідора партрэты, рамкі для газет; як фарбавалі столь, то накапаў мел на шафу, у якую настаўнікі кладуць вучнёўскія сшыткі, на канапу і палічку для класных журналаў. Тэхнічкі яшчэ не паспелі ўсё гэта выцерці, вымыць. Яны ўжо вышаруюць усё, давядуць да бляску, калі настаўнікі паедуць у горад на канферэнцыю — на яшчэ адно свята, экзамен, дзе можна і сябе паказаць ці пачуць пра сябе, і людзей паглядзець ды пра іх паслухаць.

Паперы — леташні расклад урокаў, розныя школьныя планы, напісаныя некалі завучам ды дырэктарам,— што віселі з вясны, выцвілі, выгаралі за летнія спякотныя дні, пажаўцелі.

Як і раней, у настаўніцкай стаяла тры сталы. Адзін стол, шырокі, цяжкі, з дзверцамі ды шуфлядамі, стаяў ля акна, насупраць дзвярэй. За ім сядзеў Іван Сямёнавіч, гэта было яго дырэктарскае месца. Ад ягонага стала бліжэй сюды, да дзвярэй, стаялі, шчыльна прыткнутыя адзін да аднаго, утвараючы літару «Т», яшчэ два сталы. Яны былі для завуча і настаўнікаў.

Сёння Іван Сямёнавіч, у дарагім шэрым касцюме, у белай кашулі і пры рудаватым гальштуку з невялікім вузлом, сівавалосы, сядзеў за сваім улюбёным сталом, але не хмурыўся, а расказваў нешта вясёлае, усміхаўся. Справа сядзелі Міхась Рыгоравіч, як заўсёды, у паношаным сінявper касцюме і новай сіняй кашулі, расшпіленай на верхні гузік (гальштукаў ён вельмі не любіў насіць), па левую яго руку ўсеўся Уладзімір Пятровіч у жоўтай, з кароткімі рукавамі тэнісцы, з бліскучымі, добра залізанымі набок валасамі і сам нейкі бліскучы, побач з ім прымасціўся нясмела незнаёмы мужчына сярэдніх гадоў, відаць, малога росту, вузкі ў плячах, дробненькі і рудатвары. За ім ззаду на крэслах пры самай сцяне сядзелі Алесь Трахімавіч і сын дырэктара, Васіль,— высокі і прыгожы, як і бацька. Ён быў у новым, чорна-рудым, з палосамі, касцюме, у белай кашулі, пры гальштуку з шырокім вузлом. Кароткія

валасы яго былі зачасаны, як і ў Сліжа, набок, ад таго галава з вузкім тварам і высокім ілбом здавалася зусім невялікай, яшчэ больш прыгожай. У Сліжа ж галава была не такая ладная, бо ў яго ўдаўся шырокі твар і вузкаваты лоб, загнуты, як у крата, нос.

Злева сядзелі жанчыны — прыгожа апранутыя, з выцацкаванымі прычоскамі, вясёлыя, з лёгкімі ўсмешкамі на вуснах. Ад гэтых усмешак, здаецца, святлела ў няўтульнай настаўніцкай. Бліжэй да дырэктара на канапе з выцертымі падлакотнікамі сядзелі Мая Сцяпанаўна і Лілія Іосіфаўна. За імі сядзела ў чорнай спадніцы, белай блузцы, з узбітай прычоскай памаладзелая ВольгаПіліпаўна; апошняй на канапе прымасцілася Ірына Васільеўна.

Амаль ля самых дзвярэй сядзела на крэсле Таццяна Сяргееўна. Яна была ў бурачковых крымпленавых штанах, жоўтай блузцы і ў чарнаватым парыку. На яркіх яе вуснах ледзь-ледзь блукала вясёлая, гарэзная ўсмешка.

Таццяна Сяргееўна першая ўбачыла, што зайшоў ён, Павел, узрадавалася, пільна пазірала, як ён акідаў позіркам калег, а пасля працягнула маленькую беленькую ручку з двума залатымі пярсцёнкамі і паказала на крэсла, што стаяла паблізу яе, пад самаю вешалкаю ў парозе.

Павел прывітаўся з усімі, а пасля напраўду прысеў на гэтае крэсла. Злавіў хітраваты Сліжаў позірк, усміхнуўся і крышку ўспыхнуў чырванню ад разгаданага намёку, засаромеўся, што так добра, з прыязнасцю пазірае на яго Таццяна Сяргееўна, вабіць сваімі гладзенькімі свежымі шчокамі, прыгожым носам і такой жа прыгожаю танкаватаю шыяю, на якой ледзь прыкметна ля жоўценькага ланцужка ад медальёнчыка, што спадаў на тугія грудзі, чулася хвалюючая жылачка.

Іван Сямёнавіч замоўк, задаволена пазіраў, як усе ўсміхаліся, як радавалася гэтаксама і звычайна заўсёды сумная, а то і страгаватая Вольга Пiліпаўна. Калі ахвотна і шчасліва смяялася і яна, то напраўду нешта надта добра было ў іхняй сям'і...

Дырэктар, кіўнуўшы на Паўлава прывітанне галавою, выцер хустачкаю вусны, зірнуў на гадзіннік, патрос рукою і прыклаў яго да вуха. Тады, ледзь-ледзь усміхаючыся сам сабе, пачаў заводзіць — круціць кольца туды-сюды — гадзіннік і пераганяць стрэлкі. Цяпер ён, мусіць, усё яшчэ быў усцешаны сваёю радасцю, але ўжо і абдумваў першую ў гэтым новым навучальным годзе прамову.

Адчуваючы гэты ўжо сур'ёзны дырэктараў настрой, усе перасталі ўсміхацца, прымоўклі, аж, здаецца, захвалявалі-ся, што вось-вось і пачнецца педсавет, пачнецца доўгая і нялёгкая праца, якая будзе прыносіць усё: і радасць, і трывогі, і засмучэнні...

— Ну што ж,— пацёр высокі лоб рукою Іван Сямёнавіч, працягнуў ёй па твары, злавіў і адцягнуў ніжнюю губу, патрымаў яе так з хвіліну, адпусціў, тады паклаў рукі на стол, абцягваючы караткаватыя рукавы пінжака на доўгія белыя манжэты кашулі, і строга, сваім звыклым начальніцкім голасам сказаў: — Сабраліся амаль усе, акрамя Беленькай і Усціновіч. Першую я адпусціў у горад, а другая... Чаму няма — не ведаю...

— Гэта павінен добра ведаць Павел Мікалаевіч,— усміхнуўся Міхась Рыгоравіч, які вельмі любіў падтрымаць дырэктара ў жартах.

Але цяпер Іван Сямёнавіч не ўхапіўся за гэты жартаўлівы намёк, быў па-ранейшаму сур'ёзны, строгі на твары — і Вяртун паазіраўся, пашукаў падтрымкі ў другіх і, не знайшоўшы яе ў гэтую сур'ёзную хвіліну, змоўк, збянтэжыўся.

— Сёння яна павінна быць тут,— сказаў Павел,— можа, зараз і прыедзе палуднёвым аўтобусам.

Іван Сямёнавіч зірнуў на яго і нічога не сказаў, яшчэ стражэй акінуў усіх позіркам, ад якога маладыя настаўнікі адчулі хваляванне, пільна агледзеў кожнага, акрамя Алеся Трахімавіча.

— Спярша дазвольце павіншаваць вас з новым годам,— спакойна і велічна прамовіў ён.— Так, для нас новы год пачынаецца з верасня...

Усе запляскалі.

— А тады дазвольце вас бліжэй і пазнаёміць. Міхаіл Апанасавіч, настаўнік другога класа,— і Іван Сямёнавіч паказаў на незнаёмага мужчыну.— Васіль Іванавіч,— кіўнуў на сына і крышку ўсміхнуўся.— Паўла Мікалаевіча, гвардзейца нашага, здаецца, ужо ўсе ведаюць, бо многа чулі пра яго... Але зірніце: вось ён... Так што ў нашай школе цяпер ажно тры халасцякі, і ад гэтага павінна пайсці весялей і лепш работа...

Усе ўсміхнуліся, пазіраючы на Паўла, але надта гэты нечаканы дырэктарскі жарт спадабаўся Міхасю Рыгоравічу, бо ён усміхнуўся больш за ўсіх, адчуў падтрымку свай-

му ранейшаму жарту, перастаў бянтэжыцца і падняў галаву.

— Наперадзе ў нас сапраўды вялікая і нялёгкая праца,— гаварыў Іван Сямёнавіч і даставаў з кішэні пінжака пацёрты блакноцік. Дастаўшы, пагартаў яго, знайшоў патрэбную старонку, пачаў заглядваць у яе і гаварыць: — Работа настаўніка — ды яшчэ настаўніка васьмігодкі — са сваімі ўмовамі. У нас — з міланьскімі... Але мы павінны ісці ў нагу з тымі агульнымі задачамі, што стаяць перад школамі рэспублікі. Напомню...

Таццяна Сяргееўна, пачуўшы гэта, непрыкметна штурхала Паўла нагою, уздыхала.

Хоць Павел сам бачыў, што і пазалетась на першым педсавеце Іван Сямёнавіч зазіраў у гэты блакноцік, гаварыў тое ж самае, але і незалюбіў, што так паводзіць сябе Таццяна Сяргееўна: педсавет ёсць педсавет, і многія вядомыя словы бывае не лішне на ім і паўтарыць.

Іван Сямёнавіч зноў пільна і калюча зірнуў на іх і гаварыў далей, гэты яго позірк перахапіла і Вольга Піліпаўна, гэтаксама паглядзела сюды — яна, як ведаў Павел, раўніва слухала мужавы прамовы, глядзела, як хто іх слухае.

— ...і нам трэба даваць дзецям глыбокія веды, выхоўваць іх сапраўднымі грамадзянамі...— гаварыў Іван Сямёнавіч, пасля загарнуў блакнот і схаваў яго ў кішэню.— Дабівацца гэтай якасці ў нашай рабоце — і ёсць найпершая наша праблема, метад працы ў святле тых патрабаванняў, пра якія я толькі што гаварыў. Канкрэтна гэтую праблему я бачу, як і сказалі мне нядаўна ў райана, у тройцы. Так, таварышы, у нас даўнавата ўжо ёсць праблема тройкі. Мала ў нас вучняў, якія б вучыліся на «4» і «5», праўда, не вельмі многа і двоечнікаў, але затое многа тых, каму мы ставім тройкі... А тройка — гэта мы добра ведаем, ды і нехта з начальства не горш знае,— сёння тройка, а заўтра... Ці што ў журнале стаіць тройка, а ў розуме,— Іван Сямёнавіч прыўзняў палец і паківаў ім,— двойка... Ды што такое тройкі? Гэта няякасная настаўніцкая праца, няякасная падрыхтоўка будучых працаўнікоў...— Ён строга ўсіх агледзеў, нібы напамінаў, як і каму ў школе часам ставяцца тройкі, а гэтаксама гэтым — строгім — позіркам гаворачы, што ён вось гэта добра разумее, а яны, настаўнікі, не зусім: працуюць не так ладна, як ён хоча.— Так што, каб не былі мы сераднякамі ды не адступалі, нам трэба сё-

лета яшчэ вышэй закасаць рукавы, тым больш што калектыў наш сёлета не толькі добра ўкамплектаваўся, але і стаў болей вопытны, баявіты... Я і хацеў бы закончыць сваё выступленне спадзяваннямі, што вясною, калі мы будзем падводзіць свае вынікі, вынікі працы за гэты навучальны год, то будзем мець лепшую якасць — глыбейшыя веды, сапраўдныя рысы грамадзянства ў вучняў і, адпаведна, намнога лепшыя паказчыкі і ў ведамасцях... Каб было не толькі прыемна іх складаць, але і людзям паказаць. У мяне ўсё. Што ў цябе, таварыш завуч, ёсць сказаць?

— Вы ўсё вельмі добра сказалі,— паціснуў плячыма Міхась Рыгоравіч, які быў не вельмі ахвочы да такіх гаворак, агледзеў усіх, як шукаючы падтрымкі, што ён гаворыць праўду.— Вы правільна і глыбока, з улікам усіх патрабаванняў педагогікі, расказалі, як павінен быць наладжаны навучальна-выхаваўчы працэс у школе, як рыхтавацца да кожнага ўрока, якім сёння павінен быць ён, гэты ўрок, што даваць дзецям. А таксама добра звярнулі ўвагу і на ўменне дзяцей працаваць самастойна... Я думаю, што настаўнікі ўлічаць вашы заўвагі, глыбокія і змястоўныя навуковыя рэкамендацыі.

— Так, у дакладзе было ўсё добра сказана,— падтрымаў Вертуна Сліж,— дай бог, каб мы так працавалі, рабілі ўсё і на тым узроўні, як тут гаварылася!

— Хто што яшчэ скажа?— Іван Сямёнавіч, задаволены, па-начальніцку страгавата і па-чалавечы зычліва паглядзеў на ўсіх.— Вось што вы скажаце, Мая Сцяпанаўна?

Маладая красуня ўсміхнулася дырэктару, зрабіла такі мілы выгляд, што ён не вытрываў, сагнаў са свайго твару строгасць і па-бацькоўску ўсміхнуўся, радуючыся, відаць, што настаўніца такая маладая і прыгожая. Але тая нічога не гаварыла, усміхалася міла і пацiскала плячыма.

— Яна вельмі падабаецца шэфу,— шапнула Красоўская,— ён і летась цэлы год па-бацькоўску яе апякаў... Ці не ў нявесткі рыхтуе?

— А вы, Лілія Іосіфаўна? — спытаў дырэктар, пазіраючы на стрыманую, без усмешкі на твары настаўніцу.

— Што цяпер гаварыць? — папраўляючы акуляры, адказала тая.— Трэба працаваць, старацца ўсё гэта ажыццявіць. А гэта цяжэй, чым рэкамендаваць...

Івану Сямёнавічу гэта, здаецца, не надта спадабалася. І ён зноў перастаў усміхацца, насупіўся, абгарнуў вялікаю рукою рот і бараду, прыплюшчыў вочы, збіраючы ў іх ку-

точках шмат глыбокіх маршчын, задумаўся. Пасля пацёр бровы, зірнуў на ўсіх строга.

— Дык хто яшчэ хоча выступіць? — спытаў ён.— Падзяліцца сваімі ўражаннямі, сказаць пра свае клопаты?

— Хай во Таццяна Сяргееўна што скажа,— стрымана, але незадаволена сказала Вольга Піліпаўна, якая даўнавата ўжо пазірала сюды, прыслухоўвалася і пачырванела ад узрушэння ды здагадкі, ці не пасміхаліся з яе мужа.— Яна ўвесь час нешта каменціруе.

— А вось і не так...— наўмысна іранічна ўсміхнулася Таццяна Сяргееўна, павярнула галаву да яе.— Не каменцірую, а кампліментнічаю...

— Нечага! — успыхнула ад гэтага жарту Вольга Піліпаўна.— Ён амаль жанаты...

— Амаль...— зноў насмешліва адказала Таццяна Сяргееўна.

Вольга Піліпаўна адвярнулася, нічога не адказала. Падняла галаву і ні на кога не пазірала, хоць адчувалася, што яна старалася патушыць у сабе ўспышку злосці.

Павел убачыў, як Міхась Рыгоравіч штурхнуў у бок Сліжа і яны абодва, пераглянуўшыся, усміхнуліся.

— Дык хто выступіць? — яшчэ раз спытаў Іван Сямёнавіч, як не звярнуў увагі на спрэчку паміж жонкай і Таццянай Сяргееўнай, толькі пранізліва паглядзеў на апошнюю, але тая смела пазірала яму ў вочы і ўсміхалася.— Можа, ты, Алесь Трахімавіч, скажаш пару слоў?

— Не,— адказаў той.— Папрацуем, а тады ўжо будзем гаварыць.

— Ну, ладна,— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Пасля дык пасля. Цяпер нам трэба вырашыць яшчэ адно вельмі важнае пытанне сённяшняга педсавета — падзяліць нагрузку.— Ён сеў бокам да стала, каб падала яму на паперу з акна святло, адчыніў верхнюю шуфляду і дастаў з яе лісты чыстай паперы, зборнік загадаў, у якім была надрукавана «сетка гадзін».

— Матэматыка і фізіка,— сказаў ён.— Прэтэндэнтаў ажно трое. Табе, Міхась Рыгоравіч, як завучу можна ўзяць усяго дванаццаць гадзін. Так, табе дванаццаць,— спытаўшы, у якіх класах ён хоча выкладаць, Іван Сямёнавіч зірнуў на Вертуна, а пасля запісаў адказ сабе ў ліст.— Так?

— Ну, так,— згодна адказаў Вяртун, чамусьці чырванеючы і апускаючы галаву.

— Аднаму ёсць праца,— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Фізіка і адзінаццаць гадзін матэматыкі — Красоўская... Хопіць?

— Хопіць,— згадзілася тая.

— Добра...— сказаў Іван Сямёнавіч.— Астатнія гадзіны матэматыкі — Сліж. Гэта не многа, то будзем дагружаць... Згодзен?

— Паглядзім, чым дагрузіце...— Уладзімір Пятровіч не паспяшаўся згадзіцца, бо на гэты раз адказ датычыўся яго работы.

— Мова і літаратура,— запісваў для сябе і гаварыў услых Іван Сямёнавіч.— Настаўнікаў чацвёра. Колькі гадзін хочаш, Алесь Трахімавіч?

— Гадзін пяць-шэсць,— азваўся той.

— Бярыце да стаўкі,— сказаў Сліж, азіраючыся.

— Не, дзякую, таварышы,— адмовіўся Зубок.— Я пра гэта ўжо і з райана дамовіўся. Я толькі каб не сядзець дома...

— Глядзі сам,— згадзіўся Рагатка.— Восьмы клас па рускай мове дзеліцца, то гэта сем гадзін. Возьмеш?

— Няхай будзе так,— сказаў Алесь Трахімавіч,— я і летась вёў у іх рускае. Павучу і сёлета, выпушчу.

— Беларускае ўсё мы аддадзім Паўлу Мікалаевічу. Бярэш?

— Харошая нагрузка,— апярэджваючы Паўла, сказаў Сліж.

— А можа, болей урокаў даць? — усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Можа, возьмеш яшчэ якое маляванне?..

— Хопіць,— засаромеўся Павел, калі так пайшла гутарка і ўсе настаўнікі зірнулі на яго.— Трэба вучыцца настаўнічаць.

— Добра,— згадзіўся Іван Сямёнавіч.— Па рускай мове дзеляцца яшчэ чацвёрты, пяты і сёмы. Гэта ўсяго недзе...— ён падлічыў усе гэтыя ўрокі рускай мовы разам, раздзяліў на два і сказаў, што Ларысе можна даць дваццаць адну гадзіну, а астатняе — крыху больш — даць Лілії Іосіфаўне, бо для Ларысы будзе яшчэ платнае загадванне бібліятэкай.

— Іван Сямёнавіч,— нарэшце ўставіў сваё слова і Вяртун,— моваведы нагружаны, а хто ж нямецкае возьме? Спецыяліста ў нас няма, то трэба хоць моваведам даручыць яго выкладаць.

— Твая праўда! — зацмокаў Іван Сямёнавіч.— Забыў-

ся... Хто падкажа які варыянт? Можа, ты, Уладзімір Пятровіч, возьмеш?

Сліж не стаў адмаўляцца, толькі ўсміхнуўся, ведаючы, што гэта жарт, бо ён сам раней прасіў Паўла ці Ларысу памагчы яму, завочніку, зрабіць кантрольную работу па нямецкай мове.

— Нямецкую мову можна зноў аддаць Ларысе Іванаўне,— падказаў Вяртун.— Яна не спецыяліст, але ўжо трэці год будзе весці, то й добра налаўчылася. А столькі ж гадзін рускай мовы трэба перадаць каму-небудзь другому.

— Я думаю, Усціновіч будзе згодна,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Гісторыя — Рагатка І. С. Згодны?

— Канечне,— адказаў за ўсіх Сліж.— Гэта ж заўсёды ваша.

— Хімія, біялогія... Дыпламаваны спецыяліст у нас па гэтаму Вольга Піліпаўна...

— Раз на біялогію ёсць Беленькая, то можна Вользе Піліпаўне даць хімію і тыя гадзіны рускай мовы,— зноў падказаў Вяртун.— Не раз Вольга Піліпаўна падмяняла моваведаў і добра вяла.

— Як ты? — зірнуў на жонку і ўсміхнуўся Іван Сямёнавіч.

— Вы ж начальства...— усміхнулася задаволена і тая.

— Гэта гадзін з...

— Маляванне яшчэ дайце,— сказаў Вяртун і зірнуў, што піша дырэктар.

— Дваццаць адна гадзіна. Згодна?

— Мы ж так і думалі...— адказала Вольга Піліпаўна і асеклася пад сярдзітым позіркам мужа.— Амаль ва ўсіх такая ж нагрузка...

Іван Сямёнавіч нічога не сказаў на гэта, прамовіў толькі, што біялогія, сельскагаспадарчая і абслугоўваемая праца і прышкольны ўчастак будуць Беленькай.

— Фізкультура... Рагатка В. І. Яму яшчэ тэхнічная праца, чарчэнне і майстэрня. Згодны?

— Згодны,— сказаў Сліж, а за ім — і Вяртун.

— Добра,— перавёўшы дыханне, сказаў Іван Сямёнавіч.— Геаграфія...

— Дагрузіць Уладзіміра Пятровіча,— падказаў Вяртун.

— Знойдзеш на карце Мінск? — усміхнуўся дырэктар.

— Знойдзе, калі захоча...— пажартаваў Вяртун.

— Ну, бяры,— сказаў і запісаў сабе гэта дырэктар.— Але рыхтуйся... Сам ведаеш...

Сліж густа пачырванеў і нічога не адказаў. Ды што яму было гаварыць, калі ён не раз мог прыйсці ў школу, не падрыхтаваўшыся, не напісаўшы рабочых планаў ды не праверыўшы ў час вучнёўскіх спыткаў.

— Факультатывы па рускай мове і матэматыцы...— сам сабе ўсміхнуўшыся ад Сліжавага збянтэжання, прамовіў Іван Сямёнавіч.

— Хто ў сёмых і восьмым вядзе, хай той і іх бярэ,— сказаў Міхась Рыгоравіч.

— Згодны? — спытаў дырэктар і, бачачы маўклівую згоду, сказаў, запісаў, каму і дзе прыбаўляецца яшчэ колькі гадзін.— Што гэта яшчэ, каб не забыць? — ён доўга разглядаў свае паперы ды запісы.— Ага, спевы. Хто хоча цэлы год быць вясёлым чалавекам?

Усе зірнулі на Маю Сцяпанаўну.

— Я сёлета не хачу выкладаць спевы,— заўважыўшы позіркі, пачала адмаўляцца тая.— У мяне сёлета два класы, многа працы, то трэба болей і вольнага часу.

— Тады хто возьме? — сур'ёзна спытаў дырэктар.— Хто пажадае — таму і аддам...— пасля не вытрываў, усміхнуўся.— Можа, ты, Рыгоравіч, возьмеш? Часта любіш спяваць...

— Хе-хе-хе! — зачырванеўся, засмяяўшыся сам з сябе Вяртун, закруціўся на крэсле, але нічога не адказаў.

— Бяры, Мая Сцяпанаўна, не адмаўляйся,— зноў зірнуў на яе дырэктар.

— Я не спецыяліст,— крышку какетліва, мусіць, радуючыся, што на яе звяртаюць такую ўвагу, адказала тая.

— А хто ў нас, у васьмігодцы, спецыяліст, па геаграфіі, нямецкай мове, фізкультуры, маляванні ды спевах? Ніхто...— сказаў Іван Сямёнавіч.— Але гэта не значыць, што гэтыя — вельмі важныя — дысцыпліны не павінны выкладацца, калі няма ў нас спецыяліста. Так што запісваем табе першы і трэці класы, а таксама і спевы. Другі клас — Міхаіл Апанасавіч. Піянерважатая — Ірына Васільеўна. Бібліятэка — за Ларысай Іванаўнай. Класныя кіраўнікі і школьныя гурткі, рэдактары школьных газет...

Калі дамовіліся, каму давядзецца яшчэ дзе працаваць (Паўлу дасталіся ў кіраўніцтва «цяжкі» сёмы клас і літгурток, а гэтаксама — і школьная літаратурная газета), Іван Сямёнавіч прачытаў усё, што запісаў, агледзеў усіх і спытаў:

— Вось так выглядае нагрузка нашых настаўнікаў. Калі хто пакрыўджаны, то гаварыце тут і цяпер. Каб пасля нічога пра гэта не гаварылі ці ў раён са скаргамі не бегалі... Ведаю, усяк бывае...

Ён яшчэ раз пільна агледзеў, але ўсе маўчалі.

— Я пакрыўджаная,— толькі какетліва ўсміхнулася Мая Сцяпанаўна.— Забярыце ад мяне спевы.

— Маўчы! — жартаўліва махнуў на яе рукою Іван Сямёнавіч.— Ага,— яшчэ ўспомніў дырэктар,— справаводства. Пятнаццаць рублёў...— паглядзеў на Вертуна, які гэтыя гады вёў справаводства і палучаў тыя грошы, але цяпер той нічога не падказаў, толькі схіліў уніз галаву.— Бяры, Мая Сцяпанаўна.

— Што вы, гэта не! — адмахнулася тая ўжо сур'ёзна.— Гэта ведамасці, акты, пратаколы... Не, не хачу.

— Раз ведаеш, то будзеш весці. Запісваем табе. Будзеш, нідзе не дзенешся. Ну, ціха, ціха! — жартоўна адмахваўся ён ад слоў, адмовы Маі Сцяпанаўны.— Вось цяпер усё. Слова табе, мясцком...— і зірнуў на Сліжа.

— Давай, Уладзімір Пятровіч, шавяліся! — штурхнуў суседа локцем Вяртун, які добра ведаў, што мае на ўвазе дырэктар.

— Калі ўрачыстая частка закончана,— усміхнуўся Сліж, бліскаючы пярэднім залатым зубам,— то цяпер павінна быць мастацкая самадзейнасць. І канкрэтна: мужчынам даць па тры рублі, жанчынам па два...

Іван Сямёнавіч, пазіраючы на Сліжа, слухаў, пасля ўсміхнуўся: «Вось гэта дык дзелавітасць!» — сказаў і выбухнуў такім магутным смехам, што ад яго аж залажыла ў вушах.

За ім услед моцна, ляпаючы па каленях, засмяяўся і Міхась Рыгоравіч, але пастараўся скончыць свой смех раней за дырэктара.

Сліж пачырванеў, мусіць, не ведаў: сказаў добра, дзелавіта ці ляпнуў, не падумаўшы, можа, трэ было, каб гэта прамовіць, яшчэ многа пагаварыць, сказаць, што сёння першы педсавет, пачатак працы...

— Магу сказаць тое ж і іначай...— пасля збянтэжана ўсміхнуўся і ён, дастаў з кішэні загадзя падрыхтаваную «траячку» і паклаў яе перад сабою на стол.— Сёння ўсе добрыя людзі будуць адзначаць гэта свята. Настаўніцкае свята. І нам можна пайсці ў лясок, сесці на добрую палянку і пасядзець...

— Паправіўся-такі!..— суцішваючыся ад свайго нядаўняга магутнага смеху, сказаў Іван Сямёнавіч.— Ну і Уладзімір Пятровіч! — і згодна пазіраў, як жонка клала на стол грошы за сябе, за яго і за сына.

І сёння — па даўняй ужо завядзёнцы — пасля педсавета наладзілі невялікую гулянку ў лесе на знаёмай палянцы.

Але вось ужо і разышліся. Рагаткі пайшлі сям'ёю, запрасілі ісці з імі Маю Сцяпанаўну — яны яе ўвесь час хвалілі, прасілі паспяваць, з яе не зводзілі шчаслівых позіркаў. Пайшла разам з імі і Лілія Іосіфаўна. Сліж неяк сёння знік непрыкметна.

Думаў непрыкметна адысціся і Васілец. Але яго нібы пільнавала Таццяна Сяргееўна — не адыходзілася. Яна ўсю гулянку сядзела ля яго, жартавала, спявала — здаецца, усяк старалася спадабацца.

— Ідзі, мы цябе дагонім,— шапнула яна вось цяпер, у цемені, Ірыне Васільеўне. Павярнулася да Васільца, бліснула бялкамі вачэй.— Хадзем, Павел Мікалаевіч.

— Ды хадзем,— прамовіў ён, адчуваючы, што яму прыйдзецца сёння сур'ёзна пагаварыць з Таццянай Сяргееўнай.

— Айн мамент,— прытрымаў яго Вяртун. Ён дагэтуль усё развітваўся з усімі.— Я хачу з вамі, Павел Мікалаевіч, яшчэ пагаварыць. Так што, прашу прабачыць, эншульдзікен зі, біттэ, так сказаць, Таццяна Сяргееўна...

Але тая не адыходзілася. Стаяла паблізу.

— Павел Мікалаевіч...— з крыўдаю прамовіла яна.

— Прабачце, ідзіце, а я вас даганю...— адказаў ён, думаючы: лепш застацца з падпітым Вертуном, чым з Таццянай Сяргееўнай.

Яна з незадавальненнем фыркнула і тут жа пабегла ў цемень — даганяць Ірыну Васільеўну.

Васілец застаўся адзін на адзін з Вертуном у лесе. Лес ціха шумеў, шэпчучы пра штосьці таемнае ці са сполахам чакаючы blізкай зімы, пахнуў сырасцю, апалым сапрэлым лісцем.

— Не перажывай: не пакрыўдзіцца Таццяна Сяргееўна! — лэпнуў па плячы Вяртун.— Зойдзеш пазней, калі будзеш ісці дадому. Не прагоніць: бачыў добра, якімі вочкамі на цябе пазірае... І нічога не скажаш, прыгожая, ваб-

ная дзяўчына. Можа, слаўнейшая тут за ўсіх... І ты не ўцякай ад яе, бо потым шкадаваць будзеш. Маладыя гады ёсць маладыя! Яны на тое і даюцца, каб весяліцца, кахаць...

— Не трэба пра гэта, Рыгоравіч,— папрасіў Васілец.— Я ж не думаю яе браць замуж...

— А яна, можа, і не думае выходзіць за цябе замуж, крыўдзіцца... Яна думае пра іншае... Яна сучасная і любіць па-сучаснаму... Не так, як некалі мы па-старамоднаму ўлюбляліся — з клятвамі, з абяцаннямі ісці браць шлюб... Я б на тваім месцы не манашнічаў так, а... Люблю, як малодшага брата, як брудэра, так сказаць, вось і раю...— ён прыткнуўся, сціснуў Васільца ў абдымках.— Люблю цябе: ты малады, але добры хлопец...— і ўсхліпнуў.— Вертуны цэняць добрых людзей. Сліж ёсць сліж, мізінца нашага не варты, а ты не такі...

— Не трэба, Рыгоравіч,— засаромеўшыся, папрасіў Васілец.— Мы ж мужчыны...

— Як мужчыны — дык ужо і не павінны быць шчырымі? — запытаў Вяртун.— А мы і мала бываем шчырымі. Усё пра працу ды пра працу, пра дзяцей, пра вучобу, а вось так, па-чалавечаму, пагаварыць, павесяліцца, дык і мала калі... Адвучылі — і дадому... Дык хадзем, зойдзем яшчэ да адных добрых людзей. Пасядзім, пагаворым...

— Паўтараецца пазалеташняя гісторыя...— усміхнуўся Васілец.— І тады мы так вось засталіся ўдваіх, вось так гаварылі... Трапілі ў неспадзяваныя прыгоды...

— Я і пазалетась, і летась чалавекам быў, і сёлета чалавек,— перапыніў яго Вяртун,— і век цягнуся да добрых людзей. Цвярозы не магу, стрымліваюся, а вось цяпер, можа, я якраз і чалавек... Не маска, а чалавек... Я і пагаварыць магу, і ўсё сказаць, што думаю... Вы ж папікаеце: Вяртун нясмелы, перад дырэктарам на лапках ходзіць, у вочы праўды не скажа... Не чытае новага, адстаў... Па-старому вучыць... Хочаш: пайшлі вось цяпер да дырэктара — і яму ўсё выкажу... Усё!..

— А заўтра?

— І заўтра скажу...

— Не, Рыгоравіч,— цвёрда сказаў Васілец.— Сёння якраз нікуды і не трэба ісці. Толькі дадому. Вы вот таму і трапляеце ва ўсякія гісторыі, што па вечарах і ўночы лішне ходзіце, шмат тады гаворыце...

— І ты на мяне ўжо? Выхоўваць мяне? Не, дарагі. Вяртун не такім не паддаўся... Ты мне не трэба такі... Ідзі сабе, а я пайду сабе...

І падаўся адгэтуль.

Калі Павел падышоў да хаты, дзе кватаравалі Красоўская і Квітун, згледзеў, што нехта сядзіць на лаўцы, бліскае цыгарэтным агеньчыкам. Падышоўшы бліжэй, пазнаў: Таццяна Сяргееўна. Толькі цяпер яна была не ў блузцы ды штанах; а яшчэ наверх, на плечы, ускінула паліто: ноч пакрысе пачынала аброшвацца, здаравець, павейваць нясмелымі восеньскімі павевамі. Не ветрыкамі, а толькі яшчэ павевамі.

Таццяна Сяргееўна сядзела, прыхінуўшыся спіною да плота і паклаўшы нагу на нагу, курыла.

Павел, каб ішоў другім бокам вуліцы, можа, не прыпыніўся б, падумаў бы, што яго не пазналі, але раз ішоў гэтым — правым — бокам вуліцы, то запаволіў ход, а пасля і прысеў на лаўцы.

— Усё перагаварылі з Вертуном? — як жартам спытала Таццяна Сяргееўна.

— Ды пагаварылі...— адказаў Павел, адчуваючы, што і напраўду дзяўчына не надта злуецца на яго за нядаўняе, сядзіць во і чакае, калі ён будзе ісці дахаты.

— Ведаю, пра што ён можа сёння гаварыць...— неяк стомлена сказала Таццяна Сяргееўна.— Успамінаць ды папракаць... І гэта, як і сённяшні педсавет, наша тут жыццё... Сумна. Усе цяпер спяць, каб заўтра зноў працаваць ды есці, спаць... А я не хачу спаць цяпер, я нечага другога хачу...

— Кіно па тэлевізары паглядзіце ці па вуліцы пахадзіце,— усміхнуўся Павел,— і будзе весялей.

— Толькі і застаецца тут, у Міланьках, рабіць гэта. Уся ўцеха і весялосць — тэлевізар...

— Нешта вы сёння не ў настроі? — спытаў Павел.

— Бо мне сумна, бо я не магу быць адна...— адказала тая, кінула на дарогу цыгарэціну.— Чаго вы маўчыце? Вы адзіны тут, хто можа мяне зразумець...

— Можа, і разумею,— згадзіўся Павел.— Але памагчы, відаць, не здолею...

— Я хачу, каб памаглі...— з хваляваннем у голасе прамовіла яна, і ён зразумеў яе гэтыя словы, яе хваляванне,

зразумеў, што здолеў спадабацца ёй, падаць нейкую надзею.— Вы... Я так веру вам...

Ён чуў гэтыя словы, разумеў, што хаваецца за імі, захваляваўся. Але падумаў, што жартаваць, даваць нейкую надзею не трэба.

— Прабачце,— сказаў Павел,— вы мне не верце, на мяне не спадзявайцеся, бо я не магу, не зраблю таго, пра што вы думаеце. І вы ведаеце самі — чаму... А раз ведаеце, то мне не трэба многа гаварыць і вам не трэба звяртаць на мяне ніякай увагі...

— Ідзіце...— ледзь чутна прашаптала Таццяна Сяргееўна.— Вы не разумееце жанчын, шмат чаго не разумееце ў жыцці...

— Усяго вам добрага! — сказаў Павел, падняўся і пайшоў дахаты.

Таццяна Сяргееўна не сказала ні слова.

— Мяне зноў пакрыўдзілі, Алесь Трахімавіч,— скардзіўся Вяртун, плаксіва сціснуў тонкія вусны.— Яшчэ як пакрыўдзілі. Дырэктару і завучу па закону можна браць па дванаццаць гадзін у тыдзень. Гэта гісторыі ці мовы. А матэматыкі, як я чуў, як гэта ёсць у іншых школах, можна браць і да васемнаццаці ўрокаў у тыдзень. Дык чаму мне, многасямейнаму, не даць столькі?

— Калі ёсць такі дазвол, дык чаму вы маўчалі на педсавеце? — спытаў Алесь Трахімавіч.

— Хіба я мог сам прасіць, сароміцца? Самі ведаеце, які ў мяне характар... Я прамаўчаў, а Рагатка нібы не здагадаўся, не даў. Ды і справаводства, пятнаццаць рублёў, як і летась, можна было мне пакінуць... А ён Маі Сцяпанаўне аддаў... Бо ў нявесткі яе меціць...

— Калі вы самі не маглі за сябе заступіцца, дык няхай падказалі б, дык я за вас заступіўся б, закінуў бы слова... Вы ж ужо, Рыгоравіч, не маладзенькі які, не першы год у школе робіце...

— Вось такі я дурны,— паскардзіўся Вяртун.— А Рагатка вось як... Але я яму некалі гэта прыпомню. І ўсё прыпомню, бо ён мяне пакрыўдзіў. Як і вас некалі... Вас яшчэ і больш... І я, дурань, яму памагаў. Брыдка! — ён усхліпнуў.— Змусіў мяне...

— Не трэба, Рыгоравіч, толькі крыўды ў душы насіць ды помсты. Не трэба.

— Вы, Алесь Трахімавіч, добры чалавек! Залаты чалавек! — Вяртун нахіліўся, пацалаваў старога ў шчаку.

— Не трэба...— са збянтэжаннем папрасіў той.— І я жыву, як умею... Як і ўсе людзі...

— Не як усе...— усхліпнуў Вяртун.— Вы другі. Нам усім да вас як да неба. Толькі малавата мы вас слухаемся... Вып'ем, Алесь Трахімавіч, за вас. Прабачце, што сам прашу, але не магу не папрасіць...— ён заплюшчыў вочы, каб схаваць слёзы.— Давайце па кроплі.

— Сёння вам гэта ўжо будзе залішне,— сказаў Алесь Трахімавіч.— Ваша і бяда ў тым, што вы, калі вып'еце, не можаце ўпару прыпыніцца. Праўда, выпіўшым у вас як бы прачынаецца чалавек, вы становіцеся самім сабою... Але ж гэта не дзела: што было б, каб усе былі смелымі і шчырымі толькі тады, калі гарэлкі выпілі б?! Значыць, трэба і без гарэлкі быць самім сабою. Гэта і вельмі цяжка, але і вельмі проста... А так вас і выпіўшага, праўдзівага, лічаць за нейкага дзівака... Бо што п'яны? Балбатун, і не больш. Хіба можна з ім сур'ёзна гаварыць? Назаўтра ж ён нічога не будзе помніць і ад слоў сваіх адмовіцца...

— Так, Алесь Трахімавіч, так...— зноў усхліпнуў Вяртун.— Хадзем тады да Рагаткі, падсыплем яму крыху. Я сёння магу ўсё сказаць,— і ён бухнуў кулаком сабе па грудзіне.— Усё!

— Я ж вам кажу: нікуды ісці сёння не трэба, ідзіце толькі дадому,— сказаў Зубок.— А тое, што на душы накіпела, скажыце спачатку сам сабе, а потым — і смела, шчыра і таму, каму хочаце сказаць. Без помсты, а каб лягчэй іншым і сабе было... Ды хіба вас яшчэ трэба вучыць? Хутка ж і самі дзедам станеце...

— Праўду вы гаворыце, Алесь Трахімавіч,— прамовіў Вяртун, падаўся і пацалаваў старога ў шчаку. Той усміхаўся, ухіляўся.— Каб мы ўсе гэтак жылі і працавалі, як вы... Не тое, не тое ў нас было б!

— Яно і не трэба рабіць усё на адзін капыл... Кожны павінен рабіць па-свойму добрае — вот тады і будзе тое вашае «не тое»...

— Ну, бывайце здаровы! — сказаў Вяртун і, каб не заплакаць, падаўся з хаты.

Калі выйшаў на вуліцу, азірнуўся, дык убачыў у Рагаткавай верандзе святло. Як ішоў да Зубка, там было цёмна. Адразу ж павярнуў у Рагткаў двор, набіраючыся

смеласці і рашучасці. Аж здзівіўся, чаму ён раней не мог сказаць Рагатку ні слова насупраць.

Яшчэ здалёку ўбачыў, што на верандзе быў сам Іван Сямёнавіч, які сядзеў на лаўцы і, закасаўшы да каленяў штаны, мыў у мядніцы ногі. Ён пацягнуў за клямку дзвярэй, але яны былі зачыненыя.

— Хто там? — з насцярогаю спытаў Іван Сямёнавіч.

— Я,— смела адказаў Вяртун.

— Што такое?

— Я хачу пагаварыць з вамі...— сказаў Вяртун.— Пра даўнейшае, пра сённяшні педсавет. Словам, пра ўсё, што накіпела на маёй душы... Годзе маўчаць... І ёсць пра што пагаварыць!

— Позна ўжо гутаркі разводзіць,— прамовіў Рагатка, як чуваць было, хутка ўстаў, выцер ногі.

— Нам усё роўна трэба некалі пагаварыць! — з пагрозаю прамовіў Вяртун.— У мяне во тут,— ён прыклаў руку да грудзіны,— накіпела. Адчыніце!

— Заўтра пагаворым,— хутка адказаў Іван Сямёнавіч, усунуў белыя ногі ў тапачкі, выключыў на верандзе святло і рыпнуў дзвярыма хаты.

Вяртун патурзаў за клямку, як не верачы, што яго — можа, першы раз у жыцці збаяліся,— пасля падаўся назад, да вуліцы. Калі выходзіў з варот, так ляпнуў брамкаю, што яна ледзь не зляцела ■ завесаў.

## 8

— Добра, што сустрэліся...— прамовіла Ніна, Сліжава жонка. Яшчэ раз акінула яе, Ларысу, з ног да галавы.— Хачу сказаць табе нешта па сакрэце... Каб ты, чым прыехаць у Міланькі, пра ўсё ўжо ведала...

Ларыса прытуліла да нагі чамадан, усміхнулася, бо добра ведала гэтыя Ніціны «сакрэты» — самыя што ні ёсць плёткі, на якія тая была вельмі вялікі спец. Калі яна пачуе нешта такое цікавае, то, расказваючы пра гэта другім, так усё перакруціць, упляце яшчэ сюды многа сваіх здагадак, «нечых» думак, што пасля сам чорт звар'яцее, калі захоча разблытаць той клубок.

Ларыса летась многа чула, як Ніна, працуючы ў магазіне, часта сустракалася з вясковымі бабамі, ведаючы ад іх усе вясковыя навіны, не раз была завадатарам бурлівых

вясковых плётак, падымала на ногі Міланькі ды Вішнёўку, перасварвала многіх людзей, за што нават сёлета вясною трапіла на таварыскі суд і «зарабіла» дзесятку...

— Толькі ты не кажы, што я табе сказала...— таемным голасам прамовіла Ніна і чакала, каб Ларыса паабяцала, што не раскажа пра гэта.— Сшэльміўся твой дарагі...

Ларыса ўсміхалася, але, пачуўшы гэтыя словы, перастала ўсміхацца, адчула, як трапятнулася сэрца, хлынула цяплынь да твару: зразумела, што гутарка ідзе пра Паўла.

— Прыехаў сюды адзін, то і загуляў з Танечкаю...— убачыўшы яе разгубленасць, дадала Ніна.— Ты ж ведаеш, што яна вартага каго ніколі не прапусціць... Няма цябе, то падкацілася, паўсміхалася... А ён у арміі быў, год жанчын не бачыў — і не вытрымаў, паддаўся ёй, прыгожай ды ліпкай... Яны, мужчыны, усе такія...

— Ах, вось што! — пастаралася абыякава сказаць і спакойна ўсміхнуцца Ларыса, але не змагла: балела сэрца і прылівала кроў да скроняў, блыталіся ўсе яе спакойныя дасюль, шчаслівыя думкі.— Сама выдумала ці нечыя плёткі перадаеш?

Спачатку яна думала добра распытаць Ніну пра ўсё гэта, дазнацца, што тая ведае. Пасля стрымалася і падумала, што не варта гэтага рабіць, не варта распытвацца іменна ў Ніны (калі ўжо спытаць, то не ў яе, а ў Лілii Іосіфаўны — добрай, сумленнай і праўдзівай сяброўкі), а пасля — схамянуўшыся і перамогшы першы моцны боль — адумалася: не можа ўсё гэта быць праўдай. Не можа Павел — сумленны чалавек, ды яшчэ пасля стольніх сказаных і напісаных ёй добрых слоў, прызнання ў моцным каханні,— здрадзіць ёй. Калі ўжо яму не верыць, то тады трэба многаму і многім не верыць...

— Ты расстроілася? — ні то здзівілася, ні то абрадавалася Ніна.

— Я ж табе сказала: плёткі гэта,— пастаралася спакойна адказаць Ларыса,— нехта выдумаў, а ты разносіш...

— Сама, канечне, я не бачыла,— крыху адступіла Ніна, заміргала,— але гаварылі мне, што ён да яе ходзіць на кватэру, піў і танцаваў з ёю, на педсавеце разам сядзеў, пасміхаліся... Ды і мой Валодзя гаворыць, што яна сур'ёзна задумала твайго Паўла акалпачыць... Так што ты, калі думаеш толькі за яго выйсці, то прыедзь вось і адвучы адразу ад такіх штучак... І яе... Бо пасля бяда будзе, калі навучыцца і ў чужую гаспадарку зазіраць...

— Пайшлі, Ніна,— сказала Ларыса,— памагу паднесці ды яшчэ пахаджу па магазінах.

— Я летась свайго — ты ж добра бачыла — толькі так адвучыла ад памаўзы...— гаварыла Ніна.

— Толькі гэтым сям'і не зладзіш і не ўтрымаеш,— сказала Ларыса.— Калі няма добрага кахання, то няма і сям'і, шчасця.

— Я ж табе гаварыла... Цяпер ён бачыць, што я яго жонка, нідзе не дзенуся, вось ён і... А любоў... Як паглядзіш, няма ніякай любові, ёсць толькі нейкая прывычка... Ды якая мне цяпер ад свайго любоў трэба? Хай добрую капейку дамоў прыносіць, памагае, не п'е ды да чужых не ходзіць...

— А мне здаецца, што гэтага мала,— прамовіла Ларыса,— бо мала з чалавекам толькі разам з адной міскі есці і ў адной пасцелі спаць... Ёсць яшчэ важнейшае за стол і пасцель...

— Усё гэта халасцяцкія выдумкі маладых, якія многа начыталіся ды не ведаюць яшчэ нічога...— хмыкнула Ніна.— Адно хацець, другое — як выходзіць... Сама бачыш, во, не раз,— кіўнула сабе на жывот,— бывае. І не раз. Дык што гэта?.. Але жыць жа трэба...

Яны выйшлі на плошчу, ішлі асцярожна, прапускаючы аўтобусы і таксі. Плошча дыхала асфальтавым даўкім цяплом, сухім пахам пяску. Дзе-нідзе асфальт патрэскаўся, уздзьмуўся, і ў шчыліны наверх палезла зямля — гнала яе трава, кволая і бледная.

— А пра тое, што я табе сказала, спытай у дзяўчат вунь,— сказала Ніна, паказваючы на Лілію Іосіфаўну, Маю Сцяпанаўну і Ірыну Васільеўну, якія стаялі ля аўтастанцыі,— і яны табе пацвердзяць...

— Дзякую за параду, Ніна. Глядзі ўжо свайго Сліжа, а мы неяк самі разбяромся. Нам жа не па васемнаццаць гадоў...— стрымана і суха адказала Ларыса, што Ніна як зноў здзівілася, зірнуўшы на яе: я ж табе, маўляў, па-добраму падказваю, каб табе лепш было, а ты не на яго, а на мяне злуешся...

Але Ларыса не стала болей нічога гаварыць, зірнула на сваіх сяброўак, па-жаночы паглядзела, хто з іх і як змяніўся за лета.

Здалёку ўбачыла, што Ірына Васільеўна яшчэ больш папаўнела, адзета ў знаёмую зялёную спадніцу і зямлістага колеру блузку; Мая Сцяпанаўна, гэтакая ж невысокая,

поўненькая ды прыгожая, адзета ў новы крымпленавы сіні касцюм; Лілія Іосіфаўна, здаецца, яшчэ болей пахудзелая і патанчэлая за лета, надта ж высокая, з вельмі ж тонкімі нагамі, гэтаксама была адзета ў новую крымпленавую блакітную сукенку. Яна, Лілія Іосіфаўна, на добрую галаву вышэйшая тут за ўсіх, відаць, саромелася свайго такога высокага росту — старалася насіць на нізкіх абцасах туфлі, невысокую прычоску, згіналася і хадзіла, апусціўшы галаву. Ад гэтага яна неяк горбілася, яшчэ болей псавала сваю постаць. Але характарам Лілія Іосіфаўна была вельмі добрая — сумленная, сціплая, можа, нават і залішне сарамлівая.

Гледзячы на сяброўак, Ларыса парадавалася, што няма цяпер сярод іх Таццяны Сяргееўны, з якой яны летась частавата спрачаліся, стараліся адна адной не саступіць ды пра якую цяпер вось што гавораць...

— Здарова, дзяўчаткі! — усміхнулася Ларыса, паставіла Нінін клунак і пацалавалася з сяброўкамі, засумаваўшы без іх за лета.

— Добры дзень, Ларыска! — радасна загаманілі тыя амаль у адзін голас, са шчырасцю прыгарнулі яе да сябе і пацалавалі: увесь мінулы навучальны год яны жылі ў вялікай дружбе, стараліся добра працаваць, вучыліся адна ў адной, заступаліся адна за адну.

— Якая ў цябе, Ларыска, харошая сукенка! — усклікнула Мая Сцяпанаўна.— Як яна табе добра ідзе да твару!

— А ты яшчэ больш пахарашэла за лета! — усміхнулася Ларыса.— Зусім зацямніла нас сваёю красою.

Яна бачыла, што Маі Сцяпанаўне гэта вельмі спадабалася, бо ў яе пакрысе ўжо нараджалася какецтва прыгожанькай жанчыны, спеставанай залішняй мужчынскай увагай, а вось гэта непрыгожую Лілію Іосіфаўну крыху азмрочыла.

— А дзе ж Таццяна Сяргееўна, чаго яна адстала ад вашай кампаніі? — спытала Ларыса і раптам трывожна падумала, што тая, можа, наўмысна не паехала ў раён, засталася ў Міланьках з-за Паўла: напраўду, можа, заляцаецца да яго, калі спадабаўся... Яна спытала і з трывогаю чакала адказу.

— Засталася дома і сумуе...— спакойна прамовіла Ірына Васільеўна.— Яна толькі так: ці плача, ці скача... Дык вось цяпер нечага засумавала... Учора спявала дзень, ся-

дзела ля люстэрка. Пераначавала — замаркоцілася, плакала...

Ларыса радасна адчула жаночым сэрцам, што Таццяна Сяргееўна, відаць, напраўду хацела, пакуль няма яе, Ларысы, зблізіцца з Паўлам, але, канечне, нічога ў яе не выйшла...

— У яе ўсё ж паэтычная, далікатная душа...— ужо спакойна, стараючыся лішне крыўднага не сказаць пра Таццяну Сяргееўну, прамовіла Ларыса.— Яна жыве толькі страсцямі. А мы не разумеем гэтага, здзіўляемся ці папракаем...

Ларыса, калі прыехалі ўжо ў старэнькім пыльным аўтобусе ў Міланькі, гэтаксама папрасіла маладога шафёра спыніцца ля яе кватэры. Многія жанчыны прасілі прыпыніцца ля сваіх хат, і ён спыняўся. Паслухаўся і Ларысы.

Трэці вось год яна прыязджае пад восень сюды, у Міланькі, прыязджае з хваляваннем, з сумам па працы і з трывогаю за гэтую працу, а сёлета яшчэ ёй трэба не толькі адвыкнуць ад роднай вёскі і прывыкнуць тут, працаваць, а трэба перажыць і яшчэ адно — сустрэчу з Паўлам, з якім сёлета... Яна аж заплюшчыла ад хвалявання вочы, што будзе хутка ў іх з Паўлам, з чалавекам, якога яна так моцна пакахала, даверыла яму сваё жыццё і шчасце... Як пра сон, падумала пра сваю гамонку ў аўтобусе, калі яна была блізка ля Ліліі Іосіфаўны, а астатнія стаялі далекавата, спытала нібы жартам у той: «Ну, як табе мой Павел Мікалаевіч?»

«Спадабаўся»,— адказала Лілія Іосіфаўна, якая шмат чула ад яе пра Паўла, але дасюль не бачыла.

«Мяне надта не цешыць, што ён вам усім спадабаўся...— зноў як жартам сказала Ларыса, стараючыся зусім уведаць тое, што яе трывожыла.— Адбіваецца тут яго без мяне...» — і, затаіўшы дыханне, чакала адказу.

«Не хвалюйся, ён не падманіць. Сур'ёзны і сталы хлопец»,— адказала Лілія Іосіфаўна, якая, будучы старэйшай за яе, відаць, разгадала яе гэтыя трывогі.

«Я жанчынам надта не веру...— тады ўжо наўмысна пажартавала Ларыса, бо пачула патрэбны суцяшальны адказ, супакоілася зусім, але пастаралася перавесці ўсю гэтую гутарку на жарт.— Жанчыны на ўсё здольныя, ды калі яшчэ бачаць талковага хлопца...»

Цяпер, калі ішла да сваёй леташняй гаспадыні, ёй стала крыху сорамна ад сваіх нядаўніх роспытаў, але затое было і спакойна, уцешна на душы, яшчэ больш радавала гэтая блізкая сустрэча.

Падыходзячы да гаспадынінага гарода, Ларыса ўбачыла, што ад лішняй спякоты звяў і парыжэў бульбянік, звялі і асыпаліся кветкі, шмат ужо накідала жоўтага лісця высокая бяроза, якая ўзвышалася над вялікаю — на дзве палавіны і з шасцю вокнамі, з жалезным дахам — смолкаю хатаю. Двор, вясною і восенню гразкаваты, цяпер быў тупкі, што камень. На кухонным падаконніку чырванелі памідоры, ляжала некалькі доўгіх жоўтых гуркоў-насеннікаў.

Цёця Валя капала на гародзе бульбу. Як пачула, што рыпнула брамка, падняла галаву, зірнула, убачыла яе, сваю кватарантку, апусціла рыдлёўку і падалася разораю сюды, у двор. За лета яна зусім збегалася — збірала, канечне, па ахапку сена карове, гойсала ў ягады — то зусім высахла, была худая, загарэлая, але ўсё яшчэ вельмі вёрткая для сваіх шасцідзесяці чатырох гадоў.

— Я, дзіця маё, думала, што ты ўжо ў другую школу перабралася, болей да нас не прыедзеш...— падыходзіла і гаварыла яна, свецячыся радасцю на старым, маршчыністым твары.— Я ж тады, вясною, у календары пазначыла той дзень, калі прыедзеш. Чатыры лісткі вырвала ўжо, а цябе ўсё няма...

— Добры дзень, цёця,— усміхнулася Ларыса, падышла і пацалавала гаспадыню ў шорсткую шчаку.— Загуляла крыху, то і спазнілася. А вы як жылі лета, што ў вас новага?

— Што ў мяне можа быць новага! — махнула рукою цёця Валя.— Тапталася лета пры хаце ды хляве, па полі ды лесе гойсала. Адных і другіх унукаў па тыдню паглядзела... Паехалі — і зноў адна. Цябе вот чакала...

— Дык пусціце яшчэ пакватараваць?

— Жыві, дзіця маё. Хіба нам вады, бульбы ці яшчэ чаго не хопіць? Усяго хопіць... Абы здаровыя былі. Я ж да цябе прывыкла ўжо, як і да сваёй дачкі... А дочкі мае, ні адна, ні другая, не хочуць у вёсцы жыць, сама ж ведаеш... А я ў іх горадзе не хачу, то і будзем з табою тут... Але заходзь у хату, разбірай свой чамадан, а я ўкапаю яшчэ трохі бульбачкі ды і вячэру пастаўлю варыць.

Хоць у хаце не было гаспадара, але цёця Валя здольвала і адна трымаць усюды парадак. Зірнеш на двор, хлеў,

плот ды дрывотню — і не скажаш, што яна ўдава, што жыве без мужчыны. Усё ў яе ёсць, усё ў парадку. Што сама не зробіць, зяці ўпарадкуюць ці наймовыя чужыя людзі.

— А я во на днях цялявізар купіла,— ішла следам і гаварыла цёця Валя,— можа, сённі прыйдзе Пятрок і паставіць. Так што будзем глядзець ужо дома кіны ды канцэрты, не будзем па чужых хатах хадзіць.

Калі зайшлі ў хату, Ларыса і ўбачыла, што на стале стаяў вялікі тэлевізар, а пад сталом ляжалі антэна, кабель.

— І фіранкі новыя павесілі,— прыкмеціла Ларыса.

— Надакучылі тыя,— адказала гаспадыня.— Дык новыя ўзяла. Калі купляла, якраз і твой хлопец у магазіне быў... Пазалетась я надта не прыглядалася, а цяпер паглядзела: ладны малец! Высокі, станісты, тварам удалы... Не дзіва, што ўпадабаўся табе! Надта добрая пара будзеце — абое высокія, разумныя ды красівыя, як толькі і падабраліся адно да аднаго... Не тое што ідуць якія малюсенечкія: і ён з пазногаць, і яна ледзь ад зямлі адрасла... Я нічога яму не сказала, бо не ведаю добра, але паглядзела ды падумала сабе: яй-бо, добрая пара будзе...

Ларыса слухала яе і не саромелася, толькі пасміхалася. Яна часта гаварыла гаспадыні пра Паўла, расказвала, які ён добры, не таілася, што яны думаюць сёлета на Кастрычніцкія святы пажаніцца.

Цёця Валя, зноў зірнуўшы на яе, гэтаксама ўсміхнулася, відаць, адчуваючы цяпер радасць і хваляванне на яе душы.

— Ну, ты распакоўвайся, а я яшчэ крыху ўкапаю на вячэру бульбы,— сказала цёця Валя і падалася з усмешкаю на двор.

Ларыса стаяла ў знаёмай лепшай палавіне хаты, глядзела на два ложкі, хораша засланыя і з мноствам падушак, на шафу, на завешаную шырокаю і вялікаю шырмаю печ — і прывыкала, што яна тут ужо, у Міланьках. Паставіла на крэсла чамадан, адчыніла яго і ўзялася выкладаць на ложак свае ўборы, каб пасля што пакласці, а што і павесіць на вешалцы ў шафу.

Зірнула ў акно, якое глядзела на вуліцу, і са сполахам прыціснула да грудзей роўна складзенае ў невялікі чатырохкутнік і толькі што ўзятае з чамадана прасцірадла, захвалявалася, ажно задрыжалі ногі, аслаблі: сюды, у двор, ішоў Павел, яе родны і дарагі Паўлік. Яна пазірала на яго — і пазнавала, і не пазнавала. За гэты год, што яны не

бачыліся, ён змяніўся і не адмяніўся. Быў гэтакі ж высокі, знаёмы на прыгожым твары з кірпатым носам і пільнымі вачыма, але на гэтым твары было ўжо і нешта новае — ці не набытая ў арміі сталасць. І сам рух яго быў не такі — не малады, гарэзлівы, як раней, а раздумны, салідны.

Павел, відаць, не бачыў яе з двара праз акно, не затрымаўся, не ўсміхнуўся, ішоў да сянец. А яна ўсё стаяла, прыцiснуўшы прасціpадла да грудзей, пазірала ў акно, бачыла ўжо толькі яго спіну — знаёмы чорны пінжак, патыліцу з невялікімі, яшчэ не адрослымі надта чарнаватымі валасамі.

Сэрца яе, здаецца, як адарвалася і імкнулася выскачыць з грудзей. Яна сама здзіўлена падумала, што з ёю, чаму яна так не толькі расхвалявалася, але і разгубілася. Так чакала гэтай сустрэчы, а цяпер вось нават баіцца яе, думае — хай бы яна была крышку пазней, хочацца некуды схавацца, стаіцца і, зажмурыўшы вочы, пастаяць і пахвалявацца, гледзячы, як ён ходзіць паблізу...

Але Павел пачуўся ўжо ў сенцах, зайшоў на кухню. Тады яна як апамяталася, зачыніла чамадан, разгарнула прасціpадла, якое не хацела зусім разгортвацца, і накінула на адзенне, што толькі што выклала. Яна не сказала «можна», калі Павел пастукаў сюды, з хваляваннем чакала, калі ён зойдзе, пакажацца, не думала нават, а толькі адчувала, што будзе многае значыць ад таго, як ён усміхнецца...

Ён прачыніў дзверы, зірнуў — і знаёма ўсміхнуўся, і ад таго, што ён усміхаўся, болей, шчаслівей, крышку знаёма шырыўся ў ноздрах яго кірпаты нос. Але яна не ступіла насустрач, разгубленая, відаць, пабялелая, чакала, калі падыдзе. Ён ішоў, акідаў яе позіркам з ног да галавы (ад чаго яна крыху сціскалася), ні то гарэзліва, ні то сарамліва ўсміхаўся, і яна пазнавала яго ранейшага, якога ведала ўжо даўно, з якім кахалася пазалетась, па якім сумавала гэты год.

І ўсё ж адчувала: яна такая, як і была, а вось у ім з'явілася і нешта новае, чаго яна яшчэ не можа разгадаць, і што яна хацела сустрэць яго такім, якім ведала летась вясною, больш за год таму. Але і ўявіць сабе не магла, што за гэтую пару можа неяк характарам, у паводзінах і адмяніцца чалавек, як відаць, для яго адмянілася і яна. І для іх цяпер самае важнае іх мінулае, якое павінна памагчы ім пазнаць адно аднаго, сённяшніх...

— Ну, здарова! — шапнуў ён, і яна зусім аслабла ад

яго гэтага пяшчотнага позірку, слаба ўсміхнулася, гледзячы яму ў вочы, і падала руку.

Павел пацiснуў яе руку, даючы адчуць сваю цёплую ладонь з цвердаватымі мазалямі ля пальцаў, а пасля крыху нагнуўся, наблізіўся і прыпаў да яе вуснаў, адціскаючы яе руку ўніз, а сваёй левай рукой абхопліваючы яе за спіну.

У яе адразу ж закружылася галава, павяло, затуманіла розум, і яна зусім не ведала, што з ёю робіцца. Бо нічога не думала, адчувала крышку чужаватыя сухаватыя яго вусны, крышку халаднаваты нос і гладкія мяккія шчокі, чула і скрозь пінжак, як моцна тахкае і яго сэрца.

Пасля ён адпусціў яе правую руку, узяў яе галаву ў абедзве рукі і цалаваў шчокі, вусны, лоб, і яна з заплюшчанымі вачыма ахвотна яму паддавалася, слухала і пакрысе апамятвалася, адчуваючы, што да яе вяртаецца розум.

— Дарагая мая і мілая! — шапнуў Павел, і яна ўжо чула пяшчоту і радасць у гэтых словах, радасць сустрэчы, жаданне быць вось так блізка.

Яна не зірнула яму ў твар, уткнулася яму ў грудзіну, падняла рукі і абхапіла яго за шыю. А ён гладзіў яе рукі, плечы, узнятыя невялікія грудзі, і яго гэтыя дотыкі былі знаёмымі, надта ж прыемнымі ды жаданымі, і яна, разжаліўшыся, што столькі іх не было, а вось цяпер яны ёсць, ціха і радасна заплакала. Нават і не адчула, што заплакала, пачула толькі на сваіх шчоках слёзы.

Пачуўшы ці адчуўшы яе гэтыя слёзы, Павел прашаптаў: «Ларыса!» — сціскаў яе галаву рукамі, хацеў падняць і, відаць, зірнуць ёй у твар, але цяпер ужо яна не паддавалася.

— Што, Паўлік? — шапнула і яна, падняла аслабелую правую руку і выцерла ёю слёзы, радая, што стаіць побач з чалавекам, якога яна ўжо ведае восьмы год, моцна кахае, звязвае з ім усе свае лепшыя мары.

— Ларыса! — шаптаў і моцна сціскаў яе за плечы Павел.— Вось мы і разам!

Яна ўсміхнулася, на міг зірнула на яго — ужо свайго, а не чужаватага,— але пасаромелася многа пазіраць (можа, відаць яму слёзы, можа, пачырванелі ад іх шчокі?), зноў апусціла галаву, але ўжо не схавала яе на грудзіне, а пазірала яму ў шыю, бачыла знаёмую радзімку на ёй, знаёмы кадычок, добра выгалены, крыху сіняваты падбародак.

— Люблю цябе вельмі...— зноў шапнуў Павел.

— А можа, забыўся?.. Адвык?..— шчасліва прашаптала і яна.

— Што ты! — сказаў ён, і яна паверыла яму. Паверыла ўжо таму, што пазалетась ён быў стрыманы, асцерагаўся многа гаварыць такіх ласкавых слоў, болей стараўся паказаць сваю душу, а вось цяпер — засумаваўшы — рады і гаварыць гэтыя добрыя словы.— Кожнага дня хацеў убачыць цябе...

— І я... Цяпер ужо і каялася, што ты не прыехаў вясною да нас ці я ў Мінск не прыехала... Самі ж сабе горш зрабілі... Я зрабіла...

— Нічога, выцерпелі, дачакаліся,— супакоіў ён яе.— І вось мы разам.

Яна зноў не вытрымала і ўсхліпнула ад радасці.

— Прашу цябе, Ларыска, не трэба,— папрасіў Павел, відаць, не мог зразумець, чаго яна плача, падумаў, можа, што яна гэта робіць не ад радасці, а ад смутку ці жалю.

— Не буду,— паабяцала яна, але ізноў плакала, тут жа апраўдвалася: — Не буду... Самі во...

Яна выцерла слёзы, асмялеўшы, доўга глядзела яму ў вочы, усміхалася і пазірала, прывыкала да яго сённяшняга, і прывыкала з кожным мігам усё больш і больш, цешылася і нечакана адчула, што да яе прыплыло іншае пачуццё, іншае хваляванне. Цяпер яна ўжо адчула, што яны блізка і што гэтая блізкасць хвалюючая і жаданая...

Расхваляваная, але ўжо асмялелая, яна паднялася на пальчыках, каб самой пацалаваць яго, паднялася вышэй яго пляча і — убачыла, што ў прачыненых дзвярах стаіць, пазірае на іх і ўсміхаецца цёця Валя. Ларыса не адскочыла сарамліва ад Паўла, не збянтэжылася надта, яна толькі шапнула: «Цёця Валя!» — і адышлася, папраўляючы валасы.

— Мае вы галубочкі, зляцеліся! — сказала гаспадыня і надта добра пазірала на іх.— Я гэтаксама ж свайго чакала некалі, як толькі вайна закончылася...

Павел, павярнуўшыся і зірнуўшы на гаспадыню, на незнаёмую жанчыну, засаромеўся, успыхнуў чырванню. Ларыса ўсміхнулася яму, падбадзёрыла позіркам, што цёця Валя добрая, усё ведае, але ён усё роўна не пераставаў палымнець на шчоках.

— Такая ўжо доля: мужчынская — спяшацца дадому, а бабская — чакаць...— прамовіла цёця Валя і ўсхліпнула,

закрыла фартухом вочы.— Але выбачайце, дзеці, не падумайце, што я падцікоўвала. Выйшла так... Пабуркуйце яшчэ адны, галубочкі, парадуйцеся адно аднаму, мілыя... А я бульбачку пастаўлю варыць, гурочкаў выберу — ды і пагуляем за спатканне,— прамовіла і пайшла, зноў пакінула іх адных.

Ларыса і Павел усміхнуліся, шчасліва зірнулі адно на аднаго і не маглі стрымацца, прыпалі, ужо больш умела і смялей, як нядаўна, пацалаваліся, толькі балючавата шчымнулі іхнія вусны, якія крыху за гэты год адвыклі ад пацалункаў.

## 9

Іван Сямёнавіч прыехаў у гарадскую школу — на настаўніцкую жнівеньскую канферэнцыю.

Калі празвінеў электрычны званок (не меладычны, як у Міланьках, а вельмі рэзкі), Іван Сямёнавіч падаўся ў патрэбны пакой.

Сеў не на першай парце, як садзіўся некалі, а пайшоў да самай апошняй парты. Нібы хацеў схавацца: у клас заходзілі і заходзілі сярэдняга веку ці і зусім маладыя настаўнікі. Ён, лічы, іх не ведаў. А яны, мусіць, ведалі адно аднаго: жартавалі, усміхаліся і нібы ўсе пазіралі на яго са здзіўленнем, як на свайго бацьку. Аж стала няёмка... Яшчэ летась было некалькі чалавек яго ўзросту...

«А хутка пайду і я на пенсію ці яшчэ што — дык будуць адны маладыя... Як не суцешвай сябе, а ты ўжо ў мінулым, павінен саступіць дарогу... І нічога не прыпыніцца: будуць працаваць школы, будуць праходзіць вось такія секцыі, будуць ужо некага іншага хваліць... А потым і гэтыя пастарэюць, прыйдуць яшчэ маладзейшыя і ўсё возьмуць у свае рукі...»

Усе паселі. Поўны пакой.

Зайшоў кіраўнік секцыі — высокі, маладжавы дырэктар адной з лепшых сярэдніх школ раёна.

— Добры дзень вам,— усміхнуўся ён, паклаў на стол свае сшыткі. Здаецца, акінуў усіх позіркам, доўга пазіраў на яго, Івана Сямёнавіча. І, здаецца, яму асобна — як старэйшаму, як былому кіраўніку гэтай секцыі — кіўнуў галавою. Многія настаўнікі азірнуліся і яшчэ раз са здзіўленнем на яго паглядзелі.

«Раней, лічы, усе ў раёне мяне ведалі, а цяпер мала хто...»

— Віншую вас, калегі, з пачаткам яшчэ аднаго, а для каго, можа, і першага навучальнага года! — нібы яго некаляшнімі словамі гаварыў далей новы кіраўнік секцыі.— Няхай ва ўсіх вас і ў вашых школах будуць толькі ўдачы!

«І я так нядаўна яшчэ ўсім зычыў...»

Кіраўнік расказаў, што яны будуць рабіць. А потым паклікаў настаўніка з Галінавіцкай школы.

З сярэдзіны пакоя падняўся і выйшаў да стала невысокі худзенькі хлапчук — у чорным касцюме, пры белым світэры, з вусікамі — і пачаў бадзёра чытаць з вучнёўскага сшытка.

«Настаўнік ды з вусікамі! — падумаў Іван Сямёнавіч.— Такога раней не было! Некалі б... Мяняецца ўсё, мяняецца... І ў адзенні, і ў паводзінах, і ў думках... Новае ідзе, парою і не зусім зразумелае... Ці яно ўсё так і трэба, толькі я не ўсё ўжо разумею? Як не разумею парою сваіх Васільца і Ларысу Усціновіч, Таццяну Сяргееўну, Сліжа, сваіх дзяцей...»

Потым выступіла настаўніца. Гэтаксама маладая. У штанах і ў світэры. І яна бойка чытала са свайго сшытка.

Зазвінеў званок. Значыць, перапынак. Можна выйсці ў калідор, пахадзіць. Як выйшаў, то аж зажмурыўся: застракацела ў вачах ад рознакаляровага адзення. Ад жаночага яркага і мужчынскага цемнаватага. А настаўнікі ўсё выходзілі і выходзілі з класных пакояў, запаўнялі калідор, усміхаліся, гаманілі.

Але Іван Сямёнавіч не згубіўся ў гэтым вялікім натоўпе: ён тут быў амаль самы высокі, то добра ўсіх бачыў і яго, відаць, усе бачылі. Прыжмурыўшы вочы і паўглядаўшыся, ён прыкмеціў ля акна Зубка, поўнага, у новым касцюме, пры гальштуку, а ля яго калег-моваведаў Ларысу Іванаўну і Лілію Іосіфаўну, гэтаксама сёння лёгка і прыгожа адзетых, і ад таго, што Лілія Іосіфаўна была ў новай сіняватай сукенцы, пры прыгожай прычосцы і ў новых, з жоўтымі дужкамі акулярах, то, здаецца, і сама папрыгажэла, павесялела, не мела на твары звычайнай строгасці і незадаволенасці. Да іх праціскаўся Васілец, высокі, вясёлы, у сівым новым касцюме, у белай кашулі, але без гальштука. У руцэ трымаў тоўсты агульны сшытак — відаць, многа што запісваў, што гаварылі на іх секцыі, на секцыі беларускай мовы і літаратуры.

Іван Сямёнавіч не пайшоў да мovaведаў, не захацеў сустракацца з Зубком, пачаў выглядаць, дзе жонка і сын. Але іх хутка не ўбачыў, згледзеў чорнавалосага Давіда Мойшавіча, які праціскаўся сюды сярод настаўнікаў, вітаўся з усімі, і з ім усе віталіся. Падышоўшы бліжэй, Давід Мойшавіч крануў яго за локаць і паздароўкаўся за руку, спытаў: «Ну, як настрой?» — «Добры»,— усміхнуўся ён, радуючыся, што ўсім загадчык ківаў галавою, а з ім паздароўкаўся за руку.

Ён паважна на ўсіх паглядзеў, і бліжэйшыя настаўнікі гэтаксама з павагаю на яго зірнулі.

— Абавязкова прыязджайце на канферэнцыю,— праходзячы ля яго, сказаў яшчэ загадчык,— вы седзіце ў прэзідыуме... На ўсякі выпадак рыхтуйцеся і выступіць.

Іван Сямёнавіч адчуў, як прыемная хваля пакацілася па целе, лёгка закружыла галаву. Як дыхнуў чыстага паветра.

«Значыць, яшчэ помняць мяне, не забыліся...»

Прайшоўся па калідоры. Усміхаўся. Вось заўважыў Маю Сцяпанаўну. Гарэзна махнуў ёй рукой. У гэтую хвіліну ён быў гатовы любому незнаёмаму чалавеку зрабіць нешта толькі добрае. Ды яшчэ Маі Сцяпанаўне, якую ён хацеў апошні час мець за нявестку! Так і цягнула прытуліць яе па-бацькоўску.

Але стрымаўся. Пайшоў далей па калідоры і ўбачыў жонку, сёння гэтаксама адзетую ў новы жаўтаваты касцюм, з ладнаю прычоскаю (дачка выкручвала яе гадзіны са дзве), зусім памаладзелую. Цяпер ён заўважыў, што з жончыных валасоў выехала некалькі шпілек. Хацеў падысці і паправіць, запіхнуць іх зноў у валасы, ступіў... і прыпыніўся, адчуўшы, як шыбнула кроў у скроні. З жонкай пад руку ішла і ўсміхалася даўняя іх знаёмая настаўніца Міхаліна Карпаўна, па-ранейшаму прыгожая і ў свае пяцьдзесят гадоў.

Ён засаромеўся гэтай сустрэчы, павярнуў управа, адчуваючы, як з трывогаю і хваляваннем б'ецца сэрца: некалі, у маладосці, ён кахаў гэтую жанчыну...

Іван Сямёнавіч, калі павярнуў назад і прайшоў крыху, то ўбачыў сваіх астатніх мужчын-настаўнікаў — Вертуна, Сліжа, Міхаіла Апанасавіча і сына, якія стаялі ў кутку калідора ля смеццевай скрынкі і курылі.

— Здароў, Міхась Рыгоравіч,— прывітаўся ён з Вертуном, якога сёння не бачыў: з астатнімі ўсімі ехаў у горад

аўтобусам, а той дабіраўся, відаць, на грузавіку (сусед яго быў шафёрам).— Цікава ў вас, матэматыкаў?

— Ну...— збянтэжыўся Вяртун, тоненька пусціў уніз дым з рота, паціснуў цыгарэціну аб паперку і кінуў яе ў скрынку.— Даклады... Пераказы часопісных артыкулаў. Праўда, адзін няблага гаварыў са свайго вопыту працы...

Іван Сямёнавіч не надта слухаў Вертуна, яго непакоіла, што сын выбірае сабе іменна гэтых мужчын у сябры, падумаў, хай бы ён імкнуўся сябраваць з Васільцом.

— Што ты мне хацеў на днях сказаць вечарам? — страгавата запытаў Іван Сямёнавіч, пазіраючы Вертуну ў вочы пранізлівым позіркам.— Тады, пасля нашай гулянкі ў лесе...

Вяртун імгненна зачырванеўся, збянтэжыўся. Не вытрымаў гэтага позірку, замітусіўся.

— Ай, нічога такога...

— Можа, важнае што? — зноў строга спытаў Іван Сямёнавіч.

— Не, Іван Сямёнавіч, дробязі...— апраўдваўся расхваляваны Вяртун.

— Мо выпіць яшчэ хацеў? — нарэшце ўсміхнуўся Іван Сямёнавіч.

— Ну,— падтакнуў Вяртун і ўсміхнуўся сам з сябе.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ВОСЕНЬ І ЗІМА

### 1

— Ну, хадзем-хадзем дадому,— падспешваў Сліж, ходзячы па настаўніцкай і курачы.— Дырэктар жа і завуч пайшлі ўжо.

— Я яшчэ крыху пабуду,— адказаў Васілец, трымаючы ў руках тоўстую кнігу «Система обучения сочинениям в 4—8 классах».— Папрасіў у Алеся Трахімавіча, хачу пачытаць.

— Ды кінь ты такія сухія талмуды чытаць,— махнуў рукою Сліж.— Не надакучыла ў студэнцтве?

— Надакучыла ці не надакучыла — гэта адно,— прамовіў Васілец.— Але вось хвалюе другое: як навучыць дзяцей правільна чытаць, глыбока мысліць, рабіць свае веды перакананнем, умець пісаць без памылак? Напісалі вось васьмікласнікі сачыненне, а ў ім шмат памылак... А васьмікласнікаў нам жа сёлета выпускаць са школы... І вучні малодшых класаў пішуць непісьменна. Ва ўсякім разе, больш памылак робяць, чым таго хацелася б... А час ідзе... Вось паўмесяца вучобы ўжо прайшло... Вось ізлажэнне сямікласнікаў, сачыненне васьмікласнікаў, рабочыя сшыткі вучняў пятага і шостага класа, паглядзі...

Сліж падышоў да стала — а на ім ляжалі кіпкі сшыткаў,— узяў некалькі, пагартаў.

— Многа пахадзіў чырвоны аловак,— згадзіўся. Потым зноў адышоўся, пачаў тупаць.— Канечне, цяжка вам, моваведам. Хто выкладае вусныя прадметы, таму лягчэй. Вучні ж умеюць гаварыць і неяк адкажуць. А з вас патрабуюць, каб вучні ўмелі не толькі гладка гаварыць, але каб яшчэ ўмелі і добра пісаць. І я табе скажу, што гэта не лёгка: навучыцца пісаць без памылак... Тут мы адны, і я табе прызнаюся: і я пішу з памылкамі... Праўда, я матэматык, мне не самае важнае — пісаць без памылак, але...— і, усміхнуўшыся, прызнаўся: — Ты толькі не гавары ніко-

му, але я і да канца алфавіта не знаю. Ведаю да літары «Т», а далей блытаюся. А што за чым — «х» ці «ц», «ш» ці «ч», далібог, не ведаю... І я многіх настаўнікаў-матэматыкаў ведаю, што з памылкамі пішуць... І інжынераў, аграномаў, урачоў... Але ж ніхто нікога з работы не праганяе. Усе жывуць, працуюць, палучаюць зарплату... І нашы вучні будуць жыць, працаваць, палуча́ць зарплату і не думаць, што ты вось сядзеў і сушыў мазгі, гадаючы, як іх навучыць пісаць пісьменна...

— Дык, па-твойму, нічога страшнага няма, што ў некаторых спецыялістаў вельмі нізкая культура? Што мы, настаўнікі, працуем з бракам?

— Я не хачу за ўсіх думаць... Я раблю сваё... Даў урок — і ўсё... Хто будзе хацець вучыцца, той зразумее, хто не хоча вучыцца — таго не навучыш... А здароўе змоладу можна сабе падарваць... Як Алесь Трахімавіч падарваў... Ён і тое, ён і гэта, гатоў за вучня і сам усё зрабіць...

— Які ты быў, такі і застаўся...

— Не, брат,— усміхнуўся Сліж.— Я мудрэю. Не такі прастак, як ты. Вот ты сёлета, як... першагодак які!.. Таццяна Сяргееўна адмо́вілася ад сёмага класа, бо ён цяжкі, а ты адразу згадзіўся ўзяць над ім класнае кіраўніцтва... А нашто табе гэта? Хай бы яна і дарабляла сваё, а ты ўзяў бы чацвёрты клас. З дзеткамі малымі і лягчэй, і сам вёў бы далей... А з сямікласнічкамі ты яшчэ паскачаш... Там сама мала сем-восем чалавек будзе мець за чвэрці двойкі, а колькі троек... Там ты заплачаш не раз, пакуль у іх дысцыпліну навядзеш... Гэтакі клас!.. Мала да цябе ўжо настаўнікі падбягаюць: Павел Мікалаевіч, вашы сямікласнікі ўрокаў не робяць, урокі зрываюць!..

— Ды хапае мне з імі марокі... Пераломны ўзрост, станаўленне характараў...

— Там табе адзін вярзіла Адзінец печань з'есць... Летась нашы настаўніцы толькі тады маглі ў яго класе ўрок даць, калі там сядзеў дырэктар ці завуч... Я і то ледзь успакойваю...

— Вялікі клас,— прамовіў Васілец,— за сорак вучняў... Таму і дысцыпліна часамі не тая, адносіны да ўрокаў не тыя: адзін перад адным стараюцца пагарэзнічаць... Але ж трэба неяк знайсці да іх сцежачку, каб іхнюю энергію накіраваць у правільнае рэчышча... А як? Падкажы! Падкажы, якія віды работ праводзіць над памылкамі, як рыхтаваць да сачыненняў і ізлажэнняў, гэта значыць, сістэму ра-

боты, падкажы сістэму работы класнага кіраўніка... Як згуртаваць усіх, павесці за сабою?..

— Ладна табе,— махнуў рукою Сліж,— з табою нельга болей заставацца. Ты і, праўда, прымусіш думаць... Гарэць... Не спаць уночы... уюшыўся, дык уюшвайся. Будзь здароў! Я пабег шчы сёрбаць... І на канапцы паляжаць...

...— Ларыса,— гадаючы, як лепш з ёю загаварыць пра тое, што яго ўжо не адзін дзень мучыла, прамовіў Васілец (дасюль, познім вечарам, яны гаварылі пра школу, глядзелі кіно па тэлевізары, пісалі рабочыя планы).— Хачу табе нешта сказаць... Ну, каб не было ў нас нічога патаемнага... А каб усё было шчыра...

— Ты пра што гэта? — спытала яна, не падымаючы галавы, відаць, чакаючы пачуць ад яго яшчэ нешта прыемнае і пяшчотнае.

— Пра Таццяну Сяргееўну...— сказаў ён і адчуў, як уздрыгнулі Ларысіны плечы, але сама яна не сказала ні слова.

— Ну...— думаў ён пачаць гаворку пра гэта здалёку.

— Не трэба...— нечакана Ларыса перапыніла яго, мацней прыціснулася шчакою да ягонай рукі, пагладзіла яе.— Я ўсё ведаю, шкоднік мой.

— Што ты ведаеш? — з сорамам спытаў Павел.

— Усё,— яна жартаўліва зірнула на яго, прыжмурыла вока, як паказваючы злосць, але яе, гэтай злосці, зусім не было, бо каб яна мелася, то Ларыса «стрэльнула б» такім знішчальна нядобрым позіркам, ад якога перахапіла б у яго ад разгубленасці дыханне.— Усё ведаю,— спакойна паўтарыла яна.— Як толькі прыехаў у Міланькі, адразу пабег у школу, там і пазнаёміўся з ёю... Заходзіў пасля, вечарам, да яе, пазнавата сядзеў, жартаваў, потым яшчэ раз забягаў... Спадабаўся вельмі... Кампліментнічаў на педсавеце і ў лесе на гулянцы...

Павел, чуючы гэта, адчуў, што заліваецца сорамам.

— Ведала і маўчала гэтыя дні...— разгублена сказаў ён.

— А што я магла табе сказаць? — усміхнулася яна.— Чакала, што сам раскажаш...

— Расказваць то і няма чаго...— паспяшаўся ён па-маладому апраўдацца.— Пагаварыў як з калегам. Але калега гэты — дзяўчына, то і можна ўсякае падумаць... Але ж ты верыш, што я ніяк не мог... ну, здрадзіць табе...

— Ну, як табе сказаць...— усміхнулася Ларыса.— Спачатку ўсякае падумала, ведаючы, што яна такая прыгожая ды ўмее так добра паводзіць сябе з хлопцамі... Яна моцная саперніца, то ёсць чаго пахваляваца...

— Не хвалюйся, дарагая...— папрасіў ён.— Дазволь мне не апраўдвацца, але вер, што я толькі дзеля цябе жыву... І другая — якая б яна ні была прыгожая ці мілая — мне не трэба, не захіліць цябе...

— Дзякую...— прашаптала Ларыса, пацалавала яго ў шчаку.— Але болей не трэба і такіх выпадковых сустрэч, бо я не толькі вельмі перажываць буду, але і жыць тады не захачу... Любі моцненька толькі адну мяне...

— Толькі цябе...— зашаптаў Павел і асыпаў пацалункамі яе твар.

— А ты ёй спадабаўся...— ціха прамовіла Ларыса,— спачатку яна пакакетнічала, думала толькі пафліртаваць, а пасля і большае адчула... Яна вельмі ўлюбчывая, гэта я ведаю... Калі захопіцца, то не хутка астыне...

— Я толькі твой,— адказаў Павел,— і толькі ты мне трэба.

— І ты мне...— прамовіла яна, падняла галаву, села яму на калені, абняла за шыю, шчакою дакнуўшыся да яго шчакі.

У дзверы пачуўся далікатны стук. Ларыса саскочыла з яго каленяў і села паблізу на ложку.

Дзверы прачыніла гаспадыня і запрасіла ісці вячэраць.

Павел, выйшаўшы на кухню, у якой было ўжо добра цемнавата, адмаўляўся садзіцца за стол, імкнуўся ісці дахаты, але цёця Валя не пусціла, упрасіла застацца і павячэраць з імі.

...Калі яны, гутарачы, з'елі свежай гарачай бульбы з маласольнымі гуркамі, яечню, папілі сырадою, гаспадыня сабрала пасуду ў мядніцу, абліла яе варам і пачала мыць, а Ларыса выцерла стол.

Цёця Валя, памыўшы пасуду і заліўшы на двары агонь, на якім варыла бульбу, падалася ў лепшую палавіну адпачываць. Ларыса і Павел засталіся на кухні, не палілі святла, сядзелі на лаве пры стале і шапталіся, жартавалі ды цалаваліся.

## 2

Як праверылі сшыткі, напісалі планы, паглядзелі канцэрт па тэлевізары, Таццяна Сяргееўна і Ірына Васільеўна выйшлі на вераснёўскі, з пахам свежай раллі і паспелых яблыкаў, двор, каб пасядзець на лаўцы, падыхаць свежым ветрам.

Увечарэлася. На захадзе яшчэ слаба святлеўся небакрай, але ўжо неба цямнела, ліло сваю цемнату і на зямлю — і ад гэтага ўсё тут зліваласяу суцэльны густы морак.

Таццяна Сяргееўна і Ірына Васільеўна селі на лаўцы пры плоце, слухалі, як укладваецца спаць вёска — адзін за адным тухнуць агні ў вокнах, перастаюць рыпець дзверы, і ўсё сціхваецца. Калі дзе хто ступіць ці скажа слова — чуваць далёка.

— Нешта цяжка мне ў школе,— прамовіла Таццяна Сяргееўна,— дзеці забыліся многа за лета, не ўмеюць рашаць нават простых задач... А ўперадзе — такі складаны матэрыял... Што я буду рабіць з імі? Не ведаю. А дырэктар кожны дзень гаворыць адно і тое: ніякіх двоек у журнал не ставіць, аб'явіць вайну тройкам...

— І моваведы не знаюць, як пазбавіцца гэтых двоек ды троек,— прамовіла Ірына Васільеўна.

— І нам, матэматыкам, не лягчэй,— сказала Таццяна Сяргееўна,— яшчэ простую матэматыку з алгебраічным ды геаметрычным матэрыялам малодшыя класы сяк-так асільваюць, а ў старэйшых — сямікласнікаў ды васьмікласнікаў — па алгебры і геаметрыі проста бяда... Ці навука гэтая сухая, ці я не ўмею цікава вучыць — ніяк не магу дзяцей зацікавіць, дабіцца, каб яны добрыя веды і адзнакі мелі... Ці, можа, трэба болей папрацаваць, навучыцца яшчэ настаўнічаць?.. Але не, не хачу я быць настаўніцай, не разумею дзяцей... Няма ў мяне з імі ладу, мне трэба толькі са сталымі, а не з малымі...

Ірына Васільеўна слухала, бо была заўсёды не вельмі ахвочая да гутарак, да разважанняў. Яна рабіла ў школе ўсё, што магла, што падказвалі настаўнікі ці дырэктар, ведала, што сціпла робіць, і пра школьную сваю працу амаль ніколі не гаварыла. Ды думала, што піянерважатай яна працуе часова. Налета Святлана Міхайлаўна пойдзе на пенсію — і яна будзе выкладаць біялогію, якую вельмі любіла, мела да яе вялікую ахвоту.

— І ўвогуле — сумна...— уздыхнула Таццяна Сяргееўна.— Цёмна, спяць усе, а ты, адна, сядзі во на лаўцы, гукай у неба... А маладосць праходзіць... Божа мой, мне ўжо дваццаць пяты год! Я ўжо старая...

Яна замаўчала, калі пачула яшчэ здалёку крокі, што прыбліжаліся сюды.

Гэта ішоў Павел Мікалаевіч. Падаваўся, канечне, да Ларысы Іванаўны.

— Прахалоджваецеся і ўдыхаеце вераснёўскі арамат? — усміхнуўся ён, заўважыўшы іх на лаўцы, але не прыпыніўся, зашамацеў балоневым расхінутым плашчом і падаўся далей, праз хвіліну якую знік з вачэй, чуліся толькі яго крокі.

— Які ён пагардлівы!..— хмыкнула Таццяна Сяргееўна.— Яшчэ з іроніяй: удыхаеце вераснёўскі арамат!..— перадражніла.— Але во я пазбавілася, то хай цяпер ён паскача са сваімі сямікласнічкамі... Яны надта не паддадуцца яму ды яго эксперыментам... Міланьскі Сухамлінскі!..

— Але ж усе гавораць, што з першых дзён не пазнаць сямікласнікаў,— сказала Ірына Васільеўна.— І ўсе ў школу ходзяць, і на ўроках ціха сядзяць...

— Гэта яшчэ не ўсё! — махнула рукою Таццяна Сяргееўна.— Глядзяць не толькі на кветкі, а на плады... Паглядзім яшчэ, якія гэтыя плады будуць пад канец чвэрці... Там жа столькі патэнцыяльных двоечнікаў... І іх жа ніякімі намаганнямі не падцягнеш па ўсіх прадметах да тройкі... Па мове і матэматыцы ўдвайне. Ды я па матэматыцы нізашто ім не пастаўлю тройкі...

— Ён учэпісты, як відаць,— заступілася за Васільца Ірына Васільеўна.— Вось і да мяне падышоў у першы ж дзень працы і кажа: давайце разам падумаем, што мы можам зрабіць цяпер і ў хуткім будучым у сёмым класе па піянерскай лініі... На перапынках з сёмага класа амаль не выходзіць, правярае, ці падрыхтаваліся дома і да іншых — не толькі яго — урокаў, дамовіўся з дзецьмі, хто з іх і каму будзе дома памагаць...

— Адзінцу і яму падобным, мая мілая, надта не паможаш. Усе дапамогі — як гарох ад сцяны... Усё яшчэ з пачатковых класаў запусцілі, а цяпер не хочуць і не ўмеюць вучыцца. Летась я паспрабавала з імі пазаймацца — ды і махнула рукою пасля... Толк адзін... Толькі час свой страціш ды нервы свае сапсуеш... А нашто мне раней часу маршчынець? Вучу — дык вучыся, не хочаш — як хочаш... Не

хітрую так, як Уладзімір Пятровіч, абы ўрок даць, вучу, як магу, як ведаю, але перанатужвацца не хачу... Ды і падзяка адна, грошы адны... А маладосць сваю згубіш і нікому патрэбная не будзеш... Аддаў сумленна сваё, а вы — як хочаце...

— Але дзеці і несвядомыя,— сказала Ірына Васільеўна.— Не разумеюць усяго ў пару, пасля толькі ўжо абдумваюцца. То трэба і падказаць ім, і натхніць, і, можа, прымусіць нават... Так і Алесь Трахімавіч, Ларыса, Лілія і Васілец працуюць...

— А я не буду так,— прамовіла Таццяна Сяргееўна,— хай пасля абдумваюцца і каюцца, а мне цяпер нерваў не псуюць...

— Пакаюцца, канечне. Але і настаўніка папракнуць...

— А, усё роўна!

Сказала так — порстка і адчайна — і замоўкла. Ірына Васільеўна ўжо ведала, што тая болей пра школу не скажа ні слова. І нічога болей можа не сказаць, памаўчыць, пакліча спаць. Ляжа, заплюшчыць вочы і будзе думаць. Апошнія часы яна стала меней гаварыць, а болей думаць. Ва ўсякім разе, нават летась была весялейшая, здаецца, пра ўсё мела сваю думку, лічыла, што іменна яе гэтая думка самая правільная. Сёлета і ў школе, і дома болей маўчыць...

Але Таццяна Сяргееўна не клікала яе ісці ў хату, моўчкі сядзела, прыхінуўшыся да плота і махала пад лаўкаю нагою.

«Дзіўная яна, гэтая Таня...— падумала Ірына Васільеўна.— Гаварыла вось ледзь не са злосцю: не люблю работу, не буду старацца дзеля дзяцей. Але ж гэта не так. Гэта яна сказала пад настрой. Калі нешта добра ўдаецца ў яе, у дзяцей, дык радуецца. Калі не выходзіць, дык перажывае... Не абыякавая, як нагаворвае на сябе...»

Ірына Васільеўна зірнула на сяброўку: тая маўчала. Пазірала некуды ў цёмную далеч.

«Бедная! — сціснулася сэрца ў Ірыны Васільеўны.— І як ёй памагчы з такім нялёгкім характарам? Як яе навучыць быць спакайнейшай, не такой нервовай? Здаецца ж, і прыгожая, і разумная, і хлопцаў шмат мае, а ўсё роўна нечым незадаволеная... А што ж тады мне рабіць? Мне ж яшчэ і вучыцца шмат завочна, і маме, хворай ды адзінокай, трэба памагаць... Калі дадуць налета ўрокі, дык трэба вучыцца і самой іх даваць...»

З-пад Вішнёўкі азваўся матацыкл.

— Сюды ці не сюды едзе? — запытала Таццяна Сяргееўна.

Матацыкл, здаецца, ля школы павярнуўся і панёсся зусім у іншы бок. А тут стала яшчэ больш цямней і здаравей: поўз і поўз асенні холад.

## 3

Раніцай выдаўся туман. Ён схаваў неба, лес, далягляды. Яшчэ ў вёсках — у Міланьках і ў Вішнёўцы — ён быў радзейшы, а на полі здаўся белы, такі густы, што не было нічога відаць перад сабою за крокаў дзесяць.

Але на тарфянішчы, дзе была вішнёўская бульба, з самага рання гуў трактар, цягнучы за сабою бульбакапалку. Калі прыйшлі сюды дзеці з настаўнікамі, на полі ўжо ляжала шмат выкінутай наверх бульбы, якая за гэты час паспела ўжо аб'інець. Шмат інею і халоднай расы было на бульбянішчы, на зямлі, ад чаго абутак мігам намакаў і брудзіўся.

Праўда, дзецям, абутым у гумовікі, адзетым у куртачкі ды ў цёплыя штонікі (Сліж і Беленькая гэтаксама абулі гумовыя боты, цёпла адзеліся), гэта надта не шкодзіла.

Таццяна Сяргееўна прайшла крыху за ўсімі па тарфянішчы, яшчэ болей намачыла туфлі, набрала ў іх торфу.

— Ты як на танцы адзелася...— паківала ёй галавою Святлана Міхайлаўна.— Нябось холадна?

— Ды крыху...— усміхнулася яна.

— Крыху, крыху! — перадражніла тая.— Эх ты, Таццяна Сяргееўна! Нейкая ты... Як быліначка...

— Якая ёсць, такая ёсць,— усміхнулася Таццяна Сяргееўна, адчуваючы, што напраўду холадна ў нogі, няўтульна. Але стрымалася, каб не зморшчыцца.

— Ідзі ты да агню, дзіця, і пагрэйся,— з клопатам сказала ёй Святлана Міхайлаўна.— Мы з Уладзімірам Пятровічам і без цябе зладзім.

Таццяна Сяргееўна паслухала, падалася з тарфянога мокрага поля на груд, дзе ўжо добра ўгарэлася галлё, ускаквала ўверх чырвонымі языкамі полымя, і адразу за языкамі агню дрыжала цёплае паветра.

Яна падгарнула галінаю галавешкі ў жар, накідала наверх яшчэ шмат галля, села на прыцягнутым сюды дзецьмі пні, зняла з ног туфлі, вытрасла з іх пясок. Туфлі паставіла паблізу агню, а схаладнелыя ногі прыблізіла да

прысаку. Грэлася і абірала са штаноў ваўчкі, чуючы, як цяплее.

Туман, здаецца, радзеў, спаўзаў да лесу і ў лагчыны, падымаўся над зямлёю, хоць усё яшчэ за ім неба не было відаць.

З натугаю лапатаў трактар, моцна гаманілі дзеці.

«Божа! — думала Таццяна Сяргееўна.— Няўжо я калі прывыкну да вёскі? Няўжо выйду тут замуж і сама буду вось так працаваць?»

...Бацькі прыехалі да яе на ўласным «Масквічы» ў нядзелю, пад гадзін адзінаццаць дня.

Яна яшчэ спала. Адна. Бо Ірына Васільеўна ўчора, суботаю, пабегла да сваёй маці, падалася памагаць выбіраць сёння бульбу, а гаспадыня гэтаксама пазнавата паднялася, ухаджалася, у гадзін дзесяць клікала снедаць, але яна адмовілася, паляжала, а пасля зноў заснула.

Пабудзіла маці — высакаватая, яшчэ прыгожая, стройная і зусім маладая для сваіх сарака двух гадоў жанчына. І модная. Вось і сюды прыехала ў жоўтым модным плашчы, з хусцінкаю на шыі. Нібы і не маці. Нібы нейкая старонняя, чужая жанчына.

— Падымайся, соня! — турзала яна.— Добры дзень, доча!

— Здарова, мама! — сонна адказала Таццяна Сяргееўна, падставіла матцы шчаку і, калі тая пацалавала, зірнула на дзверы і ўбачыла паблізу бацьку — высокага, амаль зусім ужо лысага, з вялікім ілбом і шырокім малазагарэлым тварам.— Добры дзень, татачка!

— Здарова,— адказаў той, але не падышоў бліжэй, як засароməўся. Разглядаў рамкі з фотаздымкамі.

— Ты ўсё на свеце, доча, так праспіш...— далікатна папікнула маці, усміхнулася, а пасля адчыніла сваю жоўтую сумачку, дастала адтуль люстэрка і паглядзелася, паправіла на галаве парык.

Таццяна Сяргееўна, усміхаючыся, паглядзела на гэтыя матчыныя прыхарошванні і нечакана падумала, што не вельмі рада гэтаму прыезду маці, бо тая заўсёды болей глядзела сябе, чым яе, дачку. Яе гадавалі бацька і яго маці, бабуля.

— Куды мне, мама, спяшацца? — уздыхнула яна.— Сёння не ісці на саўгаснае поле выбіраць бульбу, дык усё

роўна дзень цэлы буду сядзець у гэтай хацінцы ці на двары на лаўцы...

— Так, дзіця маё, трапіла ты ў глуш...— пашкадавала яе маці, зачыніла сумачку.— Я б тут не была і дня...

— А я лёсам, мамачка, прыгаворана да Міланек...

— Гэта ён вінаваты...— са злосцю зірнула на бацьку маці: яна заўсёды з ахвотаю і без літасці ва ўсім яго папікала.— Каму каму, а табе, адзінай дачцэ, мог бы памагчы...

Бацька зморшчыўся і нічога не адказаў.

Таццяна Сяргееўна на яго ніколі не крыўдзілася. Паважала. Сам ён з вёскі, з вялікай сям'і, адваяваў, пасля вывучыўся за інжынера і вось стаў дырэктарам буйнага завода. З жонкаю — прыгожаю, але вельмі капрызнаю — ён нямала папакутаваў, урэшце здаўся, дагаджаў усім яе капрызам. Маці нідзе ніколі не працавала, хадзіла ў кіно, бавіла час з гэткімі, як і сама, сяброўкамі, ездзіла часта адпачываць на поўдзень, а некалькі разоў наогул пакідала іх на цэлае паўгода, пасля вярталася, была на першым часе добрая, уважлівая.

— Але такі ў цябе, доча, бацька... Чэсны і справядлівы! — з іроніяй сказала маці.— Хоць сказаў бы ў гарана толькі адно слова — і ты была б у добрым месцы ўладкавана...— і яна, як шкадуючы дачку, усхліпнула, але тут жа, відаць, збаялася, што пацячэ туш з павек, дык перастала ўсхліпваць і акуратна выцерла ражочкам хустачкі вочы.

— Табе вельмі цяжка тут, не падабаецца? — спытаў нарэшце бацька.— З калектывам не ладзіш, дырэктар прыдзіра?

— Не, татачка,— усміхнулася яна.— Дзякую. З усімі я ладжу, і дырэктар дарэмна не прыдзіраецца. Папрацую яшчэ тут: не такая ўжо глуш гэтыя Міланькі. Вёска як вёска.

Маці з рэўнасцю зірнула на яе, што яна, дачка, дзякуе не ёй, а бацьку.

— Тады працуй, а не лічы, колькі тут парабіла ўжо, колькі яшчэ пабыць...— сказаў ён.— А то і сама не будзеш мець ахвоты да працы, і людзі не будуць паважаць.

— Пажадаў адзін: цягні, дачка, воз! — хмыкнула маці, а пасля пагладзіла яе па руцэ.— Працуй, Танька, астатні год тут, нідзе не дзенецца, уладкуе пасля цябе ў нашым гарадку. Выйдзеш замуж, дык кааператыў пабудуем... Іваноў вунь сваю дачку перавёў аднекуль з Брэстчыны, уладзіў, замуж добра аддаў і кааператыў паставіў. А дачка

Красоўскага — у нейкіх Міланьках. Аж сорам каму пра гэта гаварыць...

— Рашай сама...— прамовіў бацька.— Не можаш прывыкнуць да вёскі, дык памагу перабрацца. Ды і нам будзе лягчэй, весялей...

Ён сказаў «нам», але яна адчула, што іменна ён без яе сумуе.

— Дзякую, татачка! — зноў іменна яму падзякавала яна.— Налета я напраўду, можа, прыеду дадому, бо не магу тут... Астатнія могуць, а я не...

Бацька палагаднеў, павесялеў, міргнуў ёй вокам. І яны адно аднаму ўсміхнуліся.

Маці ж, заўважыўшы гэта, схмурнела. І позірк яе, здаецца, гаварыў: «Ты мяне зусім не любіш, доча...»

«Не ведаю, мама...— гэтаксама позіркам адказала яна.— Я так мала цябе ведаю... Ты ніколі нават са мною добра і не пагаварыла, не паразважала... Я толькі і чула ад цябе, што трэба шанаваць сябе, жыць весела і лёгка... Але ж у жыцці ўсё яно іначай, у жыцці трэба разбірацца...»

— Нейкая дзіўная ты, доча...— паціснула плячыма маці.— Ці не закахалася ты?

— Хто кахае мяне, таго я не кахаю. Каго кахаю я, той мяне не кахае...— з жартам адказала яна.

4

— Дай мне, калі ласка, сваіх заколак,— прамовіла Мая Сцяпанаўна. Яна стаяла ля шафы, глядзелася ў люстэрка і ладзіла прычоску.— І кінь ты гэтую сваю работу — сшыткі... Сёння ж нядзеля, трэба і адпачыць, пагуляць... А мы толькі адно ведаем: у школе работа, дома работа...

Лілія Іосіфаўна моўчкі паднялася, падышла да сваёй сумачкі, дастала і падала сяброўцы пачачку чорных, перавязаных яшчэ фабрычнай паперкай, заколак.

— Дзякую, Лілечка,— усміхнулася тая. Разарвала паперку і пачала прыколваць валасы.

«Прыгожая,— падумала Лілія Іосіфаўна, пазіраючы на сяброўку.— І зусім яшчэ маладая. Дваццаць год яшчэ толькі. Не тое што мне — дваццаць сёмы... Мала што прыгожая, дык яна яшчэ і шчаслівая. З усімі яна добра ладзіць, усе яе любяць... Вясёлая... Не тое што я... Сумная і нецікавая...»

— Ды праўда, не марней ты гэтак над сшыткамі,— прамовіла Мая Сцяпанаўна.— Скінь халат і адзень новую сукенку. Пойдзем куды і пагуляем. Ды і хлопцы ж вот-вот прыйдуць...

— Хлопцы!..— схмурнела Лілія Іосіфаўна.— Васіль твой хай заходзіў бы, а гэты чаго?

— Як чаго? Да цябе ж ходзіць.

— Перастань! — не вытрывала, злосна сказала Лілія Іосіфаўна.

«Я правяраю дыктоўку, перажываю за кожную двойку і тройку,— падумала,— а вось Мая так не перажывае. Паспала ўдосталь, тэлевізар паглядзела, выхарошваецца і хлопца чакае... І яна шчаслівая, ні пра што не бядуе... А я...»

І нібы невідушча зірнула ў акно. За ім пачало ўжо шарэць. Дзьмуў вецер, хіляў голае веццe дрэў, страсаючы з іх кроплі. Дождж ішоў яшчэ і сёння, у першыя дні лістапада.

«А я напраўду, мусіць, нешчаслівая...— падумала.— І адчула гэта яшчэ ў дзіцячым садзе. Як цяпер, помню адзін дзень. Гуляем мы, дзеці старэйшай групы. Мяне пацягнуў балюча за валасы хлопчык. Я заплакала, падбегла да маладой выхавацелькі паскардзіцца. Тая суцешыла мяне і зноў пачала гаварыць з мамай адной з дзяўчынак.

«Бывае вось такое...— ціха сказала тая мама.— Бацькі прыгожыя, а вось дзяўчынка іхняя такая брыдзенькая... Нешчаслівая будзе...»

Засела мне тое слова ў памяці. Прыйшла дадому, пытаюся ў мамы: «Мама, што гэта такое: брыдзенькая?» Мама распытала пра ўсё, папрасіла мяне не зважаць на тое слова, а сама ўпотай выцерла слёзы...

Але тыя горкія словы справядлівыя: не стараліся падружыцца са мною хлопчыкі ў школе, ніхто не пакахаў мяне ў інстытуце, абыходзяць мяне і цяпер... Высозная я, худая, непрыгожая... А для жанчыны ўсё ж, што ні гавары, перш за ўсё краса патрэбна...»

— Дык не будзеш пераадзявацца? — перапыніла яе думкі Мая Сцяпанаўна.— Праўду ж кажу: і Іван прыйдзе...

— Тады і я праўду табе скажу... Твой Васіль прыводзіць яго сюды, каб той «забавіў» мяне, каб яму, твайму Васілю, можна было вывесці цябе з хаты... І, па-другое, вам абаім хочацца і пажартаваць нада мною... Дык папра-

шу цябе шчыра: перастаньце пасміхоўвацца! Я ж вам не дзяўчынка...

— Ды Іван неблагі хлопец...

— Ведаю, які ён хлопец. Валацуга і п'яніца... Цягаецца па ўсім свеце і нідзе не можа запыніцца... Бо не любіць работы...

Лілія Іосіфаўна вярнулася да стала, села. Чытала, але не запамінала слоў. Усё ў галаве як мітусілася: Мая, яе хараство, шчасце, яе насмешкі, Іван... «Брыдзенькая, нешчаслівая...»

— Паглядзі, Ліля, калі ласка, як я цяпер выглядаю...— сказала Мая Сцяпанаўна з ласкаю.

— Ды добра,— хутка азірнуўшыся, прамовіла Лілія Іосіфаўна.

І міжволі залюбавалася: Мая Сцяпанаўна стаяла ўжо ў чорным прыталеным касцюмчыку, пад пінжачком якога быў белы тонкі світэр, на нагах былі руда-бурачковыя калготы і чорныя туфлі.

— А брошка гэта падыдзе? — запытала Мая Сцяпанаўна, прыкладаючы да штрыфеля пінжачка брошку — два рудаватыя жалуды з зялёным лісточкам.

— Падыдзе. І Васілю твайму спадабаецца...— усміхнулася.— І бацькам яго...

Мая Сцяпанаўна са здзіўленнем зірнула на яе. Нібы разгубілася.

— Я так і адчувала, што вы можаце падумаць... Што я з Васілём толькі таму і хаджу, што ён дырэктараў сын...

— Ды не...— збянтэжылася Лілія Іосіфаўна.— Я так не думаю...

У сенцах пачуліся тупатня ды гоман.

— Ідуць! — з хваляваннем прашаптала Мая Сцяпанаўна, адскочылася ад люстэрка, села паблізу за стол, узяла ў рукі новы часопіс.

Госці павіталіся на кухні з гаспадыняю, пастукаліся і зайшлі сюды. Васіль і вішнёвец Іван.

Абодва высокія, адных гадоў — пад дваццаць чатыры. Але і розныя. Васіль быў у адпрасаваным касцюме, у белай кашулі і пры гальштуку, у расхінутым белым плашчы. Іван — сімпатычны, з вялікаватымі чорнымі вачыма, з кірпатым носам — быў у некалі чорных, а цяпер бліскучых, пакамечаных штанах, у шэрым зношаным пінжаку, на зялёнай кашулі не было некалькіх гузікаў.

— Ну, як жысць маладая, вучыцелькі? — як і заўсёды,

смела запытаў Іван, падышоў і сам падаў ім, дзяўчатам, руку для прывітання.

Лілія Іосіфаўна хуценька забрала сваю, адышлася, села ў куток.

— Добрая, Ваня,— адказала і за яе, і за сябе Мая.

— Прашу частавацца,— сказаў Іван, спачатку Маі, а потым ёй падаў некалькі цукерак-дзюшэсак.

— Дзякую, Ваня,— усміхнулася Мая Сцяпанаўна, але неўпрыкметку для Івана паклала цукеркі за стосікі сшыткаў на стале.

— Дзякую,— прамовіла і Лілія Іосіфаўна.— Толькі я не ем цукерак. Зуб баліць.

— Чаго ж ён табе баліць, золатца? — падсеў да яе Іван.

Мая Сцяпанаўна падсунулася бліжэй да Васіля, падміргнула яму, а пасля, закрываючы рот рукою, і засмяялася, бачачы, як саромеецца яна, Лілія Іосіфаўна, што Іван падсядае бліжэй, так смела пазірае ёй у вочы, мяркуе пусціць у ход свае рукі.

— Баліць зубок, дык золатца такое злоснае сёння? — пацвельваўся ён.

Лілія Іосіфаўна нічога яму не адказвала, толькі сярдзіта зірнула на сяброўку — тая не магла стрымацца ад смеху.

Мая Сцяпанаўна раптоўна перастала ўсміхацца, перазірнулася з Васілём і, канечне, ужо добра ведаючы гэтыя позіркі адно аднаго, падалася з хаты. Яны часта так удваіх сыходзяць, і адзін бог ведае, дзе яны гуляюць.

— Дык які зубік баліць? — не адставаў, дапытваўся Іван.

— Не мяшайце мне, калі ласка, бо трэба на заўтрашняе праверыць дыктоўкі...— спакойна адказала яму Лілія Іосіфаўна.

— Дыктоўкі, дыктоўкі! — перакрывіў яе Іван, сеў зусім блізка.— Так і ўся жысць пройдзе ля гэтых дзіктовак... А вы ж маладыя, золатца...— і ён шчыпнуў яе за бок.— Адсуньце падалей гэтыя дыктоўкі, давайце лепш пра любоў пагаворым.

— Ой! — віснула Лілія Іосіфаўна, са страхам ускочыла з крэсла і адбеглася да акна.— Перастаньце, калі ласка! Вы п'яны...

— Я, золатца, п'яны? — як здзівіўся Іван, паволі падняўся і ступіў да яе.— Ды я па адной масніцыне прайду...

Яшчэ ступіў крок-другі, хіснуўся і абапёрся аб шафу.

— Я ж цябе люблю, золатца. Ніхто не любіць, и я люблю. Хочаш, я вазьму цябе замуж? Хочаш?

— Нашто вам рабіць такую ахвяру? — з іроніяй адказала Лілія Іосіфаўна, стараючыся вытрымаць яго бессаромны позірк.

— Мы не будзем жыць тут, у глушы, а паедзем у горад,— гаварыў ён.— Ты не бойся, што ў мяне толькі сем класаў, што я шафёр, ротам, маўляў, гляджу... Не бойся, золатца. Я маю ў тыдзень гэтулькі, колькі вы са сваёй сяброўкай удваіх і ў месяц не маеце... Я цябе адзену і абую, як каралеву, золатам з ног да галавы абчаплю, будзем у рэстаранах толькі папіваць ды паядаць...

Лілія Іосіфаўна слухала-слухала ды ўсміхнулася, паківала галавою.

— Ты не верыш мне, думаеш, што хвалюся? — узгарачыўся Іван.— А ну, дай мне паперы і які аловак. Дай-дай! — і, не дачакаўшыся, сам узяў на стале з кіпы сшытак, вырваў з яго сярэдзіны — што яна толькі зяхнула ад абурэння — два лісты, схапіў чырвоны яе аловак, нагнуўся над сталом і пачаў нешта пісаць.

А пасля разагнуўся, падаў ліст ёй.

«Лілія яй богу небуду пиць. Будзь маёй жаной»,— прачытала яна і зноў усміхнулася.

— Чаго смяешся? — абурыўся ён.— Я ж не настаўнік, можа, і з памылкамі напісаў... Я вось бяру цябе замуж, не зважаю, што ты застарая для мяне ды такая доўгая...

— Гэта не адно і тое ж...— яна пакрыўдзілася, але прамовіла вельмі спакойна.— Хоць мяне, старую такую, ніхто, як вы кажаце, не бярэ замуж, але я сама за вас, такога прыгожага, багатага, ніколі не пайду.

— Чаго ты капызішся? — ён злосна прыплюшчыў вочы.— Бяру, дык ідзі... А то адумаюся, не такую сабе знайду.

— Адумайцеся,— сказала яна.— І чым найскарэй.

— Ну ладна, я пажартаваў,— усміхнуўся ён.— Не злуйся. Мір. Давай лепш палюбімся...— і, усміхаючыся, хутка ступіў, абхапіў яе пад пахі.

— Толькі без рук! — крыкнула яна і, абараняючыся, так піхнула яго ў грудзі, што ён паваліўся на стол, пасунуў яго перад сабою ўздоўж сцяны.

— Цёця, цёця! — каб прыстрашыць, яна паклікала гаспадыню.

— Ты на каго гэта руку? — усхапіўся, зачырванеўся Іван.— я... Ды тут ніхто мяне не варты. Я ў Маладзечна, Бабруйску, Друі быў... У мяне артысткі, пявіцы ў палюбоўніцах былі. Не гавару ўжо пра студэнтак, жонак шафяроў...

— Ідзіце вон! — спакойна прамовіла яна.

— Што? — як не цаверыў ён.— Ты каго праганяеш?

— Вас, вас...— паўтарыла яна.— І каб болей нага тут ваша не ступала!

— Як ты можаш так на мяне? — насупіўся ён.— А ну паўтары!

Лілія Іосіфаўна, не на жарт узлаваўшыся, з рашучасцю падышла да яго і — колькі мела сіл — крутнула яго і паштурхала ў спіну перад сабою. Выпхнула за дзверы пакоя, зашчапілася.

Ён ірваў на сябе клямку, лаяўся.

Яна, каб не чуць, села ля стала на крэсле. Не магла пакуль што правяраць дыктоўкі, залажыла вушы рукамі і сядзела ціха, моўчкі, чакаючы, калі вернецца з двара гаспадыня...

...Калі Лілія Іосіфаўна канчала правяраць дыктоўкі, пачула, што нехта шпарка ўбег у хату.

Яна хуценька падхапілася: сюды ўварвалася расчырванелая, са збітаю прычоскаю і ў змятым касцюме Мая Сцяпанаўна, не зірнула нават на яе, пабегла за перагародку да свайго ложка. У спальні скінула з ног туфлі, марсянула пакрывала ды ссунула набок падушкі і, не распранаючыся, шмыганула пад коўдру, накрылася з галавою.

— Што такое, Маечка? — устрывожылася Лілія Іосіфаўна, пакратала сяброўку за плячо, цяпер зусім забываючыся на нядаўнюю крыўду на яе.

Мая Сцяпанаўна не адказвала. Здаецца, плакала.

— Маечка, скажы хоць слова...— прасіла Лілія Іосіфаўна.

— У вас Янака майго няма? — пачула праз дзверы Лілія Іосіфаўна незнаёмы жаночы голас, што тоненька гучаў на кухні.

— Не, няма,— адказала гаспыдня.— Ды чаго ён павінен быць?

Было яшчэ сёння, у панядзелак, даволі рана. Можна было не завіхацца падымацца і паляжаць у цёплай пасце-

лі, настроіцца на апошні тыдзень працы: за ім пачнуцца асеннія канікулы. Прыйдзецца і парадавацца, і пазасмучацца, прыйдзецца ўбачыць сваю настаўніцкую двухмесячную працу вокам ды ў думках, вывесці дзецям ацэнкі за чвэрць... І не толькі вучням, але і сабе...

Лілія Іосіфаўна, можа, яшчэ паспала б, але як загаварылі на кухні, дык яна і прачнулася, міжволі прыслухалася...

Побач, на другім ложку, што стаяў усутыч, спала Мая Сцяпанаўна — праз білы бачылася яе галава і крыху агаленыя плечы. Ноччу, як было чутна, яна ўсё-такі паднялася, раздзелася, дастала з валасоў заколкі, зняла шыньён. Але заколкі і шыньён паленавалася несці да стала, то папусціла адсюль туды, але не трапіла ў цемнаце, кінула долу. Спала яна ноччу неспакойна — часта варочалася на пасцелі, уздыхала, штосьці бубніла сабе і, здаецца, плакала...

— Я чула, што ён тут...— зноў пачуўся з кухні незнаёмы голас.

— Быў звечара, але потым пайшоў...— адказала гаспадыня.

— Няма дома... То я і падумала...

— То заначаваў недзе...

— Можа...— згадзілася госця.— Я дык і не чула, што ён да тваёй кватаранткі ходзіць... Ціхая такая, ні з кім, як чула, не дружыць... Але во сказалі людзі, дык нават не паверыла...

— Як ён там ходзіць! — сказала гаспадыня.— Заходзіў два ці тры разы. І то не адзін, а з Рагаткавым хлопцам.

«Янак... Кватарантка...— падумала Лілія Іосіфаўна.— Дык гэта ж Іван і я... І маці яго...»

Здагадаўшыся пра гэта, яна ўспыхнула ад сораму.

— Па мне хай ходзіць, сам выбірае...— лепятала госця.— Я ж ці бацька не будзем яму выбіраць, каб папікаў пасля... Толькі ж, Манечка, нейкая яна надта худая гэтая настаўніца... Ці не хворая яна?

— А ты надта поўная была, як за свайго Юзю ішла? — незадаволена запытала гаспадыня.— Ад ветру, здаецца, падала... А цяпер... як печ во гэта... Рост ды хвігура такая...

— Ну, Манечка, праўда твая,— згадзілася госця,— як чалавек добры трапіцца, будзе глядзець, ды дзеці пойдуць, то і нарасце ўсё... Абы здароўе было. А Янак мой...

— Ды ведаем твайго Янака...— прамовіла гаспадыня, і відаць было, што нечага і не дагаварыла.

— Крыху во чарку любіць...— паасцерагалася, пачуўшы гэта, многа хваліць свайго сына госця.— Але хто не п'е яе, гэтую халеру?.. Раздурыліся...

— Як хто...— сказала гаспадыня.— Адзін, дык і праўду, набіраецца што жаба гразі, а другі стрымліваецца ўмее, у меру п'е, капейку шануе, здароўе глядзіць... А за п'яніцам,— яна пачала гаварыць галасней, каб, мусіць, гэта чула і яна, Лілія Іосіфаўна,— а за п'яніцам няма шчасця... Ні сам п'яніца, ні сям'я яго добра не апрануцца і сыта не наядуцца... І век калатэча ў хаце...

— Ну, Манечка...— пагадзілася госця.— Ад п'янага і чорт уцякае... Але яшчэ многа значыць, якая жонка трапіцца. Калі і яна такая будзе, то ўсё прагуляюць, калі ж разумная ды гаспадарлівая знойдзецца, то можа і перайначыць...

— Перайначыць ці не перайначыць, але век гараваць будзе...— зноў голасна сказала гаспадыня.

— Горка рэдзька, ды ядуць, блага замужам, ды ідуць...— схітрыла госця.— Я вось, Манечка, і падумала, хай бы мой Янак і хадзіў да тваёй настаўніцы... Дзеўка пры чысценькай рабоце і пры грашах, сталая. Не вялікая бяда, што худзенькая ды тварам не красуня вялікая, пройдзе час, дык, як і ва ўсіх, краса тая будзе... Як ва ўсіх старых... Маткі ды бацькі надта ён не слухае, а вот жонку, можа, болей паслухаў бы... Бо маці датуль міла, пакуль полачкі мыла, а тады ўжо жонка міла...

«О божа! — уздыхнула Лілія Іосіфаўна.— Усюды павінна я быць толькі выхавацельніца... А пра душу маю ніхто не думае...»

— Нічога не магу табе сказаць...— адказала гаспадыня.— Ніякая я табе не сваццяя. І не хачу ёю быць, хай самі разбіраюцца. Дачцэ сваёй роднай я і то нікога не сватала і ад нікога не адгаворвала... Бачылі вочы, што куплялі... Выйшла — за каго захацела...

— Якое тут сватанне...— як адступіла госця.— Скажы ёй, што сям'я наша хоць і не дужа граматная, век тут, у дзярэўні, жыве і робіць, але харошая. Працавітая, далікатная. І я баба не згрызлівая, і чалавек мой неблагі... І ў Янака душа добрая. Бывала, як быў маленькі, з кожным першым-сустрэчным павітаецца, усё аддасць, што мае...

— Хай самі рашаюць...— адказала гаспадыня.— Я не буду мяшацца.

— Ну, канечне, Манечка, самі. Але ты скажы, што я казала... Пабягу, а то гэтаксама печ гарыць. Ён ужо глядзіць, бубнець будзе, што загулялася, ды і Янака трэба збіраць — паедзе ў горад работы шукаць...

Лілія Іосіфаўна маўчала, думала, што не трэба ёй ніякія такія Іваны, за якімі будзе адно толькі гора. Маўчала і Мая Сцяпанаўна. Другім разам, чуючы гэта, жартавала б з яе, смяялася б, а цяпер — як вады ў рот набрала.

— Мая, Мая! — яна ціха паклікала сяброўку.— Ты спіш?

— Не,— гэтаксама ціха і стомлена адказала тая, павярнулася на другі бок, як і ўчора, пастаралася не паказваць свайго твару.

## 5

Толькі што закончыўся апошні, шосты, урок.

— Ну, а цяпер пакажыце, калі ласка, што вы прынеслі,— прамовіў Васілец, стоячы каля стала і пазіраючы на сваіх сямікласнікаў.

Усе вучні дасталі з парт свае сумкі, пачалі корпацца ў іх. Падаставалі здымкі, лісты, канверты.

Васілец падышоў да першай парты. Тут сядзелі самыя малыя па росту дзяўчынкі. Абедзве добрыя вучаніцы.

Клава падала стары жаўтаваты здымак. Зірнуў на яго: стаіць групка малых дзяцей у насунутых на вочы вушанках, у доўгіх світках. Пасярод іх — высокі мужчына ў паліто, у капелюшы, пры белым шаліку і ў акулярах.

— Гэта настаўнік,— устала і падказала Клава.— А гэта мой дзед.

— Добра,— сказаў Васілец, перавярнуў картку і прачытаў на адвароце: «Матусевіч Іван з настаўнікам і з сябрамі. 1910 год».

Пайшоў далей па праходзе і збіраў усё, што давалі дзеці. А яны растлумачвалі:

— Мой бацька...
— Мой бацька і мая маці...
— Дзедава грамата за работу...
— Бацькавы медалі за вайну...
— Мой брат...
— Мая сястра...

— Матчын ордэн...

— Наша школа ў трыццатым годзе...

— Добра,— радаваўся Васілец. Як сабраў усё, вярнуўся да стала.— Дзякуй вам і вашым родным. Скажыце ім, калі ласка, што мы захаваем іхнія рэліквіі. Зробім для сябе фотакопіі, а арыгіналы аддадзім... І слаўны будзе альбом! І пра гісторыю, і пра сённяшні дзень нашай школы. І вы самі ўбачыце: не такая ўжо звычайная наша школа. Хоць у ёй і не вучыліся будучыя касманаўты, міністры, пісьменнікі, але ў нас, як выходзіць, як успомніць, вучыліся будучыя артысты, настаўнікі, афіцэры, славутыя рабочыя, перадавікі тутэйшага саўгаса. І мы павінны пра іх расказаць, каб усе ведалі, павінны расказаць і пра свае справы, каб пакінуць і пра сябе памяць... А некалі, можа, ужо і з новым пакаленнем вучняў, і музей школы ды саўгаса зладзім, праславім нашы Міланькі...

Усе слухалі яго, усміхаліся. Загарэліся складці альбом пра Міланьскую школу. Нават дадому во не спяшаліся, як раней, а і яшчэ хацелі застацца ў школе, пагаварыць.

— Ну, а цяпер ідзіце дадому,— усміхнуўся ён.— Знойдзеце яшчэ што — прынясьце. Застаньцеся ў класе тыя, каму я гаварыў раней. Адпачнём хвілін з дзесяць і возьмемся за работу...

Вучні заляскалі вечкамі, пачалі выходзіць з класа. Засталося толькі чалавек з дзесяць, тыя, з кім ён заставаўся кожны дзень і працаваў яшчэ і пасля ўрокаў.

— Павел Мікалаевіч,— пачуўся Сліжаў голас.

Васілец азірнуўся: яго клікаў да сябе Сліж.

Узяў ужо загорнутыя ў газетку здымкі, медалі, ордэны і граматы і выйшаў. Каля Сліжа стаяў і Вяртун.

— Ты што — і сёння думаеш праводзіць дадатковыя заняткі? — запытаў Сліж і зачыніў дзверы класа.

— Ды трэба, — адказаў Васілец.

— І не надакучыла табе кожны дзень тлуміць яшчэ і пасля ўрокаў галаву? — усміхнуўся Сліж.— Ты паглядзі: на каго ты падобны стаў. Схудзеў, толькі адзін нос тырчыць, вочы запалі... З-за работы і ажаніцца часу не маеш... Кастрычніцкія святы прайшлі, а ты ўсё халасцякуеш...

Вяртун маўчаў, пасміхоўваўся.

— Адмяні ты сёння гэтыя заняткі,— сказаў Сліж.— Адзін раз прапусціць не страшна. Ды сёння ты маеш на гэта права.

— Якое ж такое права? — усміхнуўся Васілец. — Па-

казаць сваю непастаяннасць і дзяцей прывучыць да гэтага?

— Гаспадароў сын з арміі вярнуўся — раз,— сказаў Сліж і заклаў на левай руцэ мезенец.— Гаспадары закалолі, як ты казаў, парсючка і робяць сёння гулянку — два...— Заклаў яшчэ адзін палец.— Ты іхні таксама ўжо жылец — тры... Мы твае сябры — чатыры... Дык і маем права цяпер усе разам падысці да тваіх гаспадароў і пагуляць — вось табе і ўсе пяць... Так, Міхась Рыгоравіч?

— Ды ёсць аказія...— усміхнуўся Вяртун. Яго вочы аж загарэліся ад аднаго слова «пагуляць».

— Ды не думай ты...— наступаў Сліж.— Яшчэ будзе ды будзе табе часу выцягнуць усіх двоечнікаў ды троечнікаў у выдатнікі... А вось калі ў другі раз будзе такая гулянка? Не скора... Сала свежанькае, капустка, чарачка! Пагамонім, песні паспяваем... Колькі таго жыцця!..

— Свежына, лічы, раз у год бывае...— цмокнуў, глынуў сліну Вяртун.— Гэта свята! І не трэба ўцякаць ад яго... Так холадна падыходзіць да гэтай справы...

— Прабачце, але я сёння не магу пайсці,— прамовіў Васілец,— сёння ў мяне вельмі важныя заняткі...— і рашыў не ісці ў настаўніцкую, куды меўся занесці загорнуты ў газету пакет. — Прабачце, мне пара да дзяцей...

І вярнуўся ў клас.

«А можа, я дарэмна так? — апякла думка.— Ці не падумаюць яны, што я не хачу з імі сябраваць, што ў жыцці сухі і нецікавы? Напраўду ж, як бачыў, у Міланьках даўняя ўжо завядзёнка — пасля свежыны рабіць гулянкі. Усе гуляюць. І вяскоўцы, і інтэлігенты...»

Каля стала нібы апамятаўся. Паклаў пакет, дастаў з сумкі загадзя падрыхтаваныя картачкі. Для кожнага з гэтых вучняў, якія тут засталіся. Раздаў іх.

— Уважліва прачытайце,— сказаў,— падумайце добра: дзе і якія і чаму трэба ўставіць прапушчаныя літары, знакі прыпынку. Вы якраз на гэта робіце памылкі ў дыктоўках і сачыненнях. Як і дамовіліся, я і далей буду вам падбіраць іменна вось такое, самае цяжкае для вас...

Чакаў: паклічуць яшчэ раз Сліж і Вяртун ці не. Не, не клічуць. Мусіць, пакрыўдзіліся.

«Няхай пакрыўдзяцца,— рашыў.— Надта ж ужо часта любяць такія гулянкі...»

— Ну што, цяжка? — Васілец прыпыніўся ля Адзінца — самага рослага ў сёмым класе хлопца. Той яшчэ не

пісаў, пазіраў на картку, нібы нічога не разумеючы.— Звярні ўвагу: вось два сказы. У адным ёсць словы «няскошаны луг», а ў другім «не скошаны касцамі луг» — і табе трэба разабрацца: у якім выпадку часціцу «не» пісаць разам са словам «скошаны», а ў якім асобна... Падумай добра: што такое ў другім выпадку слова «касцамі» і якое тут можна прымяніць правіла? Ну?

— Слова «касцамі» паясняе...— няўпэўнена прамовіў Адзінец.

— А раз ёсць паясняльныя словы, дык...

— Дык тады часціца «не» пішацца асобна...

— Правільна! — узрадаваўся Васілец.— Выходзіць, ведаеш правілы, толькі не ўмееш імі карыстацца... Перапішы правільна сказы, а потым прыдумай падобныя... Ну, а ў цябе што? — і падышоў да другога вучня, «заядлага двоечніка» Лёні, які, лічы, у кожным слове робіць памылкі.— Не разбярэшся, дзе пішуцца прыстаўкі «з» і «с»? Успамінай, успамінай правілы... Калі не ўспомніш, дык гавары — дам прачытаць па падручніку...

— Павел Мікалаевіч, усё роўна я не навучуся пісаць на «4» ці «5»,— адазваўся Лёня. Прамовіў і не пачырванеў. Сказаў спакойна, як праўду.

— Канечне, калі не будзеш старацца, працаваць, дык не навучышся... Гэта ж само не прыходзіць...

— Ды я і настаўнікам не буду...

— Ну, давай пра гэта не будзем...— усміхнуўся Васілец.— Табе яшчэ раней гаварылі пра тое, што ў наш век любы чалавек павінен быць адукаваны, пісаць пісьменна... Настаўнік, інжынер, лётчык, рабочы, калгаснік... Будзеш жа ўсякія паперы афармляць, заявы пісаць. Дык пісаць з памылкамі? А хутка ж у армію пойдзеш, захочацца сябру, сяброўцы ліст напісаць... Сябра яшчэ змоўчыць, прачытаўшы і з памылкамі ліст, а вось сяброўка можа выправіць памылкі і спярэшчаны чырвоным алоўкам ліст адаслаць табе назад — даць табе добры ўрок... Служыў жа дык бачыў: было і такое...

Вось цяпер Лёня збянтэжыўся, угнуў галаву — пачаў чытаць тое, што было напісана на картцы, і думаць.

— Думай,— Васілец лёгка дакрануўся да яго пляча.— Не будзе што ўспамінацца — кліч...

І падышоў да дзяўчынкі, Галі.

— Ну, а ў цябе што, Галя? — запытаў і тут жа ўбачыў: падаўся дадому Вяртун.

Той быў у капелюшы, доўгім сінім плашчы. Век не насіў ніякіх сумак — кнігі, кіпы вучнёўскіх сшыткаў насіў пад пахамі, у дождж — пад плашчом.

Празвінеў званок — пачаўся першы ўрок другой змены, пара работы Міхаіла Апанасавіча і Маі Сцяпанаўны...

*

— Ну, як я выглядаю? — ціхенька дапытвалася Лілія Іосіфаўна, схаваўшыся ў спальні і просячы Маю Сцяпанаўну агледзець яе цяперашняе ўбранне — малінавы, сваёй вязкі, світэр і чорны сарафан.

— Ды добра,— гэтаксама шэптам адказала тая, употайкі, стараючыся ўсяк схаваць гэта, пасміхалася.

Лілія Іосіфаўна зноў паглядзелася ў маленькае люстэрачка, сама ўбачыла: далібог, пахарашэла ў новым уборы ды ад таго, што ў вачах з'явіліся хваляванне і радасць, а на шчоках успыхнуў чырванец.

Паглядзела на маленькія, амаль і незаўважныя грудзі, а пасля ўжо — не ў люстэрка, а сваімі вачыма — і на тонкія, зусім нястройныя ногі.

— А можа, мне белую блузку надзець? — спытала яна.— Белае дае большую паўнату...

— Не трэба,— прашаптала Мая Сцяпанаўна.— І так цябе сёння не пазнаць...

— Не вельмі худзенная і танклявая я ў гэтым сарафане? — спытала яна.

— Не. Але ты ідзі, а то ён каторую пару ўжо адзін сядзіць...

Лілія Іосіфаўна ўсміхнулася, усміхнулася не так дзеля сябе, а дзеля сяброўкі, і адчула такі страх, што ў яе, здаецца, млелі ногі і выскоквала з грудзей сэрца.

— Калі я што не так буду гаварыць, то ты тупні нагою...— папрасіла яна, адчуваючы ўжо вялікі сорам і перад сяброўкаю, і перад сабою, і перад ім...

— Добра,— паабяцала Мая Сцяпанаўна.— Ідзі...

Лілія Іосіфаўна жартам хуценька перажагналася, уздыхнула, наўмысна шыракавата разявіўшы рот і заплюшчыўшы вочы, а пасля, збянтэжаная, выйшла са спальні і зноў убачыла прыгожага Пецю, у новым чорным касцюме, у белай кашулі і пры чорным гальштуку, добра выгаленага і прычэсанага,— ён сядзеў на крэсле ля стала і гартаў часопісы. На драбнаватым, але прыгожым яго тварыку гэтаксама відаць была ўсхваляванасць — выступіла чыр-

вань на худаватых, гладзенькіх, як у маладой дзяўчыны, шчоках; зірнуў на яе, пераадзетую, і засаромеўся, апусціў вочы.

«Не больш ён смяльчак за мяне...— падумала яна, і гэта крыху паддало ёй смеласці.— Але які мілы!..»

Ёй адразу спадабалася, што ён спакойны, не надта гаваркі, але ўсё, што кажа, гаворыць абдумана, далікатны і вельмі сарамлівы. Яна апошнім часам паважала такіх людзей, надта верыла ім. Можа, таму, што сама была такая, але ведала, што ў яе сарамлівай душы шмат дабрыні і пяшчоты, можа, таму, што заўважала што надта гаваркія, смелыя бываюць часта пустазвонамі...

Праўда, як ведае яна ўжо ў свае даволі сталыя гады, маўчуны і сарамліўцы не надта падабаюцца маладзенькім дзяўчаткам, яны ахватней цягнуцца да смелых і нават нахабных, за што часта і дорага ды балюча расплачваюцца, але ёй цяпер было ўжо не васемнаццаць гадоў, яна глядзела ўжо на ўсё гэта — інтымнае, чалавечае — з горкі сваіх дваццаці сямі вёснаў... Пеця ёй спадабаўся. І гэта захвалявала яе. Як і тое, што ён — такі красун — прыйшоў да яе: не мог жа ён не ведаць, што да Маі Сцяпанаўны ходзіць Васіль Рагатка...

— Харошае кіно! — сарамліва ўсміхнулася яна, кіўнуўшы на здымкі, што разглядаў Пеця.

— Не бачыў...— сарамліва прызнаўся ён.

— Цяпер многа выпускаюць фільмаў, усіх не пераглядзіш...— прамовіла яна, села гэтаксама на крэсла насупраць яго, адсунула вучнёўскія сшыткі, якія нядаўна правярала.— Штодзень два ці тры ідзе па тэлевізары. І пра сучаснасць, і пра вайну, і вельмі часта нават экранізуюцца класічныя творы... Але я больш люблю чытаць самі творы, чым глядзець фільмы па іх...

Лілія Іосіфаўна гаварыла і бачыла, што Пеця далікатна і ўважліва яе слухае, але ў гаворку не спяшаецца ўступаць. Ці не ўмее так гаварыць, маючы за плячыма ўсяго восем класаў...

— У кіно таго, што ёсць у кнізе, не бывае. Кіно бяднейшае,— дагаварыла яна.— А вы якія кнігі любіце чытаць?

Мая Сцяпанаўна хіхікнула ў спальні, і Лілія Іосіфаўна збянтэжана адчула, што не тую заводзіць гутарку — сухую і нецікавую. Цікавую, можа, толькі для сябе, а не для яго...

— Ваенныя,— адказаў Пеця.

— А я люблю класіку, надта рускую...— з узрушэннем сказала яна.— Вечнае мастацтва, бездакорнае!

Пеця неяк здзіўлена і запытальна зірнуў на адзін міг на яе, але нічога не сказаў, сарамліва адвёў вочы. А яна трывожна, як халадзеючы ў душы, падумала, што ён цяпер яшчэ раз уважліва агледзеў яе, убачыў яе зморшчакі ў куточках вачэй, убачыў, што яна не толькі немаладая, але і зусім непрыгожая, ды яшчэ ў акулярах... Яна б і рада спадабацца яму — але як гэта зрабіць? Хоць бы выйшла з-за перагародкі Мая Сцяпанаўна і памагла завесці добрую гутарку...

— Класіка ёсць класіка! — сказала яна, адчуваючы, што не ведае, пра што далей гаварыць. Вось і бяда, што яна за свой век амаль ніколі не была адна з хлопцам...

Амаль у гэтую ж хвіліну Мая Сцяпанаўна тупнула нагою. І гэта не збянтэжыла, а адразу падварушыла — і выйшла далей само па сабе, што яна, амаль не думаючы, запытала:

— У арміі, відаць, нялёгка служыць?

Мая Сцяпанаўна ў спальні ціха ляснула ў ладкі.

— Як вам сказаць...— здаецца, абрадавана, што можа нарэшце і ён уступіць у гаворку, сказаў Пеця і неяк смялей ды прыхільней зірнуў на яе.— Як каму... Хоць служба, канечне,— не маліна...

«Чаму не маліна?» — падумала яна, мала зразумеўшы, дзеля чаго тут гэтае слова, але ўхапілася за пачатую добра гутарку:

— Але, мусіць, толькі тады можна назваць чалавека мужчынам, калі ён паслужыць?

— Так,— згадзіўся Пеця.— Хутка сталееш, на ўсё іншымі вачыма глядзіш. І да парадку прывучаешся...

— Яно так,— сказала яна.— У армію ідуць дзецьмі, а вяртаюцца мужчынамі...

Мая Сцяпанаўна зноў ціха пляснула ў ладкі. І гэта ўсцешыла Лілію Іосіфаўну, і яна падумала, што дарэмна лічыла дасюль сябе нецікавай, сумнай. Яна звычайная дзяўчына, і вось каб асмелілася ды пачала гаварыць тое, што ведае, то, можа, магла б быць і цікавай, яшчэ цікавейшай, як іншыя, бойкія... Ды прыгожыя...

Ад веры ў сябе яна, здаецца, падабрэла, пачала нават падабацца сама сабе.

— Вы будзеце тут працаваць ці ў горад паедзеце? —запытала яна.

— Маці хоча, каб быў пры доме. Пайду на трактар ці на машыну — сказаў ён, як саромеючыся за сваю такую прафесію.

— Цяпер механізатары ў павазе вялікай і зарабляюць добра,— прамовіла яна, каб падтрымаць яго дух, яго прафесію.

— Ды і дырэктар саўгаса просіць хоць заўтра прыходзіць на работу, садзіцца на трактар ці на машыну. Кажа, надта патрэбны механізатары...— сказаў Пеця смялей і ахватней пра свой хуткі занятак.— Ды я і прывык жыць у вёсцы...

— Няма чаго, канечне, баяцца яе, гэтай вёскі...— усміхнулася Лілія Іосіфаўна.— Мы вось жа працуем. Многа працы, сумуем тут не раз, але ж і радасць вялікую бачым... Радасць ад работы, ад вёскі — ад яе лесу, рэчкі, свежага ветру...

— Так,— кіўнуў Пеця галавою, відаць, усё болей прывыкаючы да яе, паволі пераадольваючы сваё збянтэжанне, што яна настаўніца. Пераадольваў, можа, таму, што ўбачыў: яна простая, вельмі шчырая і таварыская, разумная дзяўчына. Ва ўсякім разе, ёй вельмі хацелася, каб ён так думаў...

— Вось не раз гавораць, што калі жывеш ў вёсцы, то адстаеш ад цывілізацыі сучаснай...— сказала Лілія Іосіфаўна,— маўляў, у тэатр не сходзіш, выстаўкі не паглядзіш, новага кіно не ўбачыш. У нашай сталіцы жыве мая сямейная сястра, гэтаксама з вышэйшай адукацыяй, эканаміст. Але яна так занята працаю ды сям'ёю, што я, жывучы тут, болей у яе ж горадзе пабыла ў тэатрах, на выстаўках, кіно, як яна... Ёй і часу надта няма, ды і ахвоты, мусіць, вялікай гэтаксама няма. Глядзіць тэлевізар — і ўсё. А я, як толькі выпадзе вольная хвілінка, дык і імчуся ў горад што-небудзь паглядзець... А тут, калі ёсць час, чытаю. Забяры ад мяне кнігу — я і не ведаю, як тады і жыць...

Мая Сцяпанаўна тупнула нагою — і яна тут жа асеклася, зноў ліхаманкава пачала думаць, пра што іншае загаварыць. І — ёй на шчасце — не галава прыдумала, а сам язык загаварыў пра гэтае іншае.

— Вы далёка служылі? — спытала яна.

— На Поўначы,— адказаў ахвотна Пеця, які нядаўна быў прыціх, слухаючы яе.— Далёка... Ва ўвальненне ў горад на ўсюдыходзе ездзілі.

— Як добра! — усклікнула Лілія.— Рамантыка!

— Не зусім...— усміхнуўся Пеця, з добраю ўсмешкаю зірнуў на яе.— У вялікія маразы і мяцеліцы не надта вялікая рамантыка.

Яна вельмі ўзрадавалася, што ён так шчыра і прыязна зірнуў на яе. Падумала, што сёння ж напіша сваёй лепшай сяброўцы ліст, раскажа той пра Пецю. Раскажа, які ён прыгожы, добры, нават крышку сарамлівы, але вельмі далікатны. Можна нават будзе напісаць, што яны ўдваіх пахадзілі вечарам па вёсцы, а заўтра напіша, што яны ўжо адзін раз пацалаваліся...

— А я люблю ўсё незвычайнае,— лёгка, з трывожным пачуццём блізкага шчасця сказала Лілія Іосіфаўна.— Люблю вялікія маразы, зацяжныя дажджы, люблю тоўстыя раманы і філасофскія кнігі. Некаторыя не надта любяць гэта, ім тады сумна і нецікава, а я...

Мая Сцяпанаўна зноў тупнула нагой.

— ...але найболей зіму люблю,— крыху збянтэжана сказала Лілія Іосіфаўна.— На дварэ халадзіна, а ты сядзіш у цяпле і пазіраеш на двор, дзе шалее мяцеліца...

— Я лета болей люблю, цяпло і сонца,— сказаў Пеця.

— Як хто... У кожнага свае густы.

— Вы не дасцё мне дамоў паглядзець гэтыя часопісы? — крыху памаўчаўшы, спытаў Пеця і зірнуў на яе, але на гэты раз з сорамам.

— Калі ласка,— зарадавалася яна, што можа зрабіць яму нешта добрае.— У мяне шмат такіх часопісаў.

Яна паднялася, стала на крэсла і ўзяла з шафы кіпу часопісаў, са здымкамі кінаакцёраў. Саступіла зноў на падлогу, зірнула на яго і ўбачыла, што ён у гэтую хвіліну глядзеў на яе і, канечне, па-мужчынску акінуў яе ўсю, якая яна ёсць, позіркам. Акінуў і ўбачыў, якая яна тонкая ды высокая, худая.

І гэта, падумала яна, не вельмі спадабалася яму, бо мужчыны, відаць, ахвотней горнуцца да не надта высокіх, круглейшых дзяўчат. А можа, ён нічога не падумаў пра яе постаць, можа, толькі пра гэта ўвесь час думае яна. Думае, што ўсё тое ж самае думаюць пра яе, што яна сама пра сябе...

— Дзякую,— сарамліва сказаў Пеця, беручы часопісы, развітаўся і падаўся дахаты.

Вось цяпер з-за перагародкі выйшла з усмешкаю Мая Сцяпанаўна, зірнула на яе і спынілася ўражаная.

— Ды ты цвіцеш проста! — здзівілася яна.

— Як цвіту? —усміхнулася Лілія Іосіфаўна.

— Твар твой, здаецца, свеціцца ад шчасця...— сказала сяброўка.— Стаў такі малады, светлы...

«А каб яшчэ і прыгожы,— падумала Лілія Іосіфаўна,— то я, можа, зусім шчаслівая была б. Шчаслівейшая за ўсіх!»

— Не пазнаць цябе, далібог! — здзіўлялася Мая Сцяпанаўна, кругленькая, прыгожая, толькі з нейкім сумам у позірку, і сум гэты старыў яе, не рабіў такой вабнай, якою яна была раней.

— Можа, і не пазнаць! — ускліквула Лілія Іосіфаўна, падхапіла сяброўку пад пахі і закружыла тую вакол сябе.

— Ой! — піскнула са страху Мая Сцяпанаўна.— Ды ты зусім звар'яцела!..

— Можа, Маечка...— адпусціўшы сяброўку, Лілія Іосіфаўна стомлена гупнулася ў крэсла, паклала рукі на стол, а на іх галаву, пазірала долу, на падлогу.— Можа, і звар'яцела, як ты кажаш...

Пазірала на падлогу, але і гэтая падлога, Міланькі, школа, дзеці і настаўнікі — усё-ўсё на свеце здавалася ёй цяпер мілым і радасным, шчаслівым і вельмі прыгожым...

— Ён вельмі спадабаўся табе? — ціха спытала яе Мая Сцяпанаўна.

Лілія Іосіфаўна ўзняла галаву, зірнула на сяброўку і ўсміхнулася, але нічога ёй не сказала, чамусьці ёй гэта захацелася ведаць толькі адной і нікому пра гэта не расказваць...

— Гэта толькі цвет, а ягадкі будуць...— надта ж ужо стала ўздыхнула Мая Сцяпанаўна.— Каханне гэтае вельмі ж галаву кружыць...

— Ну, як я гаварыла з ім? — спытала Лілія Іосіфаўна, не зважаючы на сяброўчыны намёкі.

— Амаль добра,— адказала тая, усё яшчэ здзіўляючыся з яе настрою, з настрою пераменнага.— Толькі калі-нікалі загаворвалася... Трэба напачатку паменей пра класіку ды філасофію...

— А пра што найлепш з хлопцамі гаварыць? — шчыра і даверліва запытала Лілія Іосіфаўна, нібы пыталася ў сталай ужо, даўно замужняй жанчыны, а не ў дзяўчынкі, на добрых сем гадоў маладзейшай за яе.

— Пра зоркі!..— усміхнулася Мая Сцяпанаўна.

— Я сур'ёзна...

— І я сур'ёзна,— адказала тая.— Бог яго, Лілечка, ве-

дае, пра што гаварыць, што табе параіць, бо раней не прыдумаеш гэтай гутаркі, сама яна знаходзіцца... А ён прыйдзе яшчэ сюды.

— Адкуль ты ведаеш? —усхвалавана і радасна спытала Лілія Іосіфаўна.

— А часопісы чаму браў? Каб аднесці...

«І праўда...— падумала яна.— А я, бач, якая нездагадлівая. Тады напраўду напішу заўтра сяброўцы, што мы з ім пацалаваліся не раз, а некалькі разоў...»

— Ну праўда, скажы, пра што любяць слухаць хлопцы? — хацела дапытацца яна.

Мая Сцяпанаўна жартаўліва і як намнога старэйшая зірнула на яе, усміхнулася.

— Калі ты спадабаешся яму,— сказала яна,— то ён знойдзе і сам пра што гаварыць... Ты будзеш толькі слухаць ды абараняцца ад яго рук...

— Праўда? — здзівілася Лілія Іосіфаўна. — Раскажы, Маечка, пра што-небудзь такое...

— А сшыткі калі будзеш правяраць? — гарэзна ўсміхнулася Мая Сцяпанаўна.— Гэта нам, бесклапотным, можна забыцца пра школьную работу, а табе, сур'ёзнай, няможна...

— Не трэба, Маечка,— папрасіла Лілія Іосіфаўна. — Цяпер ведаю: справядліва папікаеш, а я несправядліва парою цябе папікала... Раскажы...

— Цікавыя яны, гэтыя хлопцы...— як старэйшая прамовіла Мая Сцяпанаўна, і Лілія Іосіфаўна, затаіўшы дыханне, верачы кожнаму слову, пачала слухаць яе...

## 6

Педсавет закончыўся. У настаўніцкай засталіся мужчыны.

Іван Сямёнавіч, чырвоны, узбуджаны, хадзіў па настаўніцкай, супакойваўся.

— Значыць, Павел Мікалаевіч, вы стараецеся, працуеце, а мы з Міхасём Рыгоравічам слаба кіруем, не памагаем вам? — запытаў ён у Васільца.— Маўляў, толькі што ходзім на вашы ўрокі... Ніякія мы ўжо не метадысты?..

— Па-першае, Іван Сямёнавіч, ні Ларыса Іванаўна, ні Таццяна Сяргееўна, ні я не так гаварылі,— спакойна адказаў Васілец.— А па-другое, ці варта пачынаць новы педсавет, новыя спрэчкі?

— Не,— не згадзіўся Іван Сямёнавіч.— Давай усё ж тое-сёе ўдакладнім. Прызнайся: не падабаемся мы з Вертуном вам як кіраўнікі?

«Які раўнівы і крыўдлівы гэты Іван Сямёнавіч! — падумаў Васілец.— Абы зачапіў, дык і нервуецца...»

— Вы ж самі ведаеце,— сказаў Васілец.— Мы яшчэ маладыя настаўнікі, лічы, толькі пачынаем працаваць. Шукаем, кідаемся туды-сюды, памыляемся, зноў шукаем... Дык вось нам і патрэбен мудры кіраўнік, які ведаў бы, як мы працуем, куды мы ідзём, дзе што ў нас добра выходзіць, што не ўдаецца... І не толькі ведаў бы, але і выводзіў бы нас на правільную дарогу... Вось пра што быў сэнс нашых выступленняў, а не пра асабістыя нашы пачуцці да вас...

Іван Сямёнавіч памаўчаў.

— Дзівакі людзі! — парушыў маўчанне Сліж.— У Галінавічах завучы і дырэктар прыдзіраюцца, дык там настаўнікі бядуюць. А ў нас не прыдзіраюцца — і ўсё роўна бядуюць...

Іван Сямёнавіч нахмурыўся, махнуў Сліжу рукою: маўчы лепш. Не крыўляйся.

— Канечне, калі хацець цішыні, калі баяцца паварушыцца, дык так добра. Прыйшлі раз ці два разы на тыдзень да цябе на ўрок, пасядзелі, і ўсё... На другі тыдзень зноў раз прыйшлі... Але ці так уведае завуч, дырэктар, як ты працуеш, дзе табе трэба памагчы? Вось і бывае: Алесь Трахімавіч ні завуч, ні дырэктар, а больш памагае. Бо ён разбіраецца, як ты працуеш... Нешта добра раіць, падказвае... І без папрокаў, без загадаў, з вымовамі... Вымову лёгка даць, а вось разабрацца, памагчы настаўніку ў яго рабоце... Вось і педсаветы, нарады бываюць, адкрытыя ўрокі, даклады чытаюцца... Але здаецца, што яны часта — не аналіз нашай работы, не накірунак для будучага, а толькі так, дзеля птушачкі. Бо трэба ж праводзіць...

— Ну як? — горка ўсміхнуўся Іван Сямёнавіч, кіўнуў Вертуну.— Сячэ нас з табою пад корань!

Вяртун маўчаў. Мусіць, не мог падтакнуць Івану Сямёнавічу, як не мог і «напасці» на Васільца: сёлета некалькі разоў схадзіў на яго ўрок, але ні разу добра не пагаварыў. Толькі і буркнуў: «Ды ўсё добра». Ці не разабраўся ні ў чым, ці не змог сказаць праўды.

І Сліж маўчаў. Прыслухоўваўся, як працягнецца сутычка Івана Сямёнавіча і Васільца. Ведаў добра: жартам

тут не абыдзешся. Як і знаў: раніла дырэктара крытыка. Даўно ён ужо яе не чуў, дык і перажывае цяпер.

— Ну, я пайшоў...— потым замітусіўся ён.— Заданне маю, дык... усяго добрага ўсім.

— Будзь здароў,— адказаў яму Іван Сямёнавіч, падышоў да стала, дрыготкаю рукою наліў з графіна вады, выпіў.

Потым прыкрочыў да акна, адхінуў занавеску і зірнуў на двор, у цемень. Плечы яго неяк апалі, і стройная яго постаць абсела, неяк раптоўна пастарэла.

Вяртун махнуў Васільцу рукою: і ты ідзі, няхай Іван Сямёнавіч пабудзе адзін...

...— Ну, што ты скажаш пра сённяшні наш педсавет?— калі яны засталіся ўдвух, калі крыху памаўчалі, запытаў Іван Сямёнавіч.— Пра нашу сённяшнюю гамонку пра вучобу ў школе, пра ролю класнага кіраўніка?

— Задзіраюцца нашыя маладыя...— адказаў Міхась Рыгоравіч.

— Ды не мякенькія, як здаецца на першы погляд...— згадзіўся Іван Сямёнавіч.— Не абы-якія да працы..

— Васілец усіх падбівае...

— І што ты пра яго думаеш?

— Ну...— прамовіў Вяртун і запнуўся. Не ведаў, здаецца, што сказаць, бо не знаў, што цяпер думае ён, Іван Сямёнавіч.— Не просты ён...

— А хто просты? Ды няма простых. Усе са сваім характарам... Светапоглядам, лёсам... А як Васілец, дык ужо і асоба. Стараецца працаваць, працуе творча. Дома шмат чытае, на ўроках эксперыментуе, шмат пасля ўрокаў з дзецьмі займаецца, які добры альбом зрабіў. Падняў ва ўсіх аўтарытэт нашай школы... І сёння яго выступленне дзелавое было...

Вяртун сядзеў за сваім сталом, маўчаў. Цёр высокі лоб.

— Словам, браце, як не горка, але трэба нам, старым, ужо нашу моладзь не толькі на словах, але і на справе прызнаваць...— сказаў Іван Сямёнавіч, зноў пачаў хадзіць па настаўніцкай. Так яму было лягчэй гаварыць.— Мы зрабілі нямала і ў свой час на вышыні былі. А цяпер пастарэлі, дык і адсталі ад навукі. Стаміліся, ідзём з тым багажом, што і год пятнаццаць таму назад быў у нас. Шмат пусцілі на самацёк. Робім па прынцыпу: абы дзеці ў школу хадзі-

лі, абы ўрокі былі... Мы і самі сабе не хочам прызнацца, што гэтак пачалі працаваць. Баімся навінак, бо яны нам ужо не па сіле. Стрымліваем ініцыятыву маладых, асцерагаючыся, што не разбяромся ў тым, чаго яны хочуць, ды што нам будзе шмат клопатаў... Некаторыя маўчаць, а некаторыя і не маўчаць... Вось і сёння каторыя па-добраму прымусілі нас праглынуць горкія пілюлі... Мы з табою няблага робім як настаўнікі, але вельмі кепска як завуч і дырэктар... Лічы, кожны ў нас сам па сабе працуе, без нашай лініі... У нас якая лінія? Каб менш двоек ды троек было, пропускаў, парушэнняў дысцыпліны... Але ж гэта, як сам разумееш, вынік нашай працы, а лінія павінна быць творчая, пошукавая. А на які пошук мы з табою накіроўваем нашу моладзь?

Вяртун маўчаў.

— Я, можа, не ўсачу за ўсім, бо на мне і сталоўка, і майстэрня, і інтэрнат... А ў цябе толькі дваццаць гадзін у тыдзень, гэта па два ўрокі на дзень, ды ты ж на пятнаццаць гадоў за мяне маладзейшы, то павінен намнога больш думаць, як даюцца ўрокі ў школе, якую яны маюць карысць. Ты ж мой намеснік па гэтай лініі... Вобразна кажучы, звяжы намаганні ўсіх у адзін пучок і накіруй у адну кропку...

Міхась Рыгоравіч апусціў галаву і маўчаў.

— Трэба толькі больш роздуму, ахвоты ды старання...— як вучыў Іван Сямёнавіч.— Не так, як ты падрыхтаваўся да сённяшняга педсавета: перапісаў артыкул з часопіса і зачытаў. Артыкул яны і самі прачытаюць, калі падкажаш. Паўтару: трэба назіранні, роздум, аналіз, метадычная парада. Так, патрэбен навуковы падыход...

Міхась Рыгоравіч слухаў дырэктара, які даўно ўжо тое-сёе падказвае, а сёння вось так смела і павучае, слухаў і адчуваў вялікую трывогу: ён, некалі завочна скончыўшы настаўніцкі інстытут, працаваў як умеў. Усе гаварылі, што настаўнікам быў неблагім, нават добрым. А вось завучам... Ён і сам адчуваў, што не можа ўзняцца вышэй за ўсіх, ведаць усё пра ўсіх і кожнаму паасобку падказваць нешта вельмі важнае, што было б на карысць усёй школе. Як і не мог смела сказаць калегу горкую праўду. Ну, не мог, і ўсё.

Вяртун адчуў, як у яго з-пад ног уцякае зямля: ён не зможа не тое што заўтра, а нават і праз месяц перайначыць сваю працу, тое, што склалася за гады... Толькі пакаяўся, што астатнія гады не зважаў на гэта, не падвучваўся сам, мала чытаў, думаў: неяк усё абыдзецца, нешта будзе. Па-

рою адчуваў, што не так, як трэба, працуе, крыпку з сорамам браў плату, якая ў яго як у сталага педагога з вялікім стажам, немалая — ля дзвюхсот рублёў. Цяпер ён адчуў пагрозу сваёй завучаўскай пасадзе, плаце. А ў яго пяць дзяцей... Каб столькі мець, працуючы настаўнікам, трэба даваць у тыдзень не дванаццаць гадзін, а намнога больш, слухацца нейкага Васільца — амаль сына па гадах, не толькі слухацца, але і больш рабіць, бо той — малады, разумны, апантаны да розных пошукаў — будзе спрабаваць і тое і сёе, падахвочваць да працы, папракаць...

— На тое, дружа, і шчупачкі, каб карасі не драмалі...— як угадаўшы яго нявясёлыя думкі, усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Трэба, дружа, трэба і нам з табою маладзіцца... Калі не маладзіцца хоць і душою, то ўмець зладжваць з нашымі маладымі і ісці з імі ў нагу... Вось так...— ён зноў усміхнуўся, але гэтая яго ўсмешка сёння не радавала.— Думай... Я-то пратрымаюся да пенсіі на сваёй пасадзе, а табе яшчэ шмат працаваць. Можа, і саступай ужо маладзейшаму... усё роўна ж рана ці позна прыйдзецца... Такое жыццё...

...Паўла на двары чакаў Сліж.

Сёння ім было ў адну дарогу: Павел хацеў падысці на блізкую свінаферму, сустрэцца там з загадчыцай і ўзяць «матэрыял» для баявога лістка, які ён там выпускаў раз у тыдзень, дамовіцца, калі яму прыйсці да рабочых фермы з дакладам — яго, як і пазалетась, сёлета гэтаксама «нагрузілі грамадскай работай». Бо ён яшчэ быў членам камітэта камсамола, старшынёй савета дзіцячага пакоя пры тутэйшым сельсавеце, членам рэдкалегіі камсамольскага пражэктара. За гэтай працай нават не было часу пачытаць кнігі ці свежага часопіса...

На халодным, ветраным і дажджлівым двары было ўжо цёмна.

Ларыса, ведаючы, што Павел пойдзе яшчэ на ферму, падалася дахаты, канечне, будзе чакаць яго вечарам, каб і разам пабыць, і пагаварыць пра сённяшні педсавет. Павел выйшаў на цёмны ганак, і тут яго сустрэў Сліж, і яны падаліся да брамкі: ферма была па вішнёўскай дарозе.

— Закончылася нарэшце гэтая гаварыльня!..— уздыхнуў Сліж.— Аж галава забалела, пакуль выседзеў столькі і ўсіх выслухаў.

— Чаму — гаварыльня? — незалюбіў Павел, сказаў

рэзка і зласнавата.— Хіба абмяркоўваліся не важныя пытанні ці мала было што сказана карыснага?

— Што было, тое і будзе...— усміхнуўся Сліж.— Што можа змяніцца? Рагатка стаміўся, а Вяртун не ўмее... А Ларыса дарэмна так... Нічога ад гэтага не зменіцца, але непрыемнасцей ёй будзе цяпер...

— Па-першае, яна не любіць хітрыць, маўчаць пра тое, што блага...— заступіўся за Ларысу і за сябе Павел.— А па-другое, чаго ёй баяцца? Што — яна не ўмее ці лянуецца працаваць?

— Я не пра гэта...— усміхнуўся Сліж, але ўжо яго твару не было відаць: яны выйшлі на вішнёўскую цёмную дарогу.— Мы вось ломім галовы, гадаем, не спім, адзін з адным грызёмся, як працаваць, каб дзеці мелі добрыя веды, мелі добрыя ацэнкі... А яны, дзеці, спакойна спяць, як і іх бацькі. І правільна. Ну скажы, хто прапаў у жыцці, калі вучыўся ў нас ці і ў сярэдняй школе на тройкі, меў і двойкі? Ніхто. Калі не паступіў у інстытут ці тэхнікум, то стаў рабочым. Жыве, працуе, не мае, можа, нашых інтэлектаў, але не менш за нас з табою палучае... А мы ломім галовы, бядуем, адзін аднаго ледзь не за грудкі бяром, спрачаючыся, як яго лепш навучыць. Усё будзе добра, чаго так хвалявацца?..

— Ну і з бракам працаваць — ніякай радасці няма,— адказаў Павел,— тады сам сябе не любіш...

— Не зважай надта на гэта,— усміхнуўся Сліж,— беражы здароўе. Абы сала было... Яны, і дрэнна ў нас вучачыся, не прападуць, а ты вось жаніцца ніяк не можаш, бо няма дзе жыць, работы ў цябе многа (вот вечар, заатэхнік з вышэйшай адукацыяй тэлевізар недзе глядзіць, а ты ідзі на яго фермы і пішы пра яго і пра яго работнікаў). Табе ўсё-ўсё на свеце нада, а яму не нада... Заўтра пойдзеш па вёсках, з бацькамі гутарыць, прасіць, сварыцца з імі, каб іхнія дзеці добра вучыліся... Куды, я табе скажу, прыемней зайсці і кілішак перакуліць, пасмяяцца, яшчэ пахваліць, што і дзеці вучацца, і бацькі — мілыя людзі...

— Такая ўжо наша доля... Мы павінны вучыць. Гучна кажучы, высока трымаць сцяг навукі ды асветы.

— Доля, доля!.. А падзяка якая? Чуў, як толькі што Рагатка цябе?..

— Давай не будзем пра гэта...— папрасіў Павел, ведаючы, што спрачацца надта і не варта: Слiжу ўсё роўна нічога не дакажаш, а абражаць яго, хоць і папраўдзе, гэтак-

сама не выпадае: усё ж ім працаваць разам, кожны дзень спатыкацца. І, можа, не адзін год... А са школы дзеля яго ўцякаць не будзеш...

— Ладна, маўчу. Маўчу, калі нада,— пацвельваўся Сліж.— Ну, будзь здароў! Свет вялікі — усе памесцімся...

— Усяго добрага! — адказаў Павел.

Уладзімір Пятровіч, пасвістваючы, праз хвіліну знік у цемнаце, а Павел пацягнуўся па гразкай дарозе да недалёкай ужо фермы, што не вельмі ярка — праз імжу і вецер — свяцілася непадалёку вузкімі вокнамі.

## 7

...У дзверы пастукала цёця Валя.

— Звінеце,— сказала яна, выціраючы фартухом рукі, са спачуваннем пазірала на іх,— не хацела падслухоўваць, але самі вушы пачулі... Як вам дзе шукаць прытулку, жыць у чужых людзей, то купляйце вы маю хату. Усё будзе вам на месцы: дом, гумно, хлеў, сад і гарод, на работу блізка хадзіць...

— У нас, цёця, столькі грошай няма, колькі вы просіце...— адказала Ларыса.— А вашу хату мы, канечне, маглі б купіць. Раз у вёсцы думаем працаваць, то маглі б і ў Міланьках навек застацца...

— Я з вас, дзеці, меней вазьму...

— Меней вы возьмеце на сотню-другую, але дзе нам тыя тысячы ўзяць? — нявесела ўсміхнулася Ларыса.— У бацькоў нашых яшчэ сем'і вялікія, самі яны нядаўна абудаваліся... Ды і не хочацца век іх абіраць...

— Шкода вас...— усхліпнула цёця Валя, скрыжавала рукі на грудзях, а пасля выцерла слёзы.— Чым цягацца па чужых кутках, дагаджаць гаспадарам, жылі б во на ўсім гатовым, самі сабе былі б гаспадары... Усё роўна, кажаце, у вёсцы жыць. І я часцей прыехала б сюды, зірнула б на сваю дамоўку... А то гэты вусач-купец, якога я напытала, усё разверне, перавязе... Селішча праз пару гадоў травою зарасце...— цёця Валя не вытрымала і заплакала ўголас.— Можа, і не трэба было мне зрывацца адгэтуль на старасць, але во населі дзеці...

— У горадзе на старасці пажывяце...— усміхнулася Ларыса, каб падбадзёрыць добрую старую жанчыну.— Без працы цяжкой... А мы знойдзем недзе кватэру, пажывём, а некалі, як будуць ставіць новую школу, то і кватэры для

настаўнікаў будуць... Так што не маркотна мы глядзім у сваю будучыню...

— Абы здароўе было, астатняе ўсё будзе...— згадзілася цёця Валя.— Але ж лепей, калі яно ўсё адразу ёсць...— А мне — нашто той горад? Як я ў ім буду жыць? Не хачу, але во паеду... Ну, ізвянеце...— прамовіла цёця Валя і палезла на печ.

Павел і Ларыса пайшлі на сваё вечаровае месца — на кухню. Вечарам яны заўсёды, каб не замінаць гаспадыні, не надакучаць ёй ды — што таіцца — каб пабыць адзін на адзін, ідуць на кухню і сядзяць там позна-позна ў цемнаце...

— Я вось падумала... — калі яны прыйшлі сюды і селі на сваё ўлюбёнае месца — на шырокай лаве ў кутку, ля стала,— сказала Ларыса.— Цяпер нам абаім нялёгка... Але ж табе магло б быць і лягчэй. Узяў бы ты Таццяну Сяргееўну — і яе бацькі табе ў момант кааператыўчык адляпалі б... І жонка прыгожая, забяспечаная, і жыллё ёсць...

— Тое самае магу і табе сказаць... — не зазлаваў, а ўсміхнуўся Павел.— Выходзь за якога тутэйшага — і гэтаксама будзеш мець хату, сад, агарод... Пагаспадарыш дома, панастаўнічаеш у школе...

— Які ты з'едлівы... — жартоўна сказала Ларыса, канечне, адразу падумаўшы пра гэтага «тутэйшага» — пра маладога брыгадзіра, які пазалетась і некалькі разоў летась «дабіваўся яе рукі».

— Думаю, што мы абое квіты... — усміхнуўся Павел.— Ты ж гэтаксама шпільнула мяне...

— Я ж жанчына... — прамовіла яна.— А ты мог бы і прамаўчаць на мае словы, адчуць сябе вінаватым... Паабяцаць, што не пакваплішся ні на якія выгоды дзеля мяне, што са мною згодзен жыць і ў шалашы...

— Было б лепш усё-такі — у добрым доміку... — жартаваў Павел.— Жыць у шалашы і летам, і зімою — замнога паэзіі, нечага надта ўзнёслага, я б хацеў зажыць болей «прыземлена» — у цёплым доме з харошым садам... Можна і без саду, а проста — у сваім, хоць і маленькім, куточку...

— Прычапіўся ты да беднага аспіранціка, які, праўда, уяўляе сябе вялікім вучоным...— сказала Ларыса (на днях да іх у госці прыязджаў былы аднакурснік).— Ён жыве ў горадзе, вучыцца ў вялікіх прафесараў, піша кандыдацкую, жыве ўзнёсла!..

— Хітруе, як выгадней пра каго напісаць артыкульчык ды як выгадней ажаніцца — вось яго «ўзнёсласць»... — прамовіў Павел.— Я цяпер яму жыць не дам з яго гэтай «прыземленасцю». Кожны раз, як буду адпісваць ліст ці віншаваць са святам, дык і буду пакепліваць: «Жыву я тут не так, як ты, а вельмі і вельмі прыземлена...» Але бог з ім, сыценькім хітруном, а я напраўду хачу паэзіі, узнёсласці, хачу «витать в облаках»,— і Павел падсунуўся бліжэй да Ларысы, прыгарнуў яе, трапяткую, пяшчотную пацалаваў.

— Асмялеў ты зусім, я бачу... — не злосна, а добразычліва прамовіла яна і, прывыкшы да яго такіх смеласцей і ўжо, можа, як і ён, не могучы без іх, ціхенька і радасна засмяялася, дазволіла даць волю яго рукам і вуснам.

А ён сам здзіўляўся, што стаў такім смелым, адчайным, туліў дарагога чалавека і адчуваў такое шчасце, хваляванне, якое так радавала, што цяжка і падумаць было, як жыў дагэтуль, усяго гэтага не ведаючы. І нельга было напіцца гэтага хмелю, гэтай радасці і шчасця, як нельга напіцца вады ў вялікую смагу, калі за кожным глытком хочацца ўсё новага і новага...

Ларыса моўчкі адказвала яму доўгімі пацалункамі, бо цяпер ні пра што не хацелася гаварыць, хацелася быць толькі разам, адчуваць вусны адно аднаго, пацалункі, ад якіх кружылася галава, і яны бясконца цалаваліся, забываліся пра ўсё на свеце, адчуваючы толькі сваю маладосць ды сваё жаданне быць вось так разам...

...Павел, як і кожнай ночы, вяртаўся дахаты позна. Была ўжо чацвёртая гадзіна раніцы, вось-вось ужо маглі падняцца і запаліць святло ў хаце, пачаць уходжвацца самыя раннія і руплівыя гаспадары.

Але спаць не хацелася: адчуваліся на вуснах і шчоках Ларысіны пацалункі, на шыі — моцныя абдымкі яе рук. На целе была вялікая лёгкасць, на душы — вялікая радасць, вялікае шчасце, і яму хацелася спяваць, бегчы некуды, радавацца сваім жыццём, Ларысаю, тым вялікім і цудоўным, што ёсць у іх... Адно толькі засмучала, што яны цяпер — пасля столькіх хвілін шчасця — не разам, не спяць, прытуліўшыся адно да аднаго, а што трэба ўсё яшчэ быць паасобку, трэба яму вось бегчы некуды ў цемнаце, туліцца да платоў, каб не заразнуць у хлёпанцы, абдзірацца аб кусты вішанніку і бэзу, што абвісалі на частакол.

Але гэта надта не засмучала: ён верыў у яшчэ большае сваё шчасце — што яны будуць хутка разам...

Дзверы сянец былі не зашчэплены. Гаспадары, колькі ў іх кватараваў Павел, прывыклі, што ён вечарам амаль не бывае дома, сыходзіць і вяртаецца вельмі позна, то не замыкаліся нанач.

Не паспеў адчыніць на кухню дзверы, як там успыхнула святло. Павел збянтэжыўся, што загрукаў, пабудзіў гаспадароў. Але гэта — на шчасце — быў Пеця, які ўжо не ў касцюме, а ў трыко стаяў тут і сонна жмурыўся ад яркага святла.

— Позна вы... — ца-змоўніцку ўсміхнуўся Пеця, адчуваючы еднасць з ім, што яны абодва сёння былі з дзяўчатамі.— Я ўжо даўно вярнуўся, выспаўся... А цяпер ужо дваццаць на чацвёртую...

— Скора, можа, яшчэ пазней за мяне будзеш вяртацца... — пажартаваў Павел.— Ідзе да гэтага?

— Відаць, пойдзе... — шчасліва адказаў Пеця, усміхнуўся, сагнаў сон, разгладзіліся маршчынкі ля вачэй — і ён зноў стаў малады, свежы, з гладзенькімі — як у дзяўчыны — шчокамі.

— Спадабалася? — шэптам спытаў Павел.

— Канечне... — гэтаксама шэптам адказаў Пеця.— Можа, павячэраем? Я чакаў вас...

...Пеця выпіў і ахмялеў ад першай чаркі. Ад гэтага не толькі разгаварыўся, пасмялеў, але нават расхрабрыўся...

— Яна, хоць і настаўніца, але зусім простая, як і мы ўсе... — радаваўся ён, сам расказваючы Паўлу пра сябе і Ірыну Васільеўну, пра тое, што было ў іх сёння.— Як толькі выйшлі з хаты і загаварылі, яна і кажа: называй мяне Іраю... Прайшлі, пастаялі крыху і пагаварылі... І — ведаеце — я нават дзівіўся, адкуль у мяне тыя словы бяруцца... Калі быў у Ліліі Іосіфаўны, не было тых слоў, маўчаў, як праглынуў язык, а тут мяне як прарвала... Хацеў вельмі за руку яе ўзяць, але так і не асмеліўся... Думаю сабе: ну, вазьмі, не бойся, будзь смялейшы, можа, яна і не пакрыўдзіцца, але не хапіла духу...

— Добра, што гаварыць ведаў пра што, не маўчаў... — усміхаўся Павел.— Другі вечар і за руку возьмеш...

— Я ж, самі ведаеце, які да арміі быў... — зусім стаў шчыры Пеця.— Васемнаццаць гадзікаў, нідзе не быў надта далёка... Як там знаўся з дзяўчатамі... Хадзіў на танцы, але не танцаваў, выціраў мел па кутках... Так нікога і дахаты

не правёў, не пацалаваў... — Пеця нават як засаромеўся гэтага.— Хоць хлопцам хваліўся, што і я... нават спаў з дзеўкамі... А цяпер на ўсё гэта гляджу я другімі вачыма...

— Гады, браце,— усміхаўся Павел.— Сталеем... Толькі мне, браце, пара спаць. Ты дык выспаўся ўжо, ды і заўтра можаш ляжаць хоць да полудня, а мне нейкія гадзіны тры засталося...

— Я не буду сёння спаць... — зноў прызнаўся шчаслівы, задаволены сённяшнім днём Пеця.— Бо не хачу спаць...

— Разумею... — усміхнуўся Павел.

— Павел Мікалаевіч,— прыбіраючы пасуду са стала, зірнуў на яго раптам запытальна і неяк вінавата, вінавата, можа, нават за сваю цяперашнюю радасць. Пеця,— скажыце, я перад Ліліяй Іосіфаўнай... ну, не нягоднік?..

— Мне здаецца, што не,— заспакоіў яго Павел.— Ты ж ёй нічога не абяцаў, зірнуў раз, пасядзеў ды і ўбачыў, што не спадабалася... А вось другая спадабалася... Лілія Іосіфаўна, хоць ёй і не лягчэй будзе ад гэтага, усё і сама добра разумее... Каханне, браце... Не толькі вочы, але і сэрца выбірае...

— А мне сорамна... — сказаў Пеця.— Сустрэліся сёння, дык я не ведаў, дзе дзецца. Хоць ты скрозь зямлю...

— Што зробіш, браце,— ужо сур'ёзна сказаў Павел,— усе мы паважаем працавітых, добрых характарам, сумленных непрыгожых дзяўчат, але ўсё ж стараемся сабе выбраць і самых прыгожых... Як тым, непрыгожым, ні крыўдна бывае за гэта, але так выходзіць... Так што і ты перш за ўсё вер свайму воку і сэрцу спачатку, а пасля ўжо розуму і роздуму... Можа, хто другі інакш табе будзе раіць, але я — толькі так...

## 8

«Надакучыла ў бальніцы, дома быць у сценах... — падумаў Алесь Трахімавіч.— Выйду я на двор, на свежае паветра. Ну яго — баяцца ветру, холаду!..»

Абуўся ў цёплыя валёнкі, надзеў зімовае паліто, шапку-вушанку, рукаўкі і падаўся на двор.

Надвор'е ў гэтыя дні стаяла ўжо не дажджлівае, але яшчэ і не снежнае. З раніцы была шэрая замаразь — яна пацягнула белізною палі, платы і сцены хат, пакрыла тонкаю скібінкаю ваду, к полудню, калі вось паказалася невялікае і няяркае сонца, пацяплела, і гэтая намаразь

прапала. Стала вось вільготна і мякка, пахла сырасцю і яшчэ даволі свежымі асеннімі настоямі.

«Дыхайце, лёгкія,— сказаў сам сабе ў думках Алесь Трахімавіч,— біся па-маладому, сэрца! Хопіць вам балець, мучыць мяне! Дайце хоць да пенсіі дарабіць у школе, павучыць дзяцей. Баліцё — прымушаеце во па бальніцах цягацца, дома гультаяваць... А там, у школе, столькі працы! Другая чвэрць ідзе! Сама ізлажэнні, сачыненні трэба пісаць, вывучаць гэтакія трудныя правілы! А ты сядзі дома, пакутуй: не можаш вучыць, не можаш памагчы маладым настаўнікам мовы: у школе ж не ўсё яшчэ добра з пісьменнасцю, яшчэ шмат дзеці пішуць з памылкамі...»

Пастаяў крыху, прывыкаючы да святла і ветру, і пайшоў у сад — у сваё любімае месца дамашняй працы і адпачынку. Сад быў невялікі, але расло ў ім усяго пакрысе. Раннія і позція яблыкі, розныя грушы, слівы ды вішні, агрэст і парэчкі, быў тут і невялікі парнічок, а гэтаксама спрабаваў ён, гаспадар, прыжыць і паўднёвыя дрэвы — айву, вінаград, лімоны.

Вярнуўся да сянец, узяў нажоўку. Падышоў да крайняй старой яблыні. Адрэзаў ніжнюю сухую галіну, канцом нажоўкі сарваў скручанае сплеснелае лісце.

«Гэтую яблыню сёлета не буду ўхутваць елкаю,— падумаў. — Кара на ёй старая, шурпатая, зусім нясмачная, дык зайцы яе каторую зіму ўжо не чапаюць. А каб дабрацца да галінак, абгрызці іх, то ў апошнія зімы столькі снегу не насыпае».

У валёнках, паліто было вельмі цёпла, але няўтульна. Цяжка было падымаць руку, і ён, рэжучы яшчэ адну тонкую лапку, адчуваў: млее рука.

«Зусім аслабеў... Потам вось увесь пакрыўся».

Апусціў руку, зірнуў на голы, з рэдкімі жоўтымі лісточкамі і маленькімі яблычкамі сад, на стары плот. За ім было выбаранаванае бульбянішча з дзе-нідзе зялёнымі бульбінамі на паверхні, п далей за ім кідалася ў вочы густазялёная маладая рунь, што прыемна лашчыла вочы сваёю маладосцю, прагаю да гэтага жыцця...

Калі абрэзаў яшчэ некалькі сухіх галінак, паднёс іх да плота. Тады, цяжка тупаючы па канюшынішчы, маладой атаве, падышоў да вулея, што стаяў пад старою дзічкаю. Прысеў, цікнуў на вылаз: там было крыху смецця. Галінкаю выграб яго, скінуў долу, паправіў раней пакладзеную сюды падрэзаную знізу дошчачку (каб не забраліся ў ву-

лей мышы), падняўся і падняў вечка. Паправіў сена, усунуў у яго руку — ці не зацякае? Не, усё добра, суха. Аж спакайней на душы стала, што пчол гэтак добра дагледзела сёлета і жонка, што яны павінны добра перазімаваць. Падышоў і да астатніх — двух — вулляў, паглядзеў і іх.

Потым выйшаў з саду, прытупаў да дрывотні. Адчыніў дзверы і зайшоў туды. Злева тры ці чатыры высокія кастры дроў, ля крайняга кастра грудка смалякоў у бярвенцах і пасечаных ужо на трэскі, справа грудка тоўстых ці сукастых непасечаных бярвенцаў. Праход чысты, без ніякага лішняга смецця, што не раз бывае ў чужых дрывотнях.

«Малайчына Галя! — падумаў пра жонку.— І бульбу выкапала, і сад, пчол дагледзела, і дровы знесла, каб не моклі, і да мяне ў бальніцу кожнага дня прыбягала... Калі яна, бедная, і адпачывала толькі? Мусіць, толькі ўночы, калі на якую гадзінку зводзіла вочы?»

У хлеў не пайшоў, толькі адчыніў дзверы і паглядзеў: усюды ў загарадках, на праходзе, быў парадак, як і заўсёды. Ён толькі ўсміхнуўся, кіўнуў спакойнай, добрай на малако Зязюлі, зачыніў дзверы і ўзбоч хлява і гуменца выйшаў на выган. Зялёны, чысты. Тут і яны, і сусед, што жыў непадалёку, сушылі сена.

Стаў. Прыслухаўся: недзе далёка пад Вішнёўку гудзеў трактар, ціха і настойліва, як авадзень. Шумела плыткае паветра, навяваючы тугу па страчаным цяпле і блізкім ужо холадзе.

Але вось наваколле нібы абудзілася, запоўнілася смехам, звонкімі галасамі: выбеглі са школы дзеці.

«Значыць, апошні перапынак... — падумаў Алесь Трахімавіч і не пазіраючы на гадзіннік.— Хутка будзе апошні ўрок — і дзеці пойдуць дадому. Трэба, значыць, і мне ісці дадому. Не трэба, каб дзеці бачылі мяне такім... Трэба заўсёды быць перад імі вясёлым, дужым, каб бачылі: ніколі і ні перад чым не трэба здавацца...»

Пастаяў і паслухаў: вясёлыя, шчырыя дзіцячыя галасы поўнілі яго душу радасцю і ўцехаю. Здаецца, усміхаўся сам сабе.

Але вось стала ціха — пачаўся апошні ўрок. Вочы неяк самі пачалі пазіраць не ўдалеч, а бліжэй і запыніліся на ўтравелай падмуроўцы, на грудках пачарнелай цэглы — на былым дзедавым і бацькавым селішчы.

«Зусім маленькая была хатка,— падумаў.— Але жылі ў ёй дзед, баба, дзедаў брат-бабыль, бацька, маці і нас,

дзевяцера дзяцей. Сёння з усіх толькі я адзін ацалеў... Дзед, баба і дзедаў брат сваёю смерцю памерлі, а астатнія... Жывымі спалілі немцы ў блакаду... За тое, што я быў у партызанах... Не вінаваты, але часта баліць сэрца, ные душа: не ўсцярог сваіх родных, не ўратаваў...»

Падумаў так і адчуў: зноў закалола сэрца. Аж бяжыць боль у скроні, у патыліцу.

«Хоць я і вучыў старых бацькоў, меншых братоў і сясцёр гаварыць усім, што я пайшоў у бежанцы, няма мяне тут, але ўсё роўна людзі ўведалі, што я нікуды не пайшоў, а тут, у партызанах, як і загадаў мне і іншым настаўнікам, старшыням калгаса і сельсавета райком... Нехта і шапнуў немцам... Адчуваў бяду, але не паспеў уратаваць... Вот і віна на ўвесь век... Хоць тады так запёрлі нас у лесе, што з яго і мыш не магла выскачыць... Тады многія партызанскія сем'і спалілі жывымі, пабілі... Бацькоў Івана Сямёнавіча гэтаксама... У Вертуна — брата, у Вольгі Піліпаўны — маці і сястру...»

Задумаўшыся, ён нібы зноў убачыў тую маленькую хатку з адным акенцам, з саламянаю пачарнелаю страхою.

«А як я пачаў падымацца на ногі, дык пачало мяняцца жыццё, ісці ўсё на лад. Усе тады думалі: ну, вот, можа, і зажывём нарэшце: скінулі цара, а потым і Часовы ўрад, вярнуліся з вайны дзедаў брат і бацька. Яны прывезлі не толькі ласункі, але і шмат дзіцячых кніжак з малюнкамі. Вот вечарамі іх і чытаў дзедаў брат, адзін з самых вялікіх грамацеяў у вёсцы.

«Па-нашаму напісана!..» — здзіўляўся дзед. Сам ён не ўмеў чытаць.

«Па-беларуску,— пасміхаўся дзед-бабыль,— гэтае «наша» і ёсць па-беларуску. Хутка так і ў школе будуць вучыць, як і мы тут гаворым... Вот наш Алеська пойдзе ў школу, дык ужо будзе вучыцца па-нашаму, па-беларуску... Хочаш, Алеська, навучыцца гэтак чытаць, як я чытаю? І яшчэ лепей?»

«Хачу!»

«Дык давай вучыцца... Вот гэта «а», вот гэтая чарачка «у», а гэта «мэ»... А цяпер давай складаць: ма, ам, ма-ма, а-у... Ну, давай сам. Ды добра! Як рэпу грызеш!.. Раз гэтак лоўка ў цябе выходзіць, дык трэба, Трахім, вучыць хлопца. Можа, вывучыцца, стане якім начальнікам, дык і нам будзе якая палёгка...»

І тады старыя шмат гаварылі, як і за што, дзе вучыць, па якой «камерцыі» мяне пусціць...

Школы тады ў Міланьках і ў блізкіх вёсках не было, ды, відаць, думкі не пра іх былі, калі вакол такое рабілася. Дык мая навука была такая — пасвіць каровы, жаць, сенаваць, а зімою сядзець на печы і слухаць байкі дзеда-бабыля... Калі ўдавалася ўхапіць абутак старэйшых, дык выбягаў і на снежны двор, часамі выскокваў і босы...

Толькі калі браўся дзесяты год, пайшоў у школу. Будынка асобнага, праўда, яшчэ так і не было; вучыліся мы па сялянскіх хатах: меншыя — у адным доме, старэйшыя — у другім.

Спярша, у школе першай ступені, вучыла нас, самых малых, маладая настаўніца, амаль дзяўчынка. Яна, як пасля гаварылі, прыехала ў вёску з горада, каб выратавацца ад голаду. Была высокая, у чорнай доўгай сукенцы з белым каўнерыкам і з белымі манжэтамі на рукавах, вельмі бледная на твары. Заўсёды сумнавацілася і з нейкай незразумелай бояззю, нават, можа, і з пагардай пазірала на нашы босыя, парэпаныя ногі ці брудноватыя лапці, дзіўна глядзела, як мы, схіліўшы галовы і высалапіўшы языкі, пішам вуглём па пабеленых мелам дошках, вымазваемся. Яна часта вось так паглядзіць, паглядзіць на нас і нашу такую пісаніну, пасля адвернецца, падыдзе да акна, задуменна пазірае ў яго і шэпча: «О божа літасцівы! І гэта — будаўнікі новага жыцця!.. Будучыні!..»

З вясковымі людзьмі яна не сябравала, не зналася, хадзіла толькі ў суседнюю вёску да папа і да ляснічага. Ішла, высока падняўшы галаву, і ні з кім не віталася, ні на кога не пазірала. Віталіся толькі ўсе з ёю...

Да яе ў вяскоўцаў і ў мяне была нейкая нядобрая адчужанасць. І нават на сённяшні розум і век, калі сам столькі гадоў ужо вучу дзяцей, знаю цану настаўніцкаму хлебу, няма да той першай сваёй настаўніцы і да яе працы павагі: не любіла яна нас...

Пасля, калі праз дзве зімы гэтая маладая красуня з'ехала, нас вучыў стары глухаваты дзядок, а пазней ужо — у школе сельскай моладзі — прыехаў вучыць высокі малады хлопец з абвіслымі на лоб светлымі валасамі. Гэты настаўнік быў малады паэт, сам вясковец, дык адразу сышоўся і з намі, дзецьмі, і з вясковымі людзьмі — чытаў нам свае і чужыя вершы, вучыў «добра» гаварыць па-беларуску. Ён наладзіў у Міланьках ячэйку «Далоў непісьменнасць», а ў

школе — тэатр. Развучваў з дзецьмі і з вясковымі маладымі і ставіў п'есы.

Колькі было сіл, старання, ахвоты, павагі да людзей, любові да роднай мовы і літаратуры ў таго хлопца! Як гарую, бядую, што няма родных, так баліць сэрца і па ім: малады ён паехаў у горад, малады нечакана і загінуў...

Як скончыў школу сельскай моладзі, я падаўся ў педтэхнікум, хацеў стаць настаўнікам роднай мовы і паэтам, такім, якім быў мой любімы настаўнік.

Пачаў настаўнічаць на пачатку трыццатых гадоў. Вучыў дзяцей, стараўся, каб яны набылі пачатковую адукацыю, пра якую тады гаварыла ўся краіна, гэтак жа, як нядаўна і мой любімы настаўнік, пісаў вершы і ставіў п'есы, агітаваў вяскоўцаў уступаць у калгас.

Калі аднойчы вяртаўся позна са сходу, дзе расказваў людзям пра калгасы і пра жыццё ды працу ў іх, то пяцёра сталых тутэйшых мужчын (сёння з іх жывы толькі адзін) заступілі дарогу. «Перастань клікаць людзей у калгасы! Не тумань нам галовы! Не перастанеш — дык спалім жыўцом!» А потым звалілі з ног, білі... Страціў прытомнасць, заліўся крывёю і не чуў, як і калі пакінулі біць, думаючы, што я ўжо «дайшоў».

Тады быў ужо жанаты, і мяне, не дачакаўшыся дома, знайшла там, на дарозе, і адратавала жонка.

...Галіна была маладзей на гадоў пяць. Вырасла яна ў тутэйшай беднай сям'і, пахадзіла гады чатыры ў школу і мусіла на гэтым спыніць сваё навучанне, пайсці працаваць — вывучылася за швачку і памагала шыць пажылой галоўнай міланьскай швачцы, а калі тая памерла, то сама стала галоўнай абшывальніцай вёскі і нават людзей з суседніх сёл.

Была тады Галіна невысокая, тоненькая, дробная тварам, але ўдалася вельмі прывабнай і прыгожай. Да яе змалку «падскакала» многа хлопцаў, а пасля, калі пасталела, і сваталася. Падабалася яна ім не толькі маладою красою і свежасцю, але і працавітасцю. Бывала, ад відна да відна шые, згінаецца, слепіць вочы, коле пальцы, каб і чалавеку памагчы, і самой зарабіць, пракарміць вялікую — без бацькі — сям'ю. Але вечарам, калі прыйдзе ў хату-чытальню, весялейшай за яе не было: і ніхто дасціпней за яе не пажартуе, не запяе і не патанцуе, і вершык ніхто лепш не раскажа. Хлопцы ля яе, здаецца, роем віліся.

Я, хоць і сам быў добры жартун ды смяльчак, але з дзяў-

чатамі паводзіў сябе не надта смела. З Галінай — тым болей. Бо закахаўся ў яе і не ведаў, як сказаць пра гэта, толькі раўнаваў, калі яна пасміхалася з другімі. Але як толькі асмеліўся «пажаніхацца», яна гэтаксама ўзрадавалася, што падабаецца яму, сказала, што будзе толькі мая...

Неўзабаве пажаніліся, на наступны год нарадзіла сына, а пазней, перад самаю вайною, і дачку. Хоць цяпер, на сённяшні дзень, жывём толькі ўдваіх: дзеці разышліся па свеце...»

...Алесь Трахімавіч пастаяў, паглядзеў на старое сваё селішча і адчуў, што астудзіўся стоячы. Стала холадна ў плечы, залажыла нос — тады ён павярнуўся і, цяжка ступаючы, гэтак жа цяжка несучы свой поўны жывот, падаўся ў хату па тупкай сцежачцы, абапал якой па-летняму зелянеў падарожнік.

— Алесь Трахімавіч, Алесь Трахімавіч! — пачуў ён ззаду, са сценкі, знаёмы голас.

Азірнуўся: да яго на веласіпедзе ў гумовых ботах і зялёнай куртцы ехала паштарка, былая яго вучаніца.

Пад'ехаўшы, паштарка, сярэдніх гадоў жанчына, спрытна саскочыла з веласіпеда, расшпіліла сваю тоўстую сумку, што вісела на яе баку.

— Прагульваецеся? — запытала яна, ведаючы, што ён тыя дні не выходзіў з хаты.

— Трэба ж прывыкаць і да паветра,— усміхнуўся ён,— праз тры дні пайду ўжо ў школу.

— У вас і сёлета самая вялікая пошта,— сказала паштарка, падаючы кіпу газет,— пасля вас Васілец па падпісцы ідзе, за ім Рагатка, Лілія Іосіфаўна і парторг...

— Як хто можа ці хоча,— сказаў ён, з радасцю бачачы, што паштарка дастала і кіпку пісем, перабірае і шукае яго. Падала тры лісты.

— Сёння вам і кнігі падпісныя прыйшлі, але надта сумка поўная была, то не было куды іх узяць,— сказала паштарка.

— Ай-яй-яй! — зацмокаў ён, хочучы вельмі хоць зірнуць вокам на тыя кнігі, ведаючы, што не здолее сёння, можа, і заснуць, будзе думаць пра іх.— Хоць ты ідзі цяпер сам па іх!

— Заўтра то ўжо прывязу,— паабяцала паштарка,— прабачце, што так выйшла...

— Буду тады жыць надзеяй да заўтрашняга,— прамовіў ён.

— Вы, Алесь Трахімавіч, мусіць, усе кнігі перачыталі ўжо? — запытала яна.

— Што вы! — махнуў ён рукою.— Усіх і не перачытаеш, ды і не варта гэтага дабівацца. Але, думаю, што самае вартае ды цудоўнае, што ёсць у літаратуры, пасмакаваў...

— Гавораць людзі, што настаўнікі сёлета многа вяселляў спраўляць будуць... — нарэшце сказала пра свае «навіны» паштарка.— Васілец будзе браць Усціновіч, Ядзін Пеця — Ірыну Васільеўну, Рагаткаў Васіль — Маю Сцяпанаўну, а наша Каця бярэ ў прымы кватаранта свайго Міхаіла Апанасавіча...

— Дай бог! — усміхнуўся ён.— Так і трэба, каб было! У маладых маладое ў галаве...

— Яно так,— згадзілася і паштарка.— Ну папраўляйцеся, Алесь Трахімавіч. Паеду далей, яшчэ вунь колькі трэба пісем ды газет развесці.

Алесь Трахімавіч паглядзеў, адкуль яму лісты (адзін быў ад дачкі, другі ад сябра-кніжніка, трэці з райвыканкома), і падаўся ўзбоч плота ў хату.

«Хата ты хата! — падумаў.— Няма калі з-за хваробы падправіць цябе... Можа, на другое лета ўдасца ўжо печ перасыпаць...»

Абапіраючыся аб сцяну, узышоў на ганак, пастаяў з хвіліну і аддыхаўся, пасля падаўся ў сенцы-веранду, дзе па-ранейшаму пахла астылай пасечанай бульбай і яблыкамі. Бульба была тут паблізу, у цэбрыку, а яблыкі ляжалі ў кладоўцы.

Не паспеў зайсці ў хату і распрануцца, як пачуліся ззаду крокі. Жончыны. Ён ведаў, што так — хуценька і амаль не шлэпаючы па зямлі — можа хадзіць толькі яго Галіна.

— Усё-такі не ўцерпеў, выходзіў на двор... — мякка папракнула яна,— у кароткіх ботах, у чырвоным кажушку з чорнай аблямоўкай, у цёплай хустцы, чырвоная і маладжавая з твару.

Ён вінавата ўсміхнуўся, адчуваючы, што вось такой чырвані і здаровасці ў яго на твары няма, недзе на ім жаўцізна, выступіў, можа, толькі на шчоках невялічкі чырванец, не суцэльны і густы, як у маладых, а паявіліся старэчыя чырвоныя плямінкі.

— Ну што мне з табою рабіць! — гэтаксама мякка-дакорліва прамовіла яна і пачала памагаць яму распранацца — здымаць цяжкое зімовае паліто. Яна, канечне, і са-

ма столькі не ўляжала б і не змагла б сядзець у хаце, таму і гаварыла так далікатна.

Пасля хуценька распранулася сама, стала зусім тонкая, стройная, і гэта тонкасць давала ёй вялікую дужасць.

— Ліст з Ленінграда,— сказаў ён, калі падышоў і сеў на канапу.

— Чытай,— сказала яна.

Ён разарваў канверт і пачаў чытаць. Дачка коратка пісала, што «ўсё ў іх па-старому, усе жывыя і здаровыя, працуюць». Жонка ўважліва слухала, а пасля ўсхліпнула.

— Нічога не напісала, ці баляць у яе вочы... — сказала яна, калі ён скончыў чытаць, пасмуткавала, замаркоцілася, але пасля, мусіць, прымусіла сябе супакоіцца і падалася ў сенцы па мел.

Учора жонка абмазала глінаю дзіркі і трэшчыны ў грубцы і печы, то сёння яшчэ з раніцы размачыла мел — пабяліць у хаце. Прынесла вядро з мелам, даліла ў яго малака, каб пасля не браўся пабел, размяшала, стала на лаўку і пачала бяліць печ зверху. Ён жа, гледзячы на гэта, падумаў, што замазалі вось печ, пабеляць яе, але ўсё роўна праз дзень-другі яна трэсне ў новым месцы, прырудзее.

— Ларыса Іванаўна дае заўтра адкрыты ўрок па рускай мове... — сказала жонка.— Здаецца, спакойная, але хвалюецца... Можа, хто не бачыць, але я бачу. Прывыкла ўжо ўгадваць...

— Можа, трэба падысці, паслухаць, сказаць свае слова,— адказаў ён, ведаючы, што Ларыса Іванаўна дасць добры ўрок, таму варта схадзіць і паглядзець тое-сёе і для сябе.— Працавітая дзяўчына...

— Добрая дзяўчына! — згадзілася жонка.— Як ніхто, яна мне падабаецца. Разумная, сур'ёзная, стала пагаворыць з табою...

— Слухай,— ледзь не ўсклікнуў ён, чытаючы ліст з райвыканкома,— райсабес кліча афармляць пенсію...

— Дык і ідзі,— сказала яна.— Васілец давядзе рускую мову ў восьмым...

— Давядзе, канечне, і няблага... — згадзіўся ён.— Але як жа я цяпер на пенсію?..

— Не цяпер, дык вясною ці восенню пойдзеш,— сказала жонка.— Прыйшла пара...

— Пара гэтая праклятая то прыйшла... — сумна згадзіўся ён.— Але цяпер не магу, нават нікому не пакажу гэтага ліста, а ў райсабес адпішу, што буду афармляцца

вясною... Сам давяду, закончу сваю працу. Я ж іх, гэтых васьмікласнікаў, з пятага класа вучыў... Сам хачу і выпусціць іх... Як жа прыпыняцца на паўдарозе?..

— Глядзі сам. Як чуешся... — сказала жонка, саступіла са столака, пачала бяліць печ стоячы.— Цябе ўжо не перайначыш...

Ён усміхнуўся, радуючыся, што жонка яго разумее, паглядзеў, як яна хацела не мокрымі і белымі ад мелу пальцамі, а далонню паправіць валасы, захінуць іх пад хустку, а тады падняўся, падышоў да яе і запіхнуў валасы за вушы, пад хустку.

— Дзякую,— усміхнулася яна.

Алесь Трахімавіч усміхнуўся, бачачы ў жончыных вачах не жаль да яго, а павагу, трывогу, а гэтаксама і каханне. Яны моўчкі, пазіраючы адно аднаму ў вочы, паўсміхаліся. Каб некалі, як былі маладзейшыя, то абавязкова пацалаваліся б, але зараз пасаромеліся гэтага, толькі прыхіліліся на нейкую хвіліну галовамі...

Вечарам, як толькі на двары па-зімняму рана сшарэла, а пасля і ўцямнелася, зайшлі Ларыса Іванаўна і Павел Мікалаевіч.

Алесь Трахімавіч, які дасюль памагаў жонцы парадкаваць у хаце, а пасля абабраў чыгунок бульбы, абрадаваўся маладым, паважаным гасцям, затаптаўся — уключыўшы ў хаце святло і памагаючы тым распранацца і вешаць адзенне — ахватней, як сам у гэтую хвіліну памаладзеў, пазіраючы на сваіх гасцей — з квітнеючым здароўем, вясёлых і з чырвонымі ад халоднага ветру шчокамі. Ён сёння адразу ж яшчэ болей заўважыў сваім «старым» вокам, што маладыя ўжо не саромеюцца так, як некалі, адно аднаго на людзях, сваіх позіркаў, што нехта ведае пра іх тайну, пра іх каханне, а ў іх словах, паводзінах ды позірках адчуваецца ўжо сталасць і нават блізкая сваяцкасць, сваяцкасць мужа і жонкі.

Яны, Усціновіч і Васілец, адразу ж прыбеглі і пазаўчора, як толькі ён вярнуўся з бальніцы. З хваляваннем і трывогаю пыталіся ў яго пра здароўе, а ён, стараючыся супакоіць іх і не звяртаць вялікую ўвагу на сваю хваробу, пажартаваў, што рыпучае дрэва доўга жыве, адразу ж запытаў у іх пра школу — якія веды і ацэнкі за першую чвэрць у восьмым класе па рускай мове, як яны цяпер

чытаюць і знаюць рускую літаратуру, як увогуле паспяховасць па школе.

— Значыць, і сёлета шмат мы нечага недарабілі... — уздыхнуў ён.— Шмат нечага новага і цікавага не адкрылі дзецям...

— Самыя высокія веды і ацэнкі па мове і літаратуры і сёлета ў восьмым класе, дзе вы вучыце, і ў тых класах, у якіх вы вучылі летась,— сказала Ларыса Іванаўна, папраўляючы на галаве шапачку, счышчаючы з сукенкі пылінкі. Сёлета яна, здаецца, стала яшчэ больш стройная і па-жаноцку больш прывабная, з мяккімі рысамі твару і са спакойнымі рухамі.

Яго ніколі не радавалі толькі свае поспехі ці нечыя няўдачы, бо хацелася, каб усе дзеці бралі для сябе ўсё, што можна ўзяць у школе, разумнелі.

— Трэба шукаць прычын, трэба думаць, дзе мы чаго недарабілі,— сказаў Алесь Трахімавіч.— Хоць я чуў, што Павел Мікалаевіч добра сёлета пачаў працаваць, нават падзяку ад Івана Сямёнавіча атрымаў... І гэта поспехі ўжо!..

Васілец сарамліва ўсміхнуўся: «Якія там поспехі!»

— Але самі ўбачылі, як усё гэта нялёгка і радасна...— сказаў Алесь Трахімавіч.— Прыходзіць чарга ўжо і вам заяўляць пра сябе... Адны адыходзяць — другія прыходзяць. Але жыццё не спыняецца, ідзе толькі наперад. Ідзе таму, што жывяць яго вось гэтыя новыя сілы... Так што ўжо вы — будучыня школы...— і ён зноў лагодна, ад душы, усміхнуўся маладым, хоць сам падумаў, што жыццё чалавечае, а можа, і сама прырода, не толькі вельмі здзіўляе (у дзяцінстве), вучыць (у юнацтве), забірае ўсе сілы, паказвае ўсе свае чары і цяжкасці (у маладосці і да старасці), але і жорсткае (калі возьме ўсё ад цябе, высушыць, то тады адкідае цябе ўбок, клапоціцца пра сваю будучыню — пра самых маленькіх, якіх даводзіць да старасці, і зноў ды зноў хоча амаладзіцца).

Вось таму Алесь Трахімавіч, столькі пажыўшы і шмат чаго ўбачыўшы, калі пазіраў першага верасня на маленькіх першакласнікаў, і радаваўся, што яны многа чаго ўведаюць, і шкадаваў іх...

— Так што ў вас яшчэ наперадзе нялёгкае, але цудоўнае жыццё... — усміхнуўся Алесь Трахімавіч.— А на словы свайго сябрука пра вашу прыземленасць, пра што вы гаварылі на днях, не зважайце, бо гэта толькі ганарыстая

выдумка-балбатня тых, хто не ведае нашага жыцця, але думае, што яно павінна быць такім, як яны думаюць...

— Ды і мы пасміхаемся з гэтага,— сказала Ларыса Іванаўна.— І думаем пра другое. Можа, вы заўтра, калі дазволіць здароўе, падышлі б у школу на мой адкрыты ўрок па мове? Ваша слова...

— Падыду,— усміхнуўся ён.— Я ўжо сябе адчуваю, як у трыццаць гадоў!

Жонка, стоячы ля гарачай печы, крышку іранічна ўсміхнулася, але нічога не сказала.

— А цяпер, можа, паглядзіце план гэтага ўрока, падкажаце яшчэ што... — сказала Ларыса Іванаўна і падала вучнёўскі сшытак, які быў амаль увесь спісаны дробным почыркам.

— Зараз павячэраем, а тады ўсе разам і паглядзім,— усміхнуўся ён, адчуваючы, што план гэты ўжо і самой настаўніцай, і яе сябрам добра прадуманы.— Хоць я адчуваю: наўрад ці што змагу яшчэ вам падказаць... Будзе заўтра толькі многае залежаць ад вашага выканання задумы і ад працы вучняў...

Павел Мікалаевіч, слухаючы іх, стаяў ля шаф і пазіраў на кнігі. Можа, і выбіраў, што яму сёння ўзяць пачытаць. Бо вунь аднёс, відаць, раней узятыя — ляжыць на стале загорнуты газетаю пакуначак.

— Дык выязджае ваша гаспадыня? — спытаў Алесь Трахімавіч у Ларысы Іванаўны.

— Прадала ўжо хату, узяла задатак... — сумнавата адказала тая, і ён ведаў, чаму той сум.

— Куплялі б вы ды жылі б,— сказаў ён.

— Няма ў нас такой сумы... — усміхнулася Ларыса Іванаўна.

— Мы пазычылі б,— сказаў ён.— Можа, вы і дарэмна ўпусцілі такі шанец. Мелі б свой куток. Працавалі б і аддавалі пакрысе...

— Вялікі доўг... — прамовіў Павел Мікалаевіч, адпіхаючы шкліну і дастаючы нагледжаную кнігу. — Страшнавата... Можа, апытаем дзе кватэру ды дачакаемся, калі будзе новая школа...

— Вы ведаеце,— сказаў Алесь Трахімавіч, разумеючы добра гэтых маладых,— што нялёгка сямейным знайсці куток. Ахвотней бяруць халасцякоў ды нежанатых... Ды і хто хацеў узяць кватарантаў, ужо ўзяў... Трэба,— звярнуўся ён да жонкі,— з Анцяю пагаварыць. Адна жыве, няў-

жо не возьме? Праўда, нейкая нелюдзімая яна, але вы, думаю, зможаце з ёю зладзіць.

— Падыду заўтра, пагавару,— адказала жонка.— Трэба ж памагчы маладым. Хто ім, адзінокім, тут паможа? А цяпер хадзіце есці, вячэра ўжо гатовая... — і пачала даставаць з печы вілкамі гаршчок з бульбаю.

— Пайшлі,— запрасіў жаданых гасцей Алесь Трахімавіч.— Падмацуемся — тады і лягчэй пра ўсе праблемы думаць будзем... — жартаваў наўмысна, каб падбадзёрыць маладых.— Але ўсё будзе добра, дарагія мае. У каго з нас не было цяжкасцей? Жыццё не раз наўмысна падстаўляе нам іх, каб праверыць, што мы за людзі... Слабога духам ломіць, а моцнага гартуе. Вас не зломіць...

## 9

Пасля першай нядзелі снежня амаль кожнага дня сіне-чорныя хмары ўхутвалі неба. На дварэ халаднела і цямнела. Сыпаўся мокры і цяжкі снег, але тут жа раставаў.

Праўда, пад вечар неба выяснівалася, вышэла і пачынала блішчаць далёкімі мігатлівымі зорачкамі, дыхала спачатку калючым холадам, а пасля пачынала ціснуць і марозікам. Вялікага марозу ноччу не было, пад раніцу тольці цвярдзела і станавілася гулкай зямля, сцягвалася пад сілёдавай скарынкай вада. Раніцаю доўга на дварэ было сіне-бела ад інею і дыму, што вісеў нізка над хатамі. Толькі ж к полудню гэтая блакітная смуга прападала, мароз знікаў і зямля зноў мякчэла, а пасля сняжыла, і дажджыла па шмат разоў. Дык ужо і хацелася сапраўднай зімы.

«Але зіма, мусіць, будзе яшчэ не скора... — думала Лілія Іосіфаўна, пазіраючы ў акно.— Дык і настрой мой яшчэ не хутка зменіцца... Эх, Пеця, Пеця! Так ты растрывожыў мяне! Расхваляваў і пайшоў да Ірыны Васільеўны... А я... І трэба было ж мне гэтак закахацца... Як дзяўчынка якая...»

...Мая Сцяпанаўна вярнулася са школы, калі ўжо ў хаце гарэла святло, калі Лілія Іосіфаўна напякла міску дранікаў, насмажыла сала з мясам і цыбулі, заліла гэтым дранікі і паставіла іх на прыпеку — каб не астывалі.

Мая Сцяпанаўна, невысокая, прыгожая яшчэ болей у сінім паліто з сівым пышным каўняром, ружовашчокая, была апошнія часы тая і не тая. Была такая ж прыгожая,

стройная, але чамусьці прапала ў яе ранейшая весялосць, а ў вачах нечакана з'явіўся глыбока схаваны смутак, нават трывога і адчай, і гэта — глыбока патаемнае, самотнае — зрабіла адбітак на яе позірку і паводзінах, зрабіла яе неяк больш сталай і раздумлівай, нават зблажэлай.

Раней — зусім яшчэ нядаўна,— бывала, як толькі прыбяжыць пад вечар са школы, перакусіць і ляжа спаць. Падрэмле, адпачне, падымецца — і такая яна тады была маладая, здаровая, вясёлая і свежая, што нельга было не парадавацца за яе. Пасля прыхарошыцца і чакае Васіля, ідзе з ім некуды гуляць ці, пакуль ён прыйдзе, прысядзе і пяе, жартуе, аж зайздрасць брала, што яна такая шчаслівая...

Цяпер яна змянілася. Калі і ўсміхнецца гарэзліва, запяе, але пасля як успомніць нешта — і замаркоціцца. Па-ранейшаму яна, вярнуўшыся са школы, перакусіць і кладзецца ў ложак, але цяпер так хутка, як раней, не засынае, а то і зусім не спіць, ляжыць і пазірае ў столь ці заплюшчыць вочы і прыкідваецца, што дрэмле. І ночы апошнія яна неспакойна спіць, таму, мусіць, і зблажэла. А ўсё гэта, здаецца, ад таго, што яна пасправачалася са сваім Васілём, які каторую пару ўжо да іх не прыходзіць...

— Ну, чым ты пачастуеш? — спытала Мая Сцяпанаўна, вярнуўшыся са спальні на кухню ў халаце, які вельмі ішоў да яе кругленькага прыгожанькага твару, добра аблягаў яе поўную постаць.

— Вось чым... — усміхнулася Лілія Іосіфаўна, ставячы на стол міску з дранікамі.

— О, як смачна пахне! — крыху ўсміхнулася і тая, села і пачала есці.

Ела яна цёплыя, мяккія ад тлушчу дранікі не вельмі ахвотна і адкідвала са свайго боку відэльцам кавалачкі свежага мяса, якое раней вельмі любіла. І як яе Лілія Іосіфаўна не ўгаворвала пакаштаваць свежаніны, тая адмаўлялася, а пасля зморшчылася, замахала рукою ля рота, сказала: «Мне нешта блага...» — і хутка выбегла ў сенцы.

— Што з табою? — затрывожылася Лілія Іосіфаўна, калі сяброўка, белая ў твары, вярнулася на кухню, больш не села есці дранікі, а наліла ў кружку чаю і дрыготкаю рукою пачала размешваць у ёй лыжачкаю цукар. Уздрыгвалі і яе раней поўненькія, а цяпер як сасмяглыя вусны, і сама яна ўся была нейкая надта аслабелая.

— Відаць, кішэчнік...— прамовіла тая, але ў твар не зірнула, сербанула, нагнуўшыся, з кубка чаю і тады ўжо

зірнула жывей, і да яе шчок, вуснаў і рук пачала прыліваць чырвань.

— Я бачу, што ты вельмі зблажэла... — трывожна сказала Лілія Іосіфаўна, шчыра перажываючы за сяброўчына здароўе.— Трэба тэрмінова да ўрача...

— Паеду на днях... — ціха адказала Мая Сцяпанаўна, пасля неяк самотна і даверліва зірнула на яе.— Толькі ты пра гэта нікому не кажы...

— Што ты! — супакоіла яе Лілія Іосіфаўна.— Пра гэта не можа быць і гаворкі. Трэба падумаць, якое табе скласці меню...

— Дзякую, Лілечка,— адказала тая, не дапіла чаю і падалася ў лепшую палавіну, дзе цяпер была гаспадыня.

Лілія Іосіфаўна выпіла ажно два кубкі чаю (яна ела добра, то сама здзіўлялася, чаму такая тонкая), цяпер падумала, што, можа, і яна мае нейкую хваробу, што не можа крыху паправіцца, падумала, што, можа, гэтаксама варта пад'ехаць і расказаць усё ўрачу. Вымыла пасуду і падалася ў лепшую палавіну, дзе Мая Сцяпанаўна ляжала ў халаце на пасцелі, а ля яе стаяла гаспадыня і гаварыла:

— Жывот трэба лячыць, дзіця маё... Замучыць... Абы што якое з'еў — ён і баліць... Але я табе зараз зёлак напару... — і добрая жанчына распранулася і падалася на кухню, дзе за комінам ляжала многа насушаных ёю траў і кветак.

— Не трэба мне гэтых зёлак...— шапнула Мая Сцяпанаўна.

— Народныя лякарствы вельмі памагаюць... — запярэчыла ёй Лілія Іосіфаўна.— Так што ты не адмаўляйся...

— Мне яны не памогуць,— абыякава адказала тая.— У мяне зусім другое, толькі я не хачу гаварыць... Нашто каму ведаць ці азмрочваць каго. У цябе самой мала шчасця ды радасці...

— Я не вельмі азмрочваюся,— наўмысна бадзёра сказала Лілія Іосіфаўна.— І не надта паддамся благому настрою... З сабою спраўлюся... Але вось што ў цябе, Мая, што цябе так з першага ж разу падкасіла?

— Няма ў мяне... — памаўчаўшы, сказала тая.— Вось і ёсць усе меркаванні...

— Чаго няма і што ёсць? — зусім не зразумела Лілія Іосіфаўна, прысела ля сяброўкі, пазіраючы ёй у самотныя вочы, пад якімі паявіліся сіняватыя ўпадзінкі.

— Цяжарная я, вось што...— нечакана ціха выдыхнула Мая Сцяпанаўна, закрыла твар рукамі.

Лілія Іосіфаўна разгублена зірнула на яе, пасля ўжо апамяталася, але ўсё яшчэ спалохана запытала:

— Як так?

— Вось так...

— Можа, ты памыляешся? — шапнула яна.

— Ты што — маленькая? Я ж ведаю... Няма, і во за вячэраю...

— А ён — што? — збянтэжана спытала Лілія Іосіфаўна.

— Я яму яшчэ не гаварыла, бо пасправаліся на днях...— тая адкрыла твар і выцерла слёзы.— Напраўду паеду на днях да ўрачоў... І ўсё...

— І страшна вельмі, Маечка, і ці трэба... — прамовіла Лілія Іосіфаўна.— І, ведаеш, пасля можа ўсякае быць... Самыя розныя беды... — і яна пачала пераказваць тое, што чула не раз ад розных людзей.

— Ну што я нарабіла?.. — усхліпвала Мая Сцяпанаўна.— Не хачу, не буду...

— Не адчайвайся і не гарачыся... — прасіла Лілія Іосіфаўна, адчуваючы, што яна ў такіх справах нічога не знае, зусім няўмелая, не ведае, як памагчы, але знала, што памагчы трэба.— А мы вось зараз пойдзем да яго і пагаворым... — Яна адчувала, што на гэта патрэбна смеласць, вялікая смеласць, якой у яе ніколі не было, але цяпер — дзеля сяброўкі — яна гатова была пайсці на самыя цяжкія выпрабаванні, абы выратаваць яе, не даць адчаяцца, зрабіць абы-што ад разгубленасці.

— Я не пайду да іх... — не згадзілася Мая Сцяпанаўна.— Дзе я вочы дзену?..

— Я выклічу яго на двор, і мы пагаворым з ім... — сказала Лілія Іосіфаўна і здзівілася, як усё гэта хутка і нечакана прыходзіць ёй у галаву.

— Лілечка мая! — усхліпнула Мая Сцяпанаўна, прыгарнулася да яе каленяў, абняла за стан.— Залатое ў цябе сэрца... Прабач, што я не раз была дурная, пасміхалася...

— Дробязі гэта... — махнула рукою Лілія Іосіфаўна.— Цяпер будзем думаць не пра гэта, а пра другое. Адзявайся — і пайшлі. Перагаворым, і ўсё будзе добра...

— Добра, каб добра... — прамовіла тая і зноў усхліпнула.

— Не трэба, Мая... — сказала Лілія Іосіфаўна, не вы-

трывала і гэтаксама заплакала, горнучы сяброўку да сябе, трывожачыся за яе лёс.— Але вось што выпадае нам, жанчынам... Перш за ўсё бяда нам... Але нічога, усё будзе добра. Вы ж кахаеце адно аднаго... То гэта, можа, не бяда для вас, а шчасце...

— Дзяўчаты, пайшоў снег...— зайшла сюды і сказала гаспадыня, якая была без верхняга адзення, несла ў руках кубак.— Выпі, дзіця, не пашкодзіць.

Мая Сцяпанаўна ўзяла ад яе кубак, абгарнула яго крысом халата, каб не так пёк у рукі, і, дзьмухаючы, пачала адхлёбваць маленькімі глыточкамі гарачую ваду, якая была настоена нейкімі зёлкамі.

— А плакаць не трэба,— прамовіла гаспадыня.— Вы ж яшчэ маладзенькія, вылечыцеся... Мае вы дзяўчаткі! — паківала яшчэ яна, шкадуючы іх.— Плачаце вы часта: то дзеці пакрыўдзяць, то вецер халодны, то хвароба...

Лілія Іосіфаўна, зірнуўшы на гаспадыню, засаромелася і, мусіць, густа зачырванелася, бо адчула, як запалалі шчокі, падумала, што гаспадыня, канечне, болей ведае пра іх і іх жыццё, як яны думаюць, ведае і тое, што яны, здаецца, вельмі хаваюць...

— Давай, Мая, адзенемся і зірнём на снег,— сказала Лілія Іосіфаўна, перамагаючы свой сорам і па-змоўніцку падміргваючы сяброўцы.— Вельмі люблю пазіраць, калі ідзе снег! Гадзінамі тады стаяла б на дварэ!

— Выйдзіце, пагуляйце, дзяўчаткі,— сказала гаспадыня.— Нялёгка во і да вас, маладзенькіх, шчасцейка ідзе...

— Прыйдзе, цёця,— усміхнулася Лілія Іосіфаўна, апранаючы на халат зімовае паліто, а пасля абуваючы і зімнія боты.— Раз мы чакаем яго, то прыйдзе...

— Дай вам бог гэтага... — адказала гаспадыня і палезла на печ.— І я за вас во падумаю, пажадаю вам гэтага...

Мая Сцяпанаўна гэтаксама абула зімовыя чорныя боты, сіняе паліто з сівым каўняром, доўга стаяла ля люстэрка і завязвала ды перавязвала белую хустку, фарбавала вусны і падводзіла вейкі. Лілія Іосіфаўна амаль ніколі не рабіла гэтага, то цяпер стаяла непадалёку і пазірала на сяброўку.

...Снег быў відаць толькі з акна кухні, калі гарэла там святло: ён ляцеў долу паблізу шыбін. Як выключылі святло і выйшлі на двор, снегу не стала бачна, але ён добра чуўся — варта было працягнуць уперад далонь ці падняць твар, як ён, пушысты і халодны, ліп да цела. Зямля ад

снегу шарэла, выпраменьвала святло — і нават цяпер, познім вечарам, павіднела, разгарнулася цемень. Паказаліся блізкія хаты, платы, шарэючы ад белізны.

— О божа! — усклікнула Лілія Іосіфаўна.— Як я люблю снег! Як хараша і лёгка!

Мая Сцяпанаўна стаяла паблізу пры плоце і маўчала, здаецца, абыякава пазірала, як яе плечы аблеплівае снег, як кружыцца непадалёку яна, Лілія Іосіфаўна, радуецца такому просценькаму дзіву — густому і лёгкаму снегу...

— Пайшлі,— сказала Лілія Іосіфаўна, узяла сяброўку пад руку і павяла з двара.

Падаліся да Рагаткі не вуліцаю, дзе была незамёрзлая глыбокая хлёпанка, а пайшлі па сцежачцы, што вілася ля самых платоў. Часта коўзаліся, маглі б паваліцца, каб не трымаліся адна за адну. Як праходзілі ля хат, з акон якіх падала на плот, сцежку і дарогу святло, зноў добра быў відаць сухі снег, што не цяжка падаў долу, а ляцеў памалу, кружачыся.

Мая Сцяпанаўна ішла і маўчала, але адчувалася, што яна хвалюецца. Хвалявалася і Лілія Іосіфаўна, хоць яе хваляванне было зусім іншае, як у сяброўкі,— не за сябе, а за другога. Мая ж Сцяпанаўна перажывала, канечне, перш за ўсё за сваю долю.

На верандзе і на кухні Рагаткавай хаты святла не было, і Лілія Іосіфаўна падумала, што яны ўжо спяць. Але калі падышлі бліжэй, да нізенькай брамкі, то ўбачылі, што з акна лепшай палавіны на двор падала блакітнае святло ад тэлевізара.

— Я далей не пайду,— сказала Мая Сцяпанаўна і прыхінулася да плота.

— Чакай тут... — прамовіла Лілія Іосіфаўна і, каб супакоіць яе і сябе, пацiснула сяброўку за локаць, цмокнула ў шчаку.— Усё ўладзім...

Яна адна, сама здзіўляючыся сваёй смеласці і рашучасці, падалася па двары да сянец-веранды. Хоць была тут усяго некалькі разоў, але хутка намацала клямку, адчыніла дзверы і зайшла ў веранду, вобмацкам пачала шукаць другую клямку, каб адчыніць дзверы ў калідор. Пакуль яна абмацвала яе, пачуліся крокі і нехта ўключыў святло — пстрыкнуў ля самага вушака ўключальнікам, адчыніў ёй дзверы.

Гэта быў Васіль, які стаяў у трыко і тапачках. Лілія Іосіфаўна рашыла не хітраваць, адразу сказаць, каб ён

выйшаў на двор. Але не паспела: адхінуўшы занавеску, п лепшай, палавіны вызірнула Вольга Піліпаўна, якая, відаць, сядзела там і глядзела кіно. Так і зірнула сюды — не ўстаючы з крэсла.

Лілія Іосіфаўна, не адчуваючы вялікага збянтэжання, ліхаманкава думала, як і пра што загаварыць.

— Іван Сямёнавіч дома? — спытала яна.

— Не, — першы адказаў Васіль.— У Вішнёўцы на партыйным сходзе.

«Дзякуй богу!» — парадавалася яна, уздыхнула.

— Хадзеце, Лілія Іосіфаўна, паглядзім цікавае кіно,— паклікала яе Вольга Піліпаўна,— а заадно, можа, і вырашым вашы клопаты да Івана Сямёнавіча.

— Не, дзякую,— усміхнулася Лілія Іосіфаўна,— я тады заўтра падыду,— а Васілю, які ўжо вось-вось мог адысціся, шапнула: — Правядзіце мяне...

Той здзівіўся, лыпнуў на яе шыракаватымі вачыма, прыпыніўся, а пасля сказаў маці:

— Я, мама, праводу... — і падаўся адчыніць дзверы.

Лілія Іосіфаўна, бачачы, што ён у такім адзенні не зможа доўга быць на дварэ, зноў шапнула:

— Абуйцеся і адзеньцеся,— а Вользе Піліпаўне сказала: — Прабачце... Спакойнай ночы!

Не стала чакаць Васіля, які нацягваў на ногі шкарпэткі, а пасля і чаравікі, пунсавеў на твары ад натугі і нейкага хвалявання, зірнуў на яе, як яна зачыняла дзверы ўжо, і яна на адзін міг убачыла на яго круглым, з невялікім загнутым носам і вялікім ілбом, прыгожым, як у бацькі, твары ўжо не здзіўленне, а здагадку.

Калі яна выйшла з варот, убачыла, што Мая Сцяпанаўна, чакаючы і хвалюючыся, шмат натупала, а можа, ёй прыходзілася і адыходзіцца, калі нехта ішоў па сцежцы. Мая Сцяпанаўна, выйшаўшы з-за вушака варот, зірнула на яе, як застыла, сціснула вусны і зморшчылася, але пасля, як рыпнулі дзверы веранды, зірнула туды, сагнала з твару разгубленую і плаксівую міну, пастаралася, здаецца, выглядаць абыякава.

Васіль, надта высокі ў цемені, падышоў да іх, зірнуў на Маю Сцяпанаўну і не сказаў ні слова.

Усе ўтраіх пастаялі з хвіліну і памаўчалі.

— Пагаварыце... — першая азвалася Лілія Іосіфаўна, бачачы, што яны, маладыя, першыя не загавораць з-за сваіх прынцыпаў.— Вам ёсць пра што пагаварыць... Пра

сваё будучае дзіця... Ну, шчасліва вам! — прамовіла, абедзвюма рукамі прыхіліла іх адно да аднаго, сутыкнуўшы тварамі, а сама павярнулася і падалася адсюль.

Вярталася дахаты і не азіралася: ведала, што ўсё ў іх будзе добра, хутка яны памірацца, паладзяць. Гэта толькі ёй ніхто надта не паможа, як не памагаў і дасюль — ні сварыў з кім, ні мірыў... Але і яна будзе жыць, усё вытрывае і не перастане верыць і ў сваё шчасце...

А зверху, з цёмна-шэрага неба, па-ранейшаму падаў на стрэхі, платы, на халодную зямлю, на яе белы снег. Ад яго ўжо добра дыхала холадам, чысцінёй, зімою, для раздолля і белай радасці якой даўнавата настала пара...

## 10

«Пачакаю, няхай дагоніць Адзінец,— падумаў Павел, прыпыняючыся.— Трэба пагаварыць. Шчыра, без папрокаў. У класе нешта не клеіцца ў нас ніколі гутарка, а тут павінна склеіцца... Лічы ж, дзеля гэтага падбіў увесь клас пакатацца сёння на лыжах уздоўж рэчкі Бярэзіны...»

Адзінец пад'ехаў.

— Усё цяжэй і цяжэй уцякаць ад цябе... — усміхнуўся Павел, пазіраючы на расчырванелага Адзінца.— Так што справядліва ты заняў нядаўна першае месца сярод вучняў васьмігадовых школ!

Адзінец сарамліва ўсміхнуўся, з зайздрасцю пазіраў на Паўлавы лыжы з прымацаванымі да іх чаравікамі, на якіх ён нядаўна выйграў на спаборніцтвах: Павел даваў яму гэтыя лыжы і чаравікі. Яны былі якраз па назе рослаdensityаму вучню.

Лес быў ціхі і белы. Прыгравала сонца. У небе пачуўся гул, пасля паказалася белая вузенькая палоска. Яна імкліва цягнулася на поўдзень.

Адзінец задраў галаву, прыжмурыўся і загледзеўся.

— Знішчальнік...— сказаў ён.— Во скорасць, вышыня!

— А ты хацеў бы стаць лётчыкам? Вось так лётаць, берагчы краіну?

Адзінец апусціў галаву. Маўчаў.

— Я ў лётнае вучылішча не паступлю,— потым уздыхнуў.

— Чаму?

— Ды я... Самі ж ведаеце, якія ў мяне ацэнкі... Па мове, па матэматыцы і фізіцы...

— Ты здаровы і дужы, разумны — гэта самае галоўнае...— сказаў Васілец.— А ўсё астатняе можа і прыкласціся... Толькі трэба табе пастарацца. Можаш рамантаваць матацыклы, тэлевізары, пральныя машыны, дык чаму не можаш ведаць на «5» фізіку? Можаш. Як можаш мець «5» і па матэматыцы, лепш пісаць і дыктоўкі, ізлажэнні, сачыненні...

Адзінец маўчаў.

— А можа, усё ж паваюем за тваю мару? Як, Адзінец? — і Павел паклаў яму, рösламу, руку на плячо.— Сам жа ведаеш: я гатоў табе заўсёды памагаць. А па фізіцы папросім, каб Таццяна Сяргееўна памагла... Ну, як? Маеш ты волю, волю мужных людзей, ці не маеш яе, адступіш ад свайго?

— Я хацеў бы, але...

— Ніякіх але, чуеш? — ляпнуў яго па плячы Васілец.— Значыць, пачынаем яшчэ большую даваць табе нагрузку, каб ты змог паправіць і тое, што запусціў, і заадно пайсці наперад... Твая перамога — і мая перамога... Пойдзеш у другую школу, у дзевяты клас,— і тады, калі хочаш, буду памагаць... І — абы стараўся — усяго даб'ешся...

Са смехам, з гоманам пад'язджалі астатнія сямікласнікі. Васілец крышку адвярнуўся, але паспеў прыкмеціць: Адзінец усміхаецца...

Ірына Васільеўна вярталася з сесіі, спяшалася дадому.

Аўтобус не хадзіў у Міланькі, але, на шчасце, удалося трапіць на спадарожную машыну.

...Дарога за горадам, як толькі скончыўся асфальт, пагоршала. Машыны даўно ўжо тут расцерлі не толькі снег ды лёд, але і зямлю. Перамяшалі яе, нарабілі глыбокіх каляін. І ў іх стаяла вада.

Машына ледзь паўзла, хвілінамі так ціха краталася, што, здавалася, стаяла на месцы.

Пасля, у лесе, памчаліся.

Жанчыны-спадарожніцы, нагаманіўшыся, памёрзшы, замаўчалі. Змерзла і Ірына Васільеўна. Надта ў ногі.

Мінулі поле, пад'ехалі да слупа, на якім гойдалася на адным цвіку сіняя таблічка з белымі літарамі «Міланькі». За гэтым слупам амаль адразу была сядзіба Пецевага бацькі.

Як Ірына Васільеўна і баялася, убачыла ў надворку Пецевых бацькоў. Маці стаяла з пустым вядром і пазірала на машыну, а бацька ішоў к хаце і нёс бярэмя дроў, гэтаксама стараўся, паварочваючы галаву, глянуць на грузавік. Відаць, прыкмецілі яе. Яна ж угнула галаву да брызенту і аж заплюшчыла вочы.

— Не стыдзіся,— заўважыўшы гэта, пажартавала яшчэ маладая суседка.— Відаць жа, ужо скора прыйдзеш сюды гаспадыняю. І калі будзе браць, дык не глядзі, што ты настаўніца, а ён просты хлопец, ідзі: і бацькі гаспадарлівыя, добрыя людзі, і ён, Пеця, файны хлопец. За ім не прападзеш, паняю будзеш жыць.

Ірына Васільеўна маўчала, толькі з сорамам пасміхалася. Але была рада, што так гавораць і пра Пецю, і пра яго бацькоў.

У вёсцы машына прыпынілася ля суседчынай хаты. Тут злезла і Ірына Васільеўна, прайшла крыху па вадзяністай вуліцы і павярнула ў свой двор.

Таццяна Сяргееўна, якая была ў трыко і ў цёплым світэры, сустрэла яе ў парозе сянец. Пацалавала ў шчаку, ўзяла з рук чамадан і сама панесла яго ў хату.

— Нарэшце прыехала! — абрадавалася тая.— Каб ты ведала, як я тут ссумавалася адна без цябе! Ледзь не здзічэла. Ну, як сесія?

— Ды добра,— адказала Ірына Васільеўна.— А ў цябе што новае?

— Што тут, мая мілая, новае? — махнула рукою Таццяна Сяргееўна.— Усё старое і нецікавае. Школа, дзеці, кватэра, сшыткі, спрэчкі з Іванам Сямёнавічам і яго жонкаю... Хоць і ёсць такія-сякія, мая мілая, навіны. Міхаіл Апанасавіч распісаўся з Кацяю, гавораць, што падалі ў сельсавет заявы Васілец і Усціновіч, а Мая Сцяпанаўна стала ўжо гэтакая замужняя... Але ўсё гэта такое дробнае. Не тое што там, у сталіцы... У кіно хадзіла, у тэатры?

— Нікуды не хадзіла, бо вучыць трэба было,— адказала Ірына Васільеўна, спакойна выслухаўшы ўсе навіны, якія былі не такімі ўжо навінамі: іх можна было чакаць і раней. Разулася, убачыла, што шкарпэткі мокрыя, хоць бяры іх і выкручвай.

— З хлопцамі пагуляла? — дапытвалася Таццяна Сяргееўна.

— Абы-што,— з незадавальненнем прамовіла Ірына

Васільеўна, пакрыўдзілася, што Таццяна Сяргееўна гэтак пра яе думае.

— Чаму? — як здзівілася тая.— Дарэмна, зусім дарэмна, мая мілая. Быць далёка і не гульнуць? Кепска, кепска. Твой бы Рамэо ціхманы нічога і не ведаў бы. Ды ён яшчэ дзіця, каб у чым разабрацца... Можаш весяліцца — весяліся...

Ірына Васільеўна зморшчылася, нічога не адказала. Затаіла крыўду.

— Ну прабач, мілая,— Таццяна Сяргееўна прытулілася да яе пляча.— Жыві як умееш. Не крыўдзься: нешта сёння я вельмі злосная, хачу з некага кпіць... Што ты смачненькага прывезла са сталіцы?

Ірына Васільеўна адчыніла чамадан, дастала загорнутую ў паперу каўбасу, булку ўкраінскага хлеба, пачку цукерак, піражнае.

— Малайчына, мілая! І пра мяне думала...— усміхнулася Таццяна Сяргееўна, цмокнула яе ў шчаку, адразу ўзялася за прысмакі.

Ірына Васільеўна пабралася на печ — пагрэцца. Залезла, адгарнула адзенне і паставіла на гарачую ляжанку ступні ног. За ёю ўзлезла і сяброўка, смачна ела каўбасу і хлеб.

...Пеця прыйшоў увечар.

На гэты раз прыйшоў адзін, бо дасюль стараўся прывесці каго за кампанію, мусіць, каб было смялей. Але зайшоў з сорамам, чырвоны, што бурак.

— Заходзьце, мілы, заходзьце,— запрасіла яго Таццяна Сяргееўна, памагла яму скінуць паліто, павесіць, запрасіла яго сесці на канапе.

А пасля сказала, што ёй трэба некуды схадзіць, і хутка апранулася, выйшла з хаты.

І Пеця, і Ірына Васільеўна — абое гэтак жа — бянтэжыліся: шмат-шмат сабралася ў іх на душы за ростань, але яны сароме́ліся сваёй шчырасці.

— Ну, як табе абышлося? — спытаў ён, кашлянуў у кулак, раз за разам папраўляў на белай кашулі гальштук, замахваў далонню назад, да патыліцы, мяккія валасы.

— Усё здала на «4» і «5»,— адказала яна, адчуваючы, што і да яе не прыходзяць патрэбныя словы. Толькі падумала, што ён жа хлопец, мог бы быць і смялейшы. Але во зусім нясмелы, аж залішне ўжо нясмелы.

Толькі праз паўгадзіны, калі яны то маўчалі, то перакідваліся адным-двума словамі, яна, у каторы раз праходзячы ля яго, сказала: «Цёмна, уключу святло»,— тады ён злавіў яе за руку і лёгка прыцягнуў да сябе.

Яна не ўпіралася, з радасцю прашаптала: «Што ты?»

Пецця, відаць, перасіліўшы сорам, страх, прыхіліў яе і пасадзіў побач на канапе, узяў яе руку ў абедзве свае.

— Я чакаў цябе...— прамовіў ён.— І пісьма чакаў, і цябе самую.

— Я не хацела пісаць, каб не ведалі...— адказала яна, адчуваючы, як да шчок прыплывае мяккая цяплынь, суха пячэ ў твар.

Ён, адчуўшы, што яна не ўцякае, сядзіць побач, асмялеў, прыхінуўся і пацалаваў яе спачатку ў шчаку, пасля ў куточак вуснаў.

— Я буду да цябе адзін хадзіць, добра? — запытаў ён.

— А хто ж табе не дае? — усміхнулася яна, адчуваючы, як ён мацней ціснае ёй рукі.

— Саромлюся Таццяны Сяргееўны...— прызнаўся ён.— Яна такая, што як зірне, дык здаецца, бачыць наскрозь...

— Яна добрая, толькі гэта мала хто ведае,— прамовіла яна.— Не бойся яе. Яна зычыць толькі дабра. А што пазірае гэтак, кпіць, пасміхаецца — такі ўжо ў яе характар... Не такі, дзякуй богу, як у нас з табою, маўчуноў...

— Я не маўчун,— пагарэзнічаў Пецця, нечакана абняў яе.

— Смелы! — усміхнулася яна, але не адсунулася, гэтаксама прытулілася.— Уга, які смелы!..

— І буду смелы! — ужо напраўду асмеліўся Пецця, пасля асыпаў яе шчокі пацалункамі.— А як замуж вазьму, дык тады зусім буду смелы.

— Які замуж? — як здзівілася Ірына Васільеўна, але адчула, як соладка тахнула яе сэрца...

## *ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ*

# ЗІМА І ВЯСНА

### 1

Пад канец лютага пачало нарэшце па-добраму выглядаць на зіму: насыпала многа снегу, разгулялася мяцеліца. Яна, ветраная і калючая, накруціла гурбы ля платоў, прымушала тоненька і сіратліва звінець шыбы ў вокнах, сумна гудзець драты, прымушала адчайна і самотна спяваць расшчэпленыя частаколіны ў плоце і ўсё несла, гнала аднекуль белы чысты снег, прыпыняла яго ля будынін.

Калі аднаго дня мяцеліца супакоілася, збегла за лясы, на двары паспакайнела, выяснілася і ўзяўся люты мароз. Ужо добра ён падхапіўся к вечару, пашчыпваў, а ноччу раз'ярыўся — бязлітасна пёк, выбеліў усё інеем, ляскаў у вуглах і плоце.

Шыбы акон за першую ж такую марозную ноч замерзлі, абраслі тоўстым, на палец, слоем снегу, ад чаго доўга і днём было цёмна ў хаце. Раніцай, пры ўсходзе сонца, пры чырвоным небакраі, мароз зусім лютаваў; днём ярка і ўжо даволі цёпла свяціла нізкае сонейка, ад святла якога балюча для вачэй іскрыўся снег, у зацішку ўгравала, і там пакрысе адтаваў снег, капаў долу нясмелымі, нягучнымі кропелькамі. К вечару, калі сонца зніжалася, холадна чырванелася, гэтыя кропелькі прымярзалі і звісалі маленькімі і тоненькімі лядзяшкамі.

Адным з такіх апошніх дзён лютага, дзён светлых і цёплых, калі вельмі хацелася выйсці з будынка на двор і пастаяць там, у Міланьскай школе быў прафсаюзны сход настаўнікаў. На сход гэты прыйшлі і госці — загадчык райана Давід Мойшавіч і Вертунова жонка.

Калі Павел адпусціў дзяцей дахаты і зайшоў у настаўніцкую, там ужо сядзелі амаль усе настаўнікі, Вертунова жонка — даволі яшчэ маладая, намнога, здаецца, маладзейшая за мужа, але бледная на дробненькім сімпатыч-

ным твары, у чорнай сукенцы і ў цёплых валёнках — і Давід Мойшавіч, ужо з рэдкаю сівізною на чорнавалосай галаве, з папаўнелым тварам.

Васілец убачыў: Вертунова жонка, самкнуўшы тонкія, амаль бяскроўныя вусны, сядзіць моўчкі, а Давід Мойшавіч усміхаўся, гаворачы з настаўнікамі.

«Арыгінальны чалавек,— падумаў Васілец пра Давіда Мойшавіча.— Нібы з жартам праверыў нашы планы, класныя журналы, дырэктаравы дакументы, нібы з жартам за нешта пахваліў, за нешта папікнуў... Але ўсё тое не на жарт запомнілася... А вось цяпер зноў жартуе, гаворачы пра жыццё-быццё...»

Іван Сямёнавіч гэтаксама ўсміхаўся, але сам маўчаў, уважліва слухаў ды пазіраў на сваіх настаўнікаў, як гаварыў гэтым позіркам: ну, пакажыце, мілыя калегі, што і мы тут нечага вартыя, вышэй трымайце галовы!

«Няма, на вялікі жаль, Алеся Трахімавіча,— прысеўшы на канапе, зноў падумаў сам сабе Васілец.— Зноў, бедны, трапіў у бальніцу. З інфарктам. Стаяў пазаўчора ў восьмым класе ля дошкі, гаварыў з вучнем, памагаючы таму разабрацца, дзе і якія знакі прыпынку ставіць, пасля раптоўна паваліўся... Яшчэ і сёння, як казала раніцай цёця Галя — а яна ўсю ноч сядзела пры ім,— у беспрытомнасці... Можа, і таму — што для школы такое гора — удвайне непрыемна, што зараз будзе такая размова на прафкоме: будзе разбірацца заява Вертуновай жонкі... Таму вось усе нібы і адказваюць на жарты Давіда Мойшавіча, але іхнія жарты нейкія невясёлыя...»

Вінаваты — Вяртун — сядзеў на сваім звычайным месцы, ля самага дырэктарскага стала. На дырэктарскім крэсле цяпер сядзеў Давід Мойшавіч (Іван Сямёнавіч сядзеў збоку, пад раскладам, дзе любіў сядзець ён, Васілец). Вяртун маўчаў, чырванеў і пазіраў лявей раскладу ў белую сцяну. Хваляваўся: вось усё ярчэй пачалі выступаць на шчоках чырвоныя плямінч, лоб пацеў, цяжкім, вінаватым і сарамлівым быў яго позірк. Неяк злямчана выглядалі яго кароценькія, амаль толькі ля вушэй, рыжаватыя валасы, вышэй, чым звычайна, глыбеліся залысіны.

Гаварыла Таццяна Сяргееўна. Васілец прыслухаўся.

— Я лічу, што даўно пара ўжо зводзіць не толькі пачатковыя, але і васьмігадовыя школы,— казала яна.— Усё ж найбольшая будучыня ў дзесяцігодак: у іх і лепшая база, і больш настаўнікаў. Ды важнае і тое, што там ву-

чань відзён з першага класа да апошняга... Таму і кожны настайнік можа больш шырэй убачыць плён сваёй працы, больш падумаць...

— Будзе некалі так, як вы гаворыце,— адказаў ёй Давід Мойшавіч.— Ну, што ж, бачу, настрой у вас рабочы, здаровы. Гэта добра. Калі ўсе сабраліся, то давайце пачнём гаворку і пра тое, пра што не хацелася б гаварыць...— і дапытліва зірнуў на Вертуна.

Той апусціў галаву, удыхнуў шмат паветра, увабраўшы шчокі, пасля ціхенька выдыхнуў і закрыў вочы кулакамі. На руках, здаецца, уздрыгвалі сінія жылкі. А можа, гэтыя жылкі і не ўздрыгвалі, толькі больш пасінелі. Тут жа Вертуновы залысіны і кончыкі вушэй пачалі налівацца чырванню.

Падняўся Сліж — старшыня мясцкома школы.

— Вось сабраліся ўсе нашы настаўнікі...— пачаў ён, надта ненатуральна мякка вымаўляючы зычныя.— Хто за тое, каб адкрыць наш сход? Усе. Тады пяройдзем да дзела. На парадку дня ў нас адно пытанне: разгляд заявы жонкі настаўніка Вертуна Міхася Рыгоравіча. У ёй скарга, што Міхась Рыгоравіч шмат п'е, ганьбіць гонар настаўніка, сям'і... Але я лепш во прачытаю заяву...

Прачытаў. Усе настаўнікі, апусціўшы галовы, слухалі. Міхась Рыгоравіч яшчэ ніжэй угнуў галаву.

— Вось...— потым Сліж, гэтаксама чырванеючы, зірнуў на ўсіх.— Давайце выказваць усе свае думкі. Хто першы? Можа, яшчэ паслухаем Вяртун Марыю Паўлаўну? — і зірнуў на Давіда Мойшавіча — ці так ён паводзіцца? Але той нават не міргнуў, пазіраў на Вертунову жонку.

— Што я яшчэ скажу? — тоненька, як дзяціным голасам, падняўшыся, прамовіла тая. Яшчэ больш пабялела.— Я ўсё напісала. Напісала не ад дабра... Раней быў як чалавек — дзяцей адвучыць, дадому ідзе. Калі пойдзе і на якую гулянку, дык і там быў як чалавек... А вот гэтыя дзесяць гадоў змяніўся... улёг да гарэлкі... Потым па хатах ходзіць, нейкія свае крыўды спраўджвае, нейкую праўду шукае...

«Праўду шукае...— падумаў Васілец.— Вось тут, мусіць, і адгадка Вертуновых такіх паводзін? Гэта, як я разумею, добра, што праўду чалавек шукае, але вось гора — што праз гарэлку...»

— І працавіты, і школу любіць, і сям'ю глядзіць, калі цвярозы, але во гарэлка губіць... Адна я не пераманю

яго...— і яна ўсхліпнула, зусім растрывожыўшы гэтым настаўнікаў.

Села на крэсла і выцерла шчокі хусткаю, паміргала вачыма і зірнула на ўсіх, але неяк невідушча, з клопатам, якія цяпер зусім не сароміў яе.

— Вы працуеце дзе? — спытаў загадчык.

— Не,— адказала яна.— Дзіця малое...

— Міхась Рыгоравіч аддае вам палучку? — зноў спытаў загадчык.

— Не ўсю...

Міхась Рыгоравіч незадаволена зірнуў на жонку, але нічога не сказаў, толькі іранічна ўсміхнуўся і паківаў галавою, прыплюшчыў і так вузенькія вочы і зноў зірнуў на плакат.

— Гаварыце, таварышы, вы ж болей ведаеце,— сказаў Давід Мойшавіч.— Бо мы ўжо — райана — будзем не толькі гаварыць, але і прымаць меры... Для настаўніка такія факты недапушчальныя... Канечне, і настаўнік чалавек, на зямлі жыве, сярод людзей, але ён — настаўнік... Выхавацель...

«Відаць, трэба і мне выступіць...— падумаў Васілец.— Але што сказаць свайму завучу, калегу, старэйшаму чалавеку? Горкую праўду? Але ці маю я на гэта права? Ды я і не ведаю яе, тую праўду. Бо не ведаю, як жыў Вяртун у вайну, пасля вайны, як ступіў на гэту сцежку любіцеля чаркі і чаму ступіў... А толькі асуджаць яго — відаць, гэта не зусім справядліва? Тут трэба разабрацца. Усе маўчаць. Але ж некаму трэба і пачынаць. Усім, відаць, цяжка...»

— Тады я першы пачну...— пачуўся строгі голас Івана Сямёнавіча, у якім ён пачуў папрок ім, настаўнікам, і папрок асабіста яму, Паўлу.— Факт гэты, канечне, непрыемны, для настаўніка зусім нягожы. Але ён, на жаль, ёсць... Я даўно, з дзяцінства, ведаю Міхася Рыгоравіча, ваяваў разам з ім, многа ўжо разам настаўнічаю... Настаўнік ён сумленны, вучыць, як ведае. Як завуч... Але сёння не пра гэта гаворка, цяпер размова пра яго рысы характару і паводзіны... Вось адна з гэтых рыс — слабая воля, бескантрольнасць — і шкодзіць яму... Міхась Рыгоравіч павінен перш за ўсё сам узяць сябе ў рукі, кантраляваць свае ўчынкі, стрымліваць сябе... А каб ён думаў пра гэта, я прапаную аб'явіць яму строгую вымову. Калі ж гэта будзе паўтарацца, перададзім яго справу ў райана...

— Будзе...— сказала Вертунова жонка.— Ён мне ўжо

тысячы разоў абяцаў, што не будзе піць... А як ўзяў адну чарку — то і забывае пра абяцанні...

— А што вы скажаце, Міхась Рыгоравіч? — спытаў Давід Мойшавіч, пагладзіў пальцам свой востры нос, паглядзеў на гадзіннік, а пасля і ў акно — там, за плотам, стаяла яго «Волга».

— Працую ў школе, як умею...— саромеючыся, яшчэ гусцей заліваючыся чырванню, прамовіў той.— Ну, бывае, калі вып'ю, а яна крыку наробіць...

— Бывае...— перакрывіла яго жонка.— Ты ўжо не можаш без яе...

— Як табе не брыдка! — з гневам пазіраючы на яе, вымавіў Міхась Рыгоравіч.— І сябе і мяне на ўвесь раён славіш... Чарку возьмеш калі, як і трэба,— а ты ў крык...

— Давайце па-дзелавому, таварышы,— папрасіў Давід Мойшавіч,— без... Як вы, Міхась Рыгоравіч, самі далей гледзіцё на гэта, на сваю слабую волю да... да гарэлкі?

— Можа, не кіну, але пастараюся трымаць сябе ў руках...— буркнуў той, зноў апускаючы галаву.

Яго жонка на гэта іранічна ўсміхнулася, гучна цмокнула, недаверліва пакруціла галавою.

— Хто яшчэ выступіць? — спытаў Давід Мойшавіч, пазіраючы на маладых настаўнікаў.— Так, крытыка ў вас тут не на ўзроўні!.. Па сваім вопыце ведаю: дзе няма крытыкі і самакрытыкі, там будуць згодніцтва і абыякавасць, кулуарныя размовы...

Міхасю Рыгоравічу аб'явілі строгую вымову, за што ўсе галасавалі аднагалосна.

— Не паможа гэта яму,— паднялася і сказала Вертунова жонка,— няма ў яго характару адмовіцца ад гэтай халеры... Бесхарактарны ён,— надзела паліто, развіталася і падалася з настаўніцкай.

— Будзем верыць, Міхась Рыгоравіч, у вашую волю,— прамовіў Давід Мойшавіч і папрасіў дазволу ў жанчын закурыць; як прыпаліў цыгарэту, глыбока зацягнуўся і набраў шмат дыму, пасля тоненька выпусціў яго ўверх, каб ён сцягнуўся ў адчынены люфцік.— Многа, Іван Сямёнавіч, у вас дзяўчат, і ўсе такія прыгожыя...

— Выдаём замуж пакрысе іх,— усміхнуўся і Рагатка.— Мая Сцяпанаўна першая асмелілася тут застацца, выйсці за тутэйшага, за ёю Міхаіл Апанасавіч узяў тутэйшую, і вось нядаўна выйшла замуж Ірына Васільеўна. У перспектыве яшчэ вяселлі будуць, а за імі і хрэсьбіны...

— Гэта добра,— усміхнуўся Давід Мойшавіч, прыязна пазіраючы на Таццяну Сяргееўну.— Трэба, Іван Сямёнавіч, усіх тут маладых ажаніць ці замуж выдаць, каб затрымаць, мець свае вопытныя і добра падрыхтаваныя кадры...

— Многа нас, усім жаніхоў не хапае...— усміхнулася Таццяна Сяргееўна, какетліва пазіраючы на павесялелага загадчыка, які, відаць, вельмі любіў пажартаваць з жанчынамі.

Міхась Рыгоравіч маўчаў, як вады ў рот набраў. І гэта было непрывычна, бо ён ніколі не быў такім маўклівым і сумным, а заўсёды падтрымліваў любы жарт.

— Праз год-два ў вас будзе добры калектыў,— сказаў Давід Мойшавіч,— тады мы за вас возьмемся па-сапраўднаму. Прымусім вас скрануцца з сярэдзінкі і пайсці ўверх... І вайну тройкам аб'явіць... Сілы ў вас ёсць, усе працуюць з ахвотаю і з уменнем — то зможаце дабіцца і лепшых вынікаў...

Іван Сямёнавіч, які іменна павінен быў нешта адказаць на гэта, пасміхаўся, пазіраючы на загадчыка, і маўчаў.

...Першыя падняліся і пачалі апранацца маладыя настаўніцы, па чарзе падыходзячы да невялікага люстэрка і гледзячыся ў яго, за імі, калі яны апрануліся і падаліся дахаты, пачалі апранацца Сліж і Павел. Моўчкі падышоў да вешалкі і Міхась Рыгоравіч, нейкі, як здавалася, вельмі невысокі, папаўнелы і пастарэлы ў гэтую хвіліну: цяжкаватай здавалася і пастава, і стомлена, з густымі маршчынамі, надта ў куточках вачэй, выглядаў і твар. Ён неяк зморана зняў з вешалкі сваё цяжкое доўгае паліто, усцягнуў яго, абы-як начапіў на шыю шалік, а на галаву старэватую вушанку і, не гледзячыся ў люстэрка, развітаўся.

— Пасядзі, Рыгоравіч,— сказаў Іван Сямёнавіч,— пагаворым яшчэ.

— Што гаварыць! — сумна і нехаця адказаў Вяртун, сказаў непрывычна ціха.

— Перажывайце...— сказаў яму Давід Мойшавіч.— Гэта першая зарука, што ў вас усё пойдзе на лад... І кантралюйце сябе. Хто з нас, калі сказаць шчыра, зусім не ўжывае? Няма такіх, мусіць. Усе мы, калі трэба, чарку бяром, але... стараемся глядзець за сабою, лішне не даём галаве п'янець ды языку мянташыць...

— Прывязу я вам на днях заяву,— сказаў Вяртун, прыпыніўшыся ў дзвярах.— Не магу я пасля гэтага быць завучам...

— Не выдумляйце і не расслабляйцеся! — параіў Давід Мойшавіч.— Ва ўсякім разе, да канца навучальнага года выконвайце свае абавязкі. Гэта, калі хочаце, вам выпрабавальны тэрмін...

Міхась Рыгоравіч яшчэ раз развітаўся і самотна падаўся на калідор, услед за ім сабраліся выйсці, развітаўшыся, Сліж і ён, Васілец.

— Павел Мікалаевіч, застаньцеся,— папрасіў загадчык.

Павел вярнуўся, зняў шапку і сеў на канапе ля Івана Сямёнавіча.

— Я задаволены вашаю працаю, Павел Мікалаевіч,— сказаў Давід Мойшавіч, пазіраючы яму ў вочы.— Мне многа і Іван Сямёнавіч расказваў пра вас, і інспектары, якія былі тут перад Новым годам, і сам я многае тут убачыў. У рабоце са сваім класам вы праявілі сябе добрым арганізатарам.

Павел не чакаў такой гутаркі, збянтэжыўся, мусіць, пачырванеў, саромеўся зірнуць загадчыку ў вочы.

— Калі і паправіцца, дай бог, ваш цудоўны мовавед Алесь Трахімавіч, мы яго ўсё роўна прымусім пайсці адразу ж на пенсію і шанаваць сваё здароўе,— гаварыў загадчык,— то вы ўжо становіцеся галоўным моваведам школы... Гэта ўжо рэальнасць. А як вы глядзіце на перспектыву, каб вас у новым навучальным годзе прыблізіць і да кіраўніцтва школай?

Павел яшчэ больш збянтэжыўся, апусціў долу галаву, пачаў разглядаць шапку.

— Не сакрэт, што Іван Сямёнавіч болей ужо, мусіць, думае пра пенсію,— як жартуючы, прамовіў Давід Мойшавіч,— ды і стаміўся накіроўваць навучальна-выхаваўчы працэс па-творчаму, за што вы, дарэчы, правільна крытыкавалі дырэкцыю школы на адным з педсаветаў, як я прачытаў у пратаколе... Іван Сямёнавіч — заслужаны чалавек, шмат зрабіў чаго ў вайну, да яе і пасля яе для школы... Але моцы яму маладога, энергічнага, адукаванага завуча не шкодзіла б, як пасля лягчэй было б гэтаму завучу і быць дырэктарам... Вы разумееце мяне, Павел Мікалаевіч?

— Чаму ён не разумее? — не пакрыўджана, а спакойна адказаў за яго Іван Сямёнавіч.— Уся гэтая размова толькі на карысць. Стаміўся я, напрыклад, ці не стаміўся — гэта іншая справа, але і ў мяне хапае і другіх — у тым ліку і грамадскіх — абавязкаў, таму мне і нялёгка выбраць шмат

часу для навучальна-выхаваўчай работы. Міхась Рыгоравіч не можа заглыбіцца, адчуць узровень кожнага настаўніка, паставіць перад ім праблему, бо ў яго і адукацыі для гэтага малавата, і прынцыповасці не хапае... А веды і стаданне Паўла Мікалаевіча цяпер вельмі патрэбны ўсёй школе, і іменна на пасадзе завуча. Ён, можа, па маладосці ды па сціпласці гэтага не адчувае, а то і пабойваецца кіруючай пасады, але я, стары школьны воўк, бачу, што ён тут болей патрэбен. На першым часе памагаць буду...

— Ну, што вы скажаце, Павел Мікалаевіч? — запытаў загадчык, выслухаўшы дырэктара.— Згодны вы памагчы сваёй школе дамагчыся большых вынікаў?

— А хіба я цяпер не стараюся дзеля гэтага? — як пажартаваў Павел, вельмі шкадуючы, што завязалася такая размова: яму яшчэ не хацелася ніякіх пасад, хацелася навучыцца добра настаўнічаць, дабіцца, каб дзеці выдатна ведалі мову і літаратуру, любілі гэта, як любіць ён. Ды яшчэ ён ведаў, што тады, калі стане завучам, будзе нялёгка з Міхасём Рыгоравічам...— Я хацеў бы яшчэ папрацаваць настаўнікам.

— Скромнічае! — усміхнуўся Іван Сямёнавіч, з усмешкаю пазіраючы на жонку, якая моўчкі сядзела на крэсле ля вешалак.— Але будзе, дзе дзенецца! Мы вылучым, а райана зацвердзіць... На карысць жа школе.

— Будзем тады мець гэта на ўвазе,— сказаў Давід Мойшавіч, падняўся, падаў Паўлу невялікую, з тонкімі пальцамі, на адным з якіх зіхацеў шырокі пярсцёнак, руку, пацiснуў, усміхнуўся, хітравата пазіраючы.— А вы гэта ўспрымайце як свой натуральны рост.

...Васілец, разгублены, нават крыху сумны ад нядаўняй гутаркі, выйшаў на сонечны двор, па якім моцны ветравей гнаў замець — расцярушаны, сыпучы белы снег, што шпарка бег, затрымліваўся ля кустоў, распаўзаўся. Замець гэта бегла хвалямі — адна за адной.

Павел, настаўляючы каўнер паліто і абцягваючы ўніз вушы пыжыкавай вушанкі, зморшчыўся ад холаду, што і пры сонцы пёк у шчокі, хацеў за школьнаю брамкаю павярнуць направа і пайсці на сваю кватэру, дзе ўжо жыла і Ірына Васільеўна, дзе ўжо яму трэ было, на добры толк, і не быць, як на міг зірнуў улева і — не быў рады, што зірнуў. Там, ля павароткі на вішнёўскую дарогу, ля школьнага плота, стаялі Вяртун і Сліж і размаўлялі. Ён хацеў паказаць ім, што не ўбачыў іх, пайсці сваёю дарогаю, але

яго тут жа аклікнуў Міхась Рыгоравіч. Нічога не заставалася іншага, як павярнуцца і падысці да іх.

— Не ўцякайце, хлопцы, ад мяне,— прамовіў чырвоны ад холаду Вяртун.— Усё ж мы някепска дасюль жылі.

— Думаў ісці хутчэй ды сачыненні к заўтрашняму праверыць...— не зусім шчыра сказаў Павел, дакараючы сябе за гэта.

— Праверыш і да Ларысы яшчэ сходзіш,— сказаў Вяртун.— А цяпер давайце ўтрох пойдзем да мяне...

— Я не магу,— прамовіў Сліж і, крышку адвярнуўшыся, міргаў Паўлу, каб і не думаў ісці да Вертуна, каб не «звязваўся» з тым, бо пасля скажуць, што разам быў.— У мяне дзіця не зусім здаровае, ды Ніна... Самі ведаеце маю Ніну, гэтаксама назаўтра заяву прынясе...

— Баіцёся ўжо са мною і знацца,— пакрыўдзіўся Вяртун.— Як трапіў чалавек у бяду, дык і ўцякаеце прэч...

— Ну не...— апраўдваўся Уладзімір Пятровіч, крыху прысаромлены гэтымі словамі.— Я толькі, Міхась Рыгоравіч, хацеў сказаць, што вы павінны мяне разумець за сённяшняе. Вы ж разумееце, што не я назначыў гэты сход, вымову вам даў... Мяне выбралі, вось я і вёў... Каб крыху пазней заява паступіла, то я дацягнуў бы да лета, не разглядаў бы, як і раней... Мы ж, праўда, няблага дасюль жылі...— ён глядзеў то на Паўла, то на Вертуна, стараючыся ўбачыць, як яны слухаюць, што ён гаворыць.

— Не трэба, не змешвай адно з адным,— зморшчыўся, незадаволена сказаў Вяртун.— Ідзі, калі трэба, бо твае гэтыя суцяшэнні мяне яшчэ больш засмучаюць...

Сліж не пайшоў, як разгубіўся, што яму рабіць, але Міхась Рыгоравіч хутка падаў яму руку, сказаў:

— Мудрыш ты ўсё...— і ўзяў Васільца за локаць, прамовіўшы: — Хадзем, Павел Мікалаевіч, у цябе ж яшчэ няма ні жонкі, ні дзяцей, ні гаспадаркі...

Павел нехаця падаўся з ім, пакідаючы Сліжа ў нерашучасці.

— Знаеш, як мне цяпер дома...— сказаў Вяртун і, можа, першы раз у жыцці пры чалавеку сказаў пра яго праўду (Сліж быў блізка, за крокі два, і ўсё чуў).— А Уладзімір Пятровіч во які... Хіба такое цяпер трэба яму гаварыць? Нашто апраўдвацца, старацца добранькім быць? Гэта ўжо не толькі хітрасць, а нешта і большае...

Гэтыя Вертуновы словы, мусіць, затрымалі Сліжа, і ён пайшоў у сваю Вішнёўку, можа, дакараючы сябе за тое,

што, бадай, першы раз сказаў тое-сёе, добра не падумаўшы, а ці трэ было пра гэта гаварыць...

Вяртун і Павел падаліся міланьскаю вуліцаю да Сулы — недалёкай вёсачкі, у якой жыў Міхась Рыгоравіч.

— Цябе папрасілі застацца, каб угаварыць стаць на маё месца? — спытаў нечакана Вяртун, цяжка ідучы ў доўгім паліто, несучы пад пахаю тоўстую сумку, якая не зашпілялася.

Васілец аж разгубіўся: не ведаў, ці сказаць усю праўду і гэтым самым зусім адабраць у Міхася Рыгоравіча дух, надзею і веру, ці лепш змоўчаць, сказаць што-небудзь іншае — далёкае ад праўды,— што падвесяліла б яго.

— Ды не...— прамовіў ён няўпэўнена, каўзануўся па скізкай, выкатанай машынамі дарозе, і Міхась Рыгоравіч, каб не даць яму паваліцца, падхапіў пад руку.— Пытаў загадчык пра работу...

Ведаў, што, гаворачы так, можа, і суцяшае Вертуна, але самому было непрыемна, і перш за ўсё непрыемна, што не зусім смелы, можа, надта чуллівы, баіцца пакрыўдзіць сталага чалавека.

— Я напраўду падам сам заяву...— сказаў Міхась Рыгоравіч, пазіраючы ўперад, на дарогу, што выйшла з Міланек і вяла да нізкіх і густых альховых кустоў, за якімі бачыўся сасновы лес.— Думаеш, завучу лёгка? Не, не лёгка. Трэба адказваць за сябе, за працу настаўнікаў, за веды дзяцей... Трэба ўмець кіраваць — шмат чаго ведаць, адчуваць, што робіцца ў школе і на якім узроўні навучанне, папраўляць і падказваць, дзе трэба, і загадваць... А я ўжо, можа, і не спраўляюся з гэтым...

Васільцу зноў было няёмка: восенню яны з Ларысай крытыкавалі за гэта дырэкцыю, а цяпер Вяртун сам прызнаваў такія памылкі, але прызнаваў так, каб ён, Павел, цяпер яго суцешыў і неяк апраўдаў.

— Канечне, нялёгка працаваць завучам...— прамовіў Павел.— Як і дырэктарам. Дырэктарам нават і цяжэй, бо там яшчэ і матэрыяльная адказнасць.

Вяртун прамаўчаў, можа, перажываючы, што не пачуў падтрымкі, а можа, прыціх таму, што ўваходзілі ў яго Сулу — невялікую вёсачку, хаты якой стаялі абапал кароткай, з паўвярсты, вуліцы-дарогі. Хаты ўсе амаль былі новыя, са смолкага дрэва, з шырокімі вокнамі, выфарбаваныя, з дагледжанымі дварамі і новымі платамі. Амаль усё

у іх — вокны, шчыты, веранды, платы — было падобнае. Відаць, вяскоўцы прыглядаліся адзін да аднаго.

Вертунова хата розлілася ад суседскіх: была добра ўстоеная ўжо, з яшчэ ранейшай сціпласцю — з некалькімі вузкімі і невысокімі вокнамі, з простым, без ніякіх хітрыкаў, шчытом, нізкая, праўда, крышку падмалоджвалася ад таго, што была накрыта нядаўна шыферам. За ёю паблізу, пад адною страхою, з пачарнелаю і пазелянелаю дранкаю, стаяў хлеў, а пры ім гуменца і дрывотня.

— Пара новую ставіць,— сказаў Васілец,— адстаяце ад вёскі.

— Можа, некалі і пастаўлю, калі дзятва крыху падніменца на ногі,— адказаў Міхась Рыгоравіч, адчыніў невысокую акуратную брамку, прапусціў яго ўперад на асфальтаваную сцежку, снег з якой быў скінуты і ляжаў за плотам, у гародчыку.

Ля невысокіх сянец стаялі санкі, і на іх — невялікая бочка. І санкі, і бочка былі абледзянелыя ад вады, якую, відаць, прывозілі з далёкага калодзежа Вертуновы вельмі працавітыя дзеці.

У сенцах лішняга нічога не было — цабэрчык пад бульбу, вядро, пустыя чыгуны, венік, рукамыйнік, за парогам ляжаў вузкі ходнічак, абапал якога жаўцела ад чысціні новая падлога. Васілец некалькі разоў ужо быў у Вертуна і заўсёды бачыў парадак і вялікую акуратнасць: вельмі глядзіць за гэтым гаспадыня, якая славіцца гаспадарлівасцю і чысцінёй на ўсю вёску.

У першай палавіне хаты, якая была і за залу, і за кухню, адразу справа стаяла пафарбаваная ў зялёны колер печ, злева, насупраць яе,— засланы новаю цыратаю стол, крыху правей ад яго, ля сцяны,— шафка на пасуду. Насупраць парога на століку, пад якім на палічках ляжалі падручнікі, стаяў невялікі тэлевізар, яшчэ правей, ля самых дзвярэй у другую палавіну хаты,— канапа. У цеснай хатцы было вельмі чыста, акуратна і ўтульна. І, здаецца, пахла бярозавым лісцем.

На канапе сядзелі старэйшыя дзве дзяўчынкі і хлопчык — вучні, яшчэ адзін вучань — першакласнік — сядзеў на печы, звесіўшы ногі ў простых рудаватых панчохах, гэтаксама сядзела ўсё такая бледная, як была і ў школе, гаспадыня і карміла грудзямі маленькае, спавітае ў беленькія полкі, дзіця.

«Пятае»,— падумаў Павел, успамінаючы, як летам ён, толькі прыехаўшы ў Міланькі, сустрэўся з Вертуном ля школы, і той сказаў, што жонка яшчэ хутка родзіць і ён стане бацькам-героем.

Цяпер гэты бацька-герой адчуваў сябе вельмі няёмка перад жонкаю і дзецьмі, якія заціхлі, калі яны ўвайшлі, толькі ўсе хорам адказалі на Васільцова прывітанне.

Вяртун моўчкі распрануўся, кіўнуў, каб скідаў паліто і Павел, павесіў сваё, а тады і яго паліто на вешалку, што была ля дзвярэй у лепшую палавіну, прысеў ля дзяцей на канапе, уздыхнуў, надзімаючы поўныя шчокі, зноў моўчкі, толькі кіўком паказаў Паўлу садзіцца паблізу на крэсле.

Павел адчуў няёмкасць, што прыйшоў сюды, бачачы, што гаспадар і гаспадыня не гавораць, прыціхлі ад гэтага і дзеці.

Вяртун, стараючыся не пазіраць на жонку, загаварыў да дзяцей, якія сядзелі на канапе, папрасіў паказаць яму тыя дзіцячыя кнігі, што яны чыталі.

Гаспадыня паклікала большую дачку-шасцікласніцу на печ, перадала той дзіця, а сама спаўзла з ляжанкі, абула паношаныя, але акуратныя валёнкі і падалася да печы. Па яе твары нават цяжка было здагадацца: была яна супраць таго, што прыйшоў ён, ці паглядзела на гэта зусім абыякава.

Яна заслала на прыпеку старую газету, дастала вілкамі з печы і паставіла на яе чыгунок, зняла з яго накрыўку. У хаце адразу запахла кіславатаю капустаю, распаранаю костачкаю з мясам; пах гэты яшчэ пабольшаў, калі гаспадыня наліла чарпаком капусту ў міскі, паставіла іх на стол і з місак нясмела пачала падымацца пара. Пасля гаспадыня дастала з печы патэльню смажанага сала з мясам і катлетамі, схадзіла ў сенцы, у кладоўку, і прынесла місачку цвёрдых зялёных гуркоў, тады адчыніла шафку і ўзяла пляшку, заткнутую папяровым коркам.

— Дзеці папалуднавалі ўжо, то сядайце, Павел Мікалаевіч, перакусіце,— нарэшце гаспадыня ўсміхнулася, і ад гэтага неяк знікла яе бледнасць, твар яе папрыгажэў.

— Не, дзякую,— адказаў ён.— Я палуднаваў у сталоўцы.

Можа, з'есці гарачага ды свежага ён не адмовіўся б, але калі ўбачыў пляшку, то вырашыў адмовіцца: добра была яшчэ на памяці сённяшняя гаворка пра шкоду гарэлкі,

былі на памяці і Сліжавы намёкі, каб не піць разам з Вертуном...

— Сядайце, калі ласка,— яшчэ раз ветліва запрасіла яго гаспадыня, завёўшы дзяцей у другую палавіну.— Вы не думайце, што я вельмі ўжо сварлівая, ніколі не дам яму нават выпіць. Калі якія госці ці іншая ёсць патрэба дома або і на старане ўзяць чарку, то чаму няможна павесяліцца крыху? Можна. Ці не раз гавару, прынясі пляшку і дома выпі...

Міхась Рыгоравіч моўчкі падышоў да стала і сеў у парозе на столачак, нічога супраць жонкі не гаварыў, паспрабаваў толькі лыжкаю капусту, а пасля яшчэ падсаліў яе.

— А ён... Ды вы самі ведаеце, колькі і дзе ён бярэ...— гаварыла гаспадыня, адкаркавала пляшку, наліла ў чарку Паўлу, крыху сабе, а мужу не наліла, паставіла ля яго пляшку.— Вось праз гэта ў нас і сварка...

— Ды перастань! — незадаволена сказаў Вяртун.— Ты ўжо пра гэта і напісала, і сказала!

— Мае ўгаворы ды сваркі не памаглі, дык няхай людзі ведаюць, ратуюць дзецям бацьку...— бадай, першы раз сёння зірнула на яго жонка.— А для школы — настаўніка...

Ён не вытрымаў яе позірку, апусціў галаву і пачаў наліваць з пляшкі ў сваю чарку.

— За ваша здароўе і за ваша вяселле, каб не цягнулі яго больш! — усміхнулася гаспадыня, стукнулася толькі з Паўлаваю чаркаю, выпіла сваю кроплю, зморшчылася, прыкусіла скрылікам хлеба і катлетаю.

— Дзякую! — усміхнуўся і Павел.— І за лад у вашай хаце!

— Закусвай,— буркнуў Вяртун, беручы відэльцам кавалачак мяса, а другою рукою — агурок.— Усё гэта, браце, жыццё...

— Па-ўсякаму і жыць жа можна...— сказала яго жонка.— Ды і самому думаць, як жыць, як сям'ю, работу і сябе глядзець... А глядзець трэба на Алеся Трахімавіча, дай бог яму здароўечка...— сказала, папрасіла прабачыць і падалася да дзяцей.

— Давай яшчэ па адной! — як толькі жонка выйшла, махнуў рукою, загарэўся Міхась Рыгоравіч.— Не магу: на душы пагана...

— Не, я больш не буду,— сказаў Павел і паставіў сваю чарку на падаконнік.

— Малайчына, што можаш так стрымацца! — як пазайздросціў яму Міхась Рыгоравіч, добра пазіраючы на яго.— А я не раз не магу... Ты ведаеш, я і сам сябе не люблю за свой характар,— прызнаваўся ён, падышоўшы і сеўшы блізка ля Паўла, часта плюскаючы вузкімі вачыма і неяк задзіраючы вышэй кірпаты нос.— Бо благі ў мяне характар... Сам ведаеш... І я сам бачу, што вы, маладыя, не любіце, што я не магу сказаць чалавеку горкую праўду... Ну, не магу! — ён ляпнуў сябе па грудзіне.— Усё баюся пакрыўдзіць, быць благім... Вып'ю — тады я смелы, тады я ўсё скажу... Хоць і за выпіўку сябе не люблю. Вот баба мая гаварыла: выпівай дома. Ну якая, скажы ты мне, дома гулянка, які інтарэс піць аднаму? Ніякай ахвоты. А вось у кампаніі... А ў кампаніі я не магу стрымаць сябе. Ад таго і сям'і блага, і мне, і людзей сорамна... Не люблю сябе... А некалі,— ён яшчэ прыблізіўся да Паўла,— я ж і ў рот не браў. У партызанах і на вайне, пасля вайны доўга... А пасля працавалі тут усякія, уцягнуўся з імі — не п'ю, дык не п'ю, як выпіў, хачу піць...

— Вось у нас і ўся бяда, сварка праз гэта,— прачыніла дзверы і сказала гаспадыня.— Я ж не кажу, што ён сям'і, гаспадаркі не глядзіць, гультай які, а кажу пра гарэлку, якая нялад прыносіць...

— Яна і праўду кажа, дармо, што злосная, кіпятлівая вельмі...— ціха прамовіў Вяртун.— Хоць усяго і не разумее, крычыць многа. Абы-што — у крык... А і ў мяне ж ёсць душа, і мяне зразумець трэба...— ён плюснуў вачыма, зморшчыўся, і Павел адчуў, каб той выпіў яшчэ болей, то зараз мог бы і заплакаць.— Ты працавіты і сумленны, і я цябе паважаю, бо сам такі, бо не хітрую, як наш адзін малады калега, а раблю, як умею...— ён паклаў Паўлу руку на плячо.— Раней, праўда, я думаў: вось пойдзе Рагатка на пенсію, і я стану дырэктарам... А цяпер бачу, што ты станеш хутка завучам, а пасля і дырэктарам, бо ў мяне і адукацыі, ведаў мала, аўтарытэту няма... Павер, бывае, што за год ніводнай новай кніжкі не прачытаю. То часу няма, то, павер, і ахвоты. Газеты, тэлевізар, чарка... А ты стараешся, шукаеш і знаходзіш. Хоць нялёгка і табе будзе кіраваць: вельмі ж сумленны ты ды сарамлівы... А на пасадзе дырэктара ці завуча, сам адчуваеш, трэба быць строгім, паважным. А я, напрыклад... Я прывык змоладу, што нехта больш за мяне ведае, больш смелы, загадвае, а я мушу толькі выконваць, слухаць усіх. Так што старайся змо-

ладу пераламаць сваю нерашучасць, калі хочаш быць кіраўніком.

— Ды што вы ўсё пра гэта кіраванне,— сказаў Павел,— зусім яшчэ не трэба яно мне!

— У перспектыве ўсё будзе,— паківаў галавою Міхась Рыгоравіч.— Толькі я, амаль пяцідзесяцігадовы ўжо дзяцюк, ненавідзячы сябе, падкажу: будзь смелы, пералamі сябе і будзь праўдзівы, такі, якім ты хочаш быць. Не адступайся. Адступіш раз — адступіш і другі. Людзі паважаць не будуць, самому будзе непрыемна... Будзь прынцыповы і праўдзівы...

— Вы ўсё роўна як спісваеце сябе...— сказаў Павел.

— Мне ўжо цяжка перамагчы сябе...— прызнаўся той.— Бо я ўжо шмат чаго ведаю і прывык... І да мяне прывыклі такога...— ён прыплюшчыў вочы і зірнуў у акно.— Хоць мне заўсёды хочацца быць толькі шчырым і сумленным, рашучым, жыць і працаваць высакародна, каб і пра мяне сказалі, як пра Алеся Трахімавіча. Але ж ведаю і сам: так не скажуць, бо я не такі... Вось і апускаюцца рукі, ападае душа... А вып'ю — зноў пад'ём...

«Усё ж як кепска ведаў я дагэтуль Вертуна,— слухаючы гаспадара, думаў Васілец.— Цікавы і супярэчлівы ён чалавек... І нам яшчэ шмат з ім разам працаваць, дык, відаць, наперадзе шмат яшчэ чаго будзе і новага, нечаканага...»

## 2

З цяжкім чамаданам Васілец ішоў позна ўвечары па Міланьках. Ішоў да Ларысы.

«Аж непрывычна неяк,— думаў, усміхаўся сам сабе.— Іду не як калега, сябра, а як муж. З учарашняга вечара мы з Ларысаю ўжо муж і жонка... Учора было наша вяселле. Праўда, гэта было не гэтакае вялікае і пышнае гульбішча, як у Маі Сцяпанаўны ды Ірыны Васільеўны, а сціплы вечар... Сабраліся настаўнікі, блізкія родныя, пагулялі ў школьнай сталовай учора ноч, сёння крыху, і вось гулянка скончылася. Іду да Ларысы. Пачынаць новае, сямейнае, жыццё...»

Павел, падышоўшы да Ларысінай кватэры, абмацаў у сенцах знаёмую клямку, адчыніў дзверы і зайшоў у светлую вялікую кухню.

Ля стала, каля акна, сядзелі старыя гаспадары, сын з

жонкаю, а на іх каленях — двое маленькіх дзяцей. Тут жа сядзела і Ларыса — ужо ў паліто, у ботах і ў шапачцы. Ля яе на падлозе ляжаў вялікі клунак — увесь Ларысін скарб.

Гаспадары, старыя і маладыя, зірнулі на Васільца з усмешкаю, а Ларыса — з нейкім збянтэжаннем і сарамлівасцю.

— Ну, дзякую вам за ўсё,— Ларыса паднялася і падала руку гаспадыні.

— Пачакай, маладзічка, так нягожа! — усміхнулася старая кабета.— Каб вам добра жылося і вялося, то трэба па кілішачку...

Падбегла да паліцы, пачала даставаць пітво і закусь. Паднялася і нявестка — прынесла на стол пасуду, кілішкі.

Гаспадар напоўніў чаркі.

— Ну, жывеце багата і дзяцей багата майце! — усміхнуўся гаспадар і падняў чарку.

— Дзякуем,— усміхнуўшыся, лічы, у адзін голас адказалі Павел і Ларыса.

Усе выпілі. Пачалі закусваць.

— Канечне, цяжка вам будзе,— сказала нявестка.— Вот Мая Сцяпанаўна і Ірына Васільеўна ў добрыя дамы нявесткамі пайшлі, на ўсё гатовае, а вы...

— Абы здароўе было ды любасць адно да аднаго мелі,— сказала на гэта гаспадыня,— а астатняе ўсё нажывецца.

— Ну, яшчэ раз за ўсё дзякую,— пасля сказала Ларыса.— Будзьце ўсе здаровыя.

Усе пачалі цалавацца. Жанчыны ўсхліпнулі.

Павел узяў клунак, ускінуў яго на плячо, падхапіў свой чамадан, Ларыса гэтаксама ўзяла ў адну руку чамадан, у другую напакаваную сумку, і яны падаліся на двор. Гаспадары — за імі. На дварэ яшчэ раз — толькі ўжо без абдымкаў — развіталіся, пажадалі адны адным дабра і разышліся.

Павел гэтаксама расчуліўся: толькі што вось так з ім развітвалася сям'я цёці Ядзі, вось так усміхаліся мужчыны і плакалі жанчыны.

На заснежаным ціхім дварэ пад яркім, але халодным месячным святлом сінеўся снег, пабліскваў маленькімі іскрамі, адбіваў цені ад хат і хлявоў. Вуліца была цвёрдая і гладкая, выезджаная машынамі, таму цяпер blішчала, як лязо нажа. Хрумстка рыпеў пад нагамі снег.

Павел ішоў па дарозе і бачыў, што Ларыса ўсё яшчэ плача, а каб ён не бачыў гэтага, не ставіць сумкі долу і не выцірае слёз, а прыхінае твар да пышнага чорна-бурага каўняра — то ў адзін бок, то ў другі. Але ўсё роўна не магла ўсяго схаваць: былі відаць крышку прыпухлыя вочы і вільготныя шчокі.

— Ну, не трэба, дарагая,— сказаў расчулена Павел.— Мы ідзём на сваю кватэру і нарэшце будзем разам! Хіба мы мала марылі пра гэта? Не чакалі гэтага дня?

Ларыса маўчала, але, здаецца, пакрыху спакайнела, пазірала наперад, дзе выехала ля школы, з вішнёўскай дарогі, і павярнула сюды машына, засвяціла фарамі і яшчэ здалёку асляпіла вочы.

Паўлу не хацелася сустракацца з машынаю: яны наўмысна ішлі на кватэру позна, каб ніхто з людзей не бачыў іх. Уся вёска, канечне, ведала, што яны адгулялі вяселле, але ўсё ж чамусьці не было ахвоты цягнуцца з клункамі днём, быць ва ўсіх на воку.

Яны сышлі з дарогі, ступілі на абочыну ў нечыя глыбокія сляды; шафёр праехаў ля іх і не адазваўся — ні словам, ні сігналам,— пабраўся на горку, ад чаго матор загурчаў мацней ды гусцей пацягнуўся следам дым. І гэта Паўла неяк крышку пакрыўдзіла: яму здавалася, што і ўсе павінны адчуваць, які ў іх з Ларысаю сёння дзень. Толькі гэта мусіць быць ва ўсіх у галаве!..

«Вось мы даўно ўжо імкнуліся да гэтай хвіліны...— думаў Васілец.— Але куды іменна мы цяпер ідзём? Што нас чакае наперадзе? У чужой хаце...»

Раней неяк пра гэта думалася мала: хацелася быць разам. А вось цяпер прыйшла і насцярога.

Ён заплюшчыў вочы. І ўбачыў тое, што сёння стаяла ў вачах увесь дзень — Ларысу ў белай сукенцы і ў вэлюме, сябе ў чорным касцюме. Здаецца, зноў пачуў смех, песні, звон кілішкаў, зноў пачуў крыкі: «Гор-ка! Гор-ка!»

«Але і здзівіла ўчора Таццяна Сяргееўна!.. Як ужо заканчвалася гулянка, дык нам з Ларысаю пачалі даваць падарункі. Калі падышла Таццяна Сяргееўна і зірнула неяк прыжмурыўшыся, я так і адчуў: нешта зараз будзе не так... Яна ж сказала: «Ну што ж, жывіце, калі вас звёў лёс!» Паклала падарунак, пацалавала Ларысу ў шчокі, а пасля абхапіла мяне за шыю, моцна сціснула і пачала цалаваць. Я збянтэжыўся: занадта доўга Таццяна Сяргееўна цалавала мяне. Адчуваў: гэта бачаць і настаўнікі, і Ла-

рыса, і нашы сваякі. І ўсё выратавала Ларыса: яна прыхілілася да нас, абняла і мяне, і Таццяну Сяргееўну. І ўсе, відаць, палічылі гэта за праяву вялікага сяброўства, шчырасці, запляскалі ў далоні, а музыканты яшчэ раз зайгралі... Потым, калі Таццяна Сяргееўна адышлася, села на сваё месца, я адзін раз кінуў на яе позірк і ўбачыў: у яе вачах былі слёзы...»

— Пра што ты думаеш? — спытала Ларыса, калі яны мінулі школу, падаліся ў канец Міланек, у той бок, у якім была Вертунова Сула.

— Пра ўсё...— усміхнуўся ён.— І пра нас з табою...

— А мне нечага боязна стала...— прызналася яна.— Здаецца, што іменна дасюль у нас усё добра было, а цяпер тое, да чаго мы так імкнуліся, будзе не такім... Вось адчуваю... Не будзе тых радасных сустрэч, бяссонных шчаслівых начэй, а пачнуцца будні...

— Усё будзе добра, мы будзем з табою самыя шчаслівыя людзі,— стрымліваючы сваю крыўду, сказаў ён.— Зразумей жа: мы нарэшце будзем адны!

— Усё роўна як трэба мяне ўгаворваць...— усміхнулася яна, зірнуўшы на яго, і ён зноў убачыў на яе твары гэтыя новыя мяккія рысы, адчуў, бадай, упершыню, што яна, жанчына, можа, далей і глыбей глядзіць на іх будучае жыццё...

Анціна хата, да якой яны хутка дайшлі, была ў самым канцы вёскі, далекавата ад вуліцы — пад самы лес. Злева стаялі кусты алешніку, ззаду хлява — лес. Справа, ад Міланек, было саўгаснае шырокае поле.

Калі яны дайшлі да яе па вузенькай, як прайсці аднаму чалавеку, сцежачцы, прайшлі ў варотах, брамка якіх была расчыненая і ўмёрзлая ў снег, падышлі да сянец, то ўбачылі на іх дзвярах з пазатыканым у шчыліны пакуллем замок. Гаспадыня, відаць, падалася ў вёску паглядзець тэлевізар.

Павел паставіў ля ганка чамадан і, калі побач апусціла сваю ношу і Ларыса, палажыў на іх клунак, адчуўшы, што ён добра такі адціснуў плячо.

Тут, у двары, відаць былі яшчэ два акны невысокай хаткі: адно з лепшай палавіны, другое — з кухні. Пад адною страхою былі хлеў, гуменца, пад самыя стрэхі якіх было накладзена паколатых дроў, ніжнія палены былі ў снезе. У гародчыку снег быў цёмны: гаспадыня туды высыпала попел і вылівала ваду.

— Вось і прыйшлі ў сваю хату...— усміхнулася Ларыса, неяк пазіраючы на яго разгублена.— Ірваліся сюды...

— Можа, схадзіць да суседзяў, пашукаць яе? — спытаў ён, стараючыся не паказаць свайго хвалявання і таго адчування, якое было ў яго цяпер на душы.

— Пачакаем,— зноў усміхнулася яна.— Мы з табою прывычныя гуляць па дварэ...

Павел усміхнуўся, прытуліў яе да сябе. Яна як не чакала гэтага, пахіснулася, абаперлася аб яго плячо, толькі казытнула шапачкаю, на якой быў іней, яму па шчацэ. Павел пацалаваў яе, і яна, абхапіўшы яго за шыю, адказала доўгім пацалункам. Пасля прытулілася і моўчкі стаяла, і, здаецца, гэтыя яе рухі, маўчанне гэтаксама сёння былі нейкім новым, нечаканым, надта ж сталым. Ён, здаецца, заставаўся такім, якім і быў дагэтуль, а вось Ларыса, як відаць было, вельмі змянілася за гэтыя два дні, неяк надта пасталела, стала разважлівай і задумлівай.

...Гаспадыня вярнулася дахаты праз добрую гадзіну. Спачатку яшчэ далёка пачуліся рыпучыя крокі, а пасля, калі выйшла з вёскі, паказалася і сама — невысокая, у гаматкой ватоўцы і валёнках, у хустцы, шырокая ў плячах. Паволі ішла па дарозе, пасля ад яе па сцежачцы сюды. Як тупала сюды, то здавалася, што яна не ідзе, а стаіць на адным месцы.

— Я думала, што вы сёння не прыйдзеце,— сказала яна нейкім незадаволеным шыпячым (не было ўсіх зубоў) голасам.— Узяла ды і пацягнулася на цілівізер...

— Нічога,— сказаў Павел, неяк саромеючыся чагосьці гаспадыні.— Мы не многа чакалі.

Гаспадыня моўчкі дастала з кішэні ватоўкі ключ на доўгай вяровачцы, адамкнула сенцы і сама першая падалася туды, нічога ім не сказаўшы.

Павел, адчуваючы, як яму становіцца непрыемна, гэтаксама моўчкі ўзяў клунак і чамадан, прапусціў уперад Ларысу з рэчамі і падаўся ў хату, у якой ужо гаспадыня запаліла святло — маленькую слепаватую лямпачку, што цьмяна асвятляла невысокую задымленую печ, вілачнік ля яе, стол ля акна, старую, падгнілаватую падлогу.

Ля вушака, там, дзе быў выключальнік, былі ўбіты ў сцяну замест вешалак чатыры тоўстыя цвікі, на якіх вісела цяпер гаспадынвіна гаспадарчае апрананне.

Яны зайшлі і пасталі з рэчамі, не ведаючы, што рабіць у хаце, у якой былі ўсяго два разы па некалькі хвілін: пер-

шы раз прыходзілі з цёцяю Галінаю, якая разам з Алесем Трахімавічам напытала ім гэтую адзіную кватэру, гаспадыня якой згадзілася ўзяць іх, сямейных, да сябе, прыходзілі дамаўляцца і другі раз сёння пасля школьнай працы, калі забягалі сказаць, што прыйдуць сюды вечарам. Гаспадыня, адзінокая, незамужняя і, як гавораць людзі, нелюдзімая старая жанчына, ваўчкавата пазірала на іх і іх рэчы.

— Дык мы будзем распакоўвацца? — запытаў Павел, адчуваючы, што Ларыса разгубілася і, мусіць, не рада, што трапіла сюды.

— Ну...— буркнула Анця, а сама прысела на столаку.

Павел паставіў долу чамадан, клунак палажыў на лаву, скінуў паліто, павесіў яго на цвік, памог распрануцца Ларысе.

Ларыса, якая гэтаксама зняла толькі паліто, засталася ў ботах і шапачцы ды шарсцяной чырвонай сукенцы, адчыніла сумку, дастала з яе пляшку віна і загорнутую ў газету ежу — яшчэ вясельныя хлеб, каўбасу, катлеты, гуркі.

— Замочым наша кватаранцтва! — усміхнулася яна, разлажыла ўсё гэта на газеце на стале.

Гаспадыня, усё яшчэ хмурная, з насунутымі на вочы лахматымі бровамі, з вялікім носам і вузкім падбародкам, моўчкі распранулася, ускінула сваю тоўстую ватоўку на печ, засталася ў валёнках, ватных штанах, спадніцы і цёплым світэры ды хустцы, падышла да паліцы і дастала адтуль шклянкі, з прыпечка — старыя, пачарнелыя відэльцы, зубкі ў якіх былі не ўсе.

— Ну, за ўсё добрае! — наліўшы ў шклянкі віна, сказаў Павел, хочучы неяк падвесяліць хмурную гаспадыню.

Тая моўчкі выпіла, узяла рукою кавалак хлеба, катлеціну і пачала закусваць. Павел і Ларыса зусім не хацелі есці, то не дакрануліся нават да ежы.

Ларыса паднялася са столака, адчыніла чамадан, узяла невялічкі пакуначак, што ляжаў зверху, і падала яго гаспадыні.

— Гэта вам, цёця,— мякка сказала яна.— Шыйце што і насіце на здароўе!

Тая выцерла аб ватовікі рукі, узяла падарунак, разгарнула белую паперу і, усё яшчэ едучы, паглядзела на адрэз шарсцянога матэрыялу, разгледзела яго на два бакі, памацала пальцамі і зірнула нават праз яго на святло. Не ўсміхнулася, нічога не сказала, але відаць было, як падня-

ліся крышачку ўверх яе бровы — і з твару прапала ранейшая насупленасць, у вачах гэтаксама з'явілася нейкае цяпло.

— Тут болей, як на сукенку,— нарэшце лагодна сказала Анця,— яшчэ і застанецца...— і ў гэтых словах, мусіць, была і яе падзяка.

— Дык нам можна раскладацца? — спытала ў яе крыху павесялелая Ларыса.

— Дык ідзіце,— сказала гаспадыня, кіўнуўшы на лепшую палавіну хаты.

Ларыса падняла клунак, пхнула ім у другую палавіну хаты дзверы. Следам за ёю, несучы два чамаданы, падаўся Павел, падаўся першы раз у гэты пакой. Адразу адчуў, што ў ім вельмі холадна, хоць справа, ля печы, і бачылася высакаватая белая грубка.

За імі зайшла гаспадыня, запаліла святло — гэтакую ж, як і на кухні, маленькую матавую лямпачку.

Пакойчык быў невялікі і вельмі сціплы. Стол у кутку, насупраць, правей ад яго, драўляны ложак, чыста засланы, за ім, у другім кутку,— куфэрчык, на якім вісеў вялікі замок, і справа, за грубкаю, бачыўся вузенькі тапчанчык, засланы саматканаю дзяружкаю.

Анця моўчкі падышла да драўлянага ложка, згарнула з яго тры высокія падушкі ў белых наўлечках, жаўтаватае пакрывала і белае прасціпрадла, даючы ўжо ім гэты ложак у карыстанне.

— Дзякую,— сказала Ларыса і пачала выкладаць на матрац свой скарб — сваё адзенне і яшчэ раней, у дзяўчатах, прыдбаную пасцель.

— І з гэтага вы жыць пачынаць будзеце? — нечакана запытала гаспадыня, якая стаяла побач.— З чамаданчыкамі ў руках?

— З гэтага, цёця,— усміхнулася Ларыса.— Астатняе нажывём, абы здароўе было.

— Можа, і нажывяце,— прамовіла Анця.— Але вялікую смеласць маеце сыходзіцца: ні двара ні кала няма... Бусенькі ўсё ды бусенькі, а ў руках нічагусенькі...

Павел здзіўлена зірнуў на яе, адчуўшы, што гаспадыня не такая ўжо простая, маўклівая ды неразборлівая ад адзіноты, як ён дасюль думаў: выходзіць, яна і разважлівая.

— Можа, і халаднавата...— сказала гаспадыня, перавёўшы гутарку, бачачы, што яны нічога ёй не адказалі на яе прымаўку.— Я тут мала бываю, больш на печы сяджу.

Адна жыву, то многа дроў не маю. Няма каму памагчы... Захочаце, каб цёпла было, то самі выпісвайце дровы: сельсавет усім настаўнікам дровы дае і за свет плаціць...

— Выпішам,— сказаў Павел.

— Ну, глядзеце хаты,— прамовіла гаспадыня і падалася на кухню.

Ларыса прыпынілася, зірнула на яго, уздыхнула і паківала галавою: маўляў, куды мы толькі трапілі! Канечне, і ёй, і яму, калі жылі дасюль у такой лагодзе, было непрывычна, што трапілі ў такую хацінку да такой гаспадыні...

Павел гэтаксама зірнуў на яе, усміхаўся, хацеў позіркам суцешыць: нічога, будзем жыць! Наблізіўся, і яна ўгадала яго гэтае імкненне, гэтаксама наблізілася, падставіла вусны, пацалавала, а пасля зноў клапатліва пачала тупаць ля ложка — чапляла на вешалкі свае спадніцы і сукенкі, паліто, вешала іх на білы з бакоў ложка. Білы былі нізка, і адзенне абвісала на старую, падгнілаватую падлогу.

Павел падумаў, што трэ будзе заўтра ж зрабіць вешалкі, прыбіць іх тут на сцяне: шафы няма, то прыйдзецца на іх вешаць адзенне.

Чамадан, у якім засталося яе дробнае адзенне, Ларыса засунула пад ложак. Паслала на матрац чысценькае белае прасцірадла, якое было складзенае дасюль, то на ім цяпер было відаць многа прамакутнікаў. Ларыса разгладжвала іх, выцягваючы рукі, нагіналася, крышку агаляючы стройныя высакаватыя ногі, пасля надзела на чырвоную коўдру белую, з белаю вышыўкаю пасярэдзіне нагортку, папрасіла Паўла ўзяць за рагі нагорткі і коўдры і памагчы распраміць. Як ён памог, падбіла падушкі, найперш надзеўшы на іх белыя наўлечкі, зірнула на яго, усміхнулася:

— Чаго ты пасміхаешся?

Заўважыла гэта ў пару: ён ужо забыўся пра сваё ўражанне ад сустрэчы з гаспадыняй, а пазіраў на Ларысу, на яе старанне, думаў толькі пра яе, хваляваўся, што яны разам і, нарэшце, адны.

— Як чаго? — пажартаваў ён.— Шлюбная ноч у нас сёння!

— Смейся, смейся! — жартоўна прыстрашыла яна.— Будзеш спаць вунь там,— і яна кіўнула на вузенькі, нізкі тапчанчык.

— О не! — паківаў ён галавою.— Я столькі чакаў... гэтай хвіліны!..

Ларыса, засаромеўшыся, міргнула на дзверы: маўляў,

іх гэтую гутарку можа чуць гаспадыня, выслухае і разнясе заўтра па ўсёй вёсцы, а на яго — за такія словы — жартоўна паківала пальцам, зачырванелася, разгубілася.

— Кладзіся першы...— зусім саромеючыся, не вытрымліваючы яго смелага і рашучага позірку, сказала яна, адышлася, выключыла святло і прыпынілася там, ля дзвярэй, і, здаецца, не пазірала на яго, адвярнулася.

Паўлу хацелася пажартаваць, прымусіць яе першай раздзявацца, але ён і сам крышку саромеўся, то ўсё ж скінуў з сябе касцюм, кашулю і шмыгнуў пад коўдру, на хвіліну заплюшчыўшы вочы ад холаду.

— Яшчэ не лёг...— зманіў ён.

— Скарэй! — падганяла яго Ларыса.

— Зараз...

Але яна, пачуўшы, канечне, што больш не шамаціць адзенне, асмелілася азірнуцца і пры даволі відным святле месяца ўбачыла, што ён ужо ляжыць пад коўдрай.

— Ах ты, манюка! — гулліва сказала яна, падышла блізка, нахілілася, абмацала яго нос і балюча сціснула.

Ён, церпячы боль, абхапіў яе за паясніцу, прыгарнуў, адвёў руку, што сціскала нос, прыхіліў.

— Пачакай...— шапнула яна, рашуча вырвалася з рук, зайшла за біла, пад куфар, прысела і пачала раздзявацца — шаргацець сукенкай.

Раздзеўшыся, яна прыгнулася і ледзь не на коленках, каб ён не бачыў яе, пратупала ля ложка па падлозе, на якой ляжаў маленькі самаробны ходнічак, пасля імгнення паднялася, скочыла цераз яго на ложак — да сцяны — аж рыпнулі спружыны. Пакуль яна выхоплівала з-пад сябе коўдру і старалася накрыцца ёю, Павел з хваляваннем і з радасцю ўбачыў прыгожыя яе аголеныя рукі і ногі, убачыў усю яе, стройную, гібкую і моцную, жаданую.

## 3

Іван Сямёнавіч сядзеў дома на канапе і чытаў газету. Фельетон.

«Вось пішуць, што сын з нявесткаю не могуць паладзіць з бацькамі... Не паважаюць, не хочуць памагаць, а вось затое хочуць усякіх выгод... За кошт бацькоў...»

Падняў галаву, зірнуў на свой і жончын партрэты. Задумаўся.

«Прыглядаюся ўжо каторы месяц да сваіх маладых — як яны жывуць, працуюць, пра што думаюць,— і не магу разабрацца... Няма чаго таіцца: пашанцавала нашай нявестцы, Маі Сцяпанаўне, як нікому з маладых тутэйшых настаўнікаў. Трапіла яна замуж не толькі ў разумную, інтэлігентную сям'ю, але іменна ў настаўніцкую сям'ю. Гэта, як я век лічу, вельмі важна — настаўніцы выйсці замуж за настаўніка, ды калі яшчэ бацькі мужа — таксама настаўнікі... Усе будуць адно аднаго разумець, адно аднаму памагаць. Ды яшчэ я — дырэктар школы!

Прыйшла Мая Сцяпанаўна да нас з адным маленькім чамаданчыкам, але трапіла на ўсё гатовае — у вялікі, яшчэ новы дом, на добрую гаспадарку, вялізны сад. Усё ж у нас ёсць сваё — бульба, сала, малако, гародніна. Ды і мы з жонкаю сабралі за гэтыя гады ладную капейку, хоць сёння можам легкавік купіць і яшчэ такі-сякі запас мець...

Нявестцы, канечне, пашанцавала, а вось нам, сыну, бацькам? Мая Сцяпанаўна ў школе працуе і цяпер, як і раней, добра: работу сваю ведае, любіць, разумее маленькіх дзетак, умее з імі паладзіць. З Васілём, здаецца, таксама жывуць душа ў душу. А вось з намі... Здаецца, ад нас, бацькоў, яна стараецца адчужаніцца сама і адчужаніць ад нас і Васіля... Усё ж хацелася, каб яна ўвайшла ў нашу сям'ю як свой чалавек, каб усе нашы хатнія, гаспадарчыя, клопаты былі і яе клопатамі. Але яна не ўваходзіць у нашы клопаты, нават стараецца ўсяк уцячы ад іх. Маўляў, вы, старыя, гаспадары, вы і думайце, самі працуйце, я толькі ваша нявестка, як які часовы тут жыхар!.. Яна не імкнецца раней падняцца і памагчы свякрові паліць у печы, варыць есці, хадзіць у хлеў да каровы і свіней, лазіць у падвал па бульбу. Спачатку мы думалі: саромеецца. Ведама, маладая, прыйшла ў чужы дом. Няхай прывыкае. Цяпер, здаецца, і не хоча гэтай работы, не разумее: Вольга Піліпаўна таксама ж настаўніца і ёй трэба не толькі ля дому гаспадарыць, але і трэба час планы напісаць, сшыткі праверыць, кнігу якую прачытаць... Ды і шмат, мабыць, значыць і тое, што другія нявесткі пажывуць, прывыкнуць ды і пачынаюць пакрысе свёкра і свякроў называць татам і мамай... Мая Сцяпанаўна ж толькі так да нас: Іван Сямёнавіч, Вольга Піліпаўна. І ў школе, і дома. Вось і цяпер нявестка і сын замкнуліся ў сваім пакойчыку, чакаюць вячэры, якую гатуе Вольга Піліпаўна... Паядуць, прыбяруцца і шмыгнуць у вёску, да Ліліі Іосіфаўны ці да Таццяны

Сяргееўны, будуць там весяліцца, гуляць да апоўначы...
Я маўчу, чакаю, што ўсё інакай, як трэба наладзіцца, а вось Вольга Піліпаўна злуецца: як ніколі дагэтуль, моцна ляскае на кухні пасудаю... Відаць, трэба неяк з імі далікатна пагаварыць. Можа, і не з Маяй Сцяпанаўнай, а з сынам. Ён усё ж сын, лепш зразумее. І лепш здолее пагаварыць з жонкаю. Няхай усё ж не адчуваюць сябе тут кватарантамі...»

Прыслухаўся: здаецца, загаманіла жонка.

— Вот выгарыць зараз, а ні паленца ў хаце няма...— напраўду гаварыла яна.

Ён зноў прыслухаўся — павінен выйсці са свайго пакойчыка сын і прынесці дроў. Але дзверы пакойчыка не адчыняліся.

Тады Іван Сямёнавіч падняўся сам. Абуў валёнкі, накінуў на плечы фуфайку і падаўся на двор — да дрывотні.

Прынёс цэлы абярэмак сухіх дроў (каб хапіла і назаўтра), апусціў яго каля печы. Потым узяў паленцы тры, кінуў — адно за адным — на жар. Паленцы адразу абхапіліся агнём.

Пасвятлела на кухні. Жонка моўчкі сядзела на невялікім столачку і абірала бульбу.

Ён строс у вілачнік з грудзей кару і трухолле, зняў і павесіў тут, на кухні, на цвічку для гаспадарскай работы фуфайку, узяў кубак, адпіхнуў ім у вядры драбочкі лёду і зачэрпаў празрыстай вады. Выпіў яе, адчуўшы, як зашчымелі зубы. Пасля прысеў на столаку, зірнуў на жонку і ўбачыў, што тая хутка і неяк нервова зразае лупіну, выкалупвае дзюбкай нажа гнілінкі, варушыць танкаватымі вуснамі. Ён ужо ведаў: яна хоча нешта сказаць, і сказаць балючае для сябе.

«Пастарэла зусім... — падумаў ён.— Маршчын столькі, акуляры во на нос пачапіла, каб бачыць, як абіраць... Галава кожнага дня баліць... Трэба неяк лячыць, бо сама яна мала думае пра сябе: то школьная праца, то дамашняя, то дзеці...»

— Мне ж гэтаксама яшчэ трэба сшыткі праверыць, планы напісаць, каб заўтра са спакойнаю душою ісці ў школу...— не ўздымаючы галавы і не пазіраючы на яго, сказала яна.— А я буду яшчэ вунь колькі таптацца ля печы, пасля прыбіраць... Вось палягчала мне: раней траіх глядзела, цяпер чатырох...

Жонка гаварыла голасна, і яму стала непрыемна, што

гэта чуюць і яны, маладыя, што ад гэтай гамонкі з'явяцца непрыемныя думкі, няшчырасць, недагаворанасць.

— Не трэба, Вольга,— папрасіў ціха ён, падняўся і ўключыў святло.— Маладыя, яшчэ не ўсё разумеюць... Во як потым народзіцца дзіця, дык і адчуюць большымі сем'янінамі... Цяпер жа адны гулянкі ды ўцехі ў галаве...

— Я не ведаю...— гневалася жонка, так кідала ачышчаную бульбу ў вядро, што з яго ляцелі пырскі.— Але бачу: пакуль што ніякага сумлення і спачування... Як яны не нашы дзеці, а кватаруюць тут. Але кватаранты хоць грошы плацяць...

— Цішэй ты, калі ласка,— шэптам папрасіў ён.— Усяк бывае напачатку. І нелады таксама. Помніш: ты прыйшла да нас нявесткаю, дык таксама нешта не паладзіла са свекрывёю?..

— Але я не ляжала ды не чакала толькі гатовенькага,— тут жа адказала Вольга Піліпаўна,— а сама шукала працы. То тое зраблю, то тое... А не паладзілі са свекрывёю па-другому: яна мела мяне за работніцу, але не мела мяне за паўнапраўную гаспадыню. Сама вызначала, колькі мне сала, малака спажыць. Усё гэта трымала ў кладоўцы, а ключ ад кладоўкі быў толькі ў яе. А я не замыкаю нічога — што ні ёсць, то ўсё ваша... Але ж трэба і мяне паважаць, хоць калі і мне памагчы...

«Ну, некалі жылі бедна, дык калаціліся над кожнаю капейкаю, над жменькаю солі, кавалачкам сала,— падумаў Іван Сямёнавіч.— Папікалі адно аднаго, не дапускалі да кладоўкі... А цяпер... Цяпер усяго хапае... Але чаму ёсць нейкія непаразуменні? Ці маладым хочацца жыць самім па сабе, чуцца самастойнымі гаспадарамі? Але ж ім адным будзе вельмі цяжка... Ды які з Васіля гаспадар? Ён жа ні касіць, ні араць, ні цвіка ў сцяну забіць не ўмее... Ды і мы на што ўсё гэта багацце збіралі? Каму? Сабе? Не...»

— Выходзьце! — раптоўна паднялася, падышла да дзвярэй бакоўкі Вольга Піліпаўна і пастукала па ёй кулаком.— Памагайце гатаваць вячэру...

— Вольга! — з папрокам сказаў ён, вызірнуў з кухні.

— Што — Вольга! — гнеўна ўжо на яго зірнула жонка.— І яны не святым духам жывуць, то хай памагаюць, нечага сядзець на маёй шыі... Або так рошым: я сабе буду гатаваць, а яны — сабе...

— Трэба табе гэтыя раздзелы!

— Ну і мне рукі баляць... І ты некалі на сходы то яшчэ куды бегаў, а я адна дзяцей на ногі падымала ды ўсё глядзела...— апошняе прамовіла гэтаксама гнеўна, але ўжо са стомаю, пабялела ў твары, спынілася, як у яе перахапіла дыханне, узялася рукою за сэрца.— А падзяка мне адна... Яшчэ і смяюцца, што я такая, надта гаспадарлівая, з рукамі парэпанымі,нямодная...

Ён хуценька зачэрпнуў і падаў ёй кубак вады, але яна не ўзяла, адпіхнула яго руку і, абапіраючыся аб перагародку, паволі падалася ў лепшую палавіну.

Іван Сямёнавіч узяў на кухні лыжку і з кубкам вады гэтаксама падаўся туды, дастаў з шафы бутэлечку з валяр'янкаю, адкаркаваў яе зубамі, ад чаго вусны яго запяклі, дрыготкаю рукою хацеў капнуць у лыжку некалькі кропель, але не мог. Тады крышачку лінуў, лінуў і вады, паднёс жонцы. На гэты раз яна ахвотна ўзяла, выпіла, выцерла рукавом рудаваты струмянёк, што пацёк па барадзе. Наліў у лыжку валяр'янкі і вады і сабе, выпіў, адчуў, як пайшоў па роце халадок, як памацнелі аслабелыя рукі і ногі.

Сеў паблізу на крэсле, пазіраючы на жонку: яна, супакойваючыся і, можа, ужо дакараючы сябе, апусціла галаву, закрыла твар рукою.

— Глядзі ты сваё сэрца! — дакорліва сказаў ён.— Так жа можа і інфаркт быць...

Жонка маўчала, толькі на яе шчоках паказвалася нездаровая, нервовая чырвань, а на шыі часта-часта пульсавала невялікая жылка і ўздрыгвала другая рука, што ляжала на канапе.

З бакоўкі выйшаў сын — высокі, у спартыўным трыко, з кнігаю ў руках, зірнуў сюды, бачыў толькі яго, бацьку, але не падыходзіў. Зайшоў пасля на кухню, пастаяў там, але ні за што не зачапіўся, вярнуўся зноў у свой пакойчык. Тады з яго выйшла поўненькая (была ўжо каторы месяц цяжарная) Мая Сцяпанаўна, сюды не зірнула, падалася на кухню.

Іван Сямёнавіч, успомніўшы, што яму пара ўжо ісці ў Вішнёўку на партком, устаў і ступіў ісці на кухню, адчуваючы, як яго водзіць у бакі. Яму аж стала страшна, што апошнімі месяцамі стамляецца ўсё больш і больш, слабее. Куды толькі і дзеліся яго вялікая дужасць ды такое моцнае здароўе, калі мог узяць пад пахі два мяхі бульбы і лёгка ісці з імі...

Зайшоў на кухню і ўбачыў, што Мая Сцяпанаўна схіліла галаву, мыляе вуснамі, як усхліпвае, і абірае бульбу. І як убачыў, што на яе рукі капнула слязіна, то пашкадаваў нявестку, адразу адмовіўся ад той гутаркі, якую толькі што думаў распачаць. Сеў на высокі столак, пацёр далanёю жорсткія шчокі і, ведаючы, што трэба разганяць гэтую прыкрую маўчанку, сказаў:

— Усякае бывае ў жыцці... Але паразумеемся неяк: колькі нас, той сям'і, колькі той гаспадаркі...

Мая Сцяпанаўна маўчала, слязінак на руцэ не выцірала: не хацела, мусіць, каб і ён бачыў гэта, не здагадваючыся, што ад яго, старога, нічога не ўхаваеш.

— Дзе вы, маладыя, дзе мы, ды і зробім усё,— прамовіў ён.— Мы з маці раніцай, вы ў полудзень, усе разам вечарам...

Нявестка ўсё маўчала, папаласкала бульбу, яшчэ раз змяніла ваду, накідала бульбы ў чыгунок, наліла ў яго вады. І як яна нагіналася, а пасля падымала чыгунок на прыпек, моршчылася. То ён нечакана адчуў, што ёй не так ужо і лёгка рабіць: праз пару месяцаў ужо ісці ў дэкрэт.

— Васільцам такая выгода, можа, нават і не сніцца: пабралі чамаданчыкі ды пайшлі на кватэру...— зайшла ў кухню і прамовіла жонка з нервова пачырванелымі шчокамі і сіняватымі вуснамі, з гневам у вачах.— А гэта ніякай падзякі... Пасміхалася, падлагоджвалася, пакуль замуж узяў, а цяпер паказала зубкі...

Мая Сцяпанаўна, якая падымала ўжо і прымяркоўвалася пакласці ў печ палена, кінула яго на прыпек, плаксіва зірнула, пасля рашуча падалася ў сваю бакоўку. І, пакуль ён думаў, што цяпер сказаць жонцы, Мая Сцяпанаўна — у ботах на босую нагу, зашпільваючы паліто,— падалася з хаты.

— Ты куды? — замітусіўся Іван Сямёнавіч, хацеў затрымаць нявестку, але яна паспела адчыніць дзверы і, напусціўшы белай пары і не зачыніўшы за сабою дзвярэй, пабегла на двор.

— Ёй жа, Вольга, цяжка цяпер, хіба сама не бачыш?..— дакорліва сказаў ён, зачыніўшы дзверы і вяртаючыся на кухню.— Ды прывыкае толькі...

Жонка маўчала, накладала ў печ дровы, і відаць было, як дрыжалі ў яе рукі. Што яна цяпер думала, цяжка было здагадацца.

— Ну, мне пара ісці,— прамовіў ён, яшчэ нядаўна збі-

раючыся крыху перакусіць, а пасля ўжо ісці ў Вішнёўку, а цяпер адмаўляючыся ў думках ад вячэры: не да яе было.

Падаўся ў лепшы пакой, надзеў свой выхадны касцюм, сінюю кашулю, гальштука не павязаў, паклаў яго на стол, у зальцы абуў чаравікі і надзеў паліто.

— Чаго ты ляжыш? — паківаў ён галавою, калі зазірнуў у бакоўку і ўбачыў сына, які ляжаў і чытаў.— Яна ж амаль босая пабегла... Зараз жа ідзі, знайдзі яе і супакой, ёй нельга хвалявацца...— І зачыніў дзверы, вельмі незадаволены тым, як спакойна і нават абыякава паводзіў сябе сёння сын, які павінен быў і маці не пакрыўдзіць і за жонку заступіцца.— Ну, я пайшоў...— сказаў яшчэ жонцы, але тая яму не адказала.

Ён падаўся ў сенцы, даўно ўжо не выходзячы з хаты з такім непрыемным настроем...

...Праўда, за дарогу, пакуль дайшоў да Вішнёўкі, а пасля сустрэўся там, у канторы, і перакінуўся словам-другім з парткомаўцамі — сакратаром, дырэктарам саўгаса, старшынёй сельсавета, брыгадзірамі, рабочымі,— паволі супакоіўся, пачаў забывацца пра сямейныя непаладкі, думаў пра іншае. Паспакайнеў і зноў паверыў: дома ўсё хутка перетрэцца, наладзіцца і будзе добра. Чаго не бывае напачатку!..

Як сабраліся ўсе, крыху пажартавалі, потым заселі ў прасторным, пафарбаваным у жоўты колер, з апушчанымі на вокны жоўтымі занавескамі і з дзённым мяккім электрычным святлом парторгавым пакоі, што быў на другім паверсе, вокнамі на вёску. Сам парторг, Віктар Дамінікавіч, сеў за свой стол, што стаяў уздоўж сцяны, пад вялікім партрэтам Леніна, а яны, парткомаўцы, паселі абапал доўгіх вузкіх сталоў, пастаўленых упоперак і накрытых бурачковым новым сукном. Сталы і крэслы, кніжная шафка, столік з вялікім тэлевізарам, невялікая канапка — усё было новае, шыкоўнае, блішчала гладкай паліроўкай.

Сёння Віктар Дамінікавіч, пажылаваты, гадоў пад пяцьдзесят, лысаваты, сімпатычны мужчына, які працаваў на гэтай пасадзе гадоў з дзесяць, паклікаў іх, каб спярша тут, на парткоме, а пасля і на адкрытым партыйным сходзе пагаварыць пра «ажыўленне культурна-масавай работы ў саўгасе».

— Мы ідзём наперад па вытворчасці малака і мяса...— пахваліўся спачатку Віктар Дамінікавіч.— Цяжэе ў нас кожны год і колас...

«Канечне, прыемна гаварыць пра поспехі...— падумаў Іван Сямёнавіч, седзячы — як намеснік парторга — найбліжэй да Віктара Дамінікавіча, насупраць дырэктара саўгага.— А яны за апошнія два-тры гады някепскія... Саўгас проста на вачах ідзе ўгору...»

— Але не адною працаю, клопатам пра кавалак хлеба жыве наш чалавек,— гаварыў далей парторг.— Ён яшчэ хоча жыць культурна. І мы думаем пра гэта. Збіраемся вось пабудаваць яслі-сад, дамы ў Вішнёўцы, магазін — у Ніўным, сярэднюю школу ў Міланьках...

Пасля гаварыў пра канцэрты, сустрэчы з ветэранамі вайны, пра чытацкія канферэнцыі...

— Тут я не магу, таварышы, не назваць нашых актыўных памочнікаў у гэтай справе — міланьскіх настаўнікаў,— Віктар Дамінікавіч зняў акуляры, падняў галаву,— якія па-ранейшаму з'яўляюцца для нас усіх, спецыялістаў саўгаса, рабочых, прыкладам самаадданай працы, грамадскай актыўнасці, асабістых паводзін. І перш за ўсё я хачу назваць нашую старую гвардыю. Івана Сямёнавіча, які шмат гадоў з'яўляецца намеснікам сакратара парткома, добра арганізуе партыйную вучобу сярод камуністаў і беспартыйных, вядзе іншую работу, па сутнасці, маючы вялікі жыццёвы і партыйны вопыт, памагае нам заўсёды і ва ўсім... Велізарную работу па эстэтычным выхаванні насельніцтва праводзіць нястомны Алесь Трахімавіч... Актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце і маладыя настаўнікі. Добрымі палітінфарматарамі, рэдактарамі баявых лісткоў, газет, лектарамі, арганізатарамі літаратурных вечароў зарэкамендавалі сябе Павел Мікалаевіч Васілец, Ларыса Іванаўна Усціновіч, Лілія Іосіфаўна Заяц, Мая Сцяпанаўна Сапун... Шмат спартыўна-аздараўленчых мерапрыемстваў сярод вясковай моладзі арганізаваў Васіль Іванавіч Рагатка. Гэта вельмі прыемна гаварыць, і за гэта Міланьскай школе, асабіста вам, Іван Сямёнавіч, вялікае дзякуй...

Іван Сямёнавіч усміхнуўся, хітнуў галавою, як гаворачы: калі ласка, хоць няма за што надта дзякаваць!..

— Грамадскую актыўнасць гэтых настаўнікаў можна ставіць у прыклад некаторым нашым галоўным спецыялістам саўгаса...— гаварыў Віктар Дамінікавіч.— Але, ведаючы, што вы, Іван Сямёнавіч, самакрытычныя людзі, дазвольце выказаць у адрас школы і прэтэнзіі...

— Калі ласка...— зноў усміхнуўся Іван Сямёнавіч.

— Канечне, настаўнікі шмат працуюць, вядуць актыўную грамадскую работу, але неяк у апошнія гады адышлі ад мастацкай самадзейнасці. Вучаць спяваць, ставіць п'есы дзяцей, а самі не ўдзельнічаюць... А маглі б разам з саўгаснымі спецыялістамі, здольнымі рабочымі шмат што зрабіць у гэтым кірунку... Я ж помню, якія некалі добрыя канцэрты давалі, як ладна п'есы ставілі — у клубе заўсёды поўна людзей было... Як вывесяць аб'яву, што нешта будзе, дык вёска толькі і гаворыць пра гэта, загадзя рыхтуецца ісці ў клуб... І каб зноў такое наладзіць, то не толькі людзям весялей было б, але і нашым настаўнікам, саўгасным спецыялістам. Чуў я, што некаторыя з іх скардзяцца, што сумна ў нас жыць... Праца, праца, і больш нічога...

— Ведаеце, змяніўся і час...— выслухаўшы парторга, сказаў Іван Сямёнавіч.— І перш за ўсё таму, што ёсць тэлевізары... Па іх сёння два-тры кіно, канцэрт, п'есу можна паглядзець кожнага дня, і спяваць ды гуляць будуць не самадзейцы, а сапраўдныя артысты. І ісці нікуды не трэба: лёг на канапу, уключыў тэлевізар — і глядзі... І гэтая навукова-тэхнічная рэвалюцыя кранулася ўсяго, таму не раз трэба гэта ўлічваць, мяняць формы... Але пра вашу заўвагу, Віктар Дамінікавіч, я пагавару з калегамі...

Пасля парторг расказаў, што яшчэ можна зрабіць па «паляпшэнню культурна-масавай работы», скончыўшы, папрасіў усіх сказаць сваё слова.

Іван Сямёнавіч пачаў абдумваць сваё выступленне.

Пад вечар, як толькі заканчваліся заняткі другой змены, скупа свяціла невысокае сонца, цісну мароз, сцішылася было. А цяпер, ужо добра цёмнаю парою, наляцеўшы аднекуль, дзьмуў вецер, нёс перад сабою снег. Мароз крыху адпаў, але холад, здаецца, яшчэ пабольшаў, нават паярэў.

У вясковых хатах цёпла і ўтульна свяціліся вокны, запаліўся высокі ліхтар і ля магазіна. Ліхтар гэты хітаўся: яго матляў злосны пякучы вецер, што пёк шчокі, лоб, наганяў слёзы.

Мая Сцяпанаўна хутка, захінаючы твар каўняром, апусціўшы галаву, крочыла па вуліцы — адною рукою трымала полы паліто, другою — кончыкі каўняра. Усхліпвала, крыўдзілася на буркатлівую свякроў, на мужа-цюхцяя, толькі неяк шкадавала свёкра, Івана Сямёнавіча, які ёй

сёння здаўся зусім іншым чалавекам: дасюль яна бачыла яго строгім, а то і ахвотнікам пацешыцца з некага, а вось сёння яна ўбачыла тое, чаго раней не заўважала...

Ля школы, бачачы, што ёй насустрач ідуць людзі, яна павярнула на вішнёўскую дарогу, хоць сюды ёй не было чаго ісці. Яна рашыла, што абыдзе школьную агароджу і ўзбоч яе зноў выйдзе на вуліцу, а з яе падасца на былую сваю кватэру...

Вецер дзьмуў у спіну, падганяў, і яна амаль бегла. Пёк у ногі холад, і толькі цяпер яна ўспомніла, што не надзела ні панчох, ні доўгіх штаноў, ідзе ў ботах на босую нагу. Але нейкая дзіўная, нават незразумелая ёй рашучасць і злосць гналі яе ўперад.

У канцы школьнага плота павярнула налева і ўздоўж яго падалася да кустоў, ля якіх — як ведала — ішла сцежка з фермы на вуліцу. Снег, крыху прыгрэты днём, адталы, а пасля зверху выдзьмуты ветравеямі, прыцвярдзеў, пакрыўся скарынкаю, але яна, гэтая тоненькая і гладкая скарынка, не магла яшчэ ўтрымаць — і Мая Сцяпанаўна хоць і не старалася шырока ступаць, а ішла, сунучы па снезе ногі, усё роўна правальвалася, набірала ў боты халоднага і калючага снегу.

Хутка, лезучы па цальнягу, задыхалася. Хвіліну пастаяла, заплюшчыла вочы і пастаралася адпачыць, набрацца сіл і перайсці гэтае поле.

Крыху адсопшыся, падалася паціху далей, глыбока правальваючыся ў снег. Калі ўбачыла блізкую сцежку, сабрала астатнія сілы і пабегла. Выскачыўшы на ездавое, пайшла павольна, адчуваючы, як моцна б'ецца сэрца, здаецца, падкочваецца пад горла, а пасля з трывогаю пачула, як у жываце нешта страпянулася, кальнула. Яна зморшчылася, прыкусіла вусны ад болю, прыклала туды руку і здагадалася: гэта дзіця...

І цяпер яна раптоўна адчула, што дарэмна ўцякала з хаты, думаючы, што назаўсёды збяжыць ад крыўды, ведала, што прыйдзецца вярнуцца назад, прыйдзецца жыць, бо яна ўжо не дзяўчына, а замужняя жанчына і ў яе хутка будзе дзіця, якое яшчэ болей пакліча ў новае жыццё...

Мая Сцяпанаўна паціху, нага за нагу, ішла па сцежцы, шкадавала, што яна ўжо не дзяўчына, не вольная, як птушка, а нечым звязаная. І ёй вельмі мілым здаўся гэты вецер, цёмны вечар, якім яна яшчэ нядаўна была такая шчаслівая, мілай і дарагой здалася хата, у якой яна яшчэ

нядаўна кватаравала, у якую цяпер яна раптам засаромелася заходзіць. Што яна скажа, калі зойдзе, як зірне гаспадыні і Ліліі Іосіфаўне ў вочы? І ёй не захацелася заходзіць да іх, але гэтак жа не цягнула вяртацца дамоў. Яна, можа, толькі цяпер адчула, што яе «дом» — гэта Рагаткава хата, куды яна трапіла і да якой яшчэ не прывыкла. І таму, можа, што яна яшчэ не прывыкла, не паводзіць сябе як «хатняя», за гэта і ўзлавалася сёння свякроў? Але чаго злавацца, папракаць, калі трэба памагаць, нейкім цёплым словам прыбліжаць да сябе!..

Яна падышла блізка да былой кватаранцкай хаты, але заходзіць у яе не асмельвалася. Прамінула веснічкі і падышла да старога, з частымі выламанымі частаколінамі гародчыка, зірнула на нізкі, выскублены з усіх бакоў стажок за хлявом, прыпынілася насупраць акна лепшай палавіны, з якога падала ў гародчык святло.

Акно было завешана знаёмымі белымі фіранкамі, і яна, як ні старалася зазірнуць у хату, нічога не магла ўбачыць. Патаптаўшыся, мусіла праз дзірку залезці ў гародчык, падысці да акна і глянуць у краёк, да якога не была дацягнута фіранка. Убачыла вельмі блізка Лілію Іосіфаўну, якая, пачапіўшы на нос акуляры і зморшчыўшыся, сядзела на крэсле, угнула галаву, выцягнуўшы доўгую тонкую шыю, і вязала нешта з малінавых нітак. Гаспадыні, здаецца, у хаце не было.

Гэта паддало смеласці, і Мая Сцяпанаўна вылезла з гародчыка і зноў падалася да веснічак, зайшла ў сенцы, бачачы, што няма на кухні святла. Знаёма абмацала клямку, зайшла ў цёмную кухню, з яе адразу падалася ў лепшую палавіну.

Лілія Іосіфаўна, пачуўшы яе крокі, рып дзвярэй, ужо не сядзела, апусціўшы галаву, а ўзіралася сюды, і ў шкельцах яе акуляраў адбівалася лямпачка, што вісела сярод пакоя. Вузкаваты твар Ліліі Іосіфаўны, здаецца, яшчэ болей павастрэў, як яшчэ болей патанчэла і сама яна.

Мая Сцяпанаўна зірнула на печ, ці не сядзіць там гаспадыня, а пасля села паблізу сяброўкі на крэсле, стараючыся прыкрыць пачырванелыя калені крысом паліто. Але, канечне, тая паспела ўжо заўважыць, у якім убранні яна зайшла сюды. Заўважыла і здзівілася. Ды нічога не спытала, відаць, пра ўсё здагадалася сама.

— Лезь, Маечка, на печ...— сказала Лілія Іосіфаўна,

памагла зняць паліто, убачыўшы яшчэ, што яна не ў суконцы, а ў хатнім халаце.

Мая Сцяпанаўна расшпіліла замочак ботаў, скінула іх і пабралася на ляжанку, села на разасланай там дзярузе. Пакінуўшы на стале пачатае вязанне, падалася следам за ёю і Лілія Іосіфаўна, села побач, выцягнула свае доўгія і тонкія ногі, даволі густавата пакрытыя чарнаватымі валасамі.

— Не паладзілі? — ціха спытала Лілія Іосіфаўна.

— Ногі зайшліся...— усхліпнула Мая Сцяпанаўна, тручы рукамі чырвоныя калені, што пяклі агнём.

— Я па гутарках тваёй свякрові здагадалася ўжо, што яна не вельмі задаволена табою...— сказала сяброўка.— Бо яна пачала часта гаварыць ды цмокаць, што маладыя цяпер не такія, як яны некалі былі...

Мая Сцяпанаўна церла калені і моўчкі плакала.

— Пастрашнела ты, не пазнаць нават...— паспачувала Лілія Іосіфаўна.— Што — Вольга Піліпаўна чэпіцца?

— Чэпіцца...— усхліпнула Мая Сцяпанаўна.— Хоча, каб і я свіней іхніх, карову глядзела, на кухні стаяла... А я зайду ў хлеў ці пастаю на кухні ля гаршкоў — і не магу... Галава кружыцца, ногі млеюць, то... ледзь на двор паспею выбегчы... так мне кепска. Усё гэта, мусіць, ад цяжарнасці...

— А ты сказала Вользе Піліпаўне, што табе цяпер вельмі цяжка?

— Не.

— Дарэмна... Тады яна, можа, зусім іначай да цябе адносілася б.

— Угаворваю Васіля пайсці на якую кватэру, дык не хоча...

— Канечне, калі б вы жылі адны, то былі б самі сабе гаспадары,— памаўчаўшы, сказала Лілія Іосіфаўна, як здавалася, ёй у падтрымку.— Зрабілі б нешта — было б, не зрабілі б — не было б... А так ты і не гаспадыня, і не кватарантка... Але,— сяброўка спачувальна зірнула на яе,— успомні, колькі тыя Васільцы пашукалі, каб іх хто сям'ёю ўзяў на кватэру... І знайшлі не надта што вартае... А ў цябе... у цябе дзіця будзе... Ды і ім, яго бацькам, як будзе ў вочы людзям зірнуць? З такой вялікай, багатай хаты дзяцей, выходзіць, прагналі...

— Шчаслівая ты, што не выходзіш замуж...— супакойваючыся, выціраючы вочы і нос хустачкаю, сказала Мая

Сцяпанаўна.— Не ведаеш усяго гэтага... Знаеш, як непрыемна, што цябе папракаюць кавалкам хлеба і страхою над галавой. Лепш цяжэй, але быць адным...

— Ну...— уздыхнула Лілія Іосіфаўна.— Я не лічу, што я шчаслівая... Наадварот... Кажуць людзі, што ўсе замужнія хочуць стаць дзяўчатамі, а ўсе дзяўчаты хочуць замуж выйсці...— сказала гэта і самотна ўсміхнулася, што цяпер Мая Сцяпанаўна яе пашкадавала, пашкадавала, як можа ніколі дасюль, падумала, што можа ў яе няма ніякага гора, проста яна няўмела ўваходзіць у сталае сямейнае жыццё.

Мая Сцяпанаўна сядзела на печы і адчувала, што яна ўсё ж госць тут, што дом яе ўжо там, што яе цягне туды жыць так, як жыла там гэтыя месяцы.

— Не папускайся вельмі ёй, але і не раз саступі, пасажы, усё ж вы адна сям'я цяпер...— прамовіла Лілія Іосіфаўна.— Што зробіш, такая ўжо доля вясковых настаўніц, што трэба ім не толькі на кухні таптацца, апрача школьнай працы, але і ў гумне, хляве ды на градах...

— Так і пройдзе хутка маладосць...— паківала галавою Мая Сцяпанаўна.— І пражывеш век без радасці, у клопатах...

— Вось з-за гэтага Таццяна Сяргееўна не толькі тут, у вёсцы, але і ўвогуле замуж не хоча выходзіць,— сказала Лілія Іосіфаўна.— Але ж чалавек і не можа без гэтага, надта наш, вясковы...

Мая Сцяпанаўна ўздыхнула.

«Не такім я ўяўляла сямейнае жыццё...— падумала.— Разважала: будуць адны радасці, уцехі, усё будзе нечым вельмі светлым і ўзнёслым... Аж яно і іначай ёсць... Вось сутычкі са свякроўю, пакуты, што прыносіць дзіця... А, відаць, наперадзе яшчэ ўсяго нечаканага будзе больш?.. І што мне рабіць? Вось так кожны раз уцякаць? Ці трэба неяк прывыкаць, уцягвацца да ўсяго? Але ж столькі будзе ўсякіх клопатаў!»

— Здаецца, супакоілася крыху? — усміхнулася Лілія Іосіфаўна.

— Ды, відаць, няма такой трагедыі, якой яшчэ нядаўна я ўсё лічыла...— упершыню ўсміхнулася і Мая Сцяпанаўна. З сорамам. За свае гэтыя ўцёкі.— А ты ўсё чытаеш, вяжаш?

— Чытаю, вяжу,— усміхнулася Лілія Іосіфаўна, пачырванела, канечне, зноў і зноў саромеючыся за сябе і свой такі лёс.— Сабе ўсяго навязала, нават твайму будуча-

му нашчадку тое-сёе звязала... Падыдзе і хлопчыку, і дзяўчынцы... Безрукавачкі...— і яшчэ больш пачырванела, як гаварыла пра нешта такое, на што сама не мае ніякага права.

Мая Сцяпанаўна першы раз за гэты вечар усміхнулася — сарамліва і задаволена,— нічога не прамовіла, прыхіліла галаву да грудзей добрай сваёй сяброўкі, і тая гэтаксама моўчкі пагладзіла яе па валасах.

— Будзем жыць, Маечка! — прашаптала Лілія Іосіфаўна і прымоўкла: пачуліся крокі ў сенцах, а пасля рыпнулі дзверы ў хату.

Яны абедзве зірнулі на пакой, пагледзелі, хто прыйшоў. Гэта быў Васіль Рагатка — муж Маі Сцяпанаўны.

## 4

Уладзімір Пятровіч вяртаўся дамоў вясёлы, узбуджаны, радаваўся свайму жыццю і сваёй сённяшняй удачы, як, можа, яшчэ ніколі не цешыўся дасюль.

Сядзеў у аўтобусе, трымаючы на каленях сумку з харчамі, слухаў людскую гаману і амаль нічога не чуў, не разумеў, пазіраў у запацелую шыбіну — у сакавіцкую цемнату — і пасміхаўся сам сабе. Сябе ён бачыў у акенцы — паўнашчокага, з залатым зубам наперадзе, у пыжыкавай шапцы, у дарагім паліто з шыкоўным бабровым каўняром, амаль наверсе якога быў прыгожы шалік. Пазіраў на адбітак свайго твару, падміргваў і пасміхаўся.

Сёння ён цэлы дзень вандраваў па раённым горадзе. Ездзіў з раніцы ў педкабінет, дзе была нарада настаўнікаў матэматыкі. На нарадзе ён амаль не сядзеў — як толькі зайшоў, адзначыўся, наўмысна падышоў да школьных інспектараў, прывітаўся з імі — паказаўся на вочы, пабыў да першага перапынку, а тады ціхенька ўцёк, падаўся хадзіць па горадзе па сваіх патрэбах.

Яму не так хацелася пабадзяцца па магазінах, паглядзець, што дзе ёсць ці што-небудзь купіць: займацца гэтым вельмі любіць жонка, якая добра ведае, што ім трэба, дзе што ёсць, як яго дастаць. Ён думаў яшчэ раз пахадзіць па гарадскіх і раённых установах і пашукаць там сабе работы, бо даўно ўжо не любіў вёскі, не хацеў працаваць у ёй, надта прагнуў трапіць у горад. Зайшоў у ДТСААФ, міліцыю, у спартыўныя і прафсаюзныя камітэты, у таварыства па ахове прыроды, на некаторыя заводы, апытваў працу з

любым акладам (каб толькі зачапіцца за горад), але ўсюды ён — сямейны, з незакончанай вышэйшай адукацыяй — мала падыходзіў.

Бачачы, што самому, можа, так і не ўдасца ўпіснуцца ў горад, ён, каторы ўжо раз, зайшоў да свайго далёкага сваяка Антона Сцяпанавіча — дырэктара аднаго з самых вядомых у горадзе заводаў.

Той, чалавек ужо сталы, строгі, сустрэў яго, здаецца, не вельмі ветліва: не любіў «цягнуць за вушы» ў горад сваякоў.

Але ён, Сліж, сёння пачаў не з просьбаў, а паскардзіўся, што няма яму жыцця ў Міланьках: дырэктар школы гняўлівы, помслівы, абы за што прыдзіраецца і зневажае, зусім маркотна сказаў яшчэ, што жывуць у вельмі цеснай каморцы і няма ніякай надзеі на лепшае жыллё: саўгас хутка не думае будаваць жылых дамоў, а іх самім няма за што купіць хаты ці паставіць новую (пра тое, што ў яго ўжо ёсць палова грошай на «Жыгулі», ён і не заікнуўся), панаракаў, што ў вёсцы цяжка жыць на зарплату: няма сваёй гаспадаркі, і ў магазіне чаго свежага няма, трэба ездзіць па харчы ў горад.

Антон Сцяпанавіч, цмокаючы языком, падпёршы рукамі бараду, апусціў галаву і слухаў, пазіраў на прылады, што стаялі на яго рабочым стале, моршчыўся: відаць, спачуваў яму і думаў, што трэба нарэшце памагчы. Адчуваючы гэта, Сліж яшчэ больш змрочна пачаў расказваць пра сваё міланьскае жыццё, пра свой талент, які там прападае, а пасля — думаючы, што горш не будзе,— адкрыта папрасіў памагчы «выратаваць сям'ю».

Той, чамусьці стараючыся не пазіраць на яго (а на свае белаватыя рукі ці ў акно), сказаў, што пастараецца ўзяць на працу на завод у аддзел кадраў, а ў новым доме, што пачалі ўжо будаваць, даць са свайго фонду і кватэру. Так і сказаў, каб праз тыдні два прыходзіў з усімі паперамі.

Вось тады ён і адчуў радасць, гатоў быў, здаецца, цалаваць Антону Сцяпанавічу рукі, але пастараўся ветліва і з павагаю падзякаваць, стрымана паказваючы сваю радасць, каб не сапсаваць справы.

Пасля ён тут жа накіраваўся ў райана і напісаў на імя загадчыка заяву, каб яго звольнілі «ў сувязі з тым, што ён мяняе месца жыхарства».

— Так...— цмокаў языком Давід Мойшавіч, разглядаючы заяву і чухаючы ўжо крышку сівюватую скронь.—

Што ж вы надумаліся ў такі гарачы для школы час звальняцца? Дзе ж я цяпер вазьму матэматыка?..

Уладзімір Пятровіч ведаў, што з загадчыкам трэба паводзіць сябе вельмі абдумана: скажаш адно не тое слова — і той, вельмі кемлівы, усё зразумее, не падпіша заяву.

— Я і сам шкадую дзяцей, што ў іх, можа, ужо і да канца навучальнага года не будзе выкладацца матэматыка...— панура прамовіў ён.— Але што зробіш, калі трэба думаць, як і жыць... Купілі вось у горадзе хату, пераязджаем... Не жыць жа век на прыватных кватэрах ці ў маленькіх пакойчыках...— і ён і загадчыку расказаў, як нялёгка ў вёсцы знайсці жыллё.

— Праз гадоў пяць-шэсць будзе ў вас дзесяцігодка, то будзе і жыллё,— сказаў загадчык і ўвесь час пільна з-пад акуляраў пазіраў на яго, як разгадваў, ці праўду ён гаворыць.

— Прабачце, канечне, за лішнія клопаты...— схітрыў Сліж.— Мне і самому нялёгка выязджаць з Міланек, развітвацца з дзецьмі, да якіх прывык... Цяжка працаваць, але ўсё ж столькі ўжо год там, столькі пакладзена працы... Ды і калектыў добры сёлета падабраўся, стараюцца ўсе, Іван Сямёнавіч ды Міхась Рыгоравіч ажывіліся... Усе стараюцца...

— Не паўтараецца тое ў Вертуна? — неяк весялей спытаў Давід Мойшавіч.

— Ды не чуваць,— прыманіў Сліж: і сам разы два ўжо выпіваў з Міхасём Рыгоравічам, прытым адзін раз наўмысна заклікаў таго да сябе дамоў, каб загладзіць няёмкасць, што ўзнікла пасля таго прафсаюзнага сходу: Вяртун якніяк гэтаксама быў начальства, а з начальствам, думаў ён, трэба заўсёды ладзіць, паважаць ці не паважаць, але ладзіць абавязкова.

— Ну, а Алесь Трахімавіч як? — спытаў загадчык.

— Усё яшчэ ў бальніцы,— адказаў ён, пазіраючы на заяву, якая ляжала на стале, пазіраючы на загадчыкаву руку, якая трымала ручку з ужо знятым наканечнікам.

— Вось па чыіх слядах трэ было ісці: нічога чалавек не баяўся, усё аддаў школе...— сказаў дакорліва Давід Мойшавіч.— І ў нас у раёне многа такіх настаўнікаў. Падпішу...— ён кіўнуў на яго заяву, палажыў яе ў свой стол.— Прыходзьце праз два тыдні. А за гэты час падумаем з Іванам Сямёнавічам, што рабіць: ці вам яшчэ настаўніка

знайсці, ці там на месцы самі нешта зробіце, нагрузку раскінеце...

— Дзякую,— сказаў Сліж, развітаўся і выйшаў з кабінета.

У цемнаватым калідоры заплюшчыў адно вока, пасля другое, міргаў сабе, усміхаўся задаволена і шчасліва, думаў: «І ты жывы будзеш, і школа не прападзе... А я ў горад пераеду, буду жыць як чалавек... Ніхто пра цябе не падумае, ніхто не паможа, калі сам пра сябе не падумаеш... Таму і не варта пра некага думаць, як і пра тое, што гэта некаму паддасць цяжкасцей...»

Калі на выхадзе з будынка ўбачыў мужчыну, то перастаў усміхацца, зрабіў заклапочаны, сур'ёзны твар і спакойна, паважна падаўся на двор.

Ідучы да аўтастанцыі, зазірнуў у кнігарню і купіў два томікі, у прыгожых чорна-шараватых вокладках, невядомага яму пісьменніка, у блізкім харчовым магазіне ўзяў каўбасы, яшчэ таго-сяго з ежы і пляшку віна.

...Вось цяпер ён вяртаўся дахаты радасны і вясёлы, лічачы сённяшні дзень самым удалым у сваім жыцці, а сябе вельмі разумным, удачлівым.

Уладзімір Пятровіч падняўся на другі паверх і ціха пастукаў у абабітыя чорным дэрмацінам замкнёныя дзверы. Не чуючы крокаў, падзёўбаў яшчэ гучней, гадаючы: жонка заснула моцна і не чуе ці наўмысна не адчыняе.

— Хто там? — нарэшце пачуліся яе босыя крокі, а следам за імі пстрыкнуў выключальнік і пачуўся жончын голас.

— Я,— спакойна адказаў ён, стараючыся зрабіць на твары выгляд, што ён вельмі спяшаўся дахаты, стаміўся.

— Ідзі туды начаваць, дзе дагэтуль быў...— злосна сказала Ніна.

— Адчыняй! — незадаволена сказаў ён.— Вечна ты са сваімі выдумкамі!

Яна шчоўкнула замком, адчыніла дзверы. Стаяла ў доўгай начной белай кашулі, сонная, з распушчанымі валасамі, ад таго была зусім нясвежая, непрывабная. Яна пільна пазірала на яго, глядзела, які ён прыйшоў, пасля ўжо, бачачы, што не п'яны, саступіла і ўпусціла ў калідорчык, дзе стаяла гарачыня ад добра напаленай пліты, пахла нядаўна смажаным салам і прыгарэлым малаком.

— Затрымаўся во...— спакойна, скідаючы паліто, прамовіў ён, ведаючы, што вось-вось жонка спытае, чаму ён

так позна прыйшоў.— Быў у Антона Сцяпанавіча, і ён нарэшце паабяцаў выцягнуць нас адгэтуль, узяць на работу, а праз які год даць і кватэру...

Жонка слухала, пільна пазірала яму ў вочы, усё крыху бянтэжачы яго.

— Выпіў...— дакорліва папракнула яго.

— Замачылі...— сказаў ён.— Гэта ж такая радасць...

— Духамі пахнеш...— прыплюшчыўшы вочы, сказала яна, чамусьці не ўзрадаваўшыся таму, што ён толькі што сказаў.

— Сядзеў на нарадзе цэлы дзень з імі, дык прапах...— незадаволена адказаў ён.— А старая качарга гэтая не надта хацела спачатку памагаць, дык я ледзь не ў слёзы... Толькі так расчуліў старога балвана... А пасля і загадчыка райана вакол пальца абвёў, згадзіўся звольніць, так што скора рукою махнём на гэтыя «мілыя» Міланькі... Людзьмі будзем...— ён прытуліў жонку і пацалаваў яе ў шчаку.

— Ну, ты, далібог, пахнеш бабаю...— ужо лагодна прамовіла жонка, стараючыся агледзець яго твар.

— Бабаю, бабаю! — перадражніў ён яе, намагаючыся не пачырванець.— Ну, распуснік я, толькі выйду з хаты і стараюся здрадзіць табе, з першай сустрэчнай... І ўсе нашы настаўніцы мае палюбоўніцы...

— Ну, ладна,— міралюбна сказала Ніна.— Ведаю цябе, дык і падазраю... Дык ён паможа нам пераехаць? — як толькі цяпер яна зразумела тое, што ён нядаўна сказаў, абрадавалася, аж разгубілася ад гэтай радасці.— Ну, хадзем дам табе вячэраць...

— Ляную́ся сёння і есці, стаміўся...— сказаў ён і, каб адаслаць ад сябе жонку, раздзецца і выключыць святло, падаў ёй купленыя сёння кнігі.— На, пастаў на паліцу.

Ніна зірнула на іх, нічога не прамовіла, адышлася, адсунула шкло ў секцыі і паставіла туды двухтомнік. І зноў вярнулася сюды.

— Але і наадэкалоньваюцца вашы настаўніцы! — здзівілася яна, скрыжоўваючы рукі на грудзях, пазіраючы, як ён нагнуўся і доўга развязвае шнуркі на чаравіках.

— Інтэлігенцыя! — адказаў ён, ведаючы, каго жонка называе інтэлігенцыяй.— Ды, у раён едучы, і марафоняцца... Ты ж таксама, як едзеш на базу, гадзіны дзве ля люстэрка стаіш, паўбутэлечкі духоў на сябе ўзальеш і ўсіх там учадзіш...

— Навыстранчалася я надта! — буркнула Ніна.— Ды болей селядцамі прапахла, як духамі...— і прытулілася да яго, радая, што ён так сёння стараўся дзеля сям'і.

— Стаміўся я вельмі сёння, набегаўся...— сказаў ён.

## 5

Павел, як і часта пазалетась, да службы ў арміі, і сёлета надоўга затрымліваўся ў школе пасля ўрокаў.

Вось ён і сёння застаўся са школьнымі паэтамі, празаікамі ды мастакамі — літгурткоўцамі — выпускаць газету.

Гурткоўцы збіраліся адзін раз на тыдзень — у кожную пятніцу. У адну пятніцу Павел, як умеў і разумеў сам, вучыў пісаць вершы ды замалёўкі, выбіраў лепшае, а ў другую пятніцу з гэтага лепшага і выпускалі газету, якую вельмі ахвотна чытала ўся школа. Акрамя перадавіц, якія пісаў сам Павел, літаратурных твораў і малюнкаў у кожным нумары былі яшчэ матэрыялы з будучага альбома пра школу — здымкі і расказы пра бацькоў і старэйшых братоў вучняў, былі рэбусы, красворды, гумар і сатыра, шаржы і пародыі, карыкатуры.

Павел да сённяшняй пятніцы сабраў ад дзяцей лепшыя вершы, замалёўкі, як здолеў, паправіў і вось сёння застаўся пасля ўрокаў са сваімі гурткоўцамі. Прадумалі, дзе і што як размясціць, а пасля дзеці самі пачалі перапісваць, маляваць, наклейваць матэрыялы на вялікі белы аркуш ватману (першыя разы газета выходзіла не зусім прыгожая, прыходзілася не раз бракаваць ужо гатовы нумар і перарабляць яго), а ён пазіраў, як што робіцца, далікатна падказваў, як што зладзіць лепш. Хоць ён і добра бачыў, што гэтая дзіцячая творчасць вельмі і вельмі слабенькая, просценькая, але яго ўсё роўна радавала, што дзеці не толькі рыфмуюць, але і любяць роднае слова, стараюцца для сваіх твораў знаходзіць самае свежае і зіхаткое...

Ларыса, каб пачакаць Паўла і разам з ім ісці дахаты, найбольш у кожную пятніцу сядзела ў школьнай бібліятэцы — мяняла дзецям кніжкі, брала прачытаныя і давала новыя. Але сёння яна не мяняла, нават не адчыняла бібліятэкі, а сядзела ў настаўніцкай. Была бледная на твары, як перапалоханая, маўклівая, стомлена сядзела на канапе і чакала яго.

7 Зак. 2629

Павел амаль увесь гэты час быў з дзецьмі ў класе, глядзеў, як яны робяць; калі бачыў, што ўсё ідзе ў іх добра, вяртаўся ў настаўніцкую. Вось зайшоў і цяпер.

— Ну, ты скора? — нібы незадаволена спытала Ларыса, трымала на каленях белыя рукі, на якіх, як і на твары, здаецца, не было і крывінкі.

— Во-во! — усміхнуўся Іван Сямёнавіч, седзячы за сваім дырэктарскім сталом і рыхтуючыся ісці на ўрокі другой змены, дзеля чаго цяпер правяраў рабочыя планы Міхаіла Апанасавіча.— Трапіў ты, Павел Мікалаевіч, у абцугі... Быў халасцяком — мог рабіць што хацеў, а цяпер не... Пад кантролем...

— Яны, жонкі, любяць кантраляваць,— падтрымаў жарт Міхась Рыгоравіч, які ўжо за гэтыя тыдні пажвавеў, забыўся пра нядаўні, не зусім прыемны для сябе сход.— Яны хочуць, каб муж нідзе не затрымліваўся, адпрацаваў і бег дахаты, быў ля іх...

Ларыса іншым разам не змоўчала б, нешта адказала б, але сёння толькі квола ўсміхнулася і пастаралася позіркам папрасіць яго, каб ён хутчэй канчаў сваю працу, прамаўчала і Мая Сцяпанаўна, якая стаяла і грэлася ля грубкі (каб схаваць свой досыць поўны ўжо жывот, накінула на шыю шалік і доўгімі канцамі яго прыкрывала грудзі і жывот), усміхнуўся толькі адзін Міхаіл Апанасавіч, які — добра выгалены, адпрасаваны, у новым касцюме, ад таго вельмі памаладзелы,— сядзеў ля дырэктара і расказваў, калі дырэктар пытаўся ў яго што-небудзь пра планы.

— Так што ў строгай дысцыпліне цяпер наш Павел Мікалаевіч! — жартаваў дырэктар, які апошнія дні быў у добрым настроі: тыя дні, калі меў благі настрой, то сядзеў сычом, і за дзень ніхто ні разу не бачыў яго ўсмешкі, а сёння вось усё жартуе і жартуе, нават калі і смяецца ўлюбёным багатырскім смехам.

— У дысцыпліне! — пасміхаецца і Вяртун, надзімаецца, чырванее, ад чаго аж вырываецца верхні гузік на каўняры яго цеснай, паношанай кашулі.

Паўлу — па маладосці — хацелася апраўдацца, што ўсё гэта не так, як жартуюць яны, старэйшыя, але ён неяк сцерпліваў, разумеючы, што будзеш апраўдвацца, дык яны яшчэ болей пачнуць жартаваць. Ён непрыкметна позіркам паказаў Ларысе, што хутка вызваліцца, і падаўся зноў у клас, дзе вучні-гурткоўцы ўжо амаль канчалі перапісваць.

Ён, пачакаўшы крыху, узяў газету і пачаў яе вычыт-

ваць, папраўляць памылкі. Дзеці гуртам стаялі ля яго, з хваляваннем глядзелі, ці будзе ён яшчэ знаходзіць памылкі, што скажа пра газету.

— Няблага! — прачытаўшы ўсё, усміхнуўся ён, аддаў дзецям газету.

Яны задаволена ўзялі яе, уставілі ў рамку, пад шкло, панеслі на калідор. Ён выйшаў за імі, радаваўся, што дзеці цяпер так ахвотна стараюцца выпускаць газету, заўтра ля яе будзе стаяць уся школа, парадаваўся і раптам успомніў, што ёсць нешта і такое, што непакоіць яго,— Ларыса. Лепш сказаць, не Ларыса, а тое, што адбылося сёння з ёю ў школе...

А адбылося з ёю тое, незвычайнае і зусім новае, сёння на трэцім уроку першай змены. Павел якраз вёў беларускую літаратуру ў восьмым класе, загаманіўся і адразу не заўважыў, як нясмела прачыніла дзверы класа маленькая светлавалосая пяцікласніца і прашаптала:

— Павел Мікалаевіч, Павел Мікалаевіч!..— і пальцам клікала да сябе.

Убачыўшы, што на дзверы глядзяць васьмікласнікі, зірнуў і ён, падышоў туды.

— Ларысе Іванаўне блага...— са сполахам усхліпнула дзяўчынка.

Павел папрасіў васьмікласнікаў чытаць далей самім, а сам шпарка, неяк несвядома адчуваючы страх, падаўся на калідор, а ім — у пяты клас. Зазірнуў, адчыніўшы дзверы, і адчуў, як адразу ж задрыжалі рукі, застукала кроў у скроні: Ларыса сядзела на крэсле, апусціўшы на стол галаву, твар яе быў вельмі белы як снег, такія ж былі і рукі.

Прыціхлыя дзеці, як толькі ён увайшоў, падняліся, але ён узмахам рукі папрасіў іх садзіцца, збянтэжана — ніколі не бачыў такой сваю жонку — падышоў да стала і ціхенька, напалоханы, разгублены, але помнячы, што побач дзеці, шапнуў:

— Ларыса Іванаўна?

Яна маўчала, галавы не паднімала.

Тады ён падняў яе пад пахі, адчуўшы, як раптам яна стала вельмі цяжкая, і амаль панёс яе да дзвярэй. Яна неяк несвядома лыпнула на яго невідушча вачыма, зноў заплюшчыла іх і абвісла ў руках.

Як вынес яе ў калідор, убачыў цёцю Галю, якая толькі што зайшла з двара і ставіла ў калідоры два вядры вады.

Убачыла іх — разгублена зірнула, хуценька разагнулася і падбегла, адчыніла дзверы ў настаўніцкую.

Павел паклаў Ларысу на канапу, хуценька наліў з графіна ў шклянку вады, падняў яе галаву і паднёс шклянку да вуснаў, нахіліў, але яна не піла вады, таму кроплі пацяклі па яе барадзе на шыю. Толькі тады яна як апрытомнела, паўраскрыла сухія, пасінелыя вусны і зрабіла спробу, стукаючы зубамі аб шклянку, выпіць, часта міргаючы вейкамі. Ён аж павесялеў: значыць, яна жыве...

— Што з табою, дзіця? — прысела ля яе ў кажушку і цёплых валёнках цёця Галя, за гэтыя дні, што быў у бальніцы яе Алесь Трахімавіч, вельмі пастрашнелая і пастарэлая.

Яна памацала Ларысін пульс, вуснамі дакранулася да яе скроні.

— Пабягу і выклічу «хуткую дапамогу»...— з хваляваннем сказаў Павел і накіраваўся да свайго паліто.

— Не трэба гэтай «хуткай», Павел Мікалаевіч,— сказала яму цёця Галя, калі распытала ў Ларысы, дзе і што баліць, а тая больш кіўком галавы, а не словам, адказала.— Ідзіце на ўрок, я пасяджу з Ларысай Іванаўнай. Яна праз мінутачку стане на ногі...

Павел нерашуча прыпыніўся, але адчуў, што не можа ісці, пакідаць у такім стане Ларысу, не ўбачыўшы, што ёй стала лягчэй.

— Мае вы дзеці, жанатыя вы, але яшчэ нічога не ведаеце...— неяк сарамліва ўпершыню за апошнія часы ўсміхнулася цёця Галя.— Але ж вы свае, нікога няма тут чужога, то скажу... А гэта таму, што стала Ларыса Іванаўна пры надзеі, вось і... Ва ўсіх маладзіц так бывае...

Павел зразумеў усё адразу і чамусьці імгненна ўспыхнуў чырванню, засаромеўся, што цёця Галя, пазіраючы на яго, зноў усміхнулася, паківала галавою.

— Маладзенькія вы яшчэ зусім...— цёпла прамовіла яна.— Але нічога не бойцеся, прыйшла пара ўсяму гэтаму... Прыйшла пара і вам свет трымаць ды амаладзіць... Ідзіце, Паўлік, вучыце, Ларыска ваша крыху паляжыць і падымецца.

...Ларыса, пакуль Павел пастаяў ля газеты і палюбаваўся разам з дзецьмі на яе, стаяла апранутая ўжо ў беласіняватае новае паліто з сіваватым пышным каўняром, на галаве была прыгожая, звязаная Ліліяй Іосіфаўнай сіняя шапачка, а на нагах цёплыя боты. На твары яе, здаецца,

не было ўжо ранейшай белізны, але і ружовыя плямінкі, што былі на шчоках, выглядалі непрывычнымі, не зусім здаровымі. Больш нікога з настаўнікаў ужо тут не было.

— Ну, як ты? — спытаў ён, бачачы, што яна пастаяла крыху, а пасля зноў прысела, і проста на яго вачах да яе твару хлынула чырвань, паказаўся на пераноссі пот.

Усё яшчэ сіняватыя, нейкія бяскроўныя яе вусны сасмяглі, як зліпліся ўсё роўна, што, здаецца, яна не магла нічога адказаць, толькі прыплюшчыла вочы: маўляў, усё добра.

Ён не толькі здзівіўся, што тое можа так аслабіць здаровага чалавека, але і адчуў да Ларысы зусім новае, сямейнае, вельмі блізкае, кроўнае пачуццё, адчуў, што яны цяпер яшчэ цясней звязаны нейкаю адною ніткачкаю.

— Ну, пасядзі крыху,— клапатліва сказаў ён і сам прысеў на крэсле.

Ларыса замахала рукою, каб ён не садзіўся, а апранаўся, каб хутчэй выйсці на двор. Ён паслухмяна падняўся, накінуў на шыю шалік, пасля апрануў чорнае зімовае паліто з каракулевым каўняром, паклаў у сваю вялікую сумку свае і Ларысіны сшыткі, падаў ёй яе пусты партфель, і яны выйшлі з настаўніцкай.

На двары было сонечна, аж рэзала вочы ад блакітнага неба і іскрыстага снегу. Здаецца, ледзь чуйна пахла ўжо вясною — цяплом, адталым у зацішку снегам, дрэвам ды травою.

Ларыса ўзяла яго пад руку, і яны паціху выйшлі са школьнага двара, узбоч агароджы падаліся ў свой канец Міланек. Відаць, і яна цяпер думала тое, што думаў і ён, захвалявалася, а можа, нават і прыпалохалася, бо неяк во ўся не толькі аслабела целам, але апала і духам. Хоць яны дасюль часта гаварылі пра **гэта**, і спачатку ў іх не было згоды: Ларыса хацела першай мець дзяўчынку, а ён, каб паказаць усім сваю мужчынскую годнасць,— хлопчыка. Пазней яна саступіла яму, згадзілася ў думках, што ў іх першым павінен быць сын. І сёння вось нечакана стала відаць, што гэта справа не будучага, ды яшчэ далёкага, а ўжо зусім блізкая, што яны ўжо не толькі маладажоны, але — лічы — і бацькі...

— Не ідзі так хутка,— папрасіла Ларыса.

Ён сцішыў хаду, адчуваючы, што цяпер будзе рабіць усё, што яна будзе хацець. Хацеў неяк загаварыць пра **гэта**, што ні на хвіліну не выходзіла з галавы, і радавала, і

палохала заадно сваёй таямнічасцю, але не ведаў, як пачаць. Маўчала і Ларыса, канечне, адчуваючы яго цяперашні клопат за яе здароўе, адчуваючы, як ён змяніўся, а можа, нават і раптоўна пасталеў.

У Анціным двары, прымяўшы снег, абцерушыўшы яго карою і пілавіннем, ляжалі дзвюма кучамі бярозавыя дровы. Іх Павел выпісаў на тым тыдні ў лясніцтве, аплаціў, а днямі папрасіў міланьскага трактарыста і прывёз сюды з лесу, згрузіў, пазаўчора і ўчора рэзаў іх з Ларысаю. Прыйдуць са школы — і за пілу.

— Парэжам за дзень-два,— сказала слабым голасам Ларыса, як угадала, пра што ён цяпер думаў.

— Папрашу каго — і парэжам...— адказаў ён, думаючы, што болей не дазволіць ёй цяжка працаваць.

— А я што? — квола ўсміхнулася яна, неяк сарамліва зірнуўшы на яго.— Зусім нядатная ўжо?..

— Ты будзеш кіраваць...— усміхнуўся ён, стараючыся нічым яе не пакрыўдзіць: яна і так была крыху самалюбная, а цяпер, як і ўсе жанчыны ў яе стане, можа стаць яшчэ болей крыўдлівай.

— Цяпер не я, а нешта будзе мною кіраваць...— уздыхнула яна, і ён пагадаў: рада яна гэтаму ці не зусім рада, перажывае, што яно так хутка стала, а можа, нават і неспадзявана.

На дзвярах сянец вісеў замок — гаспадыня, відаць, замкнула хату і падалася ў магазін.

Яны цяпер ведалі, дзе схаваны ключ, то хутка знайшлі яго, адамкнулі замок і зайшлі ў дом.

Хата ўжо была тая і не тая: яны з Ларысаю аклеілі яе новымі шпалерамі, пабялілі печ і столь, купілі і павесілі новыя фіранкі, вялікія лямпачкі — і пакоі падмаладзіліся, пасвяжэлі.

Яны распрануліся і разуліся, абулі тапачкі і падаліся ў лепшую палавіну хаты, якую цяпер гэтаксама было не пазнаць, не параўнаць з тым, якой яна была раней. Гаспадыня пазірала на ўсё гэта, што яны даглядаюць яе хату, вельмі задаволена, а калі яны згадзіліся плаціць за святло (яна наракала, што яны часта прасуюцца, ад чаго «лічыльнік усё круціць ды круціць»), то і зусім усцешылася. І ім стала неяк весялей жыць тут.

Ларыса разабрала пасцель, ужо амаль без ніякага сораму, не хаваючыся ад яго, зняла панчохі і пояс, скінула цераз галаву сукенку, накінула яе на біла, а сама легла на

ложак, накрылася коўдрай. Дасюль яна ніколі, прыйшоўшы са школы, не клалася: то памагала яму рэзаць дровы, то правярала сшыткі, чыталі напераменку новую кнігу.

— Пайду, мусіць, калоць дровы,— сказаў Павел, патупаўшы і бачачы, што яму няма што тут рабіць.

— Паляжы са мной...— папрасіла Ларыса, адным толькі тварам вызіраючы з-пад коўдры, неяк вельмі ўчэпіста назіраючы за ім.— Не пакідай мяне адну...

Ён не распрануўся, але прылёг побач. Адчуваў, што Ларыса хоча з ім пагаварыць, а гэтаксама, каб ён яе палаunion скаў — пагладзіў рукою па валасах, па галаве. Гэта яна вельмі любіла, адчувала тады вялікую ўцеху, хутка засынала, улагоджаная гэтаю пяшчотаю.

Яны, як толькі пачалі жыць тут, гэтаю парою — вярнуўшыся са школы — звычайна шукалі што-небудзь папалуднаваць. Спачатку дамовіліся, што есці ім будзе варыць гаспадыня, а яны будуць плаціць ёй за гэта семдзесят рублёў. Пасталаваліся так з тыдзень і паглядзелі, што яны плацяць добрую капейку, а ядуць штодзень амаль адно і тое ж — капусту, бульбу і сала. Параіліся ды і рашылі, што ім самім варыць сабе есці гэтаксама не варта, бо і на гэта, як і на тое, што трэба даставаць недзе харчы, траціцца многа часу, то пачалі харчавацца ў школьнай сталоўцы. Падымаліся раней і ішлі туды снедаць, там і палуднавалі, калі-нікалі хадзілі туды разам з інтэрнатцамі і вячэраць. За сталаванне плацілі школе, гаспадыні давалі толькі грошы за кватэру і святло.

— Ну, што ты скажаш, Паўлік? — спытала Ларыса, кладучы галаву на яго плячук.

— Думаю, што добра ўсё,— адказаў ён, ведаючы, пра што яна пытаецца.

— Ты не баішся?..— прашаптала яна.

— Чаго? — трошкі наўмысна бадзёра сказаў ён.— Мы ж гаварылі і раней пра гэта, хацелі...

— Але ж во як страшна...— прамовіла яна.— Ведаеш, зусім страціла прытомнасць, думала, што паміраю...

— Збялела зусім...

— І цяпер ногі дрыжаць...— прызналася яна, пацалавала яго руку, якой ён гладзіў яе па галаве.

— Буду вельмі берагчы цябе...— сказаў ён.

— І пасля любіць будзеш, калі буду такая, як Мая Сцяпанаўна, а то і яшчэ больш няскладная?

— Буду.

— Мілы мой! — яна пацалавала яго ў вусны, прыціснулася шчакою да яго шчакі.— Але я і напраўду спаць хачу. Паляжы пры мне, прыспі, а тады ўжо ідзі дровы калоць. Добра, родны?

— Добра,— адказаў Павел, адчуваючы, што цяпер ён яшчэ мацней кахае Ларысу, мае да яе вялікі пяшчотны і добры клопат, якога дасюль не меў.

Бярозавыя плашкі амаль усе былі тоўстыя, з шурпатаю, цвёрдаю карою. Некаторыя з іх, як рэзалі з Ларысаю, цяжка было і ўзняць на козлы, то пілавалі тут жа, на снезе.

Тонкая ці не вельмі тоўстая намёрзлая бяроза калолася лёгка. Ударыш сякераю пасярэдзіне калодкі — разваліцца на дзве палавіны. Камлюкаватыя ж палены было не разбіць. Бі, бі сякераю — а яна ці адскоквае, ці адбівае толькі косыя аскабалкі. А ў некаторых калодках сярэдзіны былі гнілыя, таму біць па іх нельга было: сякера з абухом залазіла ў рудую мякаць.

Колючы цяпер гэтую бярозу, Павел успомніў, як пасміхаўся ляснік — магутны, чырванашчокі здаравяк,— калі адпускаў яму яе.

— Два разы,— гаварыў ён,— будзеш грэцца. Адзін раз — калі пачнеш рэзаць і калоць, другі раз — як пакладзеш у грубку...— і так заліваўся смехам, што Павел тады, у лесе, і не зразумеў яго жарту. Адчуў добра ўжо тут, у двары...

Пакрысе ён налаўчыўся расколваць палены — удзёўбваў у калодку сякеру, выбіраў таўставаты моцны камлючок і пляжыў ім па абуху, пакуль не развальваў калодку напалам.

...Калі звечарэла, ён склаў усе расколатыя сёння дровы (іх выйшла ледзь не пад страху), набраў вялікае бярэмя, панёс у хату. Апусціў у лепшай палавіне ля грубкі на прыбіты да падлогі ліст жалеза.

— Памногу вы паліце,— незадаволена сказала гаспадыня, якая зайшла сюды следам за ім з кухні, зірнула на грудку паленцаў.

— Холадна ж у хаце, цёця,— сказала Ларыса, якая ўжо — свежая на твары, павесялелая — сядзела ля стала і правярала сшыткі. На плячах яе ляжала паліто, на нагах былі цёплыя валёнкі.

Гаспадыня прамармытала нешта незадаволенае, але ні-

воднага слова яе нельга было разабраць. Здаецца, яна шаптала: «Ну во, ну во!»

— Спалім гэтыя — яшчэ купім,— сказаў Павел, накладаючы дровы ў грубку.— Чаго іх шкадаваць ды мерзнуць?..

## 6

— Ну, паехалі,— зайшоў у хату і сказаў Іван Сямёнавіч маладой сямейнай пары, Васільцам, якія сядзелі ў кухні і гутарылі з Вольгай Піліпаўнай.

Прамовіў так, скінуў фуфайку, павесіў яе тут, у кухні, а сам падаўся ў калідор і апрануў цёплае зімовае паліто, падумаў, а пасля скінуў чаравікі і абуў цёплыя валёнкі.

— Вазьміце яблыкаў з сабою,— ветліва сказала Васільцам жонка: яна апошнім часам вельмі паважала іх за тое, што сёлета надта стараюцца ў школе і між сабой добра жывуць. Яна, як памірылася з нявесткаю, больш не папракала яе, а гаварыла, каб глядзелі і вучыліся ў Васільцоў, як трэба жыць.

Яблыкі ўзяў Васілец, паклаў іх у кішэню.

Іван Сямёнавіч, бачачы, што маладыя абуліся надта лёгка — Павел Мікалаевіч у чаравіках, а Ларыса Іванаўна ў боціках, у панчохах,— сцягнуў з печы старую коўдру, каб накрыць ёю маладыя ногі. Тады ўжо ўслед за імі выйшаў на двор, дзе за плотам стаяў конь, еў сена. На спіне каня, як і на посцілцы, якой ён толькі што накрыў салому ў санях, было ўжо многа снегу: і сёння лютаваў сакавік. Дзьмуў моцны вецер і ў паветры, і па зямлі гнаў снег, за якім не было відаць свету.

Вольга Піліпаўна пастаяла крыху тут, на халодным мяцелістым двары, пацепала плячыма ад холаду, цясней захінаючы полы незашпіленай фуфайкі, сказала:

— Ну, перадавайце яму прывітанне, жадайце і ад мяне, каб хутчэй стаў на ногі...— і падалася ў хату.

Іван Сямёнавіч пачакаў, пакуль Васільцы сядуць злева, пасля накрыў ім ногі коўдраю, адвязаў лейцы ад плота і сам кульнуўся на правы бок саней, аж яны моцна нахіліліся.

Конь, выкіраваны на тупкую вуліцу, ціхенька пабег, і лёгка ад гэтага гайдаліся валасы на яго шыі, ківаўся хвост і ляцелі пырскі снегу з-над капытоў. Лагодна рыпелі палазы, пакідалі за сабою два гладзенькія бліскучыя раўчукі, што амаль тут жа, на вачах, засыпала замець.

Па-ранейшаму на стрэхі хат, на платы сыпаўся снег, змятаўся ветрам, зганяўся, накручваючы гурбы. Хутка і яны, ездакі, сталі белымі. Іван Сямёнавіч, як Васілец, не хацеў храбрыцца, а апусціў вушы шапкі, падняў каўнер паліто. Баяўся прастудзіцца, патрывожыць свае хворыя лёгкія.

Ларыса Іванаўна і Павел Мікалаевіч ціха сядзелі, пазіралі на вясковыя хаты, якія яны міналі, узіраліся на дарогу ў Галінавічы, трымалі між сабою сумачку, у якой яны везлі ласункі хвораму Алесю Трахімавічу. Іван Сямёнавіч гэтаксама ў гаспадарчай сумцы, што была пад сенам у перадку, вёз сёе-тое з харчу.

Праехалі масток, падняліся на горку, спачатку ўбачылі замеценае селішча былой Ларысінай гаспадыні, цёці Валі, пасля праехалі побач кватэры Таццяны Сяргееўны, а тады ўжо наблізіліся і павярнуліся на галінавіцкую дарогу ля хаты, у якой яшчэ нядаўна кватараваў Павел.

— Цяпер і для вас усё гэта ўжо гісторыя! — усміхнуўся Рагатка, бачачы, як яго маладыя калегі цёпла, з хваляваннем і нейкім смуткам пазіраюць на свае былыя кватэры.— Мінула хвіліна — і яна ўжо гісторыя... Для вас цяпер новы яе этап — сямейны...

Яны абое неяк здзіўлена зірнулі на яго, можа, таму, што ў школе бачылі строгім, а нават калі і разгневаным дырэктарам, а тут сядзелі побач проста з пажылым чалавекам, з якім разам ахвотна, па сваёй волі, ехалі праведаць хворага чалавека, выдатнага настаўніка і свайго калегу.

«Як я люблю яблыкі!..— пачуў ён, як Ларыса Іванаўна шаптала Паўлу Мікалаевічу.— Ведаеш, я цяпер вельмі люблю зелень, люблю салёнае...»

«Будзем купляць...» — шэптам адказаў Васілец.

«Вось што...— падумаў.— І Васільцы ўжо хутка стануць бацькамі... Яшчэ маладыя зусім — і бацькі... Хутка сталеюць людзі... І старэюць... Яны, праўда, гэтага яшчэ не ведаюць, а я ўжо ведаю... Яны, пэўне, думаюць, што будуць век такія: маладыя, дужыя, прыгожыя. Аж не... Не паспееш азірнуцца, пажыць, а да цябе ўжо старасць завітае. Калі добра падумаць, хутка шэсцьдзесят мне, а я ж, па-добраму, яшчэ і не жыў... Век усё марыў: ну прыйдзе нарэшце час, і я зажыву. Думаў так, калі быў зусім малады, калі вучыўся, пачаў працаваць. Так марыў, калі ажаніўся з Вольгай і мяне хутка забралі ў армію, так думаў, калі ваяваў, а потым, адразу пасля вайны, пачаў і настаў-

нічапь. Увесь час жыў надзеяю: вось пройдзе яшчэ крыху гадоў, абудуемся, падгадуем дзяцей, пабагацеем, яшчэ лепш навучымся працаваць — і тады ўжо будзе тое, пра што марыў, чаго чакаў... Аж во... І абудаваўся, і дзяцей пагадаваў, пусціў у людзі, але... Маладосць прайшла, прыкаціла аднекуль праклятая старасць... Падумаеш-падумаеш калі і становіцца крыўдна: мусіць, не так я пражыў, не так прайшлі мае маладыя гады... Не жонцы, не сям'і, не сабе я іх прысвяціў, як прысвячалі другія, а аддаў школе, сельсавету, калгасу. Што не сабе аддаў — такой бяды. А вось, што мала аддаў маладосці жонцы, сям'і, іншае... Кепскі я быў муж, бацька. Дзеці нібы без мяне выраслі, без майго вока, без маёй ласкі. І гэта цяпер відаць. Вось прывязе дадому дзяцей старэйшая дачка, а я, такі дзед, і не ўмею гуляць з немаўляткамі... Жонка ўмее, а я не. Вось і думаеш парою: жыццё ўсё ж нейкае бязлітаснае. Забірае ад цябе маладосць, сілу. Да апошняй кроплі. А як забярэ ўсё, тады ты яму не трэба. Але яно змусіць цябе тады добра падумаць: як ты жыў, што ты рабіў? Думай, перажывай, але ўжо нічога не паправіш. Хіба што іншых вучы, як жыць...»

— Ну, як лепш жыць, моладзь: сямейнымі ці халасцякамі? — Іван Сямёнавіч павярнуўся да Васільцоў, усміхнуўся.

Яны абое з сорамам усміхнуліся і нічога не адказалі.

— Не ўведалі яшчэ? Нічога, уведаеце. На гэта ваша пара...— сказаў са спачуваннем.— Канечне, вам з усіх нашых маладых сямейных пар цяжэй, бо вы ідзіцё ў жыццё толькі самі, без нічыёй дапамогі, пачынаеце не на гатовым, як вось мае маладыя, а на пустым, лічы, месцы. Але гэта і лепш. Раней пройдзеце жыццёвую загартоўку. Пасталееце і памудрэеце. Пройдзеце, так сказаць, выпрабаванне цяжкасцямі, чаго якраз цяпер не хапае каторым нашым маладым... Добрая цяпер у вас пара. Цудоўная, непаўторная пара! І пастарайцеся пражыць яе мудра... Хоць,— усміхнуўся,— якая мудрасць у маладосці! Памудрэеце, калі пастарэеце. Як я во цяпер...

Яны ўжо не з усмешкай, а неяк са здзіўленнем зірнулі на яго, і ён здагадаўся, пра што яны цяпер думаюць. Яны, відаць, лічаць па-маладому, што адны толькі яны кахаюць, ведаюць, што такое каханне, шчасце, страсці, а нехта другі (тым болей ён, стары) гэтага не ведае.

— Так, так,— паківаў ён галавою, думаючы: «Дзеткі вы, я больш забыўся, як вы ведаеце...» — Не ўбачыў я, калі прыйшла мая старасць, усё думаў, што я яшчэ малады, яшчэ ўбачу тое шчаслівае, пра што век марыў... Вам, можа, гэта дзіўна ўсё слухаць ды незразумела, але...

Але ён рашыў не гаварыць усяго: ці варта бурчаць ды маркоціцца па-старому, калі ў іх не гэта, а зусім іншае — сваё, маладое, радаснае і шчаслівае — у галаве... Ды і нельга без пары многага зразумець, пакуль многага не пабачыш, не перажывеш...

Ён, адчуваючы, як настыла паліто, прабіраецца мароз да спіны, шчыпле за рукі і шчокі, паглядзеў на краёк поля, па якім бегла і распаўзалася замець,ківаліся перамёрзлыя верхавінкі сухадзяроўкі і асоту, сыпалі долу труху, якую вецер гэтаксама гнаў па полі.

У лесе — спачатку ў маладняку, а пасля ў патаўсцелым і ўкаранелым — стала цішэй, а ў старым сасновым бары зусім зрабілася ціха, і ў гэтай звонкай цішыні было чуваць, як шуміць у высокім голлі і верхавінах вецер, гудзе, коціцца валам. Лёгкі, хуткі, без снегу.

Снег быў на зямлі, на невысокіх елках і ядлоўцы, ляжаў пластом; на суках і тонкіх ствалах асін, вольхаў, абгрызеных зайцамі, прыкарэў — і нават, калі паблізу з лапкі, спалохаўшыся іх, зляцела сініца, драпнула нагамі, то ён увесь не зваліўся долу, толькі пасыпалася ўніз верхняя мяккая крупа.

Адчуваючы спакой і велічную цішыню ў старым сасновым лесе, спакайнеў і ён, Іван Сямёнавіч, як ніколі, адчуваў, што ўсё гэта вечнае. Было да яго, ёсць і будзе, бо вечнае і жыццё, толькі новыя ў ім прадаўжальнікі...

...За лесам адразу ж паказаліся Галінавічы — вялікая вёска, у якой былі дзесяцігодка, пяць магазінаў, сталоўка, вялікі клуб, бальніца.

Добра ведаючы ўсе хады (некалі працаваў тут у школе), ён пераехаў шырокую вялікую вуліцу і падаўся вузенькай, абгароджанай платамі вулкаю да бальніцы, што была ў канцы вёскі, ля лесу. Як пад'ехаў да аднапавярховага драўлянага, але вялікага, літараю «П» будынка, прыпыніўся ля яго агароджы, прывязаў да плота лейцы, адпрог каня і падкінуў яму сена, накрыў яго спіну коўдраю.

Васільцы лёгка (не так, як ён, цяжка, з памлелымі нагамі) саскочылі з саней, здымалі з сябе саломінкі і сена.

Ён узяў сумку і, адчуваючы хваляванне, падаўся да

высокага ганка, перад якім ляжала новая жоўтая падножка. У цёплым і крышку прапахлым лекамі калідоры ён адразу ўбачыў знаёмую сястру, якую некалі вучыў у тутэйшай школе, перакінуўся з ёю адным-двума словамі пра яе жыццё, спытаў пра здароўе Алеся Трахімавіча. Яна адказала неазначальна, і ён добра адчуў, што Зубку нялёгка.

Ён адзін зайшоў у прыёмную, у якой сядзела маладая ўрач.

— Ведаеце,— сказала тая, прыемна пазіраючы на яго з-пад акуляраў у тоўстай аправе,— і добра, што вы прыехалі, і нядобра... Нядобра, што Алесь Трахімавіч растрывожыцца, добра, што ён будзе рад, што яго не забываюць... Яму вельмі трэба станоўчыя эмоцыі. Таму папрашу: гаварыце толькі пра прыемнае, жыццярадаснае...

— Разумеем,— сказаў ён, выйшаў з прыёмнай на калідор, дзе ўжо медсястра трымала для іх тры халаты.— Гаворым толькі пра жыццярадаснае...— зірнуў ён на Васільцоў, і тыя згодна кіўнулі галовамі.

Ён і радаваўся хуткай сустрэчы, сустрэчы з добрым чалавекам і сваім калегам, які, можа, менш быў прыкметны, але больш застаўся ў памяці былых вучняў, і хваляваўся, хваляваўся за тое, што было між імі непрыемнае. Непрыемнае па яго віне. Каб было ўсё добра, то, можа, і не трэ было б усяго таго варушыць, нават не паказваць, што ён пакутуе, хоча даравання, прызнае свае памылкі, але цяпер трэба пераадолець гонар, быць чалавекам, каб і самому лягчэй пражыць свае, яшчэ адпушчаныя яму гады...

Урач прывяла да старых, нядаўна пафарбаваных дзвярэй, адчыніла іх, сказала: «Алесь Трахімавіч, да вас госці»,— прапусціла і засталася на калідоры.

Яны ўвайшлі ў пакойчык, у якім стаялі тры аднолькавыя жалезныя, з белымі біламі, з аднолькавымі зялёнымі, увабранымі ў белыя нагорткі коцамі, ложкі; на адным з іх, злева ад сцяны, ляжаў Алесь Трахімавіч. На іншых двух ложках ляжалі незнаёмыя маладыя мужчыны.

Зірнуў Рагатка на свайго старога калегу і ледзь пазнаў яго: шырокі твар стаў белы, нават жаўтаваты, вочы ўпалі, і ў іх зусім не было ранейшага бляску — як усё роўна зацягнуў туман. Ссівелі да рэшты валасы, пажаўцела маршчыністая шыя, але шчокі і барада былі добра выгаленыя.

— Добры дзень, добры дзень, Алесь Трахімавіч! — неяк разгублена павіталіся Ларыса Іванаўна і Павел Мікалаевіч.

— Здароў, Трахімавіч! — услед за імі паўтарыў і ён.

Зубок, убачыўшы іх, усміхнуўся, крыху раскрыўшы сасмяглыя вусны і прыпадняўшы бровы,— і квола бліснуў у вачах радасны бляск, падмаладзіў яго, ажывіў, яшчэ больш выклікаючы да яго пачуццё пяшчоты і жалю: відаць было, што чалавек хацеў жыць, любіў людзей, сваіх калег удвайне.

— Сядайце,— як прыліплым да паднябення языком прамовіў ён: гутарка яго была вельмі невыразная.

Васільцы селі на крэслах паблізу яго, а ён, Рагатка, прымасціўся на ложку ў нагах.

Алесь Трахімавіч дастаў з-пад коца руку — белую, з сінімі жыламі, з растапыранымі і нягнуткімі пальцамі,— зноў, здаецца, праз сілу ўсміхнуўся, дакрануўся да рук маладых, вельмі рады, што яны прыехалі.

Іван Сямёнавіч крышку раўніва паглядаў, што хворы так рады маладым, супакоіўся, калі той прыпадняў галаву і кіўнуў яму.

— Як вы пахнеце снегам, замеццю! — зноў не зусім разборліва прамовіў Алесь Трахімавіч з зайздрасцю.— І саломаю, сенам!..— ён плюскаў вачыма, здаецца, мог вось-вось заплакаць, але стрымаўся, спрабаваў усміхацца.

— Ну, як вы тут, Алесь Трахімавіч? — спытала Ларыса Іванаўна.

— Добра! — з усяе сілы храбрыўся той.— А вы, я чуў, пажаніліся. Віншую, мілыя мае! — ён працягнуў руку, неяк нязграбна ўзяў Ларысіну, паднёс яе да Паўлавай і разам патрос іх.— Усяго вам, усяго...

Ён, адчувалася, многа хацеў сказаць ды пажадаць, але не мог гаварыць, таму найболей стараўся выказаць усё жэстамі і ўсмешкай.

— Дзякуем,— амаль у адзін голас адказалі Васільцы.

— Ну, як васьмікласнікі паспяюць па рускай мове? — спытаў Алесь Трахімавіч у Паўла Мікалаевіча, і лоб яго ад натугі ўспацеў, пот выступіў кропелькамі на носе і на пераноссі.

— Ды няблага,— адказаў Васілец,— лепш за іншыя класы.

— Знаходзьце неяк на кожным уроку дзве-тры хвіліны і паўтарайце з імі правапіс, а то ўжо крыху і забылі некаторыя правілы...

Павел згодна паківаў галавою.

— Сёлета я нічога не зрабіў для іх...— самотна сказаў Алесь Трахімавіч,— ляжу ды ляжу тут...

— Ды ты не хвалюйся, Трахімавіч,— надаў голас і ён, Іван Сямёнавіч,— па рускай мове і Павел Мікалаевіч добра давядзе васьмікласнікаў да экзаменаў, выпусціць... А ты папраўляйся, хутчэй станавіся на ногі. Не думай...

— Хацеў бы не думаць, але...— Алесь Трахімавіч паківаў галавою, больш нічога не сказаў, але было вядома, чаго ён не дагаварыў: што ўсё яго свядомае жыццё прайшло ў школе, таму і нельга пра яе не думаць. Нельга не думаць пра сваю працу, боль, мару, радасць і свае трывогі ды спадзяванні...

— Тут мы вам...— сказала Ларыса Іванаўна, каб зноў развесяліць Алеся Трахімавіча, і раскрыла сумку, што трымала на каленях, дастала з яе слоік яблычнага соку, загортак цукерак і пячэння, паклала ўсё гэта на тумбачку.

Алесь Трахімавіч усміхнуўся, паківаў галавою ў знак удзякі, пасля інакш — [redacted] боку ў бок — хітнуў, што не трэ было столькі прывозіць, маўляў, у яго ў тумбачцы ўсяго мноства. А пасля, мусіць, каб не бянтэжыць маладых, паціснуў Ларысе Іванаўне, а пасля Паўлу Мікалаевічу рукі. Паціскаў правай рукой, а левая ўвесь час была пад коцам. І, відаць, яму нельга было ёю варушыць нават.

Паставіў на тумбачку слоікі з мёдам і смятанаю, палажыў яблыкі і ён, Іван Сямёнавіч, спытаў:

— Можа, чаго другога яшчэ дастаць?

Алесь Трахімавіч махнуў рукою, што нічога яму болей не трэба, не трэба і лішніх клопатаў, не дастаў да рукі і пагладзіў яго па калене.

Івану Сямёнавічу стала добра і прыемна ад гэтага дотыку, зразумеў, што Зубок рады, што ён прыехаў сюды шчыра, з клопатам і спачуваннем.

Было добра ад думкі, што ўсё сваё, аддадзенае Міланькам жыццё пражыў з такім чалавекам, хацеў таго ці не хацеў, але век вучыўся ў яго самаму простаму — быць не толькі службоўцам, але і чалавекам...

— Таварышы, прабачце,— зазірнула ў палату і сказала ўрач у акулярах,— Алесю Трахімавічу трэба адпачыць...

Як відаць было па твары, Зубку вельмі не хацелася заставацца без іх, ляжаць, ён вельмі хацеў затрымаць іх, калі не пагаварыць болей, то хоць паглядзець на іх, але ўрач настойліва ківала ім, каб яны выходзілі — хвораму патрэбен спакой.

— Папраўляйцеся хутчэй, Алесь Трахімавіч,— разгубліваючыся, сказаў Павел,— а мы вас вельмі будзем чакаць у Міланьках.

— Будзьце здаровыя,— прамовіла Ларыса Іванаўна.

Але Трахімавіч усміхаўся, згодна ківаў галавою, падаў ім руку, падбадзёрваючы, падміргваў, што хутка зноў сустрэнуцца там, у Міланьках.

Як толькі Васільцы выйшлі, выйшла ўрач, Алесь Трахімавіч неяк адразу аслабеў, як патух — знікла з вуснаў усмешка, у вачах прапаў бляск,— і твар яшчэ больш пажаўцеў, стаў незнаёмы.

Іван Сямёнавіч, бачачы гэта, трывожна адчуў, што ў хворага засталося зусім мала сіл, здзівіўся толькі, як ён здолеў так многа бадзёра трымацца перад маладымі. Відаць, ён хацеў, калі што якое здарыцца неўзабаве з ім нечаканае і яны ўжо болей не змогуць убачыцца, то каб яны, маладыя, навек запомнілі яго такім — бадзёрым і непераможным...

— Цяжка табе? — спытаў Іван Сямёнавіч, сеў бліжэй да крэсла, на якім нядаўна сядзеў Васілец, зірнуў у твар, у выцвілыя вочы Алесю Трахімавічу.

Бадай, упершыню за пасляваенныя гады яны так — позірк у позірк — глядзелі адзін на аднаго, пазіралі шчыра, з цеплынёй і разуменнем.

— Не буду перад табою, Іван, таіцца...— зноў як прыліплым да паднябення языком прамовіў Зубок.— Кепну я хутка... Дух ёсць, а вось сіл няма...

Іван Сямёнавіч узяў з тумбачкі шклянку, дрыготкаю рукою паднёс яе да вуснаў Алеся Трахімавіча, той, паднімаючы галаву і дрыжучы ў шыі, глытнуў крыху, стомлена апаў на падушку, прыплюшчыў вочы і зморшчыўся ад нейкага, аднаму яму вядомага болю. Пасля перамог яго, аслабела паклаў руку на грудзі.

— Алесь...

— Не трэба, Іван...— перапыніў яго Алесь Трахімавіч.— Бачу: ты шмат пра сябе думаў. Нешта ўхваліў, нешта не ўхваліў. Але я ведаю адно: і ты жыў не дзеля сябе аднаго... Меў свой характар... Дык ці нам цяпер з табою пра нешта тое, няладнае між намі, гаварыць?! Сваёю і шматгадоваю маўчанкаю мы ўсё пра гэта сказалі... І табе цяжка цяпер: і ты страціў здароўе, згарэў на рабоце. Але не здавайся, не пускай вучобы на самацёк, пераадольвай стому. Некалі, як пойдзеш на пенсію, Васільца на сваё

месца парэкамендуй, ён добра прадоўжыць... Маёй Галі даказвай, што папраўляюся, прасі, каб не бегала кожны дзень сюды... Калі памру, пахавайце ля бацькоў. І без прамоў... Ціха так, памаўчыце лепш і падумайце...

— Добра, Алесь,— прашаптаў Іван Сямёнавіч, спіснуў яго руку, здзівіўся, якая яна халодная.— Ты — чалавек!.. Не спяшаюся хаваць цябе, але рад, што жыў і працаваў з табою!..

Алесь Трахімавіч, каб перапыніць, мусіць, яго гэтыя гучныя словы пра тое, што ён мог сказаць прасцей і больш па-чалавечы, паклаў яму руку на шыю, прыгарнуў, прыціснуў яго лоб да свайго.

Іван Сямёнавіч нечакана падумаў, што не так, можа, Алесь Трахімавіч засаромеўся за гучныя словы, як — стары сябра і многагадовы калега — ужо развітваецца з ім...

— Едзьце...— прашаптаў Алесь Трахімавіч, лагодна паляпаў па плячы, усміхнуўся.

— Ну, папраўляйся! — не вельмі верачы ў свае словы, сказаў Іван Сямёнавіч, пацалаваў старога калегу ў шчаку і, амаль хістаючыся, са слязьмі на вачах, выйшаў з палаты.

## 7

На пачатку халаднаватага — з раптоўнымі марозамі-пекунамі, са снегам — красавіка нейк незаўважна пасля, лічы за адну ноч, пацяплела. Аслабеў холад, на снег апаў густы туман — і пачалася, здаецца, самая вялікая адліга.

Сёння ўжо трэці дзень трымаўся туман, чулася веснавое цяпло — снег прападаў амаль на вачах. Спачатку сцёк вадою са стрэх, праталіўся ля прызбаў, ля камлёў дрэў, а пасля і на полі — на ўзгорках. Стаў зярністы-зярністы, амаль, лічы, без вады.

Таццяна Сяргееўна вельмі ўзрадавалася, што па-добраму пачалася вясна: у гарадскіх школах закончыліся ўжо вясновыя канікулы, і вось-вось яны, канікулы, павінны былі пачацца і тут, у вёсцы. Тады яна з'ездзіць дадому, а таксама і ў сталіцу. Сустрэнецца з роднымі, сябрамі, сходзіць ва ўсе тэатры.

Сёння, нядзеляю, яна позна спала, пасля яшчэ доўга ляжала, песцілася ў цёплай пасцелі: учора позна пайшлі ад яе хлопцы, якія прыехалі на выхадныя з раённага горада ў Міланькі, тлумілі ёй галаву «раённымі» жартамі.

Спачатку не ведала, што будзе сёння рабіць. Пасля абдумала, што позна ўстане, паснедае, пачытае новую кнігу, потым прыбярэцца і пагуляе на дварэ, вечарам падасца ў вішнёўскі клуб, дзе павінны быць, як і ў кожныя выхадныя дні, танцы. Неяк, словам, пражыве ўжо доўгі вясенні дзень. Толькі адно сабе наперад наказала: паменей знацца са Сліжам, які апошняю парою ліпне да яе. Нашто ён ёй: жанаты, ды яшчэ з такою злоснаю жонкаю?! Ды і Сліж не той, пра каго можна марыць...

Яна паднялася, заслала пасцель, тады накінула на сябе халат і, не зашпільваючы яго, падышла да люстэрка, паглядзелася. Убачыла, што пасля ночы, пасля сну, пагусцелі ў куточку вачэй маршчынкі, сабраліся яны і ў куточку вуснаў.

«Трачу пакрысе свежасць, маладосць,— падумала яна.— А мне ж яшчэ толькі дваццаць чатыры! Што ж тады будзе ў трыццаць? Не, трэба болей шанавацца, сачыць за сваім тварам, бо хочацца доўга быць маладой, свежай і прывабнай».

Адчуваючы, якія слабыя ў яе рукі, ёсць млявасць ва ўсім целе, паспрабавала раз-другі прысесці і ўстаць, памахаць рукамі, ды тут жа паленавалася. Падалася ў сенцы мыцца.

Чэрпала кубкам з вядра ваду, ліла сабе на рукі, мыла твар — і ад холаду адчула бадзёрасць.

Есці зусім не хацелася, ды і яна рашыла, што сёння трэба крыху пагаладаць: учора хадзіла ў магазін, узважвалася на складзе і ўбачыла, што набрала, як сама лічыла, лішнія два кілаграмы. Выпіла толькі шклянку кіслага малака, дастала з печы і з'ела адну катлету і адзін блін, што стаялі за засланкаю.

Вярнулася ў лепшую палавіну хаты, стала ля люстэрка і пачала яшчэ пільна-пільна разглядаць свой твар. Вырвала некалькі валасінак, што раслі вышэй тонкай дужкі броваў, счысціла ўчарашнюю туш, паклала асцярожна новую, папудрылася і падфарбавала вусны. Расчасалася — і ўжо спадабалася сама сабе. Скінула халат і надзела чырвоную крымпленавую сукенку, зноў падышла да люстэрка — і яшчэ болей была сама сабе даспадобы. Падміргнула сабе і ўсміхнулася.

«Яшчэ ўсё вельмі добра,— падумала.— Няма тут нікога прыгажэй за мяне...»

На стале ляжалі дзве кіпы сшыткаў — рабочыя і кантрольныя, ляжаў ля іх тоўсты блакнот для планаў. Але садзіцца цяпер, пры такім добрым настроі, і брацца за работу не хацелася. «Вазьмуся за ўсё гэта ўвечар. Цяпер выйду на двор, пагуляю».

Абула чорныя аўстрыйскія боты з цёплымі і мяккімі ўсярэдзіне халяўкамі, надзела ўжо вясенняе паліто, на галаву нічога не накінула. Выйшла з хаты, замкнула яе і ў дамоўленым з гаспадыняю месцы схавала ключ.

На двары было туманна — не бачна нічога за крокаў дзесяць. Звонка капала вакол вада: падала і з мокрых стрэх, і з дрэў, і нябачна, але чуйна падавала голас і пад снегам. Паветра было мяккае, лагоднае, можа, толькі залішне сыраватае; ногі глыбока правальваліся ў рыхлым снезе, і ў слядах адразу паказвалася зеленаватая вада.

Стараючыся ісці па цвердаватай, змацаванай лядком сцежцы, Таццяна Сяргееўна падышла да варот, пагледзела налева і направа на вуліцу, як сароменочыся на яе выходзіць.

На вуліцы ў каляінах ад машын і трактароў стаяла вада, падфарбаваная адталым сенам; на дарозе хадзілі куры, дзёўбалі адталае зерне. Высокі чырвона-агністы, з сінім пералівам у хвасце певень падышоў да лужынкі і пачаў піць талую ваду — спачатку смактаў, набіраў поўен рот, пасля падняў галаву, заплюшчыў вочы і праглынуў. І так піў некалькі разоў.

Таццяна Сяргееўна, усміхнуўшыся, выйшла з варот, зірнула ўлева і ў тумане ўбачыла чалавека. Жанчыну. Па тым, што яна высокая, тонкая, пазнавала: гэта Лілія Іосіфаўна. Гэтаксама прагульваецца, любуецца вясной.

Таццяна Сяргееўна нібы не ўбачыла і не пазнала Ліліі Іосіфаўны, павярнулася і хутка пайшла па вуліцы направа. Ішла гэтак хуткавата, пакуль не апынулася ля хаты, дзе раней кватараваў Васілец, а цяпер была тут маладою гаспадыняю Ірына Васільеўна.

Маладая гаспадыня якраз была на двары. У гумоўцах, у старой фуфайцы з крыху закасанымі і мокрымі рукавамі яна выходзіла з сянец і лёгка, амаль не нахіляючыся ў левы бок, несла ў правай руцэ старое вядро. Здаецца, за апошні месяц вельмі папраўілася, пакруглела на твары ды пачырванела.

— Ого, вясну пачула!..— убачыўшы яе, Ірына Васільеўна прыпынілася і вось так пажартавала.

— А як жа,— адказала Таццяна Сяргееўна, падышла, цмокнула ў шчаку сяброўку.— Я ўсё новае мігам чую... Усе ж вы кажаце, што я вельмі паэтычная...

Пажартавала і з усмешкаю, і са здзіўленнем зірнула на мокрыя Ірыніны рукі, якія былі нядаўна ў малацэ і да якіх прыліплі звараныя крупы, паглядзела на сяброўчын твар, на лбе якога была відаць плямінка ад сажы.

— Якая ты сёння прыгожая! — з захапленнем прамовіла Ірына Васільеўна.

— А хіба я заўсёды не такая?

— Такая, але сёння інакшая.

— Вясна, мілая, вясна! — усміхнулася задаволеная Таццяна Сяргееўна.— А ты, мілая, прабач, канечне, але ты цяпер самая сапраўдная сялянaчка. Словам, маладая гаспадыня. Надта і не скажаш, што настаўніца...

Ірына Васільеўна пачырванела, збянтэжылася.

— Хадзем, я пакажу табе мілае цялятка...— пасля раптоўна перамяніла гутарку.

Таццяна Сяргееўна, калі пачула гэта, зноў усміхнулася, але падалася следам па адталым двары да блізкага цёмнага хлява. Ішла і баялася пабрудзіць боты.

Калі Ірына Васільеўна адчыніла хлеў, дык з яго дыхнула непрывыклым і непрыемным для Таццяны Сяргееўны цяплом ды пахам. Яна зморшчылася, прыпынілася ля вушака і ўбачыла цесныя загарадкі, у якіх стаяла высока, аж пад столь, карова, былі свінні, а ў маленькім куточку справа ўверсе якога было седала для курэй, стаяла маленькае бела-чорнае цяля, якое затанцавала, калі ўбачыла Ірыну Васільеўну з вядром.

Тая перанесла праз загарадзь вядро, перагнулася, усадзіла ў пойла руку — цяля боўтнула мызу ў вядро, аж забяліла лоб, выхапіла, а пасля зноў, ужо асцярожней, апусціла галаву, злавіла, мусіць, Ірыніны пальцы, укленчыла на пярэднія ногі і пачало смактаць, таўчучы ў вядро і махаючы хвосцікам.

— Хадзі, зірні, якое міленькае! — паклікала яе Ірына Васільеўна.

— Я, Ірачка, каровы баюся...— усміхнулася Таццяна Сяргееўна і ў хлеў не пайшла.— Гаспадарнічай, я цябе ля ганка пачакаю...

Адышлася да плота, дзе быў бялейшы снег, доўга чысціла боты — тапталася ў снезе.

«Не, я ніколі не выйду за вясковага замуж,— надумала сама сабе,— за інтэлігента, які не мае гаспадаркі, яшчэ можна выйсці, а вось за такога Пецю — не...»

— Вылізала во вядро так, што аж blішчыць! — з задавальненнем сказала Ірына Васільеўна, вярнуўшыся з хлява.

— Як сказалі б крытыкі, спрадвечная радасць сялянкі...— пажартавала Таццяна Сяргееўна.— Ты, мусіць, ля дому лепш любіш рабіць, як у школе?..

— Люблю, бо прывыкла...— прызналася Ірына Васільеўна.— І да школьнай работы ўжо прывыкаю...

Пасля яна гэтаксама патапталася па свежым снезе, запрасіла заходзіць у хату. У сенцах Ірына Васільеўна разулася і ў тоўстых, відаць, звязаных гаспадыняю з воўны шкарпэтках падалася ў хату.

Ля стала на кухні сядзеў гаспадар і, пачапіўшы на нос акуляры, чытаў газету, ля печы стаяла і парадкавала гаршкі гаспадыня.

— Астатняе я ўжо сама, Ірачка, зраблю, а ты пасядзі з госцяю,— адказаўшы Таццяне Сяргееўне на прывітанне, ветліва прамовіла гаспадыня нявестцы.

— Памагу, мама, хутчэй будзе,— адказала Ірына Васільеўна, выліла з вялікага гаршка ў свіное вядро ваду, размяшала таўкачом.

Таццяна Сяргееўна вельмі здзівілася, пачуўшы гэтае «мама». Не ведала, ці змагла б яна так хутка назваць сваю свякруху мамаю.

— Памагае крыху нявестка? — спытала яна, калі скінула паліто і павесіла яго на вешалку, села ля стала на крэсле.— Не ляніцца?

— Падленьваецца парою...— пажартавала гаспадыня.— Але накрычу, памахаю таўкачом — дык нябось баіцца, стараецца... І ўсё ўмее: і печ паліць, і ўхаджацца...

— Дык не каецеся, што сын настаўніцу ўзяў? — усміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Не наракаеце на яго!

Гаспадар на міг падняў галаву, усміхнуўся. Усміхалася і гаспадыня.

— Што ўжо зробіш...— зноў з жартам адказала яна.— Якая ўжо дасталася, такая і будзе. Хай ужо сын сам на сябе наракае, а чаго мы будзем наракаць!

Ірына Васільеўна, гэтаксама пасміхаючыся, панесла на двор поўнае вядро. Зноў вярнулася.

— Што яшчэ будзем рабіць, мама?

— Усё, дачка, мыйся ды пераадзявайся, палуднаваць будзем,— ужо сур'ёзна адказала ёй гаспадыня.

Тая паслухалася, пайшла ў сенцы, пафыркала там вадою. Хутка вярнулася ў хату без фуфайкі, у трыко, наверсе якога быў дарагі халат. Была поўная, чырвоная, усё на ёй, здаецца, так і іграла здароўем і маладою сілаю. Выцерлася і, міргнуўшы ёй, падалася ў другую палавіну.

Таццяна Сяргееўна падалася следам.

— Падымайся, досыць вылежвацца...— з нейкімі ўжо новымі для Таццяны Сяргееўны — смелымі і загаднымі — ноткамі ў голасе Ірына Васільеўна сказала Пецю.

Ён усміхнуўся і не хацеў падымацца з канапы, толькі апусціў на грудзі тоўстую кнігу, якую дагэтуль чытаў лежачы.

Ірына Васільеўна шчыпнула яго і правяла кулакамі па яго рэбрах, што ён завойкаў, мігам ускочыў, пачаў бараніцца, з любасцю пазіраючы на сваю маладую жонку.

Таццяне Сяргееўне стала аж зайздросна, што яны так дурэюць, ды крыўдна, што ў яе гэтага няма.

— Ідзі адгэтуль,— Ірына Васільеўна выпхнула Пецю з пакойчыка, шчыльна зачыніла за ім дзверы, прашаптала: — Хочаш, нешта скажу?

— Ну скажы,— усміхнулася Таццяна Сяргееўна, гадаючы, што за тайну зараз яна пачуе.

— Ведаеш, я ўжо...— ціха сказала Ірына Васільеўна і раптоўна пачырванела, не асмелілася больш нічога сказаць, толькі рукою паказала, што ў яе хутка будзе вось такі — вялікі круглы — жывот.

— Ты рада? — спытала Таццяна Сяргееўна.

— Канечне,— са шчасцем адказала Ірына Васільеўна.

— Віншую тады! — шчыра сказала Таццяна Сяргееўна, пацалавала яе ў абедзве шчакі.— Мне вельмі прыемна, што ты шчаслівая, што спраўджваюцца твае мары. А свёкры твае ўжо пра гэта ведаюць?

— Пакуль што не,— прызналася сяброўка.— Толькі Пеця ведае... Неяк скажам і ім.

— Скажыце,— параіла Таццяна Сяргееўна.— Бо трэба сказаць. Для цябе ж.— І зноў сёння пазайдросціла чамусьці сваёй сяброўцы, якой дагэтуль ніколі не зайздросціла.

## 8

— Кажа ён учора мне пад вечар...— плачучы, расказвала цёця Галя — у кажушку, са спушчанай на шыю пуховаю хусткаю (толькі што з дарогі), з пачырванелымі вачыма і са слязьмі на шчоках.— «Палягчэла мне, Галя. Ідзі дадому, пчол паглядзі: вот-вот вылецяць жа... Ды бульбу пачынай перабіраць — хутка вярнуся, дык будзем разам садзіць... Прывет настаўнікам і дзецям перадай... Дачцэ напішы, а сыну скажы, каб не журыліся: хварэю, бо мая такая старасць, а ім жыць ды жыць трэба...» Усцешвае ён мяне так, а маё сэрца так і чуе бяду: недарэмна ён так гаворыць... Астатнія дні па многа разоў яму то горшала, то лепшала. Калі лепшала, дык ён усё ўсміхаўся... А гэта зноў палепшала, але я мала радуюся... Чую бяду...— цёця Галя плача.— Думаю: «Не, сёння не пайду дадому. Застануся каля яго...» Развіталіся нанач, але я не пайшла, засталася ў калідоры, села ў крэсла і сяджу. Сама не іду больш у палату, баюся, падыду і папрашу дзяжурную: «Зірні, міленькая, ці жывы ён». Сходзіць, паглядзіць, кажа: «Жывы. Але не спіць. Ляжыць і пазірае ў столь. Думае». А пад раніцу, калі я ўжо і прыдрамала крыху, выбягае з палаты сусед. Мусіць, па дзяжурную, убачыў мяне, дык да мяне: «Цётачка, здаецца, памірае ваш Алесь Трахімавіч...» Я бегма туды. Бачу: туман у яго на вачах. Але пазірае на мяне, здаецца, пазнаў, што гэта я, зарадаваўся, працягнуў руку і гэтак нямоцна пацiснуў яе. Хацеў, здаецца, падняць маю руку яшчэ і пацалаваць, але не данёс, выпусціў... І заплюшчыліся яго вочы, ад твару адліла ўсякая чырвань... Навек...— прамовіла і зноў у плач.

«Божа! — падумаў Васілец, аглушаны гэтаю навіною.— Бедны Алесь Трахімавіч! Мілы Алесь Трахімавіч! Ну, чаму табе доля не дала яшчэ пажыць? Хай бы ты болей не працаваў, толькі жыў, быў побач. І то было б лягчэй — ты жывеш... Але няма... Як бы адразу нешта апусцела... Аж боязна: а як жыць, працаваць без Алеся Трахімавіча?..»

У невялікай Зубковай хаце і ўночы, і вось цяпер, удзень, было цесна: сабралася шмат народу. З усіх бліжэйшых вёсак. Сваякоў, сяброў, а найбольш — знаёмых.

Старых, сталых і маладых.— Шмат — надта дзяцей — стаяла ў сенцах, на дварэ.

Алесь Трахімавіч — у чорным касцюме, у белай кашулі, са складзенымі на грудзях бледнымі, з сінімі жыламі рукамі — ляжаў у труне пасярод пакоя. Застылы, бледна-жаўтаваты твар яго быў, здаецца, мала і зменены.

«Як і жывы Алесь Трахімавіч,— думаў Васілец, стоячы з Ларысаю і пазіраючы на нябожчыка. Ля яго, ля крэсла, на якім стаяла і гарэла свечка, стаялі на каленях і плакалі цёця Галя, рослы сын і гэтакая ж рослая дачка гаспадароў.— І такі ж твар адухоўлены. Нібы задумлівы. Пра тое, як жылося, як яшчэ жыць... І, здаецца, крышку гарэзны: Алесь Трахімавіч ніколі не паказваў, што яму цяжка, што ён сумуе... Паглядзіш век на яго і здзіўляешся: невычэрпная крыніца радасці, натхнення, бадзёрасці... Аж, выходзіць, вычэрпная: усё, выходзіць, на зямлі не вечнае...»

Балелі ногі, балела галава: усе настаўнікі — а з імі Васілец і Ларыса — былі тут і ўночы. На хвілінку схадзілі дадому памыцца, крышку перакусіць і вось зноў вярнуліся — праводзіць калегу ў далёкую дарогу. На вечны спачын.

Васілец зірнуў лявей і правей труны: там стаялі Іван Сямёнавіч, Вяртун і Вольга Піліпаўна. У мужчын слёзы на вачах, Вольга Піліпаўна плача наўзрыд, кусае вусны. Амаль увесь час хустачкі ля вачэй Ліліі Іосіфаўны, Маі Сцяпанаўны і Ірыны Васільеўны. Моршчыліся, раз за разам выціралі слёзы такія, здавалася, спакойныя, як Уладзімір Пятровіч і Таццяна Сяргееўна... Уткнуўшыся ў яго плячо, плакала Ларыса. Наўзрыд.

І Васілец чуў: спіскаецца нешта ў горле, душыць і наступае такі адчай, такі боль, што няможна больш вытрываць. Хочацца закрычаць, а то нават і завыць і пайсці. Пайсці куды глядзяць вочы. Далей, далей ад такога гора. Але ногі як прыраслі. Ды і ведаеш: нікуды не пойдзеш. Слёзы ў вачэй. Як ручайкі. Туманяць, засланяюць вочы. І нясцерпны боль: ну, чаму так? Мілы і родны Алесь Трахімавіч!

«Выходзіць, усё на свеце не вечнае,— зноў і зноў думаў пра гэта, што сёння найбольш уразіла, было неадчэпным.— Маладосць, каханне, радасць, праца, шчасце, словам, жыццё... Значыць, і я не вечны, а смяротны. Прыйдзе некалі час — і я вось так буду ляжаць, і мяне не будзе...

Страшна! Вельмі страшна нават пра гэта падумаць! Але ж гэта вечна. І жыццё не прападзе: нехта прыйдзе на тваё месца малады, здаровы. Выходзіць, цяпер нам, маладым, трэба рабіць за Алеся Трахімавіча. І не горш. Горш няможна: тады ўсё ў Міланьскай школе пойдзе назад... А як працаваць лепш за такога майстра, якім быў Алесь Трахімавіч? Значыць, трэба шмат думаць, шукаць, дзярзаць. Працаваць лепш, чым працаваў дасюль. Разумней, больш, з большаю ахвотаю і любоўю. Аддаваць усяго сябе школе... Калі хочаш пайсці па сцяжыне Алеся Трахімавіча і не занядбаць яго справу, калі хочаш і сам пакінуць добры след у жыцці... Вось так. Здаецца, я вельмі пасталеў за гэтую бяссонную ноч, паразумнеў, многае адчуў і зразумеў у такім простым, але і вельмі нялёгкім жыцці, упершыню адчуў: няпроста яго пражыць. Напраўду, мудра кажуць: жыццё пражыць — не поле перайсці. Але вось Алесь Трахімавіч здолеў разумна пражыць сваё жыццё, хоць сам не раз казаў: можна было і іначай, яшчэ больш удумней, жыць... Дык вось якое яно ўсё няпростае гэтае простае!..»

...Сабраліся хаваць Алеся Трахімавіча пасля полудня.

Калі Іван Сямёнавіч, Міхась Рыгоравіч, яшчэ два вяскоўцы паднялі труну на плечукі і паціху пайшлі з хаты, цёця Галя — ужо ў кажушку, у ботах, пастарэлая і пасівелая за апошнія суткі, з чырвонымі вачыма — зноў адчайна і жалобна загаласіла, учапілася за труну.

— Каму ты, Алеська, кніжачкі гэтыя пакідаеш, як яны будуць без цябе? — плакала яна.— Як жа хатка гэтая будзе без цябе, як жа я буду жыць?

Яе супакойвалі, прасілі так не адчайвацца, «бо ўсё роўна Алеся Трахімавіча не падымеш ужо», яна і сама гэта добра разумела, але галасіла і галасіла. Калі праз натоўп, які расступіўся, вынеслі труну, цёця Галя плакала, прыгаворвала, а пасля спатыкнулася і ўпала ля парога. Павел, які ішоў крышку ззаду, першы працісnуўся, падхапіў яе пад рукі, адчуўшы, якая яна цяжкая, прыхіліў на лаўку, убачыў, што цёця Галя белая-белая на твары, з заплюшчанымі вачыма.

Людзі закрычалі — і ў хату ўбег гаспадароў сын, хуценька дастаў з кішэні загадзя пакладзеную туды бутэлечку нашатыру, адкаркаваў яе, паднёс маці да носа. Тая раскрыла рот, пасля чмыхнула і расплюшчыла вочы.

— Трымайся, мамка,— плаксіва папрасіў высокі,

плячысты сын, узяў яе пад руку і павёў у сенцы, і яна, чапляючы нагою за нагу, ішла, амаль павісаючы на сынавай руцэ.

— Алеська мой,— зноў, апрытомнеўшы, загаласіла цёця Галя,— і хатка наша неперакрытай застаецца, і пчолкі нашы сіротамі сталі... Што ж ты нарабіў, Алеська?

Яна пазірала на цэглу, што ляжала пад страхою, на вуллі, якія стаялі ў садзе, і гэта, можа, для яе было памяццю па мужу.

Труна ўжо стаяла на машыне са спушчанымі бартамі, на ёй стаяў і невысокі столачак. Сын памог маці ўзлезці на машыну, пасадзіў на столак, ля яе прымасціў сваіх і ленінградскіх — сястрыных — хлопчыкаў, якія стоена і нават з нейкім неразуменнем пазіралі на труну, знаёмага маўклівага дзеда ў ім, на людзей, якія запоўнілі ўвесь двор.

Машына паціху кранулася, і за ёю пайшлі родныя, за імі — настаўнікі, за настаўнікамі — астатнія людзі.

На дварэ было мокра. Снегу ўжо амаль не бачылася, ён ляжаў толькі ў лагчынках, дзе быў стары лёд, а так зямля была мяккая, мокрая.

Павел, несучы ў руках шапку, ішоў побач з Ларысаю, слухаў і сцінаўся ад плачу і жалобнай музыкі, якую зайграў духавы аркестр, як толькі рушылі ад хаты.

Наперадзе спыніліся і стаялі тутэйшыя і не тутэйшыя грузавікі, міланьскія падводы з мукою для фермы, уверсе было хмурнае, нізкае неба, якое сеялася дробненькаю снежна-дажджавою імжою. Шафёры і возчыкі прыпыняліся, выходзілі на вуліцу і, зняўшы шапкі, стаялі, сумна пазіралі на абабітую жалобным палатном труну, з якой бачыўся поўны і спакойны Алесь Трахімавіч, які ўжо не пазіраў у сырое неба, не глядзеў на людзей, што праводзілі яго ў апошнюю дарогу.

Нечакана з-за мокрых хмар выблісnула сонейка, выплыла на прагал, гайданулася, як на хвалях, і паплыло, засвяціла самотна, халаднавата, але ўсё ж чуйна, напамінаючы, што да людзей усё шпарчэй і шпарчэй ідзе вясна, новае жыццё...

— І сонейка ты ўжо не бачыш...— загаласіла, закрыла белы твар такімі ж белымі рукамі цёця Галя.— А так ты яго чакаў... Гаварыў: пацяплее — і стану на ногі... Стаў...

Ад бяссонніцы ў Паўла ныла галава, цяпер самі ліліся слёзы, хоць ён усё яшчэ не верыў, куды і чаго ідзе, здавалася, што ўсё гэта нешта не на самай справе, але вось машына павярнула на вішнёўскую дарогу, і шафёр ля школы засігналіў, як паказаў, што нябожчык навек развітаецца з ёю, якой аддаў лепшыя свае гады.

Паволі машына, а за ёю і вялікі натоўп людзей падыходзілі да міланьскіх магілак, якія былі злева,— значыць, усё гэта было не сном, а самаю што ні ёсць праўдзіваю яваю...

Ля магілак, абгароджаных новым плотам, усаджаных высокімі соснамі, машына спынілася, і яе адразу абступілі людзі, якія ішлі следам.

Тыя ж людзі, якія выносілі труну з хаты, і цяпер знялі яе з машыны, а з імі і Павел разам, панеслі па сцежцы ў глыб магілак. Праходзілі ля многіх старых і новых помнікаў з зоркамі і крыжамі, хутка падышлі да кавалкаў мёрзлай зямлі і дзвюх горак свежага жоўтага пяску, між якіх бачылася глыбокая яма.

Труну асцярожна апусцілі і паставілі ля ямы, і Павел з нейкім жахам зірнуў у яе, убачыў жоўтае глыбокае дно, на якое насыпалася крышку зверху чарнаватага пяску, з болем зірнуў на знаёмы жаўтавата-васковы твар, складзеныя на грудзях рукі, бліскучыя чорныя туфлі, што былі звязаны белым бінтам. Труну абступілі родныя.

— У нябожчыка была воля, каб мы цяпер нічога не гаварылі,— трымаючы ў руках шапку, бледны на твары, увесь час расхінаючы каўнер кашулі, які бачыўся праз незашпіленае паліто, сказаў Іван Сямёнавіч.— Так што будзем думаць пра яго моўчкі, кожны сам сабе... Бывай, вялікі настаўнік, добры чалавек, стары друг...— ён нагнуўся, пацалаваў нябожчыка ў лоб і адышоўся, паднёсшы шапку да твару.

За ім пачалі развітацца настаўнікі, падышоў Павел з Ларысаю.

— Так ён вас любіў...— плакала цёця Галя.— Хацеў, жадаў вам шчасця...

Павел, адчуваючы, што вочы засланілі слёзы, зірнуў апошні раз на старэйшага друга, пацалаваў яго ў халодны лоб і, адчуваючы, як слёзы пацяклі па шчоках, а душа неяк раптам пабяднела, нешта страціла дарагое і незваротнае, адышоўся, следам за ім падалася Ларыса, уткнулася ў яго плячо і заплакала.

Неўзабаве ля труны засталіся толькі цёця Галя, яе сын і дачка са сваімі дзецьмі, плакалі і галасілі па нябожчыку.

— Вы ж не паднімеце ўжо свайго Алеся Трахімавіча, людзі добрыя...— угаворваў іх пажылы вясковы мужчына, бачачы, што яны доўга развітваюцца, пакутуюць, гаруюць, а хаваць жа ўсё роўна трэба.— Развітвайцеся, родненькія, жадайце, каб яму там добра было, бо ён людзям многа дабра зрабіў...

Доўга ён так угаворваў радню, пакуль не накрыў вечкам труну і не прыбіў яго цвікамі. Тады падсунуў пад яе вяроўку.

Да яго падышлі Рагатка, Вяртун, Павел, і яны ўсе разам асцярожна апусцілі труну ў яму, у якую з-пад ног абсыпаўся пакрысе пясок, выцягнулі вяроўку.

— Спачывай, дружа,— сказаў Іван Сямёнавіч, зачарпнуў і сыпнуў на труну жменю пяску.

Следам за імі сыпнулі пяску і астатнія, акрамя родных, якія стаялі паблізу і галасілі. Пасля пажылы вясковец і Вяртун пачалі сыпаць пясок лапатамі.

Цёця Галя, пазіраючы на гэта, зноў самлела, упала долу, і сын зноў даваў ёй нюхаць нашатыр.

Засыпалі, здаецца, хутка, на магілку паклалі вянкі ад райана, сельсавета, саўгаса і школы, настаўніцы палажылі кветкі, па якія ездзілі ажно ў Мінск.

Павел бачыў, што людзі неяк супакоіліся, пачалі разыходзіцца, ля свежай магілы засталіся адны родныя, для якіх цяпер іхняе гора было яшчэ большым.

— Пайшлі, дарагія,— сказаў ім Іван Сямёнавіч,— хай ён спіць.

Цёця Галя з дзецьмі і ўнукамі падалася адсюль. За агароджаю яна як апамяталася, сказала: «Дзякуй вам, людзі, за пашану... Зайдзіце на жалобны стол».

Села ў кабіну і паехала дахаты.

Настаўнікі не пабраліся ў кузаў машыны, а купкаю падаліся пехатою.

— Вось і жыццё чалавека...— сумна, ківаючы галавою, прамовіў Іван Сямёнавіч.— Дачакаўся пенсіі, а адпачыць не прыйшлося... Вечны супакой...

— Можна ж было яшчэ дзесяць — пятнаццаць гадоў пажыць, паглядзець, як людзі жывуць...— падтрымаў яго Міхась Рыгоравіч.

— Яшчэ доўга і ўсе ў вёсцы, і мы ў школе будзем

адчуваць, што няма ўжо яго,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Бо страта вялікая...

Павел, ідучы побач з Ларысай, зірнуў на дырэктара і ўбачыў, што той неяк пастарэў за гэтыя дні, згорбіўся, хоць яшчэ дасюль хадзіў з высока паднятай галавой. Зусім ссівеў, галава стала белая, што снег, пад вачыма глыбокія сінявата-карычневатыя ўпадзіны. Відаць, што шмат гараваў і шмат перадумаў...

— Адыходзім пакрыху мы, старыя...— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Вось даём вам дарогу. Ідзіце, далёка ідзіце... Усё бярыце ў свае рукі...

Ні Павел, ні Ларыса нічога не адказалі. Ды што было казаць? Яно ўсё і без лішніх слоў было ясна. Да трывогі ясна. Як светлы дзень. І крышку страшна. За новую ношку.

...На жалобным стале было шмат закусі, пітва, але ні піць, ні есці не хацелася: было не да гэтага...

Старыя жанчыны паспявалі. Пасля выпілі моўчкі, не запрашаючы адно аднаго, не стукаючыся чаркамі, і Павел адразу ахмялеў, адчуў яшчэ большы жаль. Ён нават не ведаў сам, што ў яго столькі было схаванага пачуцця...

Павел і Ларыса, стомленыя, расчуленыя, развітаўшыся з гаспадыняю і яе дзецьмі, вярталіся дахаты, калі ўжо схавалася ў згусцелыя на захадзе воблакі сонца, калі на двары пацямнела, добра пасвяжэла, пацягнула холадам, адчулася, што яшчэ і сёння будзе марозік. За ноч падмарозіць, сцягне ваду, якая назаўтра стане лёдам, будзе пад нагамі хрумсцець, але праз дзень-два, можа, ужо не будзе ні марозікаў, ні лёду, а выдасца большае цяпло і пачне пакрысе падсушвацца.

— Як цяпер будзе жыць цёця Галя? — пабедавала Ларыса, трымаючы яго пад руку і прытуляючыся.— Адна...

Павел стаміўся, адчуваў, што прамоклі ногі, ведаў, што стамілася і Ларыса, але яна пра гэта маўчала, ішла побач па міланьскай мокрай вуліцы ці часамі сыходзіла з ім на сцежку, што вілася ля плота. Апошнія тыдні, калі ўсё больш адчувалася яе цяжарнасць, яна часта кволілася, скардзілася, што ёй цяжка, блага, а вось цяпер — і многа не сплючы, і многа амаль нічога не трымаючы ў роце — маўчала.

— Будзе гараваць...— адказаў Павел, думаючы ўжо пра цёцю Галю.— Кожную хвіліну будзе адчуваць, што няма Алеся Трахімавіча...

Васілец так прамовіў, зірнуў крыху — і аж прыпыніўся: зусім нізка, над самымі верхавінкамі яблынь, ляцелі два шпакі. Іх, вестуноў вясны, яшчэ дагэтуль не было.

«Значыць, напраўду прыйшло цяпло, новае жыццё. Хутка-хутка яно зазелянее, закрасуе...»

Прыгледзеўшыся, Павел захваляваўся: убачыў знаёмага шпачка, лепш сказаць, не шпачка, а знаёмы матузок — той, што ён летась у жніўні прывязаў да нагі маладзенькага шпачка, які, ратуючыся ад ястраба, уляцеў у хату праз люфцік.

— Бачыш? — усклікнуў, паказваючы Ларысе шпакоў.— Той, злева, мой даўні знаёмы...

Яны прыпыніліся і паглядзелі на шпакоў. Тыя адно ля аднаго сядзелі на галінцы аблюбаванай ім шпакоўні, маўкліва, але, відаць, са шчасцем азіралі родную старонку, абдумвалі, як пачаць жыць, калі на двары яшчэ так няўтульна, халаднавата — ідзе холад ад мокрай, дзе-нідзе яшчэ са снегам зямлі, вісне здаровасць з астуджанага неба.

— Пайшлі...— прашаптала Ларыса, далікатна кранула локцем, відаць, не хочучы надта парушаць яго нечаканай радасці.— Заўтра ж зноў трэба будзе ранейка падняцца і ісці ў школу...

*1974—1976*

## 1

Да акна падляцеў шпак. Чорны, з шэрым бліскучым адлівам і з белаватымі плямкамі, са светлай стройнай грудзінай і з гэтакай жа, светлай, меткай на лбе. Усеўся на ніжнюю ліштвіну, з гарэзнасцю зазіркаў сюды, у пакой, як гаворачы: «А вось і я. Ці вы ўжо забыліся пра мяне, падумалі, што я куды паляцеў?»

Пасля паволі падняўся, часта замахаў крыллямі, сеў на адчынены люфцік, крышку адтапырыўшы жывот, і паглядзеў ці то з крыўдаю, ці то з яшчэ большай гарэзнасцю. Але ў клас не заляцеў. Як пабаяўся надакучыць.

Дзеці не зважалі на такога госця-свавольніка. Ён, кормячыся ля школы і ўжо зусім прывыкшы да людзей, вось кожны дзень садзіўся на гэты люфцік, пазіраў у пакой і чакаў пачастунку.

Васілец не захацеў крыўдзіць даўно знаёмага госця няўвагаю, падышоў да акна, падміргнуў, а потым дастаў з кішэні пінжака загадзя прыгатаваную скібачку хлеба, адламаў краёк і падаў. Шпак з радасцю зазыркаў маленькімі вочкамі, нагнуўся, схапіў з далоні хлеб і пырхнуў назад. Апусціўся ў блізкі скверык на парыжэлы ўжо за жнівень дзірван.

Адразу ж, як зваліўшыся з неба, падляцелі тры зусім маладыя, сёлетнія, шпачкі — яшчэ ў шэраватым, мяккім, неабсіўраным пер'і, вельмі бойкія і палахлівыя. Мігам адабралі ў бацькі спажыву, піхаючы адзін аднаго, раздзяўблі, пахапалі крошкі і разляцеліся.

Васілец кінуў праз люфцік шпаку-бацьку астатак хлеба, усміхнуўся і падумаў: «Яшчэ нядаўна ты, наш мілы свавольнік, адзін выгульваў, весяліўся, толькі сам ласаваўся ля нас, а цяпер ужо табе трэба думаць і пра іншых. Вось так, браце...»

Як убачыў, што шпак са смакам дзяўбе скібку, Васілец задумліва паківаў галавою і адвярнуўся ад акна. Не ўзняў рукі і не зірнуў на гадзіннік, але адчуў: вось-вось павінен ужо закончыцца ўрок. Прыпыніўся ля крайняй парты, прыслухаўся — і праз зачыненыя дзверы добра пачуў: напраўду тэхнічка, ужо смела зарыпеўшы дошкамі, прайшла па калідоры, зняла з цвічка стары медзяны званок, ненаўмысна, мусіць, зачапіла ім аб сцяну, а пасля звонка задзынкала.

— Пасядзім яшчэ крыху, сябры, давядзём работу над памылкамі да ладу...— прамовіў Васілец, бачачы, як васьмікласнікі (а ён і сёлета выкладаў ім беларускую мову і літаратуру, быў іхнім класным кіраўніком) з зайздрасцю пазіраюць праз вокны на двор, на вольных ужо дзяцей.

Васьмікласнікі, хоць і стаміліся ўжо, зноў моўчкі нагнуліся над сшыткамі, зморшчыліся ад яркага вераснёўскага сонца, што цяпер з прыпёкам свяціла праз шыбы, адбівалася ад зялёненькіх парт і белых сцен, празрысціла і грэла паветра ў класе: пакой быў з паўднёвага боку. А Васілец пачаў зноў хадзіць між радоў і пазіраць, што ўсе пішуць.

Чуў: дзяціны гоман ды тупатня, што так мігам усчаліся, гэтак жа хутка пачалі і заціхаць, чуцца з кожнаю хвілінаю ўсё далей.

Але і ён, як нядаўна і дзеці, крышку з зайздросцю паглядзеў, як падаліся ўжо дахаты калегі. Спачатку вымкнуліся са школы мужчыны: настаўнік матэматыкі Сліж і фізрук Васіль Іванавіч. За імі без спеху, нага за нагу, неўзабаве пашпацыравала настаўніца фізікі і матэматыкі Таццяна Сяргееўна — сёлета, здаецца, яшчэ болей стройная, заўсёды з густам апранутая, прыгожая, але гэтакая ж, як і летась-пазалетась, дзіўная, адметная ад усіх жанчын-настаўніц. Ні на кога не падобная. А то і не падобная нават на тую, якой была сама ўчора ці пазаўчора.

Здаецца, на нейкі міг, нібы пазіраючы на сад ці на сталоўку, Таццяна Сяргееўна кінула позірк на гэтыя вокны. Глянула з дакорам: сёння яны паспрачаліся.

Васілец цяпер не захацеў шмат пазіраць на гордую Таццяну Сяргееўну — яна ніколі не прызнаецца, што нешта не так робіць, не так думае, як трэба,— апусціў галаву і пайшоў далей тупаць між парт.

«Заўтра-паслязаўтра неяк памірымся з гэтай Тацянай Сяргееўнай, паладзім: колькі нават за гадзіну бывае між настаўнікамі вось гэткіх — пра работу — спрэчак... Што было б, каб за ўсё злаваў! Тады і няможна было б працаваць у школе...»

...Калі дзеці пайшлі дадому і ён застаўся адзін у вялікім класе, дык адкінуўся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы. У твар ды ў шыю прыпякала сонца, сляпіла вочы. Набухалі скроні, і балела патыліца, а ў галаве, здаецца, нешта шумела. Можа, і кроў, што дагэтуль шчодра прылівала і прылівала да мазгоў. Здаецца, усё яшчэ чуў, што сам гаварыў, што гаварылі дзеці за шэсць сённяшніх урокаў.

Пасядзеў яшчэ крыху, паставіў на стол локці і падпёр падбародак далонямі. Пасля выпнуў грудзіну, выцягнуў рукі ў бакі, памахаў імі. Падхапіўся.

«Брыдка, брыдка нават падумаць, што стамляюся на дваццаць шостым годзе жыцця! Што ж тады гаварыць Івану Сямёнавічу: яму налета будзе шэсцьдзесят?!»

Склаў у вялікую кіпу сшыткі, узяў іх і падаўся ў настаўніцкую.

Якраз зазваніў званок на першы ўрок другой змены.

Адчыніліся дзверы настаўніцкай — і з яе з класным журналам выйшла новая, зусім яшчэ маладзенькая настаўніца другога класа. Яна сёлета падмяніла Маю Спяпанаўну: тая гадуе маленькага сына. За настаўніцаю, усміхаючыся, выйшлі сталыя мужчыны: Міхаіл Апанасавіч і завуч Міхась Рыгоравіч. Калі зірнуў на іх, Васілец не вытрываў і ўсміхнуўся: і Міхаіл Апанасавіч, і Міхась Рыгоравіч былі амаль аднаго, сярэдняга, росту, амаль адных, недзе каля пяцідзесяці, гадоў, абодва чырванашчокія, тоўсценькія, як баравікі. Абодва любілі насіць наперадзе, у верхняй кішэньцы пінжака, ручкі — у Міхаіла Апанасавіча бачыліся два хвосцікі ад самапісак, а ў Міхася Рыгоравіча аж тры.

Міхась Рыгоравіч — па сваёй даўняй прывычцы — з гарэзнасцю падміргнуў Васільцу левым вокам. Калі падміргвае, дык у яго добры настрой.

У цёплай настаўніцкай ля акна сядзеў толькі адзін Іван Сямёнавіч — за апошні год зусім ссівелы, састарэлы. Сёлета ён мала і быў у школе. То хварэў, ляжаў дома, то ўсё некуды ездзіў. А калі і прыходзіў, дык быў маўклівы. Не жартаваў і не кпіў з каго, як некалі. Мо-

жа, яго напалохала ранняя смерць Алеся Трахімавіча, можа, замаркоціўся таму, што ўвесну пайшла на пенсію жонка, Вольга Піліпаўна, і ён нібы застаўся адзін. Адзін са сваёй былой гвардыі.

Іван Сямёнавіч узняў галаву, зірнуў паўз шкло ў акулярах, пастукаў верхам самапіскі па сваіх паперах. Над яго шчокамі былі вялікія цёмныя ўпадзіны, позірк глыбокіх выцвілых вачэй быў нейкі патухлы.

— Ну што, калега, стаміўся?

— Ды не,— адразу адказаў Васілец.

— Бачу: стаміўся...— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Спачуваю: не так лёгка, калега, мецьза трыццаць гадзін у тыдзень, па пяць-шэсць урокаў у дзень. Ды гэтулькі яшчэ ўсякіх планаў, сшыткаў, пазашкольнай работы... Ды і жонка маладая...

— Вытрымаем,— усміхнуўся Васілец.— Раз трэба столькі працаваць, дык трэба.

— Малады, дык павалачэш яшчэ і не такі воз... Яшчэ і большы. Але некалі, пад старасць, усё гэта акажацца.

— Што пра гэта думаць! — махнуў рукою Васілец, сеў на канапу.

— Думаеш: век будзеш малады, дужы, здаровы? — усміхнуўся і Іван Сямёнавіч. Але з іроніяй і з мудрасцю.— Не, не будзеш. Хоць гэта вялікая памылка маладосці — не думаць пра старасць... І я некалі, калега, пра гэта не думаў. Рабіў за дзесяцярых... Але цяпер ведаю: старасць ёсць. І прыходзіць яна вельмі хутка...

Іван Сямёнавіч — як і заўсёды, у выпрасаваным касцюме, пры белай кашулі і пры гальштуку — зірнуў убок і з самотаю паківаў галавою.

— Але ж што было б, каб не стараліся, не працавалі шмат у маладосці? — перамяніў ён гутарку.— Не было б руху наперад. Так вот выйшла і ў нас, што ты не можаш, каб і хацеў, працаваць напаўсілы. Страцілі мы выдатнага настаўніка мовы і літаратуры Алеся Трахімавіча, адпусцілі ў дэкрэт тваю слаўную Ларысу Іванаўну, дык хто ж будзе добра вучыць дзяцей мове і літаратуры? Ты ды Лілія Іосіфаўна. Іначай усё, чаго і дабіліся, пойдзе ўніз... А ўзровень не трэба зніжаць. Ніколі... Бо тады і начальства возьмецца за цябе і сам сябе паважаць за такую працу не будзеш...

Васілец прамаўчаў. Ды што ён мог сказаць? Усё гэта было праўдай.

— Вот ты, Павел Мікалаевіч, ужо не першы год працуеш, шмат чаго пабачыў, дык скажы шчыра: цяжка табе ў школе працаваць ці не?

— Цяжка.

— Вельмі цяжка, калега,— паўтарыў Іван Сямёнавіч.— Як нідзе, можа. Хіба што яшчэ толькі ў арміі. Бо і тут і там трэба працаваць не з машынамі, не з гэтымі нямымі прыладамі, а з маладымі людзьмі... Трэба ўвесь час, кожны дзень, кожную хвіліну думаць і думаць, шукаць мноства сцежак да мноства маладых сэрцаў, маладых розумаў... Вось таму і стамляемся, нервы псуём, з маладых гадоў маем ціск крыві высокі... Перадам я, калега, хутка табе свае клопаты... Хоць, сказаць па праўдзе, і шкадую цябе, твайго маладога сэрца... Згарыш, як і я згарэў... Бо, дзякуй богу, маеш нашу ахвоту, наша прагненне да работы...— зноў зірнуў убок, задумаўся. І доўга маўчаў. Потым схамянуўся.— Прыходзь вечарам з Ларысаю Іванаўнаю, дык яшчэ пагамонім пра жыццёбыццё. А то мы цяпер неяк і адасобліваемся. Адпрацуем у школе — і гайда кожны ў свой кут... Добра ведаем адзін аднаго як работнікаў, а вось як людзей дык і не зусім...

— Дзякую,— адказаў Васілец, паклаў сшыткі ў сваю сумку і сабраўся ісці дадому.— Прыйдзем сёння.

Ларыса стаяла ля брамкі і пазірала сюды, на даўгаватую няроўную сцежку, што вілася ад міланьска-сульскай дарогі.

«Даўно чакае ўжо,— падумаў Васілец.— І, відаць, крыўдзіцца...»

Ён пашырыў крок, мінаючы густы і дробны алешнік, высокія пажаўцелыя ўжо бярозы.

Па правай руцэ ляжала ўжо зааранае поле. За апошнія дні падсохла, выветрылася і пачало шарэць. Неба было блакітнае, з гурбамі белых воблакаў. Але і з вышыні, і ад зямлі чулася: ужо блізка восень. Бо адусюль пацягвала сыраватай асенняй свежасцю.

Ларыса сёння была ў новай, раскошнай, наўмысна сшытай на цяжарнасць, з белым каўнерыкам чырвонай суконцы — яе закончыла шыць і прымерала, відаць, сёння,— на нагах былі мяккія тапачкі.

Васілец пільней прыгледзеўся: сёння Ларысін твар быў надзвычай худы, як сцягнуты да падбародка, бо неяк

упалі яе шчокі і вытыркліся з рудаватымі плямкамі жаўлакі, павастрэў нос. Але ва ўсім яе зменены, нязвыклым абліччы бачылася ўжо нейкая прыемная мяккая жаноцкасць. Можа, хто і не бачыў гэтага, але ён бачыў, адчуваў.

— Якая ты сёння файная! — усміхнуўся, калі падышоў да брамкі.

Ларыса як і не пачула яго слоў, камплімента, зірнула з хмурнасцю, і на яе пераноссі сабраліся ад крыўды і незадавальнення маршчыны.

— Ну, прабач, што запазніўся,— прамовіў ён ціха, пачакаў, калі Ларыса сыдзе ўбок, каб адчыніць брамку.— Трэба было застацца і памагчы сваім васьмікласнікам.

— Ясна, мне ўсё ясна...— з папрокам сказала яна, саступіла, пацягнула сама да сябе рыпучыя з сасновых новых жэрдак вароты, нахмурылася і ўжо з крыўдаю, што ён так спакойна сказаў, замыліла танкаватымі вуснамі, што ў апошні месяц чамусьці страцілі ружовасць.— Ты, канечне, працуеш, бываеш з людзьмі. З маладымі настаўніцамі гэтаксама... А я тут, на гэтым хутары, адна. Адна цэлы дзень. Брыдкая. Во якая... Дык хіба цябе цяпер будзе цягнуць дадому?!

— Ну, як сёння? — ён моўчкі выслухаў гэтыя папрокі, ведаючы, што яна доўга крыўдзіцца не будзе. Спытаў пра тое, што яе гэтыя дні найболей трывожыла.

— Ды добра...— з памяркоўнасцю ўжо адказала Ларыса, пайшла побач з ім па сцежцы да дому, высока падымаючы галаву, але паскардзілася: — Цяжка мне. Так цяжэю, што ледзь цягаю ногі...

— Усё будзе добра,— супакоіў ён.— Хутка ж ужо ўсё... Ты ж цярплівая ў нас, мужная.

Узяў сумку пад левую паху, а вольнай правай рукою абняў Ларысу за плечы, прытуліў лёгка да сябе. Ішлі — яна па вузкай сцежцы, а ён па мураве — моўчкі, пазіралі на гаспадынiну хату: хата сёлета нібы памаладзела: летам ён садраў старую згнілую іззелянелую салому і разам з тутэйшымі мужчынамі накрыў страху дранкай, потым памазаў белаю фарбаю вокны. Гаспадыня старалася, каб сёлета яшчэ памяняў падлогу, раскідаў старую печ і паставіў новую, «аджываў за гэта», але ён наўмысна адкладаў тое-сёе з гэтых работ на другое і трэцяе леты. Зробіш усё адразу, дык і адразу будзеш непатрэбны...

Павел памог Ларысе ўзысці на ганак. Ішла яна моўчкі, здаецца, вельмі цяжка перастаўляла папаўнелыя ногі, тупала і, відаць, больш не злавалася, можа, ужо — хуткая на злосць, але гэтакая хуткая і на прымірэнне — папікала сябе, што не саўладала з сабою, са сваёй адзінотай і сустрэла яго з нялёгкай працы з непрыхільнасцю. Ды і зразумела, што ён не мог, каб не затрымацца, бо яна і сама летась часта-часта затрымлівалася...

У калідоры-кухні Ларыса надзела на сукенку шэры, у бурачковыя дробныя кветачкі шырокі халат і пайшла да печы. Адставіла засланку, заслала прыпек газетаю, што дагэтуль ляжала складзеная ў кутку запрыпечка, і спрытна вілкамі дастала з печы гаршчок, чарпаком наліла ў дзве талеркі расольніку. Яму, як бачыў, налівала гусцейшага і большы кавалак мяса паклала. Калі пайшла ў дэкрэт, Ларыса гатавала яму і сабе есці сама, гаспадыні плацілі толькі за кватэру ды за тое, што бралі ў яе тое-сёе з харчоў.

Васілец, пакуль Ларыса насіла ежу на стол, падаўся ў лепшую палавіну пераадзявацца.

Як ён — у трыко і ў тапачках — вярнуўся на кухню, Ларыса ўжо сядзела пры стале. На ім у талерках дыміліся параю духмяны расольнік, жоўценькія ад яек і масла, з рудаватай скарынкай наверсе рысавая запяканка, былі хлеб ды малако.

— Ну, што сёння новае там у вас? — спытала Ларыса, зусім не спяшаючыся есці, нібы хацела, каб ён пасмакаваў першы і сказаў якое слова пра яе кухарства. І ўжо, канечне, больш не гневалася.

— Нічога новага,— усміхнуўся ён, прыплюшчыў вочы: узяў у рот лыжку гарачага расольніку.— Гарачы, але смачны... Прайшоў яшчэ адзін — школьны — дзень. Вялікіх падзей ніякіх не адбылося, усе давалі ўрокі. Хоць працоўны дзень, як сама ведаеш, яшчэ не закончыўся. Бо вунь колькі,— ён кіўнуў на пакоўную сумку,— прынёс сшыткаў...

— Ну, як слухалі твае васьмікласнікі, што гэтак напісалі сачыненне, маюць яшчэ шмат троек ды двоек?

— Перажывалі... Але, мусіць, не больш за мяне...— паківаў галавою Васілец.— Але не гэта самае галоўнае. Я вось каторы ўжо год бачу, што і не навучыш усіх, многія пойдуць са школы і будуць пісаць не зусім пісьменна... А гэта ўжо наш, моваведаў, грэх...

— «Грэх»!..— не згадзілася Ларыса.— Быў бы грэх, каб не ўмеў ці ленаваўся працаваць... А то, бывае, хоць раты трэсні, а катораму ўсё роўна не паможаш... То не разумее яшчэ, то ніколі не зразумее, то не хоча разумець, не зважае надта на гэта... Лёгка толькі аднаго настаўніка вінаваціць...

— Паспрачаўся сёння з Таццянай Сяргееўнай. Хадзіў на яе ўрок алгебры. Урок добры, разумны. Але вось яна чамусьці зусім не зважае, як — пісьменна ці не пісьменна — дзеці пішуць... Маўляў, гэта не яе клопат, а наш, моваведаў:.. Дырэктара не было ў настаўніцкай, а Вяртун, як і заўсёды, прыслухоўваўся да ўсяго, але прамаўчаў. А мы не саступілі адзін аднаму, разышліся, здаецца, непрыяцелямі...

— Гэта яна наўмысне ўсё,— з незадавальненнем зморшчылася Ларыса.— Каб з кім другім, дык не спрачалася б, а з табою... Хто каго любіць, той...

— Гаворыш вось абы-што,— незалюбіў Васілец.— Пажартавала там некалі...

— А дзеля чаго яна яшчэ ў школе засталася? Усе дзяўчаты кажуць, што дзеля цябе... Ды паглядзець, як мы жыць будзем...

— Няхай паглядзіць. Можа, чаму і навучыцца талковаму...

— Сяброўка мая «па няшчасцю», Ірына Васільеўна, яшчэ дома? — перамяніла гутарку, паважвела Ларыса.— Дома, кажаш?.. Гэтаксама недзе нялёгка і ёй... Ну, не хмурся,— нарэшце ўсміхнулася.— Надта ж ты тады нейкі сур'ёзны, пастарэлы. Не чуў: не купіў яшчэ Сліж легкавіка?

— Яшчэ не, але ўжо на днях купіць.

— Папытвайся, бо скора ўжо трэба будзе мяне ў бальніцу везці,— крышку з прытворнай бадзёрасцю прамовіла Ларыса.— Дык вось і будзе транспарт... Будзь гэтыя дні лагодны з гэтым Сліжом. Не спрачайся. Любіш жа шпільнуць яго — ён смяецца, за жарт усё мае, але... Усё запамінае...

— Іван Сямёнавіч запрашаў нас і сёння прыйсці...

— Нешта цябе вельмі цягне да іх хадзіць! — прыжмурыла вока Ларыса.— Не так ты, мусіць, хочаш пабыць з Іванам Сямёнавічам, як хочаш яшчэ ды яшчэ раз зірнуць на прыгожанькую Маю Сцяпанаўну?!. Недарэмна,

зусім недарэмна пагаворваеш, што пасля родаў яна надта пахарашэла...

— А табе хочацца раўнаваць мяне да кожнай жанчыны...

— Быў бы ты на маім месцы...— паскардзілася Ларыса.— Ды і гэтая Мая Сцяпанаўна некалі на цябе вока мела...

— А можа, зуб? — пажартаваў ён.— Па тваіх падазрэннях я тут бог ведае хто...

— Гэта я агітую загадзя, каб ты не быў абы-хто...— усміхнулася яна.— Ды каб нядобрых думак не меў у галаве.

— Не перастарайся! Не перасалі, як пісаў Чэхаў... Мяне крышку здзіўляе іншае: чаму сёлета Іван Сямёнавіч так часта запрашае да сябе? Яшчэ летась, як і ўвесь век, і сам ні да кога не хадзіў, і нікога да сябе не запрашаў. А сёлета...

— Старэе, пенсія блізка — вось і баіцца, відаць, адзіноты.

Як пад'елі, прыбралі са стала і памылі пасуду, падаліся ў лепшую палавіну хаты.

— Ну, а ты, дамаседка, што сёння зрабіла? — запытаў Васілец і пажартаваў: — Адукоўвалася?

— Думаеш, як не хаджу на работу, дык ужо і чытаць, і думаць перастала?! — ні то з жартам, ні то з крыўдаю адказала яна, падышла да стала, дзе ляжалі кіпкі кніг і новых часопісаў.— І мыла, прыбірала, але і чытала. Вось магу параіць і табе прачытаць у «Народнай асвеце» цікавае пра ўрокі мовы і пра працу класнага кіраўніка. Дачытала апавяданне нашага сябрука...

— Ну, як ён піша?

— Ды, здаецца, расце. Напісаў добраю моваю, з яркімі дэталямі. Але вось адно мяне здзіўляе: ён жа малады, яшчэ і трыццаці гадоў няма, дык чаму піша пра старога сівога дзеда, які жыве адзін у невялікай вёсачцы і не хоча пераязджаць да сына, у вялікую вёску — цэнтр саўгаса? Пра гэта ж шмат ужо твораў у рускай і ў нашай, беларускай, прозе. А чаму яму, маладому, не пісаць пра сябе, пра нас, яго равеснікаў? Пра такога вось Сліжа, пра такіх Лілію Іосіфаўну, Таццяну Сяргееўну ды пра нас з табою? Мы ж новае, народжанае пасля вайны пакаленне, дасюль былі дзецьмі, юнакамі, а цяпер якраз уваходзім у моц, пачына-

ем ужо несці нялёгкую ношку. Словам, мы ўжо ёсць. Дык якія мы?

— А тут адгадка зусім простая,— усміхнуўся Васілец.— Пра старога, ды яшчэ селяніна, пісаць лягчэй: пра гэта, як ты гаворыш, шмат пісалі ўжо, вядомы матэрыял, асвоеная мова. Падхоплівай які матыў — і пішы... А вось пра нас з табою пісаць намнога цяжэй. Тут трэба самому шмат думаць, самому ва ўсім разбірацца, самому сваю душу паказваць. Ды яшчэ адно трэба ўлічваць: ёсць жа і крытыкі... Крышку захопішся, пакрытыкуеш — закрычаць: ганьбіш нашу слаўную моладзь! Будзеш памяркоўны — зморшчацца: мала канфліктаў, неглыбока... Вось, можа, і ёсць страх не патрапіць, дык лепш адысці ад нашых дзён, пісаць пра мінулае, пра ўжо добра вядомае і ацэненае. І яшчэ ёсць адна закавыка. Можа, і самая галоўная. Кожнаму пісьменніку, пакаленню пісьменнікаў трэба мець і свой эстэтычны ідэал, свой вобраз станоўчага героя, героя, які мог бы служыць узорам для пераймання. Тыя, што ваявалі, што былі дзецьмі ў вайну, маюць такі ідэал — гэта той чалавек, які здабыў перамогу, а пасля на полі, на заводзе здабыў яшчэ сваім дзецям, унукам — нам — сённяшняе, мірнае і сытае, жыццё. Але ж наш сябрук нарадзіўся пасля вайны. Рос, сталеў, пазнаваў жыццё ў новы час, што быў адметны сваімі падзеямі і эмоцыямі, а сёння яму пад трыццаць ужо, сёння ён і сам пачынае шмат браць на свае плечы. Дык які ў яго эстэтычны ідэал, вобраз станоўчага героя, героя-равесніка? Якія ён мае рысы, за што змагаецца? За што павінны мы змагацца? Але наш сябрук маўчыць, піша пра дзеда...

— Ганаровей ісці не па пратаптаных сцежках, а па цаліку, рабіць сваю дарогу. Пачэсна, калі ў цябе не ад Фолкнера, не ад Чорнага ці яшчэ ад каго, а сваё. Свая тэма, свае канфлікты, свой эстэтычны ідэал, вобраз станоўчага героя...

— Вось і склалі вусную рэцэнзію на новы твор нашага аднакурсніка! — усміхнуўся Павел.— Хоць, можа, яму і цяжка: а паспрабуй ты разбярыся, што за людзі гэтыя Сліж, Лілія Іосіфаўна, мы з табою! Ідэал ці не ідэал? І ці ёсць у жыцці ідэал? Ці толькі ёсць цяга да ідэалу, пошукі ідэалу?.. Калі ты не супраць, я прылягу і пачытаю? — усміхнуўся.— А потым яшчэ працягнем дыскусію.

— Прыляж,— адказала задуменная Ларыса, зняла пакрывала; падбіўшы, паклала падушкі ў беленькіх наўлечках. Запрасіла: — Адпачні.

— Ляж і ты,— лёгшы, паклікаў ён, бо ўбачыў, што Ларыса прысела на краі ложка: адну нагу паклала на пасцель, другую — спусціла долу.

— І начыталася, і наляжалася,— адказала яна.— Як збіралася ў гэты дэкрэт, дык і спяшалася. Думала: ну, адпачну крыху ад школы, ад дзяцей. А цяпер з вялікай радасцю пайшла б лепш зноў працаваць: раней так любіла чытаць, кожную вольную хвілінку, як сам жа бачыў, была з кнігаю. А цяпер парою і не чытаецца: як ні возьмеш раман ці аповесць, дык там усё пра роды, пра дзяцей, пра смерць... Раней на гэта не зважала, а зараз... Ну, каб ты ведаў, як усё гэта кідаецца ў вочы,— прамовіла, легла ля яго і прыклала руку да жывата і пачала «слухаць».— Дзякуй богу, здаецца, усё добра.

— Так і павінна быць,— сказаў Павел, са спакоем ды з радасцю пацалаваў яе ў шчаку, бо за апошнія тыдні вельмі набраўся ад Ларысы страху: ёй сніліся вельмі благія сны.— Тысячы, нават мільёны жанчын нараджаюць, і ты добра родзіш. І сына.

Ларыса нічога не адказала, усміхнулася, раптоўна схапіла яго руку і прыклала яе амаль ля самых сваіх грудзей.

— Паслухай...— са шчасцем прашаптала яна, заціхла. Здаецца, аж затаіла дыханне.— Падражніваецца з намі...

Павел заціх, «паслухаў». Адчуваў пад рукою новае, зусім яшчэ невядомае, таямнічае жыццё. Жыве, ужо жыве новы чалавек!

«Я ж скора буду бацька,— падумаў,— буду мець сына ці дачку! Але што гэта такое — быць бацькам? Боязна...»

— Чуеш? — перапытала Ларыса.

— Чую,— адказаў ён, саромеючыся прызнацца, што ён цяпер думае.

...Уночы Васілец прачнуўся, бо неяк адчуў, што Ларыса не спіць, хоць яны леглі позна.

Ларыса, як ледзь бачылася ў цемені, ляжала з адплюшчанымі вачыма, паварочвалася з боку на бок, нібы выбірала на ложку самае мяккае месца. Пасля паволі ўстала, села, забялела ў цемнаце начною кашуляю. Пасядзела крыху, зноў легла.

— Спі, Ларыска,— папрасіў ён, як толькі прачнуўся і паглядзеў, што яна робіць.

— Баюся...— прашаптала яна.— А раптам не вытрымаю? І сама маладая... І ты... Жыццё будзе зламана табе...

— Не гавары абы-што,— зноў напужаўся, папрасіў

ён,— пастарайся ні пра што не думаць, а заснуць. А то і я спаць не буду.

— Ты спі, а то заснеш заўтра ў класе,— яна легла, прытулілася да яго.— А я і днём высплюся. Мне ж часу хапае.

— Але не наганяй і на сябе, і на мяне страху...

— Добра, Паўлік, не буду. Буду спаць,— паабяцала яна.— І ты спі, адпачывай. Ты ж цяпер наш гаспадар, карміцель.

## 2

Настаўніца другога класа — з ёю яны толькі што гаварылі пра ўрок — зноў пайшла ў клас, а Іван Сямёнавіч застаўся адзін.

Пахадзіў па ціхай, крышку душнаватай ад дзённага цяпла настаўніцкай.

«Што гэта я сёлета раблю? — падумаў.— Гавару і гавару ўсім: стаміўся, пайду налета на пенсію... Рыхтую сябе, усіх да гэтага, але што ж я буду рабіць на той пенсіі? Без школы, без працы? Рабіў-рабіў ледзь не сорак гадоў — і на́ табе зараз!.. Сядзі дома на печы ці на двары, на лаўчцы!.. Можа, нікуды не трэба сыходзіць, нікому яшчэ не аддаваць сваёй, дырэктарскай, пасады? Стаяць да апошняга? Дык і не трэба здавацца старасці, хваробам. Вось выберам школьную бульбу, а потым пачну ладзіць інтэрнат. На ўрокі да настаўнікаў буду часцей хадзіць...»

Вярнуўся ў настаўніцкую Міхась Рыгоравіч. Ён хадзіў на два ўрокі да Міхаіла Апанасавіча, хутка з ім пагутарыў і выйшаў на ганак пакурыць. Стомлены сёння, ён зірнуў з запытаннем: трэба яшчэ быць у школе ці не?

Вяртун таму і застаўся сёння на другую змену, бо застаўся ён, Іван Сямёнавіч.

— Ну, як урокі Міхаіла Апанасавіча? — усміхнуўся, запытаў Іван Сямёнавіч: калі гаварыў нядаўна з маладою настаўніцаю, то амаль усё чуў, што гаварыў і Вяртун. А той толькі хваліў.

— Ды някепскія, хоць маглі б быць ўжо і лепшыя: усё ж чалавек столькі год робіць у школе,— адказаў Міхась Рыгоравіч, падышоў да акна, дрыготкаю рукой наліў з графіна ў шклянку халоднай вады, са смакам выпіў і абцёр рукавом губы, засунуў рукі ў кішэні штаноў і зірнуў у акно: за ім ужо — перадвячэр'ем — ярка, але і па-жаўтаватаму самотна, без прыпёку свяціла астуджанае сонца.

— Перавыхавала-такі яго Каця, зрабіла чалавекам,— з задавальненнем сказаў Іван Сямёнавіч, усміхнуўся: — І ёй добра, і школе добра. А вось цябе, старога гвардзейца, ні жонка, ні мы, ні райана ніяк не перавыхаваем. Відаць жа, было нешта ўчора, што сёння ўвесь час ваду п'еш ды халодны пот з ілба выціраеш?

— Было крыху...— азірнуўся Вяртун, са збянтэжаннем, як вінаваты, ўсміхнуўся, што неяк і няёмка было пазіраць на яго бегатлівыя маленькія вочкі, завостраны нос, на пакамечаны руды касцюм з бліпчастымі рукавамі-локцямі, на тры ручкі, што зусім мала надавалі інтэлігентнасці іхняму гаспадару.— Аднаму нашаму завочніку памагаў кантрольную па алгебры рабіць. Ну, а пасля таго ўжо...

— Ясна,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Не шануеш ты ні свайго таленту, ні здароўя. Траціш на абы-што... На яе, праклятую...

Міхась Рыгоравіч зачырванеўся. Як хлапчук.

— А са сваім розумам ты мог бы выдатным быць настаўнікам, завучам... Каб меў большую волю...

Прамовіў так, і яму стала па-чалавечаму шкода Вертуна: напраўду ж разумны, добры, шчыры чалавек. А вось добрым настаўнікам не стаў, вялікай павагі ў людзей не заслужыў. І сам ведае гэта, церпіць. А калі вып'е, тады ўсё выказвае. І пра сваё гора, і пра іншых.

— Я во тут,— каб заглушыць успаміны, Іван Сямёнавіч падышоў да стала, паказаў на разгорнуты сшытак,— намеціў, на якіх мне, а на якіх табе ўроках трэба пабыць на тым тыдні. Як і летась, найбольш будзем хадзіць на ўрокі мовы і матэматыкі: гэта ў нас каторы год самае слабое месца.

— Добра,— з ахвотаю згадзіўся Міхась Рыгоравіч, кінуў позірк на сшытак-план, што заўсёды, каб бачылі настаўнікі — каб ведалі, калі і па чым будуць правяраць іхнюю працу,— ляжаў на стале.

— І заадно на ўрокі нашых новенькіх трэба часцей хадзіць.

— Добра,— зноў згадзіўся Вяртун.

— А што ты параіш яшчэ? — запытаў Іван Сямёнавіч.

— Ды вы ўсё добра задумалі,— пацісную той плячыма.— Што тут яшчэ параіць?

— Можа, якая ў цябе свая задума ёсць, можа, што хочаш зрабіць іначай? — папытаў Іван Сямёнавіч.— Дык не саромся, гавары. Ты ж ужо завуч з даўнім стажам, дык мог

бы не толькі сам усё планаваць, але ўжо цягнуць і за мяне, старога, воз. Ці смеласці не маеш?

«І не толькі смеласці няма...— падумаў Іван Сямёнавіч сам сабе.— Даўно ўжо мала чытаеш ты, таварыш завуч. Добра не ведаеш, што цяпер новае ў педагогіцы, таму і не можаш параіць настаўнікам нешта свежае, патрэбнае. А чалавек жа ты не дурны, здольны, кемны, ахвочы да работы, вельмі хутка ўмееш пазнаць, што ведаюць маладыя настаўнікі, чаго яны хочуць. Іншы, кемны ды хітрэйшы, завуч мог бы ў пару пераладзіцца да настрояў, ведаў, пошукаў маладых, выкарыстаць усё гэта ў сваіх інтарэсах — і справу штурхаў бы наперад, і сам быў бы наперадзе. А ты не такі, ты нібы лянівы: з году ў год раіш маладым тое, што толькі сам ведаеш. Пасля, праз год-два, ты ўжо нікому не цікавы, адзін і той жа, маладыя вучацца, ідуць угору. Нарада якая ці педсавет, дык ты чытаеш на іх тыя даклады, што чытаў год і тры гады таму назад. Толькі падновіш крыху — памяняеш прозвішчы настаўнікаў. Не называеш тых, якія працавалі раней, хваліш тых, што працуюць цяпер».

Міхась Рыгоравіч, відаць, адчуў яго гэтыя думкі, бо неяк замітусіўся, глыбока перажываючы за тое, як думае пра яго ён, дырэктар. І думае так ужо даўно.

— Старайся! — усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Пайду вось налета на пенсію — сядзеш за мой стол. Дачакаешся нарэшце сваёй пары...

Міхась Рыгоравіч з іроніяй усміхнуўся. Здаецца, не верыў, што яго могуць паставіць тут дырэктарам. Як убачыў, што Іван Сямёнавіч збіраецца ўжо ісці дадому, з ахвотаю заспяшаўся і ён. Падышоў да вешалкі, зняў і надзеў свой сіні доўгі плашч, шэраваты, з вялікімі палямі капялюш. Іван Сямёнавіч быў толькі ў касцюме, на галаву таксама надзеў новы, сёлета куплены, рудаваты капялюшык.

У школе цяпер з настаўнікаў першай змены засталася толькі адна Лілія Іосіфаўна. Яна яшчэ сядзела ў бібліятэцы і перапісвала новыя, нядаўна прывезеныя кнігі. Яна, адзінокая, будзе сядзець там да ночы, не завіхнецца ісці на сваю кватэру.

— Свеціць яшчэ сонца, грэе, але ўжо адыходзіць цяпло, настывае зямля,— уздыхнуў Іван Сямёнавіч.— Можа, вы, маладыя, гэтага яшчэ не адчуваеце, а я ўжо адчуваю. Неяк самотна, калі ідзе восень. Шкода нечага, што было і прайшло...

— Ага,— падтакнуў Вяртун.— Чуваць, што ўжо халаднее. Пара ўжо бульбу выбіраць. І школьную, і сваю. Бо там ужо скора і дажджы пойдуць.

— Ды выберам тую бульбу,— махнуў рукою Іван Сямёнавіч.— А вось душа... Не зразумець, што з душою робіцца... Надта ў ёй нейкіх няясных пачуццяў многа... Шкода вот нечага, што мінулася, чаго не было, чаго і век не будзе... Ці ўсё гэта ад старасці?

Вяртун са здзіўленнем зірнуў на яго і нічога не адказаў.

Іван Сямёнавіч павярнуў у свой двор. Убачыў: у садзе стаіць нявестка, Мая. Па-бацькоўску пацешыўся: Мая за апошнія месяцы папаўнела, пахарашэла.

І Мая зірнула на яго. Але нічога не прамовіла. Брала з вялікай мядніцы полкі, дзіцячыя штонікі, кашулькі, атрасала і вешала на шнур, што быў завязаны за ствалы і галіны яблынь, мацавала прышчэпкамі — яны віселі на доўгай вяровачцы на грудзях. Халат яе быў расшпілены на верхнія гузікі, была відаць яе белая шыя, верхняя палова поўных грудзей.

«І на вецер так выскачыла... Можа ж, прастудзіцца...— падумаў і здзівіўся, колькі яна там пажыла яшчэ ў іх, а яна ўжо яму як родная.— Ох, гэтыя маладыя!.. Зусім не асцерагаюцца! Але неяк сорамна ўсё вучыць ды вучыць: гэтак можна і надакучыць...»

— Ну, як Андрэйка? — запытаў, спыняючыся.

— Нечага плакаў-плакаў, а цяпер заснуў,— адказала, на хвіліну зірнуўшы.— Ціха там хадзіце, каб не пабудзілі.

Іван Сямёнавіч, пачуўшы нявестчын наказ, разгубіўся. Некалі, як толькі Мая прыехала ў Міланькі, а потым прыйшла ў іхнюю хату як нявестка, дык была сарамлівая, не магла зірнуць ім у вочы, усё чырванела і чырванела. А цяпер вось змянілася. Што яна ні скажа, тое ўсе і робяць. Нават і Вольга Піліпаўна. Аж страшнавата робіцца, што ж будзе, як ужывецца з ёю, прыгожаю, уладнаю ды капрызнаватаю, ціхмяны Васіль, калі раптам іх, старых, не стане? І яшчэ адно яго бянтэжыць. Як засталася Мая дома, з дзіцем, дык нібы і забылася пра школу. Не ўспамяне, не папытаецца, што там робіцца, не чытае газет і часопісаў.

Іван Сямёнавіч пастаяў крыху ды пайшоў у хату. Зайшоўшы, пастаяў, як не ведаў, што рабіць, дзе ступіць. Нібы быў чужы ў сваёй хаце. Паставіў у парозе сумку, ра-

зуўся, скінуў шкарпэткі і ў тапачках ціха падаўся ў лепшы пакой — зірнуць на маленькага, але такога дарагога чалавечка: засумаваў па ім за дзень.

З круглым тварам, увесь у бацьку, у белай шапачцы, накрыты па бараду коцам у белым чахле, Андрэйка ляжаў на правым бачку і сонна цмокаў смочкам. Ведаючы жончын наказ — шмат не пазіраць на соннае дзіця — Іван Сямёнавіч паглядзеў з хвіліну, увесь напаўняючыся нейкім пяшчотным дзедаўскім пачуццём, адышоўся і сеў на канапу. Паленаваўся нават выцягнуць руку і ўзяць са стала новыя газеты. «Пагляджу пасля, перад кіно». Расслабляўся, адпачываў, чуючы, як моцна б'ецца сэрца: яно ў апошнія месяцы пачало адчувацца ўсё больш і больш. Надта пасля таго, як ён аднойчы сасніў уночы, што на яго ногі зляцеў з гары крумкач з доўгаю дзюбаю і пайшоў, колючыся кіпцюрамі, па левай назе, прайшоўся па жываце, пасля дзюбнуў у грудзі — там, дзе было яго сэрца. Ён, і ў сне, адчуваючы, як сшэрхла на ім скура, набухлі ад крыві скроні, раптоўна прачнуўся, адразу, мацаючы рукою ў цемені, пачаў шукаць на сабе таго крумкача, але яго нідзе не было... Пасля гэтага сну і стала балець сэрца, пачалася бяссонніца.

— Хадзі есці,— зайшла, ціха прашаптала жонка — у новым, жоўта-рудым, у дробныя клетачкі, халаце, задуменная, здаецца, пастарэлая і змаркотненая за першы восеньскі месяц без школьнай працы.

— Дзякую, не хачу,— адказаў ён, пастараўся гаварыць сваім звычайным бадзёрым голасам.— Дай толькі, калі ласка, квасу.

Вольга Піліпаўна аднак пачула нешта нязвыклае ў яго голасе, прытрымалася, зірнула з жаночаю пяшчотаю і з мацярынскаю трывогаю, здаецца, хацела падысці бліжэй і пагладзіць яго па галаве, а то і прытуліць яго сівую галаву да грудзей. Але, мусіць, засаромелася. Сына і нявесткі. А яму, калі адчуў гэта, зрабілася маркотна.

«Нічога яна не ўбачыла за мною...— падумаў.— Было толькі адно ў мяне на розуме: работа ды работа... І не бачыў, калі яна, Вольга, старылася, гадуючы дзяцей ды шмат працуючы ў школе і дома... А колькі часу, пачуццяў аддаў не ёй, а Міхаліне Карпаўне, калі некалі, пасля вайны, закахаўся ў тую... Вольга, можа, што і адчувала. Але ўсё выцерпела... Састарылася без пары...»

Ён выцягнуў руку, узяў худаватую, з вялікімі сінімі

жылкамі, прыгожую жончыну руку, паціснуў яе, прыхіліў да сябе.

Жонка села побач. Спачатку са сполахам азірнулася на дзверы, а пасля прытулілася плячом да яго пляча, усміхнулася:

— Ці не здзяцінеў ты, стары? Га, Іван?

— Састарэў, Вольга,— гэтаксама ўсміхнуўся і ён, але засаромеўся пацалаваць яе нават у шчаку.— І гэтак рана састарэў, што не згледзеў...

Яна, усё разумеючы, нічога не адказала, гэтаксама не пацалавала яго, толькі паківала зусім ужо ссівелаю галавою. Ці са скрухаю, ці з нейкім шкадаваннем.

...Вячэраць селі ўсе разам.

— А давайце, людзі, сёння пабалюем,— як з нявесткаю прыгатавалі вячэру, селі за стол, загарэзнічала Вольга Піліпаўна, дастала з шафкі даўно купленую пляшку каньяку.— Вып'ем проста за добры дзень. Як ты, гаспадар?

— Я з ахвотаю,— усміхнуўся Іван Сямёнавіч, хоць ужо даўнавата, як пачаў адчуваць колікі ў сэрцы, не браў у рот і кроплі віна.— Ды яшчэ калі дазваляе сама гаспадыня.

Як павячэралі, Іван Сямёнавіч адчуў, што зусім ахмялеў ад адной чарачкі, успацеў, адчуў прыліў дабрыні і шчырасці і з радасцю ўбачыў, што гэткімі ж уважлівымі, шчырымі стараліся быць і сын з нявесткаю.

Калі ён падумаў выйсці на двор і пасядзець на лаўцы, падыхаць вераснёўскім свежым паветрам, падышлі Васільцы. І гэта яму спадабалася.

Васілец — ведама, малады, здаровы — быў ужо свежы, бадзёры, як і не працаваў шмат у школе і дома. Быў статны, прыгожы мужчына. Яшчэ не пажылы, амаль ніводнай маршчынкі на лбе ці ля вачэй, але ўжо і не юны: у задуменных зялёна-рудаватых вачах бачылася маладая сталасць, бачыліся розум і роздум, пра што гаварыла і некаторая маруднасць у хадзе і гутарцы.

Іван Сямёнавіч і сёння, як і часта дагэтуль, падумаў: «Вось на каго трэба старацца быць падобным сыну: той, здаецца, надта і не стараецца пасябраваць з Васільцом, задавольваецца тым, што яны разам працуюць, калі-нікалі пра што-небудзь адзін з адным пагаворыць».

— Згуляем, Павел Мікалаевіч, у шахматы? — як крыху пагаварылі пра надвор'е, пацёр рукі Іван Сямё-

навіч.— Я падлічваю, як мы з вамі сёлета згулялі, калега. Пакуль што я на адно ачко ўперадзе. Сёння маеце шанцы зраўняць лік, хоць я пастараюся не паддацца, паказаць, што яшчэ справён.

— Давайце згуляем, паспрабуем зрабіць нічыю,— згадзіўся Васілец.

Падышла Мая Сцяпанаўна, хутка і ўчэпіста зірнула на Васільца. І ён зірнуў, засаромеўся, апусціў галаву.

Мая Сцяпанаўна, пунсавеючы, забрала каляску і пакаціла яе ў свой пакой.

Туды пакрочыла і Ларыса Іванаўна — расказаць адна адной свае «сакрэты». Васіль моўчкі памог Васільцу распранупца, павесіў яго плашч, а пасля падаўся за імі, мужчынамі, услед — пазіраць, як яны будуць гуляць. Маўчун.

— Люблю, вельмі люблю гуляць у шахматы,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Яшчэ з дзіцячых гадоў. У апошні час пагуляць у шахматы, папрацаваць пры доме, пачытаць — гэта мой і найлепшы адпачынак, і маё супакаенне. І люблю чытаць, але не ўсё, што трапляе пад руку. Чытаю ўзапар газеты, педагагічныя часопісы, перачытваю класіку, навінкі чытаю з выбарам... Тэлевізар стараюся глядзець мала. Пастаянна — перадачы «У свеце жывёл», «Клуб кінападарожжаў», праграму «Час», мультфільмы, калі-нікалі — кіно і канцэрты. Затое вось жонка, нявестка і ён,— кіўнуў на сына,— могуць глядзець усё без разбору. Ад раніцы да вечара.

Расставіўшы фігуры, Іван Сямёнавіч узяў каня, апусціў руку пад стол.

— Гадайце, Павел Мікалаевіч, у якой руцэ...

У гэтую хвіліну зайшла яшчэ апранутая Ларыса. Яна, усміхаючыся, несла на руках спавітага Андрэйку — той ужо не спаў, пазіраў.

— Паглядзі, якое дзіва! — прамовіла Ларыса, пазіраючы на Васільца. А ў самой у вачах не толькі здзіўленне, але і радасць.

Васілец, зірнуўшы на малое, і ўсміхнуўся, і засаромеўся.

«Не, усё ж вы яшчэ зусім моладзь!» — усміхнуўся і Іван Сямёнавіч, з хвіліну памаўчаў, каб маладыя муж і жонка палюбаваліся яго ўнукам, а пасля паднёс да Васільца абедзве рукі. Той дакрануўся да правай.

— Вам, Павел Мікалаевіч, наступаць...

## 3

Таццяна Сяргееўна, Міхась Рыгоравіч і Уладзімір Пятровіч — настаўнікі матэматыкі ды фізікі — былі сёння ў горадзе, на семінары.

Таццяна Сяргееўна на перапынку спусцілася з другога паверха, забрала ў гардэробе свой чырвоны плашч, на хвілінку прытрымалася ля люстэрка, завязала на шыю чырвоную касынку, папраўіла парык — і вымкнулася з двухпавярховага доміка на двор. Пачуўшы крокі, азірнулася: яе даганяў, надзяючы на хаду куртку, Сліж.

— Уцякаеце? — пажартаваў ён, цяпер вельмі смешны ад таго, што быў невялікага росту, але таўсматы, меў поўныя шчокі, а на галаву надзеў берэт.— Нядобра!

— Мне баліць галава, дык прайдуся. А вы вось чаго ідзяце? — адказала яна, не прыпынілася, пайшла далей па тратуары, прытуляючы да бока руку з сумачкаю.

— Як убачыў, што вы далі дзёру, дык і я за вамі...— Сліж дагнаў яе, пайшоў побач.— Трэба праветрыцца, бо там надакучыла... Адна гаварыльня...

— Я ўжо даўно, таварыш Сліж, заўважаю: вы зусім не хочаце далей вучыцца, не стараецеся павышаць сваю настаўніцкую кваліфікацыю,— перапыніла яго Таццяна Сяргееўна. Як і заўсёды, гаварыла Сліжу ўсё ў вочы, гаварыла з іроніяй, з насмешкай.— Семінараў не любіце, да педсаветаў абыякавыя, да кніг вялікай ахвоты не маеце...

— Абы было сала, а ўсё астатняе будзе...— гэтаксама, як і заўсёды, жартам адгаварыўся Сліж.— Для Міланек хопіць і таго, што ўжо ведаю. Які не дасі ўрок, за ўсе адзінакава плацяць. Але што мы дома, у горадзе, так сказаць, і на волі толькі пра работу ды пра вучобу... Ёсць адна добрая, талковая мысля. Пакуль наш Вяртун будзе сядзець яшчэ тут, няма пагрозы, што ён нам пашкодзіць. Давайце марсянём адгэтуль у якое добрае месцейка і адзначым наш прыезд у горад... І слаўна правядзём урэмя.

Таццяна Сяргееўна прамаўчала, думала, што адказаць. Дастала з сумачкі цыгарэты. Узяла адну цыгарэціну сабе, дала другую Сліжу. Прыпынілася, запаліла запалку, прыкурыла, дала прыкурыць яму, трымаючы запалку між складзеных далоней: ад агню ды ад цяпла прыпацелі чатыры пярсцёнкі — пакрыліся цьмянай вільготнай плёначкай.

— У вас вельмі прыгожыя рукі...— прыкурваючы ды з замілаваннем пазіраючы на яе далоні і пальцы, усміхнуўся Сліж.

— Ну, ну! — яна кінула запалку долу.— А па-другое, я ўжо даўно абыякавая да вось гэткіх кампліментаў... Сама ведаю, чаго я вартая.

«Пакуль што няўдалы сённяшні дзень,— падумала.— Калі ехала ў горад, дык спадзявалася на нейкае свята: усё ж ехала далей ад сумнаватых Міланек! Аж свята няма. Ні з кім тут не пазнаёмілася... Хлопцы-настаўнікі былі, аж трое, але ўсе трапіліся маладзенькія, сарамлівыя. Сама падыходзіла да кожнага з іх, загаворвала — нібы хацела папытацца, як іхнія вучні ведаюць матэматыку. Адказвалі, але не стараліся пазнаёміцца... Відаць, збянтэжыліся. Ці мелі там, у сваіх вёсках, дзяўчат... Ну, а Сліж... Што — Сліж! Ён і ў Міланьках надакучыў... Ды гэтакая сварлівая ў яго жонка! Дык ці трэба мне яшчэ адзін скандал, перавод у іншую школу?»

— Дык як? — перапытаў Сліж.— Гульнём крыху? Пабуслуем?

«Нягоднік і паганец... Але ж... На бязрыб'і і рак рыба... Не пойдзеш жа адна ў рэстаран! Абы зайсці з кім. А там... Там бог бацька... Ды мой настрой...»

— Хадзем,— сказала,— толькі мая адна ўмова: гаварыць па-інтэлігенцку... І перш за ўсё менш ужывайце гэтае «жызня мая», да чаго вы сёлета чамусьці вельмі прывыклі...

Сліж з самалюбнасцю мігам зачырванеўся, але ўсміхнуўся:

— Я ж не моваввед, як умею. Прашу за мной тады, я ведаю адну добрую кватэрку...

— Не,— з рашучасцю заўпарцілася яна.— Толькі не гэта. Сёння ў мяне няма настрою ездзіць па кватэрах.

— Ясна, з'ездзім у другі раз,— усміхнуўся Сліж.— Вы, колькі вас ведаю, жывяце толькі эмоцыямі, настроем. Нада...— ён запнуўся, хуценька паправіўся.— Трэба быць вялікім псіхолагам, каб зразумець вас, падладзіцца пад ваш характар, настрой. Едзем, але не ў «Беразіну»: там блізка вакзал, могуць нашы людзі зайсці, убачыць і гаварыць абы-што, паехалі ў Стары горад. У «Лявоніху».

Гаворачы, яны прайшлі тратуарам да вялікай плошчы, цэнтра горада. Яе вельмі ўпрыгожвалі два высокія светлыя, з бетону ды са шкла будынкі райкома і гаркома

партыі, новы будынак універмага па тым, дальшым, боку, і па правай руцэ, дзе ішлі яны, добра кідаўся ў вока высокі жоўты, яшчэ даўнейшай архітэктуры дом. Тут былі раённы і гарадскі выканкомы.

На вялікую, з бетонных пліт, між якімі было шкло, плошчу ўжо не ярка і не горача свяціла зжаўцелае сонца, падала з дрэў, што былі з гэтага боку, жоўта-чырвонае лісце і сваёй залацістасцю навявала тугу: незвычайна і тужліва гэта — апалае лісце. У вёсцы, у горадзе. Апалая радасць, апалыя надзеі. І доўгая пара без зелені...

«Я не вясковая,— падумала,— я была і ёсць у душы гараджанка. Але люблю прыроду. Хвалююся, калі пазіраю на яе, бачу ў ёй змены. Восеньскае апалае лісце, зааранае поле, паніжэлае неба, пах паспелых яблыкаў — усё гэта загадкавае, чамусьці вядзе да смутку. Можа, і ад адчування перамен, страты. А таксама і ад таго, што нехта не толькі страчвае, але і збірае плады, радасць, шчасце... А я неяк і не сеяла, таму і збіраць няма чаго... Неяк усё ідзе міма...»

Сліж ішоў побач, пасля рвануўся ўперад, выбег на вуліцу і прыпыніў таксі, што ішло ад чыгуначнага вакзала і, відаць, падавалася ў Стары горад...

— Прашу, Таццяна Сяргееўна,— перамовіўшыся крыху з шафёрам, усміхнуўся ёй, бліснуўшы пярэднім залатым зубам.

Яна села на сядзенне ля шафёра, адчула ўзрушанасць ад язды ў недалёкае незнаёмае, супакоілася. Ну, і што, калі едзе з жанатым, са Сліжом?! Хай будзе весела, хоць ненадоўга, але святочна на душы! Бо вельмі цяжка жыць без святочнасці!

У калідорчыку-фае рэстарана, дзе яна была ўжо не раз, нават ужо не зірнула на сцены, аздобленыя светлым дрэвам, з падвешанымі карцінамі, жаноцкімі і мужчынскімі постацямі ў даўнім беларускім адзенні, вазонамі з кветкамі, падышла і затрымалася ля люстэрка.

Паглядзела на сябе.

«Як я пасталела за астатнія гады! Сталі нібы глыбейшыя, больш задумлівыя вочы, на лбе заявіліся маршчыны. Але нічога. Дзякуй богу, здаецца, яшчэ болей па-жаночаму і пахарашэла. І танклявая во, стройная. Здаецца, ніхто не можа зраўняцца са мною ў Мілаьках... Значыць, не буду без увагі...»

Сліж, здаўшы жанчыне з гардэроба яе плашч і сваю

куртку, гэтаксама стаў ля люстэрка, пачаў глядзецца і прычэсвацца — рабіць прабор і захіляць на левы бок, відаць, дома добра змазаныя крэмам паслухмяныя валасы.

«Ну і таўсцюк! — сама сабе ўсміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Яшчэ ж зусім малады, маіх гадоў, а гэтак во распаўнеў. Жывот во які, шчокі дык шчокі, што з-за іх і вушэй не відаць».

Адчуваючы хваляванне, добры настрой ад песні музычнага апарата, ад афіцыянтак у жоўтых сукенках, звону кілішкаў, гаману вясёлых людзей, дыму, Таццяна Сяргееўна прайшла, высока трымаючы галаву, па доўгім праходзе вялікай залы, бачачы, што на яе з захапленнем пазіраюць маладыя і пажылыя мужчыны. Яны, відаць, паспелі ўжо крышку надакучыць адзін аднаму, праглі ўбачыць новага чалавека, а то і прыгожую жанчыну.

Яна сама выбрала вольны столік, села, паклала нагу на нагу, зусім не зважаючы, што караткавая сукенка адкрыла яе прыгожыя сцёгны, молада і ўчэпіста на кожнага гледзячы і гадаючы, хто ён па прафесіі, чаго тут сядзіць, зірнула на ўсіх мужчын, усміхаючыся аднымі вачыма. Ведала, што гэты бляск у яе вачах вельмі падабаецца хлопцам.

— Таццяна Сяргееўна, сёння вы — прэлесць! — сказаў Сліж, як прывалюхаў услед за ёю і сеў насупраць.

— Па-першае, Уладзімір Пятровіч, я заўсёды такая,— адказала яна, усміхнулася, але не зірнула на Сліжа, а глядзела на сярэдзіну залы, дзе ў кампаніі мужчын сядзеў малады вузкатвары хлопец у чорным касцюме.— А па-другое, мілы, помніце пра наш угавор... Як-ніяк, а мы сярод людзей раённай сталіцы... Не ў Міланьках...

— Прашу прабачыць: прывычка...— крышку са збянтэжаннем прамовіў Сліж, азірнуўся на сярэдзіну залы і ўбачыў таго хлопца, на якога пазірала яна. Хуценька адвярнуўся.— Глядзіце меню, заказвайце.

Таццяна Сяргееўна ўзяла ў рукі разгорнуты белы ліст. На ім зашчэпкаю было прышпілена меню, цьмяна надрукаванае на машынцы. Толькі прачытала, нічога не выбрала, аддала меню Сліжу. Сама зноў крышку запытальным, крышку іранічным позіркам акінула залу.

Сліж з ахвотаю ўзяў, доўга чытаў і перачытваў меню.

«Відаць,— падумала,— у яго мала з сабою грошай. Тое, што дала на дарогу жонка. Вось і падлічвае, каб

хапіла: яму ж як мужчыне-джэнтльмену прыйдзецца плаціць і за мяне... Калі пуста ў кішэні, дык чаго ішоў сюды? Гэта... Гэта разбурае шчырасць, непасрэднасць. Але... О божа! Мне хутка будзе вельмі цяжка жыць: я пачала шмат думаць, разважаць, разумець, адчуваць з аднаго позірку, з аднаго слова... Раней я так ва ўсім не разбіралася. Можа, адчыніць сумку і выкінуць на стол кіпку пяцёрак ды троек — усю першую плату? Не...— уздыхнула.— Не трэба да рэшты псаваць сабе настрой...»

— Вы, Уладзімір Пятровіч, сёння як мапасанаўскі Жорж Дзюруа, які толькі што заявіўся з правінцыі ў Парыж! — з іроніяй усміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Пазнаёміўся з пані дэ Марэль, заляцаўся да яе, але не меў... таго-сяго. І вось яна сама... Можа, і мне так вас выратаваць цяпер?

Сліж пасміхаўся, відаць было, што нічога не зразумеў, бо, канечне, не чытаў рамана «Мілы друг» Мапасана.

— Хто такі той... Дзюруа? — нарэшце запытаў ён.

— Адзін вялікі распуснік...

— Вы пра што гэта? — пунсавеючы, запытаў Сліж.

— Успомнілася вось, Уладзімір Пятровіч.

Як падышла невысокая поўненькая афіцыянтка, трымаючы ў руках чырвоны аловак і разгорнуты блакноцік, крышку адтапырваючы поўныя губы, пазірала з увагаю найболей на яе, Таццяну Сяргееўну, Сліж напраўду заказаў даволі сціплую выпіўку і закусь.

Пасля, крыху закусіўшы, як нехта ўкінуў у музычны апарат манету і «заказаў» вясёлую музыку, Таццяна Сяргееўна закурыла.

— Вы — прэлясць... Прабачце, цуда! — шаптаў Сліж,— вось хутка,— яшчэ цішэй зашаптаў, нахіляючыся да яе,— куплю «Жыгулі», і мы з вамі зажывём... Сабяромся — і з'ездзім далёка-далёка...

— Вы так многа марыце, гаворыце пра свае «Жыгулі», як Дзюруа марыў пра багатую жонку, пакуль нарэшце не ажаніўся на багатай удаве...

— «Жыгулі» — гэта мая даўняя мара! — прызнаўся Сліж.— Як і з'ехаць з гэтых праклятых Міланек, жыць хоць у гэткім во гарадку,— гаварыў ён і лашчыў яе позіркам.— Думаю, што і вы ад гэтага не адмовіліся б. Га? — ён, не міргаючы, пазіраў ёй у вочы.— Тут мы з вамі маем адны думкі...

— Вельмі хочацца мець мяне за палюбоўніцу? — зноў з іроніяй запытала яна.

Сліж збянтэжыўся, акругліў маленькія вочы, пасля ўсё ж хутка асвойтаўся, супакоіўся, зрабіў выгляд, што яго вельмі здзівілі яе словы.

— Не ўгадала вашыя думкі? — усміхнулася яна.— Ці вы не думаеце так дзелавіта, маеце да мяне больш высокія пачуцці?

— Канечне,— адказаў той.— Я не толькі паважаю вас... І не толькі сёлета, а ўжо даўно... Але вы ўсё смяіцёся ды смяіцёся. А магло б усё быць іначай...

— Можа...— зноў жартуючы, адказала Таццяна Сяргееўна.— Кідайце сваю Ніну і бярыце мяне замуж. І мы з вамі будзем жыць у згодзе і любві.

Сліж змаўчаў, як праглынуў язык. Яна паўсміхалася, пазіраючы на яго, разгубленага.

— Не разумею я ніяк, калі вы гаворыце праўду, а калі смяіцёся...— пастараўся звесці ні то на жарт, ні то на нейкую іншую размову Сліж.— Я сур'ёзна, з душою, а вы...— ён узяўся за пляшку, паказваючы, што пакрыўдзіўся.

«Эйш, куды хіліць! — падумала.— Калі так, дык трэба жартам ці з іроніяй абараніцца. Хоць Сліж не раз жарт прымае толькі за жарт...»

— Хочаце, Уладзімір Пятровіч, праўды, шчырасці? — усміхнулася яна, і ён як устрапянуўся: ужо крыху ведаючы яе характар, адчуў у гэтай насмешцы цвёрдасць, здольнасць гаварыць самыя бязлітасныя словы.— Калі ласка. Пакрыўджана я, а не вы. Я дзяўчына, вольная, як зязюля, а вы жанаты, муж, бацька, але нечага хочаце ад мяне... Але ніколі не спыталі: а ці кахаю я вас, ці магу хоць пакахаць? Не, не спыталі. Думаеце, раз вы зажадалі, дык я, ужо такая-сякая, гатова на ўсё. Яшчэ б: я ж фліртавала з вамі летась!.. Ды колькі пра мяне ўсякіх размоў ішло і ідзе! Дык запомніце, мілы, мяне, можа, і лёгка заваяваць, але вельмі цяжка ўтрымаць: для гэтага трэба быць, можа, віртуозам. У паводзінах, у гутарцы, у адзенні, у думках... І яшчэ адно запомніце: я лёгка паддамся не так таму, хто на мяне мае вока, а таму, каго кахаю я... У Міланьках ёсць такі чалавек, і я дзеля яго гатова на ўсё, але толькі ён не кахае мяне...

— Васілец? — хутка вымавіў Сліж, відаць, з сарамлівасцю і з самалюбствам перажываючы за свае марныя

заляцанні, доўга трымаў у руках поўную чарку і не ведаў, за што яе выпіць. Упершыню сёння пазіраў ёй не ў вочы, а ўталопіў позірк на стол, качаючы па стале крошку хлеба.

— А што — гэты чалавек не варты сапраўднага кахання? Не варта прысвяціць яму ўсё лепшае? — гэта яна запытала са шчырасцю ды з такім болем, што Сліж — ці зайздросцячы, ці не могучы апамятацца — яшчэ ніжэй угнуў галаву. І яна ў гэтую хвіліну нават пашкадавала яго, што ён усё ж умее думаць, перажываць.

— Гэты ваш чалавек не варты кахання прыгожай жанчыны...— нарэшце азваўся Сліж, ужо двума пальцамі пакручваючы чарку і пазіраючы, як у ёй калышацца віно.— Вы часта гаворыце, што і жыць, і кахаць трэба толькі эмоцыямі...

— Гэта сказаў Стэндаль...— спакойна паправіла яна.

— Я чуў гэта ад вас. Гэта, па-мойму, значыць так: пакахаў — дык кахай, разлюбіў — дык разлюбіў, зноў пакахаў — кахай...— Сліж аж пачырванеў ад намагання гаварыць «па-інтэлігенцку».— А ён будзе кахаць — дык будзе, разлюбіць — не асмеліцца пайсці ад жонкі, будзе цярпець. А гэта ўжо абмежаванасць.

— А вы можаце пакінуць сваю Ніну, дзяцей? — перапыніла яго Таццяна Сяргееўна.— Вось я раптам пакахала вас, вы даўно ўжо, як нядаўна гаварылі мне, кахаеце — дык давайце быць разам... Маўчыцё. І правільна. Нялёгка ўсё гэта... Жыццё гэта.

— Я б, можа, болей асмеліўся, як ён,— прамовіў Сліж.— Ён асцярожны ды ў час адчуў, што адзін з самых здольных сярод нас, дык стараецца вылучыцца, цэліць на дырэктарскае крэсла. Ён яшчэ па характару ды па паводзінах не Іван Сямёнавіч, але і не Міхась Рыгоравіч...

— Вось як! — паківала галавою, здзівілася Таццяна Сяргееўна.— Вось які вы жучок! Ды не жучок, а жучышча! У тоўстым-тоўстым панцыры, што спачатку і не разгадаеш вас, не зразумееш. Кожны дзень вы з усмешачкаю, з жартамі. З усімі хочаце сябраваць, усім нібы жадаеце дабра. А на самай справе вы, выходзіць, іншы. Вось крыху вылезлі з панцыра, дык і відаць: у душы вы зайздроснік, самалюбца, думаеце толькі пра карысць для сябе. Не паважаеце вы свайго сябрука, не жадаеце яму дабра. Ці я, можа, гавару не так, памыляюся? Маўчыцё, Уладзімір Пятровіч. Няма чаго вам сказаць. Не трэба

так: гэта вельмі пагана. Нават страшна. Усім нам страшна. І блага. Вельмі блага. І сёння, і на будучае. Я ў школе з ім, самі бачыце, не пасміхаюся, не пляшчу ў ладкі за кожнае яго слова, а, наадварот, дзе толькі можна, па-свойму, па-жаночаму спрачаюся з ім, стараюся перамагчы яго. Але з задавальненнем бачу: ён перамагае. Як і бачу: і ў яго ёсць памылкі, бо і ён чалавек, не ўсё яшчэ ведае. Але не смакую гэтага. Гэта не галоўнае. А галоўнае, што ён шчыры, шмат думае пра справу, шмат працуе і добра працуе, заўсёды гатовы памагчы. Я сёння тут — без яго — магу сказаць пра яго самыя лепшыя словы, маэстра...

— Вас і, праўда, цяжка паняць,— зусім здаўся Сліж.

— А я заўсёды такая... Таму вось гэтак і цаню таго, хто ўмее мяне зразумець, ацаніць ды падтрымаць...— і яна з гарэзнасцю паказала Сліжу кончык языка.— Але чаго так памаркотнелі, Уладзімір Пятровіч? Давайце ўсё ж за нешта вып'ем тое, што ўжо наліта!

— Я ўжо і не ведаю за што?!. — саромеючыся падымаць на яе вочы, прамовіў Сліж.

— Не ведаеце? Дык падкажу я: давайце вып'ем за тое, каб мы былі крыху дабрэйшыя, лепшыя, са спагадаю думалі і пра другіх,— усміхнулася Таццяна Сяргееўна, адчуваючы неспадзяваную радасць ад сваёй перамогі.— Каб і цяпер, змоладу, і пазней памагалі адно аднаму, не зайздросцілі, ніколі не стараліся падставіць ножку...

— За дабрыню, за спагаду,— мармытнуў Сліж, узняў сваю чарку, але не дакрануўся да яе чаркі, паціху, заплюшчваючы вочы, выпіў.

...Як пад'ехалі да аўтастанцыі, Таццяна Сяргееўна праз вокны аўтобуса ўбачыла ў доўгім сінім плашчы, са з'еханым набок капелюшы Міхася Рыгоравіча. Ён стаяў з вялікай сеткай, у ёй было булак дзесяць чорнага хлеба, звязак чатыры абаранкаў, кулёк мукі.

— Уцёк-такі ад мяне? — накінуўся Міхась Рыгоравіч на Сліжа, як яны выйшлі з аўтобуса.— Друг, фрэунд, мне называецца...— ён хіснуўся, зашараваў сеткай па каленях, выбельваючы і штаны, і полы сіняга плашча мукою.— Ну пачакай, хітрун ты гэтакі, я за цябе вазьмуся... Ты сёлета, мой лібэр, яшчэ толькі раз-два вучнёўскія спыткі праверыў... Я ўсё бачу, не думай, што Вяртун дурны. Вяртун усё бачыць, бо ён жа Вяртун. Ён жа не абы-хто, а Болт Іванавіч Гайкін.

«Вось Вяртун акцёрнічае, махае рукою,— падумала,— а на нас усе азіраюцца. Вунь і вунь знаёмыя настаўнікі. Усміхаюцца. Ведаюць Вертуна: амаль кожны год яму «пяюць дыфірамбы» на жнівеньскай настаўніцкай канферэнцыі... Думаюць, можа: а там, у Міланьках, усе такія...»

— Але і Вяртун не прапаў, знайшоў сяброў...— папікаў Міхась Рыгоравіч.— Вертуна ўсе ведаюць, усе паважаюць. Пасядзелі калі не пад фікусамі, дык у парку на лаўцы. Пагаварылі...— і ён з выклікам, нават з перамогаю зірнуў на Сліжа. Той усё яшчэ не мог апамятацца ад нядаўняй размовы з ёю.

Сліж маўчаў. Не ўсміхаўся, не думаў апраўдвацца. Відаць, не мог. Бо стаяў і разгублена слухаў.

— Разам гулялі? Інтымнішэн, так сказаць...— пакруціў рукою Міхась Рыгоравіч, з іроніяй зірнуў на Таццяну Сяргееўну.— Дагуляецеся! Вунь там, ля касы, бярэ білет яго Нінка... Яна зараз дасць тут такі канцэрцен, што...

— Вазьміце сябе ў рукі, Міхась Рыгоравіч,— з гневам бліснуўшы на Міхася Рыгоравіча позіркам, прамовіла Таццяна Сяргееўна,— і не забывайцеся, што ўсе мы тут прадстаўляем калектыў Міланьскай школы...

— О, эншульдзікен зі мір, біттэ! — прыклаўшы вольную руку да грудзей, пацвельваўся Міхась Рыгоравіч.

— Вось так,— спакойна адказала Таццяна Сяргееўна і паціху, высока падымаючы галаву, падалася да касы, каб узяць білет.

Ля паднавеса, лічы нос у нос сустрэлася са Сліжавай жонкай — распаўнелай, з чырвоным поўным тварам маладзіцай, тая была ў гумовых бліскучых ботах, балоневай куртцы і ў белай хустцы.

— Здарова, Ніна,— ад збянтэжанасці, можа, залішне з гучнасцю і залішне з бадзёрасцю выпаліла яна.

— Здраствуй,— збянтэжылася ад нечаканасці і Сліжава жонка, кінула позірк на прыпынак, дзе стаялі Вяртун і яе муж, зноў з запытаннем зірнула на яе, на Таццяну Сяргееўну,— і, здаецца, успыхнула яшчэ большай чырванню.

— Падыдзі да іх, не дай ім так шумець,— не дала ёй апамятацца Таццяна Сяргееўна.— Вакол жа людзі... Вяртун чагосьці разышоўся.

Ніна, так нічога не сказаўшы ад разгубленасці, відаць, пакутуючы ад здагадак ды падазрэнняў, падалася

да мужа. Таццяна Сяргееўна ўжо не хвалявалася, бо добра ведала: Сліж зможа ўдала зманіць. І сам апраўдаецца, і яе — дзеля сябе — не пакрыўдзіць.

## 4

Ларыса пабудзіла Паўла сярод ночы.

Толькі, мусіць, дакранулася пальцамі да пляча — і ён падхапіўся, на нейкі міг аслеп ад яркага святла люстры з трыма лямпачкамі. Пасля, асвойтаўшыся, адчуў, што Ларыса даўно ўжо не толькі не спіць, але і не ляжыць побач, бо халодная яе падушка, яе палавіна пасцелі. Цяпер яна — у начной доўгай белай кашулі, у тапачках — стаяла ля ложка і, нібы моршчылася, нібы плакала.

— Паўлік, мне блага...— прашаптала яна.— Як ніколі дагэтуль блага. Гэта ўжо, відаць, усё...

Як ні зліпаліся вочы, хацелася быць пад цёплай коўдрай, Павел, напаўняючыся сполахам, пачаў адзявацца, чамусьці ніяк не могучы патрапіць нагою ў калашыну штаноў.

— Бегчы па машыну? — запытаў ён з трывогаю: усё гэта было ўпершыню, і ён не ведаў, што рабіць, калі цяжарнай жанчыне «блага». Відаць, найхутчэй за ўсё трэба везці яе ў бальніцу.

— Не ведаю... Баюся...— замахала рукамі Ларыса. Зморшчылася, застагнала і пачала нервова хадзіць па пакоі.— Гэта ўжо ўсё. Гэта прыйшла мая...

— Мужайся, дарагая,— папрасіў ён, калі ўжо зашпіліў гузікі кашулі і надзеў пінжак. Супакойваўся, перасільваючы страх. Хацеў неяк супакоіць і Ларысу.— Пабуджу зараз гаспадыню, няхай яна пасядзіць з табою, а сам пабягу шукаць шафёра.

Ларыса нічога не адказала, як і не чула яго. Хадзіла, прыклаўшы рукі да паясніцы, і моршчылася, і стагнала.

— Ну, трымайся,— Павел падышоў да Ларысы, прытуліў яе да сябе — яна на хвіліну прыпынілася, як відаць было, праз сілу супакоілася, паклала яму галаву на плячо.

— Ой, як баліць, Паўлік!..— прашаптала яна.— Але, можа, не трэба табе нікуды бегчы, можа, пройдзе. Я вельмі баюся бальніцы...

— Усё роўна ж прыйдзецца туды ехаць,— сказаў ён і падаўся з пакоя.— Я бягом.

На кухні ён не ўключыў святла, бо было светлавата, ступіў на лаўку, падняўся і дакрануўся да пляча гаспадыні. Тая з бесклапотнасцю спала на лежаку печы, прачнулася не адразу, а толькі калі добра патармасіў яе. Падхапілася, села, аж ускрыкнула ад страху.

— Паглядзіце, калі ласка, Ларысу, а я пабягу па машыну,— сказаў Павел, саскочыў з лаўкі і, не чакаючы ніякага адказу, баючыся патраціць лішне хоць адну хвіліну, надзеў шкарпэткі, насунуў на ногі кірзоўцы, зняў куртку і, на хаду адзяючыся, памкнуўся на двор.

За ганкам, дзе жаўтаваты, а далей і чорны туман не прапускаў святла з акна, Васілец нібы аслеп, нібы знік у вельмі густой, хоць ты выкалі вока, цемнаце. Выходзіў з двара, абапіраючыся рукою аб сцяну хаты, пасля — аб плот.

Калі выйшаў з двара, і не стараўся патрапіць на цвёрдую сцежку: яе няможна было ў гэтакай цемнаце ўбачыць ці абмацаць нагамі. Пабег наўскасяк па полі, адчуваючы, як у мяккім сырым ворыве грузнуць боты, як яны цяжэюць ад наліплага пяску.

У лагчынцы, што была пасярод поля (там днём блішчала вада), набег на лужыну, спатыкнуўся ад нечаканасці ў ямцы і ледзь не паваліўся, каб не сагнуўся ды не абапёрся на рукі. Намачыў рукавы, абпырскаў твар, шыю. Падхапіўся, сціснуў да болю губы ад крыўды і злосці, атрос з рук ваду ды мокры пясок — і, задыхаючыся, чуючы, як сохне ды гарачэе ў роце, пабег далей, да вёскі, што зусім прапала ў цемені, як яе і не было на свеце.

Бег вось так, па такой патрэбе, другі раз у жыцці. Першы раз бег, калі быў зусім малы, калі збіралася радзіць маці. Тады бацька гэтаксама ўночы паслаў яго на хутар па бабулю. Ён імчаўся і вельмі баяўся ночы, лесу ды ваўкоў.

Цяпер, калі бег дзеля жонкі, канечне, не было ніякага страху, ён хацеў толькі адно: каб Ларысе было добра...

Як перабег поле, напароўся на кусты. Яны сцебанулі калючымі галінкамі па твары. Вымкнуўся зноў на поле і наўздагад памчаўся да дарогі.

Вось там, на дарозе, адчуў: вёска блізка, вёска жыве: учуўшы яго, азваліся вясковыя сабакі. Адзін — тут, з краю, а другі — недзе далёка, за школаю. Гаўкнулі разам

абодва, здаецца, з будкі, не вылазячы на морась: брэх чуўся не звонкі, а глухі. Як з нейкай пасудзіны.

Калі яшчэ крыху прамчаў, адчуў, што ўбягае ў вёску. Не бачыў яе, а іменна адчуваў. Платы, сады ды хаты, што стаялі, дыхалі цяплом, жыццём.

Угадаў нейкім цудам і шафёраву хату. Абапіраючыся аб плот, падышоў да веранды, заляскаў зверху ўніз халоднаю, аж пякла ў рукі, клямкаю.

— Выбачай, братка,— калі выслухаў яго, нават не адмыкаючы дзвярэй, адказаў заспаны шафёр...— Я ж не паставіў сёння нанач ля хаты машыны, і ніхто ў Міланьках надоечы не прыехаў дамоў на машыне. Бяжы ўжо да конюха...

Васілец — расчараваны, растрывожаны — выйшаў з двара.

«Жыў бы ў горадзе ці хоць бы і ў вялікай вёсцы, дык выклікаў бы «хуткую»,— падумаў.— Тут не выклічаш. Дык трэба напраўду бегчы да конюха і прасіць у яго каня. Дзедаўскі гэта спосаб, але найбольш цяпер верны...»

Конюх жыў у другім канцы вёскі, за былымі яго, Васільцовымі, гаспадарамі. Покуль, зусім прамокшы, Васілец дабег да яго, дык узмакрэла спіна.

— Ну, хто там? — з незадавальненнем запытаў добра знаёмы конюх, Мікола, бацька трох вучняў Міланьскай школы, нехаця адамкнуў, упусціў у цёплы дом.

У хаце-калідоры, дзе ўжо ярка гарэла святло, Мікола сеў на столак, што стаяў пры печы, доўга нацягваў ватовыя штаны з палеенымі чорнаю скураю каленьмі і задам, доўга цёр аб руды ступак вялізнай нагі анучу.

— Эх, як я яшчэ паспаў бы! — насунуўшы на адну нагу бот, пацягнуўся Мікола, расставіў у бакі локці, пастукаў кулакамі па баках ды заплюшчыў вочы.— Здаецца, яшчэ толькі разышліся па сваіх хатах з мужчынамі, толькі што паслухаў жончыну лекцыю і лёг... Ну і гэтыя кабеты, я табе скажу! Радзілі б удзень, па-людску, а то сярод ночы, я табе скажу!

— Ладна ты, мянташка, ідзі скарэй! — азвалася са спальні гаспадыня.— Каб ты сам хоць раз радзіў, дык не плёў бы абы-што.

— Як я не пацярпеў усё роўна, я табе скажу! — пацвельваўся Мікола, засоўваючы другую нагу ў вялікі, відаць, сорак пятага памеру гумовік. Пасля ўстаў і, здаецца, занадта доўга шукаў пінжак, надзяваў яго. Як

яшчэ пазней задоўга нацягваў стары шэра-зялёны плашч.— Пяцёра ж дзяцей выпакутаваў, я табе скажу...

— Ой, каб на цябе халера! — незалюбіла жонка.— Ён выпакутаваў! Брыдка во чалавека, а то я сказала б, што ты...

Васілец, стоячы ўжо ў парозе, адчуваў няёмкасць, што нанёс у хату на ботах столькі бруду, у думках падганяў марудлівага соннага гаспадара, злаваўся ад яго, як здалося, чэрствых жартаў.

«Як можна так пасміхацца? — жахаўся ён.— Ларысе ж вельмі кепска...»

— Што ты, чалавек, белы як палатно?! — усміхнуўся Мікола нарэшце, здаецца, праз гадзіну, а то і праз дзве, апрануўся, сабраўся выключыць святло і выходзіць з хаты.— Не набірайся ўжо так страху, я табе кажу. Усё будзе добра,— як яны выйшлі з хаты на цёмны двор, ён загуў і там — ці то займеў ахвоту пагаварыць, ці то стараўся адагнаць сон.— Не твая першая, я табе скажу, не твая астатняя... Жызня, брат, я табе скажу... Гэта ў вас першае, дык вось страху многа. А так усё гэта, я табе скажу, проста.— Ён гаварыў і — дзіва! — ішоў і ў цемені па гародах, ля кустоў, па тупкай сцежцы. Васілец ледзь толькі паспяваў патрапляць за ім па яго голасу.— Завязеш — яна родзіць, і станеце бацькамі. І пойдзе ў вас, я табе скажу, зусім другая жызня. Зусім не падобная на халасцяцкую. Усяго будзе: і радасці, і гора... Колькі ўварвуць нерваў, здароўя, я табе скажу, адны гэтыя дзяціныя хваробы, а колькі недаспіш ноччу ды колькі яшчэ будзе ўсякіх клопатаў... Але ж усё гэта трэба, я табе скажу. Які ты чалавек, калі не маеш сям'і, не пусціў атожылкаў?! Трэба, трэба род чалавечы цягнуць... Дам зараз добрага каня, дык мігам замчыш. Сам-то я дадому ўжо не пайду, зашыюся ў сена і пасплю яшчэ тут. Як добра родзіць, дык хочаш ці не хочаш, а сарву з цябе за гэта пляшку...

Праз нейкай паўгадзіны, калі было ўжо не так цёмна, даволі прыкметна абмалёўваліся дрэвы, дамы, пасвятлела дарога, Васілец пад'ехаў на кані да гаспадынінага дома.

Ларыса чакала яго, стоячы ў зімовым паліто, у ботах, трымала ў руках поўную, загадзя, яшчэ з тыдзень, падрыхтаваную да гэтага дня сумку. Яшчэ адна сумка — з загадзя падрыхтаваным дзіцячым адзеннем — стаяла пад ложкам. На кухні ля стала сядзела маўклівая і,

здаецца, напалоханая гаспадыня. Яна ніколі не была замужам, не раджала.

— Паехалі,— сказаў Васілец, бачачы, як на яго, мокрага, запырсканага хлёпанкай, са сполахам пазірае Ларыса, як яна моршчыцца, плюскае вачыма, сцінае вусны. Нібы ён прынёс ёй нядобрую кепскую вестку.

— Нікуды я не паеду,— раптам з рашучасцю залямантавала яна,— я баюся...

— Няма чаго баяцца,— як папрасіў Васілец.— Паехалі.

— Едзь, дзіця маё,— загаварыла гаспадыня.— Мы ж табе не паможам: абое рабое... А там жа дахтары, усё ўмеюць.

Ларыса паслухала, пайшла на двор, але тупала з неахвотаю, як на нейкую вялікую бяду,— і Васілец зразумеў яе, бо ён і сам пабойваўся блізкай будучыні...

Як выйшлі на двор, там было даволі светла: падала святло з акна. У святле імжылася сырое паветра.

— Можа, і астатні раз я іду гэтаю сцежкаю, бачу гэты дом...—заплакала Ларыса, тулячыся да Паўлавага пляча.— Каб ты ведаў, як страшна!..

«І мне гэтаксама»,— мог бы адказаць Павел, але так не прамовіў.

— Мужайся, дарагая,— ужо ў каторы раз толькі папрасіў ён.— Праз нейкую гадзіну, калі ўжо зднееецца, мы прыедзем у Галінавічы.

Ларыса выйшла з варот і падышла да воза. Ускінула на яго клунак, хацела залезці сама і не змагла. Тады ён падхапіў яе пад пахі і асцярожна падсадзіў.

Васілец адвязаў лейцы ад плота, сам сеў на калёсы, што конюх шчодра выслаў сенам, цмокнуў на каня. Паехалі.

«Ведаю ж: едзем у бальніцу,— падумаў.— Але ўсё роўна, здаецца: я сплю. І гэта ўсё ў сне...»

Драўляная, з некалькімі новымі, цаглянымі, прыбудовамі бальніца — а да яе яны пад'ехалі ўжо відном,— была яшчэ аднак ціхая, прыцемненая. Здаецца, хавала нейкую вялікую таямніцу. Знала яе толькі адна і не збіралася нікому яе расказваць. Васілец аж збаяўся тут прыпыняцца.

Над невялікаю верандаю бальніцы адзінока свяцілася лямпачка, ужо амаль не рассяваючы далёка святла, вы-

свечваючы толькі вакол сябе невялікую стрэшку ды ганак.

Калі Васілец прыпыніў ля плота каня, злез першы і пачаў прывязваць да частаколін лейцы, убачыў, што да яго сёння тут ужо былі людзі. На ababітай ад расы траве, куды цяпер нагнуў галаву конь і заварушыў губамі, ляжала чужое сена.

— Вось мы і прыехалі ў госці да бусла...— усміхнуўся Павел, падышоў да Ларысы, каб памагчы ёй злезці. Пажартаваў, бо яна за дарогу супакоілася, сядзела ціха і нават гаварыла, што ёй перастала балець і, можа, трэба вярнуцца дадому.— Бусел, бусел, мы прыехалі купляць сына...

— Ладна табе,— не дазволіла, каб ён зняў яе, махнула рукою Ларыса, абаперлася аб яго плячо і сама спаўзла долу.— Прымчаў во, каб сплавіць з рук сваіх...

На іхні шум ды гоман выйшла на ганак жанчына ў белым халаце. Калі ўбачылі яе, Павел і Ларыса прыціхлі, зніякавелі абое, засаромеліся. Як дзеці.

Ён узяў клунак, адчыніў халодныя вільготныя вароты (раса з іх была ўжо стрэсена нечаю рукою), і яны паціху — Ларыса наперадзе, а ён за ёю — пайшлі па бетанаванай вільготнай дарожцы да веранды.

— Вот і другія купцы прыехалі...— усміхнулася жанчына, як было ўжо добра відаць зблізку, пажылаватая, заспаная, ад таго з прыпухлымі шчокамі і вачыма, з вялікаю, ці не выпаленаю, плямінаю на шчацэ.— Калі ласка, заходзьце. Не так цяпер і часта ў нас такія госці... Вось трэція ўсяго за тыдзень...

Жанчына зачыніла за імі дзверы веранды, паказала рукою, каб заходзілі ў прыёмную — у прасторны пакой з белымі сценамі.

— Вы застаньцеся,— потым сказала Паўлу,— а вы, маладзічка, ідзіце са мною.

Узяла з яго рук сумку і павяла Ларысу да самых левых дзвярэй, дзе, напраўду, мусіць, хавалася вялікая таямніца.

— Калі пачалося? — папыталася яна па дарозе ў Ларысы.

Тая маўчала, відаць, не ведала, што адказаць.

— Ну, калі...— жанчына адчыніла дзверы пад нумарам «2», прапусціла туды, у невядомасць, Ларысу, зай-

шла сама — і Васілец застаўся тут адзін. Як сірата. Ці як чалавек, што раптам страціў усіх сваіх сяброў.

Праз паўгадзіны, калі ён ужо ведаў на памяць усе плакаты ды малюнкі, прачытаў некалькі тоненькіх кніжак пра грып, пра карысць і шкоду грыбоў, калі знайшоў на стале лісток, дзе былі напісаны прозвішчы парадзіх, была напісана іх тэмпература, жанчына вярнулася, прынесла незашпіленую сумку. З яе відаць было Ларысіна адзенне.

— Усё ідзе як трэба, міленькі, і ўсё будзе добра,— усміхнулася яна,— можаце ехаць дамоў, а жонку вашу мы пакідаем.

Павел, напаўняючыся трывогай, жалем, пазіраў на жанчыну, што, як ён думаў, трымала ў сваіх звычайных руках нябачныя ключы ад незвычайнай таямніцы. Ён стаяў і не выходзіў.

— Я пачакаю...— нарэшце апамятаўся ён, як учапіўся за нейкую нітачку-павуцінку, каб быць тут.

— Чаго вы будзеце чакаць? — хмыкнула, яшчэ весялей усміхнулася жанчына, і гэтая яе вясёлая ўсмешка здалася зусім непрыстойнаю, лішняю ў такую трывожную хвіліну.

— Ну, гэтага...— саромеючыся, прамовіў ён.— Калі Ларыса... жонка...

— Відаць, што зусім яшчэ малады, першы раз сюды трапіў! — з нейкаю спавагаю паківала галавою жанчына.— Нават мы добра не ведаем, калі будуць роды. Хоць па ўсіх сімптомах не раней сутак... Так што едзьце, вучыце сваіх дзетак (значыць, яны з Ларысаю пазнаёміліся ўжо), а нам званіце, прыязджайце ў адведы...

У гэтую хвіліну адчыніліся дзверы — і паказалася Ларыса.

Яна была ўжо ў доўгім халаце, у тапачках на босую нагу. Зірнула на яго як з просьбаю-мальбою: не хачу я тут быць, забяры мяне з сабою!

— Не-не, мілая,— хуценька падбегла да яе жанчына.— Марш у палату! Тут ужо нашы законы...

Павел паспеў толькі махнуць рукою, сціснуць кулакі і крыху патрасці імі ў паветры — трымайся, родная, я люблю цябе, буду перажываць, чакаць навіны!

І, як жанчына зноў схавалася, выйшаў з бальніцы.

9 Зак. 2629

...Назаўтра світанкам, калі ён правёў дома амаль усю бяссонную ноч, пакутуючы ад адзіноты, ад трывогі за Ларысу, Павел зноў прыбег у Галінавічы. Прыбег пад густы дождж, што пахнуў ужо холадам, подыхам сцюдзёнай восені.

Быў Павел тут і ўчора, пад вечар, як адвучыў у школе. Яго тады не пусцілі ў бальніцу, сказалі, што да парадзіх не пускаюць, і ён стаяў ля акна тыльнай сцяны бальніцы і моўчкі пазіраў у акно, за дубэльтамі якога, у сваёй палаце, стаяла Ларыса, гэтаксама пазірала на яго. У чамусьці пабольшаных яе вачах былі і трывога, і нейкае трывожнае чаканне: яна часта міргала вейкамі, мыляла губамі, са смуткам усміхалася і, здаецца, была вельмі рада, што ён прыйшоў, хацела нешта важнае сказаць і не магла. А можа, і гаварыла, бо нешта шаптала, прыхіліўшыся і засланіўшы сабою шыбу, нешта пісала пальцам — і Васілец ківаў галавою, што ўсё разумее, хоць напраўду нічога не разумеў.

Пасля махала рукою, паказвала, што на двары дождж, што зусім змокне, і, мусіць, не хацела, каб ён адыходзіўся, пакідаў яе тут адну. І ён стаяў ля акна, пакуль не адагнала яе жанчына ў белым халаце...

І вось ён зноў падышоў да акна, стараючыся не заглядаць туды праз адхінутую фіранку. Пастукаў пальцам па шыбіне. На яго стук падышла да акна пажылаватая сімпатычная жанчына, махнула ўлева-ўправа рукою і, як убачыла, што ён нічога не зразумеў, стала, мусіць, на табурэцік, апусцілася каленьмі на падвоканні, адчыніла люфцік.

— Няма ўжо вашай маладзіцы...

Калі пачуў гэта, дык здаецца, хіснулася пад нагамі зямля ды пацямнела ў вачах. Як няма? Што з ёю? Няўжо, як яна і баялася, не вытрымала, памерла ад родаў? А божа! Што ж гэта? Яны ж толькі пачалі жыць — і раптам смерць... Як ён будзе без яе? Адзін?

— Яна ўжо ў радавай і, можа, нават некага радзіла...— дагаварыла далей марудлівая жанчына.

У яго сам па сабе вырваўся выдых: о божа, дзякуй табе, жывая!

З падзякаю кіўнуў галавою жанчыне і, пераадольваючы дрыготку ў нагах, павярнуў да прыёмнай.

У прыёмнай падышоў да стала, дзе ляжалі паперы. Узяў знаёмы ўжо яму ліст, знайшоў на ім Ларысіна про-

звішча, але змог толькі ўведаць з яго, якая ў яе ўчора ўвечар была тэмпература. Больш ніякіх навін пра яе не было.

Тады пастукаў у дзверы пад нумарам «2». Неўзабаве адтуль, з таямнічага пакоя, выйшла тая — з абпаленай шчакою — жанчына, што сустрэла яго з Ларысаю ўчора раніцай. Яна ўсміхнулася, запытала сама на яго запытанне:

— Не церпіцца вельмі стаць бацькам?

— Не церпіцца даведацца, як яна там,— усміхнуўся ён,— гаворацць, яна ўжо ў родавай...

— Каго вы хацелі мець: сына ці дачку? — усміхнуўшыся, запытала яна.

— Сына.

— Дык вось віншую, малады бацька,— яна падала руку, моцна паціснула.— У вас сын. Тры кіло трыста грамаў, пяцьдзесят адзін сантыметр. Харошы хлопчык... Жонка ваша адчувае сябе нарм...

Астатнія яе словы Васілец не дачуў ад раптоўнага шуму ў вушах: у яго **сын**! З мілаю Ларысаю ўсё **добра**! Ён, Павел Васілец, ужо **бацька**! Але што гэта такое — **бацька**? Здаецца, ён нічым не змяніўся, які быў, такі і ёсць, але ўжо бацька.

— А можна зірнуць на яго і на Ларысу? — спахапіўшыся, як крышку авалодаў сабою, спытаў ён.

— Што вы! Да парадзіх ніколі нікога не пускалі і не пусцяць,— зноў, як і ўчора, здзівілася ад яго гэткага запытання жанчына, зірнула на яго, як пазірае маці на сваё дзіця.— Вашай Ларысе цяпер трэба толькі ляжаць... Прыходзьце, прыносьце ёй, каб яна хутчэй стала на ногі, каб дужэў ваш асілак, малако, смятану, яблыкі, сокі... Праз сутак двое і ўбачыце праз акно свайго маленькага Васільца. Як жа хоць зваць надумалі?

— Віктар...— саромеючыся, адказаў Павел.

Ішоў Васілец з Галінавіч дадому, у Міланькі, у школу, паволі, і неяк яшчэ лёгка, і ў тую ж пару ўжо і важка нёс на плячах сваіх новую, яшчэ загадкавую ношку свайго бацькоўства.

«Які там мой сын? Як я з Ларысаю буду гадаваць яго? Якога выгадуем з яго чалавека?»

Увайшоў у лес — ацяжэлы ад дажджоў, спакойны, задумлівы.

«Выходзіць, гэта зусім не проста — жаніцца, мець

9*

дзіця, гадаваць яго...— думкі ніяк не давалі спакою.— Ты даў новае жыццё, ты і сцеражы яго. Будзеш ужо думаць не толькі пра сябе, але і пра іншых. І, можа, думаць больш, чым пра сябе... Як некалі ды і цяпер так думаюць пра нас нашы бацькі. Але як мы іх не разумелі і яшчэ цяпер парою не разумеем! Вось цяпер, калі сам бацька, я гэта ўсё больш адчуваю...»

Выйшаў з лесу на поле. За полем — Міланькі. Сцішаныя.

«Вось сустрэнецца зараз нехта, зірне і ўбачыць: я бацька. Усміхнецца, паківае галавою: «Які ты яшчэ бацька?!»

Не падаўся па дарозе. Збочыў і пайшоў напрасткі па бульбянішчы да школы.

Вось пералез праз дзірку ў плоце, увайшоў у школьны двор. Ля саду — у лужынцы — вымыў боты-кірзавікі, абцёр іх мокраю травою, абпаласкаў рукі і толькі тады падаўся ў школу. Калі ступіў на ганак, сустрэўся з позіркам Івана Сямёнавіча. Той стаяў у настаўніцкай і неяк з самотаю пазіраў сюды, на мокры і пусты кастрычніцкі двор, што ўжо да рэшты страціў зеляніну, на нізкае шэрае сырое неба, на амаль чорныя ўжо дрэвы. Васілец не мог утрымацца — усміхнуўся.

У настаўніцкай — за хвілін дзесяць да пачатку першага ўрока — былі ўжо ўсе настаўнікі. Яны з запытаннем зірнулі на яго.

— Цвіце наш Павел Мікалаевіч, дык некага ўжо мае,— пажартаваў Іван Сямёнавіч, адышоўся ад акна.

— Маю,— не вытрымаў, усміхнуўся Васілец.

— Сына? — здагадаўся Іван Сямёнавіч.

— Сына...

— Ну, і віншую, малайчына! — падышоў бліжэй, паціснуў руку дырэктар.— Усюды добра пачынаеш!

— Добра! — падтакнуў задаволены Міхась Рыгоравіч.— Ва ўсіх нас: у мяне, ва Уладзіміра Пятровіча, нават у Івана Сямёнавіча — былі першыя дочкі...— падышоў, гэтаксама моцна паціснуў руку.— Віншую! Даганяй цяпер мяне, станавіся бацькам-героем!

— Цяпер не тыя часы...— усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Успомніш маё слова: цяпер ужо доўга не будзе дзяцей... Цяпер маладыя асцярожныя, мудрагелістыя. Па сваіх ведаю. І ён во,— кіўнуў на сына,— і нявестка нават слухаць не хочуць, каб хутка ўжо і другое мець...

— Усё роўна на «ўра» шчасліўца! — прамовіў Вяртун і першы падхапіў Васільца.

За ім падышлі ўсе настаўнікі, тры разы падкінулі Васільца ўверх. І ім памагаў заўсёды салідны, паважны Іван Сямёнавіч.

— Адпусціце: галава кружыцца! — папрасіўся Васілец.

— Нічога, нічога! — амаль у адзін голас адказалі вясёлыя настаўнікі.— Будзе шампанскае? Калі будзе, дык адпусцім!

— Будзе,— жартам адказаў і Васілец.— Колькі захочаце!

Як паставілі на падлогу, дык ледзь устояў на нагах. Хіснуўся.

— Ап'янеў чалавек ад шчасця! — кіўнуў галавою Іван Сямёнавіч.

— Ацверазіцца хутка,— скептычна прамовіў Сліж.— Усе мы во гэтак п'янелі і хутка потым цверазелі... Жыццё ёсць жыццё! Любіць падкідаць усякія штучкі...

Празвінеў званок. Здаецца, ніхто і не думаў ісці на ўрок.

— Пайшлі, калегі,— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Наша радасць радасцю, а працаваць трэба. Правядзём ужо сёння ўсе ўрокі ў гонар Паўла Мікалаевіча на вялікім пад'ёме...

Васілец — вясёлы, шчаслівы — пайшоў да вешалкі. Скідаць боты і абуваць начышчаныя туфлі, што заўсёды стаяць тут, у настаўніцкай.

## 5

У апошнія дні кастрычніка дождж ліў не сціхаючы, падаў з зусім нізкіх шэрых хмар, за якімі, здаецца, ужо і не было сонца, высокага блакітнага неба. Вада з такой шчодрасцю напаіла зямлю, што цяпер стаяла на паверхні, разлівалася, збіралася ў лужынкі ў разорах ды лагчынах.

Прытуліўшыся да сцяны ў зацішку, Васілец бачыў, як цубаніць дождж, яшчэ болей халодзіць бальнічны голы сад, зямлю, як падае са страхі буйнымі ручайкамі вада, усё глыбей выбівае ў зямлі ямкі, вымываючы ў іх ружовыя каменьчыкі.

Васілец чакаў, што вось-вось упершыню пасля родаў падыдзе да акна Ларыса... І, можа, нават не адна, а з сынам. Але яе пакуль што не было, як сказалі жанчыны-парадзіхі, яна на хвілінку адлучылася з палаты.

Васілец, тулячыся да сцяны, адчуваў, як сыплецца яму на шыю перасохлы мох, што, як і ўся верхняя палова сцяны, быў ненамочаны. Ён толькі адхіліўся крыху ад сцяны, але і не высунуўся на морась.

«Няхай бы ў гэтыя шчаслівыя дні стаяла пагода, было блакітнае неба, сонца,— падумаў.— А так во, непагадзь... Усе гавораць, што не ў зусім удалую пару ў нас нарадзілася дзіця — у самым канцы кастрычніка. У самым, лічы, канцы года. За нейкіх два месяцы яму будзе запісаны цэлы год. Лепш было б, каб ён нарадзіўся ў пачатку новага года, у студзені... Але хіба хто пра гэта раней думаў?!.»

Адхінуўшы фіранку, ля шыбіны мільгануў твар. Васілец як устрапянуўся, падаўся да акна. На яго пазірала Ларыса. Па праўдзе сказаць, і Ларыса і не Ларыса. Бачыўся круглаваты твар з роўным носам, але ў знаёмых вачах былі незнаёмыя яму стомленасць, і нейкая ўжо сталасць, развага, новы клопат — і ён адчуў: гэта ўжо Ларыса-маці.

— Ну, як ты чуешся? — спытаў ён.

Яна прыплюшчыла вочы, па-мацярынску ўсміхнулася: добра.

Ён некалькі разоў цмокнуў вуснамі: маўляў, моцна-моцна цалую. Яна зноў некалькі разоў плюснула вачыма.

— Пакажы яго...— папрасіў Павел.

— Пачакай з хвіліну, зараз прынясуць карміць,— ледзь-ледзь праз дубэльты пачуўся яе голас.— Усе кажуць, што на цябе падобны. Гэтакія вочы, нос, губы, падбародак...

Павел усміхнуўся: божа мой, божа, гэта ж трэба так, каб нехта быў зусім падобны на яго!

Ларыса ўсміхнулася ад таго, што ўсміхаецца ён, з жартам паківала пальцам. Мусіць, каб не было там, у палаце, жанчын, дык сказала б: дам-дам табе, усё забраў сам, нічога майго не пакінуў дзіцяці!

Пасля, азірнуўшыся назад, махнула рукою, каб пачакаў, а сама знікла.

«Прынеслі дзяцей,— здагадаўся ён. Захваляваўся.— Вось-вось убачу свайго Віктара Паўлавіча Васільца!»

Васілец вельмі не прыхіляўся да акна, саромеўся пазіраць на жанчын, стаяў крыху збоку; таму не бачыў, што робіцца ў палаце. Але вось зноў падышла Ларыса, усміхнулася, трымала ў паднятых да грудзей руках белы скрутак. Наверсе яго бачыўся невялікі ружаваты тварык з дробненькім, ледзь загнутым уверх, кірпаценькім носікам.

Ларыса павярнула белы скрутак — і ён убачыў сына. Сын — і напраўду, здаецца, вельмі падобны на яго, на бацьку,— пазіраў, пасля, мусіць, ад рэзкага святла пачаў плюскаць амаль нябачнымі вейкамі, моршчыцца, але быў спакойны, нават надзьмуты.

— Надта ж нейкі сур'ёзны! — усміхнуўся Васілец, але сам сабе не вельмі верыў, што гэта яго сын. «Гэта нейкі сон!»

— Гэтакі ж маўчун, як і ты...— усміхнулася Ларыса, пасля азірнулася назад: відаць, ёй нешта сказалі жанчыны. Пасля зноў зірнула на Паўла, папрасіла: — Позна ўжо, бяжы, Паўлік, дадому. А я буду карміць яго...

Васілец, як і адышоўся, усё роўна, здаецца, бачыў і Ларысу і сына. Невялічкі сур'ёзны сынаў тварык — найлепш.

Мінуў тыдзень.

Павел, папрасіўшы міланьскага шафёра малакавозаўсюдыхода, прыехаў забіраць і Ларысу і сына — сваю сям'ю — з бальніцы.

«Бадай, у першы раз за ўсе гэтыя дні няма трывогі,— думаў сам сабе.— Нават хочацца жартаваць, пасміхоўвацца з перапалоханых бацькоў, што прывезлі сюды сваіх жонак ці прыехалі ў адведкі».

Але вось ён напружыўся: там, у калідоры бальніцы пачуліся гоман, смех, а пасля і крокі. Дзверы адчыніліся — і ён убачыў Ларысу. У ботах, у зімовым сіняватым паліто з шэраватым каўняром — раней, як была цяжарная, Ларыса перашыла далей гузікі, дык цяпер гэтае паліто было ёй зашыракаватае,— на галаве была сіняя шапачка. Яна, зірнуўшы на людзей, што былі ў прыёмнай, неяк з сорамам усміхалася і трымала ў руках пустую сумку.

Васілец яшчэ і яшчэ раз, а цяпер, ужо добра бачачы, адчуў: гэта і Ларыса і не Ларыса. Як толькі яна перай-

шла парог, ён ступіў, пацалаваў яе ў абедзве бледнаватыя, здаецца, упалыя шчокі і падаў ёй кветкі, загорнутыя ў цэлафан.

Ларыса спакойна ўзяла кветкі, злёгку ўсміхнулася (каб раней, яна, канечне, падзякавала б, цмокнула б яго ў шчокі ці ў губы), саступіла ўбок, каб даць дарогу нянечцы. Тая несла загорнутае ў коўдру з белым чахлом дзіця. Трохкутнікам коўдры быў закрыты сынаў твар.

Павел памкнуўся да нянечкі, выцягнуў рукі, каб узяць сына. Убачыў, што павярнулася, падышла і Ларыса, пільна і з асцярогаю зірнула, як ён бярэ, пасля моўчкі паправіла яго руку.

— І пад шыйку і пад плечкі бяры,— ужо як старэйшая прамовіла яна.

Зноў з трывогаю зірнула, як ён вызваліў адну руку, падаў пажылой нянечцы цукеркі.

— Прыязджайце яшчэ да нас...— усміхнулася тая.— Дарогу ж ужо добра ведаеце...

— Канечне, прыедзем,— пажартаваў Павел і, хочучы яшчэ раз, зблізку, зірнуць на сына, адхіліў трохкутнік коўдры: сын, цмокаючы маленькімі і тоненькімі губкамі, спаў, зусім схаваўшы невяліччкія вочкі-прарэзы. Яго загнуты носік быў зусім маленькі. Павел зірнуў на Ларысу, усміхнуўся, і яна ўсміхнулася, толькі неяк крыху нязвыкла, як саромеючыся яго.

— Асцярожней, Паўлік,— папрасіла яна, абцягнула ўніз крысо паліто: яго міжволі падчапіў і трымаў пад сваёю рукою,— скразнякі могуць быць. Закрый тварык.

Пасля з асцярогаю пазірала, як ён пераходзіў парог, спускаўся з ганка веранды, як нясе, як ідзе па мокрай ды коўзкай асфальтаванай дарожцы.

У цеснаватай на траіх кабіне, калі яны ўжо ехалі лесам, Паўлу вельмі хацелася, каб Ларыса добра, з любоўю, як яна гэта ўмее, зірнула на яго, пацiснула яго руку ці прытулілася да пляча. Але яна сядзела надта сур'ёзная, з увагаю пазірала наперад — на дарогу. Дарога на грудах была цвёрдая, убітая дажджамі і ўціснутая машынамі, а вось у лагчынках была залітая вадою, гразкая — машына тады запынялася, з натугаю гудзела і ледзь-ледзь паўзла наперад, льючы на абочыны палосы мутнай вады. І Павел адчуваў, што Ларыса сур'ёзная не толькі таму, што саромеецца шафёра...

...На кватэру Ларыса несла сына сама. Павел толькі

ішоў наперадзе і адчыняў перад ёю дзверы (гаспадыні дома не было).

Як зайшлі ў цёплы, добра напалены для гэтага дня свой пакой, Ларыса чамусьці доўга разглядала яго, як здзіўлялася, што ёсць гэты пакой, нідзе не дзеўся ён, ці не ведала, дзе пакласці сына.

Пасля падышла да ложка, хацела палажыць, але як толькі нагнулася, дык тут жа разагнулася, застагнала. Калі пачуў гэта, Васілец падбег, узяў з рук сына, паклаў яго ля падушак, адкінуў трохкутнік коўдры з твару. Ларыса, моршчачыся, узяла з падушкі накідку, амаль поўнасцю накрыла сынаў твар. Села, прыклала левую руку да вачэй, яшчэ больш зморшчылася, а праваю рукою пацерла паясніцу.

— Табе кепска? — напалохаўся Павел.

— Усё будзе добра,— прашаптала яна.— Зараз пройдзе.

Яшчэ хвіліну назад, як адмыкаў хату і ведаў, што яны будуць адны, Павел думаў, што, як толькі зойдуць у хату, ён пацалуе Ларысу, прылашчыцца, але цяпер адчуў, што ёй не да пацалункаў, і ён толькі пагладзіў яе плечы.

— Як мы будзем жыць, Паўлік? — яна злавіла яго руку, сціснула ў сваёй далоні і зірнула на яго — здаецца, ён толькі цяпер убачыў, што на яе высокім лбе з'явіліся маршчыны. Яны, маршчыны, ёсць і ў куточку вачэй.

— Будзем добра жыць,— усміхнуўся ён.— Лепш за ўсіх.

— Што мы будзем рабіць з гэтаю малюткаю? — як напалохалася яна, з трывогаю зірнула на белы скрутак.— Яно ж, каб ты бачыў, такое маленькае, бездапаможнае...

— Не яно, а ён...— паправіў з жартам яе Павел.— Мужчына!

— Жартуеш, а вось як голенькага пабачыш, дык і ў рукі боязна браць такога мужчыну...

Вось цяпер, улучыўшы хвіліну, ён прытуліўся да Ларысы, пацалаваў і, прылашчваючыся, запытаў: — Цяжка было?

— Пасля калі раскажу...— уздыхнула яна, не адказала на яго ласкі, толькі задумліва зірнула ў кут хаты, нібы толькі там, у куце, было яе супакаенне.— Я ўсё яшчэ, Паўлік, не магу апамятацца. Я за гэты тыдзень перажыла, мусіць, болей, чым за ўсе свае дваццаць пяць

гадоў дагэтуль... Як толькі я і вытрымала?! Не верыцца, што і жыву...

— Я ж казаў: усё будзе добра...

Ларыса памаўчала, паднялася, скінула паліто. Была па-ранейшаму запаўнаватая, але ва ўсёй яе паставе сёння яшчэ больш адчувалася нейкая новая, калі можна так сказаць, вабная жаноцкасць.

Павесіўшы паліто, прыклала далоні да грудзей, затаілася, як нешта слухаючы, пасля прамовіла: — Ён·хоча есці...

— Адкуль ты ведаеш? — здзівіўся Павел.

— Ведаю...— адказала яна, падышла да ложка, села, расшпіліла на спіне гузікі сукенкі, хацела сцягнуць яе цераз галаву. Але ўспомніла, што і ён тут, затрымалася.— Адвярніся...— усміхнулася.— Але не распранайся, схадзі да цёці Галі. Папрасі, няхай падыдзе да нас і паможа пакупаць... Толькі прынясі вады і апусці ў яе кіпяцільнік.

«Яна вось пра што думае... А я...»

Яму вельмі хацелася зірнуць, як жа будзе есці яго сын, але ён паслухаў Ларысу і падаўся з пакоя, каб паставіць грэць ваду, а потым схадзіць да цёці Галі.

Вярнуўся Павел дамоў, прывёў цёцю Галю ўвечар, калі ўжо запалілі ў хаце святло.

Цёця Галя, усё яшчэ рухавая, хутка сцягнула на кухні-калідоры гумоўцы, скінула і павесіла на вешалку куртку, засталася ў чорнай спадніцы і чырвонай кофце.

— Памагла б, старая кабета, маладым...— пажартавала яна з гаспадыні, што была ўжо дома, стаяла расчырванелая ля палаючай печы.— А то баішся ўсё нечага...

Гаспадыня толькі з сарамлівасцю ўсміхнулася.

— Во, малайчына, Ларыса Іванаўна, пастанелі, папрыгажэлі! — узрадавалася цёця Галя, калі зайшла ў другі пакой і ўбачыла Ларысу.— Цьфу, цьфу, канечне, на мой язык!.. Дай вам, божа, здароўя, шчасця,— яна тройчы пацалавалася з Ларысаю.— А цяпер пакажыце свайго малойчыка... Што ж вы там выкупілі?..

Яна падышла да пасцелі, нагнулася — дзіця ляжала ўжо ў маленькай коўдрачцы, перавязанай сіняй стужкай. Спала.

— О, які сур'ёзны малец! Броўкі насуплены, губкі сціснуты! — як здзівілася цёця Галя, а Павел, мусіць, гэтак жа, як і Ларыса, затаіўшыся, з бацькоўскай рэўна-

сцю слухаў, што яна яшчэ скажа, што скажа пра іх дзіця.— Увесь у бацечку, здаецца. Як выліты Павел Мікалаевіч...

У Паўла, канечне, ад гэтых слоў аж зайшлася ад радасці душа. Толькі ён не ведаў, якое цяпер пачуццё было ў Ларысы.

— Малайцы, дзеці! — цёця Галя абаім ім паклала рукі на плечы, прытуліла да сябе.— Жывіце здаровыя і шчаслівыя! І дзіця ваша няхай вам будзе на радасць...— Яна ўсхліпнула, разжалілася, пасля адышлася, выцерла хустачкаю, што дастала з рукава, шчокі, пад вачыма: — І яшчэ адзін стары чалавек, гледзячы на вас, парадаваўся б... Але прабачце мне, старой дурніцы, у вас жа радасць, і я...

— Мы ўсё, цёця Галя, разумеем,— прамовіла Ларыса.— Гэтаксама ўсё яшчэ не можам забыцца...

— Але ж давайце купаць вашага малойчыка,— замітусілася цёця Галя, абгледзела ўсё, што стаяла ля грубкі.— Ванначку трэба спачатку апарыць.

Яна дастала з разеткі штэпсель, дастала з вядра кіпяцільнік, выліла з паўвядра вады ў жалезную, з эмаліраваным дном і бакамі невялічкую, наўмысна купленую на днях Паўлам па Ларысінаму заказу ванначку, укінула ў яе полку і кіпяцільнікам, чапляючы мокрую полку, абцерла бакі. Зліла гэтую ваду ў парожняе вядро, яшчэ спаласнула ванначку. Наліла ў яе вады, паставіла ванначку на два састаўленыя крэслы, апусціла ў ваду полку, капнула марганцоўкі.

Ларыса — ужо ў халаце, дамашняя — то пазірала, што і як робіць госця, то падыходзіла і пазірала на малога.

— Ды не падбягайце так часта!..— усміхнулася цёця Галя.— А то зараз, як падрасце ды як прывыкне, дык не адпусціць вас ні на крок ад сябе. І калыхаць не прывучайце, няхай спіць так... І цішыні надтай яму не рабіце, хай спіць, калі вы і паціху гаманіць будзеце. Прывыкне, дык толькі загамоніце — ён і прачнецца...

— У якой вадзе купаць? Колькі трэба градусаў? — запытаў Павел.

— А бог яго ведае, дзеткі, я ніколі гэтага воднага градусніка не мела,— са шчырасцю адказала цёця Галя, ужо супакоілася і ўвайшла ў іхнія клопаты.— Вось як глядзела ваду...— яна закасала рукаво кофты вышэй

локця, апусціла локаць у ваду і хуценька выхапіла.— Калі пячэ ў локаць, дык яшчэ не пара купаць. Калі не горача, дык можна. І жар век без градусніка мерала: прыкладу губы да лба, да скроняў — калі яны гарачыя, дык ёсць жар, калі толькі цёпленькія, няма ніякага жару...

— Прачнуўся! — усклікнуў Павел, як падышоў і ўбачыў, што дзіця расплюшчыла вочы, прыжмурылася ад святла, здаецца, са здзіўленнем зірнула на яго, на свайго бацьку.— І пазірае!

— Дык няўжо ж,— усміхнулася цёця Галя,— скора і падміргваць, смяяцца пачне...

— А калі пачынаюць дзеці смяяцца? — запытаў Павел, убачыў, што не толькі госця, але і Ларыса пасміхаецца з яго, як з малога.

— Як у сне, дык на трэцім тыдні, а не ў сне, дык на другім месяцы,— адказала цёця Галя.

— А калі сядзець пачне? — не выцерпеў, зноў запытаў Павел.

— У месяцаў шэсць і пачне сядзець, а ў месяцаў сем-восем на ногі станавіцца... Ох вы, мой бацька! — усміхнулася цёця Галя, абняла яго за плячо.— Нічога вы яшчэ не ведаеце, вы яшчэ самі такія маладзенькія... Але не зважайце, як гаварылі нашы дзяды, не наракай, калі рана ўстанеш і рана ажэнішся.

Цёця Галя пагрэла аб грубку рукі, зноў памацала локцем ваду ў ванначцы і падышла да малога, разгарнула на ім коўдрачку, пасля коц — малы застаўся толькі ў цесна спавітых полках.

— Вот не ведаю, маладзічка, што табе гаварылі ў бальніцы пра гэтыя полкі, а я, баба старая, не знаю, што сказаць,— прамовіла цёця Галя, беручы дзіця адной далонню пад спінку і ногі, другую падклала пад шыю і плечыкі.— Некалі мы ногі спавівалі, нават звязвалі стужкай, а цяпер дачка мая, што жыве ў Ленінградзе, не спавівае. Кажа, калі ўдадуцца ногі добрыя, дык і будуць добрыя. А вот дзіця часта плача, што не можа паварушыцца... Так што тут я вам нічога не параю, глядзіце самі...

Госця разгарнула полкі — і Павел, стоячы збоку, упершыню ўбачыў сына голенькага — таўставатыя ў сцёгнах ножкі, пальчыкі якіх былі вельмі дробненькія, так што ён адразу аж разгубіўся: іх пяць ці нават болей?

Аж палічыў: пяць. Жывот, на якім яшчэ крышку выпхнуты ўверх пупік быў з рудаватаю скуркаю, як і ногі ды твар, быў чырванаваты. Было яшчэ адно, што вельмі здзівіла Паўла: гэта тонкая шыйка і, здаецца, вялікаватая галава. Але ён не толькі пасаромеўся, але і збаяўся запытаць: няўжо заўсёды будзе такая галава? Вялікая і крышку на патыліцы пляскатая... Не мог запытаць: гэта было яго дзіця...

— Дзякую богу, усё добранька...— сказала цёця Галя, зняла з малога маленькую беленькую кашульку, тут жа загарнула яго ў полку.— Але вы, мае дзеці, нікому не старайцеся паказваць яго голенькага, бо ўсякія вочы бываюць... Адзін паглядзіць — і нічога, добра ўсё, а другі — дык дзіця потым плача і плача... Але ж да вас цяпер у адведкі будуць хадзіць, хочаце вы ці не хочаце, а будзеце ўсім гэтую малютку паказваць, дык, Ларыска, прышпіліце да кашулькі шпілечку і сабе да халата прышпіліце... Яшчэ мая бабка казала, што гэта надта ад благіх вачэй памагае... Ё-ё-ё! — госця пацмокала малому і панесла яго да ванначкі, зноў памацала ваду локцем.— Падліце, Паўлік, крыху гарачанькай, трэба, каб нашаму маленькаму цёпленька было. Размяшайце, размяшайце. Во-во-во! — яна апусціла дзіця ў ваду, на полку, што патапілася.— Падтрымаем, каб у вушкі не зацякло...

Дзіця, як толькі яго апусцілі ў ваду, нібы ўстрапянулася, часта заміргала, а пасля пусціла ўверх тоненькі струменьчык.

— Ну і свавольнік! — шчыра засмяяўся Павел.

— Пачакайце, пачакайце, скора ён вам не гэта будзе выштукоўваць! — засмяялася цёця Галя.— Але вы, Паўлік, палівайце, палівайце, трэба не астудзіць яго. А вы, Ларыска, не нагінайцеся, не хапайцеся за ўсё: вам з тыдняў два трэба шанавацца. Хай і полачкі гэты час Павел Мікалаевіч мые... Вы, Ларыска, пагрэйце ля грубкі кашульку, полачкі, прасцірадла, ручнічок... Нагрэлі ручнік? Бярыце, Павел Мікалаевіч, ручнік, як толькі я прыпадыму, то вы яго адразу і абгортвайце. Толькі без ветру...

Цёця Галя абсунула з малога мокрыя полкі, прыпадняла над ванначкаю — Павел абгарнуў малое цёплым ручніком і панёс да ложка.

— Які ён маленькі і лёгенькі! — здзівіўся ён.— Што толькі з яго калі будзе?

— А і не агледзіцеся, дзеці мае, як хадзіць пачне, гаварыць, а там і ў школу пойдзе: цяпер у нас жыццё скора пойдзе...— і суцешыла, і паразважала цёця Галя.— Надта ж скора ў жанатых маладосць праходзіць, дзеці, унукі скора растуць... І не агледзішся, калі пастарэеш...

Павел, як палажыў сына, адышоў убок, цёця Галя выцерла малое, надта са стараннем выцірала шыю, пад пашкамі і між ног, пасля адзела на яго кашульку, шапачку, загарнула яго ў полкі. Ларыса стаяла паблізу і з увагаю па ўсё пазірала.

— Пасля купання, дзеці, старайцеся яго і не астудзіць, і не перагрэць. Астудзіце — катар, кашаль, цьфу-цьфу, будзе, перагрэеце — патніца пойдзе,— сказала цёця Галя.— Цяпер пакарміце яго — і яно будзе спаць... Выносьце, Паўлік, ваду, а я за гэтую пару вашай Ларысе яшчэ сам-насам тое-сёе скажу. Як кабета кабеце...

— Дзякуем, цёця Галя,— усміхнуўся Павел.— Каб не вы, дык што б мы толькі рабілі?!

— І самі зрабілі б усё, дзе дзеліся б...— усміхнулася яна.— І адны жывучы, будзеце ўсё самі рабіць. А потым, як пажывяце, дык будзеце і другіх вучыць. Хоць вам цяпер, дзеці, будзе новы дзень не падобны, усё будзе нешта новае. Можа, не раз і цяжка будзе. Дык не адчайвайцеся надта...

Ужо ўвечары, калі павячэралі самі, калі Павел з замілаваннем паглядзеў, як павячэраў іхні сын, леглі спаць, Ларыса разгаварылася.

— Як толькі ты мяне прывёз на гэткай шляхетнай брычцы, збыў са сваіх рук, так сказаць, надзела я бальнічны халат, дык і пачалі біць мяне дрыжыкі... Пабыла з хвіліну ў палаце — і хоць бі акно ды ўцякай праз яго і пехма бяжы дамоў. Я толькі прыехала, а там ужо ляжалі і пажылыя кабеты, і маладыя. І па два, і па тры дні. Ды як «ляжалі»!.. Каторым яшчэ не скора да родаў, дык тыя ляжалі спакойна, хадзілі, гулялі, чыталі, а каторым падыходзіла пара радзіць, дык тыя...— Ларыса сціснула свае скроні далонямі.— Страх успомніць! Што яны толькі не рабілі: крычалі, лямантавалі, клялі мужоў, урачоў, прасілі смерці. Зашыюся з галавою пад коўдру, усё роўна чую лямант, выцікну — гляджу: то пад ложак каторая палезла, то ложак на сабе падымае... А нянькі

зусім не зважаюць, смяюцца: «Крычы, крычы, колькі табе ўлезе, праз пару год зноў сюды прыедзеш!» Пасля, пазнаёміўшыся крыху з усімі, бачу: тая даярка, тая свінарка, тая касірка — думаю: ну, я ўсё ж настаўніца, дык не буду гэтак нервавацца, пакажу, як трэба сябе паводзіць. Як ні будзе балець, але не буду гэтак лямантаваць. Аж, калі прыціснула перад родамі, дык і я ўсякую павагу да сябе страціла, як я толькі не крычала, што не гаварыла... Цяпер брыдка і ўспамінаць... Адзін бог ведае, як я толькі выцерпела... Праўда, як ноччу крышку прыснула, сніцца мне сон: падыходзіць да мяне стары сівы дзядок і дае мне лустачку хлеба. Расказала раніцай бабам пра гэты сон, дык амаль у голас кажуць: першая з палаты родзіш. І сына. І, праўда, скора мяне забралі, і першая радзіла. Пасля родаў ляжу, нібы вяртаюся на гэты свет і думаю сабе: «Усё, не будзе ў нас больш дзяцей, хопіць аднаго». Праўда, бабы, што раджалі ўжо трэцяе ці чацвёртае, пасля смяяліся з мяне, казалі, што ўсё гэта забываецца... Не, я гэтага век не забуду. Хопіць нам аднаго Віцькі... Будзем абое старацца добра рабіць у школе, чытаць будзем, у горад у тэатр ездзіць... Я не вытрываю ўсяго гэтага ў другі раз...

«А я тыдзень назад жартаваў: пісаў Ларысе запіскі, пісаў, што будзе ў нас чацвёра дзяцей — два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Якія недарэчныя былі тыя мае жарты. Не дзіва, што Ларыса на іх ніяк не адказвала...»

— Як радзіла, дык зусім здалася, датрывала толькі на вочы зірнуць, якое ж гэтае дзіця. Ці хоць нармальнае, бо чаго толькі ў палаце пра маленькіх дзяцей не наслухалася... А яно, як толькі заявілася на свет, як закрычыць!.. «Шаляпін будзе»,— жартуюць урачы... Мне цэлыя суткі пасля гэты галасок у вушах стаяў. Пасля ўжо ў пасляродавай палаце, ляжу і чую: маё дзіця крычыць, плача... Клічу сястру, прашу: схадзіце, паглядзіце, цёця, зірніце, далібог, маё дзіця плача... Пайшла яна, паглядзела, вяртаецца і кажа: і, праўда, маладзічка, тваё азвалася... Потым, як прынеслі першы раз карміць, я распавіла яго, агледзела. Радуюся: дзякуй богу, усё добранька... А як дала яму грудзі, як ён з прагаю ўхапіўся смактаць, нешта мне гэтак і заліло сэрца: мой сын, маё дзіця. І такое яно мне стала родненькае... Здаецца, яго ўжо мацней люблю, як цябе... Ужо за адно, што яно ж такое маленькае, бездапаможнае...

Павел слухаў яе з увагай, са здзіўленнем, але апошняе

прызнанне даслухаў нібы з крыўдаю. А можа, і не з крыўдаю, можа, толькі з маладой, яшчэ хлапцоўскай, рэўнасцю. І з трывогаю адчуў: цяпер шмат што будзе мяняцца ў яго думках, характары...

— Зірні, Паўлік, і паслухай,— папрасіла Ларыса.— Хоць бы ён абазваўся, а то зусім не чуваць...

Ён паслухаў, з ахвотаю злез з пасцелі, нагнуўся над каляскаю — і пры жаўтаватым няяркім святле начніка ўбачыў, што іхні сын ляжыць з заплюшчанымі вачыма, насупіўшы ледзь значныя броўкі. Павел нагнуўся, прыклаў вуха ледзь не да самага носіка — пачулася ледзь чутнае дыханне...

## 6

У пачатку лістапада Сліж купіў «Жыгулі».

З Мінска, а цяпер і з раённага горада вёў легкавік міланьскі шафёр, Пеця. Муж Ірыны Васільеўны, былой піянерважатай.

Побач ля Пеці сядзеў ён, Сліж, на заднім сядзенні прымасцілася Лілія Іосіфаўна. Яе яны падабралі на аўтастанцыі: Лілія Іосіфаўна была сёння на семінары моваведаў.

— А Васілец быў у горадзе? — запытаў Сліж, калі ўжо выехалі з горада і імчаліся па шашы. Абапал яе ляжалі выбеленыя халодным інеем лугі.

— Быў, але ён паехаў ужо дадому на спадарожнай машыне,— адказала Лілія Іосіфаўна — па-ранейшаму, як і пазалетась ці летась, тонкая, худая, толькі ўжо болей пастарэлая з твару: на ім было ўжо шмат маршчын.

Пазіраючы на яе, Сліжу хацелася пажартаваць: «Калі ты ўжо крыху паправішся, цётка?» — але здолеў стрымацца, перавёў гутарку на Васільца.

— Кажаце, стрымгалоў панёсся да любімай жоначкі і да свайго сыночка? Прыкладны, не тое што мы, грэшныя! Ці Ларыса ўзяла яго ў свае рукі?

І Пеця, і Лілія Іосіфаўна прамаўчалі.

— Жанчыны такія... — пажартаваў Сліж, падумаў: «Някепска было б, каб сёння сустрэліся з Васільцом.

Было б вельмі цікава паглядзець, як бы той зірнуў бы на машыну, на мяне: вельмі важна, іменна якое першае ўражанне: Васільцу яшчэ не скора ўдасца купіць машыну. Вось Лілія Іосіфаўна, як прыпыніўся і запрасіў сесці, збянтэжылася, відаць, са здзіўленнем думала: «Ну і Уладзімір Пятровіч! Ну і малайчына!»

— Асцярожна, братка,— папрасіў Сліж, калі Пеця занадта ж разагнаўся.— Збаў крыху газу, жызня мая. Быў жа без канца дождж, а потым раптоўна пасвятлела, падскочыў марозік — і вось вада схапілася лёдам. Дарога цвёрдая, але коўзкая. Можа, жызня мая, не толькі знесці, але і скуліць у канаву, ударыць аб дрэва...

Пеця паслухаўся, паехаў цішэй, пільна ўзіраўся на дарогу: і асцерагаўся, каб не пабіць машыны, і саромеўся, канечне, Ліліі Іосіфаўны: з ёю летась, прыйшоўшы з арміі, крыху загульваў, але не ўзяў замуж.

Здаецца, ляцела насустрач шаша, ляцелі дрэвы, кусты, неба, свістаў, дакранаючыся да машыны, вецер,— і Сліж хваляваўся.

«Ці самую добрую выбраў я машыну? А раптам ёсць у ёй якія нелады? Вось так заўсёды: зробіш нешта, а потым пакутуеш: а раптам мне дасталося горшае? Але павінна быць усё добра: мне ўвогуле шанцуе... Еду вось на сваёй машыне, самы першы з усіх маладых настаўнікаў! Вось каб яшчэ пераехаць у які горад ці хоць у добрую, паблізу горада, вёску, каб выбрацца з саўгаснага нязручнага дома, пабудаваць свой драўляны домік, гараж, пасадзіць добры сад, дык быў бы самы шчаслівы чалавек на свеце... Але нічога, не ўдалося ўцячы з Міланек летась, сёлета, дык удасца налета...»

Сліж падумаў так і ўсміхнуўся сам сабе.

«І буду шчаслівы, нідзе яно, тое шчасце, ад мяне не дзенецца. Я не такі геній, як Васілец, але здолею ўсё зладзіць... Васілец стараецца — выпінаецца перад дзецьмі, і на ўроку, і пасля ўрокаў з імі валаводзіцца, на педсаветах выступае, крытыкуе, нешта выдумляе. І дурны! Што ён даб'ецца? У трыццаць гадоў інфаркт нажыве. А я не хачу у такія гады здароўе траціць, абы за што, за дарэмна, назапашвацца хваробамі. Пашло ўсё яно к чорту! І дзеці не прападуць, і школа цэлая будзе, калі і не будзеш са скуры вылазіць. Нашто, дзеля каго? Ці хто ацэніць? Падзяка будзе? Не трэба мне ніякай падзякі. Адно, што трэба навучыцца, дык гэта — пыл пускаць у вочы. Каб усе думалі, што і ты «гарыш»... Купіў бы добрую мэблю, машыну, апрануліся добра, трэба яшчэ сабраць крыху грошай і ўцякаць. Хай тут Васілец застаецца, жыве на прыватнай кватэры, б'ецца дзень і ноч з міланьскімі геніямі, будзе «шчаслівы», як гавораць».

Дзівак гэты Васілец. Зусім нейкі не хітры, надта шчыры. Здаецца, яго можна вельмі лёгка абмануць, узяць над ім уладу. Яны, настаўнікі, гурмой хадзілі да Ларысы ў адведкі. Дык вось Васілец і іх, гасцей, глядзеў і ля свайго малога ды ля Ларысы бесперапынку стаяў — то нешта падасць, то нешта аднясе ці хоць падбяжыць ды запытаецца, а што яшчэ трэба памагчы.

«Ты, братка, робіш дзве памылкі,— калі выйшлі на цёмны халодны двор асвяжыцца, сказаў ён Васільцу,— надта шмат стаіш ля малога і надта шмат памагаеш жонцы. Паслухай, жызня мая, мяне, ужо стрэленага вераб'я. Як толькі жонцы раз-другі паказаў, што ўмееш полкі, бялізну, падлогу мыць, сам есці зварыць, дык, лічы, прапаў: мігам трапіш у кабалу, упражэшся ў гэты воз... Бо жонкі нашы любяць то з хваробамі нейкімі цацкацца, то ля люстэрка процьму часу пастаяць ці з суседкай памянташыць языком. Так што, трымай сабе цану, не лезь у аглоблі...»

Васілец тады пасміхаўся і, відаць, думаў іначай.

«Дзівак чалавек, дзівак... Адкуль толькі такія бяруцца? Але навучыцца: жыццё ўсіх вучыць... Хочаш таго ці не хочаш. Я даўно гэта ўсёк. Таму вось нешта і маю...»

— Ну як, Лілія Іосіфаўна, добра ехаць? — Сліж азірнуўся і спытаў у настаўніцы: тая захінулася ў вясёнку і маўчала. Была сумная. Яна век вясёлай не бывае. Задумлівая і задумлівая.

— Добра,— усміхнулася Лілія Іосіфаўна.— Лепш жа, чым у аўтобусе.

— То-та, жызня мая,— весела падміргнуў ён ёй.— Гэта ўжо свой конь. Запрог — і паехаў, куды душа зажадае. Пасадзіў якую маладзічку — і ў які лясок... — Ён захіхікаў, не зводзячы позірку з дзяўчыны.

Тая гэтаксама, толькі не так смела, усміхнулася, густа зачырванелася. Аж здаецца, пачырванелі яе акуляры з пазалочанымі дужкамі.

«Глядзі якая сарамлівая!.. Як ёй шаснаццаць гадоў усяго. Нябось хутка ўжо трыццаць будзе... Але нікому не трэба і са сваёй сарамлівасцю, і са сваім розумам. Яе і я ні за якія грошы не ўзяў бы!»

— З'едзь, Пятро, на тую дарогу,— Сліж зноў павярнуўся і зірнуў на шашу, кіўнуў на тупкую лясную дарогу, што паварочвалася ўправа — у Галінавічы.

Пеця суцішыў язду, звярнуў управа — і колы машыны зашыпелі, з хрумстам ломячы тонкі лядок на лужынах.

І прыпыніўся каля хвойкі: ніжнія лапы яе — аж у Сліжа прабегла па целе дрыготка — зашаргацелі па версе кабіны.

— Перакусім крыху,— сказаў ён, крутнуў ля сябе зашчапку, адкінуў вечка, дастаў з выемкі ў машыне вялізны зялёны, з белымі кветачкамі тэрмас.— Ды і з Ліліяй Іосіфаўнай за машыну, так сказаць... Відаць, таксама ўжо натапталі грошай у панчоху на такія вось калёсы? Столькі год працуеце, ды адна адною...

Ён азірнуўся, усміхаючыся, моўчкі на міг затрымаў на ёй смелы позірк, зусім яе збянтэжыў. Не дачакаўшыся адказу, адкруціў галоўку тэрмаса, дастаў вялікі корак з тэрмаса. З яго смачна і цёпла дыхнула пара. Узяў з сумкі шклянку — яе прыхапіў у горадзе з аўтамата «Сокі — воды», набулькаў кавы.

— Прашу,— ён падаў шклянку Ліліі Іосіфаўне.— Вы ўсё ж, жызня мая, першы мой пасажыр!

— Што вы, што вы, Уладзімір Пятровіч! — тая аж закрыла твар невялікімі рукамі з доўгімі тонкімі пальцамі. На іх было аж чатыры пярсцёнкі з аметыстам, рубінам.— Дзякую, я не галодная.

— Пагрэйцеся, жызня мая,— падахвоціў Сліж.— «Хуткая» на месцы, скора дамчым у бальніцу, калі ў вас сэрца слабое на каву... ён амаль усунуў у рукі разгубленай дзяўчыны гарачую шклянку, дастаў з сумкі кольца кракаўскай кілбасы, адламаў ад яе ладны кавалак, гэтаксама падаў.

— Ну, смялей!

Лілія Іосіфаўна выцягнула тонкія вусны, заплюшчыла вочы і глынула маленечкі глыток гарачай кавы, а пасля раптоўна закашлялася, што кава пацякла ў яе па барадзе, трапіла на грудзіну вясёнкі. Адкашляўшыся, засаромелася, не ўзяла кілбасы, выхапіла з сумачкі хустачку і пачала выцірацца. Выцерла і прыпацелыя акуляры.

Сліж зарагатаў: яна піла і не ведала, што ён даліў у каву шмат каньяку. Паклаў ля яе на сядзенні кілбасу, кавалак хлеба. Наліў шклянку кавы сабе, выпіў, адламаў паўкольца кілбасы і смачна зачвякаў.

— Эх, Лілія Іосіфаўна! — пасміхаўся ён.— Вучыцца вам яшчэ трэба ды вучыцца жыць...

— Я ж не ведала, што вы... Я думала: толькі кава... — апраўдвалася тая, гэтаксама ела — кусала хлеб і кілбасу маленечкімі кавалачкамі. Каб не затлусціць рукі, кілба-

су абгарнула ў паперу.— А вучыцца трэба гледзячы чаму... Чаму трэба, а чаму і не варта...

— Я гавару пра прэлясці жызні... — усміхнуўся Сліж.— Вось як жыве, скажам, Таццяна Сяргееўна... Яна ўсё ўмее...

— А я не хачу, як Таццяна Сяргееўна,— адказала Лілія Іосіфаўна.

— Канечне, як хто можа,— сказаў Сліж і кіўнуў Пецю ехаць.

Неўзабаве, праз кіламетраў дзесяць ад горада, стромкая шаша скончылася, яшчэ праз вярсту скончылася і цвёрдая пясчаная насыпка. Перад імі паўсталі дарожныя знакі, кучы ссыпанага з самазвалаў жаўтаватага пяску — і ім прыйшлося павярнуць улева, на старую, віхлястую дарогу.

Тут Пеця паехаў зусім ціха: на дарозе, што ляжала то роўна, то раптоўна віляла ўлева, управа, былі глыбокія паразбіваныя каляіны, незамёрзлыя лужыны вады — і «Жыгулі», што ў Сліжа аж забалела сэрца, адразу ж некалькі разоў цярнуліся нізам аб зямлю.

— І яшчэ цішэй едзь, братка,— папрасіў Сліж,— зусім жа новая машына... Вялікія ж грошы заплаціў...

Калі выехалі з сямёнавіцкага лесу і апынуліся перад міланьскім полем, перад імі развінуліся дзве кепскія дарогі: адна з іх вяла ў Міланькі, другая — у Вішнёўку. Сліж махнуў Пецю рукою ехаць на Міланькі.

— Вы едзьце дадому, Уладзімір Пятровіч,— прамовіла Лілія Іосіфаўна,— а я пайду сваімі нагамі. Нашто вам такі круг даваць? І так дзякую шчыра, што з такім камфортам давезлі.

— Ну што вы, Лілія Іосіфаўна, мы ж мужчыны, інцелігентныя людзі... — усміхнуўся Сліж, а сам сабе падумаў: «Ты, канечне, мілая, магла б і пяшочкам праскочыцца, але хай усе міланьцы, аграном ды інжынер, сам Іван Сямёнавіч паглядзяць, на чым еду! Хай пазайздросцяць Сліжу!»

У Міланьках, дзе дарога была амаль зусім няездкая, дзе ім прыйшлося ехаць амаль ля самых платоў, Сліж апусціў шкло, вызіраў праз акенца і, узнімаючы руку, вітаўся з сустрэчнымі людзьмі. Яны ўсміхаліся, азіраліся, доўга глядзелі ўслед.

«Вось так! — цешыўся ён.— Глядзіце, ведайце, які Сліж! Гэта вам не Вяртун! І не Васілец! Сліж!»

На ўзгорку, за мастком, Лілія Іосіфаўна зноў падзякавала, выйшла і, не азіраючыся, падалася да сваёй кватэры, а яны пад'ехалі да школы, дзе цяпер вучылася другая

змена. Але ля школы не было ні дзяцей, ні настаўнікаў, ні тэхнічак.

— Ну, блісні, пакажы, як свеціць,— прамовіў Сліж крыху з расчараваннем.

Пеця ўключыў вялікія фары — і ў вячэрняй ранняй шэрані не вельмі далёка, жаўцеючы і паблізу прападаючы, лёг яшчэ не густы, не зусім яркі прамень святла, і ад яго заблішчаў, зажаўцеўся школьны плот.

— Ну, нічаво, жызня мая,— задаволіўся Сліж, пагадаў: ці прыпыніць машыну ды зайсці ў школу, ці не трэба?.. Пасля падумаў, што не варта спыняцца: у школе цяпер будуць толькі Міхаіл Апанасавіч ды маладая настаўніца, дык не варта дзеля іх траціць час. Лічы, дарэмна паехаў сюдою. Павярнуўся да Пеці:— Прызнайся: летась меў што з Ліліяй нашай ці не меў? Падскакаў жа...

Пеця з сорамам усміхнуўся, заківаў галавою: што вы! Канечне, не!

— І я, братка, і за вялікае золата яе не браў бы,— сказаў Сліж.— Разумная, сардэчная, але... Не тое, да чаго наша, мужчынскае, вока ліпне. А цяпер старэць во пачала, дык зусім... Нам бы прыгожанькіх ды з перцам, як Таццяна Сяргееўна ці Мая Сцяпанаўна! З такімі красунямі і ты ад сваёй Ірыны Васільеўны, мусіць, уцёк бы хоць і на бязлюдны востраў?

Пеця яшчэ з большым сорамам усміхнуўся.

— Здрадзіш некалі...— са шчаслівым патаемным цмоканнем сказаў Сліж.— Кожны мужчына павінен праз гэта прайсці: кожнага мужчыну спакушае пагладзіць па плячы чужую кабету... Павер мне, ужо не першы год жанатаму... Ды як вытрымаеш, калі працуеш, лічы, з аднымі жанчынамі?! Адны красуні збоку, ды ўсе маладыя, агнявыя!..

Пеця толькі ўсміхаўся.

Сліж гэтаксама замаўчаў, ведаў, што больш пра сябе расказваць не трэба. Ніколі не варта пра сябе шмат усякім людзям гаварыць. Таму моўчкі пазіраў, як праехалі непадалёку фермы, пасля ўехалі ў прысады — за імі за вярсту і была Вішнёўка. Падумаў толькі пра Таццяну Сяргееўну.

«Каторы ўжо год вярэдзіць яна маю душу... Прыгожая, вясёлая, мужчын любіць, але гэтакая капрызная... То прыхінецца, то раптоўна праганяе, злуецца, абзывае ўсякімі словамі. Вось і пазаўчора ў Васільца, калі выйшлі на двор асвяжыцца і калі ўлучыў хвіліну, прытуліў, дык локцем у пераносіцу смальнула...— ён аж памацаў тое месца, што

ўсё янічэ балела.— Але цяпер зладзім, быць не можа. Цяпер усе на мяне будуць пазіраць іначай...»

Як толькі скончыліся прысады, і яны выехалі на дарогу, што ляжала між пашы-сенажаці, убачылі знаёмага чалавека. Вертуна. Той, апусціўшы галаву, дыбаў з Вішнёўкі.

Калі ўбачыў машыну, прыпыніўся пасярод дарогі, падняў угору руку. Яны сталі.

«Усё ясна! — падумаў Сліж.— Наляцеў я на бяду ды на гора...»

— А гэта ты, мой лібэр! — па-блізарукаму плюшчачы невялікія вочкі, выгукнуў Вяртун, пасля падышоў і зірнуў у прачыненае акенца.— Машыну гоніш, агораную на «працоўны мазоль»?

— Машыну, Рыгоравіч, як бачыш,— наўмысна з лагодаю ўсміхнуўся Сліж.— Красуня? — спытаў, але з машыны не вылез. Думаў, што перакінецца словам-другім з вясёлым сёння Вертуном ды паедзе далей.

— Аллес фэрштэен, але нікс шпрэхен...— адказаў Вяртун, махнуў рукою.— Хоць знаю,— ён пстрыкнуў па капоце, а пасля грозна паківаў пальцам,— знаю, за што ты купіў гэтую «красуню». Аллес фэрштэен...

— За сваю і за жончыную зарплату, Рыгоравіч, за што ж яшчэ?..

— Вось іменна, майн лібэр, за жончыную... толькі не за зарплату, а за жончыныя шмелікі-келікі ў магазіне...

— Гэта ўжо нагаворы, Рыгоравіч,— усё яшчэ пасміхаўся Сліж, у душы хочучы піхнуць Вертуна, каб той паляцеў у канаву, ды нарэшце ад'ехацца.— Нядобра, Рыгоравіч. Я вас так шаную, а вы...

— А чаму мяне не шанаваць? — здзівіўся Вяртун.— Вяртун разумны, чэсны, справядлівы. Жыве толькі на сваю плату. Бо мы Вертуны...— ён стукнуў кулаком сабе па грудзіне, зморшчыўся, і па яго шчацэ пацякла буйная сляза.— Бо мы не хто-небудзь, а іменна Вертуны!.. Не Слíжы!

— Я ж гавару, Рыгоравіч, што я вас паважаю, нічога кепскага на вас не маю,— памякчэў Сліж.— І мы з вамі, Рыгоравіч, дружна жывём, як сябры.

— Сітнік бортніку не таварыш,— шморгнуў носам Вяртун,— але я не горды. Так і быць: паеду з табою, пагляджу, які ты мне фрэунд!..

У Сліжа, здаецца, абарвалася ўсё ў грудзях.

«І трэба было ж мне паехаць на Міланькі! — пакляў ён сябе.— Прамямліла гэтая Лілія Іосіфаўна нешта, і я загарэўся падвезці яе». І ўжо раззлаваўся на Лілію Іосіфаўну. Аж да нянавісці. А сябе пашкадаваў: ведаў, што Вяртун сапсуе яму сёння такі ўдалы вечар.

— Паехалі! — настойваў Вяртун, таптаўся ля машыны.

— Сядайце,— буркнуў Сліж, адчыніў заднія дзверцы.

— Я ўсё ж твой начальнік,— заўпарціўся, не пайшоў да задніх дзвярэй Вяртун,— а ты мяне сабе ў патыліцу ды за спіну садзіш!

— А, калі ласка...— зноў усміхнуўся Сліж, хоць у гэтую хвіліну ад злосці ў яго аж задрыжалі рукі. Вылез з машыны, сеў на задняе сядзенне.

«Каб ты не быў мой начальнік, дык я цябе б!..»

Вяртун не абцёр гразкія боты, улез, плюхнуўся на пярэдняе сядзенне, збіў з галавы капялюш, бліснуў лысінай.

— Паджгалі! — Вяртун падабраў капялюш, уладна махнуў рукою Пецю, пасля азірнуўся на Сліжа.— Дома ўсё будзе?

— Будзе,— буркнуў ён.

Як толькі яны прыпыніліся ля хлеўчыка, да іх адразу падышла Ніна.

— Нейкую надта ж светлую ўзяў,— з незадавальненнем прамовіла яна, абышла «Жыгулі» з усіх бакоў, сярдзіта зірнула на яго: нашто прывёз сюды Вертуна?

«Прычапіўся, што я зраблю?!» — позіркам адказаў Сліж.

— Пані колер машыны не да спадобы,— ухмыльнуўся Вяртун,— я вот удвая старэйшы за вас, а нават матацыкла не магу купіць. На сваіх хаджу і езджу...— ён кіўнуў на ногі.— А вы...

— Трэба ўмець жыць, Рыгоравіч,— без далікатнасці адказала яму Ніна,— кідайце школу, ідзіце якім загадчыкам свінафермы ці яшчэ ў якое даходнае месца, дык праз гады тры і вы паедзеце на «Жыгулях»...

— Вяртун не такі...— узлаваўся Вяртун, зноў застукаў сабе па грудзіне кулаком.— Хай сабе Вяртун п'яніца, ад жыцця адстаў, як гавораць пра мяне мае маладыя калегі, але Вяртун не шукаў і не шукае даходных месцаў! Найн!

— Хадзіце тады сабе пяшком, а мы паездзім...— адказала Ніна, пасля павярнулася толькі да Пеці.— Хадзем, Пятро, у хату.

Яны адышліся. Сліж застаўся, доўга замыкаў дзверцы машыны, думаў, што Вяртун хоць пойдзе сам услед за жонкаю. Без яго, Сліжа. Але той, як назло, стаяў, чакаў яго.

— Каралём цяпер будзеш...— памякчэў Вяртун, толькі, здаецца, залішне моцна бухнуў нагою па коле.— Ісці буду, дык і не возьмеш, не падвязеш... Першы з усіх настаўнікаў на машыне паехаў!

— Паглядзім, як будзеце сябе паводзіць,— праз сілу пажартаваў Сліж.— Калі будзеце на рабоце да мяне прыдзірацца, дык тады... ясцественна...

— Я прыдзіраюся! — хмыкнуў Вяртун.— Ды вы ўсе павінны мяне на руках насіць: дзе вы яшчэ такога дурнога завуча знойдзеце!

— Тут вы, Рыгоравіч, праўду гаворыце...— усміхнуўся Сліж, пасля, калі і ў вячэрнім змроку ўгледзеў, што Вяртун ад яго слоў насцярожыўся, падлашчыўся: — Вы, Рыгоравіч, добры чалавек.

— Мы, Вертуны, усе такія...— адно і тое ж бубніў расчулены Міхась Рыгоравіч.— Шлехт нікому не зробім.

— Канечне,— падтакнуў яму Сліж, замкнуў усе дзверцы машыны, крышку здзівіўшыся, што не выйшлі паглядзець яго машыны суседзі. Толькі, як заўважыў, цікавалі ўпотай праз вокны.

Моўчкі падаўся да двухпавярховага белага дома. Вяртун дагнаў і пайшоў побач.

У калідоры кватэры, дзе пахла смажаным салам, бульбаю з мясам, Сліж, як у іх і было заведзена, пачаў адразу скідаць туфлі, падумаў, што Вяртун зараз зірне на лічыльнік, дыск якога — па яго, Сліжаваму, вынаходству — каторы ўжо год не круціцца, не наганяе грошы, пакпіць. Сёння з усяго будзе кпіць, хоць заўтра пра гэта нават не абзыўнецца.

Вяртун, відаць, забыўся пра гэты лічыльнік, хоць сам некалі ўгледзеў, што дыск у ім не круціцца, скінуў доўгае паліто, паглядзеў на вопратку і, як паказваючы, што яго тут не лічаць ганаровым госцем, скруціў паліто і паклаў яго ў куток на скрынку з абуткам, наверх паліто палажыў капялюш.

Выйшла з кухні ў доўгім шыкоўным халаце, у тапач-

ках, за апошні год вельмі раздабрэлая Ніна з талеркамі печанага сала і бульбы ў руках. Зірнула з гневам, зморшчылася і падалася ў залу, што была заліта мяккім белым святлом дзённых лямпачак. Там, у зале, загаманіла з Пецем.

Вяртун зморшчыўся, прайшоў крок-другі, віхляючы клубамі,— дражніў не зусім далікатную гаспадыню. Ніна была такая: падабалася ёй што, дык падабалася, калі не падабалася, яна вельмі не таілася.

Сліж незалюбіў гэта. Але ўсміхнуўся Вертуну, калі той прыпыніўся, паляпаў далоняй па галаве, прыгладзіў рэдкія валасы, пасля падняў Вертунова цяжкае, што мяшок з бульбаю, паліто, абціснуў на вешалцы сваё адзенне і начапіў паліто на самы верх. На паліто прыляпіў мокры, выпацелы ўсярэдзіне капялюш з шырокімі палямі.

Вяртун з задавальненнем адвярнуўся, падышоў да дзвярэй залы і зірнуў туды.

— Скідай, Рыгоравіч, боты,— рэзка азвалася адтуль Ніна.— Бачыш, дываны ў нас — пяску натрусіш. Бяры там, у калідоры, тапачкі. Па-інцелегенцку, словам.

— Я чалавек з народа,— адказаў Вяртун,— хаджу дзе хачу!

Сліж адчуваў, што Вяртун зойдзе зараз наўмысна ў залу і напраўду натрасе пяску, а то яшчэ і патупае нагамі па вялікім дыване, што ляжаў на ўсёй падлозе залы, дык ён, як толькі скінуў і павесіў сваё паліто, зайшоў у бліскучую ад святла залу,— а блішчалі рудога колеру кніжная шафа, падлакотнікі канапы, тэлевізар, дыван,— узяў з журнальнага століка дзве газеты і паслаў іх ля стала і ля дзвярэй. Вяртун зайшоў у залу і сеў на канапе, з захапленнем, паціраючы далонь аб далонь, усміхаючыся, зірнуў на засланы абрусам стол — на ім стаялі халодныя і гарачыя закускі, піцво, талерачкі ды чаркі, а ля іх ляжалі нажы і відэльцы.

— За машыну вашу, дык за машыну! — ужо забываючыся на ўсе крыўды, сказаў Вяртун.— Няхай бегае без супынку! Сліжуйце, словам, Сліжы і сліжаняты!

...Праз гадзіны тры Ніна падала чорную каву ў маленькіх белых кубачках, прынесла цукар-рафінад, лыжачкі і талерачкі.

— Я найн, у гэтага не п'ю,— Вяртун адсунуў ад сябе кубачак, і з яго і на талерачку і на абрус разлілася кава.— Я па-простаму. Я лепш гэта...— ён наліў у фужэр піва, вы-

піў, выцер рукавом вільготную бараду.— Машына ваша — гэта дрэнь, не варта, каб гаварыць пра яе ўвесь вечар. Лепш раскажу я вам яшчэ, як я быў на фронце перакладчыкам у самога камандзіра дывізіі...

Ніна закрыла твар рукамі: можна, маўляў, учадзець ад гэтых гамонак! За ўвесь вечар Вяртун не даваў нікому раскрыць рота, гаварыў і гаварыў сам.

— Другім разам, Рыгоравіч,— сказаў Сліж, бо ён ужо за гады знаёмства з Вертуном чуў ад яго гэтую гісторыю. Чуў, як Вяртун у партызанах меў заданне пайсці ў Барысаў і звесці са свету бургамістра, як яму даручалі забіць у Мінску Кубэ, але нешта яму ў апошнюю хвіліну перашкаджала зрабіць гэта. Чуў Сліж, як Вяртун быў і перакладчыкам. Не раз і на ўсякія лады.

— Пачакай, ты слухай мяне,— перапыніў усіх Вяртун.— Адкуль я так добра шпрэхен дойч? Я некалі любіў вучыць мовы, шмат моў ведаў: англійскую, польскую, французскую, нямецкую...

— Кітайскую...— паіранізавала Ніна.

— Кітайскую...— падхапіў яе словы Вяртун, пасля спахапіўся, зірнуў на Ніну з незадавальненнем.— Кітайскую — не... Балгарскую, польскую, нямецкую...

— Вы ўжо гаварылі...— усміхнуўся Сліж, але з адчаем убачыў, што Вяртун стаптаў, скруціў нагамі газету, натрос на дыван пяску.

— Я і яшчэ многа знаў ды забыўся, цяпер добра помню толькі нямецкую,— не ўгамоньваўся Вяртун.— Дык вот у Шлісербурсе, не, у Шлідэрбурсе выклікаюць мяне да камандзіра дывізіі, да генерал-маёра...— ён на міг задумаўся, а пасля раптоўна ўспомніў і прозвішча.— Да Сідарава. Дык вот Сідараў і пытаецца: «Добра ведаеш нямецкую мову, лейтэнант?» — «Добра»,— адказваю я. «Дапытаеш зараз палоннага генерала»,— кажа Пятроў.

Сліж добра ведаў, што і цяпер, праз столькі гадоў пасля вайны, Вяртун толькі сержант запаса, але прамаўчаў.

— Дык вот Пятроў націскае кнопачку: маўляў, прывядзіце палоннага генерала...

— Дык Сідараў ці Пятроў? — перапыніла, насміхаючыся, Вертунову гамонку Ніна.

— Пятроў... Аляксей Іванавіч...— мігам адказаў Вяртун.— Генерал-лейтэнант... А палонны таксама генерал быў,— ён прыжмурыў вока,— не нейкі там капрал ці нават маёр.

Вяртун расказваў, як дапытваў генерала, што той адказваў, а пасля задумліва прамовіў:

— Я ж Кубэ, хлопцы, меў заданне знішчыць... Ды не змог прайсці ў тэатр, дзе Кубэ глядзеў спектакль. Так што я мог мець званне Героя... Вяртун меў бы,— ён усхліпнуў, прыклаў руку да грудзіны.

— Дык вы ж і бургамістра барысаўскага мелі заданне ліквідаваць — схаваўшы іронію, падказаў Сліж.

— Яго — не. Ён быў для мяне муха... На яго іншыя палявалі...

— Вы ж неяк раз расказвалі...

— Нічога я табе не расказваў...

— Дык вы, можа, скажаце, што і перакладчыкам не былі? — усміхнуўся Сліж.

— Не быў,— напраўду забыўшыся пра сваю нядаўнюю гутарку, узгарачыўся Вяртун.— Я служыў танкістам. «Там, где пехота не пройдет, не пролетит стальная птица, Вертун на пузе проползет, и ничего с ним не случится»,— ён засяваў хрыплым голасам, замахаў рукамі.

І Сліж, і Ніна, канечне, абое ведалі, што цяпер будуць ужо доўга спявацца песні, што яшчэ не хутка Вяртун пойдзе адгэтуль. Ды сам ён, па сваёй ахвоце, бадай, ніколі не пойдзе... Будзе весяліцца аж да раніцы, пакуль не ісці на работу... Было ж ужо не раз...

— Позна ўжо,— паднялася, пачала збіраць са стала Ніна пустыя талеркі.

Першы падхапіўся Пеця. Ён увесь вечар амаль не вымавіў і слова, сядзеў ды слухаў усіх, пасміхаўся. Ніна міргнула: ты, Пятро, яшчэ пасядзі, гэтыя словы не для цябе!

— Аллес фэрштэен,— устаў і Вяртун, захістаўся і зноў гопнуўся на канапу, што аж зазвінелі ў секцыі талеркі ды чаркі.— Я не малады ўжо, дарога шлехт — завязіце мяне дадому...

— Як жа мы вас павязём? — аж спалохалася Ніна.— Ноч, дарога кепская, машына неабкатаная... Не, я не дапушчу, каб машыну хоць з двара вывелі...

— Дык табе машына даражэй за чалавека?! — узлаваўся Вяртун.

— Гэтага чалавека ніхто сюды не прасіў...— агрызнулася Ніна, і Сліж адчуў: яна раззлавалася, цяпер можа гаварыць абы-што.

— Не падвязеш? — Вяртун зірнуў толькі на Сліжа. Сліж паціснуў плячыма: што я? Ніна не дазваляе.— Не? Тады я сыходжу ад вас, і ніколі мая нага тут больш не ступіць... Але я ўспомню табе гэта, Сліжышча! Я табе і машыну, я табе і такую тваю школьную работу дам! Хітрун ты, нікчэмнішэн мэнш!

Вяртун падаўся з залы ў калідор, узяў паліто і выйшаў з кватэры. Грукнуў за сабою дзвярыма.

— Няхай ідзе! — сказала Ніна.— Ён не самы вялікі твой начальнік,— зірнула на Сліжа,— самы вялікі ў школе Рагатка... Рагатку падвезлі б, а ён, Вяртун, няхай і пяшком праскочыцца...

Пеця слухаў-слухаў, засаромеўся ды пайшоў у калідор.

— Пачакай, Пятро,— прыпыніла яго Ніна.— Хадзі тое-сёе пакажу.

Пеця пайшоў за імі ў спальню. Здаецца, здзівіўся: якая яна шыкоўная! На падлозе, на сцяне былі дываны, на драўляных ложках — каляровыя дарагія пакрывалы.

Ніна дастала з шафы пару пыжыкавых і бабровых шапак, кіпу мужчынскіх світэраў, зімовых мужчынскіх чаравікаў, жаночых ботаў, шапачак.

— Выбірай, што табе трэба,— усміхнулася яна.— Грошы заўтра аддасі. Канечне, з надбаўкаю... За фатыгу... Надбаўка — яблыкі, сыр ці мяса...

— Во,— успомніў Сліж,— Васілец прасіў у мяне, каб ты яму прывязла добрую вушанку.

— У мяне многа такіх Васільцоў...— махнула рукою Ніна.— Хто ён такі мне? Брат, сват? А ты выстранчай перад ім, каб ён яшчэ цябе на педсаветах носам тыцкаў...

— Праз год-другі, можа, дырэктарам будзе...— усміхнуўся Сліж. Крышку незалюбіў, што Ніна гэтак усё паказала Пецю.

— Вось праз год-два я яму і дам шапку,— сказала як адрэзала Ніна,— а цяпер во яму дам... Ды другому каму патрэбнаму...

...Уночы Сліж падхапіўся: яму здалося, што загула пад вокнамі машына. Падбег да акна, затуліў шчокі далонямі і з хваляваннем зірнуў на двор: машына, бялеючыся ў цемені, стаяла. Ён пастаяў крыху, паглядзеў, ці не ходзіць хто ля яго машыны, а потым, уздыхаючы, вярнуўся да свайго цёплага ложка...

## 7

Таццяна Сяргееўна вярталася дадому. З кіно. Побач ішоў Лёня — прыезджы журналіст. Прозвішча яго не ведала: пазнаёміліся нядаўна ў клубе.

— Як цёмна! — басавітым голасам сказаў Лёня, трымаючы яе пад руку.— Іду вось і нічога не бачу.

— Прывыклі хадзіць па асфальце, пры ліхтарах,— усміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Я вось таксама гараджанка, таксама некалі шпацыравала і ўночы пры святле, але тут, у вёсцы, прывыкла ўжо і да цемнаты. Усё бачу.

Лёня ступіў у калявіну, спатыкнуўся. Яна ледзьве ўтрымала яго.

— Прабачце,— папрасіў,— цёмна...

«Культурны. Разумны і прыгожы. Словам, хлопец што трэба!»

Звярнулі са сцежкі, пайшлі пасярод вуліцы. У калявінах нібы паблісквала вада: і з заслоненага хмарамі неба падала скупое святло. Зрэдзь свіціліся далёкія зоркі. Мясцінамі выяснівалася разлітае пяшчотнае святло Млечнага Шляху.

— Апішаце гэтую ноч? — усміхнулася Таццяна Сяргееўна, адчуваючы, што ім становіцца цесна ісці разам па вузкім грудзе і яны ўсё часцей пачынаюць бліжэй прытульвацца адно да аднаго.

— Можа, і апішу...— усміхнуўся і Лёня, зноў прыхіліўся, нібы трымаючы, каб яна не абступілася ў калявіну. Яна не адхінулася, адчула: часцей забілася сэрца.— Хоць я прыехаў сюды пісаць не лірычныя творы, а нарыс пра маладых рабочых саўгаса... Пра нашых сучаснікаў, равеснікаў...

— А пра нас, грэшных, маладых настаўнікаў, успомніце? — з гарэзнасцю запытала яна.— Відаць, не. Ведама: мы не сеем, не жнём, наша праца не ў тонах ці пудах малака, мяса! Мы ўсяго толькі вучым дзетак, і наша работа надта не відаць...

— Я разумею вашу іронію...— прамовіў Лёня.— Ведаеце, неяк заведзена перш за ўсё і ў маладзёжных выданнях пісаць пра маладых рабочых, вучоных, спартсменаў. А пра маладых настаўнікаў... Неяк і рэдка дзе што бывае ў друку... І я вось, журналіст, уяўляю партрэт равеснікаў вучоных, рабочых, спартсменаў, а партрэт маладога настаўніка-сучасніка... Далібог, і кепска ўяўляю...

— І мы ж людзі...— сказала Таццяна Сяргееўна.— І працуем, важную работу маем, і марым, кахаем, памыляемся, шукаем свайго месца ў жыцці... Дык чаму б вам не напісаць і пра нас, маладых настаўнікаў. І ў нашай школцы ёсць цікавыя людзі. Лілія Іосіфаўна, Павел Мікалаевіч, Сліж... Цікавыя характары...

— А вы?

— А я, як усе кажуць, дзіўная, незразумелая...

— І я чуў...

— Гавораць пра мяне шмат...— перапыніла яго.— І ўсяго. Бо я не прывыкла яшчэ да вёскі, а вёска яшчэ не прывыкла да мяне. Але я хачу быць такой, якая ёсць. Не хачу нацягваць на твар маску...

Лёня маўчаў.

— Хоць, кажуць, што ўсе мы, маладыя, цяпер не такія, як былі нашы бацькі...— прамовіла Таццяна Сяргееўна.— І яно, відаць, гэта і так. Змянілася жыццё, і мы неяк па-новаму ідзём... Бо і ў жыцці цяпер шмат новага. Нашы бацькі жылі ў нястачы, марылі пра лепшае, пра сённяшняе, а мы яго ўжо маем... Вось некаторыя і насыціліся змоладу, сталі мяшчанамі. Некаторыя думаюць: куды ж ісці, што рабіць? А некаторыя бунтараць, шукаюць сапраўднай ісціны... Так што і мы, маладыя, розныя людзі... Характары, як казала ўжо...

Недзе далёка загуў матацыкл. Бліснуў доўгім праменнем — павярнуў сюды. Ехаў хутка. Высвечваў хаты, платы, слупы.

«Сініцкага матацыкл...— пазнала.— Наўмысна сюдою едзе. Хоча паглядзець: іду з журналістам ці не? Бачыў, што разам з клуба выйшлі... Хай паглядзіць! Хай ведае, як усё расказваць людзям... Казалі ж мне дзяўчаты: усім хваліўся, што ў нас было... Мярзотнік! Праз яго прыйшлося ехаць у бальніцу. Вось гэтыя дні зноў чэпіцца. Ці не хоча памірыцца? Але не... Любіла дык любіла, раз разлюбіла дык разлюбіла...»

Сініцкі пад'ехаў. Напружыўся і Лёня. Потым павярнуўся да матацыкліста.

— Давай, едзь! — смела крыкнуў.— Абыдземся і без эскорту!

Сініцкі са злосцю газануў, панёсся па вуліцы. Следам за ім пабегла цемра. Загусцілася.

— Ваш кавалер?

— Былы,— адказала яна.— Але вось мы і дайшлі да маёй рэзідэнцыі.

Сышлі з вуліцы. Сталі ля высокай цёмнай брамы.

— Холадна? — усміхнулася.

— Ды не горача...

— Што ж, дзякую за кампанію,— падала руку.— Бяжыце ўжо назад, у Вішнёўку. Думаю ж, не заблудзіцеся?

— Ды не,— адказаў.— Але я хачу яшчэ пагаварыць з вамі пра жыццё-быццё, пра вёску...

— Тады не будзем мерзнуць, хадзем у веранду.

Адчыніла вароты, прытрымала — каб не зарыпелі. Калі ўвайшоў у двор і Лёня, зачыніла, узяла на кручок. Прайшла ля плота, ціхенька адчыніла брамку — у гародчык.

— Прыгінайцеся,— прашаптала. І сама прыгнулася — каб не было відаць галавы праз вокны. Ён тупаў ззаду, ломячы сухія сцябліны кветак. Відаць, гэтаксама прыгінаўся. І ад гэтага — як бы ад нейкай таямнічасці, змовы — канечне, адчуваў тое, што і яна,— хваляванне.

Абмацала на зямлі тугую кветку, вырвала. Абцерабіла. Узышоўшы на невялікі ганак, прасунула сцябліну ў шчыліну між дзвярэй і вушака, падняла ўверх кручок і адчыніла дзверы. Ціха зайшлі. Тады яна зноў замкнула дзверы — зашчапілася.

Пахла яблыкамі. Збоку стаялі скрынкі. Адна на адной. У іх, перакладзеныя саломаю, ляжалі буйныя антоны. Побач скрынак стаялі пустыя бутэлькі, слоікі з варэннем, ляжалі парожнія каробкі з-пад тортаў, з-пад макаронаў. Справа стаяў нізкі тапчан. Тут цёплаю парою, увесну ды ўлетку, яна спала. Тут шмат начэй прашапталася ды цалавалася з Сініцкім, не здагадваючыся, якая ў яго душа.

Таццяна Сяргееўна ўзяла Лёню за руку, пасадзіла на цвёрды тапчан. Сама, усё ведаючы, вобмацкам падышла да скрынак, адхінула на адной скрынцы мяшок, узяла дзве буйныя антонаўкі — тут ляжалі ўжо сцукраваныя, вельмі смачныя яблыкі. Вярнулася, села побач.

— Частуйцеся,— ціха сказала, абцерла далонню яблык і са смакам укусіла.— Колькі захочаце, столькі і ешце.

— Дзякую,— адказаў. Гэтаксама далонню выцер яблык, са смакам захрумстаў.— Добра! Рамантыка! Такога ў горадзе не будзе...

— Канечне... Хоць і ў нас нечага вашага не бывае...

...Лёня пацалаваў яе. Не зусім смела, нібы гадаючы: «Адштурхне? Узлуецца?» Яна не ўзлавалася, не адсунулася. Ён пасмялеў.

«І я не магу адштурхнуць яго...— падумала.— Ён мне вельмі падабаецца. Такая я ўжо: калі ўпадабаю, дык не магу гэтага таіць...»

— Як толькі цябе ўбачыў, дык ты і спадабалася...— шаптаў ён.— Ты тут самая прыгожая... Цяпер я часта буду сюды прыязджаць. Дзеля цябе. Чуеш?

Яна маўчала.

А ён, ужо зусім асмялеўшы, абняў яе, моцна пацалаваў. І, здаецца, нібы высока-высока падняў яе над зямлёю, што ў яе закружылася галава.

— Пачакай, я сама...— прамовіла і аж сама здзівілася, што яна яшчэ пра нешта кеміць.

Ён прыпаў да яе. Маўчаў. Ліхаманкава цалаваў у вусны, у шыю.

Яна адказвала доўгімі пацалункамі.

— Пажэнімся, у сталіцы жыць будзем...— здаецца, чула яна. А можа, і не чула. Мо ёй усё гэта здавалася.

— Ну, будзь здарова! — зноў пацалаваўшы, сказаў ён.— Значыць, сустрэнемся заўтра тут. Я дам табе свой адрас, і ты прыедзеш у нядзелю. Добра?

Гаварыў як бы спяшаючыся, каб яна паверыла. Можа, ужо крышку і сарамеўся. І ў яе спала гарачыня, вярнуўся розум ды заявіўся сорам.

— Добра,— сказала яна, падставіла яму вусны, неяк не хочучы, каб ён ужо адыходзіўся.

Ён ужо без прагі, а дзеля прыліку пацалаваў яе і пайшоў. Зрабіў адзін, другі крок ад варот і вось знік у цемнаце.

«А я і не помню, які ў яго твар...— падумала сабе, стоячы ўжо адна ля варот і зноў адчуваючы, што пры ёй і адзінота. Нікуды, выходзіць, яна не ўцякла. Абманула, што ўцякае.— Як, можа, і ён цяпер мала мяне помніць...»

Пастаяла, паслухала, як ён адыходзіць.

«Здаецца, бяжыць... Чаго? Нібы ўцякае ад усяго гэтага, ад мяне...»

Павярнулася, паціху патупала. Ужо да сянец. У хату. Да цёплай пасцелі.

«Чамусьці сорамна... Не люблю сябе... Нашто ўсё гэта было? І вось так заўсёды... Але і заўсёды забываю пра гэта, каб потым зноў, як вось цяпер, каяцца! І чаму так? Нейкая я не такая, як усе... І люблю, і ненавіджу сябе за свой характар, за сваё жыццё... Але не магу сябе перайначыць. Відаць, сапраўды мне трэба выходзіць замуж. За таго, хто трапіцца пад руку. Каб было нешта адно, каб не адчуваць вось гэтага, што адчуваю цяпер».

Пацягнула за клямку дзвярэй. Яны былі незамкнёныя. Адчыніла, пайшла ў хату. Да сваёй бяссонніцы.

Назаўтра Лёні не дачакалася.

Яшчэ праз дзень пачула, што ён паехаў з Вішнёўкі раніцай — пераначаваў і, не сеўшы ў гаспадароў за стол, паспяшаўся на аўтобус...

## 8

Райана сёлета быў у новым доме райвыканкома, на першым паверсе.

Васілец зайшоў у прыёмную загадчыка райана і знерухомеў: там сядзела не толькі маладая прыгожая сакратарка, але на адным з крэслаў сядзеў яшчэ і... Вяртун.

Той — ужо без паліто, у рудым касцюме, што быў паношаны ўжо і да прыезду Васільца ў Міланькі, у белай кашулі і, бадай, упершыню за гэтыя гады пры гальштуку, у наваксаваных чаравіках — гэтаксама зірнуў на яго са здзіўленнем. Але, здаецца, гэтае здзіўленне было толькі на міг, бо тут жа твар яго спахмурнеў — абвіслі ўніз светла-рыжаватыя бровы, амаль закрыўшы невялічкія вочкі, сабралася шмат маршчынак у кутках вачэй і на пераноссі, тонкія губы моцна сціснуліся. Быццам тое, што прыйшоў сюды ён, Васілец, было для яго вельмі кепска.

— І цябе сюды выклікалі? — запытаў Вяртун.

— Ага,— адказаў Васілец, сеў ля Вертуна і паставіў ля ножак крэслаў цяжкую сумку — паспеў ужо тое-сёе купіць для дому.

— І мяне во паклікалі на дзевяць гадзін,— прамовіў Вяртун, яшчэ болей насупіў бровы, ад чаго ў яго на пераноссі з'явіліся не толькі маршчыны, але і тры глыбокія ямачкі. Выдыхнуў і зірнуў у акно: праз яго насупраць бачыўся невысокі гараж з шырокімі дзвярыма, зачыненымі на завалу; ля іх ляжала машыннае кола. Здаецца, ужо непатрэбнае, з'езджанае.

Вяртун, нібы супакойваючыся, паварочаў у роце языком, цмокнуў — і Васілец, як зірнуў на Вертуновы рукі, што далонямі ляжалі на каленях, убачыў, што на іх пабольшалі сінія жылкі і што рукі дробненька задрыжалі, гэтаксама задрыжалі і калені, захіляліся і рукавы пінжака.

«Што з ім? — здзівіўся сам сабе Васілец.— Ці яго вельмі напалохаў гэты выклік? Але чаго і яго, і мяне выклікалі? Можа, на нараду, як мы падумалі з Ларысаю?»

— Як вы сюды прыехалі, Міхась Рыгоравіч? — запытаў Васілец, наўмысна парушыў няёмкую цішыню.

— Ды на суседавай машыне,— з неахвотаю адказаў Вяртун, і гэта было ў навіну: Вяртун заўсёды быў кампанейскі чалавек. Хоць і пажартуй, пакпі з яго, старэйшага, пакрыўдзь — ён усё роўна будзе размаўляць з ласкаю, жартаваць, усміхацца. З усімі ён заўсёды добры, мілы, нікому ён не вораг.

— Распранайцеся, малады чалавек,— сказала сакратар-машыністка і, не пазіраючы на яго, пачала друкаваць.

Васілец падняўся, павесіў на вешалку старую, яшчэ студэнцкую, вушанку, куртку. Прычасаўся. Вяртун цікнуў, з нейкаю самотаю агледзеў яго. Позірк яго, здаецца, гаварыў: а мне ўжо такім не быць. Але нічога не прамовіў, адвярнуўся.

Васілец зноў сеў ля яго і, адчуваючы Вертунову перамену, больш не загаворваў, пазіраў на чысценькі пакой — на сцены, на новыя крэслы, на маладую прыгожую, але такую строгую сакратарку — а ёй вельмі добра пасавалі да твару сівы парык, белы світэр і шэрая шарсцяная безрукаўка — між тумб стала бачыліся яе стройныя ногі, на іх былі замшавыя бурачковыя туфлі на высокай платформе. Сакратарка, відаць, адчула, што на яе з захапленнем пазіраюць, зірнула з сарамлівасцю, сціснула ў каленях ногі, падабрэла.

Вяртун дастаў з ніжняй кішэні пінжака белую хустачку, выцер ёю спацелы лоб, далоні рук, а пасля раз за разам моршчыўся, абцягваў уніз каўнер кашулі, расслабляў гальштук, нібы той сціскаў яму горла і не даваў дыхаць.

Неўзабаве дзверы кабінета загадчыка адчыніліся — і адтуль выйшла жанчына сярэдніх гадоў; Вяртун падхапіўся, абцягнуў адно крысо пінжака, другое, пастукаў у дзверы.

— Вы ведаеце, чаго вас выклікалі? — нарэшце ўсміх-

нулася сакратарка.— Не ведаеце? Дык вось магу вас першая павіншаваць: вас павысяць... Так што з вас цукеркі...

Васільцу стала горача ў твар: дык вось чаго выклікалі Вертуна і чаму той сёння такі збянтэжаны, вось чаго выклікалі і яго! Запалымнелі шчокі, і ён не мог разабрацца, што робіцца ў яго на душы! Вялікая бура пачуццяў! Самых розных. Але, здаецца, найбольш няёмка. Перад Вертуном, настаўнікамі, перад Міланькамі — Вертуновай радзімай — і перад вось гэтай сакратаркай. Няёмкасць, сорам заглушылі ў душы радасць: як-ніяк яго ж выклікалі не лупікаць, а павысіць, паставіць на вялікую пасаду.

— Гавораць, што скора ў вашых Міланьках новую дзесяцігодку паставяць, вось вы такі... завуч,— усміхнулася,— я налета канчаю інстытут, дык магла б папрасіцца да вас, маючы на ўвазе, што вы, можа, будзеце і дырэктарам неўзабаве... Але ж вы жанаты ўжо. Ды такі пераборлівы: адхілілі нават такую красуню, як Таццяну Сяргееўну...

Яна, аднекуль усё ведаючы, жартавала, здзіўляла Васільца, але яму не хацелася жартаваць: у галаве былі іншыя думкі. Пра Вертуна, пра сябе.

Ён здзівіўся і паківаў галавою: адкуль яна ўсё ведае?

— Вы ведаеце пра мяне больш, чым я сам пра сябе!..— толькі ўсміхнуўся ён.— Вы, відаць, ведаеце, што ў мяне ўжо ёсць сын?

— А як жа! — усміхнулася і тая.— Здаецца, Віктар.

Васілец зноў паківаў галавою ад здзіўлення.

— Я ж з Іванам Сямёнавічам і з вашымі дзяўчатамі знаёмая, дык шмат ведаю пра вашы Міланькі,— прызналася яна...— Не раз самому загадчыку расказваю пра вашу школу. Вас вось на днях пахваліла... Сказала, што даўно пара ўжо гэтага замяняць...

Якраз выйшаў з кабінета Вяртун, са здзіўленнем ды нібы з пакутаю зірнуў і ўбачыў, што Васілец пасміхаецца. Быў чырвоны-чырвоны, што пераспелы памідор. Чырвонымі былі шчокі, лоб, вялікія залысіны. Васільцу стала брыдка, што ён спакойна пачуў сакратарчыны словы пра Вертуна.

— Цяпер табе...— кіўнуў Вяртун Васільцу галавою, хацеў яшчэ нешта сказаць, але, відаць, не мог болей гаварыць ад разгубленасці ці пры сакратарцы. Можа, падумаў, што Васілец і сам пра ўсё здагадаецца. Толькі хутка акінуў позіркам пакой-прыёмную, як не ведаў, за што зача-

ліцца вокам. Сакратарка гэтаксама не змагла вытрымаць яго позірк, апусціла галаву і пачала друкаваць.

Васілец моўчкі падаўся ў кабінет.

Зайшоў.

Селядцоў сядзеў за сваім сталом.

Да яго на бліскучай, пакрытай лінолеумам падлозе, ляжала доўгая малінавая, з дзвюма зялёнымі палосамі па краях дарожка, ля сцен стаяла шмат такіх — руда-зялёных,— як і ў прыёмнай, крэслаў. Над загадчыкам у вялікай пазалочанай раме вісеў партрэт Янкі Купалы.

Загадчык — пажылы, з невялікаю, стрыжанаю «пад вожык» галоўкаю, з прамым доўгім носам, з густымі рыжымі бровамі, у сінім касцюме і сінім світэры — сядзеў за бліскучым сталом. Ля яго абапал стаялі два мяккія крэслы.

— Можна? — запытаў з парога Васілец.

— Заходзьце, калі ласка, Павел Мікалаевіч,— мяккім, як жаночым, голасам адказаў загадчык. Галавы не падняў, нешта пісаў.

Але паказаў рукою: садзіся насупраць яго ў мяккім крэсле.

Васілец сеў.

— Ну, як жывяце, Павел Мікалаевіч? — запытаў, тут жа дапісаў і падняў галаву. І, не чакаючы адказу, зноў загаварыў: — Добра выглядаеце, Павел Мікалаевіч! Свежы, юны, прыгожы! Такі, якім бачыў вас і летам, на канферэнцыі.

— Ды які там свежы,— усміхнуўся Васілец.— Старэем пакрыху.

— Якая яшчэ старасць у вашыя гады?! Самая маладосць! — усміхнуўся.— Сама дзярзаць! — гаварыў і вельмі націскаў на гукі «о»: быў, як гаварылі, з Валагодчыны, партызаніў тут, палюбіў тутэйшую дзяўчыну і застаўся ў гэтым горадзе.— Настаўнік любіце, гарэлку п'яце?

— Не,— усміхнуўся Васілец.— Хіба пазней...

— Ну-ну! — як прыстрашыў Селядцоў.— Мы вось некаторых дырэктараў ды завучаў здымаем за гэта... Я чуў, што вы якраз сціплы мужчына, бацькам сталі вось, сына маеце... Віншую, жадаю ўсякага вам дабра! — а калі Васілец падзякаваў, запытаў: — Ну, як там жыве сябрук мой, дырэктар саўгаса? Усю бульбу выбраў? Не змарозіў?

— Выбраў,— адказаў Васілец,— і мы амаль усёй школай тыдняў з два памагалі.

— Ну, а як там другі мой сябрук, Іван Сямёнавіч? Не крыўдзіць ён там вас, моладзь?

Васілец не ведаў, як сябе паводзіць: ці адказаць з жартам, гэтак, як гаварыў з ім Селядцоў, ці расказаць тое-сёе, што было і ёсць у школе.

— Не, не крыўдзіць,— прамовіў ён.

Селядцоў, здаецца, зразумеў: ён толькі што гадаў, што гаварыць, а пра што лепш змоўчаць, і, ужо не чакаючы ад яго навін, як апраўдаўся:

— Івана Сямёнавіча я даўно ведаю, яшчэ з партызан. Вельмі разумны, начытаны, умее кіраваць, але, можа, залішне для дырэктара далёкай ад раёна школы капрызны ды самалюбівы. Не ўмеў вось раней утрымаць у школе добрых настаўнікаў, усё набіраў новых, маладых... Цяпер, пад старасць, прысмірэў крыху, ужо не баіцца за сваю пасаду, за аўтарытэт, дык пакідае і па некалькі гадоў моладзь у школе... Так?

— Я не так ужо многа працую з Іванам Сямёнавічам, каб ведаць яго палітыку...— усміхнуўся Васілец.— Але сёлета на яго напраўду няма чаго скардзіцца...

— Здаецца, дыпламат! — кіўнуў галавою Селядцоў.— Але вы, Павел Мікалаевіч, не падумайце, што я паклікаў вас толькі дзеля гэтай размовы... Не...— ён не дагаварыў, зірнуў на стол і ўзяў з яго адну паперыну.— Вось толькі што ваш завуч, Вяртун, падаў заяву, каб яго звольнілі з гэтай пасады...

Селядцоў падаў гэты ліст — і Васілец убачыў Вертуноў сёння чамусьці няроўны почырк. Ім было напісана: «Прашу зволіць па ўласнаму жаданню», а ў правым баку ліста былі Селядцовы словы: «Удовлетворить просьбу Вертуна М. Г.».

«Як так? — аж забілася сэрца. Моцна, балюча.— Што ж будзе цяпер з Вертуном? Гэта ж такі сорам для яго!..»

— Ну што вы на гэта скажаце, Павел Мікалаевіч? Чакалі ці не чакалі такога?

— Не чакаў...— прызнаўся Васілец.

— Але ж у душы адчувалі: рана ці позна, але будзе такое? Бо не мае права Вяртун быць далей завучам... І гэта вы там найлепш бачылі. Так?

Васілец прамаўчаў, пазіраў на паперыну. Не звычайная была гэта паперка, а важная, строгая: яна рашала чалавечы лёс. Вертуноў лёс.

— Гэта ўжо вырашана...— сказаў Селядцоў.— Цяпер трэба думаць пра іншае: каго паставіць завучам вашай школы?

У Васільца яшчэ мацней закалацілася сэрца, ільпула цеплыня да твару.

«Чаму іменна мяне выклікалі? Чаму не Лілію Іосіфаўну?»

— А паставіць завучам трэба некага з маладых. Самага здольнага і працавітага. Сумленнага і прынцыповага.

Васілец апусціў галаву, па-ранейшаму маўчаў.

«А хіба я такі? — думаў.— Не, я не такі. Дык як я магу быць завучам? Ды кім кіраваць? Старэйшымі і сваімі равеснікамі?»

— І яшчэ адно: мы павінны мець завуча ў Міланьскай школе з перспектывай. Праз год-другі пойдзе на пенсію Іван Сямёнавіч, дык трэба будзе і новы дырэктар... Раз вас выклікалі сюды сёння, дык, канечне, здагадваецеся: мы маем на ўвазе вас... Ну як, падраджаецеся на павышэнне?

— Я не магу апамятацца...— нібы зусім малое дзіця ўсміхнуўся, паціснуў плячыма Васілец.— Вы столькі ўсяго сказалі...

— Не гатовы былі да гэтага? — усміхнуўся і Селядцоў.— Нічога, не бяда. Але ж адчувалі: не век вам быць і настаўнікам. Трэба і расці, прыносіць больш карысці школе. Тым больш калі вы перараслі ўжо свайго завуча... Ці вы, можа, занадта ўжо мудрыя, шкадуеце свайго здароўя, баіцёся з кім пасканфліктаваць? Бо калі яшчэ настаўнікам вы маглі пражыць спакойна, быць сам па сабе, дык завучам ці дырэктарам няможна працаваць спакойненька, быць усім добранькім... Словам, гаварыце ўсё, што ў вас цяпер на душы. Бачу ж: нешта мучыць вас...

— Ну, першае: ці здолею я быць завучам? Гэта трэба ж не толькі вучыць дзяцей, але і глядзець, як працуюць настаўнікі, памагаць ім. Памагаць фізікам, хімікам, матэматыкам... А я ж па прафесіі мовавед...

— Думаеце, што замалады для такой пасады? — усміхнуўся Селядцоў.— Тады дарэмна робіце сабе такую палёгку. Успомніце, што ўжо рабілі ў вашыя дваццаць шэсць гадоў Лермантаў, Эйнштэйн, Багдановіч ці Гайдар!.. Вялікае ўжо рабілі, важнае для ўсяго чалавецтва...

— Гэта ўсё так...— згадзіўся, усміхнуўся Васілец.— Але ці былі, ці ёсць у мае гады гэтакія славутыя педагогі?

Не, здаецца, не было. І заўважаць, узнагароджваць настаўнікаў пачынаюць у іхпія сталыя гады...

— Так, педагогіка — такая навука, дзе трэба, каб чалавек шмат ведаў сам і ўмеў навучыць і іншых,— прамовіў Селядцоў.— Але і тут трэба пачынаць дзярзаць змоладу, дык у сталыя гады нешта і выйдзе... А вам, у васьмігодцы, фізіку, хімію, матэматыку сапраўды трэба ведаць, хоць за восем класаў. Хоць найболей трэба ведаць методыку: як найлепш выкладаць гэтыя навукі. Так што будзеце вучыць дзяцей, сам вучыцца, настаўнікам памагаць. Гэтак усе мы пачыналі і пачынаем... А па-другое, вы яшчэ сапраўды малады і ўсяго яшчэ добра не ацэньваеце. Завуч — гэта ўжо ўсё ж пасада. І не малая. Высокая і адказная. Пароюза яе і пазмагацца трэба. І часамі ідзе такая барацьба. А мы вас трымалі па прыкмеце і вось самі хочам даручыць вам адказную справу, хочам, каб вы раслі...

— Неспадзявана ўсё гэта, заранавата...

— Будзьце больш сур'ёзныя, мудрэйшыя...— сказаў Селядцоў.— А што мае тыя словы — праўда, дык магу вам сказаць тое-сёе па сакрэце. Толькі мы тут, у раёна, загаварылі між сабою, каб зняць Вертуна, як прыбягае да мяне адзін таварыш з Галінавіч. Просіцца: перавядзіце мяне з сярэдняй школы ў Міланькі, пастаўце завучам. І брат яго, які ў райвыканкоме вялікую пасаду займае, насеў: пара ўжо ацаніць, падвысіць яго братачку, які ўжо пятнаццаць гадоў працуе настаўнікам! І пайшлі хадзіць, націскаць па ўсіх. Ледзь адцерабіліся... Каб не памог райком партыі, дык маглі прыслаць да вас таго звадніка і няздару... Але райком быў цвёрда толькі за вас... Вось... Дык што скажаце на такое наша давер'е, на такую нашу ўвагу да вас, маладых, здольных?

— Ну, калі трэба, дык трэба...

— Значыць, так, згода? Тады віншую! — Селядцоў падняўся, падаў руку і моцна пацісніў Васільцову.— Віншую з першым павышэннем, зычу, каб яно было не апошняе! Расціце аж да міністра асветы! А з-за таго, што звольнілі Вертуна, вельмі не перажывайце: ён сам вінаваты, што не ўтрымаўся... Такое жыццё... Адных паніжае, трымае на адным месцы, а другіх павышае... Так трэба, такая рэальнасць...

Васілец усміхнуўся і — разгублены — нават забыўся, як можа забывацца дзіця, што трэба падзякаваць.

Потым Селядцоў узяў са стала яшчэ адну паперу, што, відаць, была загадзя напісаная, і пайшоў з ёю з кабінета. Адчыніў адны дзверы, другія.

— Танечка, аддрукуй загад,— сказаў ён сакратарцы, вярнуўся, але не сеў за свой стол, а прыпыніўся ля Васільца.

Васілец падхапіўся.

— Цяпер пагаворым, таварыш завуч, яшчэ пра адно...— прамовіў Селядцоў і ўзяў яго пад локаць.— Дазвольце мне, як старэйшаму, вам тое-сёе параіць. Хто такі завуч як асоба? Завуч — гэта самы лепшы настаўнік ды метадыст у школе. Ён павінен і сам даваць добрыя ўрокі, і павінен памагаць настаўнікам у працы, а гэтаксама павінен любога настаўніка, калі трэба, і прымусіць рабіць лепш. Сваіх маладых калег вельмі не цурайцеся, не задзірайце перад імі нос, бо яны вас за гэта знялюбяць. Але і не старайцеся быць з кожным за панібрата: вы ўсё ж адзін з кіраўнікоў... Усю вучобу ў школе бярыце ў свае рукі, не бойцеся пакрыўдзіць Івана Сямёнавіча... Я пра гэта з ім гаварыў... Да гаспадарчых, іншых клопатаў Івана Сямёнавіча вельмі не ўваходзьце: няхай яму, старому, будзе прыемна, што ўсё ж ён быў і ёсць кіраўнік школы...

Яны некалькі разоў прайшліся туды-сюды па кабінеце, пакуль сакратарка не прынесла паперы. Селядцоў зноў сеў за свой стол, падпісаў паперы, а пасля дастаў з тумбы стала сінюю новую папку, адвязаў белыя шнуркі, разгарнуў вокладкі, накалоў папяровы ліст на жалезныя зубчыкі. Другі ліст, копію, падаў Васільцу.

— Пакажыце Івану Сямёнавічу,— прамовіў ён, калі паклаў папку ў тумбу.— І яшчэ ёсць адно, Павел Мікалаевіч, пра што вы ці па сціпласці, ці не ведаючы прамаўчалі. Дагэтуль, як я бачыў па ведамасці, вы мелі трыццаць пяць урокаў у тыдзень. Гэта амаль дзве стаўкі. Вам выходзіла звыш ста шасцідзесяці рублёў у месяц. З заўтрашняга дня па нашых законах вы будзеце мець толькі семдзесят пяць рублёў за завучаўства ды плату за двапаццаць урокаў у тыдзень... Значыць, вам выйдзе недзе ля ста дваццаці рублёў...

Селядцоў прамовіў гэта, з увагаю зірнуў — Васілец не вытрымаў яго позірку.

«Розніца ў плаце, канечне, ёсць. А Ларыса яшчэ амаль год не будзе працаваць... Сын...»

— Не расчароўвайцеся, Павел Мікалаевіч,— усміхнуў-

ся Селядцоў.— Я думаў пра гэта... Зусім кароткі час вы будзеце мець менш, як маеце цяпер, але з той восені — мне пра гэта сказалі нядаўна ў міністэрстве — плата настаўнікам, надта маладым, будзе большая. А з першага студзеня будзе большая стаўка дырэктарам і завучам. І намнога большая. У мяне нават такія-сякія лічбы ёсць,— ён дастаў з унутранай кішэні блакнот, пагартаў яго.— Цяпер вы са сваім стажам работы за стаўку, за васемнаццаць гадзін у тыдзень, маеце восемдзесят рублёў, а хутка будзеце мець сто. Новая завучаўская стаўка вам будзе сто пяць рублёў. Так што скора ўсё будзе добра, ва ўсім будзе вялікі рост...

Васілец выйшаў з загадчыкавага кабінета. Збянтэжыўся пільнага сакратарчынага позірку, засаромеўся.

Калі прайшоў далей, сцяўся: апрануты ўжо ў паліто, трымаючы ў руцэ вушанку з чорным хромавым верхам, сядзеў на крэсле ля вешалкі Вяртун. На яго шчоках былі чырвоныя плямiны, сам ён быў нейкі напалоханы, упацелы.

— Ну, што? — падхапіўся ён і запытаў з нейкаю схаванаю для сябе надзеяю.

— Вот...— Васілец паказаў яму копію загада, заліваючыся чырванню.

— Ну, віншую! — апалым голасам, але з прымусовай усмешкай прамовіў Вяртун, падаў руку і нямоцна паціснуў, пазіраў неяк ужо па-новаму — ці то з зайздрасцю, ці то з вялікаю павагаю: вейкі яго міргалі, а губы, крышку выцягнуўшы і ўтварыўшы ля чырвоных шчок ямачкі, сціснуліся як бы ў плаксівай адчайнай міне.

«Ну, чаго ён тут сядзеў дагэтуль? — падумалася Васільцу.— Ішоў бы куды: і яму, і мне лягчэй было б».

Яны развіталіся з сакратаркай; і тут, у прыёмнай, і калі выходзілі з будынка, Вяртун наўмысна далёка саступаў, прапускаў выйсці Васільца першым.

Моўчкі выйшлі на светла-белы двор, што аж асляпіў вочы: шарэлася неба, сыпалася белым сухім снегам, што выбельваў дахі дамоў, вуліцы, хоць нідзе падоўгу не ляжаў: парывамі налятаў вецер, змятаў яго да абочыны, да сцен дамоў, дзе ўжо ляжаў уцвярдзелы першы снег.

Вяртун, апусціўшы галаву, плёўся побач. Маўчалі. Канечне, абодва думалі пра адно і тое ж.

— Я хачу зайсці яшчэ ў кнігарню,— сказаў Васілец, калі выйшлі на галоўную вуліцу, а пасля мінулі гарадскую плошчу.

— Пайшлі,— падахвоціўся ісці разам з ім і Вяртун.

Яны звярнулі ўлева, прайшлі па асфальтаванай сцежцы між густых, усыпаных снегам насад з дэкаратыўных дрэвак-кустоў, зайшлі ў кнігарню, што была на першым паверсе цаглянага трохпавярховага дома.

Васілец спачатку падаўся ў правы кут кнігарні, да аддзела «Беларуская літаратура», пачаў глядзець новыя кнігі. Убачыў на адной з паліц дзве першыя кнігі прозы маладых пісьменнікаў, знаёмых па вучобе хлопцаў. Узяў іх.

— Я і не чуў нават пра такіх...— прызнаўся Вяртун, ходзячы збоку.— Чуў толькі пра тых, чые творы вывучаюцца ў школе...

— Гэтыя хлопцы ўжо шмат друкаваліся, іх хвалілі крытыкі,— усміхнуўся Васілец.

Вяртун прамаўчаў.

Васілец падышоў яшчэ да іншых аддзелаў, дзе былі кнігі рускіх і замежных пісьменнікаў, выбраў чатыры новыя кнігі, дзве кнігі ўзяў і ў аддзеле «Педагогіка, метадыка».

— Столькі грошай аддаць на кнігі не шкадуеш...— ужо на дварэ нібы пажартаваў, нібы напраўду сказаў Вяртун.— Пэўне, за гэтыя грошы паўдзесятак пляшак віна выйшла б...

— Віно — атрута, а кнігі — розум,— з жартам адказаў яму Васілец.

— Віно — напраўду атрута,— згадзіўся Вяртун.— З-за спірытусу такія вялікія розумы — не раўня майму — гінулі... Але ж віно — і радасць... А ў цябе сёння, Павел Мікалаевіч, як ні гавары, радасць, падзея. Дык і трэба адсвяткаваць. У рэстаран нам не варта ісці, а вот у сталоўку на Якуба Коласа можна завярнуць.

«Вып'е — усё мне выгаварыць...— падумаў Васілец.— Але ж некалі ўсё роўна будзе гэтакая гутарка. Дык лепш, калі раней...»

У светлым фае сталоўкі яны распрануліся, аддалі вопратку, сумку, пакунак з кнігамі гардэробшчыцы, узялі нумаркі і праз шырокія шкляныя дзверы падаліся ў вялікую залу, дзе сядзела і палуднавала ўжо шмат людзей.

— Гэта добра, што такі вялікі гурт. Менш кідацца ў

вочы будзем...— як абрадаваўся Вяртун, і яны сталі ў чаргу.— Але ты бяры тое-сёе на свой густ, а я пайду знайду дзе ў кутку месца. Вазьмі толькі піва, бо да піва даюць і шклянкі...

Вяртун аддаў яму свой паднос і пайшоў у канец залы, матляючы шырокімі калашынамі. Пінжак на плячах быў цесны, нацягваўся, клубы былі шырокія, як у добрай маладзіцы.

«Пастарэў Міхась Рыгоравіч, пастарэў...» — пазіраючы таму ўслед, падумаў Васілец.

Ён, калі падышла чарга, узяў ежы, пляшку піва. Разлічыўся з касіркаю, занёс да Вертуна адзін паднос, потым — другі.

Калі сеў, Вяртун падміргнуў яму, з пільнасцю агледзеў залу, пасля апусціў рукі пад полы пінжака, пакорпаўся там і неўзабаве дастаў адтуль адкаркаваную пляшку, хуценька набулькаў амаль поўныя шклянкі, схаваў зноў пляшку пад пінжак, пасля даліў шклянкі півам, зафарбаваўшы белае пітво.

— Парадак! — бадай, упершыню з задавальненнем усміхнуўся Вяртун.— Піва, і ўсё тут! — а пасля і падміргнуў яшчэ левым вокам.— Я ўжо зубы з'еў на гэткіх во хітрыках... Я табе куды хочаш прынясу пляшку і вып'ю, каб ніхто не змеціў... Ну, Павел Мікалаевіч,— потым ён раптоўна пасур'ёзнеў,— яшчэ раз віншую цябе з новаю пасадаю! Папрацуй, паглядзі, як даецца гэты хлеб... Цяжкі хлеб. Але ты пацягнеш, бо хлопец ты кемны, цягавіты. Для школы горш не будзе, што мяне спаролі, а цябе паставілі... І не думай, што я буду дзьмуцца на цябе... Я ўсё разумею... Сам не ўтрымаўся. І ў час нялёгкі я жыў, і сам шмат прашляпіў... Я ж гаварыў ужо табе: да вайны я толькі дзевяць класаў скончыў, у вайну падлеткам у партызаны пайшоў, потым на фронце быў, пасля вайны неяк адразу ажаніўся... Рабіў у школе і завочна вучыўся ў настаўніцкім інстытуце. Думаў, абы здаць, абы мець які дакумент. Думаў: навек хопіць майго дыплома, майго розуму і маіх заслуг... Вот і адстаў: лічы, больш і не браўся за кнігу. А каторыя з маіх аднагодкаў мудрэйшыя, хітрэйшыя былі, ведалі, што без навукі не ўцалееш, дык настаяшчыя інстытуты накапчалі, самі яшчэ і потым вучыліся. Дык і цяпер на розных пасадах добра сядзяць, дынамітам іх не падарвеш і маладымі іх не заменіш! А такіх во бесталковых бэйбусаў, як я, замяняюць маладымі, больш адукава-

ымі... Ды яшчэ характар мой!.. Ніяк не навучыўся я мець свой характар, змалку прывык, думаю, што нехта за мяне разумнейшы, што нехта другі для мяне як бацька, а я павінен толькі слухацца... Словам, параю табе: і век сам вучыся, і будзь смелы, не бойся сказаць іншым у вочы праўду, навучыся прыцісkaць — і ўсё будзе добра. Ну, удач табе! — ён усміхнуўся.— А мяне, асаромленага, каб не крыўдзіў! Каб не паказваў перад усімі, што я цяпер... што ты, словам, пяпер нада мною...

— За парады і шчырасць дзякую,— апускаючы галаву, адказаў Васілец.— А крыўдзіць вас — у мяне такой думкі няма...

Елі з апетытам: абодва прагаладаліся.

— Хадзем яшчэ ў магазін...— калі выйшлі са сталоўкі, запрасіў Вяртун.— Яшчэ тое-сёе возьмем...

— Не, хопіць,— адразу ж адмовіўся Васілец.— Ды трэба пахадзіць па магазінах: Ларыса дала шмат заказаў.

— Будзе жывая твая Ларыса. Не вельмі ты слухай жонкі...— настойваў Вяртун.— Давай з'ездзім да майго добрага партызанскага сябра. Пачуеш, як я ваяваў... Я расказваў вам, дык вы думалі, што я хвалюся. А я не хваліўся. Я не шкадаваў сябе, я ўсё рабіў для перамогі...

— Што вы, чаго я паеду да незнаёмага чалавека?! — зноў адмовіўся Васілец.

— Ну, як знаеш...— як пакрыўдзіўся Вяртун і адышоўся.

Ля аўтастанцыі Васілец, калі ўжо тое-сёе купіў з адзення і харчу, убачыў шмат міланьскіх і вішнёўскіх людзей, зноў са шчымлівасцю адчуў няёмкасць.

«Канечне, усе зірнуць на мяне і адразу змецяць: я завуч... Можа, нічога такога і не скажуць мне. А вось падумаюць усякае...»

Заўважыў: сярод людзей была і Ірына Васільеўна. Яшчэ нядаўна сімпатычны круглы яе твар быў цяпер схуднелы, з цемнаватымі плямкамі, і Васілец, ужо тое-сёе ведаючы пра цяжарных жанчын, падумаў: «Яна павінна нарадзіць дачку!»

Ірына Васільеўна, як пасля ўбачыў Васілец, была не адна: з ёю прыехала ў горад і свякроў, цёця Ядзя. Мусіць, баялася, каб не здарылася што кепскае з нявесткаю: яе яна палюбіла і хваліла ўсім людзям.

Васілец падышоў да кабет.

Праз паўгадзіны вярнуўся Вяртун. Ішоў ён сюды, да

аўтастанцыі, праз плошчу; шапка-вушанка была на баку галавы, наехала і адтапырыла левае вуха, адзін канец шаліка выехаў з-пад паліто і развяваўся, у зубах была цыгарэта. Вяртун, нахіліўшыся ўправа, нёс у вялізнай сетцы хлеб і абаранкі. Быў ужо хмурны, нават грозны. Ён адразу ж, як наблізіўся, выхапіў позіркам з вялікага гурту людзей толькі яго, Васільца, і яму ў гэтую хвіліну хацелася сысці адгэтуль.

— На адно слова, таварыш завуч...— як падышоў, трошкі з іроніяй сказаў ён, а пасля папрасіў выбачэння ў цёці Ядзі і Ірыны Васільеўны. Тыя адышліся, адступілі далей ад людзей і яны. За аўтастанцыю.— Не захацеў са мною...— папікнуў Вяртун, выкінуў з рота цыгарэціну, толькі ў куточках вуснаў засталіся тытунёвыя крошкі.— А я нікуды не ездзіў. Я адзін... І во яшчэ ўзяў з сабою,— ён адхінуў крысо паліто і паказаў рыльца пляшкі віна, што была засунута ў кішэню штаноў.— Давай во чыкшмык... Цукерка вось...

— Не, дзякую,— адмовіўся Васілец.— І так галава кружыцца. Хопіць.

— Не хочаш ужо з намі, падначаленымі, знацца! Аўтарытэт трымаеш, рэпутацыю...— папікнуў ён, зморшчыўся: са стрэшкі сянец-пачакальні для шафёраў сыпнула на яго белаю крупою снегу.— Гэта я дурны быў, не важнічаў, не задзіраў нос, сяброў паважаў, бо Вяртун ёсць Вяртун,— ён бухнуў сабе кулаком па грудзіне, што з паліто пасыпаўся не толькі снег, але і пыл,— бо мы, Вертуны, усе такія. Нікс шлехт нікому не рабілі і не зробім... Хіба толькі Рагатку я яшчэ некалі тое-сёе прыпомню: гэта ён мяне стурыў. Я да яго на тым тыдні, як ішоў ад Сліжа, зайшоў і добра падсыпаў яму. Усё сказаў, што ў мяне на душы было...— ён зморшчыўся, зноў стукнуў сябе па грудзіне.— Вот ён на днях і з'ездзіў у райана, нагаварыў усяго на мяне... Некалі, калі мы маладзейшыя былі, калі я памагаў рабіць яму тое, што ён задумваў, дык я трэба быў: і маімі рукамі ён жар заграбаў... А цяпер я яму не трэба, цяпер ты ўжо яму трэба... Так, як ён, добрыя дырэктары не робяць. Яны не толькі дрыжаць за сваю пасаду ды за свой аўтарытэт, але спачатку расхваляць, падымуць аднаго настаўніка, другога, завуча. Маўляў, добрая школа. А зверху тады ўжо хваляць і яго: добрая школа, бо і ты добры кіраўнік... А ў нас наадварот. Наш век толькі сябе хваліў, век стараўся добрага настаўніка выжыць са шко-

лы... Вот і застаўся пад старасць адзін, з аднымі маладымі... А было каго хваліць, каму даць славу. Нашаму дарагому Алесю Трахімавічу... Але яго ён нідзе, ні на педсаветах, ні ў райана, не хваліў. Маўляў, няма добрых настаўнікаў, толькі ён адзін добры... Я цярпеў век, але не змог болей цярпець. З-за ісціны... Быў на падпітку, дык усё сказаў... Даў дык даў! Хоць з раз ды адчуў сябе чалавекам!..

Васілец маўчаў.

«Сапраўды, як гавораць, усякае раней было ў Міланьках,— падумаў.— Было... А можа, і яшчэ будзе? Па віне некага другога... Тут ужо, канечне, і мне трэба думаць: цяпер жа і я нешта значыць буду... Каб больш не было такога...»

— Ёсць у мяне ў Міланьках і яшчэ адзін зласлівец. Нейкі ананімшчык... Усё, што было і чаго не было, апісаў і падкінуў у райана. Але Вяртун не прападзе! — усхліпнуў Міхась Рыгоравіч.— Хоць цяпер у вочы людзям будзе брыдка зірнуць, столькі не палучу, колькі дагэтуль палучаў, лічы, свайму сыну падчыняцца буду... Дваццаць восьмы год у школе раблю, дваццаць адзін год быў завучам... Думаў не раз: вот пойдзе некалі Рагатка на пенсію — і я сяду на яго месца, буду дэпутатам сельсавета, членам парткома саўгаса... Вот табе сеў!

Ён адвярнуўся, усхліпнуў.

— Трымайцеся неяк,— папрасіў яго Васілец.— Гэта ж не значыць, што вы ўсё ўжо згубілі...

— Не трэба мяне суцяшаць...— Вяртун выцер шчокі рукавом паліто.— Будзем неяк жыць і так. Ніжэй настаўніка не паставяць, далей Міланек не пашлюць... А сюды, што я...— пстрыкнуў па шыі.— Дык адказ мой адзін: ні, галава, гуляй, галава! Прыйдзе худаба — атвячай, галава!..

«Нагаманіў-нагаманіў, а ты паспрабуй разбярыся!»

Васілец, як толькі зайшоў у хату і ўключыў святло, распрануўся, а потым падаўся ў другі пакой. Да Ларысы і сына. Гаспадыні — а яна стаяла ля палаючай печы — падаў пакунак з кілбасой.

Ларыса — у халаце, у тапачках — стаяла ля стала і прасавала бялізну. Найбольш усё дзіцячае. У пакоі ад добра напаленай бярозавымі дрывамі грубкі ды ад праса было горача. Аж прыпацелі, завільгатнеліся дубэльты.

— Ну, як вы тут без мяне? — запытаў ён, зірнуў на Ларысу, але да яе не падышоў, патупаў да каляскі. Нагнуўся і цікнуў на сына.

Сын не спаў. Здаецца, убачыўшы яго, ажывіўся, акруглілў вочкі, прыпадняў бровы ад радасці, аж задрыгаў у поллках ножкамі.

— Ты ж халодны! — нібы з асцярогаю, нібы з рэўнасцю сказала Ларыса.— Сагрэйся, а тады падыходзь ужо да свайго сыночка. А гэты твой сыночак кепскі хлопец: не хоча ляжаць у цемені, мала спіць. Сядзеш ля яго — дык пазірае, ціха ляжыць, адыдзешся — крычыць...

— Сучаснае дзіця сучасных бацькоў...

— І яго бацька нялюдскі! — сказала Ларыса.— Сядзеў у горадзе цэлы дзень. Ды во вясёлы вярнуўся... Грошы траціць попусту, абы на якую сцежку сыходзіць...

— Падзея ў нас сёння, маці, вот я і падвесяліўся! — усміхнуўся ён. Яны зусім нядаўна спачатку жартам, а пасля і ўсур'ёз пачалі называць адно аднаго маці і бацькам.— Якая? Угадай!

— Як язык развязаўся! Во чарка моц мае! — прамовіла Ларыса.— Грамадскую якую нагрузку даручылі?

— Не. Паставілі мяне, маці, завучам Міланьскай васьмігодкі... Вот перад табою не толькі муж, але і твой начальнік... Вот копія загада, пачытай...

— Жартуеш? — усміхнулася яна. Але прачытаўшы, як спалохалася: — А Вяртун? «Па ўласнаму жаданню»?.. Вой, што ж гэта, Паўлік, будзе?

— Не верыш, што адолею новую работу?

— Адолееш...— адказала яна.— А Вяртун, настаўнікі, а вёска? Ты хоць пра гэта падумаў? Хоць змены і трэба было чакаць, калі цвяроза ўсё ўзважыць, але...

— Я не змог адмовіцца...

— І як ты будзеш кіраваць сваімі ж калегамі, равеснікамі?

— Не ведаю...

Ларыса задумалася. Здаецца, захвалявалася больш, чым ён сам у райана.

— Ну, а колькі ж табе, таварыш завуч, будзе выходзіць?

«Не, яна думае глыбей, як я там думаў...»

Васілец адказаў.

Ларыса спачатку са здзіўленнем зірнула на яго, як гадаючы: ён гаворыць праўду ці жартуе? Калі ўбачыла, што

сказаў сур'ёзна, аж жахнулася. Зірнула на яго ўжо з нейкім страхам і нібы з папрокам: ну што ж ты такі бесталковы?!

— Вот пра яго ты мала падумаў...— толькі прамовіла яна, кіўнула на сына.— Ты ж ужо бацька, сем'янін, дык павінен так і думаць.

«А я напраўду думаў там, як хлопец... Толькі потым, як Селядцоў сам загаварыў пра плату, дык я ўспомніў, што сем'янін...»

Васілец з павагаю зірнуў на Ларысу: якая ты, Ларыса, ужо сталая! Маці!

Яна ж не вытрымала яго позірку: можа, і па-свойму зразумела яго. Адышлася. Пачала зноў прасаваць бялізну. Ды, відаць, думала, гадала, як яны будуць жыць далей.

— Селядцоў сказаў, што налета будзе для настаўнікаў большая плата...— прамовіў Васілец, перадаў слова ў слова тое, што пачуў ад загадчыка.

— Ну што ж, таварыш завуч...— з хвіліну памаўчаўшы, усміхнулася Ларыса, зноў зірнула на яго. Здаецца, засаромелася за свой нядаўні страх. Падышла, пацалавала яго ў шчаку.— Хоць табе будзе і цяжка, але я рада за цябе. Што ты ў мяне гэтакі разумны, што цябе так паважаюць! Удачы табе! А я ўжо буду табе памагаць...

— Дзякую,— прамовіў ён, тулячы яе.— З табою я нічога не баюся, усё адолею...

Яны пацалаваліся. Усміхнуліся. А потым, абдымаючы адно аднаго, яшчэ доўга стаялі побач і абое пазіралі на свайго сына. Той гэтаксама пазіраў на іх і, здаецца, усміхаўся ды падміргваў...

## 9

Назаўтра Васілец наўмысна ішоў на работу пазнавата: хацеў прыйсці, пабыць хвіліну-другую ў настаўніцкай і адразу падацца на ўрок. Каб не бянтэжыцца перад настаўнікамі, каб не быць доўга сам-насам з Вертуном.

Стаяла позняя раніца, але на дварэ было яшчэ цемнавата. З бяссонечнага, заслоненага суцэльнай навіссю неба ціха сыпаўся снег.

Калі выйшаў на міланьска-сульскую дарогу, Васілец трапіў у гурт дзяцей. Тыя па двое, па трое ці яшчэ купней ішлі ў школу. Здаецца, віталіся з ім сёння неяк больш сарамліва, як нават пазаўчора.

У вёсцы было цёпла. Пахла дымам, смажаным, вараным. На шчасце, ні з кім не сустрэўся.

Сталых людзей ён убачыў толькі ля школьнай агароджы. На рагу — на аўтобусным прыпынку. Там стаяла з сем ці восем мужчын і кабет. Ля іх ляжалі на снезе поўныя сумкі, некаторыя мужчыны трымалі пад пахамі згорнутыя і звязаныя мяхі.

— Добры дзень! — услед за дзецьмі сказаў і Васілец, стараючыся хутчэй абмінуць знаёмых людзей, не пазіраць ім у вочы.

— Павел Мікалаевіч! — затрымала яго тутэйшая паштарка — маці трох міланьскіх вучняў. Падышла, прыпынілася.— Гавораць, што вы ўжо завуч. Гэта праўда?

— Ну і вашыя людзі! — усміхнуўся Васілец. Але на запытанне не адказаў.

— Дык праўда ці не?

— Праўда. Вяртун адмовіўся болей быць, дык вось назначылі мяне.

Сказаў так і пачуў: ззаду адразу загаманілі людзі.

— Малады ж яшчэ, а ўжо завуч...

— А што цяпер Вяртун рабіць будзе?

— Будзе просты настаўнік...

— Брыдка ж будзе...

— Колькі кемных людзей прападае з-за гэтай праклятай гарэлкі!

— Дык удачы вам! — усміхнулася паштарка.— Я, калі і несла вам позву ў райана, дык нешта такое падумала... Аж і праўда, добрую навіну вам прынесла. Так што налета, можа, і яшчэ адну добрую навіну вам прынясу...

— Не спяшайцеся надта...— усміхнуўся і Васілец.

І адышоўся.

У настаўніцкай, куды неўзабаве зайшоў, былі ўжо ўсе. Акрамя Вертуна. Сядзелі па канапе, на крэслах, стаялі ля грубкі. Нейкія, здаецца, прыціхлыя і як саромеліся зірнуць яму ў вочы.

— Ну што, калега, выездзіў? — толькі адзін Іван Сямёнавіч быў вясёлы. Распраміўся, паклаў далоні на краі свайго стала. На яго плячах было накінута паліто.— За каго цябе цяпер мець? За які тут стол садзіць?

Васілец, распрануўшыся, падаў яму копію загада загадчыка райана.

Іван Сямёнавіч узяў паперыну, пачапіў на нос акуляры

і пачаў чытаць. Здаецца, прачытаў разы тры. І — неяк памаркотнеў: на твар лёг цень.

— Спіхаеце патроху нас, старых ваўкоў! — пасля падняў галаву. Паглядзеў з хвіліну і адвёў позірк.— Сёння аднаго, а заўтра другога... Але нічога не зробіш. Жыццё... І мы некалі вось так некага замянялі, і мы не ведалі, што было на душы ў тых... Вось, калегі,— зірнуў на ўсіх,— у нас новы завуч! Павел Мікалаевіч.

Васілец чамусьці зірнуў на Сліжа.

Сліж, седзячы на канапе, з увагаю слухаў дырэктара, маўчаў. Цікнуў на Васільца і тут жа адвёў позірк. Здаецца, раптам змаркотнеў, нібы яго напаткала якая бяда. Прыплюшчыў вочы, сцяў губы і пазіраў на ўсіх неяк з разгубленасцю. Маўчаў. Толькі ўсё чырванелі-чырванелі яго поўныя шчокі.

«Што з ім? — здзівіўся Васілец.— Няўжо ён не рады, што мяне назначылі завучам?»

Сліж, як убачыў, што на яго гэтак пільна пазірае Васілец, спахапіўся, пастараўся ўсміхнуцца. Але ўсмешка выйшла кволая, нейкая няшчырая. Вымушаная.

— Віншую, браце! — потым, як апрытомнеўшы, хутка падхапіўся, гэтак захутка падскочыў да Васільца, падаў руку і моцна патрос, гаворачы нейкім чужым голасам.— Абскакаў во нас усіх! Мы маса яшчэ, усе роўныя, як малады лес, а ты ўжо асоба, жызня мая!

За ім падышлі і павіншавалі астатнія. Спакойна, неяк з няёмкасцю ўсміхаючыся.

— Толькі не задзірайце высока носа, Павел Мікалаевіч, ды глядзіце, каб не закружылася ад улады над намі галава...— пажартавала Таццяна Сяргееўна.

— Значыць, так, калегі,— ужо сур'ёзна прамовіў Іван Сямёнавіч,— вам, канечне, прыемна, што маеце за кіраўніка свайго равесніка: ён будзе больш разумець вас, а вы — яго. Прыемна, што ўжо прызналі і ваша пакаленне, але папрашу мець Паўла Мікалаевіча не толькі за сябра, за Пашу ці за Пашку, Паўліка, як не раз называеце, але перш за ўсё майце цяпер за Паўла Мікалаевіча, за завуча... Гэта вельмі важная ў школе пасада...

Усе прыціхлі. І Васілец разгубіўся ад няёмкасці.

«Нашто так? — падумаў ён.— Можна ж і далей мне быць для іх Паўлам, Пашам...»

У дзверы настаўніцкай пастукалі. Зайшоў Вертуноў

сып. Прывітаўся, падаў дырэктару паперку і адразу ж, саромеючыся ўсіх, выйшаў.

— Захварэў Міхась Рыгоравіч і ў школе сёння не будзе,— прачытаўшы, сказаў Іван Сямёнавіч.— Дык давай, малады завуч, адразу і бярыся за работу: мяняй расклад, глядзі, куды каму ісці на ўрок.— Пасля, бачачы, што Васілец бянтэжыцца, падняўся і сам падышоў да раскладу.

Восьмы клас сёння, як ніколі дагэтуль, сустрэў Васільца цішынёю.

Толькі ступіў у пакой — усе падняліся, пільна пазіралі на яго. Ён сумеўся.

— Добры дзень,— падышоўшы і прыпыніўшыся ля стала, як і заўсёды, кожны дзень дагэтуль, прывітаўся ён.— Сядайце, калі ласка.

Дзеці паселі. Ён гэтаксама сеў на крэсла і, усё яшчэ не могучы пазіраць дзецям у вочы, разгарнуў журнал на старонцы «Беларуская мова».

«Як здрадзіў ім усё роўна: надта ж няёмка...»

— Пачнём правяраць тое, што вы зрабілі дома...— пасля ён падняўся, зірнуў на ўсіх. Сказаў нейкім іншым, не сваім голасам.— Прашу зачытаць другі сказ з дамашняга практыкавання і растлумачыць знакі прыпынку ў ім. Калі ласка, Адзінец.

— Ці праўда, Павел Мікалаевіч, што вы цяпер наш завуч? — падняўшыся, нібы з трывогаю запытаў той.

— Праўда,— адказаў Васілец, пазіраючы ўсім у вочы.— З сённяшняга дня.

— Дык вы ўжо не будзеце вучыць нас? — спытала бойкая прыгожанькая Ніна, дачка школьнай тэхнічкі.

— Цяпер у мяне будзе меней урокаў, але я пастараюся выкладаць у вас, выпусціць вас са школы.

— А ці будзеце ў нас класным кіраўніком?

— Не. Гэта мне няможна.

— А вы будзьце і завучам, і нашым класным,— сказала Ніна.

— Хіба не надакучыў я вам? — усміхнуўся Васілец.— Відаць, вы даўно былі ўжо рады пазбавіцца мяне: гэтулькі я лаяў некаторых за пропускі, за ляноту да вучобы, прымушаў шмат чытаць, пісаць...

Клас маўчаў. Пазіраў на яго як з дакорам.

— Мы не аддадзім вас! — пасля зусім па-дзіцячаму за-

пальчыва сказала Ніна,— нікога другога за класнага кіраўніка не прымем.

— Міхась Рыгоравіч сам падаў заяву, а райана задаволіў яго просьбу і паставіў мяне завучам,— з чуласцю, ад якой у яго аж защчымела сэрца, прамовіў Васілец.— Але ад вас я нікуды не ўцяку, будзем і далей працаваць разам. Праўда, цяпер мне прыйдзецца ўсё, што ведаю, магу, аддаваць не толькі вам, але і ўсім астатнім класам, настаўнікам.

— А мы не хочам гэтага,— адразу загаманілі ўсе.

— Мы хочам, каб вы былі толькі наш...

— Вы толькі наш...

— Ва ўсіх жа класах ёсць класныя кіраўнікі, няхай яны самі думаюць пра свае класы...

— Так трэба, сябры,— як усе сціхлі, сказаў Васілец.— Раз мне даручылі думаць не толькі пра ваш клас, але і пра ўсю школу, дык я і павінен думаць. Сумленна, з усіх сіл працаваць. Мушу. Як некалі павінны будзеце і вы там сумленна працаваць, куды вас пашлюць: іначай няможна. Калі хочаш, каб паважалі людзі, каб ты сам сябе паважаў. Будзе што ў вас цяжка — падыходзьце, усё гаварыце. Будзем памагаць і далей разам працаваць. Ну, а цяпер, сябры, давайце рабіць сваё. Чытай, Адзінец...

Адзінец пачаў ціха чытаць...

— Правядзём, калегі, невялічкі педсавет,— сказаў Іван Сямёнавіч, сабраўшы ўсіх настаўнікаў пасля ўрокаў.— Параімся, як падзяліць цяпер ношку нашага Паўла Мікалаевіча. Яму можна выкладаць не болей дванаццаці ўрокаў у тыдзень, а ў яго дагэтуль было аж трыццаць пяць. У якіх класах сам хочаш вучыць?

— Хацелася б — хоць па ўроку, хоць па два,— але вучыць ва ўсіх класах,— адказаў Васілец.— Каб лепш ведаць усіх дзяцей. Калі так няможна, дык пакіньце мне ўрокі беларускай мовы ў восьмым класе і дайце нешта ў чацвёртым, каб іх давесці да восьмага класа, прасачыць, так сказаць, іхні рост.

— Значыць, даём табе ўрокі мовы і літаратуры ў чацвёртым, шостым і ў восьмым класах,— хутка падлічыў і запісаў сабе на паперку Іван Сямёнавіч,— каму аддадзім астатнія больш чым дваццаць урокаў рускай і беларускай моў? Ёсць вашы парады? Няма. Тады ёсць яны ў мяне.

Тры гадзіны беларускай мовы даём настаўніцы другога класа, пяць гадзін піянерважатай, а астатнія ўрокі мовы — нашаму вопытнаму матэматыку Міхасю Рыгоравічу. Згода?

— Канечне,— адказаў за ўсіх Сліж.— Харашо.

— Іначай цяпер і няможна што прыдумаць,— прамовіў Іван Сямёнавіч.— Налета, калі вернецца мовавед Ларыса Іванаўна, тады нешта іншае прыдумаем. Каго паставім класным кіраўніком у восьмым класе?

— Міхася Рыгоравіча,— падказаў Сліж.— Усё ж у яго цяпер, відаць, менш будзе выходзіць. А класнае кіраўніцтва — гэта ўсё ж дзесятка.

— Ён, канечне, пацягне,— згадзіўся Іван Сямёнавіч, але з хмурнасцю зірнуў на Сліжа, мусіць, незалюбіўшы яго астатнія словы.— Ну, і яшчэ адно. Павел Мікалаевіч вёў літгурток і быў рэдактарам агульнашкольнай газеты. Каму аддадзім гэтую важную нагрузку?

Усе прамаўчалі.

— Пакіньце мне,— сказаў Васілец,— што я буду кідаць сваю работу на паўдарозе!..

— Табе ўжо як завучу не будуць за літгурток плаціць, будуць лічыць гэту работу як грамадскую нагрузку,— папярэдзіў Іван Сямёнавіч,— а літгурток — гэта ля сямі рублёў.

— Калі ўсе згодзяцца, дык я ўсё ж буду весці літгурток,— адказаў Васілец,— а тыя рублі дабаўце ў плату другім за іншыя гурткі.

— Што ж, калі так, дык няхай будзе так,— усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Пацягні, пакуль мала другіх грамадскіх нагрузак, пакуль малады і ахвоту маеш. Усё. Усе могуць быць вольныя. А ты, Павел Мікалаевіч, застанься. Пагамонім яшчэ як кіраўнікі...

Усе апрануліся, развіталіся і падаліся дадому.

— Я шчыра рад, калега, што ты цяпер мой намеснік,— загаварыў Іван Сямёнавіч, ходзячы па настаўніцкай.— Даўно ўжо школе патрэбен завуч, які працаваў бы патворчаму, быў бы больш строгі. І я даўно меў на цябе вока...— пасля прыпыніўся і ўсміхнуўся.— Што, страшна?

— Ды страшнавата,— усміхнуўся і Васілец.— Дагэтуль я ведаў ужо, як і што рабіць, а цяпер вось зноў трэба пачынаць спачатку. Ды зусім новую работу.

— І нас на завучаў і дырэктараў у інстытутах не вучылі,— адказаў Іван Сямёнавіч.— Самі вучыліся. Так што і

ты сам вучыся, спадзявайся толькі на сябе, на свае сілы. Чытай, практыкуйся ў школе... Магу тое-сёе даць пачытаць, пасля, можа, на курсы ў Мінск, у абласны інстытут удасканалення настаўнікаў, з'ездзіш, падвучышся. Словам, не прападзеш. Але ладзься адразу на кіпучую работу. Сам жа ведаеш, трэба нам крыху ўжо выбівацца з залатой сярэдзінкі, у людзі выходзіць...

Васілец, выйшаўшы са школы, падаўся не дадому, а на могільнік.

Там ціха шумелі, шапталіся з ветрам высокія сосны, ужо асыпаўшы крыху на белы дол перамёрзлых ігліц, лёгкай тоненькай кары; помнікі — з зоркамі, з крыжамі — былі маўклівыя, з белымі снежнымі шапкамі.

Па пратаптанай сцежачцы Васілец падышоў да шырокай, белага колеру агароджы — за ёю стаяў высокі помнік на граніце. Яму адразу ўсміхнуўся яшчэ зусім не стары, сярэдніх гадоў, Алесь Трахімавіч — партрэт яго быў за шклом у невялікай круглай нішцы помніка.

«Добры дзень, даражэнькі! Ну, што задумаўся? — здаецца, так прывеціў яго бадзёры позірк былога старэйшага сябра.— Баішся, што не адолееш новай работы? Не бойся. Адолееш, даражэнькі, адолееш. Абы пастараўся... Помніш жа, у першы год работы і настаўніцкая праца не зусім клеілася, а вот потым пайшла...»

«Але ж тады былі побач вы...» — падумалася Васільцу.

«А што — словы мае не засталіся ў памяці? Га, даражэнькі?»

«Засталіся...»

Васілец прыпыніўся ля агароджы, паглядзеў на помнік, на здымак і на подпіс пад ім, на букецік амаль яшчэ свежых, толькі змёрзлых кветак. Іх, мусіць, прывёз здалёку ды паклаў сюды, на магілу, нейкі былы вучань Алеся Трахімавіча. Справа магілы было вольнае месца. Яго пакінула сабе на вечны спачын жонка, цёця Галя.

Сціх неўзабаве хваёвы шум, на хвіліну як бы усё замерла. Потым пасыпаўся долу сухі снег, недзе далёка бліснула сонца. І ўсё гэта было і нова, і вечна, як само жыццё.

«Цяпер ваша пара...— здаецца, усё гаварыў Алесь Трахімавіч.— Жыць, працаваць, падмяніць тых, хто стаміўся, замяніць тых, хто ўжо прыйшоў сюды... І я веру, даражэнькі, што вы не пашкадуеце свайго здароўя, сваіх сіл

дзеля тутэйшых дзяцей, дзеля розуму на зямлі... І слухайце заўсёды сваё сэрца: яно заўсёды суддзя і дарадца, ніколі не падманвае. Таму і вы яго старайцеся не падмануць...»

І, здаецца, Алесь Трахімавіч падміргнуў яму, усміхнуўся, а сам нібы знік. У нейкую недасяжную глыбіню, а то нават і ў вышыню. Але ўсё яшчэ чуўся яго голас, голас старога мудрага чалавека...

## 10

Сёння ў Лілii Іосіфаўны быў вельмі важны дзень. Больш чым святочны.

Яна ранёнька, калі яшчэ было цёмна, паднялася, зрабіла пышную прычоску, надзела новую спадніцу, жоўтую махеравую кофту, начапіла на шыю кулон на залатым ланцужку, прыпудрылася — і аж сама сабе сёння спадабалася. Здаецца, вельмі пахарашэла. Відаць, таму, што было свята ў душы.

Калі ішла да школы, настрой яшчэ палепшыўся: прамінаючы нізкія, амаль пры самым небакраі, бела-чырвоныя воблакі, падымалася вышэй, на бязвоблачнае шэра-блакітнае неба, вялікае чырвонае сонца, заліваючы наваколле чароўным ранішнім святлом ды маючыся даць удзень шмат сонечнай празрыстасці. Над усёй вёскай, лёгка і амаль нябачна ўзнімаючыся з комінаў, вісеў блакітным воблакам сівы дым, ружавіўся ад сонца ды падсіньваўся ад неба, падымаўся ўверх, расплываўся ў глыбізне блакіту, крышку прыбельваючы яго. Яра пёк зласнаваты з раніцы мароз, каб пасля раптоўна адпасці; вакол усё на зямлі было беленькае ад снегу і інею. Усё абяцала сонечны іскрысты дзень.

Ужо і ля школы хацелася яшчэ і яшчэ пабыць на дварэ. Аж пазайздросціла настаўніку фізкультуры: сёння ён гэтулькі пакатаецца з дзецьмі на лыжах!

— О, якая сёння наша Лілія Іосіфаўна файная! — здзівіўся Іван Сямёнавіч, як толькі яна зайшла ў настаўніцкую і павіталася. Ён сядзеў за сваім сталом, пазіраў ды слухаў, пра што ўсе гавораць між сабою. Падняў уверх густыя бровы, ківаў галавою.

Лілія Іосіфаўна зачырванелася, нібы апранула ўсё гэта, што было на ёй, не сваё, а чужое, пазычанае. Век пакутавала з-за гэтага праклятага сораму. Але век не магла і пададолець яго. Абы ледзь што — саромеецца.

На яе з захапленнем нават зірнула і Таццяна Сяргееўна.

— Якая ты сёння прыгожая! — здзівілася тая, неяк з рэўнасцю азіраючы яе, як якую незнаёмую. Сама ж і сёння шыкоўна апранулася.

— Ды ладна табе! — усміхнулася Лілія Іосіфаўна.

— Польскі махер...— падышоўшы, адразу ж угадала Таццяна Сяргееўна.— Аўстрыйскія боты. Прызнавайся: дзе дастала?

— Падарунак,— адказала шчыра Лілія Іосіфаўна.

— Добры падарунак! — ацаніла тая.— І я ад такога падарунка не адмовілася б!

— Хоць ты на конкурс мадэльераў пасылай! — пацвельваўся Іван Сямёнавіч.— Ці маглі мы з табой, Міхась Рыгоравіч, старэйшыя, нават пасля вайны марыць вось пра такое? Ці маглі мы хоць уявіць такое?

Міхась Рыгоравіч — нібы зусім аблыселы за гэты месяц, з упалымі вачыма, ціхі — стаяў ля грубкі і гартаў кнігу-падручнік. Нічога не адказаў, нібы з абыякавасцю зірнуў на яе. Раней бы пажартаваў, а цяпер — не. Як адвык ад жартаў, смеху.

Васілец сядзеў над раскладам, сам сабе ўсміхаўся. Здаецца, у яго быў вельмі добры настрой.

«Ніхто і не ведае, што ў мяне сёння за дзень...— падумала Лілія Іосіфаўна.— І добра. Менш увагі. Нашто, каб усе зналі, што мне ўжо дваццаць восем гадоў, што з усіх маладых я тут самая старэйшая... Была б, можа, нейкая крыўда, каб мяне, адзіную дачку, не павіншавалі бацькі. Але ніякай крыўды на іх няма, а, наадварот, прыемна: бацька і маці прыслалі пасылку, дзе былі мае любімыя цукеркі асарці, вось гэтыя кофта, боты, кулон, спадніца. Праўда, на паштоўцы, што сёлета падпісала маці, былі, як і тыя гады, усякія сардэчныя словы, але на гэты раз былі і дзве нечаканкі. Маці віншавала, але не назвала нідзе, колькі мне гадоў, і, па-другое, на гэты раз яна не жадала, каб я «хутка выйшла замуж за любімага чалавека», як звычыла раней. Відаць, маці ўжо не верыць у гэта... Ну, і такой бяды! Пражыву ж неяк і адна... Не буду так адчайвацца, як адчайвалася летась...»

— Вось гэта Лілія Іосіфаўна! — цмокаў усё Іван Сямёнавіч.— Не пазнаць! Так і свеціцца ўся нейкім святлом...

«І ён, стары чалавек, гэта ўбачыў! — здзівілася Лілія Іосіфаўна».

Лілія Іосіфаўна дастала з сумкі кіпу сшыткаў, падала іх Васільцу.

— Вось, Павел Мікалаевіч, правераныя ізлажэнні шасцікласнікаў,— сказала яна,— а вось,— і тут жа яшчэ падала лісток паперы,— запісана, колькі якіх ацэнак, на якія правілы памылкі.

— Дзякую,— адказаў той, усё ўзяў.— У мяне ёсць два вольныя ўрокі запар, дык я ўсё разгледжу, а потым пагаворым па вашых уроках.

— Добра,— згадзілася яна.

«Не прызнаюся-такі, які ў мяне сёння дзень...» — падумала зноў яна, хоць у душы і хацела, каб нехта ўведаў пра гэта, павіншаваў...

...Нарада настаўнікаў мовы пачалася пасля ўрокаў.

Застаўся паслухаць, пра што будуць гаварыць, і Сліж: такая вось нарада была першы раз за апошнія гады.

— Вам, Лілія Іосіфаўна, першае слова,— калі ўсе паселі, сказаў Іван Сямёнавіч. Сам ён не збіраў ніякіх нарад, акрамя педсаветаў, але згадзіўся на гэтую, калі яму сказаў пра гэта Васілец.

— Ну, што я магу сказаць? — спакойна пачала гаварыць яна.— Што думала, хацела ды ведала, тое старалася даць на сваіх уроках, на якіх быў Павел Мікалаевіч. Мне вельмі спадабалася, што завуч сам рыхтаваўся да гэтых урокаў, спачатку пагаварыў са мною, што павінна гэтая тэма даць дзецям, як яе вывучаць. Яшчэ спадабалася, што завуч на шмат урокаў запар ішоў не так «падлоўліваць» на нейкіх дробязях, а хацеў убачыць, як я працую, хацеў памагчы мне. Таму працавала я гэтыя два тыдні з хваляваннем, але і з добрым настроем...

— Вось што значыць, калі завуч малады, прыгожы! — пажартаваў Іван Сямёнавіч.— Ужо ад аднаго гэтага ў настаўніц настрой падымаецца...

Дзіва: Лілія Іосіфаўна сёння не засаромелася ад такога жарту. Толькі ўсміхнулася. Заўважыла, што засаромеўся іншы чалавек. Вяртун. Апусціў галаву, пачаў з нервовасцю кусаць пазногці на левай руцэ. Сліж зларадна ўсміхаўся аднымі вачыма і неўпрыкметку для ўсіх па-змоўніцку і як па-сяброўску штурхаў каленам Васільца — той сядзеў якраз паблізу.

Лілія Іосіфаўна яшчэ расказала, што і дзеля чаго яна рабіла на кожным уроку, як дзеці напісалі ізлажэнне.

— Хто выступіць? — калі яна сціхла, паглядзеў на ўсіх Іван Сямёнавіч.— Давай, Рыгоравіч. Маеш жа што сказаць, столькі гадоў робячы ў школе...

Ад гэтых дырэктаравых слоў Вяртун яшчэ болей зачырванеўся.

— Я ж не быў на гэтых уроках...— потым прамовіў ён, і, відаць, усе адчулі, што яму цяпер вельмі няёмка. А то і сорамна.— Ды першы раз за апошнія дзесяць гадоў буду выкладаць мову і літаратуру...

— Ну, як ведаеш,— адказаў Іван Сямёнавіч.— Давай тады ты, таварыш завуч,— і з усмешкай зірнуў на Васільца.

«Ці не помсціць за што Іван Сямёнавіч Вертуну? — падумалася Лілії Іосіфаўне.— Ці Вяртун зацяўся, крыўдзіцца? Змяніўся ж зусім...»

Васілец паружавеў, падсунуўся бліжэй да дырэктаравага стала. Відаць, хваляваўся: як-ніяк гэта была не толькі гутарка пра яе ўрокі, але і яго першая сур'ёзная проба завучаўскіх сіл.

— Як мне раілі завуч Галінавіцкай дзесяцігодкі, у раёна ды ў педкабінеце,— прамовіў Васілец, чамусьці стараючыся ні на кога не пазіраць, а глядзеў на стол, на свае паперы, хоць з іх і не чытаў,— завучу трэба не толькі кожны дзень два ці тры разы знянацку, ні з таго ні з сяго хадзіць на нечыя ўрокі, а найбольш трэба старацца загадзя ведаць, на чые трэба схадзіць урокі, дзеля чаго...

Усе моўчкі слухалі, як чакалі: ну, як павядзе па-новаму работу малады завуч?

— Раілі завучы, метадысты перш за ўсё франтальны кантроль,— хваляванне ў Васільца, здаецца, пакрысе супакойвалася.— Гэтак можна праверыць, як выкладаецца мова і матэматыка ў нейкім адным класе, а то і ва ўсёй школе, франтальна абзорным можна праверыць, да прыкладу, як бывае паўтарэнне на ўроках. Вось вывучэннем сістэмы работы настаўніцы Лілії Іосіфаўны мы пачалі тэматычны кантроль... Як мы ўсе ведаем, як гэта заўсёды гаворым на педсаветах, наша школа каторы ўжо год «вырашае праблему актывізацыі мысліцельнай дзейнасці вучняў», дык трэба нам паўней уведаць, як гэта бывае на ўроках матэматыкі, фізікі, хіміі, геаграфіі... Абагульняюча-класным спосабам можна праверыць, да прыкладу, чацвёрты клас, паглядзець, як у ім ідзе прадметнае навучанне, што там упершыню...

Лілія Іосіфаўна дастала з сумкі кіпу сшыткаў, падала іх Васільцу.

— Вось, Павел Мікалаевіч, праверaныя ізлажэнні шасцікласнікаў,— сказала яна,— а вось,— і тут жа яшчэ падала лісток паперы,— запісана, колькі якіх ацэнак, на якія правілы памылкі.

— Дзякую,— адказаў той, усё ўзяў.— У мяне ёсць два вольныя ўрокі запар, дык я ўсё разгледжу, а потым пагаворым па вашых уроках.

— Добра,— згадзілася яна.

«Не прызнаюся-такі, які ў мяне сёння дзень...» — падумала зноў яна, хоць у душы і хацела, каб нехта ўведаў пра гэта, павіншаваў...

...Нарада настаўнікаў мовы пачалася пасля ўрокаў. Застаўся паслухаць, пра што будуць гаварыць, і Сліж: такая вось нарада была першы раз за апошнія гады.

— Вам, Лілія Іосіфаўна, першае слова,— калі ўсе паселі, сказаў Іван Сямёнавіч. Сам ён не збіраў ніякіх нарад, акрамя педсаветаў, але згадзіўся на гэтую, калі яму сказаў пра гэта Васілец.

— Ну, што я магу сказаць? — спакойна пачала гаварыць яна.— Што думала, хацела ды ведала, тое старалася даць на сваіх уроках, на якіх быў Павел Мікалаевіч. Мне вельмі спадабалася, што завуч сам рыхтаваўся да гэтых урокаў, спачатку пагаварыў са мною, што павінна гэтая тэма даць дзецям, як яе вывучаць. Яшчэ спадабалася, што завуч на шмат урокаў запар ішоў не так «падлоўліваць» на нейкіх дробязях, а хацеў убачыць, як я працую, хацеў памагчы мне. Таму працавала я гэтыя два тыдні з хваляваннем, але і з добрым настроем...

— Вось што значыць, калі завуч малады, прыгожы! — пажартаваў Іван Сямёнавіч.— Ужо ад аднаго гэтага ў настаўніц настрой падымаецца...

Дзіва: Лілія Іосіфаўна сёння не засаромелася ад такога жарту. Толькі ўсміхнулася. Заўважыла, што засаромеўся іншы чалавек. Вяртун. Апусціў галаву, пачаў з нервовасцю кусаць пазногці на левай руцэ. Сліж зларадна ўсміхаўся аднымі вачыма і неўпрыкметку для ўсіх па-змоўніцку і як па-сяброўску штурхаў каленам Васільца — той сядзеў якраз паблізу.

Лілія Іосіфаўна яшчэ расказала, што і дзеля чаго яна рабіла на кожным уроку, як дзеці напісалі ізлажэнне.

— Ну, зусім някепска, калега, на пачатак! — прамовіў Іван Сямёнавіч, калі нарада прайшла і амаль усе разышліся, засталіся толькі ў настаўніцкай утрох — ён, Васілец і Сліж.— Так што напраўду бяры з маладым здароўем, са свежымі ведамі ды з маім вопытам усю вучобу, метадычную работу ў школе ў свае рукі. А я ўжо буду думаць больш пра гаспадарку...— ён усміхнуўся, паказаў, што ведае, пра што гаварыў загадчык райана з Васільцом.— Так што ты ў пару стаў тут на гэты трон... Старайся, пасля як знойдзеш... Бо ўсё, што закідаеш наперад, не прападае, бывае да патрэбы... Хоць ты, калега, гэтыя тыдні і сёння шмат папрацаваў, хоць не зусім стаіш за цякучы, за зняцкі, так сказаць, кантроль, але застанься, братка, на другую змену,— потым папрасіў ён, а сам пайшоў да вешалкі, згорбіўся.— Трэба памагчы неяк нашай новенькай, ніяк яна не можа стаць на ногі. Я сам памагаў бы ёй далей, ды нешта мне сёння нездаровіцца... Прыйду ўжо сюды пад канец змены.

Ён апрануўся, развітаўся і пайшоў дадому.

— Папаўся жучка ў ручку! — хіхікнуў Сліж, калі дырэктар пайшоў з настаўніцкай.— Усе вот падаліся дадому, да сям'і, а табе яшчэ на другую змену... Зарплата памянела, дык і не надта ты што выйграў, жызня мая, што суччом стаў... Толькі яшчэ болей работы набыў... Ды з намі, простымі, грэшнымі, трэба агрызацца, каб мы болей стараліся, рабілі міланьскіх неслухаў вундэркіндамі...

— Выйграў — не выйграў! Ці толькі так трэба думаць? — адказаў Васілец, сеў зноў ля стала. Чакаў, калі вернецца з урока новая настаўніца пачатковых класаў.— Сказалі, што трэба, вось я і адказаў: ёсць! Ты б іначай зрабіў бы?

Сліж усміхнуўся, але нічога не прамовіў. Дастаў белы партсігар, узяў з яго доўгую цыгарэціну, прыпаліў ад запальнічкі і пачаў хадзіць па настаўніцкай. Касцюм на ім, поўным, цяжкім, здаецца, аж трашчаў па швах. Сліж часта адкрываў рот, выдыхаў дым, бліскаў залатымі зубамі.

— Пра сябе маўчу, бо я маленькі чалавек — просты навучыцель,— не думаю зоркі з неба хватаць,— потым загаварыў ён, усё ўсміхаючыся. А вот за табою, жызня мая, сачу. Храбёр, брат, храбёр! Толькі я табе параю: не вельмі, жызня мая, ты кідайся да ўсяго, не перажывай за ўсё. Падарвеш змоладу здароўе... Ёсць жа яшчэ і дзярэк-

тар. Стары ён ці хворы — табе бяда малая. Сядзіць ён на гэтым крэсле, дык няхай, што трэба, і сам робіць. Не можа — хай саступае... А пачаў ты, як я панімаю, добра. Дзелавіта і, галоўнае, добра пыл у вочы пусціў. Маўляў, не абы-як раблю, а па-навуковаму... Цяпер усюды гэтакія во слоўцы, без іх нідзе не ступіш. Умее хто ці не ўмее — усе за навуку... Паперак во ўсякіх начапляў,— ён кіўнуў на вялікі стэнд, дзе вісеў новы расклад урокаў, дзе Васілец яшчэ вывесіў і свае, завучаўскія, планы — каму з настаўнікаў да каго ў вольны час, за «фортачку», схадзіць на ўрок, каму які пасля Новага года даць адкрыты ўрок, з якімі лекцыямі каму выступіць перад бацькамі, з дакладамі — перад настаўнікамі на нарадах і педсаветах.— Вот метадычны куток, куток класнага кіраўніка, вот...— Ён падышоў да палічкі, дзе стаялі класныя журналы.— Вот па твайму загаду мы завялі і паставілі сюды сшыткі з улікам гурткавой, пазашкольнай работы... Усе школьныя газеты абноўлены, ёсць новыя... Нашыя рабочыя планы правяраеш, кожны дзень на нашыя ўрокі ходзіш, потым па іх ледзь не дыспуты ладзіш... Усё навідавоку, усё на паперы... А без паперы няма веры. Зойдзеш у школу, у настаўніцкую, адразу адчуеш: ёсць у школе дырэктар, ёсць тут завуч. Ёсць тут работа...

— Ты як Райкін...— усміхнуўся Васілец.— Толькі ці не разумееш, дзеля чаго ўсё робіцца, ці наўмысна ўсю маю работу перакручваеш з ног на галаву... Няўжо я толькі і думаю пра адно: як бы лепей схітраваць, як бы лепей паказацца?

— Я жартую, стары. Але гавару праўду...— Сліж зноў усміхнуўся. З нейкаю загадкаю.— Малайчына: як трэба пачаў! А прыглядацца — прыглядаюся. Бо мне з табою, жызня мая, можа, і ўвесь век укалваць. Спачатку, як сказаў дырэктар, што ты завуч, заела мяне. Неяк зарыпела сэрца: ты хто? Просты рабацяга! А ён хто? Ён, твой равеснік, ужо завуч! Твой начальнік! Павел, я не хачу цяпер быць завучам, бо я пры Рагатку не пацягну гэты воз, але рыпіць праклятае сэрца, зайздросціць. Як вот сядзіш на канферэнцыі, чуеш, што хваляць каторых настаўнікаў, дык чакаеш: а ці назавуць тваё фамілiё?! Здаецца, ну што з таго: назавуць ці не? Але ўсё ж праклятая гэтая слава... Хочацца яе, як вады ў спёку. І што дзіва: хочацца, каб цябе назвалі, а твайго калегу — не... Вот я і пасміхаўся ў душы, думаў: ну, паскачы, Васілец, папробуй пацягнуць

завучаўскі воз! Аж ты во ўчапіўся, што клешч, і не толькі валачэш, але і пад гору бягом шпарыш! Паглядзеў гэта я і падумаў: дарэмна нехта баіцца якой пасады. Усё можна пацягнуць. Галоўнае, жызня мая, умець усё аздобіць, як торт украсіць... Чаму вот калі прыедзеш у якую славутую школу на семінар, кідаецца адразу ў вочы, што там усе сцены абчапляны ўсякімі паперамі. Трэба. Для чужога вока. А робіцца, думаеш, лепш? Не, не лепш. І мы так робім. Але там аздоблена лепей. Вот ім і слава! Так што націскай на гэта — не прашляпіш...

— Аж страшна цябе слухаць...— прызнаўся Васілец.— А нам жа, напраўду, можа, век разам працаваць...

— Я наблюдацельны...— усміхнуўся Сліж, відаць, пасвойму зразумеўшы Васільцовы словы. У карысць для сябе.— Даць табе яшчэ адну параду? Не дарэмна, канечне, а за тое-сёе...— ён падміргнуў вокам.— Хочаш? Ну, дык слухай, жызня мая. Кемны ты, павагу сярод усіх нас маеш, але замяккі ты, надта далікатны, усё хочаш па-добраму — памагчы, параіць... На цябе зірнеш — і не скажаш, што ты начальнік... Бо на твары ў цябе далікатнасць, сарамлівасць, нешта такое дружаскае, мяккае, спагаднае... А начальніку трэба строгасць, нават нейкая злосць. Зірні на Івана Сямёнавіча — начальнік!.. Бровы нахмураны, губы сціснуты, такі позірк, што пранізвае цябе наскрозь... Трэба, трэба, каб баяліся... А якая перад табою боязь, калі ты дазваляеш гэтак якой Таццяне Сяргееўне агрызацца?! Ты ёй адно слова, а яна табе дзесяць у адказ. Трэба, каб ты гаварыў, а яна стаяла і рукі былі па швах ці каб усе па адной дошцы перад табой хадзілі...

— Нашто ўсё гэта, Валодзя,— махнуў рукою Васілец.— Мне якраз і падабаецца, што Таццяна Сяргееўна спрачаецца, што хоча даказаць нешта сваё. З ёю практыкуеш розум...

— З ёю, можа, і можна практыкавацца, але толькі не па розуму...— перабіў яго Сліж.— Заклююць цябе, калі дазволіш усім спрачацца, разводзіць анцімоніі... Ды гэтая Таццяна Сяргееўна спрачаецца не таму, што думае пра дзела, а таму, што хоча пстрыкнуць табе па носе... Ды помсціць, што ёй не ўдалося акалпачыць цябе...

— Ты хворы! — кіўнуў галавою Васілец.— На ўсё і на ўсіх глядзіш коса, перакручваючы ўсё з ног на галаву...

— А ты вер усім!..— не адступіўся Сліж.— Ды яна цябе цяпер ненавідзіць... Неяк давялося раз нам з ёю пася-

дзець у адным добрым месцы, выпіць, дык яна прызналася, што цярпець цябе не можа. Кажа: выскачка, хітрун, кар'ерыст наш Васілец!

— Калі думае так, няхай сабе і думае. Жыццё ўсё пакажа... Да работы гэта не мае...

— Дзівак ты! — як здзівіўся, незалюбіў Сліж.— Мае... Ды яшчэ як... Я на тваім месцы яе добра правучыў бы, падлавіў бы на нечым і добра натыцкаў бы носам... Калі хочаш, я табе ўсё скажу, хто пра цябе што гаворыць...

— Не трэба. Калі ласка, не трэба! — ледзь не падскочыў з крэсла Васілец, і чамусьці яму ў гэтую хвіліну захацелася выйсці ў калідор і памыць рукі.

— Як хочаш...— развёў рукамі Сліж.— Я хацеў памагчы табе па-добраму, як друг другу. Калі хочаш добра кіраваць, дык павінен усё пра сваіх людзей ведаць. Сам усяго ніколі не ўведаеш, дык трэба, каб быў верны чалавек... Вот я і думаў, што нам можна далей яшчэ бліжэй дружыць... Налета, калі сядзеш на Рагаткава крэсла, не прагадаеш, калі возьмеш мяне на сваё месца. Мы ўдвух добра спяёмся, пацягнем, прыціснем усіх пад ногаць, што ніхто і не пікне. Возьмем маладых дзяўчатак у школу, агарод, сад, соткі будуць у нашых руках — дык зажывём... Ты будзеш за вучобай глядзець, бо ты больш кемны, а я буду гаспадарыць. За гадоў пяць — сем на легкавіку пры мне паедзеш...

Васілец не мог нічога сказаць. Пазіраў на Сліжа: той гаворыць праўду ці жартуе?

— Я сур'ёзна...— пацвердзіў Сліж.— Я не метадыст, не вучоны, але гаспадарку пацягну, здолею капейку лічыць... Я і ад урокаў матэматыкі адмоўлюся, урокі працы вазьму...

Зірнуў на Васільца: што той скажа? Здагадаўся, што Васілец збянтэжыўся. Усміхнуўся. І, нібы да рэшты прыціскаючы Васільца ў кут, падышоў да дырэктаравага стала, паляпаў па ім далонню, а потым адсунуў крэсла, ухмыльнуўся:

— Хадзі сядзь! Зірну, як ты будзеш дырэктарам выглядаць!

— Перастань! — незалюбіў Васілец.

— Сядзь! — настойваў Сліж.— Дзівак: ты ж так блізка да гэтага крэсла — і не хочаш прысесці, прымерыцца! Тады паглядзі, як я выглядаю!

І Сліж сеў, паклаў далоні рук на рагі стала, нахмурыўся, сціснуў вусны.

— Ну, як?

— Бюракрат, дэмагог і цынік! — адказаў Васілец.

— Ну, не гавары...— ухмыльнуўся Сліж.— Але я табе скажу шчыра: няблага сядзець! Няблага! Сядзіш і адчуваеш: ты тут самы важны, ты тут царок, хоць і над маленькім гуртам! А калі ты нешта значыш? Калі маеш пад рукою пячатку, ключы ад свайго кабінета і службовую машыну... Машыны, праўда, тут ніхто не дасць, яе можна і самому купіць, а вот ключы і пячатка будуць. А некалі будзе новая школа, дык і асобны кабінецік можна зрабіць. Сталы літараю «Т», дывановыя дарожкі, крэслы абапал сцяны і абавязкова канапка... Калі столькі многа дзяўчат, жанчын, дык канапка трэба абавязкова... Ды і фінансы такія-сякія ў тваіх руках: можна аднаму менш даць, другому больш... Толькі вот у адным ты здураваў: жонку настаўніцу сабе ўзяў, так сказаць, сам сабе здабыў знянацку кантроль...

— Ты вот жартуеш, а мне страшна...— ціха прамовіў Васілец.— Вельмі страшна...

— Не палохайся,— заспакоіў Сліж.— Бяры налета мяне за завуча — не прападзеш...

— Перастань, калі ласка,— папрасіў Васілец.— І больш не заводзь такіх гавэндаў. І не думай так. А пра іншае больш думай...

— Во! — перамяніўся раптоўна Сліж.— Гэта ж я забыўся. Ніна мая ўжо даўно табе шукала, усё выпрошвала на базе добрую шапку. Дастала нарэшце такі, і світэр добры дастала. І Ларысе там нейкіх мадняцкіх шмотак папрасіла. А таксама пасуды з крышталю, чайныя і кафейныя наборы, талеркі добрыя. Падходзьце так калі вечарам не ў магазін, а да нас, на дом... А заадно і пасядзім крыху, пагаворым... Мы ж маладыя яшчэ, а ўжо мала сыходзімся, усё пра работу ды пра работу... Можна ж і пра другое, павесяліцца крыху...

— Дзякую,— заліваючыся сорамам, адказаў Васілец, пакляў сябе: Сліж гаворыць вось такое і хоць бы што яму, а ён не можа выцерпець, здаецца, праваліся хоць скрозь зямлю.— Цяпер у нас з грашыма цяжкавата...

— Нічога, па чорную кніжку дасць...— супакоіў Сліж.— Аддасі з палучак. Без працэнтаў... Для цябе асабіста будзе льгота, жызня мая...

Як збавенне для Васільца, як радасць пачуўся званок з першага ўрока другой змены — і ў настаўніцкую вярнуліся Міхаіл Апанасавіч і маладая настаўніца другога класа.

— Ну, не буду замінаць. Будзь здаровы і не кашляй! — нарэшце як схамянуўся, што заседзеўся, Сліж, пайшоў да дзвярэй.

— Абдумай па дарозе, што ты тут гаварыў... — сказаў яму на развітанне Васілец.— І выкінь усё гэта з галавы...

— Не! — матлянуў галавою Сліж.— Я на агітацыю не паддаюся! Я знаю, што гаварыў... Я знаю жыццё, браце...

І — вясёлы, шчаслівы — пайшоў з настаўніцкай.

— Я хачу схадзіць да вас на ўрок беларускай мовы,— павярнуўся Васілец да маладой настаўніцы.— Пакажыце, калі ласка, вашы планы, сшыткі дзяцей.

Як і ён некалі, у першы год работы, Вертуну ці Рагатку, так і маладая настаўніца з хваляваннем падала яму цяпер свой сіні тоўсты сшытак з планамі, сшыткі...

## 11

— Ну давай, мая мілая, скажам: добры дзень, Новы год! — як толькі па тэлебачанні скончыліся з Масквы навагоднія прывітанні, пачалі бумкаць Крамлёўскія куранты, сказала Таццяна Сяргееўна, узяла ў рукі адкаркаваную пляшку.

— Добры дзень! — усміхнулася Лілія Іосіфаўна.

— Кампанія без хлопцаў, канечне, не кампанія, але дзе дзенешся! — прамовіла Таццяна Сяргееўна, наліваючы ў крышталёвыя чаркі каньяк.— Хлопцы і цяпер дарагія, нарасхоп... Але свята ёсць свята, трэба сустракаць яго і без хлопцаў...

Лілія Іосіфаўна маўчала: яна ўсё яшчэ з учарашняга дня, калі закончылі вучобу за першае паўгоддзе, адгулялі ля ёлкі Новы год дзеці, калі пагулялі ў школе і яны, настаўнікі, не магла апамятацца, чаму іменна да яе папрасілася прыйсці сустрэць Новы год Таццяна Сяргееўна. Чаму не паехала ў горад, да сваіх знаёмых, чаму не пайшла тут, у Міланьках, да каго? Раней жа, нават яшчэ летась, сёлета ў першыя асеннія месяцы, Таццяна Сяргееўна мала зважала на яе. Яны не былі ў злосці адна да адной, але і вялікай дружбы ніколі не мелі.

— Няхай гэты год прынясе шчасце і нам, старым дзявулям! — пажартавала з самотнасцю ды з іроніяй Таццяна Сяргееўна, падняла чарку.

— За Новы год! — усміхнулася Лілія Іосіфаўна, дакранулася да яе чаркі сваёю, адчуваючы прыўзняты настрой: як-ніяк вось-вось настане Новы год, новае жыццё! — Ну і за шчасце, канечне!

Таццяна Сяргееўна ці то з іроніяй, ці то з жартам, сама сабе ўсміхаючыся, падняла чарку, зірнула скрозь яе на блізкую ёлку — на ёй свяціліся рознакаляровыя лямпачкі, падсвечваючы чырвоныя, жоўтыя, зялёныя шары.

Таццяна Сяргееўна была ў гэты вечар вельмі прыгожая. Яна заўсёды была прыгожая, а сёння твар яе быў бялейшы як калі, на галаве быў вабны чорны парык, на грудзях красаваўся залаты кулон. Таццяна Сяргееўна, уваходзячы ў сталыя гады, расцвіла, усё болей набірала жаночае хараство, як кветка пасля дажджу, пры добрым цяпле. Але, здаецца, і на яе прыгожым твары, і надта ў задумлівых вачах ляжаў адбітак нейкага смутку.

Лілія Іосіфаўна выпіла чарку каньяку, зморшчылася, пасля хутка паставіла чарку, зазяхала, памахала перад ротам рукою, зірнула на стол: што ўзяць у рот?

Таццяна Сяргееўна не гэтак мітуслівa, як яна, а спакойна трымала ў левай руцэ відэлец, а ў правай нож, рэзала кілбасу і вельмі прыгожа, аж было замілаванне на яе пазіраць, ела.

«Даўно разам працуем,— падумала Лілія Іосіфаўна,— сядзім вось насупраць адна адной, маўчым і, мусіць, абедзве гэтак жа адчуваем, што ў нашай кампаніі не хапае яшчэ аднаго чалавека. Ці то дзяўчыны, ці то хлопца, гэта было ўжо ўсё роўна, але трэці чалавек трэба. Бо мы абедзве ніколі не гарнуліся адна да адной, жылі па-рознаму, вось і цяпер не можам зладзіць. Надта я. І чаму я такая сумная? Не магу завесці добрай гутаркі, паспяваць».

— Паўторым? — спытала, зірнуўшы на яе, Таццяна Сяргееўна.— То была чарка за Новы год, а гэта чарка будзе ўжо ў новым годзе.

— У мяне ўжо галава кружыцца,— прызналася Лілія Іосіфаўна.

— А ты не бойся,— сказала госця.— Век ты ўсяго баішся... Асмелься хоць раз — і нічога не бойся... І зусім іншае жыццё ў цябе пойдзе...

Лілія Іосіфаўна, з сорамам усміхаючыся за сваё сп'я-

ненне, толькі прыклала чарку да губ, а Таццяна Сяргееўна лёгка, з ахвотаю выпіла ўсё. Прыкусіла.

— Спяём? — пасля запытала.

— Ды я не маю голасу,— засаромелася Лілія Іосіфаўна.— Хіба ты ўжо запявай, а я падпяваць, гудзець, як авадзень, буду.

— Давай тады патанцуем, як вось танцуюць яны... — сказала Таццяна Сяргееўна, кіўнула на тэлевізар.— Сумна ж так, лічы, моўчкі сядзець.

— Ды і ўдзвюх не зусім ёмка танцаваць...

— Дык хоць засмаліш за кампанію? — усміхнулася Таццяна Сяргееўна, узяла з канапы сваю сумку і дастала цыгарэты.— Ніхто ж не ўбачыць. А я нікому не скажу...

— Ды я не баюся. Я... не люблю гэта,— прызналася Лілія Іосіфаўна, зноў засаромелася за сябе: Таццяна Сяргееўна зноў паглядзела на яе з іроніяй.

Таццяна Сяргееўна падышла да парога, пусціла дым з рота і заадно пазірала на тэлевізар — на навагодні «Аганёк».

— Ты вось у нас вельмі разумная, кемная, сур'ёзная, не такая, як я, матылёк... — ужо, калі бралася на ранне, разгаварылася расчырванелая Таццяна Сяргееўна. Яна сядзела, падабраўшы пад сябе ногі, у кутку канапы, амаль ужо не пазірала на тэлевізар,— дык скажы вось мне, мітуслівай, непастаяннай, як мяне лічаць, што такое шчасце? Сапраўднае шчасце?

— Адкуль я ведаю? — паціснула плячыма Лілія Іосіфаўна. Яна сядзела непадалёку, у другім кутку канапы. Хацела ўжо, прывыкшы рана лажыцца, спаць.— Часта ўсе напраўду гавораць, што я разумная, сур'ёзная, але... нешчаслівая... Дык я ўжо і сама прывыкла: я нешчаслівая. Няма ў мяне шчасця, хоць я і хачу яго...

— Паглядзіш вось на нашых — і не зразумееш: якое ж яно, шчасце?!. — сказала Таццяна Сяргееўна.— Старэйшыя, Іван Сямёнавіч, Вяртун, калі запытаеш у іх пра гэта, толькі ўсміхаюцца, махаюць рукамі: дзе яно, тое шчасце! А яны ж пражылі ўжо нямала... Нашы вось равеснікі... Мая Сцяпанаўна ў добры дом замуж выйшла, як сыр у масле плавае, але нечага ёй не хапае, кажа: яшчэ няма ў яе шчасця... Сліж таксама жыве ў дастатку, але нечага ўеццa, нешта шукае, ліпне да спакус усякіх, кажа: яшчэ

не зусім шчаслівы... Васільцы дружна жывуць, радуюцца, што ёсць сын, але туляцца на чужой кватэры, усё валакуць на сваіх плячах, без кропелькі чужой дапамогі — дык гэтаксама марадь пра шчасце... Ты думаеш пра шчасце, я думаю... Без надзеі на шчасце няможна жыць... Але дзе яно, тое шчасце, якое?

— Бог яго ведае... — пацiснула плячыма Лілія Іосіфаўна.— Каб ведала, дык выйшла б яму насустрач...

— Жывеш вось тут і часта думаеш: ты нешчаслівая таму, што марнееш тут, у гэтых далёкіх Міланьках... Што мы тут бачым? Урокі, урокі, урокі... Школа, дом, печ, тэлевізар, раз у тыдзень танцы ў няўтульным клубе... Ну, калі-нікалі паездкі на адкрытыя ўрокі ў іншыя школы, раз у паўгода — на семінар у горад... Канікулы яшчэ нашы...— Таццяна Сяргееўна на хвіліну замаўчала, як задумалася, а потым зноў загаварыла: — Але вось яшчэ дзіва. Можна вырвацца з гэтых Міланек. У вялікую вёску ці ў які горад. Думаеш: многа зменіцца? Усё роўна будзе ўсюды мучыць цябе, як жыць, як паводзіцца, чаго хацець? Выходзіць замуж, прывязацца да кухні, да ваннай, да дзяцей? Ці не выходзіць замуж, жыць толькі для сябе?

— Ну, замуж выходзяць дзяўчаты не толькі тады, калі хочуць, але і калі іх бяруць...

— Ну, уявім: цябе ўзялі...

— Я пайшла б,— адказала Лілія Іосіфаўна.— І не баялася б кухні ды ваннай, тым болей — дзяцей... Наадварот, я вельмі люблю маленькіх дзетак...

— Бо ты, вясковая, думаеш так, як думала і твая бабка, твая маці: жанчына — гэта маці, гаспадыня... — без насмешкі, а сур'ёзна прамовіла Таццяна Сяргееўна.— Так думаюць нашы Ірына Васільеўна, Ларыса Іванаўна... А я так не хачу, не цягнуся я да такога жыцця... Мне трэба нешта другое... Страсці, перажыванні, нейкае вірлівае жыццё... Паездкі, тэатры, рэстараны, сустрэчы з вялікімі і разумнымі людзьмі і... не настаўніцкая работа. А нешта іншае. Можа, быць кінаактрысаю, спявачкаю... Словам, мне трэба зусім не такое зямное, як мы тут усе жывём...

— Калі будзеш адна, дык пра ўсё гэта яшчэ можна спадзявацца...

— Я не хачу быць адна. Адна я не магу.

— А мне здаецца, што можна жыць і адной... — прамовіла Лілія Іосіфаўна.— І цікава жыць. Потым, пад гадоў сорак, можна... мець дзіця, гадаваць яго...

— Не,— усміхнулася Таццяна Сяргееўна.— Адной быць нельга. Трэба быць толькі з людзьмі. Хоць мне часта і з людзьмі бывае сумна, тады я цягнуся да адзіноты...

— Я не разумею цябе...

— Гэта мая бяда: я пачала шмат думаць... — адказала Таццяна Сяргееўна.— І мне пацяжэла. Раней я жыла лягчэй. Але ідуць гады, і, відаць, прыходзіць одум, розум. Хочаш таго ці не хочаш. А ён, той розум, найчасцей прыходзіць тады, калі табе цяжка... А мне цяпер нялёгка, Лілечка. І нават не таму... Але скажу... І не таму, што я зацяжарыла, і ўрачы на гэты раз не бяруцца мне памагчы...

— Як так? — жахнулася Лілія Іосіфаўна: па-жаночаму разумела ўсё: незамужняя, маладая, можа быць з дзіцём... А наперадзе яшчэ цэлае жыццё...

— Вось так,— самотна адказала Таццяна Сяргееўна.— Была нядаўна даволі выпадковая сустрэча... І ён, той культурны Лёня, аказаўся вось такі... Толькі пра сябе думаў...

— Я ж чула: урачы памагаюць... — заліваючыся чырваннем, прамовіла Лілія Іосіфаўна.

— Ведаю: памагаюць. Тады, калі можна. А мне цяпер нават знаёмы ўрач не можа памагчы.

«Яна яшчэ малайчына,— падумала Лілія Іосіфаўна,— гэтакая бяда, а яна не панікуе. На яе месцы можна было б любой адчаіцца. Вось табе і жыве эмоцыямі... Значыць, калі трэба, дык умее і стрымаць свае эмоцыі... Як і ўсякі чалавек...»

— Перада мною пытанне: што рабіць? Губіць сябе не думаю, бо жывём усё ж на свеце адзін раз... Можна жыць і з нашчадкам. Я многа ведаю такіх дам, якія правялі бурную маладосць і цяпер жывуць адзіночкамі, гадуюць сыноў ці дачок. Але я думаю пра другое: быць маці-адзіночкаю, жыць так, як жыла, далей ці вось жаніць каго на сабе і стаць жонкаю-гаспадыняю, прысвяціць сваё жыццё мужу, дзецям, кухні? Што параіш?

— Я не ведаю,— шчыра паціснула плячыма Лілія Іосіфаўна.

— І я, мілая, не ведаю... Вось і думаю... — паківала галавою Таццяна Сяргееўна.— Неяк усё яно ў жыцці... Трэба, выходзіць, і плаціць за ўсё... І ўсякаю платаю...

— Ну, а гэты... як ты яго называла... здаецца, Лёня? Ён што?

— Што ён,— зморшчылася Таццяна Сяргееўна.— Ездзіла ў сталіцу, знайшла яго... Сказала... Збялеў і ззеля-

неў... Лічы, захліпаў: «У мяне жонка, сын, не разбурай сям'і... Ратуй...» Грошы даваў, каб я... Каб нішто мяне з ім не звязвала... Адвярнулася ды пайшла... Нават нічога не сказала... Ды што казаць?! Бег услед, апраўдваўся...

«Аж дзіва,— падумала Лілія Іосіфаўна,— усе нашы дзяўчаты, хоць і не зайздросцяць майму лёсу, але чамусьці шукаюць у мяне паратунку: да мяне прыходзіла са сваім смуткам, са сваімі трывогамі Ларыса, калі была дзяўчынаю і яе Васілец быў у войску, мне ж прыходзілася памагаць у горы Маі Сцяпанаўне, калі ў яе не ўсё клеілася з Васілём, я ж супакойвала і Ірыну Васільеўну, што не маю замахаў на Пецю, да мяне ж у бядзе знайшла сцежку і гордая красуня Таццяна Сяргееўна... Як я ўсё роўна прыёмнік усяго гора, усёй бяды на свеце... А хто ж мне калі паможа? Ці ўсе думаюць, што я мала думаю пра сябе, пра свой лёс?»

## 12

— Хоць усе нашы цяпер і адпачываюць, а мы з табою, калега, давай яшчэ пакумекаем пра школу,— сказаў Іван Сямёнавіч, калі ўтульна сеў за свой стол, скінуў пінжак, павесіў яго сабе за спіну, на крэсла.— Хоць дарэмна я пад старасць распусціўся, ліберальнічаю, паадпускаў вось усіх. Гэта для дзяцей канікулы, а для настаўнікаў якія канікулы? Трэба, каб усе былі ў школе, чыталі, пісалі календарныя і іншыя планы, падправілі табліцы, вучыліся пускаць кіно. А то ёсць кінаапарат, а пускаць яго ўмеюць лічаныя людзі. Але просяць во: пусціце з'ездзіць то да мамы, то да бабулі...

Васілец маўчаў: сёлета ён з Ларысаю ды з сынам мусіў застацца на канікулы ў Міланьках, а ў тыя гады, калі быў вольны, як арол, з вялікаю ахвотаю і сам, засумаваўшы, ездзіў і да сваіх, і да Ларысіных бацькоў, браў гэтаксама загадзя на канікулы і білеты ў сталічныя тэатры.

— Хочацца і да матак, і да бабуль з'ездзіць... — усміхнуўся Васілец.— Бо, на вялікі жаль, і бабулі, і маткі не век жывуць... Ды і ў Міланьках пакуль што няма ні тэатра, ні кнігарні, ні універмага...

— Ты ўжо кіраўнік, калега, дык павінен іначай думаць. Стражэй,— павучыў Іван Сямёнавіч.— Раз трэба для школы, для парадку, каб былі тут, дык трэба. І ўсё тут. Будзь

строгі — і ўсё будзе па-твойму. Будзе парадак усюды. Яшчэ ж сам помніш: за мною заўсёды быў добры парадак. Гэта апошнія гады я крыху расклеіўся, усё пусціў на самацёк. А пускаць не трэба... І не бойся мець непрыяцеляў, бо яны ўсё роўна заўсёды будуць. Будзеш строгі — злоснікі, крыўднікі будуць, станеш мяккі — насмешнікі, хітруны завядуцца...

Васілец прамаўчаў.

— Але гэта ўсё між іншым, калега, толькі добрая парада старога вераб'я маладому... — усміхнуўся Іван Сямёнавіч, прыгладзіў рукою зусім сівыя рэдкія валасы на галаве.— Я паклікаў цябе дзеля другога. Нам трэба з табою, калега, паднавіць перспектыўны пяцігадовы план і скласці план работы на гэты навучальны год,— прамовіў ён і ўсміхнуўся, бо ўбачыў, канечне, што Васілец здзівіўся: прайшла ўжо амаль палавіна вучобы, а толькі цяпер складаць план? — Магу прызнацца, калега, чаму так... Цябе павінны былі назначыць завучам яшчэ з першага верасня, вось я і думаў яшчэ тады: прыйдзеш да мяне ў намеснікі і возьмешся за гэта са свежым розумам, з маладымі сіламі, па-творчаму, бо мой і розум ужо прытупеў, і прывык я да шаблонаў... Ды і тыя часта не знаходзяцца... Але мяняўся загадчык райана, тваё назначэнне затрымлівалася — вось план і не пісаўся. Вось цяпер маеш вольны час, дык і вазьміся за гэта, калега. А то наскочаць інспектары, дык не ацярэбімся тады ад прачуханцаў... А яны ні мне, старому, ні табе, маладому, не трэба.

— Я ж не ведаю, што і як пісаць,— прызнаўся Васілец.

— Пакажу, памагу — і навучышся. Усяму навучышся...— прамовіў Іван Сямёнавіч, адчыніў шуфляду стала і дастаў тоўсты сшытак у рудых вокладках.— Вось пазалетась, як ты служыў, быў я ў абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў на семінары дырэктараў васьмігадовых школ, дык тое-сёе запісаў з таго, што цяпер самае сучаснае ды моднае.

Ён дастаў з кішэні акуляры, начапіў на нос і паглядзеў на першую старонку, потым адгарнуў з палавіну, відаць, пранумараванага сшытка.

— Вось табе і план работы школы,— сказаў ён, пазіраючы ў сшытак.— Адзінаццаць раздзелаў. «Уводзіны». Напішаш, чаго мы дабіліся ў тым годзе, чаго хочам у гэтым. Пафантазіруй, распішы як трэба. Вось далей раз-

дзелы: «Выкананне закона аб усенавучы», «Работа з педагагічнымі кадрамі», «Навучальна-выхаваўчая работа», «Пазакласная выхаваўчая работа з вучнямі», «Кіраўніцтва і кантроль за навучальна-выхаваўчай работай», «Работа з бацькамі, з грамадскасцю», «Спартыўна-масавая і гігіенічная работа»... Так... Ну, апошні раздзел — «Умацаванне навучальна-матэрыяльнай базы школы» — я сам складу, бо яшчэ лепш за цябе ведаю, што трэба нам купіць, што можна дастаць, а што няможна. А табе тут ёсць процьма парад,— ён падаў Васільцу свой сшытак.— Пішы, што было ў нас, што павінна было быць, што будзе... Не бойся падсыпаць гучных слоў. Чым паболей... Такі план зляпі, каб быў як звон. За добры, хоць, можа, і не зусім пад сілу, план ніколі нас не паганяць. Калі і даб'ешся чаго, дык пахваляць: малайцы, усё было задумана! Вось яшчэ дам табе ў помач...

Іван Сямёнавіч адсунуўся разам з крэслам ад стала, нагнуўся і, чырванеючы ад натугі, пачаў даставаць з правай тумбы дубовага стала старыя школьныя журналы. Збоку на іх выцвілым чарнілам бачыліся розныя лічбы: «1947», «1953», «1956», «1964», а гэтаксама і іншыя. Некаторыя журналы — надта тыя, што былі ўжо даўнія,— былі зжаўцелыя, абгрызеныя мышамі і пахлі цвіллю.

— Вось, калега, усе нашы школьныя планы за маё дырэктарства,— усміхнуўся Іван Сямёнавіч, як дастаў і з другой тумбы і паклаў на стол гару журналаў, чмыхнуў і абцёр далонь аб далонь.— Усё трымаю, неяк шкода выкідаць! Ды падумаеш: гэта ж гісторыя ўжо. Твая гісторыя! І на ёй твой подпіс!.. — Вось,— ён разгарнуў адзін стары журнал,— «Дырэктар школы Рагатка І. С.». Гісторыя! Але ўсе журналы я табе не дам, бо тут ужо,— ён са смуткам паківаў уверх-уніз галавою,— на сёння шмат непатрэбных цытат, прозвішчаў, усякай лішніцы, ад якой мы пакрысе адвыкалі... А ўсё было... І цытаты, і прозвішчы грымелі! І ўсё потым уміг счэзла! Дам я табе журналы з 1964 года, гэта надзейна на сённяшні дзень,— ён адабраў з сем навейшых журналаў, падаў Васільцу, а астатнія паскідаў назад у тумбы стала.— Перагледзь, бо ў нашай рабоце і трэба пераемнасць. Знойдзеш якую цікавую задуму, дык не бойся перапісаць, бо ўсё добрае — век добрае. Я тут шмат паўтараў з году ў год. Але і асвяжы, канечне, сваім маладым розумам. І ўсюды перасыпай словамі «сучаснасць», «навуковасць», «праблемнасць», «кабінетная сі-

стэма навучання», новыя праграмы, новыя патрабаванні». Усё ясна? — і хітравата ўсміхнуўся.

— Ды разумею вас... — адказаў Васілец, адчуваючы, што ўсе канікулы праседзіць ля стала: трэба будзе яшчэ напісаць і свае — завучаўскія ды каляндарныя — планы. Адно суцяшэнне, што будзе ўжо ведаць, як трэба пісаць план работы школы.

— Тады яшчэ адна гамонка, дарагі калега,— Іван Сямёнавіч дзьмухнуў па стале, дастаў з верхняй шуфляды стала лісты паперы, што яшчэ пазаўчора аддаў яму Васілец.— Вось, як я і прасіў, як і павінен гэта рыхтаваць завуч, ты зрабіў для райана справаздачу за другую чвэрць і за першае паўгоддзе. Але такой ведамасці ў раён няможна пасылаць. Чаму? — усміхнуўся ён.— Сам не здагадваешся? Не? Адгадка простая. Шмат двоек, троек, мала чацвёрак і пяцёрак... Мы не можам усё гэта так паказваць. Мне ж галаву на адыход мой на пенсію адкруцяць...

— Я склаў справаздачу па ведамасцях класных кіраўнікоў,— адказаў Васілец.— Нічога сам не прыдумляў.

— Я ж табе даваў копіі ведамасцей за той год за першае паўгоддзе, прасіў зірнуць, што сёлета, а што летась было... — ужо з незадавальненнем прамовіў Іван Сямёнавіч.— Разумееш, трэба, каб сёлета хоць на адну тройку, хоць на адну чацвёрку, але каб было лепш, як летась. Рост трэба. А я вось падрахаваў — ну, гэтак, як было і летась. Так што перапішы, Павел Мікалаевіч, падпішы — і мы пашлём... — і ён падаў яму паперы, усміхнуўся: — Недзе разы са два, а то і болей у якой двойкі ці тройкі не туды хвосцік ці вяршок загні — і ўсё будзе як трэба...

— Другую ведамасць я не магу падпісаць... — адказаў Васілец і папер не ўзяў.

Іван Сямёнавіч, прыжмурыўшы вочы, трымаў гэтыя паперы ў працягнутай руцэ. Праз хвіліну рука дробна задрыжала, а твар запунсавеўся. Потым Іван Сямёнавіч паклаў ля сябе паперы, прыгладзіў дрыготкаю рукою валасы, пацёр пальцам у куточку правага вока.

— Не ўпірайся. Перапішы і падпішы,— сказаў ён, зноў дзьмухнуў па стале.— Так трэба. І табе гэта навука на пазнейшае. Разумееш, трэба, каб былі зрухі... Калі баішся падпісаць адзін новую ведамасць, дык і я падпішу...

— Не, Іван Сямёнавіч, гэтага я рабіць не буду...

— Ды зразумей ты,— Рагатка абпаліў яго бязлітасным позіркам,— мне налета на пенсію ісці, і мне хочацца

мець персанальную... А ты малады, здаровы, дык палепшыш яшчэ ўсё і на самай справе... І я ў твае гады палепшыў бы...

— Я не толькі пра гэта думаю, а яшчэ і пра іншае... — вытрымаўшы дырэктараў позірк і нават прымусіўшы таго апусціць галаву, сказаў Васілец.— Ды што мне гаварыць: вы самі ўсё лепш за мяне ведаеце...

— Ах, ты вось пра што! — ухмыльнуўся Іван Сямёнавіч.— Не будзь наіўны, калега... Ты вось толькі пачынаеш яшчэ стала жыць, працаваць, дагэтуль начытаўся ўсяго, наслухаўся, дык таму такі і яршысты... Такі і я некалі быў... Але я ўжо, лічы, трыццаць гадоў кірую гэтай школкай, у такіх пераплётах быў, што маладому пра гэта і не снілася... І сёння ўжо ведаю: не раз трэба рабіць тое, што не варта было б рабіць... Думаеш, ты не будзеш? Ты, маўляў, з новага цеста, пры новых вятрах жывеш... Будзеш, усё будзеш. Бо нікуды не дзенешся. Паскачаш-паскачаш, паяршышся, дык раз-другі ў адно, у другое месца паклічуць ды запатрабуюць: ты нам не свае ідэі ды ілюзіі давай, а вынікі! Дык знойдзеш сцежачку, каб гэтыя добрыя вынікі мець. Бо без зрухаў, поспехаў няможна... Будзеш мець іх — будзе і пахвала... Сядзеш у прэзідыум, пафарсіш на дошцы Гонару, грудзіну нечым упрыгожыш... Гэта я пад старасць не надта дабіваўся гэтага, бо не хацеў лішняй увагі, лішніх камісій... А было чым пахваліцца, каб усе настаўнікі тут працавалі, якіх сюды прысылалі. Былі сярод іх, прабач за такія словы, можа, і не табе, калега, роўня: цяпер яны лепшыя дырэктары ды завучы некаторых школ... Чаго адзін толькі Алесь Трахімавіч быў варты!.. Можна было на ўсю рэспубліку праславіцца. І цяпер праз пару гадоў будзе чым пахваліцца, калі захочаш. Захочаш... Бо слава, пашана гэтыя вельмі ж жаданыя ў маладым узросце, як глыткі вады ў смагу. Здаецца, піў бы і піў бы. Дык перапішаш справаздачу ў падзяку за тое, што вучу цябе вуму-розуму, веды перадаю?

— Не,— адказаў Васілец.

— Я і адчуваў, што ты ўпарты! — хмурна прамовіў Іван Сямёнавіч, забраў паперы, буркнуў: — Некалі ўспомніш мяне... Паколешся, паяршышся ды і пагладчэеш, памякчэеш... Ну ладна, сам ва ўсім разбяруся... А ў нас з табою ёсць яшчэ адна закавыка. Усе цяпер усюды трубяць пра кабінетнае навучанне, нібы гэта ледзь не самае лякарства зрабіць і разумных, і няздольных дзяцей выдатні-

камі. Калі нешта не клеіцца ў якой школе, дык, маўляў, уся бяда ў тым, што няма класа-кабінета... Па мове, па матэматыцы ці па фізіцы кабінетаў мы пакуль што зладзіць не можам, а вось па біялогіі зможам. Паставім, што маем, назбіраем усякіх жучкоў ды матылькоў. Дык вось, калега, каб не з'елі нас за адсталасць, за «ненавуковую» работу, падскоч ты каторага дня ў Галінавічы ды зірні, што там за цуда гэткае — клас-кабінет на біялогіі, бо галінавіцкі дырэктар, як толькі нехта выдумаў, а райана падхапіла гэтую ідэю, адзін з першых пачаў ускліканць на ўсіх нарадах, што кабінетная сістэма дае толькі адны чацвёркі ды пяцёркі... А я тым часам падумаю, які клас вызваліць пад кабінет... Зладзім яшчэ гэта, ды трэба хутчэй уцякаць, пакуль разумнікі з навукова-даследчых інстытутаў яшчэ чаго не выдумалі... Божа, колькі чаго яны і за маю работу ні выдумлялі, ні раілі! І раздзельнае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак, і каменціраванае пісьмо, і вось праблемнае навучанне, кабінетнае... Пайду са школы, але навек верыць буду, што найлепш навучыць дзяцей звычайны ўрок. Ды здольны настаўнік. А гэта — тэлевізары, кіно, табліцы, кабінеты!.. — ён усміхнуўся.— Але маўчу! Каб не лічыў мяне адпетым рэтраградам... А лічы, што і я за навуку, за ўсё новае... З'ездзі, словам, зірні, што там за дзіва такое, што за лякарства ад двоек ды троек...

— З'езджу,— ужо са спачуваннем да дырэктара адказаў Васілец.

## 13

... — Хай настаўнікі першае слова скажуць! — усміхнулася суседка, гаспадыніна сваячка.— Галоўная ж на гэтым свяце Ірына Васільеўна — настаўніца...

— Давай, Павел Мікалаевіч, дзяржы рэч! — прыстаў Сліж, седзячы паблізу.— Ты ж тут наша начальства!

— Скажыце, Павел Мікалаевіч, якое слова,— прамовіла і Мая Сцяпанаўна, і гэта нешта значыла: як-ніяк а Мая Сцяпанаўна — дырэктарава нявестка.

— За святочным сталом не можа быць ніякага начальства,— адказаў Васілец,— тут усе роўныя. Самы важны той, хто самы вясёлы ды жартаўлівы.

— Давайце, Павел Мікалаевіч, скажыце слова,— загаманілі і вяскоўцы.

Васілец мусіў падняцца, узяў поўную чарку, зірнуў на папрастарнелую — выкінулі дзеля гэтага вечара перагародку — хату, на людзей. Яны сядзелі абапал ссунутых сталоў. Ля сцен, найбольш ля кута, на «ганаровым» месцы, сабраліся настаўнікі (не было толькі дырэктара з жонкаю: па-ранейшаму Іван Сямёнавіч не хадзіў ні на якія вясковыя гулянкі). На другі бок сталоў, ля ўвахода і пасярод хаты, сядзелі сваякі цёткі Ядзі і дзядзькі Яна ды сваякі Ірыны Васільеўны.

Толькі пачало на дварэ шарэць, але ўжо ў невысокай хаце гарэла электрычнае святло, і пры ім шыкоўна выглядалі з густам апранутыя настаўніцы, Сліжава жонка, пасвяточнаму выглядалі і вяскоўцы ў дарагім, але не зусім модным — то зашырокім, то завузкім — адзенні. Патыліцы амаль ва ўсіх міланьскіх мужчын былі высока падстрыжаныя, блішчалі белізною. Амаль у кожнай жанчыны ў рукавах былі пазатыканыя белыя хустачкі.

— Калі так,— прамовіў Васілец, і ўсе госці прыціхлі, зірнулі толькі на аднаго,— дык дазвольце запрасіць усіх выпіць перш за ўсё за здароўе, за шчасце нашых слаўных маладых бацькоў і іхняга сына! Няхай хутка ў хлопчыка заявіцца яшчэ і сястрычка, каб мы зноў прыйшлі ў гэтую добрую хату на бяседу!

— Толькі адзін дагавор, пане зычач! — на хвілінку прымусіла ўсіх прытрымацца і не выпіць гаспадыня, цётка Ядзя.— Спачатку будзе яшчэ адна гулянка ў цябе, а тады ўжо ў нас...

— Паглядзім...— усміхнуўся ён, дакранаючыся да чарак гаспадароў: дзядзька Ян, Пеця і Ірына Васільеўна ўсміхаліся, а цётка Ядзя выпіла з паўчаркі, а астатнюю гарэлку з яе пляснула на столь.

— Няхай будуць і яшчэ ў настаўнікаў гулянкі! — крыкнула яна.

Гарэлка адбілася ад столі, капнула некаторым вяскоўцам за шыю, што тыя паўціскалі ў плечы галовы, засмяяліся.

Вяртун, седзячы непадалёку, на яго амаль не пазіраў, чырванеўся, не старалася пазіраць у гэты бок, чырванелася і яго звычайна бледнаватая жонка. Васілец сам кіўнуў ім першы.

Як сеў, дык тут жа на яго талерачку Мая Сцяпанаўна і Сліжава Ніна — а яны сядзелі абапал яго — пачалі накладаць то салёныя гуркі, то кілбасу, то гарошак, мяса: на

сталах, здаецца, не было ніводнай вольнай мясцінкі ад поўных талерак.

— Дзякую, дзяўчаты! — і адной, і другой пакланіўся Васілец.

— Няма вашай Ларысы, дык мы будзем сачыць за вамі,— пажартавала задаволеная, сёння на дзіва прыгожая ў сінім крымпленавым касцюме, з пышнаю прычоскаю Мая Сцяпанаўна, жартам штурхнула яго пад сталом каленам.

Васілец ледзь праглынуў тое, што было ў роце, ад гэтага незвычайнага дотыку.

І ўсю пару Мая Сцяпанаўна — яна ўслед за ім сказала добры тост — амаль не зважала на свайго Васіля. Той сядзеў з правага боку і не драмаў з мужчынамі, куляў чарку за чаркаю,— а яна ўсё загаворвала, жартавала з ім, Васільцом, пасля шмат спявала. І адна, і ў пары з Таццянай Сяргееўнай. Тая, праўда, сёння не была вельмі вясёлая.

Пасля, як вылезлі з-за сталоў, танцавалі. Спачатку ў хаце, а потым выйшлі на двор. Пеця пачапіў над дзвярамі лямпачку з пераноскаю, Сліж з мужчынамі ачысціў двор ад свежага снегу, дабраўшыся аж да асенняга, цвёрдага лёду.

— Ох, і даўно ж я ўжо так не танцавала! — смяялася задаволеная Мая Сцяпанаўна.

Цемнаватыя яе валасы ад скокаў разбэрсаліся, апалі на высакаваты белы лоб, на ружовыя, крышку пульхненькія шчокі, на доўгую прыгожую шыю.

Як мужчыны не далі болей тутэйшаму гарманісту іграць, папрасілі ўсіх танцораў зноў зайсці ў хату, сесці за сталы, Мая Сцяпанаўна прыпынілася раптоўна, аж высекла абцасамі снег, ткнулася да яго грудзіны, абчапіла яго за плячо гарачымі рукамі.

— Як добра! — прашаптала яна.— І вы які спраўны, Павел Мікалаевіч! Малайчына!

Ён, гэтаксама расчырванелы ад танцаў, успыхнуў: што падумаюць пра іх людзі! Але, здаецца, ніхто на іх не зважаў: усе гаманілі між сабою, смяяліся, жартавалі.

І калі нехта, мусіць, наўмысна выключыў святло на двары, каб усіх хутчэй завесці ў хату, Мая Сцяпанаўна злавіла яго руку, моцна сціснула абедзвюма сваімі гарачымі далонямі, зусім блізка ля яго твару дыхнула з хваляваннем.

Васілец адчуў, як у яго хмяльней, чым дагэтуль, кружыцца-кружыцца галава. Але ён ніяк не адказваў, толькі

дакрануўся да пляча Маі Сцяпанаўны — маўляў, і мне гэтак жа добра, і нам усім сёння добра.

— Гэтая маленькая прынцэса далёка пойдзе...— ужо ў цёмных сенцах пачуў Васілец голас Таццяны Сяргееўны.— Вось памянеш маё слова: яна хутка махне рукою на свайго Васіля, будзе гуляць з другімі мужчынамі...

— Яна малайчына: заўсёды вясёлая... — як заступілася за сваю сяброўку Лілія Іосіфаўна, стоячы недзе паблізу.

Васільца гэтыя словы як асвяжылі, і ён адчуў, што сёння страціў усякі розум, дык цяпер схамянуўся, адчуў, што не трэба паддавацца чарам Маі Сцяпанаўны.

— Ну і няхай! Не зважайце! — шэптам адказала яму Мая Сцяпанаўна, паднялася на пальчыках і горача задыхала ў вуха: — Таня — ужо не дзяўчына, летам і без замужжа народзіць, дык вось і бурчыць... А нам няма чаго бурчаць, баяцца, мы будзем весяліцца...— прамовіла яна.

Ля дзвярэй у хату адпусціла яго руку, абмінула, зайшла першая ў хату, адразу прыпынілася ў парозе і пачала ля пасудніка папраўляць прычоску, гледзячыся ў невялікае, прымацаванае да сцяны люстэрка.

— Ну, лезце, Павел Мікалаевіч, у свой кут,— папрасіла яго гаспадыня, бачачы, што госці стоўпіліся ля сталоў, не садзяцца.

— Не, дзякую,— адмовіўся ён.— Я туды ўжо не палезу. Пасяджу вось тут з краю крыху і пайду дадому. Усё ж там Ларыса адна.

— І я не палезу, мне таксама дадому, да Андрэйкі, пара,— адмовілася ісці туды і Мая Сцяпанаўна, засталася ў парозе, ля Васільца.— Мой Васіль няхай сабе яшчэ пасядзіць, а мне пара дадому.

Калі крыху яшчэ пасядзелі, Васілец неўпрыкметку, каб усе не ўбачылі, што ён адыходзіць, падаўся ў сенцы апранацца. Следам за ім выйшла і Мая Сцяпанаўна.

Гаспадыня памагла ім у кладоўцы знайсці іхняе адзенне, напакавала стравамі іхнія сумкі і, просячы заходзіць яшчэ і заўтра, правяла да брамкі.

У цемнаце, па вуліцы, яны пайшлі ўдваіх з Маяй Сцяпанаўнай. З хаты чуўся ўслед ім гоман ды смех.

Ноч была і не цёмная, і не светлая: парою праз шэрыя касмылікі высокіх хмар выбліскваў, ярка асвятляў блакітнаватае паветра ды прасторы месяц. Калі зноў заплываў

за хмары, не цямнела: можа, і таму, што цемень не паспявала ўстоіцца.

Вось зноў выблісНуў месяц — на дварэ засвятлелася, як і ўдзень, бачылася выезджаная машынамі і санямі, ад таго цяпер бліскучая вуліца, бачыліся абапал яе ціхія, як застылыя на холадзе, блакітныя дамы, сады, платы. Месяц схаваўся за рэдзенькую хмарку — знік блакіт, усё злілося ў морак, а пасля і ў цемнату. Яна надта згусцілася ля лесу, стаяла цёмнаю сцяною і, здаецца, усё паўзла-паўзла сюды.

Неяк было нязвыкла ісці па вуліцы соннай вёскі з чужою жанчынаю. Васілец усё яшчэ чуючы музыку, песні, меўшы добры настрой, думаў, што ідзе не па зямлі, а па воблаках: надта ж добра было на душы.

— Якая ноч! — ускліКнула Мая Сцяпанаўна, з гарэзнасцю абсунула з галавы на плечы пуховую белую хустку, расшпіліла шыкоўнае чорнае футра.— Як хочацца спяваць! Хочаце, я ціхенька спяю нешта вам? Толькі дзеля вас аднаго... — яна ўзяла яго пад руку, прытулілася.— Якая ваша самая любімая песня?

Пасля рэзка, пацягнуўшы яго за руку, зайшла наперад, каб зірнуць у твар, пакаўзнулася, паехала на адной назе, перагнулася — і ён гэтаксама паслізнуўся, ледзь устояў на нагах ды ледзь яе ўтрымаў.

— Дзякую, Павел Мікалаевіч,— войкнуўшы, выпрамілася яна.— Але нядобрая прыкмета: падаю перад вамі...— пажартавала і, як убачыла, што ён змаўчаў, толькі ўсміхнуўся, зноў запытала: — Дык якую вы найбольш любіце песню?

— Мне шмат падабаецца песень,— адказаў ён.— Але чамусьці найболей люблю народныя, крышку сумнаватыя, нават самотныя, з нейкаю жальбою... Ды толькі цяпер такіх песень спяваць не трэба...

— Не трэба,— згадзілася Мая Сцяпанаўна.— Так і быць, памаўчым. Няхай у душы будзе песня!..

Яна прамовіла так, і Васілец напраўду адчуў, што ў душы ёсць гэтая песня, ёсць радаснае здзіўленне, нават нейкая вялікая тайна, і ад яе прыходзіла нейкая трывога.

— Божа мой, яны ўсе спяць, не бачаць такой загадкавай ночы, не маюць у душы такой песні! — моцна трымаючыся за яго локаць, тулячыся да яго пляча, прамовіла Мая Сцяпанаўна, пазірала на знаёмыя хаты, да якіх яны падыходзілі, міналі.— І сама не раз у такія ночы спала,

не адчувала, што жыццё ідзе, уцякае і што яно цудоўнае!.. Гэта ж шчасце! Вы шчаслівы, Павел Мікалаевіч?

— Шчаслівы,— адразу ж адказаў Васілец, падумаў пра Ларысу, пра сына, пра любімую работу, пра гэтую сённяшнюю гулянку, пра гэтую вось ноч. Здзівіўся, што Мая Сцяпанаўна вось такая. Лічы, аднадумка. Дасюль ён думаў пра яе крыху інакшай...

— Самы, самы шчаслівы на свеце?

— Ну, такога я не магу сказаць, бо ўсё ж шмат чаго мне яшчэ не хапае... — усміхаючыся, сказаў ён.— Ды і шмат што сам раблю не так, як трэба. У школе, у жыцці... Здаецца, стараешся працаваць, хочаш ва ўсім быць сумленным, але пройдзе час — і бачыш: не такі ты, дружа, і добранькі... Нешта не дарабіў, недзе схітрыў, некага не выслухаў, некага абразіў, а недзе, дзе трэба была смеласць, змоўчаў... А ўспомніш, як пачынаў тут працаваць, дык аж няёмка: тады здавалася, што я выключны, толькі я адзін стараюся, а ўсе астатнія не стараюцца, але мне зайздросцяць... А цяпер бачыш: старацца то стараўся, але быў наіўны і па-наіўнаму працаваў, што трэба біцца, старацца не толькі ў адзіночку, але і гуртам. Вось тады нечага і даб'ешся... Толькі цяпер, ужо крыху папрацаваўшы, пачынаю разумець Алеся Трахімавіча, чаму ён часта быў незадаволены, хацеў пачаць настаўнічаць спачатку... Так што не самы я шчаслівы, удалы на свеце... А вы? Шчаслівая? Самая шчаслівая?

— Я не ведаю... — прызналася яна.— Здаецца, крыху шчаслівая. Але здаецца: нешта вельмі важнае праходзіць міма. Блізка-блізка недзе, адчуваеш, а вось у рукі не даецца... Уцякае, абыходзіць, да некага другога схіляецца... Але ж не хочацца бачыць, што гэта іменна так, а хочацца кінуцца наўздагон, а то і апярэдзіць, зайсці насустрач... Марыць хочацца, жадаць лепшага... А вам так не хочацца?

— Хочацца,— адказаў Васілец.— Палохае іншы раз прыземленасць, цягне да паэзіі, узнёсласці... І мараў усякіх многа...

Мая Сцяпанаўна замаўчала. Прыціх і ён: якраз падышлі да хаты, дзе ў самы першы год кватаравала Ларыса, дзе ён прападаў, лічы, усе вечары, кахаўся, а пасля за крокаў дзвесце, калі спусціліся з горкі, мінулі цёмны вясковы могільнік, падышлі і да селішча, дзе яшчэ летась стаяла светлая хата, дзе яшчэ летась жыла тут Ларыса, была дзяўчынаю, і ён быў тут свой чалавек, пазнаў шчасце. Васільцу

ўсё мігам напомнілася, што тут было, але разам з тым здалося: усё тое — даўні сон, што сам ён даўно ўжо не маладзенькі халасцяк, а бог ведае з якой пары ўжо жанаты, бацька. Але ўсміхнуўся. З сорамам. Пра сваё былое чамусьці заўсёды ўспамінаецца з нейкай цнатлівай сарамлівасцю... Нібы ў цябе ўсё не так было, як у людзей, а горш...

— А вось і мая блакітная маладосць! — усклікнула Мая Сцяпанаўна, калі яны моўчкі мінулі лагчыну, масток і зноў пачалі падымацца на горку, дзе справа ўжо непадалёку стаяла школа.

Мая Сцяпанаўна пазірала на зусім цёмную хату, што стаяла па правай руцэ. З вышыні цьмяна цадзіў святло месяц, высвечваў тыльную, нябачную адгэтуль сцяну, і ад хаты сюды, да вуліцы, ляжаў доўгі цень, што і зацямняў вокны, гародчык.

— Вы гаворыце так, нібы вам ужо сорак гадоў, а то і болей,— усміхнуўся Васілец.

— Сорак не сорак, але ўжо ці будзе тое, што было... — уздыхнула яна.— Ужо ж не вольная, бесклапотная дзяўчынка, а маці. Ужо думаю пра дзіця, пра дамашнюю работу, а не пра хлопцаў, пра гулянкі, маладое шчасце... Але як усё хутка тое маладое прайшло! — заківала галавою.— Як адзін дзень! Як хутка мы пасталелі! А помніце, Павел Мікалаевіч,— ажывілася,— аднойчы — так яшчэ нядаўна, але так ужо і даўно,— як толькі мы пачыналі тут настаўнічаць, мы ўночы сядзелі з вамі во тут на бярвеннях. Уцяклі ўдваіх з Вішнёўкі з танцаў, прыйшлі сюды і сядзелі. Помніце?

— Канечне, помню,— усміхнуўся ён, крышку саромеючыся за сваю такую некалешнюю гарэзнасць.

— І не толькі сядзелі, але і цалаваліся, з заміраннем сэрца чулі, як вярнуліся ўслед за намі Лілія Іосіфаўна і Ларыса Іванаўна... Вашая цяперашняя жонка тады магла б навекі прайсці міма вас, каб я, тады такая маладая, дурная, не выпусціла вас з рук...

— Я думаў, што вы ўжо даўно забыліся пра той адзінадзіны вечар! — усміхнуўся Васілец.— Як-ніяк прайшлі ўжо не месяц, а гады з той пары. Колькі чаго было пасля таго!

— Такое не забываецца... Забудзецца на час, але потым успомніцца і ные... — са шчырасцю прызналася Мая Сцяпанаўна.

Аж торгнула, затрывожылася сэрца: выходзіць, Мая Сцяпанаўна... Аж боязна самому сабе сказаць тыя словы...

«А я? Развярэдзіла яна і мне душу...»

— Сяджу вось дома, у чатырох сценах, маю адзін і той жа штодзень клопат: мыць полкі, калготы, варыць манную кашу, мыць бялізну. І надакучыла ўсё! Я хачу нечага другога... Каб ведала, што так будзе замужам, дык яшчэ доўга была б дзяўчынаю, яшчэ паспела б ухапіць такое шчасце. Як я не раз зайздрошчу Ліліі Іосіфаўне і Таццяне Сяргееўне! Нічога, што пажылымі выйдуць замуж, затое колькі пагуляюць!

— А яны вам не зайздросцяць, думаеце? — усміхнуўся Васілец.— А што цяжкавата, дык гэта не толькі вам адной. Ларысе вунь яшчэ, можа, цяжэй. Вы ж жывяце з бацькамі, на ўсім гатовым, а мы... Усё толькі самі... Нам толькі можна марыць пра гэткія выгоды...

— У жыцці ўсё цяжэй... Не раз і выгоды — не выгоды... Яшчэ трэба падумаць, каму цяжэй: мне ці Ларысе? У Ларысы вы, а ў мяне Васіль...

— А чым жа ваш Васіль горшы?

— Горшы... Які з яго муж!.. Але не будзем пра гэта: усё ж сёння добры вечар, добры настрой! Вой! — раптам як здзівілася яна.— Чагосьці ў маёй кішэні ключ ад школы! — Яна дастала яго, пакруціла на пальцы.— А ў школе цяпер, мусіць, вельмі холадна і ціха?

Васільцу хацелася сказаць: а давайце падыдзем, адмыкнём і зірнём, як цяпер там. Яго пад'юшчвала і пад'юшчвала гэтая думка, штурхала ступіць да тайны: да яе было так блізка, можа, толькі адзін крок! Зайсці туды было лёгка, але вось выйсці?..

— Хай спіць наша матухна, адпачывае да панядзелка! — пажартаваў ён.

Яны міналі ўжо школьную брамку, і нешта цягнула яго вярнуцца назад, бо тое ж падказвала, што гэта больш не паўторыцца: гэта бывае, можа, толькі адзін раз, прыходзіць як шчасце, як узнагарода за свята ў душы.

— Дзякую, вось вы і давялі мяне жывую і здаровую... — ціха сказала Мая Сцяпанаўна, калі яны падышлі да дома яе свёкраў.

Яна пажартавала, але ў яе голасе чуўся нейкі смутак, нейкі папрок — і гэта яшчэ больш трывожыла душу.

Прыпыніліся ля цёмных варот.

— Ну дзякую, Павел Мікалаевіч,— зноў сказала яна, вызваліла сваю руку, стала насупраць яго, спытала нібы з дакорам: — Ну чаму вы такі, Павел Мікалаевіч?

— Які? — яго апякло сорамам.

— Вось такі... Ну, чаму гэтак любіце сваю Ларысу? — нібы пажартавала яна.— Але я, можа, залішне ўсё гэта! Не буду больш. Сёння я нейкая дзіўная, занадта вясёлая... Магу бог ведае да чаго дагаварыцца... Будзьце здаровыя, дарагі наш Павел Мікалаевіч!

Яна паднялася на дыбачкі, абхапіла цёплымі далонямі яго шчокі, апякла раз-другі пацалункам у губы, нечакана адарвалася, пхнула вароты і, не спяшаючыся, падалася да хаты, усё неяк меншаючы, знікаючы ў раптоўнай цемені...

Як толькі павярнуў з міланьска-сульскай дарогі на сваю сцежку, Васілец убачыў: з акна іхняга пакоя падае ў гародчык святло. Адчуў: не спіць сын, не спіць Ларыса.

«Нібы спускаюся з воблакаў... І траціцца пачуццё тайны, невядомасці, куды яшчэ нядаўна так цягнула. Добра адчуваю: іду вось па зямлі, іду дадому. І няёмка: я весяліўся — жартаваў, танцаваў,— гэтак позна затрымаўся, а Ларыса... Яна не мела гэтага...»

Увайшоў у двор. Пачуў: сын плача.

Адчыніў незамкнёныя дзверы сянец, зашчапіўся, а тады ціха адчыніў яшчэ адны дзверы, ціха зайшоў у хату, паставіў на стале сумку, распрануўся. Зайшоў у свой пакой і ўбачыў, што Ларыса — у незашпіленым ля грудзей халаце, босая, з наплаканымі вачыма — ходзіць і носіць на руках загорнутага ў коц сына, а ён так плача-лямантуе, што хоць ты ўцякай [redacted] хаты.

Ларыса са стомаю, адчаем ды з пакутаю зірнула на міг на яго і, відаць, неяк угадала, што ён быў вясёлы, шчаслівы, дык яшчэ болей змаркотнела, пасля адвярнулася і шпарчэй захадзіла па хаце, калышучы сына на руках. І ў гэтую хвіліну яна, здаецца, была вельмі падобна на Васільцову маці, калі тая, як ён добра помніць, вось гэтак уночы насіла на руках яго меншых сястру і брата, плакала разам з тымі...

— Што з ім? — запытаў Васілец.

— Хіба я ведаю... — буркнула Ларыса.— Плача і плача з самага вечара. Рукі мне адарваў, нервы сарваў, што

хочацца аддаць яго каму, каб і не бачылі мае вочы, а самой сысці на край свету...

«Значыць, хапіла дык хапіла ёй сёння... — падумаў.— Так, нібы са злосцю ды з крыўдаю на неспакойнага, вельмі ўжо крыклівага ды плаксівага сына, гаварыла яна ўжо не раз, што спачатку аж палохала мяне: што яна гаворыць?! Але хутка заўважыў, што гэта толькі яна так гаворыць. З адчаю. Для палёгкі. Пагамоніць сама сабе, паплача — і выцерпіць: сын супакоіцца. Калі ж ён спіць, а потым акажацца, дык яна бяжыць да яго. Дзе ні была б, што ні рабіла. Пытаецца: «Ну што, сынок?» Цалуе. У хвіліны, калі ён вясёлы, спрабуе «гаварыць» з ёю і са мною, пазірае на нас ды гудзе, смяецца, дык Ларыса цешыцца: «Паглядзі, Паўлік, гэта ж наш сын! І як мы толькі маглі жыць дагэтуль без яго? Скажы, што можа быць даражэй на свеце за гэтую вось яго ўсмешку? Нішто!»

— У-а, у-а...— лямантаваў цяпер сын.

Чуваць было: заварушылася на печы гаспадыня, нервова застукала нагамі ў перагародку.

— Выганіць яна нас з хаты, калі ён такі будзе... — сказала Ларыса.— Не раз ужо скардзілася, што не даём ёй спаць.

— Давай я панашу,— папрасіў Васілец, падышоў зусім блізка да яе.

— На, а то я ўжо рук не чую... — прамовіла яна.

— Ну, што табе, Віктар Паўлавіч, баліць? — як узяў сына на рукі, запытаў Васілец.— Жывоцік баліць? Ці галоўка?

— Ды лячыла яго гэты жывоцік,— сказала Ларыса, села на ложак, са стомаю апусціла галаву.— Хоць, можа, і жывоцік баліць. Бо сёння ўжо не адну, а дзве лыжачкі яблычнага соку дала. Гэтак з ахвотаю выпіла... выпіў...

Каб у другі раз, пры добрым настроі, дык Васілец пажартаваў бы: ага, агаварылася, сказала не «выпіў», а «выпіла», дык будзе ў нас яшчэ і дзяўчынка. Ларыса тады з жартам замахнулася б на яго рукою і строга сказала б: «Не, што не, то не! Не будзе ў нас ніякай дзяўчынкі. Усё, хопіць!»

Васілец насіў сына, падкалыхваў, спяваў яму ўсе песні, што толькі ведаў, сам стаміўся, падарваў рукі, а сын усё не супакойваўся.

Неўзабаве Ларыса не вытрывала ляжаць, устала і зноў пачала сама насіць, гаварыць з ім, пытацца, што яму ба-

ліць, прасіць, каб ён заснуў, і тады яму палягчэе. Сын паплакаў яшчэ з паўгадзіны і ці ад таго, што стаміўся, ці ад таго, што яму пачало лягчэць,— неўзабаве заснуў у Ларысы на руках.

Яна ціхенька паклала яго, соннага, у каляску. На хвіліну затрымалася. І ён падышоў, зірнуў: ці будзе сын спаць?

«І толькі што, калі насіў яго на руках, і вось цяпер, калі ён спіць, калі ён зусім безабаронны, чамусьці ўдвайне адчуваю: мы не толькі бацькі гэтага дзіцяці: маем яшчэ такія вялікія клопаты пра гэтага чалавечка, што цяжка іх і ўявіць... Аж страшнавата: мы, толькі мы павінны зрабіць усё-ўсё, каб сын не хварэў, быў заўсёды накормлены, апрануты, каб быў разумны, шчаслівы... І брыдка: а я сёння больш думаў пра сябе, пра сваё шчасце. Значыць, трэба вучыцца жыць дзеля іншых, шмат чым сваім, можа, і вельмі дарагім для сябе, ахвяраваць...»

— Ну, хадзем спаць, а то заспім заўтра, дык спознішся ў школу,— сказала Ларыса, і яны хутка распрануліся, леглі на ложак, накрыліся мяккай коўдрай.— Ну, як гулялася, гулюн?

— Ды добра,— адказаў ён.

— Гуляў, а пра нас, мусіць, ні разу і не ўспомніў? — спытала Ларыса, прытулілася.

— Успамінаў...

— Каб успамінаў, дык мне хоць разочак ікнулася б... Весяліўся недзе, радаваўся, што вырваўся з гэтай хаты...

«Яшчэ нядаўна хацелася расказаць ёй пра ўсё, што сёння было,— падумаў,— але цяпер, канечне, не варта расказваць пра Маю Сцяпанаўну: Ларыса — стомленая, расхваляваная — можа не так усё зразумець, і ёй будзе яшчэ цяжэй...»

Ларыса неўзабаве заснула, нават усяго і не даслухала. А Васілец і заплюшчваў вочы, і адплюшчваў, слухаў, як дыхаюць сонныя жонка і сын, а сам не мог заснуць. Успамінаў, што было сёння...

## 14

— Прабач, браце, пачакай хвілінку. Мне трэба абавязкова схадзіць да дзяцей,— прамовіў Сліж, як толькі зайшлі з Васільцом у настаўніцкую, паставіў класны журнал

на палічку і, не чакаючы, што адкажа яму Васілец, вышмыгнуў адгэтуль.

«Я ж думаў не адкладаць, цяпер жа пагаварыць пра Сліжаў урок, дзе толькі што быў. Аж крыўдна: не так трэба Сліжу схадзіць у свой клас, як ён хоча зусім іншага — каб я не гаварыў пра яго ўрок тады, калі будуць настаўнікі... Пра сябе, пра свой гонар, думае, а пра мяне не думае: мне ж дарагая кожная хвілінка. Трэба ж і да сваіх урокаў падрыхтавацца, і яшчэ на ўрок да Таццяны Сяргееўны схадзіць...»

Праз хвілін сем празвінеў званок, і ўсе настаўнікі падаліся ў класы.

— Што — не паддаецца Сліж? — усміхнуўся Іван Сямёнавіч. Ён на міг, выходзячы ўслед за ўсімі, прытрымаўся ў настаўніцкай.— Канечне, кепскі ўрок даў?

— Ды не пахвалішся, што моцны,— адказаў Васілец.

— Ведаю, які з яго спецыяліст... Але бяры, калега, бяры яго ў рукі, пераломвай і гні ў дугу...— усміхнуўся Іван Сямёнавіч.— Не глядзі, што сябра, равеснік... А то ён сядзе табе на шыю, і век будзеш з ім гараваць... Былі ў нас і раней падобныя на яго, але такога... Такога, здаецца, не было...

Іван Сямёнавіч пайшоў; Васілец застаўся ў настаўніцкай адзін.

«Напраўду,— падумаў ён,— мне са Сліжам вельмі цяжка: і Міхаіл Апанасавіч, і Міхась Рыгоравіч — нашмат старэйшыя людзі, лічы, бацькі мне, і Лілія Іосіфаўна, і Таццяна Сяргееўна — амаль равеснікі — прывыклі, што я завуч, слухаюцца, раяцца, просяць калі дапамогі, а вось Сліж ніколі не раіцца, не просіць дапамагчы, стараецца не дапусціць да сябе на ўрок, мець нейкі верх. Ходзіць толькі збоку ды дае парады. І пацешваецца, кепікі ўсякія строіць. Вось так было і пасля зімовых канікул, калі правяраў каляндарныя планы і планы самаадукацыі. Каму параіў нешта змяніць ці зрабіць лепш — усе згадзіліся, а Сліж, хоць і напісаў горш за астатніх, не хацеў правіць, перапісваць, моршчыўся, пасміхаўся, што ўсё ў яго добра. І, маўляў, ты «па-сяброўску» ўсё падпішы — і будзе ціха. І сам я тады, можа, і не змог бы прымусіць яго зрабіць так, як трэба, каб не Іван Сямёнавіч. Той пачуў нашу гамонку і сказаў: «Што ж ты, Уладзімір Пятровіч, падстаўляеш пад удар маладога завуча: прыедзе які інспектар, зірне на твае планы, дык не толькі будзе лаяць цябе, але

і папікне завуча, мяне за халатнасць, слабы кантроль». Сліж паслухаў дырэктара».

Ішлі хвіліны за хвілінамі, а Сліж у настаўніцкую не вяртаўся.

«Ну, так жа няможна... — Васілец падняўся, нервова пачаў хадзіць па настаўніцкай, усё чакаючы Сліжа.— Што хоча, тое і робіць...»

Сліж зайшоў сюды праз хвілін пятнаццаць. Лічы, пад канец урока.

Вярнуўся і усмешачкаю, як ён ні ў чым не вінаваты. Але ўсё ж пільна акінуў Васільца позіркам, як пагадаў: крыўдзіцца ці не крыўдзіцца, якая будзе гутарка?

— Усё сваім планам любуешся? — пакпіў Сліж, кіўнуў на разгорнуты тоўсты журнал, на план школы, куды Васілец запісаў тое, што параіў Іван Сямёнавіч, што запісалі ў сваіх выхаваўчых планах класныя кіраўнікі, што сам прыдумаў.— Дзела яснае: свая работа ёсць свая работа. Найлепшы той твор, што сам ты напісаў! Хочацца яшчэ і яшчэ раз зірнуць на сваё: усё ж спрытна напісана. Усебакова, з фармуліровачкамі, будзь здароў, аж ззяе, сляпіць вочы! Я некалі надта не чытаў, што пісаў Вяртун, а вот тваё ўсё чытаю. Умееш, жызня мая, пускаць пыл у вочы...— і зарагатаў.

Васілец нічога не адказаў і не ўсміхнуўся, як, можа, таго чакаў Сліж. Зірнуў на Сліжа строга і нахмурыўшыся. Той мігам зразумеў, здаецца, што было ў Васільца на душы.

— Анічога кофта, браце, добра ідзе табе...— Сліж перастаў жартаваць, падышоў бліжэй, акінуў яго позіркам, а потым як памацаў пальцамі чорную шарсцяную кофту з доўгім жоўтым замком пасярэдзіне, з прыгожым каўняром.— Ніна гаварыла, што толькі тры такія на Вішнёўку далі. Вось дырэктару саўгаса, мне і табе...

Прамовіў і пагладзіў сябе па грудзіне — на ім была гэтакая ж самая кофта.

— Добрая кофта, але і добрыя грошы каштуе... — наўмысна так адказаў Васілец.— Але мы, Валодзя, не кабеты, каб шмат пра адзенне гаварыць. Ёсць кофта, дык добра, не было б, дык нешта іншае насілі б. Давай лепш пагаворым пра наш хлеб, вось пра твой урок алгебры...

— Давай мо, Павел, на двор выйдзем,— як не пачуў яго Сліж, пазяхнуў.— Зірні, як во цёпла ўжо грэе сонца, як вот-вот закапае са стрэх. Прэлясць на двары!

— Усё гэта добра, Валодзя,— сказаў Васілец, з вялікім намаганнем перасільваючы сваю нерашучасць.— Але ўсё роўна рана ці позна нам трэба пагаварыць пра ўрок.

— Што гаварыць? — зірнуў на яго Сліж, папунсавеў на шчоках.— Урок не самы лепшы, але і не самы горшы з усіх урокаў, што даюцца за дзень у школе. Калі ў сваіх паперах не хочаш запісаць, што ўрок добры, дык напішы так: сярэдні... І не будзем гаварыць. Нашто фармальнасць? Мы ж друззя. Гаворым вот па-дружаску, а ніхто не ведае пра што. Але можам сказаць: па-дзелавому гаварылі пра мой урок... А мы давай пагаворым пра другое. Пра жанчын вось. Прызнайся: тады, калі гулялі ў Ірыны Васільеўны, ты меў што з Маяй Сцяпанаўнай? Неяк удала вы ўдваіх слізганулі з гулянкі, пайшлі разам... Ды яна гэтак тады на цябе пазірала! І мая Ніна заўважыла гэта, казала, што Мая проста сама ліпне да цябе... І, ведаеш, жызня мая, з такою і не грэх... Расцвіла, аж пыша здароўем. Больш вабная, чым Таццяна Сяргееўна... Словам, табе цяпер лахва. Яшчэ раней, дык дзяўчаты і са мною жартавалі, а цяпер, як ты стаў начальнікам, дык уся ўвага на цябе...

— Я ўжо сказаў дырэктару, што ўрок твой слабаваты... — як не пачуўшы Сліжавых жартаў, сказаў Васілец.

— Гэта ты, Павел, дарэмна. Гэта ўжо не па-дружаску,— прысароміў яго Сліж, з дакорам паківаў галавою.— Адштурхоўваеш друга, ірвеш нашу дружбу...

— І я па-сяброўску, па-першае, не таю ад цябе нічога, па-другое, урок твой сапраўды супярэчлівы, слабы,— Васілец усё яшчэ перамагаў сябе.— Калі буду маўчаць, дык ты і далей будзеш даваць слабыя ўрокі, пакуль нарэшце не натрапіш на інспектара... Тады крыўдзіцца будзеш: а ты ж мне не падказаў... Так што дружба дружбай, а служба службай... Не я ўводзіў правіла для завуча, каб гаварыць пра ўрокі, не я буду гэта зводзіць...

— Але ж і ў дружбе ёсць служба, і на службе ёсць дружба... — не паддаваўся Сліж, усё больш чырванеючы. Потым расслабіў гальштук, адшпіліў пад ім верхні гузік кашулі, пацягнуў за верх жоўты ланцужок і расшпіліў кофту — паказаў круглы, як у цяжарнай жанчыны, жывот.— Так вось павінна быць па-добраму. З другімі, канечне, трэба інакш паводзіцца, як трэба, бо з усімі не зможаш сябраваць... Але са мною...

— Я не гавару, каб мы перасталі сябраваць,— адказаў Васілец.— Я хачу пагаварыць пра твой урок і яшчэ пра

тое-сёе...— і сеў за свой стол — насупраць таго месца, дзе некалі любіў сядзець Вяртун. Відаць, гэтаксама зачырванеўся: запалымнеліся шчокі, часцей пачало біцца сэрца. Была яшчэ і нейкая нерашучасць, але заявілася і вялікая сіла супраць гэтай нерашучасці.— Як і заведзена, першае слова табе, Валодзя.

Сліж падышоў да стала, прыпыніўся, зірнуў, нібы завагаўся, што ж рабіць далей? Садзіцца ці не садзіцца? І, відаць, па Васільцовым позірку адчуў, што прыйдзецца і сёння, і пазней здавацца.

Яшчэ раз апаліў гнеўным позіркам. Тарганулася яго правая рука.

«Няўжо ўдарыць?»

Сліж стрымаўся. Не ўдарыў. Падышоў, сеў ля краю стала, паклаў нагу на нагу.

— Я хацеў, каб усё было як найлепш,— загаварыў ён ужо не бадзёрым ды спакойным, а перарывістым голасам.— І, здаецца, усё было някепска. Канечне, было б лепш, каб дзеці больш стараліся... А то каторыя сядзелі як... — ён на хвіліну задумаўся, пазіраў не ў вочы, а некуды ўбок.— Сам жа ведаеш, што ўсе ў нас геніі, каторых вучы ці не вучы — не навучыш... Вот яны і псуюць впечатленія. Хоць настаўнік і стараецца...

Сліж замоўк. Чакаў, што скажа Васілец.

— Дазволь гаварыць шчыра... — прамовіў Васілец яшчэ з хваляваннем, але адчуваючы вялікую прагу сказаць усё, што думае. Каб Сліж усё зразумеў. Змяніўся.

Сліж маўчаў.

«Але і цяжка гаварыць горкую праўду чалавеку, з якім шмат працаваў, знаўся, сядзеў за адным сталом... — падумаў.— А Сліж гэта адчувае, таму і садзіцца мне на шыю... Нехта можа і папікнуць: дык не будзь такі, будзь іншы. Байцом!.. Але ж Сліж вельмі не паслухаецца, не пераменіцца. Дык што тады — кожны дзень з ім вось так канфліктаваць? Год, два, дзесяцігоддзі? Але што гэта толькі смелы сам з сабою, у думках, трэба ж быць смелым і са Сліжом!..»

Сліж са здзіўленнем зірнуў: чаго ён маўчыць? Здаецца, усё зразумеў, спанурыўся: гавары, маўляў, усё, калі ты такі ўparты!

— Ты вось гаварыў, што не ўсе дзеці стараліся... — сказаў Васілец.— А трэба сказаць, што і ты сам мала стараўся, каб гэты ўрок выйшаў добры... Калі гаварыць па-

справядліваму, мала чытаў ты перад гэтым педагагічнай і спецыяльнай літаратуры: адчувалася, што нешта і сам ты цьмяна ўяўляеш, успамінаеш, рашаеш на хаду...

— Вось некалі, калі былі абодва простымі рабацягамі,— перапыніў яго Сліж,— прызнаўся я табе па дурасці раз-другі, што не кожны дзень пішу планы, дык ты во і запомніў, колеш у вочы...

— Канечне, тое-сёе ты мне гаварыў, тое-сёе я ведаю пра цябе і сам,— выслухаўшы, згадзіўся Васілец,— і раней калі-нікалі я табе не раз гаварыў пра гэта і аднаму, і на педсаветах, але ты заўсёды крыўдзіўся. Цяпер я не хачу толькі помніць тваё тое, а хачу, каб ты працаваў лепш, дык і хаджу на твае ўрокі. Але пакуль што бачу: няма ў тваёй рабоце сістэмы, прадуманых метадаў, прыёмаў, а неяк усё ідзе на тваіх уроках само сабою, самацёкам, а то нават і прымітыўнай адсябяцінай. Вось і гэты ўрок быў сумбурны, таму і дзеці не маглі разабрацца, чаго ты ад іх хочаш, не стараліся, як ты кажаш... Таму і ведаюць мала, хоць ты наўмысна ставіш высокія ацэнкі, каб можна было лепей падумаць пра тваю працу...

Сліж апаліў яго ненавідзячым позіркам.

— Трэба пераладжвацца, Уладзімір Пятровіч, больш чытаць, больш любіць сваю работу...

— Во ты як! — зноў не выцерпеў, з гневам усміхнуўся Сліж.— Значыць, па-твойму, я горш за ўсіх раблю? Тады недарэмна ты пахвальваеш Лілію Іосіфаўну ды гэтую какетку Таццяну Сяргееўну, якую, можа, ужо не супраць зрабіць сваёй палю... Хочаш, словам, на іхнім фоне мяне зганьбіць... Вот дык дружба, вот дык падзяка за нашу з Нінай дабрату!

— Хоць ты і ўзброены на ўсе выпадкі, хоць і зброя твая паганая, але давай гаварыць толькі пра ўрок, а не пра староннняе... — спакойна прамовіў Васілец.— І хоць можна цяпер на цябе пакрыўдзіцца, але я найболей думаю, як табе памагчы... Іначай я паўтару Вертуновы памылкі...

— Здаецца, не паўторыш... — прамовіў Сліж, закруціўся на крэсле.— Пераскочыш, можа, і Рагатку... Усяму свой час... Апетыты маеш... Відаць, не дае спакою, каб партрэцік твой быў у раёне на дошцы Гонару, каб медалёк які мець...

— Твае абразы — гэта апошняе, чым ты можаш апраўдацца, з чым можаш наступаць? — не даўшы волі злосці, запытаў Васілец.

Сліж бліснуў па ім гнеўным позіркам і напраўду больш не знайшоў ніякіх слоў. Заціх. Пыхкаў толькі ад злосці.

— Так і быць, змоўчу на твае абразы,— сказаў Васілец.— Дазваляю, каб ты некалі, калі адумаешся, папрасіў прабачэння. А цяпер давай як настаўнік з настаўнікам гаварыць канкрэтна пра твой урок...

Сліж змрочна ўнурыў галаву, слухаў.

## 15

... — Затаіў на цябе наш Уладзімір Пятровіч злосць...— сказаў Вяртун, калі ішлі разам са школы дадому.— Так што сцеражыся...

— Я да яго не прыдзіраюся і не крыўджу яго, а сказаў толькі тое, што павінен быў сказаць...— адказаў Васілец, а сам падумаў: «Але не лёгка далася гэтая сённяшняя размова: нямала яна адабрала нерваў і здароўя. Пылаюць во шчокі, мацней б'ецца сэрца, ды баліць галава... Але ж, мусіць, няможна так жыць, каб толькі шанаваць сваё здароўе?!»

— Правільна ўсё... — прамовіў Вяртун, апусціў вольнаю рукою на вушы шапку, пацёр пахаладнелы ад вялікага марозу нос.— Але Сліж не з тых, хто ўсё разумее... Усміхаецца, лашчыцца, як кот, а адзін чорт ведае, што ён думае... Лічу, што іменна ён на мяне ананімкі ў раёна пісаў... Адкуль жа загадчык гэтак усё пра мяне ведаў, усякія паперкі ў руках трымаў? Чаго глядзіш гэтак, думаеш: цяпер ужо і няма ананімшчыкаў? Не звяліся, на жаль, ёсць. Так што неўзабаве чакай якой праверкі... Раз на завуча, які толькі пачаў працаваць, заявіўся сігнал, дык правераць...

— Няўжо я нядобра пачаў працаваць? — запытаў Васілец.— Калі так, дык вы ж старэйшы, падкажыце!

— Ды я не гавару, што ты кепска пачаў,— усміхнуўся Вяртун, утуліў галаву ад ветру, што дзьмуў у твар, апякаў.— Я па-таварыску табе пра другое гавару...

«Нічога,— думаў Васілец.— Усё як і трэба. Не адступаць, не здавацца! Уперад! Якое ж жыццё, які ж ты чалавек без барацьбы?»

Ужо абпаліў твар, вушы ды шыю злосны дзьмухавей, шчыпаў холад і за калені, але Васілец не апускаў на вушы шапку. Наставіў толькі каўнер, пацёр далонню шчокі ды вушы, высока падняў галаву і пакрочыў шпарчэй.

Гаспадыні дома не было, і на кухні яго сустрэла Ларыса. Сёння вясёлая, у новым сінім з белымі кветкамі халаце.

— Я і не чакала цябе,— прызналася яна.— Думала, што і сёння застанешся на другую змену. Прывыкла ўжо, што позна прыходзіш дадому, мала платы прыносіш: трэба ж сыну бацька. Ды і самой дзе надта лепшага знойдзеш?!

— Бачыш, думаю не толькі пра школу, але і пра сям'ю,— усміхнуўся ён.— Бег вось усю дарогу дадому.

— Мані-мані,— пажартавала і Ларыса,— так мы і паверылі табе! У школе такія красуні, не нам раўня...

— Вы ў мяне самыя пекныя,— сказаў ён, прыхіліў Ларысу да сябе. Супакоіўся. Забыўся пра ўсе непрыемнасці.

Ларыса — ці з жартам, ці наўмысна — абмінула яго і пайшла ў свой пакой.

— Нешта ў цябе, як я ўжо каторую пару прыкмячаю, вялікая ваяўнічасць...— усміхнулася яна, адчуваючы, што ён ідзе следам.

— Дзе мне толькі і дзецца? — паківаў ён галавою, зайшоў у пакой і пачаў распранацца, а пасля і разувацца.— Як ні ступі, што ні скажы — адны дакоры! Усе гэткія строгія, усе суддзі! Пра сябе не думаюць, сябе не судзяць, а вось іншага... Упікалі дагэтуль: залішне быў ціхманы ды сарамлівы, нават прыземлены і не ваяўнічы — не змагаўся з ветракамі. І мала шукаў барацьбы. Словам, не гэткі герой нашага часу. Не Лабановіч! Цяпер раптам і ў школе, і дома занепакоіліся: стаў неспакойны. Нават ваяўнічы...

Ларыса стаяла паблізу, маўчала. Усміхалася.

— А я які быў, такі і ёсць. Калі пастражэў, пасур'ёзнеў, дык прыйшла на гэта пара... Усяму свая пара... У школе займеў неспакойную пасаду, а дома... А дома жонка расцвіла, як кветка пасля дажджу, дык хіба я магу цяпер спакоўна хадзіць і не заўважаць гэтага?! Не, не магу!

— Ну, ну, смяльчак! — нібы астуджваючы яго, сказала Ларыса.

«А яна, далібог, за апошнія месяцы папраўілася, вельмі пахарашэла. І я неяк па-новаму закахаўся ў яе...»

Скінуў з сябе кофту і падаў Ларысе.

— Схавай яе куды,— папрасіў.— Нешта перастала яна мне падабацца.

— Дзівак! — здзівілася Ларыса.— Тады ў цябе няма ніякага густу. Вельмі файная кофта і вельмі добра ідзе табе.

— Усё роўна прыхавай на час,— зноў папрасіў ён.— А Віктар Паўлавіч спіць?

— Спіць,— з уцехаю адказала Ларыса.— Сёння ён быў малайчына: добра паеў, пагуляў. Толькі што вярнулася з ім з двара, пакарміла, дык адразу і заснуў багатырскім сном. Хату вось прыбрала, памыла бялізну, кнігу пачытала.

Васілец падышоў да каляскі: сын — кругленькі на твары, з кірпатым носікам, ружовашчокі — ляжаў на бачку, трымаў у роце смочак і мірна спаў.

Васілец усміхнуўся.

— Ну, што яшчэ падумаў? — запытала Ларыса, падышла да яго і гэтаксама з любасцю зірнула на сына.

— Што я яшчэ крыху люблю вас... — усміхнуўся ён.— Што адпачываю дома, сіл і настрою набіраюся...

— Але ўсяго крыху любіш? А каго ж тады моцна?

— Не скажу,— пацвеліўся ён.

— Чужую жонку? Сябе?

— Не.

— Тады прымусім цябе прызнацца,— усміхнулася Ларыса, папіхнула яго на ложак, навалілася.— А ну гавары, грэшнік, каго моцна любіш?

— Не скажу... — прашаптаў Павел і замоўк: у гэтую хвіліну яго губы сустрэліся з Ларысінымі.

Раптоўна — ці ад таго, што ён толькі што вярнуўся з двара, з марозу і ветру, ці яшчэ ад чаго,— але яму стала вельмі горача ў твар. Суха запалымнелі шчокі, вушы.

— Ты такі і праўда сёння грозны... — прашаптала Ларыса.— Але гаспадыня можа прыйсці. Раскажа ў вёсцы — і з нас смяяцца будуць. «Дзень, а яны...»

— Няхай смяюцца,— задыхаючыся ад пацалункаў, ад прагі пяшчоты і гарачыні, адказаў ён.— Які тут смех, калі я люблю цябе.

— Крыху? — ужо зусім не баронячыся, здаецца, нічога не баючыся, запытала Ларыса.

— Крыху...

— І я цябе люблю крыху, Паўлічак! Абодвух вас, мае мужчынкі! — прашаптала, моцна сціснула рукамі за шыю.— Божа мой, і ніякага страху няма! Хоць зусім жа яшчэ нядаўна думала, што век гэтага не будзе, што ў нас усё ўжо маладое прайшло... Якая ж я была тады яшчэ... нічога не ведала...

— І я... — адказаў ён.— Абое мы яшчэ не ведалі, што нічога не прайшло, што ўсё яшчэ сама будзе...

Пад поўнач разгулялася мяцеліца.

Спачатку падужэў вецер, разгайдаў блізкі лес, прынёс-шы з яго цемень, патаемны шум, трывогу, а пасля нагнаў аднекуль сухі, відаць, зярністы снег.

Вось і цяпер гэты снег як шротам секануў па шыбах, споўз долу, ад чаго шыбы выхалодніваліся, станавіліся чыстымі ды празрыстымі, аж да сінізны.

Але ў хаце было цёпла, утульна, і нават неяк добра думалася, што на дварэ гэтак сцюдзёна, што гуляе мяцеліца, але ніяк не зможа дабрацца сюды.

— Ну вось, сшыткі ўсе правераны,— сказала Ларыса. Яна каторую пару ўжо сядзела побач. Падсунула да яго кіпу сшыткаў, паклала наверх чырвоны аловак.— Хадзем, мілы, спаць. Позна ўжо. Беражы здароўе, бо яго на многа яшчэ трэба...

— Яшчэ крыху пасяджу,— адказаў ён.— Вось трэба алгебру пачытаць, бо і заўтра трэба схадзіць на ўрок да Сліжа.

— Вось здабыў ты сабе работу, мой мілы завуч,— прамовіла Ларыса, падышла да яго ззаду, абняла за плечы і горача дыхнула ў шчаку.— Калі быў толькі настаўнікам, дык быў болей наш. А цяпер болей іхні...— яна паклала руку на кнігі.— Так?

— І іхні, і ваш,— усміхнуўся ён.

— Ну і добра. Я цябе люблю. Чуеш? — прашаптала яна, пацалавала ў шчаку.— І буду любіць цябе доўга-доўга. Пакуль буду жывая.

— І я цябе люблю...

Ларыса пайшла да ложка.

А Васілец падсунуў да сябе настольную лямпу, нагнуў, каб яна свяціла толькі перад ім на стале, а каб астатняе святло падала не на хату, а на акно.

А за цёмным акном гуляў, сваволіў халодны вецер ды сыпаўся чысты, колеру беленькай мукі, сухі ды шорсткі снег.

*1976—1978*

## ЗМЕСТ



Генрих Вацлавович Далидович
МИЛАНЬКИ
*Повести*
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак Ул. Ул. Даўгань. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, С. А. Абрамчук. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 615

Здадзена ў набор 15.10.79. Падп. да друку 15.04.80. АТ 05081. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 3. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48. Ул.-выд. арк. 20,58. Тыраж 20 000 экз. Зак. 2629. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Д 15 Далідовіч Г.
Міланькі: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 352 с., іл.
У пер.: 1 р. 40 к.

Гэта чацвёртая кніга прозы Генрыха Далідовіча.

Новыя аповесці «Міланькі» і «Завуч» працягваюць адну з любімых тэм пісьменніка — паказ жыцця вясковых настаўнікаў.

Чытач зноў сустрэне герояў, якія ўжо знаёмыя па аповесці «Усё яшчэ наперадзе». Яны цяпер паказаны больш пасталелымі, бліжэй далучанымі да жыцця і да сваёй працы, глыбей дакранёнымі да пачуццяў сяброўства і кахання, да нялёгкага працэсу станаўлення маладой сям'і.

Д $\frac{70303-105}{М 302(05)-80}$ 6—80

ББК 84 Бел 7
Бел 2